№3(76)
/травень-чэрвень/ 2015

Дзе

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Андрэй Федарэнка



...ён любіў старыя, правераныя часам кнігі – як настоенае віно, кожны глыток якога напаўняе розум мудрасцю, а душу гармоніяй. ...

# Шчасце

***Апавяданне***

## I.

Пачаць з таго, што Шаўцоў-Бузук напісаў раман.

Не, ён не быў прафесійным літаратарам, адукацыю меў – будаўнічае ПТВ, і працаваў па сваёй спецыяльнасці – мулярам-бетоншчыкам чацвёртага разраду. Гадоў яму было за 50. Жыў ён з “падсяленнем”, займаючы ў кватэры адзін пакой з трох – разам з чужымі людзьмі: муж, жонка, сынок 8 гадоў. Так сабе сямейка, не сказаць, каб спакойная.

Што ж падштурхнула гэтага Шаўцова-Бузука, нашага героя, на такі авантурны, рызыкоўны, так і хочацца сказаць: непрыстойны крок – напісаць раман? Можа, жаданне пахваліцца перад жонкаю, ці палюбоўніцай, даказаць, што ён не толькі цэглу ўмее класці і раствор замешваць?

Ды не, не было ў яго ні палюбоўніцы, ні жонкі. Палюбоўніцы не было, бо Шаўцоў-Бузук, набыўшы за свой век хіба толькі прастату памерам з невялікую цыбуліну, ужо крыху падзабыў, як такая справа робіцца.

А з жонкаю яны даўно развяліся, нават усе аліменты акуратна выплачаны, ён можа паказаць стос квітанцыяў. Чаму развяліся? Звычайна Шаўцоў-Бузук тлумачыў людзям, усім, хто цікавіўся, што кватэрнае пытанне вінавата, яно падвяло. І праўда, жыць "з падсяленнем" горш за інтэрнат, за камуналку. Але ў глыбіні душы ён здагадваўся, што жонка кінула яго, бо ён элементарна нецікавы. Не кампанейскі, не зух, не гумарны. Як жыць з такім? А з іншага боку – з цікавымі, гумарнымі хіба не разводзяцца? Нібыта жыве сям'я – шчаслівая, маладая, на, трах-бах, ужо яны разам не жывуць. Увогуле, разбірацца ў прычынах разводу, няважна, свайго ці чужога – дакладна канцоў не знойдзеш. Развод двух людзей адна з тых вечных загадак, адказ на якую пакуль не ў сілах даць абмежаваны чалавечы розум; гэта метафізіка кшталту: ці ёсць Бог? што з'явілася раней: дух ці матэрыя? ці існуе жыццё пасля смерці? і г.д. – словам, пустыя, без адказаў пытанні.

Дык тады што? Што прымусіла чалавека пайсці на такое страхоцце – узяць і ні з таго ні з сяго напісаць раман? Прага славы? Захацелася выступленняў, вядомасці перад калегамі-мулярамі? Грошай, урэшце?

Не, і яшчэ раз не.

З адчаю, ад безвыходнасці – вось адказ. Гэта амаль як рукі на сябе накласці. Так лезуць у пятлю, кідаюцца ў палонку з галавою, уваходзяць у чорны запой... Бяда, гора, нэндза, поўная нявыкрутка прымусілі чалавека ўзяцца за дурную справу – напісаць раман!

## II.

Трэба аддаць Шаўцову-Бузуку належнае – трымаўся, цярпеў ён да апошняга. Пакуль дазвалялі абставіны і здароўе, механічна, сутуліўшыся, цягаўся на сваю будоўлю – у кожную пару года, у любое надвор'е, з васьмі раніцы да пяці вечара, у шэсць вяртаўся, ціха прашмыгваў у свой пакойчык, увесь час трымаючы вушы натапыранымі, ловячы зручны момант, каб праслізнуць на кухню, у прыбіральню ці ў ванну, стараўся жыць, як мыш, каб менш трапляцца на чужыя вочы, баючыся дыхнуць лішні раз.

Хаця не такія ўжо монстры былі яго суседзі. Звычайныя людзі, можа, нават, больш добрыя, чым кепскія. Асабліва гаспадыня, сімпатычная Светка. Неяк, калі ён быў захварэў, нават зварыла яму курыны булён. Віталася з ім, пытала, ці не трэба чаго.

Працавала яна недзе пры школе, ці то прыбіральшчыцай, ці ў сталоўцы, ці настаўніцай, ці мо школьным псіхолагам, а мо нават дырэктарам школы – Шаўцоў-Бузук не распытваў: школа ды й школа.

А вось яе мужа Ігара, лічылася – гаспадара, ён стараўся пазбягаць. Ігар ніколі не прамінаў буркнуць:

– Зноў ты блытаешся пад нагамі? Жыцця ад цябе няма...

Гэты быў на службе ў ведамаснай ахове. А можа, проста вартаўніком на аўтастаянцы. Ці звычайным вышыбалам. Карацей, прафесіі што ў яго, што ў ягонай жонкі былі таямнічымі.

Ігар любіў гаварыць прымаўкамі, і ўсе на адзін капыл – са свіннямі звязанымі. "Свіння гразі знойдзе", "пасадзі за стол – я і ногі на стол", "не

даў Бог свінні рогі", "кожная свіння сваё карыта хваліць", "нарэзаўся, як свіння брагі", "ні вуха, ні рыла"...

Пры жаданні гэты Ігар, канечне, лёгка б вытурыў свайго ціхоню-суседа, ды проста гаркнуў бы: "Збірай манаткі і вымятайся!" – і Шаўцоў-Бузук пакорліва сабраўся б і пайшоў. Але тут была іншая сітуацыя – падсяленне наадварот – гэта яны, сам Ігар з сям'ёй вось-вось павінны былі перабрацца ў новую кватэру, а Шаўцову-Бузуку заставался гэтая, у сэнсе, заставалася чакаць, каго яму падселяць.

Ігар казаў:

– Мне ж не выгадна цябе выганяць. Выгані цябе, дык тваё месца зойме сям'я з дзецьмі. Так што жыві. Свіння, і тая выгоды з усяго шукае.

Сынок іхні, Іллючок, дасягнуў узросту шкадлівасці, знаходзіўся на стадыі ператварэння ў хулігана – ужо ваўсю распісваў з балончыкаў сцены пад'езда, драпаў ліфт або падпальваў кнопкі, якія абазначалі нумары паверхаў.

Словам, сям'я як сям'я. Маладыя, здаровыя, прыгожыя, машына, дача, кватэра ўласная вось-вось будзе. Што яшчэ трэба ў жыцці? Нават Ігар, у прынцыпе, таксама нядрэнны чалавек, калі не п'яны. А вось калі паддасць, тады ў кватэры пачынаўся кашмар. Невыказнай пакутаю было гэта і для Светы, і для малога Іллюка, і для Шаўцова-Бузука. Пачыналася з таго, што Ігар настойліва зваў суседа да сябе ў пакой у госці. Шаўцоў-Бузук ішоў, як баран пад абух. Ігар абдымаў яго, хваліў – няўмела, фальшыва, падлізліва, сыпаў кампліменты: маўляў, які ён, Шаўцоў-Бузук, спрытняка – варта толькі Ігару за парог, як Шаўцоў-Бузук – да Светкі. "А то я не ведаю, чым вы тут без мяне займаецеся, як свінні ў загарадцы..." І паказваў кулак з дзіцячую галаву памерам.

"У пятак! Адзін удар!"

Канчалася тым, што Света не вытрымлівала, заядалася, лезла на ражон. Ёй пападала. Малы Іллюк уцякаў на калідор. Слабасільны ў параўнанні з Ігарам Шаўцоў-Бузук вымушаны быў заступацца, і таксама атрымліваў сваю порцыю. З-за гэтага – з-за таго, што ён перыядычна з'яўляўся на працы з сінякамі, у яго была кепская рэпутацыя, і ён застыў на 4-м разрадзе, хаця даўно мог бы брыгадзірам быць, а то і памочнікам прараба. Хто ж паверыць, што фінгалаў табе наставілі, бо заступаўся за чужую маладую жанчыну? – цяпер такога рыцарства не бывае.

На шчасце піў Ігар не часта – не больш як адзін-два разы ў месяц, а калі падшываўся ці кадзіраваўся, тады Света харашэла, весялела, маладзела, Іллючок менш хуліганіў, а Шаўцоў-Бузук мог спакойна аддацца свайму хобі – чытанню.

Некалі чытаў ён папяровыя кнігі, але пакойчык маленькі, папяровая кніга з яе габарытамі стала раскошаю, пачаў чытаць з кампутара, з планшэтніка, затым, калі пасадзіў вочы, проста ляжаў на спіне і праз навушнікі слухаў запампаваныя ў reader аўдыёкнігі. Гэта было сама прыемна: ты ляжыш, як пан, а чужы голас з усімі інтанацыямі паслухмяна чытае табе тэкст.

Чытаў ці слухаў Шаўцоў-Бузук не сучасныя кнігі, не любіў ён іх, Бог з імі, з іх дыялогавай цягамоцінай; надта ж часта героі там перапытвалі адно ў аднога: "Можно у вас спросить?" – "А о чем бы вы хотели спросить?" – "Я не ошибаюсь? Вас зовут..." – "Нет, вы не ошиблись. Так я вас слушаю". – "Я бы вот чем хотел поинтересоваться..." – "А разрешите в свою очередь узнать..."

І так – старонкамі, раздзеламі!

Не, як хочаце, а такая літаратура Шаўцову-Бузуку не лягала на душу. Ён нават падсмейваўся з гэтых сучасных модных раманчыкаў, нызываючы іх “дыялогі глухога з сляпым”. Ён любіў старыя, праверaныя часам кнігі – як настоенае віно, кожны глыток якога напаўняе розум мудрасцю, а душу гармоніяй. Там пісьменнікі пісалі так, як бы вучылі жыць.

Парушаў гармонію ўсё той жа Ігар. Як малады бык, якому энергіі няма куды дзець, ён усё шнырыў па кватэры, нешта выглядваў, прыкідваў, пасвістваў. А то надумваўся і прыносіў у пакой да суседа кучу старога абутку, самага рознага хлам’я.

– На, паглядзі, усё роўна табе рабіць няма чаго.

Шаўцоў-Бузук сто разоў яму тлумачыў, што працуе на будоўлі, што нічога не петрыць у рамонце абутку. Але Ігарок прапускаў гэта міма вушэй. Ён арыентаваўся па прозвішчы: раз Шаўцоў – значыць, як мінімум, павінен разбірацца ў такой справе. Пэўная логіка тут была. Сапраўды, прозвішча многае сведчыць пра чалавека, і нават можа прама ці ўскосна ўплываць на прафесію. Кухарчук часта працуе ў сталовай або ў рэстаране, Пісьмянок піша вершы, хірург Партны без шкадавання крамсае і зашывае чалавечую скуру... На працы ў Шаўцова-Бузука былі Цесля, Мулярчык, Сталяровіч; быў Казарэзаў, які па-свойму таксама апраўдваў сваё прозвішча – працаваў рэвізорам-інспектарам будтрэста. Сам Ігар прозвішча меў – Салдатовіч; ён і служыў – прынамсі, лічыўся на нейкай службе. Так што можа быць каб Шаўцоў-Бузук быў па прозвішчы Рыбакоўскі ці Карасевіч, дык Ігар са спакойнай душой насіў бы яму ладзіць блешні, спінінгі, катушкі ці прасіў бы якіх-небудзь спецыфічных рыбалоўных парадаў.

А можа, прыносіў ён сваё стаптанае хлам’ё, бо Света па дабрыні сваёй разоў колькі падпольна забягала ў тэрміновы рамонт абутку, па драбязе, а потым абыякава казала мужу: “Якія залатыя рукі ў нашага суседа... Глянь, як зрабіў Іллюку сандалікі”. Гэтым яна хацела паддобрыцца да мужа, спадзеючыся, што наступным разам, калі Ігар пачне распускаць рукі, а Шаўцоў-Бузук палезе заступацца, яму менш пападзе.

Ігар высыпаў кучу сандалетаў, чаравікаў, свае вастраносыя туфлі, непрыемна жоўтыя ўсярэдзіне, ставіў асобна.

– Бачыш, колькі? Як у свінні гразі!

У Шаўцова-Бузука не хапала смеласці адмовіць гэтаму дубалобаму хаму, гэтаму кадзіроўшчыку і тырану лакальнага трохпакаёвага маштабу. Ён пакорліва адкладваў кнігу ці здымаў навушнікі, чапляў на нос акуляры, браў шыла, клей, нажнічкі.

– Паглядзім, паглядзім, – з націскам на “я” казаў ён.

– Ды ўжо паглядзі! Добра паглядзі!

– Паглядзім...

– Толькі на балконе рабі, каб клеем сваім не смярдзеў.

– Паглядзім, паглядзім, – з веданнем справы мармытаў Шаўцоў-Бузук.

І хоць “глядзенне” звычайна заканчвалася касметычным рамонтам, прымітыўнай падклейкай, прышыўкай, падроўніваннем абцасаў, Ігар усё роўна быў больш-менш задаволены, што хоць нейкую карысць выдаіў ад нікчэмнага суседа.

– Тут бы паліўрэтанам, тут рубцы шліфануць, тут – прафілактыку, а вось тут набоечкі, – нібыта з веданнем справы апраўдваўся Шаўцоў-Бузук.

– Добра, давай, давай, – вырываў з яго рук атопкі Ігар.

Была ў яго яшчэ адна рыса, якая чамусьці больш за ўсё не падабалася Шаўцову-Бузуку, – Ігар не курыў. А такім людзям, заўважыў Шаўцоў-Бузук, як бы не хапае тых 10 хвілінаў, пакуль выкурваецца цыгарэта, на супакой, на абдумванне папярэдніх і будучых дзеяў; яны мала думаюць, на любое пытанне ў іх – імгненны адказ; яны, як ні дзіўна, больш нервовыя ў рухах, пальцы іх варушацца, цела торгаецца, вочы бегаюць, і яшчэ – усе яны нейкія звышактыўныя, надзеленыя гіпертрафіраванай прагай дзейнасці – хоць якой, усюды ім трэба паспець – а вось скажы ты: увесь час некуды імкнучыся, штораз зіркаючы на гадзіннік, яны заўсёды спазняюцца, нікуды не паспяваюць!

## III.

Шаўцоў-Бузук працягваў уставаць рана, хадзіць на сваю працу, класці сваю цэглу ў мароз і сцюжу, у спёку і духату, пад дажджом і ветрам, на скразняках... І ўсё перад вачыма адно й тое: насілкі, вапна, раствор, цэгла...

Спіна ў яго даўно была скурчаная. Рэўматызмы, артрыты, артрозы ўсё часцей пачалі мільгаць у бальнічных. Ён няўхільна набліжаўся да таго часу, калі вось-вось расквітнее ў ім цэлы букет самых розных хваробаў. Ён ужо ведаў, толькі яшчэ баяўся прызнацца сабе, што канец блізка, праца не сёння-заўтра даканае яго.

Увесь час ён думаў пра пенсію і прыходзіў да высновы, што не дацягне да яе. “Ніколі не дацягну!”

І яму рабілася страшна.

Міжволі ён заўважаў, што ёсць іншыя заняткі, акрамя будоўлі. Ён зайздросціў дворніку, якога бачыў, калі бег на тралейбусны прыпынак. Дворнік, пазяхаючы, з шуфлем няспешна прымяраўся да свежага снегу на тратуары, і ў яго выглядзе, пазяханні, адзенні, у яго шуфлі была свабода, самастойнасць, якой ніколі не меў Шаўцоў-Бузук. Спяшаючыся да сваёй бытоўкі, ён праходзіў каля асветленых вокнаў, за якімі ў цяпле сядзелі людзі: за камputарамі ці проста за сталамі.

Гэтыя людзі самі не разумелі свайго шчасця. Яны маглі, ні ў кога не пытаючы дазволу, вось зараз выйсці на сняжок, пастаяць, пакурыць ці проста падыхаць свежым паветрам, потым, ні перад кім не апраўдваючыся, вярнуцца. Яны маглі спазніцца на працу і маглі сысці раней.

Але ніколі, ні разу ён не пазайздросціў, напрыклад, маладым і здаровым Ігару са Светаю. У іх была тая ж самая залежнасць, тая ж славутая “ад званка да званка” адміністратыўнасць, якая апошнім часам пачала выклікаць у Шаўцове-Бузуку проста фізічную агіду, і ён па вялікім рахунку не бачыў розніцы паміж іхнімі “чыстымі” працамі і сваёй – будаўніцкай.

Ён вычытаў, што ўсходнія мужчыны пасля 40 гадоў перастаюць працаваць. Усё. Чалавек аддаў іншым даніну, цяпер можа сядзець на беразе рэчкі пад пальмаю, думаць пра жыццё і філасофстваваць. Ах, як гэта мудра!

Аднойчы яму, Шаўцову-Бузуку, і яшчэ двум з іхняй брыгады выпала халтура: трэба было ў выхадныя альбо пасля працы аднаму дачу падправіць і ў гарадской кватэры на балконе на першым паверсе люк унізе прабіць.

Заказчык аказаўся пісьменнікам. Шаўцоў-Бузук анямеў ад захаплення. Ён першы раз у жыцці не па тэлевізары, не ў кампутары бачыў жывога пісьменніка, нават меў магчымасць зазірнуць у яго, так бы мовіць, творчую лабараторыю! Малады, не больш за 40 гадоў, выглядае на 30. І – “пі-

сьменнік”! Гэтая новая мода, якую Шаўцоў-Бузук ніяк не мог зразумець: смаркатая дзеўчынёха – паэт, школьнік – пісьменнік... Але многа чаго ў жыцці перакулілася, чаму тут дзівіцца.

– Колькі кніг вы напісалі? – наважыўся спытаць ён.

– А я ведаю? – шчыра адказаў пісьменнік. – Вось усе стаяць. Можа, раманаў з паўста.

У Шаўцова-Бузука ледзь малаток не выпаў з рук. Неверагодна! Нават калі ўявіць, што пісаць ён пачаў яшчэ ў школе, усё роўна атрымлівалася ў 2 месяцы па рамане! Раней пісьменнік усё жыццё пісаў адну кнігу, паліў варыянты, пакутваў, часта і не дапісваў яе... А тут! Малады чалавек нават не памятае, колькі напісаў!

Калегам-будаўнікам пісьменнік не спадабаўся, яшчэ на дачы абгаварылі яго. Маўляў, недалуга, цвік не зможа забіць, пра апалубку ўяўлення не мае, шпалеры не паклеіць, люстру не падвесіць, нават лямпачку сам не ўкруціць... Не кажучы ўжо, каб паркет ці хоць звычайную драўляную падлогу паслаць: пакладзе на бярлагі сырыя дошкі і не здагадаецца, што паміж кожнай трэсачка-распорка трэба, прычым у пачатку і ў канцы, бо калі гэтага не зрабіць – пачне высыхаць падлога, дошкі паробяцца гарбатымі і будуць лезці адна на адну, як жабы ўвесну.

Але Шаўцоў-Бузук не слухаў іх. Ён ведаў, што ў іх кажа зайздрасць. Тут, у гэтых сценах, ствараліся вобразы, сюжэты, ажывалі выдуманыя людзі! Ён гатовы быў працаваць бясплатна.

Балкон зрабілі як ляльку. Прабілі шырокі люк, лесвічка з парэнчамі, унізе палічкі, шафкі, святло – бамбасховішча, хоць жыві тут. Пісьменнік, пакуль рабілі, тлумачыў, чаму добра, што першы паверх – і да зямлі бліжэй, і з ліфтам не праблема, і вось падвал; а краты лёгка высоўваюцца са штыроў, здымаюцца – калі пажар, выскачыш. Ён быў не дурны, нягледзячы на маладосць, практычны, гэты пісьменнік. Калі ўсё было зроблена, ён захацеў з імі пагаварыць. Накрыў шчодры стол, многа заплаціў, не скупіўся. Мужчыны адтаялі ад такой шчодрасці, пачалі з павагаю цікавіцца, адкуль бярэцца талент і чаму адным дадзена, а іншым – цэглу цягай.

Пісьменніка цешыла ўвага. Чалавек шчыры, гаваркі, можа, і асцярожны са сваім братам-літаратарам, а тут, з будаўнікамі, даў сабе волю, расказваў як ёсць.

– Ёсць “рыба”. Схема. Макет. Усё дазіравана: колькасць дыялогаў, забойстваў, палавых актаў, апісанняў прыроды. Трэба толькі запоўніць, як у сканвордзе, пустыя клетачкі неабходнымі словамі. Не абы-якімі, не ад сябе, а менавіта ў залежнасці ад капрызу заказчыка. Калі раман пра пошукі скарбу – золата пабольш, калі пра каханне – гэтага дабра давай...

– А хто вам заказвае тэмы? – спытаў Шаўцоў-Бузук, які лавіў кожнае яго слова.

– Ёсць каму. Расія вялікая. Я звычайна пішу два, а то і тры варыянты, – разгаварыўся пісьменнік, не бачачы ў будаўніках канкурэнтаў. – Першы варыянт: аптымізм, поспех, станоўчы герой... Другі варыянт – тое самае, толькі наадварот: фемінізм, лесбі, наркотыкі, дыктатарства, тыранія... А то і трэці – містыка і фальклор... Даеш кожнаму варыянту розныя назвы, падпісваеш рознымі прозвішчамі, лепш за ўсё жаночымі – і ў добры шлях! Дзе-небудзь ды спрацуе. Справа ў тым, што літаратура, як заўсёды, дзеліцца на лагеры, і адзін лагер ніколі не чытае другога.

– А калі... прачытаюць? – спытаў Шаўцоў-Бузук.

– Я ж не капірую.

Пісьменнік так і сыпаў прафесійнымі тэрмінамі. Для яго гэтыя дыялогі, рыба, акты, сюжэты, кульмінацыі, хэпі-энды былі такімі ж звыклымі словамі, як для Шаўцова-Бузука з калегамі – цэгла, апалубка, кельма...

– Цяпер мода пісаць па-беларуску, – расказваў пісьменнік. – Я намахаю па-руску, знайду якую школьніцу, яна перакладзе...

Слухалі, раты разявіўшы. Якіх толькі дзівосаў не бывае на свеце!

– Во жывуць людзі...

– Хто на што вучыўся...

На развітанне пісьменнік падараваў кожнаму па кнізе.

Шаўцоў-Бузук набраўся смеласці і спытаў, ці можна прыйсці ў бліжэйшыя выхадныя, бо яшчэ заставаліся сякія-такія недаробкі, драбяза розная, і варта было б падправіць, падчысціць, падцягнуць; цвік дабіць, па няроўнасцях наждачкай прайсціся, цагліну выпнутую падправіць... “Не за грошы, вы не падумайце, бясплатна!” – хутка дадаў ён, баючыся, што пісьменнік адмовіць. Але той сказаў: “Пахвальна. Канечне, прыходзьце. І не за бясплатна!”

Дома Шаўцоў-Бузук адразу кінуўся чытаць кнігу. І адразу ўбачыў, што гэта звычайная вада, разбаўленая дыялогамі глухога і сляпога. Вось цэлы раздзел чалавек падымаецца па лесвіцы. “Здравствуйте”. – “Здравствуйте...”

Пісьменнік пісаў пра мора, горы, яхты, вілы, лімузіны, саўны, пра дзевак з дзеўкамі і хлопцаў з дзеўкамі, і хлопцаў з хлопцамі.

Шаўцоў-Бузук не хацеў быць на месцы герояў. Яму хапала проста ляжаць і чытаць. Не кніга яму падабалася, не раскоша, а свабода чалавека, гэтага канкрэтнага маладога ўпэўненага пісьменніка, яго магчымасць распараджацца сваім вольным часам.

Асабістае знаёмства з пісьменнікам змяніла ягонае стаўленне да сучаснай літаратуры. А можа, я проста не дарос? – думаў ён, пагладжваючы вокладку. Можа, літаратура, як тэхніка, таксама развіваецца. І не можа ж чарговая, найноўшая мадэль аўтамабіля быць горшай за папярэднюю – наадварот, усё толькі ў бок паляпшэння; так і літаратура – не магла ж кніга, напісаная ў 21 стагоддзі, быць горшаю за напісаную ў 20-м, тым больш у 19-м...

Шаўцоў-Бузук падкрэсліў некаторыя сказы, якія спадабаліся яму.

“Я не прашу – я прыходжу і бяру”.

“Я іду толькі ўперад, назад не паварочваю”.

У выхадныя ён ужо стаяў каля пад’езда пісьменніка, цiснуў на кнопку дамафона. Пісьменнік, прапускаючы яго, здзівіўся.

– Я думаў, вы сказалі і забыліся. Звычайна ў нас так робіцца.

Шаўцоў-Бузук усё абгледзеў, падправіў, падбіў, падчысціў... Выпэцкаўся. Потым, за сталом, Шаўцоў-Бузук насмеліўся і спытаў пра тое, што найбольш цікавіла яго: як гэта раней чалавек жыццё не шкадаваў на адзін раман, а цяпер...

На гэты раз пісьменнік быў яшчэ больш адкрыты:

– Вам адказаць як на чытацкім выступленні ці шчыра?

– Шчыра...

– Вы думаеце, я не ведаю, якое гэ з сябе выпускаю? Хіба мне не хочацца патраціць год на малюсенькае, з камарыны нос апавяданне, але каб яно было сапраўднае? Ды нельга! Тут ужо справа не ў якасці, а ў колькасці: чым больш ты выдаеш, тым больш ты лічышся паспяховым, а

толькі спыніўся – выпадаеш з абоймы, і месца тваё займае іншы... Барацьба за выжыванне, памножаная на поспех, як і ў любой іншай справе, як і ў вашай будаўніцкай.

Шаўцоў-Бузук, памуляўшыся, спытаў:

– Вы курыце?

– Не, кінуў. Падлічыў, што пакуль цыгарэта выкурваецца, я дзве старонкі намахаю.

– Можна... калі-небудзь... прыходзіць да вас? Кнігу новую купіць...

– Не можна – трэба. І не купіць, а бясплатна падпішу.

## IV.

Настала вясна – гарадская, непрыгожая, няўцямная, з тоўстымі, набрынялымі вадой жоўта-белымі акуркамі на газонах. З-пад снегу выступалі кучкі сабачых экскрэментаў.

І разам з гэтай вясной усе балячкі абвастрыліся. Быў выхадны, субота. Шаўцоў-Бузук клыпаў па вуліцы, як булгакаўскі сабака. У целе адчувалася такая ўтома – ад усяго, нават ад жыцця. Кожны крок адзываўся болем у скручанай спіне.

Ігар сарваўся з кадзіроўкі – значыць, зноў будзе біць Свету. Ён, Шаўцоў-Бузук, заступіцца і атрымае па поўнай. У панядзелак у паліклініку ісці па бальнічны, з фінгаламі...

Ён паныла думаў пра чэргі ў паліклініцы, грубасць дактароў, пра тое, што бальнічны, калі пашэнціць яго атрымаць, будзе максімум дзён на 10. А яму не 10 дзён – год спакойнага жыцця трэба, хаця б месяц, не паправіцца ён за 10 дзён.

Але галоўнае нават не гэта. Ну, а калі б не было Ігара, і паліклінікі, і спіны скручанай, будзь Шаўцоў-Бузук здаровы – гэта што, жыццё? Ізноў бегчы да васьмі раніцы на абрыдлую будоўлю, і так беспрасвету.

На слупе каля перахода бялеў свежы лісток паперы. Абвестка, прыклееная скотчам: “Тэрмінова патрабуецца майстар па рамонту абутку! Камфортныя ўмовы... Зарплата высокая, сацыяльны пакет, ільготы, дадатковы адпачынак, прэміяльныя ў залежнасці ад колькасці заказаў і спрыту майстра. Тэлефоны: вэлком... мтс... лайф...”

Прачытаў механічна – аднак неяк запала ў душу: слупкі тэлефонных нумароў-лічбаў...

Шаўцоў-Бузук перайшоў вуліцу – і на другім слупе такая ж белая абвестка. Тут раптам сэрца забілася. Асабліва ад слоў “камфортныя ўмовы працы”. А што, калі гэта знак? Шанец? Адсядзеў змену ў цяпле – галоўнае, цяпло! камфортныя ўмовы! Канечне, знак – і да бабкі хадзіць не трэба. І прозвішча ў яго якое?

У Шаўцова-Бузука і так сэрца стукала, а тут мала таго – фантазіі разгуляліся! Вочы загарэліся! Думкі пайшлі такія, што спалохацца можна. Напрыклад, ну што значыць уся класіка, якую ён чытаў і слухаў, у параўнанні з гэтай абвесткай? Ну, які сэнс жыцця? Ну, не шукаюць больш Бога, не чытаюць паэзіі, не кранае яна... Два радкі папсы замяняюць усю вялікую паэзію, і як замяняюць! Жывуць людзі, як і жылі, ведаюць нешта... Састарэла класіка, пракісла віно, прагнілі мяхі... Усе шукаюць вось гэтага: сацыяльны пакет, камфортныя ўмовы – і класікі не трэба, вось табе гатовы адказ на вечныя пытанні!

А раптам? Бог не выдасць – свіння не з’есць, як сказаў бы Ігар.

Ад хвалявання ў Шаўцова-Бузука нават боль у спіне сцішыўся. Не марнуючы часу – каб не перахапілі вакансію, ён набраў нумар. Праз шум – так, трэба людзі, прыязджайце. Блізка, знаёмае атэлье, колькі разоў праходзіў побач, зазіраў у вокны, а там светла, утульна... Ніколі б не падумаў, што знойдзецца там і яму месцейка, мо хоць пад старасць шчасце прываліць.

Пакуль ішоў – прычым, стараўся подбегам – уяўлялася: пачнецца новае жыццё, у цяпле, ну, лёгкі працоўны шум, цвічкі ў абцасы ўганяеш... “Скажу, вопыт маю, толькі практыкі малавата, цяпер часы мяняюцца, трэба павучыцца!” – “Калі ласка, – адкажуць, – гэта нават абавязкова – выпрабавальны тэрмін, новая тэхналогія, прыглядайцеся, вучыцеся, вось вам майстар...”

Быў якраз канец працоўнага дня. Шаўцоў-Бузук адразу зразумеў, што замест рая патрапіў у пекла. Стук, грук, шум, гам, тачылы гудуць... А асабліва клей – ох, гэты пах! Ён ад аднаго клею “паехаў”.

Майстар акурат надзяваў куртку:

– Зачыняемся, дзядзька. Што табе?

– Нічога, – адказаў Шаўцоў-Бузук і, павярнуўшыся, каб ісці, нечакана для сябе цярануў рукою па вачах. Майстар заўважыў гэта. Ён дагнаў Шаўцова-Бузука. Пайшлі побач, пазнаёміліся. Майстра звалі Міхеевіч. Завярнулі ў блізкую, адразу каля атэлье, піўную. У піўной Шаўцоў-Бузук прызнаўся пра спіну, пра сацыяльны пакет... Пра тое, што не дацягне да пенсіі.

– Ну, пра пакет забудзь, – сказаў Міхеевіч. – Пра камфортныя ўмовы таксама. Але сёе-тое зрабіць можна. Шкада мне цябе. Ну хочаш, я з загадчыцай пагавару, прыбіральшчыкам цябе возьмем.

У Шаўцова-Бузука ад таксічнага паху клея, ад піва, а яшчэ больш ад чалавечай увагі сэрца ўзыграла.

– Не. Я ўжо бачу. Тут ад аднаго клея адурнееш. Увогуле, я не прашу – я прыходжу і бяру, – значна сказаў ён.

– Вось як, – пасміхнуўся Міхеевіч. – Чым жа мне табе памагчы?

– У вас ёсць унукі?

– Унучка, у 10 класе.

– Тады паможаце, – загадкава адказаў Шаўцоў-Бузук. Ён ужо ведаў, што рабіць.

Ён вярнуўся дамоў, прайшоў у свой пакой. Чуў, як Ігар скандаліў, Света плакала – ён нават не высунуў носа.

На раніцу ён панёс заяву на звальненне. І калі выйшаў з аддзела кадраў з працоўнай кніжкай, уздыхнуў, расправіў плечы... Жыццё вакол! Вярнуўся і – адразу за ноўт-бук.

Так Шаўцоў-Бузук пачаў пісаць раман. Гэта раней было складана, а цяпер – набяры ў пошукавіку “як напісаць раман” – і табе выскачыць падрабязная інструкцыя, цяпер ты і шавец, і кравец, і на дудзе ігрэц.

Шаўцову-Бузуку спадабалася, што дзяржава чакае ад пісьменнікаў твораў, якія б спрыялі выхаванню грамадзян сваёй краіны і вучылі патрыятызму, што чакаецца твор “светлы, бадзёры, з аптымістычным героем, на якога хацелася быць бы падобным”. Шаўцоў-Бузук і пачаў пісаць так, як ім хочацца. Спачатку блыталіся ў клавіятуры тоўстыя, заскарузлыя пальцы, але потым навучыўся дзюбаць двума ўказальнымі – і пайшло.

Раман. Пра пагранічніка.

1) Патрыятызм на рускай мове.

2) Нацыянальнае – дзеянне ў Беларусі.

3) Герой – мытнік. Сям'я. Каханне ў сям'і прысутнічае, але любоў да ўлады і да айчыны – "Белоруссии" – мацней. Герой сурова выконваў свой абавязак па абароне дзяржаўнай граніцы. Ён выкрываў кантрабанду, правоз нелегалаў, наркотыкаў. Хабар давалі – ён з гонарам не браў. Вечарам, стомлены, але чэсны, вяртаўся ў сям'ю. Выхадныя – дача, шашлыкі на беразе возера, дзе папутна герой займаецца добрымі справамі: выратоўвае дзяўчынку, якая далёка заплыла і ледзь не ўтапілася, чытае шумнай моладзі лекцыю пра ахову прыроды, і тыя, прысаромленыя, прыбіраюць за сабою пустыя пляшкі і недакуркі. Клопат пяшчотны пра састарэлых бацькоў, ён ім купляе лекі і мерае ціск. Любаванне прыгажосцю родных асін і бяроз.

4) Дэтэктыўнае. Укралі дачку, падкінулі грошы, дачку гераічна вызвалілі, грошы аказаліся фальшывыя.

5) Містычна-фальклорнае. Украдзеную дачку трымалі ў вясковай хаце, у старой глухой бабулі, якая казала "авось, нябось, чагось", да каровы якой прыпаўзаў вуж (Змяіны Цар) і смактаў вымя.

6) Спакушэнне героя маладой хцівай хаўрусніцай бандытаў, якую ён з абурэннем адвяргае.

7) Мора разліванае, цэлыя старонкі дыялогаў "глухога са сляпым": – "Прошу вас следовать за мной". – "За вами?" – "Да, именно за мной..."

8) Аптымізм, станоўчасць ва ўсім – каб героі не хварэлі, не паміралі, не сумавалі. Пахмурнае надвор'е не апісваць, а толькі сонечнае, фарбы выбіраць свежыя, як ружы, якія кожны вечар прыносіць герой каханай жонцы.

Шаўцоў-Бузук працаваў, як апантаны, нават пакурыць на балкон не выходзіў. Гэтыя змены ў яго паводзінах так уразілі Ігара, што ён не чапляўся да суседа і не біў яго.

Праз месяц дзвесце дваццаць старонак, як лёду, былі гатовыя. Раздрукаваныя. Унучка Міхеевіча, з якім Шаўцоў-Бузук пасябраваў, выправіла граматычныя памылкі, заадно крышку – стыль. І Шаўцоў-Бузук, хвалюючыся, панёс твор пісьменніку.

Пісьменнік пакруціў у руках папку, чамусьці ўзважыў яе на далоні. І... аддаў назад.

– Ды вы хоць пачытайце першы радок! – узмаліўся Шаўцоў-Бузук.

– Не хачу. Чаму гэта вам прыйшло ў галаву? Паглядзелі, як я жыву? Пазайздросцілі? Самому так захацелася?

– Не! – прыціснуў руку да сэрца Шаўцоў-Бузук. – У інтэрнэце пішуць... конкурсы... патрыятызм...

– А, вы начыталіся, што ў нас няма сваёй "Ціхай Прыпяці"? – насмешліва казаў пісьменнік, для якога гэтыя пытанні даўно былі вырашаны. – Няма, бо не трэба. А як толькі спатрэбяцца – так і з'явяцца, паверце. А пакуль усё гэта глупства. Састарэла, калега! Усё састарэла. І "Ціхая Прыпяць", і мова, і патрыятызм, і Еўропа, і... – пісьменнік сказаў у рыфму Еўропе.

Яго словы дабівалі няшчаснага Шаўцова-Бузука. Ён ужо бачыў, што пацярпеў поўны крах. Прыніжаны, з папкай пад пахаю, ён толькі думаў: зноў будоўля! Як вяртацца? З такім гонарам звальняўся... Ды і не зможа, фізічна не зможа ён больш працаваць! Камісію не пройдзе!

Пісьменнік уважліва, акурат як Міхеевіч, паглядзеў на яго. Усё прачытаў на ім. Спытаў без іроніі, іншым, чалавечым голасам:

– Што, зусім кепска?

Шаўцоў-Бузук хацеў адказаць, ды словы захраслі ў горле. Дзеля гэтага давялося б пісаць цэлы новы раман, зусім іншага плану: пра ўзрост, хваробы, будоўлю, Ігара... І яшчэ больш стала горка. Прастуда, стома, сілы мала...

– Не дажыву я да пенсіі, – прашаптаў ён. – Можа, вам на дачу трэба садоўнік? даглядчык? – я б жыў там... Прыткнуцца няма дзе... хоць у пераход метро... з шапкаю...

Пісьменнік выслухаў, чамусьці з агідай паглядзеў на выключаны ноўтбук і сказаў:

– Ведаеце, я таксама не адразу... вось за гэта ўзяўся. Працаваў дворнікам, пазнаваў жыццё, людзей. Праўда, адзін месяц усяго. Але сувязі засталіся... павінны быць. Вы не хочаце паспрабаваць, напрыклад, дворнікам?

– Я не змагу. Не пацягну!

– Глядзячы дзе. Там хутчэй нават не дворнік, а садоўнік. Пры “Доме малюткі”. Працы мінімум – лісце падмесці, галіны сухія абрэзаць, кветкі на клумбах вадой паліць... Хочаце?

– Хто ж такога не захоча? – але ў голасе ў Шаўцова-Бузука было сумненне.

Тады пісьменнік узяў у руку тэлефон і мімаходзь, сам не падазраючы, зрабіў адзіную ў жыцці добрую справу, якая абышлася яму ў дзве хвіліны, а па значнасці пераважыла ўсе яго 50 тамоў.

Ён набраў нумар.

– Людміла Прохараўна? Памятаеце мяне? Дзякую, дзякую... Не, у мяне ўсё цудоўна. Тут чалавечак адзін... Ды не, я б не сказаў. Сімпатычны, толькі загнаны жыццём. Так, так, дзеля мяне...

## V.

Людміла Прохараўна, абаяльная, ветлівая, зусім непадобная на грубага брыгадзіра ці прараба з будоўлі, расказвала: “У нас няма рэжыму, абы праца была зроблена. Вось толькі грошы малыя”, – а Шаўцоў-Бузук парываўся сказаць, што бясплатна згодзен, абы на кухні далі паесці. Ён быў у захапленні ад гэтага “Дома малюткі” – сама назва нейкая... маленькая, міленькая, у лесе, у чароўным месцы – лесапаркавая зона, цішыня, прырода, паветра.

– ...Зімой дарожкі пяском пасыпаць, увосень лісце зграбаць, улетку касіць – машынка ёсць. Плошча маленькая, пяць сліў, тры вішні, кветкі ды глог...

І Шаўцоў-Бузук пачаў працаваць у “Доме малюткі”.

Прайшла вясна, лета, наступіла восень. Шаўцоў-Бузук пачынаў разумець сваё ціхае, някідкае, як восеньскія фарбы, шчасце. У яго кружылася галава ад клумбаў з кветкамі, ад цішыні, ад глога – чырвонага, буйнага, бы райскія яблычкі. Сярод туяў, падобных на кіпарысы, у яго быў свой уласны зацішны куточак, дзе яму дазвалялася курыць: лавачка, столік, бляшанка-попелка. Ён курыў і думаў, што мае рэдкую ўдачу – у цэнтры горада назіраць усе перамены чатырох пор года непасрэдна ў прыродзе, плюс няўлоўныя іх перацяканні з аднаго стану ў другі; напрыклад, бачыў, як яшчэ ўчора зялёны лісцік сёння быў ужо жоўты. А тут яшчэ калі ў адным пашэнціць, дык і далей паплыве: Ігар з сям’ёй нарэшце з’ехаў, новыя суседзі з’явіліся, маладая інтэлігентная пара, ціхія, жывуць сваім жыццём.

І на працы Шаўцова-Бузука паважаюць, лічаць мудрым, нават пабойваюцца. Сярод абслугі пранеслася чутка, што ён тут не проста так, а па пратэкцыі пісьменніка, сам папісвае і, калі яму не спадабацца, можа вывесці чалавека ў негатыўным святле.

Знарок для яго расказваюць розныя гісторыі, прымітыўныя, з тых, што ўражваюць не столькі слухача, колькі самога апавядальніка. Напрыклад, скардзілася старая нянечка, што ў яе зяць п'е, і ёй раіла прыбіральшчыца, косячыся на Шаўцова-Бузука:

– Бываюць шчупакі, разрэжаш такога, а ў яго ў жываце яшчэ адзін, меншы, дык таго, каторы ўсярэдзіне, засмажыць і даць п'яніцу – як рукой здыме, лепшых лекаў няма.

Сама прыбіральшчыца расказвала такую гісторыю. Аднойчы яе зяць у зале чакання Усходняга аўтавакзала ў Мінску звярнуў увагу на худзенькую жанчынку, рукі якой былі схаваныя ў рукавы паліто, а на спляценні рукавоў вісела цяжкая сумка... Галаву бабуля апусціла. Калі ж падняла – зяць расказвае, сэрца ў яго зайшлося ад захаплення: надта ж была яна прыгожая! Цёмныя глыбокія вочы, смуглявы чысты твар і нават сетачка зморшчынак на ім – усё было прыгажосць. "Што глядзіш, малады чалавек?" – спытала бабуля. – "Гляджу, якая ж вы прыгожая", – адказаў зяць. – "Была, дзетка, некалі! Бог даў мне такую прыгажосць, што людзі вачэй не маглі адвесці ні ў маладосці маёй, ні цяпер, у старасці. А толькі не прынесла мне гэтая прыгажосць ні шчасця, ні багацця – толькі слёзы. Ды яшчэ сына майго. Вось да яго еду, у Бабруйск, у турме ён. Гасцінцы вязу. Не ведаю, ці давязу, сілы няма, адна любоў у сэрцы засталася". Зяць прысеў побач, а яна далей расказвае: "Была я маладая, і сынок быў маленькі, і тут ускочыла ў мяне на назе, каля маленькага пальчыка, грызь. Храшчык такі пад скураю, і не тое, каб перашкаджаў, але надта ж свярбіць. Людзі кажуць, што трэба пагрызці яго. Я сама не магу дацягнуцца, прашу: сыночак, пагрызі мне! А ён чырванее, адварочваецца, сорамна яму, ні ў якую. Мінула гадоў дзесяць, у мяне ўсё само прайшло, я і забылася, сыну ў армію ісці трэба. І што вы думаеце? Знаходзяць у яго грызь, і на нагах, і на руках. Выпісалі белы білет, а грызь не праходзіць, у псарыяз пачала ператварацца. Стаў сынок ад гора піць, п'яны да мяне чапляцца – маўляў, перадала ў спадчыну такую хваробу", – бабуля цяжка ўздыхнула, па яе шчоках скаціліся дзве слязінкі. "І сынаву любоў таксама з сабою вязу, вось", – яна марудна выцягнула з рукавоў рукі, і замест кісцей зяць убачыў два барвовыя абрубкі. "Адсек сынок мне ручанькі сякераю. П'яны быў, на гарэлку грошы прасіў, ды не было іх у мяне..."

Прыбіральшчыца расказвала і сама сабе выцірала слёзы. Шаўцоў-Бузук слухаў, матаў на вус і думаў, што пры нагодзе трэба будзе расказаць гэта пісьменніку, каб хоць нечым аддзячыць свайму дабрадзею.

А тут здарыўся выпадак, які вельмі яго напалохаў. Загадчыца Людміла Прохараўна, якая ўвогуле любіла пацвяліцца з яго, намякнула, што ў пісьменніка справы дрэнь, крызіс, выпісаўся пісьменнік, прагарэў, не йдуць яго раманы, і, можа быць, Шаўцову-Бузуку давядзецца вызваляць месца.

Яна так пажартавала, але Шаўцоў-Бузук успрыняў усё ўсур'ёз. Ён так расхваляваўся, што не спаў ноч.

А праз два дні прынёс пісьменніку цэлы стос раздрукаваных старонак. Было там і пра грызь, і пра вужоў, якія карову смокчуць, і пра папараць-

кветку, і пра шчупака ў шчупаку. Пісьменнік і на гэты раз нават глядзець не стаў.

– Баста! – сказаў ён. – Не трэба. Састарэла. Цяпер у модзе філосаф-адзіночка. Які ездзіць па ўсіх краінах па гатэлях, бухае бясконца сам з сабою і філасофствуе.

Відаць, у гэтай тэме пісьменнік адчуваў сябе прафесіяналам і не меў патрэбы ў памочніках.

– Проста я падумаў, – збянтэжаны, прызнаўся Шаўцоў-Бузук, – а раптам вы вернецеся...

Пісьменнік зарагатаў. У яго творчай галаве адбілася, якія розныя на свеце бываюць шчасці, як мала трэба аднаму, і як многа – другому.

– Не, брацe, я іду толькі ўперад, назад не паварочваю, – адказаў ён уласнай цытатай.

Шаўцоў-Бузук супакоіўся, і з таго часу зусім гладка ў яго ўсё пайшло.

Яго не пазнаць. Спіна прамая, вочы свецяцца, у рухах – упэўненасць. Ён забыўся на ўсе хворасці свае; пра тое, што не дажыве да пенсіі, даўно нават не думае. Свайго дабрадзея пісьменніка ён шчыра, амаль набожна лічыць самым лепшым з усіх, якія існавалі на зямлі. Кніжка пісьменніка ляжыць у яго ў пакоі на ганаровым месцы; яна памагла яму больш, чым уся мудрасць свету.

І калі ён выпівае з Міхеевічам, куды б ні павярнулася гутарка, ён ніколі не праміне ўставіць чароўныя словы: “Не трэба прасіць – трэба прыходзіць і браць”, “Я іду толькі ўперад, назад не паварочваю”.

– Бач ты, – дзівіцца Міхеевіч, апускаючы вусы ў піўную пену.

*2015 г.*



Васіль Зуёнак



...Я асуджаны ў словы
На зямлі растварыцца...

# Першародства

* * *

Калі звініць спякотны дзень,
Калі ў грудзях гарыць сухмень,
Ты марыш аб адным тады:
О, хоць бы кропельку вады!..
А да крыніцы прыпадзеш –
То неспатольна п'еш і п'еш...

Так і жыццё: няма мяжы
Жаданню – вечна жыць і жыць...
І смутку нашага выток,
Што – усяго адзін глыток...

***АРХІТЭКТУРНАЕ***

Будынак – лёсаў канваір,
Будынак – сталінскі *в*-ампір:

Даносы ў сутарэннях –
Ні зносу, ні старэння.

### *“БЫЛЫЯ...”*

І хто дыктуе той закон? –
Ад Бога ці ад д’ябла ён:
Сяброў – жыццё крадзе, адводзіць,
Ці самі моўчкі адыходзяць...

“Былыя...” Я цяпер для вас
Больш чым нішто: інертны газ, –
І не п’янкі, і не атрутны:
Ёсць, але я для вас адсутны.

Я нібы сфінкс: душа нямая
Усё на глухіх замках трымае.
І ўсё таму, што вас няма,
Што не збярог вас, не ўтрымаў...

Даводзіць час, што вы – былыя, –
Ды памяць зрэдку так заные...

### *БЫЎ ДЗЕНЬ...*

Здзіўляюся мудрасцю мовы, –
Ну, хто яшчэ скажа глыбінней
Адным-аднюсенькім словам
Аб нашай душы галубінай?

Аб нашай, святой, беларускай, –
Пачуйце адно толькі: *свя-та* –

І: *празд-ник*... Якая музыка:
Адкрытых складоў – і зацятых...

І сэнс – як і музыка тая:
Што лепш? – не пытаецца блазнам:
Быў дзень: як малітва *святая*,
Ці так сабе – марны, *праздный*?..

### *СЛУХАЮ...*

Слухаю рыбу.
А яна маўчыць.
На якой мове?...

Слухаю беларуса...

## *ЯК РАЗЛІЧЫЦЦА?..*

Навошта прыходзіць на свет чалавек –
Вось тут, на гэтай зямлі? –
Не знае зямля: ці то ўдача, ці здзек,
Што мы з ёй на свеце жылі?

І што ёй да нейкага там Васіля...
Ды хто ж перад кім у даўгу?..
Не знаю, як спіцца табе, зямля,
А я – заснуць не магу...

* * *

Пабачыцца б мне з табой,
Спытацца ў цябе наўпрост:
– Анёл бесцялесны мой,
Ты лёс ці да вечнасці мост?

Ахоўнік і апякун,
Прыстаўлены да мяне,
Ці ты са мною, пакуль
Жыццё на зямлі праміне?

Ці іншаму станеш служыць,
Маіх пазбыўшыся сноў,
І той, каму суджана жыць,
З пытаннем падступіцца зноў?..

А ты, як і гэты верш,
Уважыш маўчаннем сваім:
Ці слова было найперш,
Ці сэнс, затоены ў ім?..

Я толькі наказ даю:
Чыёй бы душа ні была,
Аберагай, як маю –
Пярынку з твайго крыла...

І чую:
– Зямны чалавек –
І мераеш меркай зямной.
Я твой – і табе быць навек
Як цень – неадлучна – са мной.

Ты мой – не пяклуйся дарма:
Душа не ведае тла.
Ты мой: калі ценю няма,
Значыць, няма і святла.

## *У ВЯНОК ЛІТАРАТУРНАМУ СКЕПТЫКУ*

Цяжка на свеце
Скептыкам жыць:
Як у санеце –
Формы гужы.

Роўная мера:
Радок у радок,
Цвёрдая вера:
Убок ні на крок.

Ды горай, чым зона,
Гэткі санет –
Абагаўлёны
Скептыкам свет.

Хто што ні зробіць –
Ён тут жа супроць:
Кемлівай спробе
Надзене аброць.

Самую дробязь
То зменшыць спаўна,
То пераробіць
Муху ў слана.

Ходзіць з апаскай:
А раптам ухаб!..
П'е па-манаску:
Не з д'яблам хаця б...

Есць недаверкам:
"Хіба гэта блін?.."
Пхае цукерку
Ў рот, нібы клін...

Сонца ўсім свеціць,
А ён – у імжы...

Цяжка на свеце
Скептыкам жыць...

## *СЯЎБА*

Ізноўку – плебс і патрыцыі.
Эліта закідвае трал,

“На добры ўраджай амуніцыя!” –
Узважвае ліберал,
Стаўляе ахову міліцыя,
Бярэ на ўлік чынадрал,
Пяклуюцца масы ніцыя...
Сяўба – за аўралам аўрал, –
І на дажынкі з амбіцыяй
Шчыруе ідэйны харал:
Пратручваецца апазіцыя –
Пасадачны матэрыял.

## *ВЕРАСЕНЬ З ЮПІТЭРАМ*

*Юпітэр можна бачыць як самы яркі аб’ект*
*у сузор’і Вадаліва.*

Даведка з Календара:
“Планеты ў верасні”

Цягам верасня ты
Быў са мною, Юпітэр,
Твой пагляд залаты
Быў па-брацку адкрыты.

Перамоўлена шмат,
Недамоўлена болей.
Верыў я: акурат
М*а*ю зорную долю.

Ды надзея мая
Засталася надзеяй.
Хто ім свой: ты ці я –
Пільна зоркі глядзелі.

Мы абодва былі
Перад імі як дзеці:
Я вось тут, на зямлі,
Ты ў касмічным сусвеце.

Разумелі яны:
Мы ад сонца святлімся, –
Не такія чыны
Ім па гонару ўвысях.

Ды не ў сорам было
Нам, што сонца люструем:
Гэта наша святло, –
Свецім – і не хітруем!

Першым ноччу заўжды
Сведчыў ты сямізорна,
Што ў нябёсах брады
Не знаходзяць паўторна.

Паўтараецца ўсё
Па-зямному зямное:
Дух да Бога ўзнясём,
Прах зарыюць з труною.

Ды не скончыцца шлях:
Хай не я – ты, Юпітэр,
На паўторных палях
Сееш вечнасці жыта.

## *ВЯСЕЛЛЕ*

Поўня ў рацэ купалася,
Як маладая ўдава,
А вадзянік без фаласа
Лаўцом сябе выдаваў.

Русалкі чынілі кепікі
З пажаднага целяпня:
– Цялёпайся, ды з апекаю
Старэчай ты ёй не раўня.

Тут сом плаўнікам пялёхнуў –
Як рыцар махнуў крысом, –

Гуло вяселле эпохі:
Пабраліся – поўня і сом.

* * *

Сонца ў Начы ўтапіла высі,
Зорка ціўкнула, як птушаня,
Берагі ў начы разышліся,
І суцішылася цішыня.

Не ўцікуеш: а што за рэчкай: –
Хто цікавіцца мной адтуль?
Вораг інфармацыйнай уцечкі –
Змрок – навін завязаў хатуль...

### *УНЁСАК*

Стандарт адукацыйны рос:
Гіганты ўсе – і клерк, і бос.
А розніца? А ў тым, што лёс,
Хоць і не пёр наперакос,
Ды паасобку ўсім натрос,
І кожны парахоўна нёс
Унёсак на агульны воз:
Хто данясенне, хто данос.

### *У “ФІЛЁЗАФЫ”...*

Калі меркаваць цвяроза:
Адкуль яны ў нас бяруцца?!.
Сэнс збузаваў – то й “філёзаф”! –
Хоць крыкні – ратуйцеся, людцы!..

Ратуйцеся, каб не з’ехаць
З глуздоў да поўнага “zero”.
Ім што! – а ты, хоць і нехаць,
Гвалтуйся “рэчывам шэрым”...

Такіх “славясоў” напіхаюць...–
А сэнсу... а ўдумнай карысці...–
Што плюнуць бы след: “А няхай іх!..” –
Дык тут жа цямнотай ахрысцяць...

Карчуецца тэма за тэмай –
Расце “мысляроў” пагалоўе.
А ў скутку: духоўная немач
Хаваецца за “мудраслоўем”.

І кожны з крыкліваю позай,
І кожны такі вялікі,
І ў кожнага “чысты розум”
На “крытыку” тоіць разлікі...

І так набярэшся туману –
Пацягне ў “філёзафы” крукам:

А што – хіба соль на рану
Горш, чым на рану цукар?

### *КАМЕНЬ БЕЛЫ...*

Камень белы, узняты з-пад чорнага
Тарфянога тлустага месіва,

Камень, – сведка веку пячорнага,
Ледніком скандынаўскім прынесены.

Камень, – вестка зямлі, што ўмарозіла
Ў ледзяны канверт і пасуху
Адаслала да нас – разам з возерам, –
Чаратовую песню слухаць...

Камень белы, – па рымскаму звычаю
Дзён шчаслівых клаўся адзнакаю.
Да якіх жа быў ты прылічаны? –
Ці ты шчасця не бачыў ніякага?

Бачыў... помніш... Плылі да вострава
На Купалле песні з вянкамі:
Быў на востраве стану не простага –
Ты быў прошчавым, белы камень...

У цябе даравання выпрошвалі:
Ты за боскага быў пасланніка.
Абспяваны і абгалошаны –
Знік... І ўзнік – з тарфяной арганікі.

Толькі ўжо ні вянкоў, ні возера
Не было. Ды й цябе не шукалі:
Трактары торф на поле вывозілі, –
А цябе не ўзялі, белы камень...

Камень белы на мёртвым беразе,
Што калісьці люляўся хвалямі...
Камень белы, – доляю змерыўся
З надмагільнымі, пахавальнымі...

Што пасеялі, тое й пажалі:
Дзе канавы, як мёртвыя змеі,
Стаўся кропкаю ты на скрыжалях...
...Я цябе, дружа мой, разумею...

## *НЯКРАСАВЫ*

*В каком году – рассчитывай...*
*На столбовой дороженьке...*

Чытаў, чытаў Някрасава...
Мікалая Аляксеевіча...
І вечнае, непагаснае
Ў душу маю сеялася.

І ўзыходзіла светлымі лікамі
Доля горкая, доля жаночая.
І ўяўленне мяне паклікала –
На стагоддзе на цэлае збочыла...

Не, не ўсё яшчэ зжата і звезена, –
Дзякуй слову, што ў прышласць пасеяна
І ўскаласілася полем паэзіі,
А паэт – зноў з Някрасавых:
Ксенія!..

І бяссрэбраніца, і бяздомніца:
Вершы – скарбамі, Русь – харомамі.
Кубак радасці, слёзы на донейку,
Лёс з душою безабароннаю...

А слова – боскае, гучыць асанаю
Жыццю, што і *тут*, і за *тым* парогам...
*«И вероятней всего, что сами мы*
*Ещё не выросшие боги...»*

* * *

Не штодня такая цішыня,
Але ўсё ж зрэдзьчас яна бывае.
Той спакой – касмічнаму радня,
Вечнасці адзнака межавая.

Захад знаць не знае хвіляй той,
Што праз ноч усход яго чакае:
Пойдзеш, знікнеш за зямной вярстой –
З ёй не збіты зорнымі цвікамі.

Ды расстайнай роспачы няма, –
Гэта й па сабе я адчуваю:
Тут не рай, ды й неба не турма, –
Хоць маўчыць надзея ключавая...

Сонцу наўздагон апошні крок
Мерыцца адолець клён вячэрні.
Ветрыкам захуквае паўзмрок
Зайчыкаў зялёнае свячэнне...

* * *

Я ў твар пабачыў сваю адзіноту.
Я думаў, што я за яе хітрэй,

І меўся сустрэчу адкласці на потым...
А вось яна – стаіць ля дзвярэй.

Азяблай рукою торгае клямку,
Шархоткім лісцем з бярозы трасе, –
Тушы безнадзейна начніцу-лямпу
І ў безбярэжжы тані пакрысе...

Душа – як былінка ў асеннім полі, –
І не прыйдзе ніхто бараніць.
Не прыйдзе... Ні сёння, ні заўтра...
Ніколі...
А вецер шуміць,
шуміць...
шуміць.

* * *

Асенняя прырода, – луг і поле
Ў маўчанні перадснежным спачываюць:
Наканаванасць вечнасці – і воля,
Чаго жывыя ўсе яшчэ не маюць...

Клін журавоў апошні ў небе з поўняй,
Як лета каментар, – скупым курсівам.
І рунь зялёная зусім ужо не помніць,
З якіх зярнят яна, што ніва ўскаласіла...

Асенняя прырода, – нібы маці,
Што дзецям аддала сябе дарэшты,
І ў неба адыходзіць з тым багаццем,
Што на зямлі займела: быць бязгрэшнай.

* * *

Паэт не знае несвабоды.
Ёсць песня – з воляй сэнс і лад.
Вось раптам песня – без народа, –
Тады ўжо несвабода, брат...

Тады ніхто й не нагадае,
Каму ў вяках падаць руку...
А так – хто ўслужваць загадае
І на калені стаць радку?!

Якой такой узнагародай –
І хто такі – каб верш купіць?!.

А воля – з воляю народа...

Ды спіць народ – і рэха спіць...

## Я ЛІСТАПАД...

У шапцы з хмар
Стаю на ўзлеску я –
Асенні цар, –
І Лістапад маё імя.

Я лістасейна
Ападаю на зямлю,
Якую па-вясенняму
Люблю.

Я лістасей,
Ды што з маёй сяўбы?.–
Лес аблысеў,
Схаваліся грыбы...
Ні ягад, ні арэхаў...–
З кім сустрэцца?..
І нават рэха:
Кліч – не адгукнецца...

Я Лістапад,
Я цар, –
Ды боскі дар
Не даў
Назад
Мне зрушыць
Каляндар.

Апошні ліст
Рыжэе ў барадзе...
Зімы гарніст
Вятрыста
Ў горн гудзе...

Я сёння
Лістапад,
Я цар лясны,
А Сакавік – мой брат,
Зялёны цар вясны.

Зімовых дум
Зімовы сум

Ён прэч з душы зганяе:
– Ідзе, ідзе
Зялёны шум! –
Маім лясам спявае.

Я чую
Песню тую, –
Яна мяне
Ратуе.

## *СНІЦЦА ЯДРАМ…*

Як жар-птушка, Цар-пушка
Ў двор Крамлёўскі зляцела, –
Баявая нясушка –
І душою, і целам.

І наседжвае яйкі –
Двухпудовыя ядры:
Не жадае быць лялькай
Бабка сённяшніх "Градаў"...

Ды і іншыя птахі
Тояць сэнс у гняздоўі:
Крыл імперскім размахам
Свет узяць у абдоймы.

Дні касмічныя гунаў,
Тэрмаядзерных скіфаў, –
Сняцца ядрам чыгунным
Найсучасныя міфы...

## *ЯШЧЭ…*

Яшчэ – хай не ў раскошы,
Але ў жыцця – не з краю;
Яшчэ ў дзіравы кошык
Дзён рэшткі не збіраю;

Яшчэ вясновы клопат
У яблыневым гудзе
Пад крыл птушыных лопат
Штодня на золку будзіць;

Яшчэ не стыну ў маі,
І халады на печы
(Хоць печы той не маю)
Не цешу па-старэчы;

Самоце не даступны,
Спяю куплет на ўдачу,
Яшчэ й нагой прытупну
(Адно, каб хто не ўбачыў);

Яшчэ ў вясёлым стане
Зрэдзьчас курну цыгарку
І на дзявочы станік
Зірну, як чорт на чарку...

Яшчэ...
Ды, па-сакрэту,
Свет дзівакоў не звёўся!..
"Яшчэ"...
Яно б і гэтак –
Каб так яно было ўсё...

* * *

А лета бабіна не ўсім
Дыктуе сумны вырак, –
Вясна – красна, і назусім
Не адлятае ў вырай.

Хоць час няўмольны, ды крадком
Абудзіцца надзея:
Як першым восеньскім зябком –
Брусніцы саладзеюць...

* * *

*Алесю*

Пра такіх здавён казалі:
– І сявец мужык, і жнец, –
І вясёла дадавалі:
– Ён жа й на дудзе ігрэц.

Па натхненню, без прынукі, –
Спраўны майстар на ўсе рукі.

Не адбавіцца нікольку –
І Алесь таксама спец:
Журналіст, газетчык бойкі,
І паэт, і выдавец.

На здзяйсненне добрай справы
Мае добры нюх Алесь, –

То й трываляцца падставы,
Што “Алесь яшчэ не ўвесь”!..

## ***“ЁСЦЬ”,***
## ***альбо Балада пра хвосцік***

Спрадвеку “ёсь” у нас гаварылі, –
І гэтае “ц”, як мышка з хвосцікам,
На мяккіх лапках – каб не злавілі –
Збягала – і зноў вярталася: “ёсцека”!..

Вышмыгвала з норкі ў аздобе новай, –
Як зубкі, востранькай, такой мышынай...
Ах, дзякуй, хвосцік, ах, дзякуй, слова,
Якое к*а*ты-кат*ы* не ўдушылі!..

## ***УДЗЯЧНАСЦЬ***

О, якія былі галасістыя
Зіна з Кацяй, сёстры мае!..
Колькі, як на прычасці, я выстаяў
Перад песняй і тайнай яе...

Захінаўся паціху ў куточак –
І была малітва мая,
Каб нікому не трапіць на вочы,
Каб былі толькі песня і я.

Чым яна мяне чаравала,
Я не ведаў і ведаць не мог:
Ці гукаў мяне песняй Купала,
Ці наказваў штосьці сам Бог.

Быў у песні пачаткаў пачатак
Дзесьці побач, на ўскрайку сяла, –
Смутак быў аб няведамых стратах
І аб радасцях памяць была...

Не, таго не спазнаць дарослым,
Што спявала ў душы маёй,
Колькі зімаў і колькі вёснаў
Высявалася зорнай сяўнёй.

Як я ўдзячны вам, Зіна з Кацяй,
Што не здраджвалі вы вясне,
Што жыла з намі песня ў хаце
І праводзіла ў свет мяне...

## АПОШНІ...

*Напачатку было слова...*
Евангелле ад Яна

Сёння сонечны вецер,
Заўтра – буры на сонцы.
Ад сардэчных адмецін
Бог не даў абаронцаў.

Можа, гэтак і варта:
Біся, сэрца зямное,
Каб угледзець пажар той
Паміж небам і мною.

Будзь прыёмнікам чуйным
Даручэнняў асобых:
Што смяротным вяшчуе
Той касмічны Чарнобыль?

Сувязным па дастаўцы
Тэрмаядзерных вестак, –
Я адзін мо застаўся
З тых, каму не ўваскрэснуць.

Як у сонца праменняў
Не бывае зваротных,
Так жыцця не заменіць
Смерць жыццём несмяротным.

Вырак мой адмысловы:
Зноўку не паўтарыцца, –
Я асуджаны ў словы
На зямлі растварыцца...

---

"Дзеяслоўцы" сардэчна віншуюць шаноўнага
**Васіля Васільевіча ЗУЁНКА** са слаўным юбілеем
і зычаць яму моцнага здароўя, душэўнае трываласці,
аптымізму, бадзёрасці і, вядома ж, –
натхнення для новых выдатных твораў!

Міхась Зізюк



...Божа, за што мне гэта?
Я ж так мала пражыў,
нічога яшчэ не бачыў...

# Развітанне з летам

***Аповесць***

**1.**

На нейкі час яму падалося, што гул машын з вуліцы прыціх і чутны ўжо аднекуль здалёк, а сам ён знаходзіцца недзе ўбаку ад гарадскога тлуму. Можа, вуліца і ўвогуле знікла ў дрыготкім засмужаным мроіве, а навокал засталася толькі спакойная зеленаватая плынь, лёгкі ветрык і такія ж лёгкія бязважкія белаватыя аблачынкі. Як жа даўно ён не ляжаў дзе-небудзь на ўзлеску, бязвольна раскінуўшы рукі, расслаблена гледзячы ў светла-сіняе, як падсвечанае далёкім святлом, неба, у якое – здавалася ў такія моманты – ніколі не наглядзішся. У дзяцінстве ён любіў ляжаць на траве, у цішыні, марыць пра сваю будучыню, шукаць у аблоках знаёмыя зямныя малюнкі. Глядзіш, адна хмарка нагадвае нечыю кудлатую галаву, другая марудна паўзе белаю авечкаю, але большасць з іх ні на што не падобныя. Тады фантазія дамалёўвае ім нечыя абрысы, і па небе пачынаюць плысці асілкі-вершнікі, вялізныя караблі, сунуцца страшэнныя малюскі. Цікава –

думаў ён тады – а што надае аблокам такую форму? Вось каб падляцець туды хоць на хвілінку, зазірнуць за іх: што б ён там убачыў? Добра так ляжаць, даць волю млявым і лёгкім, як летні дзень, мроям, ведаць, што табе няма куды спяшацца...

Юрка стаяў, абапёршыся на шэры бетонны парапет каля Свіслачы, і няспешна зацягваўся цыгарэтай. Думкі луналі недзе самі па сабе, а невідушчы позірк механічна лавіў то качак на вадзе, то дзяцей, што побач кідалі ім хлеб, то шумлівую гарадскую вуліцу. Ён адчуваў сябе страшэнна стомленым, хоць яшчэ не прайшло і паловы дня. Халера яго ведае, з-за чаго гэта. Ці то заела праца: даўно ўжо не быў у адпачынку. Ды і ўвогуле амаль ніяк не адпачываў. Можа, з-за таго, што ўжо больш як тыдзень у яго ў левым баку нешта баліць. Не, не тое, каб моцна, але ж гэты нязначны боль амаль увесь час. З вясны пачалося, ды так і не праходзіць. А што там баліць – невядома, хоць бы не тая трасца, пра якую і думаць не хочацца. А яе, анкалогіі, цяпер столькі... Трэба было б схадзіць у паліклініку, праверыцца, але ж тыя праверкі столькі часу забяруць: чэргі там немалыя. Ды і шэф ганяе – то туды падскоч, то адтуль падвязі матэрыял, то пра гэта артыкул накідай. Вядома, яму таксама нясоладка: выдаткі цяпер немалыя, грошай не хапае і, каб тыраж трымаць, трэба круціцца, а іхні часопіс не надта запатрабаваны. Як раней казалі: каму цяпер лёгка? Колькі гадоў прайшло, а прымаўка засталася актуальнай.

Можа, плюнуць на ўсё і ўзяць адпачынак? Ён жа ў маці быў паўгода таму – на Каляды. Схадзіць у лес па грыбы ці проста пасядзець пад вішняю, адпачыць. Толькі хіба адпачнеш: меўся тады плот паправіць – не паправіў. Страха ў хляве падцякае – бедавала маці. Трэба рабіць. Бо старэйшая сястра жыве далёка і прыязджае рады ў гады. Але ж хочаш не хочаш, а давядзецца яшчэ схадзіць да ўрача. Зацягнеш – можа горш быць.

– Ігар, ты што – здурэў? Пусці! Пусці – каму кажу!

Юрка азірнуўся. За некалькі крокаў ад яго малады хлопец, хутчэй за ўсё яшчэ школьнік, паставіў на парапет дзяўчыну і, як бы жартам, спрабаваў кульнуць яе ў ваду. Тая адбівалася: яна хоць і не ўспрымала яго намер усур'ёз, але ж відавочна баялася. Хлопец са смехам падхапіў дзяўчыну, абняў і прыцягнуў да сябе.

– Дурань, я ж магла ўпасці, – сяброўка злёгку пляснула яму па лобе.

– Са мною не ўпадзеш, – зарагатаў хлопец. – Пайшлі, нас чакаюць.

І яны хутка пакрочылі ўздоўж Свіслачы. Юрка зірнуў на іх і схамянуўся. Вось хто дапаможа – Ігар! Аднакурснік, з якім прайшлі агонь, ваду і медныя трубы. Некалі пазнаёміліся яшчэ ў час паступлення на факультэт журналістыкі і пасябравалі. Іхняе сяброўства цягнецца і па сёняшні дзень. Спачатку яны былі ўвогуле як сіямскія блізняты – дзе адзін, там і другі, бо шмат чаго мелі падобнага: абодва з вёскі, русявыя, сярэдняга росту, аднолькава любілі кнігі, і нават густы іх супадалі. На патоку не маглі ўявіць, што хлопцы могуць рабіць нешта паасобку: нават да дзяўчат разам хадзілі. Але ж потым, пасля заканчэння, іх шляхі разышліся. Ігараў цесць – а сябар ажаніўся перад самым выпускам – змог знайсці сувязі, і малады журналіст застаўся ў сталіцы. Ён пачынаў з простага супрацоўніка, і вось, да трыццаці гадоў, дарос да рэдактара аддзела ў салідны газеце. Цяпер у яго свая кватэра, машына, жонка, двое дзяцей і ўсё на мазі. Ігар аброс сувязямі, усіх ведае і ці не з усімі можа дамовіцца. Юрка і дагэтуль дзівіцца, як сябар з таго ціхага, сарамлівага хлопца ў старых джынсах, якога ён

ведаў на пачатку першага курса, вырас у крыху распаўнелага, упэўненага ў сабе, хвацкага мужчыну. Але адно, чаго не страціў Ігар, дык гэта пачуцця сяброўства: ён не цураецца Юркі і заўсёды гатовы прыйсці на дапамогу. Яны часта сустракаюцца, іншы раз бяруць па чарцы, і Юрка ў Ігаравай сям'і свой чалавек. Вось які ў яго сябар. А што Юрка? Ды што Юрка.

Ён па размеркаванні трапіў у невялікую раённую газету, дзе добрасумленна адпрацаваў два гады. Набілі аскоміну надоі, прывагі, сяўба азімых і бадзёрыя рапарты аб раённых поспехах. Не, вёска была яму знаёмай, блізкай, а вось тыя матэрыялы, што пісаліся амаль пад капірку, адбівалі ўсялякую ахвоту да працы. Побач з рэдакцыяй месціўся будынак дзіцячай музычнай школы. Неяк золкім восеньскім ранкам – ішоў другі год працы ў газеце – на яго вачах, на ходніках каля школы, паслізнулася маладая дзяўчына. Ён дапамог ёй падняцца, зайсці ў будынак, потым яны пазнаёміліся. Святлана працавала выкладчыцай па класе фартэпіяна. Хутка іх адносіны перараслі ва ўзаемнае пачуццё – прынамсі, так яму здавалася. Потым ён вазіў сваю абранніцу ў вёску. Маці будучая нявестка не спадабалася, але сыну пярэчыць не стала. Вяселле згулялі ў лютым. Святлана марыла жыць у сталіцы і спадзявалася, што Юрка дапаможа гэта зрабіць. Яна была адзінай дачкой у бацькоў, а тыя нічога для яе не шкадавалі. Юрка адшукаў сабе месца ў Мінску. Спачатку жылі на здымнай кватэры ў Серабранцы, затым яе бацькі сабралі грошай і купілі ім кватэру недалёка ад метро «Партызанская». У гэты ж час у маладой пары нарадзілася дачка Валерыя. Але ж Святлана хацела прыгожага жыцця. А што мог даць ёй Юрка са сваім сціплым заробкам? Спачатку з-за гэтага, далей больш – і пачаліся ў іх сваркі. Сямейны карабель даў расколіну і канчаткова патануў недзе на пятым годзе сумеснага жыцця, калі Святлана заявіла, што не кахае яго. Яму давялося пакінуць кватэру, афармленую на цешчу. Дачка вісла на шыі і плакала, але выйсця не было. З дапамогай Ігара Юрка знайшоў даволі нядрэнны пакойчык у інтэрнаце, дзе і жыве цяпер. З былой жонкаю, якая, дарэчы, праз паўгода выйшла ў другі раз замуж, адносіны больш-менш наладзіліся, ён часта бярэ Лерку на суботу ці нядзелю і гуляе з ёю па Батанічным садзе. Так выглядае яго біяграфія. Але не, ёсць яшчэ адзін факт – Юрка піша вершы, якія друкаваліся сям-там, мелі неблагія водгукі. Зноў жа з дапамогаю сябра ён змог выдаць свой першы зборнік. З якою радасцю ён трымаў у руках тую кнігу! Сябар сказаў тады:

– Гэта толькі пачатак – я ўпэўнены. Пішы, у цябе добрыя вершы. Выдадзім яшчэ, не хвалюйся.

Так, калі Ігар нешта абяцае, то менавіта так яно і будзе. Толькі нешта ў апошні час не пішацца, усё роўна, як хто кісларод перакрыў. Моташна і на душы, і ў сэрцы пасля разводу.

Вось ужо год, як Юрка жыве ў інтэрнаце, і перспектываў у яго ніякіх. Хіба што знайсці якую ўдаву з кватэраю, толькі пасля Светкі нешта не цягне да жанчын – бы зняверыўся ва ўсім жаночым родзе. Не тое каб зусім, але сур'ёзна ні на каго не западае вока. Яшчэ адно – заробак слабаваты. Мо і сапраўды падацца да Ігара ў газету? Той нядаўна, як крыху абабіўся на новай пасадзе, прапаноўваў яму пайсці да іх. Юрка ўявіў, як выцягнецца твар у іхняга галоўнага, калі ён скажа, што сыходзіць у іншую газету. Рэдактар прыпадыме акуляры, гляне на супрацоўніка паўзверх іх і кіне коратка: «Прысядзь». Пасля скажа: «Даражэнькі ты мой», – і далей, і далей... Аляк-

сандр Пятровіч – чалавек старой закваскі, асцярожнічае, не лезе на ражон, можа лёгка адкінуць востры і цікавы матэрыял. Яго зразумець можна – да пенсіі нешта каля года. Затое да супрацоўнікаў ставіцца па-людску, калі трэба – заўсёды адпусціць. Так, год назад у Юркі маці сур'ёзна захварэла, і шэф без ніякіх праблемаў даў яму некалькі дзён адгулаў.

Толькі Юра падумаў пра гэта, як у баку зноў цягуча заныла. Не, трэба праверыцца.

## 2.

Ігар адразу не падняў слухаўку – адно толькі доўгія гудкі сведчылі, што гаспадар, хутчэй за ўсё, заняты нейкаю важнаю справаю. Юрка засунуў тэлефон у кішэню і думаў, куды ісці далей: у рэдакцыю, альбо заскочыць дзе перакусіць. Пакуль ён раздумваў, Ігар ператэлефанаваў сам.

– Прывітанне, Стаўбурок. Як справы?

Сябар іншы раз называў Юрку старою студэнцкаю мянушкаю. А з'явілася яна яшчэ ў самым пачатку іхняй вучобы. На чыйсьці дзень нараджэння хлопцы сабраліся сваім колам, прынеслі крыху гарэлкі, закускі. Казік, сусед па пакоі, падняў бутэльку гарэлкі, страсянуў і крутнуў вакол сваёй восі – каб праверыць градус. Там адразу ж узнік лёгкі вірок.

– Стаўбурок ёсць, норма, – пацвердзіў Юрка.

– Як ты сказаў?– падняў галаву Казік.

– Стаўбурок. Мой дзядзька Пятрусь так заўсёды казаў, калі трос пляшку – стаўбуром стаіць, – патлумачыў Юрка.

– Стаўбурок, вы чулі? – зарагатаў Казік. – Стаўбурок! Ой, трымайце мяне, я не магу, я зараз памру ад смеху.

Ён зайшоўся ад рогату, яго падтрымалі іншыя хлопцы. Юрка счырванеўся, пашкадаваўшы аб сказаным, але было позна. З таго вечара мянушка прыклеілася да яго, як жавальная гумка да порткаў.

– Прывітанне. Так, у цэлым нармальна. Ёсць адно пытанне.

– Ды кінь ты свае пытанні. Хто ж так вырашае праблемы? Трэба браць пляшку, закусь – тады і вырашаць, – пажартаваў Ігар. – Карацей, так – сёння вечарам сустракаемся ў мяне. Стол будзе накрыты, там і пагаворым.

– З якой нагоды гэта?

– Эх, ты... Відаць, запрацаваўся. Ды ў Мікіты ж сёння дзень нарадзінаў! Збяруцца толькі свае – цесць з цёшчаю, сястра жончына. Ты ўсіх ведаеш. Так што чакаю.

Цьфу ты, ён і сапраўды забыў: Ігараву сыну Мікіту споўнілася чатыры гады, дачцэ Дар'і праз паўгода будзе восем. Юрка добра ведаў гэтыя даты – сябар заўсёды запрашаў яго ці не на ўсе сямейныя святы.

Так, цяпер новая праблема – што купіць імянінніку, як дагадзіць? Мала таго, што бацькі для дзяцей грошай не шкадуюць, дык і бабуля з дзядулем заўсёды гатовы залагодзіць унукаў. Цесць Ігараў – чалавек нябедны, даўно ў мэблевым бізнэсе і грошы мае. Таму Юрку трэба паламаць галаву і купіць нешта такое, каб малому спадабалася. Але першым чынам у рэдакцыю – узгадніць з шэфам крытычны матэрыял па адным з даўгабудаў і аддаць два гатовыя артыкулы. А потым можна ехаць па падарунак малому. Уздыхнуўшы, Юрка глянуў на Свіслач і пакрочыў да метро.

Аляксандр Пятровіч быў не ў гуморы і некуды спяшаўся. На Юркавы словы ён толькі кіўнуў:

– Пакінь на стале, заўтра пагляджу.

Шэф, схапіўшы са стала нейкія паперы, хутка выйшаў з кабінета. Што ж, пакінь дык пакінь. Юрка глянуў на гадзіннік. Засталося ўсяго каля гадзіны часу. Трэба ехаць да Ігара. Вырашыў зайсці ў ЦУМ – даўнавата не быў там, можа і знойдзе што цікавае. Грошы пакуль ёсць, да зарплаты павінна хапіць.

Універмаг сустрэў яго шумным натоўпам пакупнікоў. Крыху паблукаўшы па аддзеле цацак, Юрка нагледзеў даволі прыстойны для малога – на яго погляд – падарунак: робата-трансформера з армейскай экіпіроўкай. Канечне, нешта такога кшталту ў Мікіты можа быць. Але ж для дзіцяці кожная новая цацка заўсёды цікавая... А калі да робата дадаць добрую кнігу, то лепшы падарунак і не трэба. У яго якраз ёсць такая: у час апошняй кніжнай выставы ён набыў цудоўную дзіцячую кнігу, ілюстраваную яркімі малюнкамі.

Ігарава кватэра знаходзілася ў прыстойным месцы. З яе вокнаў відаць Нацыянальную бібліятэку, сам шумлівы шырокі праспект. Хаця для сябра гэта быў не канчатковы варыянт з жыллём. Ён збіраўся з цесцевай дапамогай пабудаваць катэдж за горадам. Юрка мінуў дзіцячую пляцоўку, груду нейкіх бетонных кавалкаў – адкуль яны тут узяліся? – прайшоў між шчыльна прыпаркаваных аўтамабіляў і паспеў заскочыць у пад'езд. Адтуль якраз выходзіла дзяўчына з рудым невялічкім сабачкам, і той затрымаўся, спрабуючы абнюхаць падазронага незнаёмца, але гаспадыня пацягнула яго за сабою. Юрка падняўся па лесвіцы на трэці паверх, уздыхнуў, прыгладзіў валасы і націснуў на кнопку званка. Замок пстрыкнуў, у прыадчыненых дзвярах паказалася каратка стрыжаная Ігарава галава.

– Здароў быў, журналюга-валацуга, – сябар ляпнуў яго па плячы. – Давай, праходзь – толькі сабраліся сесці за стол.

На шум выскачыў малы і залямантаваў:

– Дзядзя Юла, дзядзя Юла!

– Так, хто ў нас імяніннік? – Юрка працягнуў пакунак Мікіту. – Трымай, брат. Са святам цябе.

– А што сказаць трэба? – у вітальні паказалася Ігарава жонка Алена, прывабная, светлавалосая і хударлявая жанчына.

– Дзякуй, – гукнуў малы і панёсся ў пакой пахваліцца чарговым падарункам.

– Прывітанне, Юрка. Як справы? – усміхнулася Алена.

– Лепш не бывае, але ніхто не зайдросціць, – пажартаваў той. – Нічога, прарвёмся.

– Пасля пагаворым, пайшлі за стол, – піхнуў яго ў плечы Ігар. – А то душа прагне свята. Ды і кішкі марш іграюць.

Юрка ўвайшоў у пакой, павітаўся з Аленінымі бацькамі, сястрой, працягнуў шакалад Дашы. Стол быў застаўлены рознымі закускамі, а пасярод іх узвышаліся дзве бутэлькі дарагога французскага віна і бутэлька «Абсалюта».

– Прашу, – Ігар артыстычна адвёў руку, запрашаючы ўсіх за стол.

У хуткім часе дзеці збеглі ў свой пакой разбіраць падарункі і глядзець тэлевізар, а дарослыя, развязаўшы языкі, пажвавелі. Рэй вёў Мікалай Андрэевіч – Аленін бацька. Ён нядаўна прыехаў з чарговай замежнай камандзіроўкі з Італіі.

– А вось дарогі мне там не спадабаліся, асабліва на поўначы. І ў гарадах бруднавата – месцамі горы смецця.

– Дык у іх там нядаўна нейкая забастоўка была, – уставіў Юрка.
– Можа і так, але ж непрыемнае ўражанне засталося, – зазначыў Мікалай Андрэвіч.
– Добрыя і ў нас людзі, усялякіх хапае. Ты паглядзі, што робіцца хаця б на Мінскім моры пасля выхадных, – умяшалася Галіна Анатольеўна, яго жонка.
– Бо трэба штрафы такія даваць, каб баяліся.
– Бадай што адны штрафы не дапамогуць – трэба культуру з дзяцінства прывіваць, – зноў асцярожна ўставіў Юрка.
– Ну ўсё, зноў спрэчкі. Пайшлі лепш пакурым, – пацягнуў яго за сабою Ігар.
Заходзячае сонца залаціла наваколле. Здалёк гуў праспект, даносіліся дзіцячыя воклічы і гучная музыка з першага паверха. У нагрэтай за дзень лоджыі было душнавата, і Ігар адчыніў акно.
– Ну, як ты, расказвай, – сябар зацягнуўся цыгарэтай.
– Нармальна. Праца, дом, дом, праца.
– А што за справа ў цябе?
– Ды так... Карацей кажучы, да нармальнага доктара мне трэба. Нешта баліць, а што – не ведаю. Каб паслухаў, паглядзеў, можа, аналізы якія, на апараце якім праверыцца. А то ў паліклініку пайсці – не адзін дзень змарнуеш, а мне не хочацца ў чэргах стаяць. Ды і часу асабліва няма. Шэф падкідае штодзень нешта новенькае.
– Гэта дробязь. Ёсць у мяне надзейны доктар, я зараз патэлефаную. Думаю, заўтра з раніцы ён цябе прыме. Як сам увогуле?
– Быццам бы нічога, – паціснуў плячыма Юрка.
– Не, нешта ў цябе бляск у вачах знік, вершаў тваіх новых мы сёння не чулі, – усміхнуўся Ігар. – Мне здаецца, табе тэрмінова патрэбны адпачынак.
– Мо яно і так, але ж хто яго мне цяпер дасць.
– То давай на бальнічны – заўтра арганізуем, – весела падміргнуў сябар.
Юрка пакінуў сяброву кватэру недзе пасля адзінаццаці. У метро ён прысеў на вольнае месца, стомлена заплюшчыў вочы і зноў аддаўся думкам. Яны паплылі павольна, не тоўпіліся і не лезлі адна наперад другой. На пачатку прыгадалася чамусьці вёска, мільгнуў матчын твар, потым з’явілася Лерка, а за ёю свой пакой у інтэрнаце. Следам узнік Ігар, іхняя сённяшняя размова, і ўрэшце доктар у белым халаце, чамусьці барадаты. Чаму? А хай сабе і з барадою, гэта нічога. Заўтра доктар будзе чакаць Юрку а дзявятай раніцы – так паведаміў Ігар. А цяпер хутчэй дабрацца да ложка, хутчэй спаць.

## 3.

Паштурхаўшыся, Юрка трапіў у тралейбус, праехаў тры прыпынкі і подбегам кінуўся ў метро: ён відавочна пазніўся. На шчасце, адразу ж ускочыў у вагон і пасля, на выхадзе, таксама ледзь не бягом кінуўся на аўтобусны прыпынак.
У калідоры паліклінікі ўжо тоўпіліся людзі. Юрка набраў на тэлефоне нумар, які яму ўчора даў сябар.
– Слухаю вас, – прагучаў прыемны мужчынскі барытон.
Юрка патлумачыў, хто ён такі.
– А вы дзе цяпер?

– Каля вашага кабінета.

– Заходзьце.

У кабінеце сядзела пажылая поўная жанчына ў чорнай сукенцы і ў шырокай квяцістай блузцы, збоку – маладзенькая медсястра нешта пісала ў картачцы, а тварам да дзвярэй сядзеў сам Сяргей Аляксандравіч. На выгляд яму было недзе каля пяцідзесяці. Доктар і сапраўды меў бараду: кароткую, акуратную, з сівізною.

– Сядайце. Я зараз.

Юрка прысеў і стаў разглядаць кабінет. Нічога асаблівага, усё звычайнае: два сталы, шафа з паліцамі, некалькі вазонаў, на сцяне нейкая бляклая рэпрадукцыя, на падаконніку маленькі тэлевізар. Доктар хутка адпусціў жанчыну.

– Слухаю вас.

Юрка пачаў расказваць, што яго турбуе. Сяргей Аляксандравіч уважліва выслухаў яго, затым коратка кінуў:

– Распранайцеся.

Ён пацiснуў Юрку жывот у адным месцы, у другім, потым пасыпаліся кароткія загады і пытанні:

– Адкрыйце рот, пакажыце язык. Павярніцеся. Тут баліць? А тут? А калі больш баліць – пасля ежы, ці да таго, як паелі? Як часта баліць? Пякотка бывае? Ці маеце праблемы са стулам?

Нарэшце доктар загадаў апрануцца.

– Я думаю, малады чалавек, нічога страшнага ў вас няма, але ўсё высветлім. Нічога не елі і не пілі? Не? То і добра. Зараз здадзіце аналізы, зробіце некалькі здымкаў, а я назначу вам лячэнне. Патэлефаную Ігару, і ён скажа, калі да мяне можна будзе наведацца. Алачка, правядзіце маладога чалавека.

Медсястра паднялася:

– Ідзіце за мною.

Юрка хутка пасунуў пакет з каньяком і цукеркамі доктару пад стол і падняўся:

– Дзякую, Сяргей Аляксандравіч.

– Што вы, не трэба было гэта.

– Не, не, дзякую яшчэ раз.

Праз гадзіну Юрка выйшаў з паліклінікі, зірнуў на гадзіннік і набраў нумар Аляксандра Пятровіча. Ён папярэдзіў шэфа, што будзе ў доктара, цяпер трэба выслухаць новыя распараджэнні.

Дзень прайшоў і скончыўся, як і ўсе папярэднія: паездкі, гутаркі, паперы, кампутар, падрыхтоўка артыкулаў, указанні шэфа. Пасля абеду боль зноў нагадаў пра сябе. У левым баку нешта тупа ціснула, але Юрка пастараўся не думаць пра гэта і паглыбіўся ў працу: Ігар патэлефануе і ўсё скажа. Сябраў нумар высвеціўся толькі на наступны дзень.

– Прывітанне. Расказвай, колькі мне там жыць засталося, – азваўся Юрка.

– Гкм, – нечакана закашляўся Ігар, – ну і жартачкі ў цябе, Стаўбурок. Слухай, заўтра выхадныя, мы збіраемся з’ездзіць да цесця за горад. Давай з намі.

– Не, у мяне былі планы з Леркаю пагуляць, я ёй абяцаў, што неяк разам правядзём дзень-другі.

– Ну і цудоўна – паедзеце з намі.

– Не ведаю. Пабачым. А што, Сяргей Аляксандравіч не тэлефанаваў табе?

– Але, ледзь не забыў: ён казаў, каб ты прыехаў да яго, калі можаш, то нават сёння.

– Сёння не паспею.

– Ён прасіў не зацягваць.

– І што, ён так нічога не сказаў больш?

– Не, не, нічога, – неяк паспешліва адказаў Ігар.

– Браце, не мані. Я цябе добра ведаю, хлусіць ты не ўмееш.

Сябар памаўчаў нейкі час.

– Ён прасіў нічога табе не казаць, але ж... Ты толькі не хвалюйся, бо дыягназ пакуль яшчэ не пацверджаны...

– Ды не цягні ты ката за хвост, – у Юркі перасохла ў роце.

– Ну, гэта, ён сказаў, што ў цябе падазрэнне на рак страўніка. Здымак нешта там паказаў, і аналізы дрэнныя, але ўсё гэта трэба правяраць. Ён казаў, што сам не верыць у гэта... Разумееш?

– Канечне, разумею.

– Ты толькі не гарачыся, добра? У панядзелак разам пад'едзем да Сяргея Аляксандравіча і ўсё высветлім.

– Само сабой.

– Толькі не гарачыся. І наконт заўтрашняга падумай.

– Дзякую за турботы. Убачымся.

Вось і ўсё, Юрка, фініта ля камедыя. Нядобрыя прадчуванні спраўдзіліся. Спадзявацца, што аналізы раптам палепшаюць, а здымак нічога не пакажа, няма сэнсу. Сучасныя прыборы не памыляюцца. Што цяпер рабіць? Ісці да барадатага Сяргея Аляксандравіча і спрабаваць лячыцца?

Лячыцца!.. Бачыў ён гэтае лячэнне. Некалькі курсаў пакутлівай хіміятэрапіі, ад якой вылазяць валасы, а ўсе глядзяць на цябе, як на нябожчыка. Потым апраменьванне ці яшчэ нейкі курс. І навошта? Каб працягнуць лішні год-паўтара?

Божа, за што мне гэта? Я ж так мала пражыў, нічога яшчэ не бачыў. Юрка, хістаючыся, падняўся, зрабіў некалькі крокаў і спыніўся. Куды ён ідзе? Навошта кудысьці ісці? Ат, усё роўна. І ён пайшоў.

## 4.

Ён ішоў, марудна перастаўляючы ногі, як на шпацыры, наўпрасткі, мінаючы двары шматпавярховак, застаўленыя аўтамашынамі, некалькі разоў пераходзіў дарогу разам з людской плынню. Толькі два пытанні: няўжо гэта ўсё і што рабіць далей? Нейкі голас, прарываючыся з невядомых глыбіняў, спрабаваў яго спыніць: няўжо ты такі слабак? Няўжо гэтая навіна можа ператварыць цябе ў нікчэмнага чалавека? Не здавайся, Юрка. Але холад ад уяўлення страшнай хваробы перакрываў голас, заціскаў яго, і страх ад невядомасці гнаў Юрку далей. Ён не памятаў, колькі часу ішоў, колькі двароў мінуў. Яго спыніў нечы воклік:

– Гэй, мужык, цыгарэтай не пачастуеш?

Юрка схамянуўся, падняў галаву. Ён стаяў на дарозе, у ціхім і ўтульным зялёным двары, паміж некалькіх старых пяціпавярховікаў. Злева ад яго месцілася пляцоўка з кантэйнерамі для смецця, а голас гучаў справа, з зараснікаў бэзу, што разрасліся каля старой аднапавярховай аблезлай будыніны. З кустоў выглядала кудлатая галава.

– Дык што, ёсць у цябе цыгарэты, ці не?

– Ёсць.

Кусты расхінуліся, адтуль выйшаў патлаты мужчына незразумелага ўзросту ў замызганай чорнай шапцы, падраным шэрым світары і заплямленых сініх нагавіцах. Юрка дастаў цыгарэты, працягнуў мужчыну, потым закурыў сам і даў прыпаліць незнаёмцу.

– Дзякую, – кіўнуў той. – Куды ідзеш?

– Мабыць, нікуды.

– Давай да нас. Сто грамаў будзеш?

Юрка крыху падумаў і згадзіўся:

– А-а, давай.

Ён нырнуў у кусты. За невялікім – на чацвярых – збітым з габляваных дошак столікам сядзелі яшчэ двое. Першы – з крыху прыпухлым тварам і засаленымі доўгімі валасамі, млява разваліўся, абапёршыся аб ствол дрэва. Другі выглядаў больш прыстойна, нават салідна: у чыстай светлай кашулі з гальштукам, коратка падстрыжаны і паголены, але з асалавелым тварам. На выгляд яму было недзе за пяцьдзясят. На століку стаяла недапітая бутэлька гарэлкі, пластыкавыя кілішкі, хлеб, парэзаная кілбаса і агуркі, бляшанка шпротаў. Юрка павітаўся. Той, што сядзеў разваліўшыся, млява плюснуў павейкамі, а мужчына ў кашулі прыўзняўся і працягнуў руку:

– Ясь Іванавіч. А гэта мае сябры – Віктар і Даніла. Сядайце, калі ласка.

– Давай, Іванавіч, па пяць кропель, – Даніла, які выглядаў самым цвярозым з усёй кампаніі, падсунуў яму кілішкі. – За знаёмства.

Іванавіч наліў. Юрка перакуліў кілішак. Унутры запякло, але хутка прыемнае цяпло разлілося па целе, у галаве неяк нават праяснілася.

– Вы закусвайце, не саромцеся, – прапанаваў Ясь Іванавіч.

Юрка ўзяў кавалачак кілбасы. Даніла, зацягнуўшыся цыгарэтай, паказаў на бутэльку:

– Малавата будзе, Іванавіч, га?

– Вось, вазьміце, – Юрка паклаў на стол грошы.

– О, гэта па-мужчынску, – Даніла падняўся. – Я хутка.

– Чым займаецеся, малады чалавек? – Іванавіч хоць і выглядаў п’янавата, але гаварыў досыць цвяроза.

– Журналістыкай.

– Што ж, вельмі цікава. Калі не сакрэт: пра што пішаце?

– У асноўным, пра будаўніцтва.

– А Іванавіч у нас вучоны! – раптам выгукнуў Віктар, які нібы драмаў да гэтага. – Тут табе не газета!

Юрка запытальна глянуў на Іванавіча. Той адказаў:

– Так, кандыдат гістарычных навук. Гісторыя, мілыя вы мае, гэта найскладанейшая навука. Каб нешта даведацца, трэба процьму дакументаў падняць, вывучыць, прааналізаваць, і толькі тады можна вызначыць прыблізную ісціну, толькі прыблізную. Бо розныя крыніцы часта даюць абсалютна процілеглыя факты. І задача гісторыка разабрацца ў тым, дзе праўда, а дзе хлусня, данесці ісціну да людзей.

– Усё брахня, Іванавіч! І гісторыя твая, і літаратура, і капіталізм з камунізмам. Праўды не было, няма і не будзе. Вось мяне жонка з палюбоўнікам выжылі з кватэры, а я нікому нічога не даказаў, хоць праўда на маім баку. Вось табе і гісторыя, – Віктар адарваўся ад стала і з усёй моцы ляпнуў далонню па століку. – Заб’ю некалі абоіх.

– Віктар, вы параўноўваеце непараўнальныя рэчы. Толькі час і гісторыя ўсё расставіць на месцы, – Іванавіч падняў указальны палец.

У гэты час зашамацеў куст, на лаўку плюхнуўся Даніла. Ён прынёс бутэльку гарэлкі, кавалак сыру і бляшанку кансерваў.

– Я бачу, вы паспелі пазнаёміцца. Прапаную выпіць за нашу светлую галаву – Яся Іванавіча, – Даніла зухавата скруціў верх на бутэльцы.

– Не, – пахітаў галавою Іванавіч, – не, Даніла. Вы парушаеце нашую беларускую гасціннасць. Спачатку за госця.

Усе выпілі. Іванавіч ветліва пацікавіўся ў Юркі:

– Якім ветрам вас сюды занесла, малады чалавек?

– Не ведаю. Ішоў кудысьці, а трапіў сюды.

– Разумею. Душэўныя пакуты нашмат цяжэй за фізічныя. Але час паставіць усё на месца. Паверце мне, малады чалавек.

– Якая душа? – зноў улез у гутарку Віктар. – Вось мне жыць няма дзе. А ты кажаш – душа.

– Вы занадта меркантыльны чалавек, Віктар. І ўвесь свет цяпер такі. Да навукі, інтэлекту, духоўнага пачатку няма павагі, а ўсім кіруюць грошы. А ў чалавека духоўнае павінна мець перавагу над фізічным, інакш гэта будзе не чалавек. Вось як гаварылі вялікія людзі, напрыклад, Шэкспір: «Што чалавек, калі ён заняты толькі сном і ежаю? Жывёліна, не больш». Вы згодны, Юрый?

– Безумоўна.

– Вось чаму я тут, з імі? Бо яны ўмеюць слухаць, яны паважаюць навуку, веды, у іх ёсць нешта тут, – Іванавіч паляпаў сабе па грудзіне, потым тыкнуў пальцам на вуліцу, – а там мяне не паважаюць як чалавека. Выйдзі адсюль – і што? Толькі чуеш: грошы, грошы, грошы. Усім трэба грошы. А я так не магу. Для мяне перш-найперш чалавек, яго ўнутраны свет.

– Эх, Іванавіч, давай ужо за цябе, – зноў прапанаваў Даніла.

Той не адмовіўся. Юрка заўважыў, што Іванавіч, нягледзячы на выпітае, трымаецца адносна добра. А вось Віктарава галава павольна хілілася на стол.

– Наш Іванавіч усё ведае, – зазначыў Даніла. – Эх, мне б такую галаву – я б зажыў тады.

– Так ужо і ўсё? – засумняваўся Юрка.

– Не верыш? А ну, давай, задавай любое пытанне. Давай, не бойся. Пра любога чалавека табе расскажа. Давай.

– Напрыклад, хаця б хай раскажа пра Сімяона Полацкага, – Юрка прыгадаў першае, што прыйшло ў галаву.

Даніла пaглядзеў на Іванавіча. Той урачыста паправіў гальштук, адкашляўся і пачаў:

– Сімяон Полацкі – знакавая асоба для Беларусі. Сапраўднае імя і прозвішча ў яго іншыя. Розныя крыніцы даюць рознае імя. Я прытрымліваюся таго, што звалі яго Самуіл Гаўрылавіч Пятроўскі-Сітняновіч. Ён нарадзіўся 12 снежня 1629 года, спачыў 25 жніўня 1680 года. Вядомы багаслоў, мысляр, пісьменнік і драматург, перакладчык. Вучыўся ў Кіева-Магілянскай калегіі, у 1656 стаў праваслаўным мніхам. Вядомы яшчэ і тым, што выхоўваў дзяцей цара Аляксея Міхайлавіча.

– Досыць, – пагадзіўся Юрка, – веру, што ведаеце.

– А я што казаў? – радасна азваўся Даніла. – Давай яшчэ.

– Не трэба – я ж кажу, веру.

– Не, давай яшчэ, – заўпарціўся Даніла.

Крыху падумаўшы і пакапаўшыся ў памяці, Юрка вырашыў ускладніць заданне.

– А вось такое імя як Трайдзень што-небудзь гаворыць?

Іванавіч наліў сабе крышку гарэлкі, выпіў, панюхаў кавалачак хлеба.

– Трайдзень – вялікі князь Літоўскі, год нараджэння невядомы, а спачыў у 1282 годзе, на княстве сядзеў з 1270 па 1282 год, вёў барацьбу з Тэўтонскім ордэнам і Галіцка-Валынскім княствам. За гады свайго праўлення значна пашырыў межы ВКЛ. Напрыклад, у 1274 годзе захапіў Драгічын, які належаў Галіцкаму князю Льву. З найбольш вядомых яго бітваў – бітва пры Ашэрдаме, дзе разбіў немцаў.

– Малайчына, Іванавіч! – Даніла свяціўся, нібыта ён сам выдаў усю гэтую інфармацыю. Ён абняў і пацалаваў Іванавіча ў лоб. – Вось за што я цябе люблю і паважаю. Налівай.

Пры слове «налівай» Віктар расплюшчыў вочы і падняў галаву. Ён нешта прамармытаў, калыхаючыся, падняў кілішак і выпіў гарэлку. Потым абвёў усіх цяжкім позіркам, спыніўшыся на Юрку.

– Чаму ты выгнаў мяне з кватэры?

– Віця, сядзь. А не – адвалаку цябе зараз у падвал, – загадаў яму Даніла.

– А ты мне не ўказвай! – зароў Віця. – Няма такога права – выганяць людзей з кватэры. Не дазволю!

– Калі ўжо гэта скончыцца? – жаночы голас гучаў недзе паблізу. – З-за гэтай алкашні дзіця на вуліцу не выпусціш.

– Заткніся! – груба абарваў яе Віктар і брудна вылаяўся.

Жанчына войкнула і залемантавала:

– Міліцыя! Надзя, тэлефануй у міліцыю!

– Я ж табе казаў – сядзі. Цяпер папруць усіх, ідыёт, – Даніла стаў збіраць закуску і гарэлку.

Іванавіч сядзеў моўчкі, быццам нічога не здарылася. Праз некалькі хвілін з вуліцы данесліся гукі сірэны. Юрка падняўся: не хапала толькі яшчэ трапіць у міліцыю. Віктар таксама ўстаў:

– Яны, значыць, мяне з кватэры, а я маўчы. Заб'ю!

Даніла падхапіў Іванавіча пад рукі:

– Пайшлі хутчэй.

Сірэна гучала недзе зусім блізка. Юрка вылез з кустоў, азірнуўся. Даніла вёў Іванавіча да аднаго з дамоў, ззаду ішоў Віктар, размахваючы рукамі, некаму пагражаў. Падумаўшы, Юрка рушыў далей у двары – так бяспечней. Ён мінуў цэлы квартал, выбраўся на вуліцу, сеў на лаўку на бліжэйшым прыпынку.

## 5.

Малады кіроўца ўпэўнена вёў аўтобус па перапоўненых мінскіх вуліцах, а для Юркі зноў, як і нядаўна на Свіслачы, навакольны свет знік, паменшыўся да памераў невялічкага кавалка аконнага шкла, у якое ён глядзеў і нічога не бачыў. Хмель памалу выветрываўся з галавы, у аўтобус заходзілі і выходзілі людзі, а ён ехаў у невядомасць. Схамянуўся толькі тады, калі праехаў патрэбны прыпынак. Выйшаў на вуліцу, спыніўся і агледзеўся. Што далей? І раптам яму да гарачыні зрабілася сорамна за свае паводзіны: чаго ж ён гэтак раскіс, здаўся? Калі было такое, каб ён так расслюнявіўся ці рассупоніўся, як сказаў бы дзядзька Пятрусь.

Ды ніколі Юрка не пасаваў перад цяжкасцямі, і цяпер не будзе. Што ж, калі так здарылася – трэба годна трымаць удар лёсу, годна пражыць адведзены табе час. Так, зрабіць усё, што планаваў: з дачкою не толькі проста пагуляць, а звазіць куды-небудзь, каб памяць засталася, маці дапамагчы – абяцаў жа. Вось-вось, маці. Яна ж так старалася вывесці яго ў людзі, а ён забыў, ездзіць зрэдку, нават плот не паправіў. Сорам. Усё, першым чынам на вёску.

Ён рашуча пакрочыў да свайго жытла. На ходу патэлефанаваў галоўнаму, рыхтуючыся да таго, што той адмовіць яму ў тыднёвым адпачынку, але тады Юрка паедзе на вёску нават пад пагрозай звальнення. Пляваць. Аляксандр Пятровіч амаль не пярэчыў. Ці то было нешта такое ў Юркавым голасе, што прымусіла галоўнага паслухацца, ці то ў яго быў добры настрой, але, пабурчаўшы – «адпрацуеш» – галоўны адпусціў яго. Юрка глянуў на гадзіннік. Калі пастарацца, то яшчэ паспее на апошні аўтобус да райцэнтра. А там да вёскі і пехам можна – усяго чатыры кіламетры. І ўжо ўподбежкі ірвануўся сабіраць рэчы. Хоць якія там рэчы, але сёе-тое трэба ўзяць.

У невялікім беленькім аўтобусе сеў на сваё месца, і толькі тады адчуў сябе неяк вальней, нібы цяжар з плячэй зваліўся: паспеў. Вольных месцаў у салоне не было. Каля яго сядзела маладая дзяўчына, мабыць, студэнтка. Яна корпалася ў мабільніку, смешна адтапырваючы мезенец з доўгім, адмыслова нафарбаваным пазногцем. У хуткім часе аўтобус выбраўся за горад, міма панесліся сустрэчныя аўтамабілі, лясы і жаўтлява-зеленаватыя палі са збажыною. Юрка адкінуўся на спінку, прыплюшчыў вочы. Дзіўна – сёння бегае цалюткі дзень, а боль як быццам ні разу не патурбаваў. Мо гэта ад хвалявання, а можа проста так склалася. Не, лепш пра гэта не думаць. Хутка, зусім хутка ён будзе ў вёсцы. Спачатку пакажуцца магутныя векавыя ліпы, якія перажылі і войны, і ўдары стыхіі. Адной ліпе снарадам зрэзала верхавіну, але яна выжыла і разраслася ў левы бок, пакінуўшы пасярэдзіне вялізны прагал. А ў другую некалі трапіла маланка, і на вышыні чалавечага росту ў дрэве чарнела даволі вялікае дупло. Потым дарога падымецца на ўзгорак, вёска будзе бачная як на далоні: уся ў зеляніне, з высокай воданапорнай вежай і бусліным гняздом на ёй. Дарога, мінуўшы ліпы, павядзе далей, у цэнтр. Якраз там адгаліноўваюцца яшчэ дзве вуліцы – на ўсход і на захад. На заходняй, каля перасыхаючай у спякотнае лета сажалкі, якраз і знаходзіцца яго хата. Яно так, іх вёска няшмат чым адрозніваецца ад многіх іншых беларускіх вёсак, але для яго яна самая прыгожая. Родная хата, родная вуліца, блізкія і дарагія краявіды. Нечакана аўтобус рэзка затармазіў. Юрка расплюшчыў вочы. А ён, аказваецца, нават драмануў крыху: яны прыехалі ў райцэнтр.

Калі ён выйшаў за горад, гарачыня ўжо спала. Недзе ўдалечыні замыкала карова, потым забрахаў сабака, і зноў усё сціхла. Ад нагрэтай за дзень дарогі патыхала асфальтам і бензінам, а з поля падступала лёгкая летняя прахалода. Дзень сыходзіў у нябыт. На спадарожную машыну ў такі час Юрка не разлічваў. Дарога знаёмая, сюдою столькі разоў ходжана. Таму, калі за спіною пачуўся гук аўтамашыны, ён толькі вяла махнуў рукою, так, на ўсялякі выпадак. Серабрыстая «аўдзі» пранеслася была міма, пасля рэзка затармазіла, мільгнула чырвонымі «стопамі» і здала назад. Юрка адчыніў дзверкі.

– Ну, здароў, пісацель.

На Юрку глядзеў яго аднакласнік і сусед па вёсцы Вася Пузынкоў, які таксама жыў у Мінску. Вася ляпнуў яму па далоні і моцна пацiснуў яе.

– Прывітанне, – адказаў Юрка.

– Сядай ужо. А я еду з горада – маці паслала сяго-таго ў краме купіць – гляджу, нехта ідзе. Потым у люстэрка зірнуў і цябе пазнаў. Што, як дзялы?

– Нармальна.

– Кніжкі пішаш?

– Пакуль не.

Вася пасля школы паступіў у сталічны тэхнікум, скончыў яго, адслужыў тэрміновую і вярнуўся ў Мінск. У сталіцы прыжаніўся, разам з жонкаю неяк улез у прыватны гандаль. Паціху раскруціўся, цяпер у яго некалькі гандлёвых кропак у Ждановічах. Мае таксама два аўтамабілі, кватэру, будуе катэдж, лятае адпачываць у Турцыю і Егіпет, набраў вагі пад цэнтнер і лічыць, што схапіў Бога за бараду. Аднаго разу яны выпадкова сустрэліся на Нямізе, і Вася запрасіў яго да сябе ў госці. У кватэры ён доўга паказваў «наварочаную», дарагую тэхніку, мэблю, а калі падпілі, пачаў даставаць з бара па чарзе бутэлькі з алкагольнымі напоямі і трэсці перад Юркам:

– Ведаеш, колькі гэтая каштуе? Ды палова тваёй зарплаты. А вось гэтая? Ну, мо крыху менш. А гэтую я купіў у Польшчы, у нас такой не купіш.

А калі даведаўся, што Юрка надрукаваў кнігу вершаў, спачатку змоўк, потым спытаў:

– Колькі ж табе заплацілі?

Пачуўшы адказ, засмяяўся:

– Ты лепш ідзі да мяне прадаўцом – больш заробіш.

Вася яшчэ некалькі разоў – звычайна нападпітку – потым тэлефанаваў яму, запрашаў у госці і звяртаўся не інакш, як «пісацель», як бы падкрэсліваючы нікчэмнасць яго занятку. Але Юрка больш не пайшоў да яго.

– Да маткі прыехаў?

– Так. Як яна там, дарэчы, ці бачыў?

– Нармалёк, сёння бачыў і нават здароўкаўся.

– А ў цябе што новага?

– Гы, – рагатнуў Вася, – дык машына новая. Старую прадаў, а гэтую нядаўна купіў. Хутка ў Турцыю паляцім. Добра там, адарвуся.

– Што, сонца грэе лепш, чым у нас?

– Мне сонца тое да лямпачкі. Затое ляжыш каля бара і глыкаеш колькі хочаш: усё на халяву. Ляжыш, пуза грэеш, нічога не робіш і брэндзі пацягваеш. Любата, – Вася нечага ўздыхнуў: ці то пашкадаваў, што мала выпіў у час апошняга адпачынку, ці з-за таго, што яшчэ не ў Турцыі.

Яны памаўчалі. Мільгнулі старыя ліпы, паказаліся вясковыя хаты.

– А ты, значыць, пішаш. Я ж казаў лепш ідзі да мяне прадаўцом – ужо купіў бы нешта і на сваёй ездзіў бы ў вёску. А так што з твайго пісацельства.

На цэнтральнай вуліцы сям-там стаялі каля хат легкавікі, дзе-нідзе сядзела на лавачках дзятва. Машына звярнула на Юркаву вуліцу.

– Дзякуй, Вася.

– Калі ласка, было б за што, – Вася пачухаў грудзіну і лена пазяхнуў. – А мо давай па сто грамаў зробім?

– Не, позна, ды і маці пакрыўдзіцца: толькі прыехаў і адразу за гарэлку.

– Як хочаш, пісацель.

– Ведаеш, не хацеў нікому нічога гаварыць, бо яшчэ нічога не выра

шылася, але табе скажу, – унутры ў Юркі ўсё кіпела, але гаварыў ён абсалютна спакойна і разважліва. – Я казаў, што не пішу кніг, але гэта не так. Нядаўна скончыў новую кнігу і выдавецтва яе забрала. Быццам пойдзе вялікім тыражом, абяцалі добры ганарар заплаціць.

– Колькі? – Вася ажывіўся.

– Пяцьдзясят тысяч даляраў.

– Маніш!

– Вася, я табе калі-небудзь маніў? Не верыш – патэлефануй, правер.

– Ды не, – выдыхнуў той, – але ж хто ў нас такія грошы за кніжкі плоціць?

– За добрыя кнігі і больш не шкадуюць. Так што бывай. І яшчэ раз дзякуй.

Юрка адчыніў веснічкі і сам сабе засмяяўся, успомніўшы Васеў твар. Так, зманіў, але ж не змог болей трываць: проста збрыдзеў гэты зняважлівы тон былога аднакласніка і яго пахвальба грашыма. Эх, мабыць, меў рацыю Іванавіч, калі гаварыў, што большасць цяпер аддае перавагу матэрыяльнаму, а не духоўнаму. Зрэшты, хутчэй за ўсё так яно было заўсёды.

Ён зайшоў у цёмныя сенцы, намацаў упоцемку клямку і адчыніў дзверы. Маці, нахіліўшыся над чорнымі закопчанымі чыгунамі, рыхтавала назаўтра мешанку парсюкам. Азірнуўшыся, яна на нейкі момант застыла, як здранцвела, а потым стала выціраць рукі аб анучку:

– Вой, сынок, як жа гэта ты? Я не чакала. Здарылася што?

– Ды не, мама, не хвалюйся, усё добра.

– Што ж ты не папярэдзіў?

– Чаго папярэджваць? Дахаты ж прыехаў.

Ён абняў маці, пацалаваў у шчаку і зняў абутак. Маці замітусілася:

– А божачкі, ты ж галодны. Я зараз – бульбачка засталася, падагрэю, малако ёсць, гурочкі, кілбаска свая яшчэ.

– Мама, я сам, – Юрка ўсміхнуўся, – я ж дома і ведаю, дзе што ляжыць.

– Не, не, я хутка. Я і думала, што нейкі госць будзе: з раніцы сініца дзяўблася ў акно. Ажно ты. А мой ты сынок. Я зараз.

Узрадаваная маці выскачыла ў сенцы, ляпнулі дзверцы ў лядоўні, пстрыкнула газавая пліта. Юрка прысеў на ложак. Родная хата! Як прыемна кожны раз вяртацца сюды, дзе ўсё блізкае і знаёмае: печ, старая шафа, ложкі, засцеленыя саматканымі дыванкамі, фіранкі на вокнах, пацямнелыя фотакарткі на сценах, пярэстыя палавічкі на падлозе. Маці ўнесла ў хату талерку з гарачай бульбай, паставіла на стол парэзаныя гуркі, кілбасу, наліла кіслага малака.

– Вячэрай, сынок.

– Дзякуй. А ты?

– Я павячэрала. Як у цябе?

– Усё добра, – Юрка адвёў вочы, – працую... Але цяпер у мяне водпуск на тыдзень.

– Як водпуск? Ты ж казаў, што недзе ўвосень толькі дадуць.

– А я добра папрасіў. Трэба ж табе і плот паправіць, і страху, яшчэ можа што.

– Ат, такой бяды. Можа, здарылася што? Звольнілі?

– Не, мама, ніхто мяне не звальняў, я ж кажу – толькі на тыдзень прыехаў.

– Ну, то добра, вячэрай.

Пагаманіўшы з маці пасля вячэры, ён узяў зубную пасту і шчотку, выйшаў на вуліцу да летняга рукамыйніка. Яснае зорнае неба ва ўрачыстай цішыні глядзела на вёску, дыхалася свабодна і лёгка. Юрка задумаўся: што ж яго чакае далей? Першапачатковы шок ад Ігаравай навіны і страх неяк адышлі. Атрымліваецца, такі ў яго лёс і ад гэтага нікуды не падзенешся. Вось дачкі шкада – ён столькі не паспеў ёй даць, столькі сказаць, столькі зрабіць, і цяпер у вёску кінуўся, на выходныя не ўзяў, як абяцаў... А маці, бедная маці, ці вытрымае яна гэткі ўдар? Не, ёй пакуль ні слова не скажа, а потым будзе відаць. Што ж будзе? А нічога не будзе, жыццё працягнецца і без яго – такі няўмольны і жорсткі расклад падрыхтаваны ўсім. Толькі сэрца чамусьці сціскаецца ад невыказанай тугі і невядомага жалю. Чаму гэта з ім? Чаму менавіта цяпер, а не пазней? А жыць хочацца, так хочацца жыць.

## 6.

Ён працаваў ужо некалькі гадзінаў, з самай раніцы. Плот і сапраўды патрабаваў замены: слупкі падгнілі і добрым ударам іх можна было лёгка паваліць, жэрдкі месцамі зусім струхлелі. Юрка зразумеў, што на гэта пойдзе не менш двух-трох дзён. Добра, што маці яшчэ пару год назад прызапасіла і слупкоў, і жэрдак, і штакетніку – дзядзька Пятрусь пастараўся. І цяпер сухі матэрыял ляжыць пад павеццю, адно толькі рабі. Так, гаспадарка ўся на маці. Бацьку Юрка памятае слаба. Калі яму было каля пяці год, бацька загінуў у лесе – ён неяк няўдала зваліў хвою, тая крутнулася на пні і накрыла яго.

Юрка так захапіўся працай, што адарваўся толькі тады, калі маці прыйшла на абед з фермы.

– Адпачні, што ж ты так узяўся. Зробіцца. Зараз абедаць будзем.

– Нічога, я не стаміўся, – ён выцер пот і прысеў у цяньку пад вішняю, якую некалі сам пасадзіў. З непрывычкі нылі ногі і рукі ды пабольвала паясніца. Заплюшчыўшы вочы, стомлена выцягнуў ногі.

– Добры дзень, цёця Галя, – пачуў ён прыемны дзявочы голас.

– Добры, Валечка, добры.

Ён расплюшчыў вочы. Каля веснічак стаяла прыгожая стройная маладая дзяўчына ў лёгкай сукенцы. Кароткія каштанавыя валасы, загарэлы твар, іскрыстыя задумлівыя вочы і зграбная постаць – усё гэта ён паспеў заўважыць першым кароткім позіркам. Маці стаяла на ганку з міскай у руках: сыпала курам. Дзяўчына зірнула на яго і таксама павіталася:

– Прывітанне, Юрка.

– Як бацька? – спытала маці ў дзяўчыны.

– Ужо лепш, абяцаюць выпісаць праз некалькі дзён.

– То і добра.

– Я пайду, цёця Галя, усяго добрага.

– А ты чаго заходзіла?

– Не, я так, ішла мімаходзь, зайшла павітацца.

Валя зноў глянула на Юрку і, заўважыўшы, што ён пазірае на яе, пачырванела, хуценька адвяла вочы, павярнулася і пайшла.

– Хто гэта? – ён глянуў на маці.

– Вось табе маеш – Валю Мазуркевіч не пазнаў.

Валя – яна ўсяго на тры гады маладзейшая за яго. Але ж змянілася

як: ён не бачыў Валі пасля школы. Тады гэта было нейкае кволае худое дзеўчанё, а цяпер сапраўдная каралева.

– Прыгожая, – ціха сказаў ён.

Маці пачула гэтыя словы.

– Канечне, не раўня тваёй Светцы. Учапіўся за яе, а ў мяне не ляжала сэрца – чужая яна была, халодная і чужая. Казала ж тады, не паслухаў мяне. А Валя малайчына: скончыла педінстытут, у нашай школе працуе, любяць яе дзеці. Вось каго трэба было браць.

У Юркі заныла сэрца: Валя яму вельмі спадабалася. Хутка маці паклікала яго абедаць. Не паспеў Юрка паднесці лыжку да рота, як грукнулі дзверы: на парозе паказаўся дзядзька Пятрусь – матчын брат.

Невысокі, з рудымі пракуранымі вусамі, з нязменнай цыгарэтай у роце, картовай кепачцы і ялавых ботах – колькі Юрка яго памятае, так дзядзька і ходзіць, як быццам гады на яго не дзейнічаюць. Трэба адзначыць, што дзядзька Пятрусь быў яшчэ той «хрукт», як ён сам пра сябе казаў. У яго на ўсё быў гатоў адказ, ён ведаў безліч нейкіх прымавак, жартаў – нават родная жонка не ведае, калі ён гаворыць праўду, а калі хлусіць. Неяк, не паленаваўшыся, з’ездзіў у горад і купіў там адборнай рыбы. Пасля паклаў карпаў у брудны мех з-пад бульбы, звярнуў на сенажаць. Мужчынам сказаў, што злавіў рыбу ў недалёкай азярыне, хоць там зроду ніхто рыбы не спрабаваў лавіць. Мужчыны пакідалі працу, паслалі некага па таптуху і рынуліся мясіць балота ў азярыне. Дзядзька Пятрусь стаяў на беразе і, ціха пасмейваючыся, даваў парады:

– Вунь туды, пад той корч зайдзіце, я там некалькі карпаў узяў. Ага, з таго боку павінны быць.

А калі ўвэдзганыя і злыя мужчыны, разагнаўшы ўсіх жаб, вылезлі на бераг, дзядзька Пятрусь быў ужо ў вёсцы і ўсім расказваў пра «ўдалую» рыбалку. Дзеля праўды, трэба сказаць, што падобныя жартачкі неяк сыходзілі яму з рук.

– Здароў быў, плямяш. Хлябаеш? Хлябай ды пра радню не забывай.

– Сядайце, – Юрка падскочыў і павітаўся з дзядзькам. – Я толькі сабраўся палуднаваць.

– А хто ж на сухую палуднуе, – дзядзька хітравата падміргнуў яму. – Што, Галя, выдзеліш пару кропель нам за сустрэчу, га?

– А ты калі ўжо не вып’еш – не пражывеш, – без злосці буркнула маці.

– От жа, каб далі свінні рогі, нікому б не было дарогі, – дзядзька зноў падміргнуў Юрку. – Ён жа цяпер у цябе госць. А госць у хаце – на стол пляшку, браце. Не скупіся, Галя. Калі я яшчэ з гэтым гарадскім хлопцам пабачуся.

Маці крутнулася ў сенцы, моўчкі паставіла на стол пляшку, у якой было крыху меней за палову празрыстай вадкасці, падсунула кілішкі і міску з булёнам ды талерку з кілбасою і агуркамі.

– Ну, на бязлюддзі і дзяк чалавек, – дзядзька Пятрусь наліў у кілішкі. – Давай, пляменнічак, за сустрэчу: каб нас не забываў і часцей прыязджаў.

Пажаваўшы акрайчык, ён глянуў на Юрку:

– Расказвай, брат, як ты там?

– Што расказваць? Нічога цікавага – працую, як і ўсе.

– То ж ба – што можа быць цікавага ў вашым гарадскім тлуме. Не прыжаніўся яшчэ?

– Не, не паспеў.

– Не паспеў – не бяда, паспееш знайсці хамут на шыю.

Ён зноў наліў. Выпіўшы, дзядзька дастаў цыгарэту, прыпаліў і са смакам зацягнуўся. Юрка таксама прыпаліў і паляпаў па кішэнях, успамінаючы, дзе падзеў мабільны тэлефон. Цьфу ты – учора, калі спяшаўся, пакінуў яго на ложку. Цяпер будзе без сувязі цэлы тыдзень. Але такой бяды, не патрэбен ён зараз, спакайней будзе самому.

– Плот перасыпаеш? – спытаў дзядзька. – Даўно трэба.

– Ага, і хлеў гляну таксама, мо яшчэ што – цэлы тыдзень буду.

– Давай, пляммяш, даб'ём гэтую заразу, – дзядзька выліў рэшткі гарэлкі. – Ды пайду пад кантору – пагляджу, як будуць прадаваць канфіскаваны камбікорм. Кажуць, сёння цэлую машыну прывязуць і вельмі танны, амаль задарма.

– Ой, Пятрусь, то і мне вазьмі хоць пару мяшэчкаў, бо я ж на ферму зноў пабягу, – спахапілася маці.

– Галя, калі хопіць на ўсіх, – ён усміхнуўся ў пракураныя вусы. Юрка адразу сцяміў, што гэта чарговы дзядзькаў жарт.

Дзядзька падзякаваў маці, развітаўся і выйшаў. Праз колькі хвілінаў у хату зайшла суседка Адасіха – зайдрослівая і сквапная жанчына гадоў пяцідзесяці.

– Добры дзень, Юрачка. Да маці прыехаў? Малайчына, не забываеш, во і плотам заняўся. Не тое, што мой лайдак Косцік – амаль год носу не кажа. Ат, што за дзеці цяпер пайшлі, – затараторыла яна. – Ты, Галечка, на працу? А я пабягу пад кантору: кажуць, вельмі танны камбікорм прывязуць.

– Хто казаў?

– Дык твой Пятрусь.

Юрка зайшоўся ад смеху, а маці, глянуўшы на яго, усё зразумела і толькі паківала галавай:

– От жа пустамеля, от жа круцель – ніяк не супакоіцца.

Адасіха няўцямна паглядзела на Юрку, на маці:

– Дык што, зманіў хіба? А я думала, і сапраўды прывязуць.

Крыху адпачыўшы, Юрка зноў узяўся за плот. Трэба абавязкова скончыць гэтыя пяць пралётаў, што ад вуліцы, ды яшчэ потым прыбраць ламачча, папарадкаваць яго на дровы. Дзіўна, але сёння чамусьці не баліць нічога. Ці праўду кажуць, што родныя сцены дапамагаюць? Або, наадварот, для яго ўсё хутка скончыцца? Неяк не хочацца верыць у смерць, здаецца, што ён вечна будзе жыць, як будзе жыць мілая клапатлівая маці, і ўтульная ціхая вуліца, і зялёная вёска, і Ігар і ўсе астатнія. Чаму жыццё часта абрываецца на паўслове, чаму сыходзяць тыя, каго любіш, чаму сыходзіш ты? Несправядліва неяк уладкаваны свет. Нібы падслухаўшы яго думкі і сцвярджаючы іх, хрыпла і працяжна каркнула варона, што прымасцілася на вільчыку, за нечым цікуючы.

– Каб цябе немач, – Юрка шпурлянуў у яе грудкаю зямлі. Варона з цяжкасцю сарвалася з месца і, каркнуўшы напаследак, падалася ўбок сажалкі. Ён, замацаваўшы жэрдку і нацягнуўшы шнур, стаў прыбіваць штыкетнік, з невядомай злосцю замалаціўшы па цвіках, быццам спаганяў на іх нейкую сваю крыўду.

– Што ты так размахаўся? Гэта ж табе не на камп'ютары па клавішах лупіць – асцярожней трэба, каб па пальцы не ляпнуць.

Юрка, змахнуўшы кроплі поту з лоба, азірнуўся. За яго спінаю, пацягваючы піва, стаяў Вася ў яркай майцы-баксёрцы і недарэчна кароткіх

шортах: у такім убранні ён выглядаў, як перакормлены парсючок-сяголетка.

– Гляджу, ты ўзяўся сёння.

– Калі рабіць, то рабіць, – адазваўся Юрка.

– Не, я чуў іншае: еш – пацей, працуеш – мерзні.

І Вася засмяяўся, задаволены сваёю прымаўкай.

– А ты чым займаешся?

– Чым-чым – ды нічым: я ж адпачываць прыехаў. Мая Каця вунь пад яблыняй загарае, а я, думаю, прайдуся. Давай па піву.

– Скончыць трэба спачатку.

– Тады лупі.

Вася пасунуўся далей па цэнтральнай вуліцы.

Да заходу сонца Юра паспеў зрабіць усё, што спланаваў. Скончыўшы, прысеў пад вішняю і адчуў, як гудуць натруджаныя рукі і ногі. Але гэтая стомленасць прыносіла асалоду, незразумелую ціхую радасць ад зробленага, і хацелася толькі аднаго: памыцца пад халоднаю вадою, выпіць кубак духмянага сырадою, павячэраць гарачаю сопкаю бульбачкай з маласольнымі агурочкамі, упасці на мяккае, пахкае свежае сена і заснуць, як у далёкім дзяцінстве, моцным бесклапотным сном. Усе яго жаданні спраўдзіліся. Маці зварыла маладой бульбы, паставіла крамяных хрусткіх бліскучых агуркоў, свежага сырадою і прысела побач:

– Стаміўся, бедненькі?

– Не, мама, нічога. Я сёння на сене лягу – у хаце крыху душнавата.

– Каладзіся, я ж ведаю, што ты любіш там спаць. Ты, сынок, толькі заўтра нічога не рабі. Адпачні.

– Чаму?

– Заўтра ж Ілля – свята вялікае.

Юрка дакурыў цыгарэту, зірнуў на далёкія зоркі і палез па драбінах на сена. Было чуваць, як злева, за суседняю сцяною, шумна сапнула карова, а з правага боку ціха рохкаюць парсюкі. І салодзіць душу пах сена. Што будзе заўтра? Ды заўтра і будзеш думаць, бо цяпер вочы зліпаюцца і думкі блытаюцца. Так, нешта будзе...

## 7.

Бом, бом, бом... Звоніць звон, бягуць людзі. Бом-бом. Гук ужо не падае цяжкім камяком, а плыве меладычна і мякка, як зазыўна, і тады святлее навокал, і людзі не бягуць, а выстрайваюцца ў даўжэзную чаргу, і святлеюць твары людзей ад прадчування нечага добрага, як само святло. Юрка становіцца ў хвост чаргі, ён хоча атрымаць хоць маленькі кавалачак дабрыні. Бом-бом. А пасля – звонкае ку-ка-рэ-ку.

Ён падхапіўся. На вуліцы, лопаючы крыллем, разрываўся ад крыку гаспадар матчынага падворку – пярэсты і гарласты певень. Мабыць, добра Юрка заспаў, калі меркаваць па яркіх сонечных промнях, што прабіваліся праз рэдкія дзіркі ў страсе. І прысніцца ж такое: звон, людзі. Раптам ён зноў пачуў зусім недалёкі мілагучны царкоўны звон: бом-бом, бом-бом. Што за халера? Хто гэта можа званіць у вёсцы? Царквы ў іх зроду не было. Пацягнуўшыся, палез уніз. Дзянёчак выдаўся што трэба: цёпла, сонечна, яшчэ пакуль не спякотна. У хаце глянуў на гадзіннік: чвэрць дзясятай. Накрыўшы ручніком, маці пакінула яму снеданне: яешня са скваркамі,

аладкі, смятана. У печы яшчэ бульба ў чыгунку, наварысты булёнчык. Што ж, Юрка, адпачывай, выхадны сёння ў цябе.

Ён прысеў на лавачцы, няспешна зацягваючыся цыгарэтай, абдумваючы, чым заняцца. У Мінску ніколі не было такой праблемы, усё спланавана загадзя, а збіраючыся сюды, не думаў, што будзе лайдачыць. Падняў галаву і ўбачыў, што ў двор ідзе дзядзька Пятрусь.

– Здароў быў, – дзядзька прысеў побач, выцягнуў з кішэні цыгарэты. – Прахалоджваешся?

– Дык свята ж.

– А-а, калі ў вёсцы свята бывае – адно рабі ды рабі.

– Дзядзька Пятрусь, а што, у нас царкву пабудавалі? Бо раніцай чуў, як звоняць, і не мог зразумець, адкуль гэта.

– Царкву не царкву, а нешта такое нашы бабы ўмудрыліся арганізаваць, – патлумачыў дзядзька. – Герасёву Ніну ды Пільчыкаву Раю памятаеш? Во яны, самыя актыўныя, усіх паднялі, сабралі нейкія грошы ды выкупілі Каленікаву хату – яна ўжо некалькі год пуставала. Потым нашыя мясцовыя хлопцы-камерсанты дапамаглі і хату пад царкву перарабілі, нават звон аднекуль прывезлі, а бабы ікон сабралі, яшчэ таго-сяго. Цяпер іншы раз святар прыязджае, службы вядзе. Яно і нядрэнна: раней нават яйка тое пасвянціць і то трэба было ў горад плесціся, а цяпер усё на месцы.

– Зразумела.

– А ведаеш, хто званаром там? – дзядзька ўсміхнуўся. – Век не здагадаешся – Іван Макараў. Усё жыццё камуністам быў, у калгасе парторгам рабіў, ганьбіў з трыбуны вернікаў, а цяпер сам паклоны б’е перад іконаю. Во як веру змяніў.

– У жыцці ўсяляк бывае.

– Што там бывае, – дзядзька скрывіўся. – Усе начальнікі цяпер са свечкамі стаяць – паказваюць, што яны бліжэй да народа. Ведаем мы, як яны бліжэй сталі, нічога не змянілася і ў наш час: да Бога высока, да цара далёка.

Вярнулася з фермы маці.

– Во, Галя, ты ў час прыйшла – мы тут з пляменнікам думаем, што за свята не пашкодзіць і прапусціць па кілішку. Так, плямяш?

– Ат, не дуры галавы, – адмахнулася маці.

– Не, я, мабыць, пайду ў лес, грыбоў пашукаю, – адмовіўся і Юрка.

– Якія грыбы, сынок, спякота стаяла, а дажджу даўнавата не было. Адпачні лепш, паляжы.

– Нічога, прыйдзе Ілля – наробіць гнілля, – зазначыў дзядзька.

– Не будзе дажджу – сама чула, як па тэлевізары казалі, – не пагадзілася маці.

– А я кажу, будзе. Ты, Юрка, схадзі за Гарэлае, недзе там мая Маня заўчора кошык лісічак назбірала.

У хуткім часе Юрка з кошыкам крочыў ужо за вёскаю ўбок Гарэлага – так называўся ладны кавалак лесу за кіламетры два-тры ад вёскі, які даўно, гадоў дваццаць таму, выгарэў ушчэнт. Вёску тады завалакло дымам ад пажару, і яны, падшыванцы, бегалі глядзець, як тушаць лес. Лета стаяла спякотнае, полымя гуло, шугала высока ўверх, навокал трашчала, вецер раздзьмухваў агонь. Вялізны трактар цягнуў плуг, пакідаючы за сабой шырокую баразну, а некалькі пажарных машын з брандспойтаў залівалі агонь. Сяк-так да вечара полымя ўтаймавалі, і толькі чорныя абгарэлыя

дзеравіны жудаснымі ценямі нагадвалі пра здарэнне. Усе гарэлыя дзеравіны паціху расцягнулі, але лес там чамусьці не пасадзілі. З цягам часу на гэтым месцы разросся малiннік, разнатраўе ўкрыла чарнату, летам там усё буяла, але назва прыжылася. За Гарэлым ішлі змешаныя лясы, і грыбоў раней у іх хапала. З дзяцінства Юрка ўпадабаў грыбныя набегі. Калі надаваўся вольны час, браў кошык і – у лес. Ён любіў няспешна хадзіць паміж векавых елак, пастаяць пад шапаткімі бярозкамі, прайсціся па асінніку, заглянуць у свае патаемныя куточкі, дзе яго чакалі тугія крамяныя баравічкі. Менавіта там, у час грыбных паходаў, у яго сталі нараджацца першыя вершы. Цяпер, канечне, грыбоў асабліва не збярэш: горад блізка, ледзь не ў кожнага машына, і калі не падняцца яшчэ на досвітку, то можаш і ўвогуле нічога не прынесці. Але сёння Юрку хацелася проста прайсціся, пабыць сам-насам, развеяцца, падумаць. Думкі зноў засвідравалі галаву. Але ж, бадай што, дурань ён, пагарачыўся і махнуў на сябе рукою. Можа, не так усё страшна і лепш паехаць назад, у Мінск, бо на самой справе хвароба не запушчаная, абыдзецца хіміяй і ўсё будзе добра. І сапраўды, чаму ён разбабіўся, сарваўся, як быццам ён ні на што не варты. Не, нельга здавацца, у яго яшчэ малады, моцны арганізм і павінен справіцца з хваробаю. Ён раптам узгадаў Валю, і ў грудзях прыемна заныла ад думкі пра яе: якая прыгожая дзяўчына вырасла, хто б мог падумаць.

Хвілінаў з дзесяць не траплялася нічога, нават мухамораў. Але калі зайшоў у нізінку, парослую асіннічкам, то адразу знайшоў некалькі абабкаў, а пасля яшчэ і чатыры тугія – аж прыемна ў рукі ўзяць – падасінавікі. Пахадзіўшы па сваіх мясцінках недзе каля дзвюх-трох гадзінаў, назбіраў амаль цэлы кошык: былі там і лісічкі, і баравічкі, але найбольш абабкаў і падасінавікаў. Узбадзёраны, Юрка павярнуў дахаты. Кошык прыемна адцягваў руку, ды і настрой неяк палепшыўся. На вуліцы сустрэлася некалькі вяскоўцаў, ён з кожным павітаўся. Так, гэта не горад, тут усе адзін з адным вітаюцца, прыемна вось так сказаць кожнаму: «Добры дзень», а табе таксама пажадаюць здароўя. Вось насустрач ідзе нейкі незнаёмы хлопчык, год дзесяці. Павітаўся, чамусьці спыніўся, уважліва гледзячы на яго.

– Дзядзя, а я вас ведаю.

– Ну, – здзівіўся Юрка, – адкуль жа ты мяне ведаеш?

– А я бачыў у школьнай біблітэцы вашу кнігу з вершамі, на ёй ваша фота. Там і пазнаў вас.

– Вось як, – Юрка падышоў бліжэй да хлопчыка. – А ці спадабаліся табе вершы?

– Не-а, – упэўнена адказаў малы, – я іх не чытаў, бо не люблю вершаў. Мне больш падабаецца пра Рабінзона Круза, пра піратаў.

– Значыць, не любіш, – засмяяўся Юрка. – Нічога, брат, проста ты яшчэ не дарос да вершаў, але гэта не бяда. А вось кнігі чытай, малайчына. Ну, трымай краба, пірат.

Ён пацiснуў малому руку і, усміхаючыся, пакрочыў дахаты. Перабраўшы і памыўшы грыбы, аддаў іх маці, а сам выйшаў на вуліцу. Па дарозе, гучна гамонячы і выбухаючы смехам, прайшла купка падлеткаў. Яны зніклі і зноў стала ціха. Яснае зранку неба пакрысе зацягнула лёгкімі белаватымі хмаркамі, сонечнае святло паблякла, але не паказвала пакуль на дождж. Цішыня непрывычна рэзала вуха. Зусім нядаўна марыў там, у горадзе, пра цішыню, пра тое, каб схадзіць па грыбы і пасядзець пад вішняю. І вось мара збылася. Шкада, што пры такіх абставінах. Ат, не трэба самога сябе

напружваць. Паправіць плот і страху, зробіць яшчэ што і тады – у горад. Ігар дапаможа. Эх, малайчына Ігар – не знайсці больш лепшага і надзейнага сябра. Раптам ён пачуў крык на вуліцы. Юрка падняўся і выглянуў з двара. Каля сваёй бліскучай прыгожай машыны круціўся раззлаваны Вася Пузынкоў і гучна лаяўся:

– Ну, шантрапа, усіх знайду і морды паразбіваю.

Далей пасыпаліся мацюкі і пагрозы невядомай «шантрапе».

– Вася, што здарылася? – гукнуў яму Юрка.

– Ды шпана мясцовая, басота гэтая, ішлі тут і падрапалі крыло на машыне. Дзве свежыя драпіны зрабілі. Ну відаць жа, што наўмысна. Рукі паадкручваю гэтай свалаце, – лаяўся былы аднакласнік.

Да Васі выйшла жонка, агледзела машыну і буркнула:

– Я ж табе казала – загані машыну ў двор, а ты паленаваўся. Сам вінаваты.

– Ды заткніся ты...

Вася зноў брудна вылаяўся – цяпер ужо на жонку. Тая залемантавала:

– Ідыёт, у цябе заўсёды нехта вінаваты. Яшчэ і мяне крыеш. Божа, дзе мае вочы былі, калі я за цябе пайшла. Мама, вы чулі, як ён на мяне сказаў?

Юрку стала няёмка, што міжволі слухае сямейную сварку, і ён падаўся назад пад вішню. Закурыў, пусціў у неба дым. Яму прыгадалася, як учора каля веснічак стаяла Валя – такая ціхая, прыгожая і сарамлівая. І злавіў сябе на думцы, што за ўчарашні і сённяшні дзень прыгадаў яе не адзін раз. З чаго б гэта, Юрка?

Надвячорак непрыкметна апускаўся на вёску. Ад сонца застаўся бледны цень, а ў паветры павісла адчуванне блізкай ночы і напружаная цішыня.

## 8.

Сядзець перад тэлевізарам зусім не хацелася. І Юрка вырашыў схадзіць у вясковы клуб: улетку моладзі на вёсцы больш, магчыма, сустрэне каго з аднакласнікаў. Не хацеў сабе прызнавацца, але ў падсвядомасці сядзела яшчэ адна думка: мо Валя туды прыйдзе. Ды і маці сказала яму:

– Схадзі, сынку, пагуляй, што ты будзеш са мною, старою, сядзець у хаце. Я нешта стамілася сёння, зараз і спаць лягу.

Памыўшыся і глянуўшы на сябе ў люстэрка, ён рушыў на вуліцу. На небе сям-там запаліліся рэдкія зоркі. Да яго данесліся гукі музыкі. Моладзь, пэўна, ужо ваўсю танчыць пад папсовыя шлягеры. Клуб, пабудаваны недзе гадоў сорак таму назад, захаваўся няблага, адно толькі атынкаваныя сцены дзе-нідзе аблупіліся ды пачарнеў крыты пафарбаванаю бляхаю дах. Раней тут паказвалі кінафільмы, бо ў клубе маецца кіназал недзе на сотню месцаў. У свой час Юрка бегаў сюды з аднакласнікамі, тут за вуглом крадком вучыліся курыць, там жа ўпершыню паспрабаваў гарэлку. Цяпер моладзі ў вёсцы паменела, але клуб застаўся адзіным месцам, дзе можна было сабрацца, таму ў выхадныя будынак ажываў. На цэментаваным ганку пад трыма высокімі калонамі курылі некалькі хлопцаў. З іх Юрка пазнаў толькі аднаго – малодшага на пяць гадоў Колю Баранчыкава, які жыў у райцэнтры, дзе працаваў шафёрам на “хуткай дапамозе”. Юрка павітаўся з усімі за руку і ўвайшоў у клуб. У ноздры ўдарыла пахам тытуню, бо курылі тут усе, хто хацеў, і сівы дым вісеў у паветры. У прасторнай зале пад рытмічную музыку хісталася дзясятка паўтара юнакоў і дзяўчат

школьнага ўзросту, на драўляных лаўках з адкіднымі сядзеннямі за імі назірала яшчэ столькі ж гледачоў. Ні Валі, ні кагосьці са знаёмых ён тут не ўбачыў. Сядзець у накураным памяшканні ці танчыць з падлеткамі не было аніякага жадання. Крыху расчараваны, Юрка вырашыў зазірнуць у бібліятэку, уваход у якую быў з залы. Тым больш, што загадвала бібліятэкай яго былая аднакласніца Света Збароўская, а з ёю можна хоць пагаварыць. Света вучылася слабавата, але была вострая на язык. Скончыла школу і амаль адразу выскачыла замуж за маладога агранома, які прыехаў у іхнюю вёску. Пасля гэтага нарадзіла дачку і сына, завочна скончыла тэхнікум і вось працуе ў біблятэцы. Юрка пацягнуў дзверы на сябе – і сэрца страпянулася. За сталом разам са Светай сядзела і Валя.

– Прывітанне, дзяўчаты, – бадзёра гукнуў ён, – сумуеце без чытачоў?

– Ой, Юрась, прывітанне. Даўно цябе не бачыла, – усміхнулася Света.

– Прывітанне, Юрка, – ціха адказала Валя і нечага збянтэжылася, пачырванела, ад чаго стала яшчэ больш прывабнай.

– Расказвай Света, што новага ў нас, – Юрка падсунуў крэсла, сеў каля дзяўчат.

– Ай, адчапіся, – уздыхнула Света, – штодзень адно і тое: гаспадарка, дзеці, агарод... Вось учора Алеся мая запатрабавала новы тэлефон да дня нараджэння. Дакупіся, сам ведаеш, якая ў мяне зарплата.

– Колькі, дарэчы, тваёй?

– Ды дванаццаць ужо. А ты, я чула, развёўся?

– Так.

– Нічога, цяпер ледзь не палова шлюбаў распадаецца. Да таго ж дзяўчат незамужніх хапае – знойдзеш. Вось вазьмі, напрыклад, нашу Валю – прыгажуня, разумніца, а мужа пакуль не мае.

– Света, не пляці абы-чаго, – умольна глянула на яе Валя.

– А што, я не так кажу? Што ж паробіш, як няму на вёсцы нармальных мужыкоў: яны больш у чарку заглядаюць, чым на дзяўчат. І ў бібліятэку нікога з дзяцей не загнаць, усе сядзяць у кампутарах ці ў тэлевізарах.

– Як табе, Валя, працуецца ў школе? – спытаў Юрка.

– Нармальна, дзеці як дзеці.

– А я цябе, дарэчы, не пазнаў тады, як ты каля нас праходзіла.

– Што, пастарэла?

– Ды не, наадварот, папрыгажэла.

– Дзякуй за камплімент, – усміхнулася Валя.

– Які камплімент? Я праўду кажу.

– Во-во, і я кажу, – умяшалася Света, – дзяўчына хоць куды.

У гэты час з залы данесліся нечыя воклічы, свіст. Музыка, якая было прыціхла, загучала з новай сілай.

– Што гэта? – здзівіўся Юрка.

– А-а, кампанія падцягнулася, – патлумачыла Света. – Сёння Якімовіч, загадчык амбулаторыі, юбілей святкуе. Сабраў у нашым мясцовым бары з паўсотні чалавек. Вось з'явіліся патанчыць. А вы чаго седзіце – хадзіце, пагуляйце.

– І сапраўды, Валя, пайшлі, – Юрка падняўся.

Валя ўстала, стараючыся не глядзець на яго, моўчкі пайшла наперад.

У зале стала цесна. Юрка з Валяю нейкі час пастаялі, неўзабаве загучала павольная музыка. Юрка працягнуў руку Валі, яна наблізілася да яго. Ад дзяўчыны ледзь улоўна пахла парфумай, а сама яна прытулілася

да яго, адкрыўшы тонкую прыгожую шыю, пакатыя загарэлыя плечы. Юрка злавіў сябе на думцы, што яму нясцерпна хочацца цалаваць і гэтую шыю, і плечы, увесь мілы і прыгожы твар – усё асыпаць пацалункамі. Ад такой думкі яго кінула ў жар. Як нешта адчуўшы, Валя падняла галаву, на імгненне глянула яму ў вочы і папрасіла:

– Давай выйдзем. Не хочацца мне таптацца ў гэтым тлуме.

Яны выйшлі на ганак.

– Куды пойдзем?

– Не ведаю, пайшлі проста па вуліцы, – ціха адказала дзяўчына.

Юрка нечага саромеўся, нібы вучань-старшакласнік на першым спатканні, не ведаў, як сябе паводзіць. Таму ён узяў Валю за руку. Нейкі час яны ішлі моўчкі. Ліхтары на вуліцы гарэлі рэдка, праз два-тры слупы, і тады цемра накрывала яго з Валяю амаль цалкам. Рэдкія зоркі скупа падсвечвалі шлях, але Юрка радаваўся гэтаму: ён баяўся, што дзяўчына заўважыць яго хваляванне. Валя першай парушыла маўчанне:

– А табе як жывецца ў Мінску?

Юрка хацеў адказаць звыклае: нармальна, жыву, працую, як і ўсе. І раптам зразумеў, што не хоча казаць банальшчыну, не хоча хлусіць, што ў яго ўсё добра.

– Ведаеш, цяжкавата. Бо я там – адзін, сам па сабе, няма блізкага чалавека, калі не лічыць Ігара, майго сябра. Ды і жылля свайго не маю, а зарплата таксама не такая, як хацелася б, аліменты плачу. Не, не падумай, што я вырашыў паплакацца. Многім таксама не салодка, не мне аднаму. Калі адным словам, то шчаслівым сябе не адчуваю.

Памаўчаўшы, ён з горыччу дадаў:

– А ведаеш, чаму? Няма ў мяне таго, што ёсць у многіх – добрай сям'і.

І, блытаючы словы, спяшаючыся, ён стаў гаварыць, быццам баяўся, што не паспее ўсё расказаць: пра сваё няўдалае каханне і разбітую сям'ю, пра адзіноту і разгубленасць, пра тое, што страціў веру ў заўтрашні дзень. Адно толькі не сказаў – пра свой дыягназ. Яны паціху ішлі па вуліцы, дзяўчына маўчала і слухала. Калі скончыў, спыніліся бліз яе хаты. Загаварыла Валя:

– Я нікому ніколі не казала пра свае пачуцці, пра іх ведае толькі мой дзённік. Сёння, здаецца, прыйшоў час расказаць. Каб не сённяшняя сустрэча, хутчэй за ўсё мая таямніца засталася б са мною. Вось ты мне сёння выказаўся, і я шмат даведалася пра цябе. Дзіўна, але ты амаль такі, якім я цябе ўяўляла. Я закахалася ў цябе, калі ты быў у дзясятым класе, але ты, канечне, не заўважаў мяне. Хто я тады была, я разумею – горкае дзяўчо, падлетак, але сэрца маё пакутавала ад таго, што ты мяне не заўважаў. Потым ты з'ехаў, я лічыла, назаўсёды. Пасля ажаніўся. А я плакала начамі, бо ведала, што ты ніколі не пакахаеш мяне. Да мяне заляцаліся хлопцы ў інстытуце, але я не магла перасіліць сябе. Таму ў мяне так ніхто і не з'явіўся. За гэтыя некалькі гадоў, што працую ў школе, боль паціху адышоў, я звыклася. А як цябе ўбачыла, зноў стала так балюча – ты не ўяўляеш. Толькі я разумею – сэрцу не загадаеш. Прабач, што я табе гэта ўсё расказала. Проста твая шчырасць так падзейнічала і на мяне. Прабач, Юрка. Бывай, я пайду.

Валя вызваліла руку, павярнулася. Юрка скалануўся. Так, толькі цяпер ён зразумеў, што пакахаў Валю, па-сапраўднаму пакахаў. Але ж ён хворы, і невядома чым яно ўсё скончыцца. Дык што, адмовіцца ад свайго шчасця, калі яно перад табою? Не, і яшчэ раз не. Лепш тады ўжо і не жыць.

– Пачакай, – ён схапіў дзяўчыну за руку. – Пачакай, Валя. Ты можаш не верыць мне, але выслухай. Я сёння пайшоў у клуб толькі дзеля таго, каб убачыць цябе. З таго моманту, з той хвіліны, як ты з'явілася каля нашых веснічак, я толькі і ўспамінаю цябе. Спачатку не разумеў: з чаго б гэта? Бо пасля Светы мяне зусім не цягнула да жанчын, нікога не хацеў бачыць. І вось сёння да мяне дайшло: я закахаўся. У цябе. Можаш не верыць, толькі не пакідай мяне, прашу. Я кахаю цябе, Валя.

Валя вызваліла руку, нейкае імгненне пастаяла, нібы не верачы яго словам, і абняла Юрку.

– Мой любы, няўжо гэта праўда. Ты не хлусіш?

– Не, я кахаю цябе, як нікога і ніколі. Тое маё першае каханне было нейкім дурным сном – сляпым, несапраўдным. А цяпер у мяне ёсць ты.

Яна знайшла яго вусны. Юрка замёр ад шчасця. Колькі яны прастаялі – невядома, але ідылію парушыў дождж. Спачатку некалькі кропель звалілася на іх, затым яшчэ, потым зашапацела лісце на дрэвах, дыхнула навальнічнай свежасцю і неўзабаве па іх сцебанулі касыя струмяні.

– Бяжым! – Валя радасна засмяялася і схапіла яго за руку. – Бяжым да нас на сена, а то вымакнем.

Ціха рыпнулі веснічкі. Услед ім блісканула маланка, а за ёю пагрозліва завуркацела. Дождж набіраў моцы.

## 9.

Навальніца прайшла. Яшчэ паціху цурбанілі па шыферы важкія кроплі, яшчэ недзе далёка раскацiста пагрымвала, але ўсё навокал заціхала, супакойвалася і ўваходзіла ў свой звыклы лад. Юрка ляжаў, адкінуўшыся на спіну. Жарсць прайшла, пасля блізасці свядомасць крыху затуманілася, цела акутала прыемная лёгкасць і млявасць. А сэрца пакутвала: што ён нарабіў? Прызнаўся Валі ў каханні, дайшло да інтыму, абнадзеіў яе... Што цяпер рабіць, як сказаць дзяўчыне, якая так аддана прытулілася да яго, пра свой дыягназ? Валя раптам ціха прадэкламавала:

Вось я іду, сягаю морам,
а бачу вёску і сады,
дзе спяваў далёкім зорам,
што каханне – я і ты.

– Ты ведаеш мае вершы? – Юрка прыўзняўся. – Чытала мяне?

– А як жа, і не адзін раз, – дзяўчына павярнулася да яго, абняла і моцна прыціснулася. – Я папрасіла, каб мне купілі тваю кнігу ў Мінску, чытала вечарамі, уяўляла нас разам, хоць не верыла, што такое магчыма. І вось збылося – мы разам, ты мяне кахаеш. Божа, якая я шчаслівая!

Юрка ў роспачы апусціўся на сена: за што яму такое пакаранне? Не, маўчаць нельга, нельга ўсё пачынаць з маны. Раскажа, як ёсць, а яна хай вырашае.

– Валя, ведаеш, мне трэба сказаць табе адну рэч. У мяне нядаўна знайшлі рак. Прабач, што не сказаў адразу. Прабач.

Дзяўчына адарвалася ад яго, села. У цемры ён не бачыў яе твару, але адчуваў, як яна напружылася.

– Ты гэта сказаў толькі дзеля таго, каб мяне пакінуць? – яе голас гучаў на дзіва спакойна.

– Валя, што ты, як ты магла такое падумаць? Дурненькая. Я, як ніколі, хачу жыць. Жыць з табою разам, разумееш?

Думаючы, што яна не зразумее яго, Юрка пераказаў падзеі апошніх дзён.

– А я падумала, ты ўсё нагаварыў толькі дзеля таго, каб пераспаць са мною, а потым у кусты. Не, мой любы, мы з табою пераможам хваробу. Мы паедзем у Мінск, знойдзем лепшых дактароў. У мяне ёсць крыху грошай, я ўсё аддам. Я буду сядзець каля твайго ложка дзень і ноч, колькі спатрэбіцца, усё зраблю, каб ты паправіўся. Ты абавязкова выздаравееш. Інакш быць не можа, бо я цябе толькі знайшла. І прыкмета добрая: на наша першае спатканне, на свята, дождж пайшоў – значыць, усё будзе добра. Ты верыш мне?

Расчулены, ён моўчкі абняў дзяўчыну, і яны зліліся ў доўгім пацалунку, а потым пачуццё зноў авалодала імі, распаліла целы новай жарсцю. Не, ніколі і ні з кім яму не было так хораша. Якое шчасце, што яны сустрэліся. Ледзь улоўны пробліск першых промняў асвяціў іхнія твары. Прыпухлыя ад пацалункаў Валіны вусны шчасліва ўсміхаліся. Юрка адзеўся і сеў.

– Пойдзем?

– Так. А што далей?

– Ты ж казала – усё будзе добра. Ты паедзеш і звольнішся з працы, я паеду ў Мінск, здыму кватэру, пастараюся знайсці працу для цябе. А як вярнуся – пададзім заяву ў сельсавет, распішамся. Можам і вяселле згуляць тут, у вёсцы. Ты ж згодная пайсці за мяне?

Валя засмяялася, абняла яго і моцна пацалавала. Яны выйшлі з хлява. Новы дзень абяцаў быць пагодлівым і ясным. Абмытыя дажджом, зіхацелі яркімі кроплямі кусты парэчак, падняў жаўтлявыя галовы сланечнік, падавалі першыя галасы раннія птушкі. Надзеяй поўнілася паветра.

– Да пабачэння, любы.

– Да пабачэння.

Яны яшчэ доўга цалаваліся, нарэшце Валя выслізнула з яго абдымкаў, пайшла ў хату, вярнулася, зноў пацалавала і, радасна ўсміхнуўшыся, пабегла да дзвярэй. Юрка, нейкі час пастаяўшы, пакрочыў дахаты. Так, усё будзе добра, ён будзе жыць. Ён павінен жыць – дзеля яе, дзеля сябе.

## Эпілог

Юрка паспаў толькі дзве ці тры гадзіны: хацеў зрабіць як мага больш. Трэба скончыць усё, што запланаваў, і хутчэй у Мінск. Цяпер у яго столькі пытанняў, якія трэба неадкладна вырашаць, цяпер ёсць сэнс у жыцці, бо ў яго – Валя. Таму ён хуценька паснедаў, узяў сякеру і рыдлёўку, рушыў да апошніх пралётаў, якія павінен, кроў з носу, сёння скончыць. Толькі ўзяўся за працу, як да хаты пад'ехалі зялёныя «Жыгулі». З машыны выйшаў Васіль Атаповіч – старшыня сельсавета, мажны, высокі і гаваркі мужчына год пяцідзесяці.

– Здароў, Юрка.

– Добры дзень, Васіль Уладзіміравіч.

– Дык вось, значыць, ты куды схаваўся.

Юрка з непаразуменнем паглядзеў на яго.

– Што ж ты, Юры Аляксандравіч, збег і не паведаміў свайму сябру, а той цябе шукае. Ён мне з раніцы ўсе тэлефоны абарваў: ці ў вёсцы ты? Я кажу – не ведаю, пагляджу. Ажно ты сапраўды тут.

– А-а, гэта, – Юрка ўсміхнуўся. – Проста тэлефон пакінуў у Мінску.

– Бяры мой. Сябар твой прасіў, каб ты тэрмінова патэлефанаваў яму, – Атаповіч працягнуў мабільны тэлефон.

Юрка набраў нумар. Ігар падняў адразу ж:

– Ты!? Дзе ты знік, га?

– Нікуды я не знікаў – паехаў у вёску, вырашыў зрабіць маці ўсё, што раней хацеў. Спяшаўся і забыў тэлефон у пакоі.

– Ты каму гэта расказваеш, Стаўбурок хрэнаў? А то я цябе не ведаю. Набраў недзе да галавы і рынуўся, куды вочы глядзяць. Я цябе знайсці не магу – тэлефон не адказвае, рэдактар не ведае, чаму ты ўзяў тыднёвы водпуск, у інтэрнаце цябе няма. Я ўжо не ведаю, што думаць. І круціцца ў галаве: во, сказаў сябру навіну, давёў да самагубства.

– Ды не, Ігар, не хвалюйся, ўсё нармальна. Нават больш – я жаніцца сабраўся.

– Што?!

– Так, потым раскажу.

– Гэта я табе, дурню, раскажу. Мне з раніцы патэлефанаваў Сяргей Аляксандравіч і паведаміў, што памылка выйшла. Аказваецца, да іх яшчэ адзін пацыент звяртаўся, твой двайнік. Уяўляеш? Прозвішча, як у цябе, звацц Юры Аляксандравіч, супадае дата нараджэння, толькі адрасы розныя. Гэта ў таго небаракі падазрэнне на рак, а ў цябе ўсяго толькі гастрыт – і ўсё. Таму вашы аналізы паблыталі. Ты здаровы, як конь, разумееш гэта, Стаўбурок хрэнаў?

– Разумею. Дзякую, Ігар. Усё, прыеду – убачымся, пагаворым.

Юрка аддаў тэлефон старшыні і засмяяўся.

– Ты чаго, Юрка? – Атаповіч утаропіўся ў яго.

– Ён кажа – Стаўбурок, разумееце? Стаўбурок хрэнаў.

І Юрка зноў засмяяўся. А над вёскаю падымаўся новы дзень. І хоць яшчэ не было аніякіх прыкметаў адыходзячага лета, яно відавочна ішло на спад. Каб даць месца восені, а тая зіме, зіма зменіцца вясною. І зноў прыйдзе лета, запяе套рознымі галасамі, закувае зязюляю, каб засведчыць – жыццё ідзе, жыццё працягваецца.

Васіль Макарэвіч



...А ў вёсцы
кожны двор датуль жывы,
Пакуль у ім карэнні спрэс –
Жывыя!...

# Матчын двор

***Паэма***

Вясёлы страх,
Нямы перапалох, –
Ледзь у варотцы торкнецца дарога,
Як з чатырох руды чартапалох,
Нібыта дог, кідаецца
Пад ногі.

Куды ні глянь, –
Быльнёг і шэры друз!
Кусты парэчкі ссохлі і звяліся.
Двор так падобны на былы Саюз,
Што неўспадзеўку ўзяў
І – разваліўся!

Здаецца, смерч
Рвануўся ды прайшоў
З імклівым ператрусам-перадзелам.

Не бачна пяцісценак-спарышоў –
На іх занадта вёска
Парадзела.

На месцы тым,
Дзе рохкалі двары,
Самоціцца тут граб, а там рабіна.
Не селішча – пустыр на пустыры,
Вялізная шчарбіна
Ля шчарбіны.

Узварухнецца
Быльнік ды асот,
І з гушчару рыўком і без аглядкі
З жаўтлявымі вачамі скокне кот
Ці вылеціць з кудахтаннем
Хахлатка.

Хто толькі вёску
З века ў век не гнёў,
Які пярун над галавой не бухаў!
Жыла здавён, як паміж двух агнёў,
Між голадам і рэзруха
Абухам.

Гядзеў вядзьмак,
Каб скуры тры злупіць.
Гразіўся, што, мажліва, будзе горай.
Ды, дзякуй Богу,
матчын двор ліпіць,
Падпёршыся жардзінай,
Як падпорай.

Двор сустракаў
І частаваў гасцей,
З гармонікам па святах
верхаводзіў.
І ў спадчыну адвечна да дзяцей
Надзейна з рук у рукі
Пераходзіў.

А быў штогод
Трывушчы, бы кубёл,
Тачыў сякеру і касу мянташыў,
Вакол сябе смалісты частакол
Падціснуўшы надзейным
Пантранташам.

Стары мядзведзь –
Спрадвечны корч карчом –
Няўклюдны ды сабою нехуцавы,
Як на штыкет не налягаў плячом,
Яго скрануць не мог
Ані на цалю.

Вуглом будынкі
Шчыльна да вугла
Так прыкіпелі заадно з падрубай,
Што паміж імі птушка не магла
Убіць адразу нават кончык
Дзюбы.

Гуў, як тартак,
Ад рання матчын двор.
І бусел з белай
на грудзях манішкай
Нёс у гняздзе на сотні вёрст дазор,
Ваколле пільна аглядаў,
Як з вышкі.

Ды бачыў,
Як вужышча ланцуга,
Чапляючыся за вядро, то рэхву,
Сабака з гулкім бразгатам цягаў,
Заходзіўся аж на паўвёскі
Брэхам.

Ўзляталі куры
На платы кругом
І моўкла за градой нара кратова.
Нібыта ляскаў не ланцуг, а гром,
І развярнуць калодзеж
Быў гатовы.

Пра гэты кут,
Дзе жабы верашчаць,
Ніхто не мог сказаць,
што захалусце.
А каб чужым капрызам дагаджаць –
Падворак палічыў бы
За халуйства.

Пад стрэшкаю
З пажарніцкім багром,
Без таннай зухаватасці прытворнай,
Ад прэку-веку двор стаяў дваром,

Гаспадароў ён меў,
А не прыдворных.

Ва ўпрэжцы
Не хадзіў ён з кабалой
Ні ўкатаным гасцінцам,
ані грэбляй.
Там, дзе з пілою трэба – ён з пілой,
А дзе са спрытным гэблем,
Там ён – з гэблем!

Не ўмеў убок
Дакорліваківаць,
Бо ён спрадвек натуру ўзяў такую:
Кума папросіць серп адштукаваць,
Не серп, а дзіва з дзіў
Ён адштукуе!

Цэп – дзецюкам,
А для дзяцей свісток, –
Здаецца, вечна чымсьці быў заняты.
На доле цвёрдым, як гліняны ток,
З калосся летам выбіваў
Зярняты.

На радасць
І на зайздрасць дзетвары
Дажджы вадзілі дружна карагоды.
Няспешна праставалі па двары,
Пабраўшыся за рукі,
Поры года.

Нам дзіва з дзіў
Падайце пры жыцці,
Дарма што кожны ўжо сівабароды.
Завіўкі вольхам лістапад жаўціў
Без вокісу з дабаўкай
Вадарода.

У небе вецер
Хмары скалане –
Сыпне густое пер’е, бы з прарэхі.
Снягоў не меней, чым на Калыме,
Што лезлі дружна гурбамі
Пад стрэхі.

Быў у зімы
Расклад і каляндар –
Цераз масты прамёрзлыя і кладкі
У двор княгіняй мчала каляда,
А ўслед за ёй князёўнамі
Калядкі.

Быў двор лядком,
Чысцейшым ад слюды,
Абліты апасля імжы дарэшты.
На ім сігалі наўскасяк сляды, –
Бы з бачмакоў садраныя
Падэшвы.

Ляжаў сумёт
Пад плотам, як бярлог.
Снягі вашчыў марозны звонкі полаз.
А сцежкі – дочкі трактаў і дарог –
Двара са светам мацавалі
Повязь.

Турбота ў іх
З дваром была адна –
На плечы ношку важкую падайце!
Сцяжынкі беглі памагаць штодня
Сямейным шчырунам
Па гаспадарцы.

З парога ў двор
Зляцеўшы нацямку,
Сцяжына праставала
ўгрунь да пунькі.
Ды там з-пад жорнаў сеяла муку,
Як жарты колісь Штэпсель
З Тарапунькам.

І, ўправіўшыся
З зернем і з мукой,
Руды падол падторкнуўшы таропка,
Корм-тоўчанку для сытых япрукоў
Яна ў бахілах несла
Ці ў атопках.

А ў дзень святы,
Калі не моўк цвыркун,
За печчу цёплай цвыркаў, як і трэба,
З матуляй выпраўлялася ў царкву,
Што пераразвонам аж гайдала
Неба.

Зваў да сябе
Ў мястэчка сельсавет
Здаралася, што вёў ён і падалей.
З двара сцяжына бегла ў белы свет,
І да прастольнай часам
Дападала.

Аксціўшыся
Не на адзін абраз,
Пакаяўшыся грэшніцай пакорна,
Вярталася на матчын двор штораз
З прасвіркаю і свечачкай
Царкоўнай.

Ледзь ранне
Паспявала ачуняць
Ад цішыні аглухлай і ззалелай,
А ўжо вароты трэба адчыняць
Не для бяды – для летняе
Залевы.

Паднебны
Засцілаючы прагал,
Гатовы рваць на каланчы жалеза,
Выкочваўся хмурын за валам вал,
Ішоў франтальна наўпрасцяк
З-за лесу.

Вясной на хмыз,
А часам і на рунь,
Як весялун і панябесны скептык,
Кувалдай грахкаў з-за пляча пярун,
Ламаў, бы шкло, нябёсы
На аскепкі.

І, як мятлою,
Змыўшы са двара
Труху асця
і з-пад фуганка стружку,
Чаўбохаў дождж знячэўку,
як з вядра,
Са стрэх цадзіўся ў цэбры
І кадушкі.

І смаглы дол,
Бы весялун-піток,
Хмурыну прагна піў,
як брагу з пенай.
А цераз двор вады грымеў паток,
На вуліцу імчаўся
Ва ўтрапенні.

І, развярнуўшы
Шэры дол наўскос, –
Хапала сілы яраснай і ўмення! –
Груды жарствы ў ахапку лёгка нёс,
Каціў-куляў гарбатае
Каменне.

А ўслед рыўком, –
Што толькі будзь здароў! –
Бы далакоп двужыльны зухаваты,
Ён рыў, здаецца, не ручво, а роў,
Куды маглі б і праваліцца
Хаты.

Спяшаў паток
Да смольнага ляска
Цераз прасцяг мурожнай абалоні.
І услед яму з-пад мокрага лістка
Употай зіркаў двор,
Як з-пад далоні.

Пасля дажджу
Па сценах гробся хмель,
Іх аплятаў, бы дротам, аж даверху.
Дні, як плыты, садзіліся на мель,
Нырнуўшы ў шэры дурнап'ян
Ды вэрхал.

Каб у двары
І дзесьці ля адрын,
Курэй не драў каршун
ці чорны воран,
Хадзіў ля частакола грозны дрын,
Ды паглядаў навокал ёмкі
Шворан.

Ішлі, плылі
За небасхіл гады,
Акрытыя радном,
а не шаўкамі.
Гляджу, а можа, матчыны сляды
Дзе-небудзь неўспадзеўку
Адшукаю?

Клён астарэлы –
Маўчуном маўчун –
Глядзіць, як мятлік
перад ім мільгае.
Калі было, што тут матулін чунь
Ступаў з крывой кавенькай
І кульгавай!

Вісіць міраж
Наводдаль, як радно,
Ды трызніць бліскавіцай і калоссем.
Ад матчыных слядоў даўным-даўно
Ў двары і знаку больш
Не засталося.

Ды каля шэрых
Высахлых лаўжоў,
Што перагноем сталіся з гадамі,
Абломак ад ставоў ці панажоў
Пра маці, як пра ткаллю,
Нагадае.

Яна чаўнок
Не выпускала з рук –
Любоў да кроснаў мелася такая! –
Кляновым бёрдам гучна –
стук ды грук! –
Сувояў кіламетры ўмела
Ткала.

А праз акно
Глядзеў, дзівіўся двор,
Узняўшы ўгору светлае надброўе,
Як ткаўся каля ўзора дзіўны ўзор,
Нібы сузор'е ў небе
Ля сузор'я.

І лебедзі
На люстраной вадзе,
І ясакары гуртам над ставамі,
Якіх не знойдзеш болей анідзе,
У поўны рост на кроснах
Уставалі.

Ды казачнай
І дзіўнай чарадой
На палатне у світачцы з'інелай
Пагойдвалася плойма чаратоў,
Пад вечаровым ветрыкам
Звінела.

Хадзілі,
Як не ходырам, ніты
І ўраз малюнкі то ліствой апалай,
То яркія, як майскія кветы,
На палатне выразна
Праступалі.

Вярба хавала
Коцікі ў рукаў.
Ігрушына дарыла квецень шчодра.
І не пазнаць, дзе свет дзівосы ткаў,
А дзе матуля – чаўнаком
І бёрдам.

І ўся акруга
Аж з-за сотні вёрст,
А мо з-за свету часам маладзіцы
Ішлі ў хаціну матчыну наўпрост,
Каб з кроснаў і сувояў
Падзівіцца.

Двор прадзімаў
Гісторыі скразняк,
І ходзячы ў паддзёўцы ці
падшэўцы,
Быў сярод дзвюх тарбін ён
серадняк,
А часам, як пашэнціць,
І лішэнцам.

Адно бадылле
Ўскрай трасло рыззём.
Яго ніхто не карчаваў, не нішчыў.
Таму ў глыбінях тлусты чарназём
Драў ды ірваў драпежна
Карнявшчам.

А побач куст
Вунь заламіў берэт,
Яго шпурне во-во, здаецца, вобзем.
Хто грушы з долу рупна падбярэ
Ды на кірмаш іх адвязе
На возе?

Там, дзе калісь
Ішоў лямеш круты,
Пасля ляжалі грады, як пярыны,
Зямлю і дол падземныя краты,
Бы плугам, узвярнулі
І парылі.

Кранеш – і рухне
Ўніз складанка дроў,
Аж дзесь пад лесам
адгукнецца рэха.
Відаць, не для сабак, а для вятроў
У частаколе зеўраюць
Прарэхі.

Няма тут больш
Рабіць каму патраў.
Чужы індык і той даўно нягеглы.
Не менш як сотні палыноў і траў
У матчын двор сышлося
І набегла!

Па ўзмежку,
Дзе хадзілі скразнякі,
З тарфянішча, што чадзіла-курэла,
Прыйшло наўпрост кустоўе ад ракі
У камізэльках сшэрхлых
І скрэлых.

Пасек мароз
Яго лісцё, бы шрот,
І сад здзічэў і стаў дарэшты голы.
Скруцілася, нібы калючы дрот,
Іржой каравай узялося
Голле.

Як апусцення
Недарэчны знак,
Патрэсканы ля ганку апалонік.
І з крапівой быльнёг,
нібы хмызняк,
Двор заглушыў, няўцямна
Запалоніў.

Закінуты
Кусціцца, як гаёк,
Абнюханы сто раз
суседскім догам.
І ўзяўся камнем ля камля гнаёк,
Нібы марксісцка-ленінская
Догма.

Зірні ў былое
Пільна з-пад рукі
Адсюль, дзе піў бярозавік з біклагі,
Быў двор шырэй за ўсе мацерыкі
І прыгажэй за ўсе
Архіпелагі.

Пад стрэшшу –
Цені цёмных кажаноў
Ды прывідны і страхавіты морак.
Няўжо дзеля мяне чуж-чужыной
З гадамі стаўся родны наш
Падворак?

Не раз стаўлялі
Лёс двара на кон,
Баяліся, каб хоць чаго не выйшла.
Жалезны меўся для людзей закон,
А дзеля ўлады быў ён
Нібы дышла.

Вазьмі яго
Хоць троху павярні –
І каля камняў шэрых галалобых
Калгасны працадзень, як вараны,
Слухмяна пойдзе і ў крывых
Аглоблях.

Дождж церусіў,
Ці скрозь зіма мяла,
Крычалася далёка чуйнай сойцы, –
А ў небе, як у німбе амяла,
Барвовае вісела зранку
Сонца.

Жыццё
Не перастала віраваць,
Шчапаць гады,
як плашкі на лучыну.
Што толькі можна
ўпотай уварваць, –
Суседзі да гасподы
Далучылі.

А з часам –
Хіба рупны ў шапку спіць? –
Гарод і тое-сёе ўжо з начыння
Паспелі ўпотай сквапна адхапіць,
Як быццам з тэрыторыі
Нічыйнай.

Дармовае,
Яно здалёк відаць,
Чужую дражніць і душу, і вока.
Хіба дабру дазволяць прападаць,
Калі тут кожны ў гэтай справе
Дока.

За тынам
З крапівою заадно
Ўзнялося, як лаза, цыбулі пер’е.
Двор меў, напэўна, залатое дно,
І сам гудзеў імперыяй
З імперый.

Любы шчырун
І з лайдакоў лайдак
Вам паклянецца –
толькі веры дайце! –
З гародам ён не меней, чым
Клондайк,
Адшчодрыць мог бясцэннага
Багацця.

Рака ў трысці,
З падсочкай гулкі бор
З памоўкай безнадзейнай –
тралі-валі –
Ў дзяржаўную казну
праз матчын двор
Чаго не везлі ўсцяж,
Не тралявалі.

Вярхі выдатна
Ведалі ў Крамлі,
Хоць двор з галечы
вылезці не ў стане,
Калі ж як след націснуць –
з-пад зямлі
Ён нават зорны Задыяк
Дастане!

Ланцуг падзей
Без краю і граніц
Крані і – столькі ён наробіць звону:
На кіламетры гулка загрыміць,
Да самага канца зазвоняць
Звёны.

Прабеглі дні
І ў вечнасць адыйшлі,
Пакінуўшы жарству
і дробны гравій.
Хоць ты вазьмі і ўслед ім адашлі
З падзякаю сыноўняй
Тэлеграму.

Ляціць у хату
Лісце праз акно,
Як цэтлікі пажоўклыя ці чэкі.
Гадзіннік на сцяне даўным-даўно
Сваё дарэшты адхадзіў,
Адчэкаў.

Ён быў штодня
Ў пашане і ў цане,
Час адбіваў зімой і сярод лета.
Дасюль у века на глухой сцяне
Бяльмом зіркатым засталася
Мета.

А на стале
Ні хлеба, ні куцці,
Без чапялы і качаргі – чалеснік.
Падлогаю хоць шарам пакаці,
Адно што па кутах сплывае
Плесня.

На харч яна
Прасіла смалякоў,
Карчэўя і з дрывотні аскалабкаў.
Была для ўсіх эпох і для вякоў
Карміцелькай і павівальнай
Бабкай.

Няўжо яна,
Скупеча са скупеч,
На прыпеку з балеяй
трыбухатай,
Як баба, раскапусцілася печ, –

Сабою заваліўшы вунь
Паўхаты.

Калісьці ў ёй
Раз’юшаны агонь,
Падобны на драпежніцкага тыгра,
Шугаў то дням, то годам
наўздагон,
Нібы з мартэна гулкага
Ці з тыгля.

І гул агню,
А часам і выццё,
Ірвалася, як з яміны бяздоннай,
Каб зліцца цераз век свой і жыццё
З заводскай печчу і пражорай
Домнай.

А полымя,
Чырвонае, бы медзь,
Як па жаданню д’ябла а ці мага,
Варочалася цяжка, бы мядзведзь,
Кіпела, як расплаўленая
Магма.

Агонь звярэў, –
Кармёжкай забяспеч!–
Трашчаў, бы жраў ён
порах а ці гліцу.
Яшчэ імгненне і, здаецца, печ
Разваліць ён няшчадна
Па цаглінцы!

Не прычакаўшы
Грамат, ні вянкоў,
І не прыняўшы
індульгенцый лжывых,
Ах, колькі іх, разбэрсаных вякоў,
Печ людзям дагаджала
І служыла!

А перад тым,
Як не сагрэць жытла
І скласці крылы,
нібы птушцы пеўчай,
Яна з цяплом свой гарт перадала
Мартэнаўскай задымленае
Печы.

Быў натуга
Завязаны вузлом,
І шыхтаваў без ласкі і спагады,
Між горадам гарластым і сялом,
Прынырай несусветнай
Хітры гандаль.

Ён з ірвачоў
Найпершы быў ірвач,
І мену вёў адкрытаю натурай:
Падводамі з двара – у горад харч,
А з горада – апошні бляск
Культуры.

Сучасны шык,
Як тарфяны кампост
Уперамежку з галівудскім дзівам, –
Партрэты прыгажунь на поўны рост,
У чым іх толькі маці
Нарадзіла.

Разбэшчанасць
І секс – з кітоў кіты –
З якіх сяло раней з пагардай кпіла,
На поўны рост амаль усе куты
Красуні ў хаце шчыльна
Абляпілі.

Пракуды,
Пэўна, ад усіх пракуд,
З распустаю заморскай маладзіцы.
Здаецца, ўвесь дарэшты Галівуд
Стараўся ў сельскіх хатах
Пасяліцца.

А ўслед сюды,
Дзе рос ды цвіў агрэст,
І пушчаю густой хвайняк рабіўся,
Драпежнікам ікластым лез прагрэс,
Наперад без аддухі
Церабіўся.

Не ведаў дзён
І не лічыў начэй,
Апекуном прыкінуўшыся свойскім,
Стараўся сцерці ўсе вуглы хутчэй,
І, неўпрыкмет, між горадам
І вёскай.

Аж гайдануўся
Побач гулкі бор –
Падсочаны, раздзеты і разуты –
Калі дыхнуў знячэўку
ў матчын двор
Саляркаю смуроднай
І мазутам.

Адзеўшы чортаў
З кліпсамі камзол,
Ды хвалячыся новым самакатам,
Замест гнайку заворваў у падзол
Прывезеныя з шахты
Хімікаты.

Насіў ён кепку
Ў смаглы сенакос,
То капялюш нацягваў, як вяльможа.
Хто знаў наперад, да якіх дзівос
Дадумацца-дайсці ён заўтра
Можа!

І як бамбіза
Кожны ў нас з бамбіз,
Што ўмеў каціць
па выбітай калейцы,
Паднесці мог ён дзеля ўсіх сюрпрыз
І неўспадзеўку выкінуць
Каленца.

Дол коламі
Мalolі цягачы, –
Ажно дрыжэў і енчыў
бор ставокі, –
Як нёс ён пад брызентам на плячы
Ракет глюгатых грозныя
Ўстаноўкі.

Для вёсак сталі
Болей, чым раднёй,
Калі пад кожным дрэвам,
як, наседку,
Іх пасадзілі ўпоплеч па адной,
Акрыўшы маскіровачнаю
Сеткай.

У сто кален
Сто ўдарыць салаўіх
Не песню, а сапраўдную канцону, –
Каля дарог і сцежак селавых,
Ракет глядзелі ў неба
Верацёны!

Ад кожнай з іх
У колькі тон вагой –
Была у тым і мелася патрэба! –
Велічынёю з чыгуначны вагон,
Хадзіла хадуном зямля
І неба.

І ў ранішнім
Дрыготкім халадку,
Пад голлем, што згіналі ўніз ранеты,
Пад матчынамі вокнамі ў садку,
Драмалі тыя ж самыя
Ракеты.

Глядзеў няўцямна
З-пад нябёсаў дзень,
Гатовы быў забухаць важкім градам.
Дзе ад ракет шторанку слаўся цень,
Там пустазелле заглушыла
Грады.

І з бояззю
Сачыла цішыня,
Як пакляваўшы
штосьці у доле глёўкім,
Уверх сігала з крыкам птушаня,
Каб капнуць срэбра
На боегалоўку.

І спуджана,
Ледзь перавёўшы дух,
Круцілі чуйна галавой радары.
Спрэс небасхілы мацалі наўкруг, –
Адкуль чакаць раптоўнага
Удару?!

З галін злятаў
За штамбам важкі штамб,
У травы гракаў, што расой намоклі.
І прыпадаў сцярожка
дзесь генштаб
Да чарцяжоў, дысплеяў
І манокляў.

Ці зналі там,
Што зноў сярод начы
Ім трэба будзе боўтацца,
бы ў пельцы, –
Ракет камлі з падзем'я валачы
На белы свет, як з бездані
Тапельцаў.

Хоць па-сабачы
Языком мянташ, –
Тут з радасцю, а там
адкрыта з жалем
Прайшоўся звышсакрэтны
дэмантаж,
Скруціў з ракет зарады,
Быццам джалы.

Які у края
Будзе лёс з жыццём?
Шчыт ядзерны!
Ці стане ён дзіравы?
Пад покрывам начы амаль
жыўцом
Ракеты, быццам пнеўе,
Выдзіралі.

Хадзіў у хатах
Хадуном франтон,
Ад чаду цягачоў усходы чэзлі.
Ах, колькі іх, магчыма, сотні тон
З ракетамі, агню і гневу,
Звезлі?!

Аж гнуўся
Ў тры пагібелі агрэст
Сярод аскепкаў, драбязы і хламу.
Наўпрост паўзлі дарогі і ў аб'езд,
Ствалы ракет схаваўшы
Пад чахламі.

І, сеўшы грозна
Ў гнёзды стромкіх шахт, –
Магчыма, ля Свярдлоўска
ці Разані
Змянілі хвойна-палявы ландшафт
На стэпы ці адгор'і
З маразамі.

Пад скіргат
Перамёрзлых палазоў,
А дзесьці пад матыў пявучы блюза,
Дзяўблі на дні не менш,
як сто разоў:
Расія – пераемніца
Саюза!

Дзе б перуны
Не моўклі у зямлі
Пад патаемным шыфрам
а ці кодам, –
Іх вырвалі, а ўслед і падмялі
Не толькі пыл, а нават
І куродым.

Ах колькі год
Адпела дый прайшло!
І колькі раз квітнела ў полі жыта!
Мо разышлося неўспадзеўку шво,
Якім падворак быў з дзяржавай
Сшыты?

Хаця дабро
Буяла ды цвіло,
Раскашавала і на градах тлустых,
Ды стала так, што сярод ніў сяло
Зрабілася адкроенаю
Лустай.

Няўжо знячэўку
Не магло прыбіць
Да берагу маўклівай нашй вёскі
Таго, хто мог бы спрэс перарабіць
Яе з любоўю сынавай,
Па-свойску?!

Былі удачы.
Быў якраз прагрэс.
Ды тыя больш круціліся калісьці,
Хто рукі прагнуў ля сяла пагрэць
Для ўласнага багацця
І карысці.

Душой шахцёр,
Характарам вудар,
Які вітаўся часам з бузацёрствам,
Знайшоўся ён аднойчы, гаспадар,

Да вёскі прыкіпеў, а не
Прыцёрся!

Вучыў сяльчан:
– Прывычна, едзь цішэй,
Хаця і будзеш ехаць на запятках!
А засмяецца – рот аж да вушэй,
І кузькіну уміг згадае
Матку.

Як майстара
Розных авантур-прыгод
Ён аб’явіў на цэлы свет, нябога.
Што цераз дваццаць, і не болей, год
Жыць будзем, як запазухай
Ў Бога.

І больш, відно,
Натурай браканьер,
Чым рэфарматар,
пляскаючы ў ладкі,
Рвануў ды ўзяў так з месца у кар’ер,
Не будаваў, больш кроіў
Без аглядкі.

Культ выкрываў –
Страхоцце сатаны –
Ды ідалаў каменных рушыў долу.
Пакуль не вылез кульцік з-за спіны
Уласнай і бяздумнае
Гадоўлі.

Ён мог узняць
Гармідар ці дэбош,
З трыбуны ў залу кідаць
гром за громам.
Няўжо не бачыў,
што ў рэформах больш
Зусім не абнаўлення,
А пагрому?!

Папаўшы
Ў дэмагогіі сіло,
Не саўладаўшы
з самалюбства кобрай,
Дашчэнту ледзь не развярнуў сяло,
Каб апасля пусціць па свеце
З торбай.

Лаўчыў, як чорт,
А можа, не лаўчыў
З энцыклікаю,
кніжкаю партыйнай.
Ды ўзяў і ўмомант вёску адлучыў,
Занёс яе ў графу неперс-
Пектыўных.

Спачатку ведаў,
Дзе капаць, дзе рыць,
І як зыначыць побыт заскурузлы.
Ну а пасля пачаў, вахлак, дурыць –
Узвёў у ранг святыні
Кукурузу.

Хто да вышынь
Нязнаных дападаў,
З агню адразу ў полымя траплялі.
Зрабі, што хочаш, а увосень дай
Дзеля яго не меней,
Як тры планы!

А – пахвала?
Яна не за гарой,
І ўзнагарода тут жа, ў хвілю тую:
Бяры на грудзі сам чапляй, герой,
Не проста ордэн – Зорку
Залатую!

Яшчэ хлусні
Ґусцелі чараты.
І не паўсюль
пакончылі з прымусам,
Ды выдаць пагалоўна пашпарты
Дзеля сяла уладны век
Прымусіў.

Ад горкага,
Як чэмер, палыну
З гарэзнай весялосцю,
як жаробкай,
Імчала вёска ў стэп, на цаліну,
Пускалася і ў Комі
На заробкі.

І шкадаваць
Даводзіцца і мне,
Як на душы не прыкра і не горка, –

Часінай той і мы, дваіх сыноў,
Сарваліся і з’ехалі
З падворка.

Круцілі так
Жыццёвыя віры
Век гэтак вёску шкуматаў і тузаў,
Што роўна ў ёй на сорак тры двары
Людзей старых застаўся,
Пэўна, тузін.

І ўніз пайшоў,
Упаў адразу цэнз,
Бы хтосьці каламаззю
вёску квэцнуў.
І з году ў год давер няўхільна чэз,
Нібыта ў садзе веснавая
Квецень.

Конь пасвіцца
На водшыбе ў смузе,
А хтось сканае – горкаю хвілінай
Труну дарогай сам гняды вязе
Пад цяглыя замшэлыя
Хваіны.

Пусціўшы ў вочы
Чадны дым ды пыл,
Узняўшы апасля і тлум на золку,
Стаўлялі ў полі на адзін капыл
Катэджы і цагляныя
Пасёлкі.

І хай там крызіс
Ці сусветны шторм,
Хай лаваю з нябёс пратуберанцы, –
Двор у пасёлак з цэглы нізашто
Не захацеў з’язджаць,
Перабірацца.

Сярод цішы
І ўсіх зямных трывог,
У быльнягах,
як у маленькіх мачтах,
Застыў, знямеў,
бы ў моры, астравок,
З сякерай і пілой падворак
Матчын.
Дзе дралі дол
Карэннем лапухі,
Шукалі ўпарта
для спажывы корму,
Скрозь засталіся толькі лепяхі
З асотам, непатрэбным
Анікому.

Вятры ці град
Спяшалі цераз двор,
Сягалі дні і тыдні, як па кладцы.
І клямка весніц гучна, як затвор,
У роспачы знячэку часам
Клацне.

А покуль што –
Чаго яшчэ таіць? –
Як бубен, гулкі і, вядома, голы
Сярод сяла ён, матчын двор, стаіць,
На грудзі нізка апусціўшы
Голаў.

Падобны ліўні
Да шаўковых штор,
Што грады
занавешвалі з прыселлем.
Не хоча двор сыходзіць на нішто
І зарастаць лазой
І пустазеллем.

А можа, заўтра
Дзесь на ўскоце дня
З клыкастаю матыкаю ля градкі,
Ці з востраю сякерай ля бярна,
Аб’явяцца, каб двор ажыў,
Нашчадкі.

Хоць і слупок
Не знікнуў межавы,
Хоць і цурчаць
струмені дажджавыя, –
А ў вёсцы
кожны двор датуль жывы,
Пакуль у ім карэнні спрэс –
Жывыя!

*2004. 2014 г.*

Віктар Казько



...прагнулі асалоды,
мітуслівай падманнасці быцця,
каб пазней сплаціць за яго
безнадзейным сумам адзіноты і расчаравання...

# На кручку

***Нізка апавяданняў***

## ЖАР-ПТУШКА МОРА ГЕРАДОТА

*Працяг. Пачатак у №75.*

Час, патрачаны на сяброў і сяброўства, у залік пражытых гадоў не ідзе. Я, пэўна, чуў гэта здаўна, як, на маю думку, амаль кожны з нас. Але маладой памяці ўласціва няўважлівасць і мімалётнае забыццё. Ці не таму зваротнасць сталасці – нашае другое шчасце. Калі ўвогуле такое шчасце даравана чалавеку лёсам. Шчасце абуджэння. Хаця ў нас яно, здаецца, спрэс і цалкам ці не толькі такое: паўторнае і вельмі позна здабытае. А мо і не здабытае. Больш шкадавальна-мройнае і на ўсё жыццё шчымліва падманнае, бо мы загадзя, яшчэ ў мінулых стагоддзях, склалі рукі і пасыпалі галаву попелам. Змірыліся: у нашай долі ўжо нічога не перамяніць.

Па ўсім, крыху ў іншы час, час нікому яшчэ нияснага прасвятлення і одуму, на стыку канца і пачатку двух вякоў, а як потым сталася – эпох, мяне дагнала старая і вечная праўда пра сяброўства. Агучыў яе мастак Анатоль

Анікейчык, які, падобна, ужо ў той час штосьці прадчуваў у непазбежнай наканаванасці свайго і грамадскага жыцця. І прадчуванні гэтыя, адно на жаль, другое – на шчасце, збыліся.

Выказаў жа іх Анікейчык на сходзе творчай інтэлігенцыі з нагоды сумна тады, а цяпер ужо велічна і знакава вядомых падзеяў на Беларусі: Дзядоў. Тых самых, што Беларусь і мінчукоў АМАПам і паралічавай чаромхай, па словах Зянона Пазняка, блаславілі на народ. Народ на той даўняй сустрэчы з вышэйшымі партыйнымі дзеячамі краіны ўсё ж больш звыкла адчуваў сябе праслойкай. І таму, па завядзёнцы, верыў не ў сябе, а ў заявы, звароты і пісьмы – ува ўсё, што здольна чарнільна плакацца, кланяцца і прасіць.

Адзін з такіх зваротаў ад імя прысутнай у зале праслойкі было даручана мне перадаць сакратару ЦК кампартыі Беларусі. А той адмаўляўся яго браць. І зала была настроена вычакальна і не надта ўпэўнена, калі не сказаць разгублена. Такі ўвогуле быў стан часу. Часу яшчэ не зусім страчаных надзеяў, спадзяванняў на добрага пана. А панства само пачувалася ўжо і хістка, і мулка, і не вельмі ўседна. Не толькі на Алімпе ва ўладных крэслах, але і тут, у зале, сярод сваёй, здаецца, здаўна і дбайна прыкормленай і прыручанай праслойкі.

Нешта, хаця і не вызначана, не акрэслена, але перакручвалася, перайначвалася ўжо ў паветры, напрыканцы таго трагічнага стагоддзя. То стоена сама сябе паядала, не ўсвядамляючы гэтага яшчэ, успоеная і выгадаваная на чалавечыне, нарачоная быць бясспрэчнай, вялікай і велічнай эпохай-жываглот. Эпоха, ад якой раптоўна і нечакана ўсе пачалі выракацца і якую пачалі праклінаць. Яна захлынулася крывёю, страціла святло ў канцы і ў пачатку сваіх расстрэльных тунэляў.

У нас, на Беларусі, спатыкнулася на тым, што, здавалася, даўно знішчыла, выпаліла гарачым жалезам. І думаць пра тое забылася. На даўніне, скінутай з параходу сучаснасці. На старызне, збытых і забытых, царкоўна цемрашальных Дзядах. Дачаснікі, пазбаўленыя радаводнай памяці, памяці продкаў былі гэтай жа памяццю і пакараныя. Прыгавораныя да небыцця.

Гэта сённяшняе маё запозненае, зваротнае сталенне. А тады пра памяркоўную і ратавальную саломку ззаду не мелася ні часу, ні розуму азірнуцца і падумаць. Хапала іншага, адначасова надзённага і эпахальнага, што можа падацца некаму сёння звычайным глупствам, падобным да вядомага ўсім і здаўна вынаходніцтва веласіпеда ці пошук сакеры пад лавай. Толькі ўсе веласіпеды, усе сякеры і нават бясконцыя змаганні з ветракамі – такое ўжо нашае наканаванне – несмяротныя і паўтаральныя з пакалення ў пакаленне. Але ці трэба перасцерагацца паўтораў, ці не дзякуючы ім мы хоць трохі бачныя свету? Здольныя больш-менш захоўвацца і адбывацца ў сваім нязздзейсненым і летуценным глупстве пракаветнага дзяцінства – зацягнутых падманных, але суцяшальных адкрыццяў, каб хоць гэтак захаваць сябе, прывідны сэнс нашага існавання.

Сакратар ЦК вымушана, ці сыходзячы з нейкіх сваіх партыйных меркаванняў, усё ж прыняў наш зварот. Уладна апаганіўся праслойкай. Узяў і хуценька знік. У зале засталіся пісьменнікі і мастакі, што нечакана схаўрусаваліся ў няўчассе. Зсябраваліся і цяпер вырашалі, ці не патрабуе гэта аб'яднання ўсіх творчых саюзаў краіны ў адзін саюз. Вось пад такія ўзнёслыя разважанні Анатоль Анікейчык якраз і прамовіў: час, патрачаны на сяброў і сяброўства, у залік пражытых гадоў не ідзе.

Само сабой, са змычкі ўсіх творчых саюзаў у нешта адзінае нічога не

атрымалася – калгас ужо даўно ўсім абрыдзеў. Як выявіў час, усё павярнула зусім у іншы бок. Як гэта здаўна заведзена ў творцаў, ім і ўдвох не згаварыцца. Пакуль не падыдзе трэці. А каб гурмой усім талентам і геніям ды ў адно стойла – нават шклянак і тых на ўсіх не хопіць.

Не, праўду людзі кажуць, нават двум мядзведзям і тым у адной бярлозе цесна. А тут далёка не мядзведзі. Усе спрэс адны лебедзі белыя. Ну трохі сярод іх ці каля іх ракаў ды шчупакоў. Бамжаватыя пісьменнікі з мастакамі, ад качагараў не адрозніш, больш, зразумела, выдаюць на ракаў са шчупакамі. Багемна вытанчаныя музыкі, кампазітары, несумненна, – лебедзі белыя. Як жа іх у адзін воз запрэгчы, ці не атрымаецца з гэтага сапраўды беларускі варыянт расейскага аўтамата Калашнікава.

Марная была прапанова і задумка з адзіным творчым саюзам. Яна знікла, спрахла пры корані, як, дарэчы, тут трэба адзначыць, адбылося гэта ці не з большасцю творцаў і самой творчасцю. Хутка зямная непазбежнасць спасцігла і самога Анатоля Анікейчыка. Няўчассе не ведае літасці да мастакоў і мастацтва. Творцы разбрыліся па сваіх магілах.

Але ў памяці засталося, як гэта часта бывае ў мітуслівым бязладдзі творчага жыцця, не толькі значнае і велічнае – вартае постаці мастака і творцы, але нешта імгненна абрыснае, здаецца, зусім не істотнае, аб чым іншым разам мо лепш і прамаўчаць. Толькі ж хто ведае, мо якраз гэта з большай пэўнасцю і вызначае сутнасць творцы і мастака і ўвогуле нашага існавання – азоранасць нараджэння і смерці: коскі, працяжнікі, кропкі і шматкроп'і паміж гэтымі двума слёзна пабратанымі вызначэннямі.

Так у глыбінях маёй свядомасці і падсвядомасці завіслі і словы, моўленыя, здаецца, між іншым. Пра сяброўства.

Зусім не новыя. Замшэла прапісныя. Але ці не ўсе мы да канца нашых дзён цярэбімся праз безумоўнасць падобных прапісяў? І зноў жа, ці не кожная з іх, якім бы ты разумнікам не быў, ва ўрочны час гучыць як адкрыццё. Некалі такім адкрыццём прагучала і вось гэта, вельмі блізкае да вызначэння сяброўства: імгненні, гадзіны, дні патрачаныя на еднасць, зліццё і параднёнасць з вадой, дубровай, борам – з тым, што звыкла завецца прыродай, у прыватнасці, на ціхае паляванне на грыба, на рыбалку, таксама не ўваходзяць у наш век, вылічаюцца з яго.

Ці не праз гэта мы якраз і здабываем тое, што звыкла называем іскрай Божай – сапраўднай творчасцю і тварэннем, захаванага яшчэ ў чалавеку лепшага, што было нарачона яму ад нараджэння: асэнсавана тварыць і доўжыць сябе. І ў такія хвіліны чалавек сам-насам з сабой. Прырода зусім не частка яго, як і ён ні ў якім разе не частка яе, а адзіная, непадзельная і неўміручая сутнасць. І гэта, даравaнае Усявышнім, бласлаўлёнае ім, свята духа і адушчай душы чалавека, які займеў, набыў зрок – трэцяе вока на адчуванне велічы і хараства свету.

Па няўважлівасці і саманадзейнасці юнацтва, у якім толькі-толькі пачала абуджацца свядомая цікаўнасць да жыцця, я спазнаў гэта толькі вушамі. Але, пэўна, у тым і схавана найвялікшая таямніца і прыцягальнасць нашага зямнога існавання, што ў наканаваны кожнаму суцешны ці ўжо нават і не суцешны час мы схільныя да вяртання. Паўтарэння саміх сябе такімі, якімі, не ўсведамляючы таго, некалі ўжо былі: пры зачацці, у няцямнасці маленства, дзяцінства і невыразна ўжо цьмяныя імгненні і гадзіны сталасці. На якія ў той час і не зважылі. Але яны ўвайшлі ў нас спадзяваннем на будучую бязгрэшнасць ці хаця б запозненае пакаянне.

Да колішняй, сёння ўжо зацягнутай каростай душы, былой чысціні нас прымушае неасэнсаванае жаданне, уласцівае, пэўна, нават самаму апошняму злачынцу: быць і застацца больш блізкім той жа прыродзе. Дрэву, грыбу, рацэ, рыбіне, у якіх мо і няма душы – у чым я моцна сумняваюся, – але бясспрэчна ёсць духоўнасць. Адухаўлёнасць.

Мы пачынаем усведамляць, што, падобна, зусім яшчэ і не жылі, а толькі праведна ці няправедна – больш няправедна – спажывалі жыццё. Насалоджваліся даραванымі, набытымі і ўкрадзенымі – на жаль, больш украдзенымі – імгненнямі задавальнення. Назапашвалі, прагнулі асалоды, мітуслівай падманнасці быцця, каб пазней сплаціць за яго безнадзейным сумам адзіноты і расчаравання.

Прыспеў, выпаўз з прыцемак душы непазбежны час спыніцца і азірнуцца. Задумацца, што і чаго варта. Паглядзець на сябе зблізку і здалёку, мо нават з-за вугла. Перабраць наноў пройдзенае і збытае па рэштках памяці былой чысціні і нявіннасці, калісь усмешлівай, чулай і спагадлівай душы. Прайсціся басанож зноў па шматабяцальных табе сцежках твайго ж уласнага пачатку. Без сораму яшчэ раз ступіць у ваду тваёй жа мінуўшчыны. Хаця ўсе табе даводзяць, дый сам ты добра ведаеш, што двойчы зрабіць такое немагчыма. Хлусяць. І сам сабе ты хлусіш, бо звык да самападману.

У вадзе няма ні пачатку ні канца. Яна ад зямлі і ад неба, з бясконцасці сусвету. І ты ад іх. Толькі зараз гідуеш сябе цяперашняга, нячыстага. Бо спаганіўся ў горкіх водах уласнага дабрабыту. Але, не прызнаючыся ў гэтым, ты ўсё ж да апошняй тваёй хвіліны будзеш сумаваць і зайздросціць голенькаму мурзатаму хлопчыку ў зваротных водах ракі вечнасці. І гэта неўміруча ў табе, як першая твая слязінка захаплення, горычы і болю. Слязінка пазнання сябе.

Менавіта ў такія хвіліны самаадрачонасці некаторыя з нас упершыню спазнаюць, што такое бяссоніца. Тыя, што яшчэ не канчаткова праспалі сябе. У іх начах прачынаецца адчуванне, што яны так мізэрна мала зведалі сяброўскіх дзён. Дзён, патрачаных не на сябе, а на людзей, якія цягнуліся да іх, блізкіх ім па духу. Бо зацята і скнарна аберагалі сябе, свой час. Марна, здавалася ім, ні на каго і ні на што не трацiліся. Згубілі сваё трэцяе вока – парвалі зямную і нябесную повязь.

І нічога тут не зробіш. Чалавек ужо даўно не чуе і не бачыць сябе ва ўлонні ўласнай хаты, сярод травы, вады, лесу. Не віртуальных, кампутарных, а жывых, хоць на яго ўбогую думку, неадухаўлёных. Тут ён мо і мае рацыю, бо мяркуе па сабе. У большасці мы аддзеленыя, разлучаныя са сваёй сутнасцю, з тым, як нам здаецца, смеццем, з якога зробленыя. Забыліся, як гэта глядзець у саміх сябе, у вочы сваёй душы. Таму яна такая і непрыкаяная. Пазбаўленая спакою. Спакою вечнасці, па якім так натхнённа трызніў напрыканцы ці пачатку яшчэ мінулага стагоддзя расейскі мастак Левітан. Няма таго, з чым прыходзілі і адыходзілі нашыя дзеды і прадзеды. Пра які яшчэ ведалі ці здагадваліся нашы бацькі. А мы...

Вось таму шмат хто з нас няздольны паныла бясконцымі начамі звесці вочы. Блукае па завулках, тупіках і сметніках сваёй развярэджанай, але так і не абуджанай памяці. Я ведаю, што гэта такое, калі яна пачынае шчымець і смылець. Я прайшоў гэтай дарогай, калі, па-шчырасці, на дарогу няма і намёку. Непраглядная цемрадзь і спусташэнне. Няздольнасць ні на забыццё, ні на думку. Самаспаленне. Выпальванне боскага, чалавечага і нават звярынага. Чалавек у пустыні. Пустыня ў чалавеку. Тагасветна пякельная.

Было, было ў мяне такое. Праз што, пэўна, нарачона прайсці ці не кожнаму з нас. Ачуняў і абудзіўся амаль імгненна (хаця гэта мо і самаўпэўнена гучыць: хто зведаў, схадзіў па такой сцежцы – таму збавення, вяртання ўжо няма). Я ачуўся ад мораку, прыгадаўшы ўсё тое, што насіў у сабе заўсёды яшчэ з няцямнага маленства. З чым не разлучаюся і сёння: усе мае дзіцячыя глупствы, нявінна жорсткія грахі. Святло і змрок, узвышэнне і вырачэнне ад самога сябе. І ціхае шкадаванне па мо і бязглуздай, але бясконца шчырай святасці, да якой хацелася б вярнуцца. Бо, як гэта ні дзіўна, цяпер яна не толькі не адмаўляла і не выракалася былога, але і благаслаўляла яго захаваным ува мне пякучым сорамам сапраўднасці колішняй шчымлівай чысціні – апошняга прыпынку і прытулку на апошнім кроку безнадзейнага адчаю.

Гэта па ўсім была захаваная ўва мне, як і ў кожным з нас, неасэнсаваная таемнасць, якую ўсё ж нехта прыкмеціў і адчуў. Вылічыў быць патрэбнай мне. Далучыў мяне да маёй жа сутнасці. Сутнасці ўсяго існага на зямлі. Да самой зямлі – неба, дрэва і вады. Да сяброўскага, братняга яднання з імі зрокам, слыхам, дыханнем, нават крывёю. Яднання з ручаямі, рэкамі, азёрамі, з сінню і блакітам стракатых стракоз над імі і апякальнай беллю лілеяў у спачыне іх завадзяў, спавядальна запаветным пошумам і цішынёй бароў і дуброваў. З задуменнай празрыстасцю нашых горніх высяў – маўклівых сведкаў вечнасці, пірамідна помнікавых курганаў са стоенымі ў іх белым-белым пяску спевамі жалейкі і дуды, пазычанымі ў рамонка, васількоў і палыну ў разлогу спелага ўжо лета, шчодра аздобленага святлом сонца, месяца і зорак, што не толькі на небе, але і ачахаюць ад спёкі, холаду і сурочлівага вока ў ямах і вірах утаймаваных за дзень-век водах тых жа рэк і азёр і нават у дуплах вячыстых дубоў.

І ўсё гэта далёка і побач, падманна і сапраўдна. Ува мне і за неабсяжнасцю прывідных даляглядаў. Але выразна, да нясцерпнасці зырка і арганна гучна, магутна. Так што часам цяжка і вытрымаць блякла прымружанаму воку, больш схільнаму да пакланення парожняй пустасвятасцю. Але ўжо падсвядома захопленаму буянствам адраджэння і ці не нованароджанасці самога сябе, сатварэння адноўленай вечнасці, не падманнай ні воку, ні вуху. Бо ўсё гэта ўжо зведана. Усё гэта ўжо аднойчы было. Зведана, пражыта. А цяпер скранута, узрушана набыццём вяртання свайго ж мінулага, што так доўга гібела ў амаль тагасветна магілкавым чаканні запаветнага імгнення.

І ты не прамінуў, выкрыў і ступіў у гэтае імгненне на ружовым світанку абуджанага табою ж дня. Прайшоўся па пругкім верасе яшчэ пахмурна пазяхальнага бору, прыбярэжным жвіравым суквецці зайчыкавай капусты ці яго ж вострастрэлкавай цыбулькі. І ці не з таго суквецця, а мо і з дзюбкі гаркавай цыбулькі, а хутчэй з зажуранага блакітнага вочка верасу сарвалася і ўпала на цябе вітальная зорная слязінка. Злілася з кропелькай вільгаці, што ранкам дрогка завісае і на тваіх павеках, у куточку тваіх вачэй.

І ўсё. Ты абрасіўся. Ты папаўся. З гэтай хвіліны ты ўжо назаўсёды сам і бялун, і лесавік, і вадзянік. Дрэва і вада, грыбная матка і цар рыбы. Бо чыста ці нячыста наблізіўся і набыў іх мову. Пачуў і пачаў хоць з пятага на дзясятае чуць і разумець голас і гаворку лесу і вады. Іх шэпт, стогн. Смех і плач. Бо ўсё гэта ў табе. Гэта сам ты. Абуджаная табой і ў табе вечнасць больш не стамляе і не засціць вока. Твой новы зрок і слых у сумяшчальным зліцці і суперажывальнасці з усім існым на гэтым неабсяжна вялікім белым свеце. У суладнасці і аднамоўі з ім.

І тая ж пракаветная вада, былая і сённяшняя, усім іншым – дурасліва мокрая, халодная, балотная, крынічная, жалезістая, мылкая, жывая табе. Яна здольная не толькі спатольваць смагу, але і саладзіць душу, рабіць яе відушчай. Здольная ўтрымліваць і палаць, даваць агонь. Гарэць і падпальваць усё навокал сябе на ўзыходзе і захадзе сонца, лашчыць і лагодзіць апоўдні, цешыць у змроку ночы гуллівасцю гарэзных працаўнікоў сямейнікаў баброў, бубенна жыравальным буханнем шыракалобага і хвастатага, цяжарнага на самога сябе сома пад спуджанае вуханне над рачным прасцягам вушатага пугача.

І ты знітаваны, у непарыўнай повязі з гэтым бачным і нябачным светам адзіным з ім дыханнем, чысцінёй і спакоем думак, прасвятлёнасцю як бы і не тваёй, а нададзенай табе невядома кім. Паміж табой і рэчкай, вадою амаль малітоўная згода і ўзаемная змова чакання.

Рака пацвельвае цябе драбязой, веернымі гонамі матросікаў-акуньчыкаў, слюдзянымі ўскідамі верхаводак, фігурным катаннем слізгуноў – выпрабоўвае на цярпенне. Але ты на яго не абыйдзены. Нават рады таму, што напачатку табе не шанцуе – добрая прыкмета. Заўчасная ўдача можа выйсці бокам, сурочыць, навесці якіх-небудзь злыдняў. А каля вады і лесу іх хоць плот гарадзі. І ты з завіраннем сэрца ўспрымаеш кожную злоўленую табой маляўку. Радуешся габлюшцы плотачцы, струменістаму пячкурыку, смеццевай рыбінцы краснапёрцы... Хаця, хто яе назваў смеццевай. У каго павярнуўся язык абразіць гэтае праменна працятае сонцам, адлітае з чырвонай і белай ртуці з дамесам паветра, блакіту неба і вады боскае хараство. Няйнакш пакрыўджаны на ўсё на свеце сам сметнікавы чалавек. Таму такім жа бачыць усё, да чаго ні даткнецца позіркам. З пячорнага часу і па сёння – здабытчык, нарыхтоўшчык і спажывальнік.

Хаця, ці варта на яго за гэта наракаць. Усе мы такімі былі. І я такім быў. І першай сваёй краснапёркі, здабытай на ўгрэўным мелкаводдзі Школьнай старыцы каля Прыпяці, не ацаніў. Амаль не прыкмеціў. Блазнаватая, сапсаваная і сурочаная стагоддзем гіпнозу самасці душа прагла буйняку, як гэта гучала ў адным з тагачасных загалоўкаў у газеце «Комсомольская правда»: «Если делать, то по-большому». Што, пэўна, палягала ў ловах рыбы раўняцца ні больш, ні менш, як на славутую тады знішчальную кітабойную флатылію «Слава».

А што наша кропелькавая ў параўнанні з тымі ж кітамі, у сцятай далані не відно, акцябрысцкая краснапёрка палескага возера Школьнае? Калі ўжо мазацца, то карася з парася, акуня з каня. А плотку з лодку. Такі даў я сабе на той час зарок. Пазней, значна пазней я зведаў сапраўдную цану ўсім нашым піянерскім клятвам і зарокам. Не толькі ў адносінах да рыбалкі. Таму сёння ўпэўнены, перакананы: усе яны нішто іншае, як граблі, якімі высцелены нашыя жыццёвыя пуцявіны. Ніспасланы нам, як прадказанне бясконцасці паўтарэння і паўтарэння таго, ад чаго так зацята выракаемся. Сціплае цілі-цілі нашых сініц, на якіх мы не зважаем, трымаючы на слыху курлы-курлы жураў у небе.

Самавітая і ўкормленая краснапёрка чакала мяне зусім не на нашых зацішна хатніх вадаёмах. На старыках і старыцах, пратоках так званых бачагах і ерыках Царыцына-Сталінградскага Паволжжа. Прычашчоны і далучаны да рыбацкага племені павольнымі водамі палескіх Пцічы, Убарці, Начы, Морачы, Случы, у мяне і ў галаве не было, што краснапёрка можа быць такой вялікай. Кожная не меней за паўкілаграма. Мы са швагерам

за паўгадзіны нашморгалі яе ці не пуд. Асалоды і задавальнення ад ловаў, палявання не было. Як гавораць пра рыбалку, нічога складанага – налівай ды пі. Вось і тут, папраў на кручку аднаго і таго ж чарвяка, паплюй на ўдачу, закідвай і адразу ж цягні. Валодалі адна толькі жарсць ды звыклая хцівасць заядлых здабытчыкаў. Чаканне і невыказнае жаданне больш буйной і крыху ўсё ж іншай рыбіны.

Але бралася адна толькі краснапёрка. Як па заказу, мерная, таўсматая, тлустая. І ў яе залішняй атлусцеласці відавочна меркла і атухала ўласцівая краснапёркам зыркасць фарбаў. Але клявала яна, заглытвала насадку з невыказнай прагнасцю. Нібы вырачоная.

Адчуванне няправільнасці і няправеднасці ловаў, падобных на здзек з лаўцоў і рыбаў, неўзабаве патаемна перадалося і нам. Мо таму, што ў наваколлі адчувальна навісла і пачала згушчацца млявасць. Травы пахмурна і слёзна пацьмянелі. Ад іх дурнап'янкасці прыкінулася і да нас гаркавасць і задышлівасць. Каляпратокавыя асокі надламіліся і шаўковымі косамі амаль леглі на ваду.

Адчувалася набліжэнне навальніцы. Прыволжскія ж прасёлкі ў дождж непраходныя і непраезджыя. Да ўсяго, нашыя жанчыны наказалі нам набраць грыбоў, якія шчодра, касой касі, раслі ў так званых сталінскіх лесапалосах – хоць нейкая карысць ад забойцы і ката. Мокрыя грузды, дубовікі накшталт нашых дуброўных баравікоў, толькі больш губатыя і брылястыя. Збіраць іх, як і лавіць чужынскую краснапёрку, было таксама нецікава. Поўная адсутнасць ціхага і пошукавага палявання. Адно бясконцае рупліва мурашынае знішчэнне: нахіляйся, нахіляйся і рэж, рэж. Пад самыя смарката малачайныя карункі мокрых груздоў. Ды не забывайся выціраць горка асклізлыя забойчыя рукі. Бо потым доўга пляваццa будзеш.

Мы нарэзалі мех, як завязаць, адных толькі маладзенькіх, што пстрычкі – у экспартным выкананні – мокрых, крамяна-ружовых яшчэ да засолкі груздоў. Прыладзілі ў мяне за плячыма. Укінуліся ў мапед, на той час самы распаўсюджаны транспарт малодшых навуковых супрацоўнікаў і неапераных яшчэ інжынераў. І ўжо па нахлыстава-буйному, хаця і рэдкаму дажджу, пад абураны наўздагон стогн і бурклівасць неба, скіравалі дамоў. На першым жа кіламетры разоў з дзесяць паслізнуліся і ўпалі. Віхлялі і кружлялі па чарназёмным прасёлку нібы негры на лыжах, якія ўпершыню ў сваіх саванах сталі на іх. Такія ж ад народзінаў замурзаныя і няўклюдныя.

Неўпрыкмет сабе пасля чарговага падзення развярнуліся і з імпэтам, не кідаючы ні грыбоў, ні рыбы, працягвалі сваё паволжскае сафары. Якое неўзабаве ўсё ж вымушана скончылася. Мы апынуліся зноўку на беразе бачажыны, дзе нядаўна рыбалілі. Паглядзелі адзін на аднаго, гэта варта было зрабіць: Рэпін з яго бурлакамі на Волзе мог адпачываць. Парагаталі. Распрануліся. Змылі з сябе афраазіяцкі загар. І пехам, пехам пайшлі ўжо правільнай дарогай, коцячы перад сабой злаўмысны мапед з дзённай здабычай, цяпер дакладна, ні адбавіць, ні прыбавіць – сапраўдныя бурлакі на Волзе, толькі свежа памытыя.

І па дарозе мне запозненна цюкнула ўсё ж у макацоўбіну, што краснапёрка зусім няпростая і нікольki не маўклівая асуджаная і прыгавораная рыба. Няйнакш, знаецца, яна і з вадзянікамі, і з русалкамі, не выключана, і з лесавіковым духам самога Сталіна. Здольна пакпіць і паздзеквацца з іншых, пастаяць за сябе. Каварная рыба. А ў чым адметнасць і хараство

яе ловаў, тады я так і не зразумеў. Прыняў за збег выпадковых недарэчнасцяў. Але і гэта з цягам часу сцерлася з памяці і забылася.

Больш асэнсаванай і запамінальнай была сустрэча з краснапёркай ужо недзе пад Астраханню. Гэта было сапраўды нешта. Адметнае і выбітное са звычайных рыбалак і будзённай свядомасці. Крылася ж гэта не толькі ў ловах, рыбацкім шчасці і ўдачы – у еднасці, знітаванасці імгнення паўсядзённага, мітуслівага і дробязнага, з захаванымі ў кожным чалавеку рэшткамі некалі нададзенай яму вартасці і нават непадробнай велічы. Вечнасць, з якой сам ён, не ўсвядамляючы таго, пустазвонна бытуе.

А тут гэтая пустазвоннасць адхлынула, адбеглася, як марская хваля, нагнаная тлумным ветрам. Падхапіла, ачысціла забруджаны бераг ад наноснага смецця, агаліла, да кварцавага бляску вышаравала, абмыла ад веку белы пясок. І ўсё навокал да царкоўнага, чаромхавага і малінавага звону агарнула, спавіла чысціня. І ў тую чысціню і звон, бель і блакіт майскай пчалой уплёўся чалавек. У тым ліку і я. У адно непарыўна-цэлае і гожае сатkаліся бязмежжа і мяккая ласкавасць чужынскага, астрахана-царыцынскага лета: неабсяжнасць зялёнага і блакітнага – стэпу, неба і вады. Злёгку дрогка хісткіх, марыўных, але трывалых. З уціскам незразумела як і адкуль набеглых цішыні і спакою, упэўненасці і перакананасці ў тым, што толькі адзіна так на гэтую хвіліну свету, нават сусвету і трэба. Гэта было жывое ўвасабленне непахіснай магутнасці і вечнасці.

Страчанасці і мізэрнасці чалавека ў бязмежнасці цішыні, чысціні і спакою. Спустошанасці і вытпетранасці абыякавасцю да яго часу і прасторы. Асэнсавана існавальнай заставалася толькі зведзеная да кропкавага мігцення млосная зморанасць ды непраходна-шчымлівае адчуванне нечага страчанага. Мо і па сваёй ахвоце адкінутага, што потым даўно і марна падсвядома зноў вышукваецца. Але так і не знаходзіцца, не даецца ні ў рукі, ні ў галаву.

Гэта скрозь пры святле, удзень. А ўначы – гартанныя клічы колісь зніклых ужо людзей ды конскае ржанне капытнай лавай пралётных сярод паўднёва-выразных зыркіх зорак, па аксаміце чужога неба, чужой конніцы, чужога жыцця. Гэта, падобна, больш настройнае, насланнёвае, бо мы атабарыліся, як нам казалі, не ведаю, праўда ці не, у колішняй сталіцы самога Чынгісхана – Сараі. Пацвердзіць ці абвергнуць гэта сёння здатны адзін кавыль. Толькі – ён маўчаў.

Таксама замагільна, няземна-ачамярэла і рыбалілася. Без узнёсласці і ўсплескаў рыбацкага захаплення і прыкрасці. Сцішана-пакаянна, па-азіяцку засяроджана, нібы прымусова-ўрочна. Лавілася адна толькі краснапёрка. І зноў жа, з усіх бакоў – урочна. У пэўны час, у пэўным месцы, як зусім не татара-мангольскай, а нямецкай крыві. Прачыналася і ішла на жор пасля ўзыходу сонца, з угрэвам вады. Будзіла нас, як на працу, і сама рупілася. Бегма бегла да нашых вудаў, нібыта ў атаку на які-небудзь расейскі злы горад Казельск.

Чужынская, чынгісханская, мо і скуласценькая, вузкавокая – не прыглядаліся, да гэтага не дайшло. Але ж уяўна адчувалі, здымаючы з кручка, парную ад цеплыні вады і доннай падпрэласці твані, п’янкі пах кумысу і дыму татарскіх вогнішчаў – нават водбліск іх часам кідаўся нам у вочы. Засціў іх і сляпіў.

І было падобна на тое, што мы не рыбалілі, не краснапёрку ў вадзе лавілі, а цягалі жар, палкія яшчэ вуглі і галавешкі з былых, а мо яшчэ і

сённяшніх татара-мангольскіх вогнішчаў. Кралі і запівалі жарсць крадзяжу сырадоем маладых кабыліц, кумысам. І апітыя ім, пахмельна сцішана раставалі, марнелі і чэзлі па берагах невядомых нам, злучаных паміж сабой зусім не пратокамі, а самім часам, падземнымі жыламі і атожылкамі, што нябачна тачыліся і сыходзіліся ў вялікай татара-расейскай рацэ непатухальнай вечнасці – Волзе.

І ці не таму сарайскія краснапёркі, па кілаграму і болей кожная, падобна, чаравалі. Прывабнасцю і даступнасцю ўсё ж нечага ад нас патрабавалі і ўзамен. Не магу сказаць, злосна ці не злосна, наўмысна ці незнарок. Але ж, але ж... Мы гублялі каля іх нешта сваё. Спрадвечна нашае, паляшуцкае.

Ахвяруючы сабой, яны, як прадчувалі ці нават добра ведалі, што ім за гэта сплоцяць, вернуць з лішкам. А мы, удалыя лаўцы, ужо нідзе і ніколі не пазбавімся іх вадзяніковага чаравання. Іх спакушальных уначы і на досвітку гульняў, каляровых сполахаў агню і полымя, халодна-спапяляльнага жару іх плаўнікоў, прыцягальнай паціны іх раздвоена русалкавых хвастоў. Ніколі ўжо не выхвараем ад узаемнага старажытнага суму вачэй, што мы набылі. Пазычылі адно ў аднаго. Ад суму і журботы расстання іх з намі, а нас з імі. Таго, што яны і мы заўсёды носім у сабе.

Як мы беглі ад усяго гэтага, уцякалі ад сарайшчыны, сталіцы Чынгісхана, сёння я ўжо і не памятаю. Даўно ўжо развітаўся з памяццю мінулых сваіх і чужынскіх пагоняў. Але яны былі. І я бясконца адно толькі ўцякаў, уцякаў, уцякаў. Мо нават і не жыў, а бег, бег, бег. Па сваёй і чужой зямлі, якую, страціўшы сваю, хацеў лічыць сваёй, ды страціў і яе.

На старэнькім, хворым на ўсе савецкія аўтамабільныя хваробы, чатырыста дванаццатым, рабым, аблезлым, што жаба, "масквічку" выхапіліся мы са спякоты і кумысна палыновага стэпавага духу чынгісханства. І ногі ў рукі ці мо і наадварот: спадарожнага ветру матору і ў багажнік. Але так не атрымалася. Недзе ўжо на падыходзе да Валгаграда наш "масквічок" не вытрымаў змешанага цывілізаванага і сярэднявечнага дыхання Еўропы і Азіі, усхліпнуў, задрыжэў конскімі дрыжыкамі. Хацеў яшчэ нешта мовіць, але не здолеў. Сканаў. І ў горад нас прыцягнулі на буксіры. Даруйце, стомленых, але задаволеных. Здавалася, назаўсёды перанасычаных краснапёркай, склаўшых не толькі плаўнікі, але і ласты, калі б яны ў нас меліся.

Так яно, пэўна, было і на самой справе. Былі іншыя рыбалкі і ловы. Іншыя рыбы цешылі, доўжылі і караціліі жыццё, уганяючы часам у прадінфарктны стан. Уздымалі на сёмае неба і апускалі ў апраметную. Астраханская мангола-татарская краснапёрка здавалася назаўсёды адышла ў нябыт, не пакінула ў памяці пра сябе і зарубіны. Чужое ёсць чужое, хоць і халяўнае.

Але зноў жа, не толькі мы гуляем з жыццём у розныя азартныя гульні. Яно таксама штохвілінна пільна цікуе, строіць кепікі і пасміхаецца з нас. І ці не з нашай жарсцю гуляе з намі. Ніколі не прэч перакінуцца ў тыя ж карты, нават у "падкіднога". І што тут нязменна – мы, нават самыя фартовыя шулеры, заўсёды ў дурнях. Бо не толькі з уладай і дзяржавай забаронена і небяспечна гуляць у азартныя гульні. Але і з лёсам. Загадзя вядома, хто ў пройгрышы. Толькі ж нават і запісны дурань ніколі не прызнаецца ў гэтым. Як жа, ён вянец тварэння – вечная блытаніна блізкіх па гучанні, але не па сэнсе паняццяў: вянца і веніка, а па-хатняму – звычайнага дзяркача. Якім падмятаюць не толькі хату, але і гісторыю. Ва ўсякім разе нашую, айчынную. Але гэта так, да слова.

Больш істотнае, на маю думку, у тленнай незваротнасці нашага быцця, тое, чаму мы ніяк не можам паверыць у сляпой надзеі вярнуцца і паўтарыцца. Зыходзячы з гэтага, лёгка ўгаворваем саміх сябе на якую хочаш пошасць і брыдоту. Гатоўнасць ужо сёння ўтварыць іх, бо будзе ж заўтра, і тады мы... Але гэтага, пераніцаванага, заўтра якраз мы і не маем. Не дадзена нам далучыць сябе да інакшай за тую, якую маем, вечнасць. Не дадзена нам злучыць у нешта новае, адрознае сёння-заўтра. Яны адзіныя.

Але, пэўна, такое ўжо нашае наканаванне: песціць і гадаваць у сабе пракаветнага і зусім не казачнага пярэваратня-ваўкалаку, па вобразе і падабенстве да якога ці не створаны мы самі, бо без стомы і супынку колькі ўжо стагоддзяў бяжым і бяжым па следзе і лёсе яго, упэўненыя ў сваёй самасці. А ўсё астатняе, чаго самі ж цураемся ці хацелі б цурацца, спіхваем на прыкрасць непаразумення, недарэчнасць. А больш і часцей – на выпадковасць. На тое, чаго ў жыцці няма і не бывае, чаго жыццё не ведае і не павінна ведаць.

Але, як кажуць на Палессі, Бог не цяля – бачыць і не любіць круцеля. І ва ўсім трымае раўнавагу. Таму, з цягам часу і на пэўнай адлегласці, усё размяркоўваецца згодна сваёй сапраўднай вартасці і каштоўнасці. І часцяком надараецца так, што колішняе непаразуменне бачыцца і прызнаецца як нешта адзіна значнае і годнае ў жыцці. І вяртаецца, вяртаецца да нас пераломна і ўладна, падрыўна і прарыўна скрозь нашае ж бяссонне, скрозь пустэчу марна страчаных дзён, у якіх і з якіх мы ўтварылі сабе ўласную, а мо і ўтульную магілу. Калыску і могілкі прыцемкавага свайго пустапарожняга існавання.

Як ужо казаў вышэй, адлучаны па сваёй волі і чужой няволі ад вялікіх і малых маіх рэк і рачулак, азёр і старыц, я зноў і зноў у сваіх блуканнях і вандроўках па свеце гартаю ў памяці шчаслівыя імгненні на вадзе і каля вады, працягваю доўжыць сябе. Узгадваю калі не ўсіх, то большасць злоўленых мной рыб. І што дзіўна, у змроку былога яны не толькі не чэзнуць, а наадварот, набіраюць фарбаў, яркасці. Ажываюць і асвятляюць раней нязведаным сэнсам тое, што я некалі прамінуў, не спатыкнуўшыся ні вокам, ні сэрцам.

У абыякавай, а мо нават і крыху пагардлівай прымружанасці начных вокнаў спальні я бачу сонечны погляд дзён, якія, здаецца, даўно ўжо забыў і згубіў. Бачу так зіхатліва яскрава, што пачынаю адчуваць боль і непакой. Я высільваюся мацней звесці павекі, але толькі памнажаю ў вачах святло. Нібы гэта зусім не мае вочы, а нейкія выключальнікі. А мо і самі лямпачкі майго начного бачання.

І святочна-асветлена абуджаецца, адчыняе мне дзверы і вокны дзень, зацухмолены ўжо штурханінай амярцвелых гадоў. Спачатку крыху туманна, прывідна, як гэта і належыць пасля небыцця. Туманок прарэджваецца, ссядаецца і спадыспаду ўспыхвае зялёнай рунню падснегавай маладой травы, трохі бляклай. Але зеляніна перамагае, згушчаецца. І вось яна ўжо такая, якой і павінна быць у буянні вясны ці лета. Сакавітая ад блізкасці глебавых водаў, трывала-пругкая калякарэнным сцяблом, па якім пахатняму коўзаюцца, пасуцца рабыя божыя кароўкі. І нехта нябачны каля маіх босых ног рупіцца працюкнуць маю, яшчэ няспешчаную гарадскім абуткам, голую і надта ж чорную пяту.

Сонца салаўінымі спевамі промнева высвіствае ранішнюю пабудку вадзе, рацэ, пазалочаным языком злізвае з іх грудзей сырадойную пенку.

Празрыстыя і цёплыя кучаравінкі і кудзеркі начнога і ранкавага покрыва. Тчэцца ў траве галаногі кулік. Чарацянка, адчуваючы недзе недалёка ад яе кубла ні то выдру, ні то бабра, спалоханым крыкам адводзіць іх ад сваіх неапераных яшчэ ў матчынай калысцы нашчадкаў. Трапятка хістае галінку лазы, нібы намерваецца ёй хвастануць ворага. З лазовага ліста скочваецца і падае кропелька яшчэ халаднаватай на світанні і таму цяжкой расы.

Якраз у тое імгненне ўсё і пачынаецца. Кропелька трапляе на мой паплавок, на самы шчык яго, аблуплены, як дзявочы носік. Цененькі, чырвоны і востранькі. Дрогка зрушвае, прытапляе, што казыча леску, якая ў сваю чаргу вымушае хіснуцца, вабліва прысесці і выпрастаца кручку са жвавым чарвяком на ім пры дне ракі. Нажыўка, чарвяк набывае рухавасць і спрыт уюна на гарачай патэльні. Дрымотная і леная да гэтага часу краснапёрка – яна ўбіраецца ў сілу толькі тады, калі добра ўгрэецца і асвеціцца сонечным праменнем вада – скаланаецца, губата хапае разяўленым ротам пакручастую спажыву. І...

Нельга сказаць, каб пайшло-паехала. Краснапёрка на пачатку дня, як кожная харашуля, яшчэ павінна збыць з сябе ноч, мо і намакіяжыцца. Сатварыць сябе, стварыць свой твар. Але ж тут не хочаш, а мусіш: што ёй рабіць, калі сняданак падаюць у ложак. А побач жа нахабныя шалахвосткі і круцёлкі плоткі імкнуцца апярэдзіць. Трэба хапаць усё, што даюць, не зважаючы на расклад дня. І рахманая, не звадлівая краснапёрка плюе на сваю натуру, бярэ верх над сваячкамі.

Апоўдні я ў сярэбраных пырсках роднай мне вады. Рукі па локці ў рыбнай лусцы. У вачах жывая вясёлка фарбаў рачной жар-птушкі. Хаця гэта яшчэ не птушка. Толькі казачны, залаты і сярэбраны намёк на яе. Да птушкі ёй яшчэ пуд чарвякоў. Есці і есці, расці і расці. Як і мне. Пакуль я невялічкі яшчэ паляшук. Невялічкі, але паляшук ужо. І рыба мая яшчэ невялічкая. Але яна мая. І я павінен рупіцца і дбаць пра яе заўтра. Таму большасць краснапёрак зноў адпускаю ў раку. З далані, з якой тырчыць толькі чырвоны хвосцік ды жоўценькая дзюбка роту – проста ў ваду.

– Ідзі, ідзі, гуляй і пашлі маму.

Так, я блазную, прабачце мне, мае краснапёрыя ўцешніцы. Я маю на гэта права. Усё ж тут маё. Таксама як і іх. І нам адно ад аднаго ніколі і нікуды не падзецца. Нікуды не падзецца ад неабдымна-непадзельнага свету, бо іншага нам не дадзена.

Ахоплены, агорнуты водамі, аблашчаны і суцешаны сонцам, я ўсмешліва і светла засынаю, убіраючы ў сябе ўмытую світаннем летнюю зеляніну травы, лоз, дрэў і блакіт нябёсаў – колер жыцця, свету і спакою. Такога ж колеру і мае сны. Працягла набягаюць і доўжацца імгненні, дні і гады, што не ідуць у залік майго жыцця. Я адзіны, назаўсёды злітаваны з ім з усім існым. З нашай някідкай, памяркоўнай і абачлівай рыбай – жар-птушкай палескага мора Герадота, золатам якога засцярожана каляпрыпяцкая запань.

Па апошніх звестках вучоных, яно, золата, – незямнога паходжання. Чалавецтву яго мільярды гадоў таму падараваў сусвет. Адсыпаў са сваёй касмічнай торбы метэарытамі і каметамі. Адзычыў трошкі і беларусам. Ёсць, ёсць яно ў нас, толькі зуб няйме. Такая ўжо нашая доля, і сваё ўзяць не можам. Да пары да часу схаванае, ляжыць нашае золата – гэта ўжо па даследаваннях сучасных геолагаў – на два кіламетры пад зямлёй, прыкрытае водамі Прыпяці. Таму пакуль недасягальнае.

Але нам ніспасланы знакі на яго. Жывыя знакі, увасобленыя ў нашых

рыб, жар-птушак страчанага намі мора, якія нястомна і няспынна аказваюць сябе, прарочаць нам доўгі век, запрашаючы на сяброўства, якому няма схону. Дзеля гэтага яны, пазначаныя серабром і золатам, выходзяць з нетраў, умываюцца крынічнымі водамі нашых старажытных рэк, грэюцца і праблiскава сушацца на сонцы.

Веданне, памяць пра тое, што гэта так, у мяне яшчэ ад бабулінай печы, на якой разам з катом я бавіў свой дзіцячы зімовы час. А бабуля распавядала таваркам пра прыгоды нашага паляшуцкага золата. Старажытныя Даманавіцкія, Петрыкаўскія ды Тураўскія клады. Толькі чамусьці большасць з іх, калі не ўсе, прыпадала на могілкі. Ляжыць прыкапанае на могілках-кладах тое золата звычайна пад спарахнелым крыжом, які ніколі нікому не належаў. А мо і належаў, ды ўжо тое забыта. Ляжыць моўчкі. Але час ад часу, каб не зайсціся і дасведчыцца, што свет яшчэ не згінуў, выходзіць на паверхню. Прарастае з трунаў, пазбаўленае тагасветнага зняволення, бо не надта ж утульна там грошам, багаццю і багацеям.

Золату таксама карціць зямнога. Абсохнуць, а заадно ўжо і пазабаўляцца, паказаць сябе хоць на могілках апоўначы. І зыркімі матылькамі, дрогкім свечкавым полымем ззяюць, гараць і скачуць каля крыжоў і над крыжамі амаль паганскай яшчэ чаканкі залатыя манеты. А ў рукі не даюцца. Здабыць іх можа толькі добрай душы і не сквапны чалавек. І слова запаветнае патрэбна. А на гэтае слова ў чалавека звычайна не толькі памяць адбіта, але і язык адняты. Да ўсяго ж, у чалавека яшчэ пад рукой павінна мецца шарсцяная чырвоная хустка, каб было куды золату ссыпацца. Пакуль жа ўсе гэтыя ўмовы не сыходзяцца разам. Але ў свой час сыдуцца, павінны сысціся. І чалавек забагацее.

Не сыходзяцца. Ні ў каго, падобна, не сыходзяцца ўсе гэтыя тры ўмовы, як і ў мяне. Але я спадзяюся, бо мне золата паказала ўжо сябе. Выйшла, явіла сябе, каб паказаць мне старажытнае рэчышча ракі, якое ўжо высахла, па якім больш не цякуць воды. Яно пазначаецца толькі ў вялікую паводку, якой калісь падмануўся мудры грэк Герадот. Палічыў вясенні прыпяцкі разліў за мора. І па гэтым разліваным моры ў залеўныя вёсны гуляюць, карагодзяцца краснапёркі. Якраз яны і прыцягваюць, вызваляюць нашае золата з палескіх нетраў. Яны самі золата, яго папярэднікі і вестуны. Я чэрпаю яго жменямі. Умываюся і саграюся ім. Назапашваю на карысць таго, каго яшчэ не ведаю, але ўжо прадчуваю.

Я ляжу пры даліне на верасовым узлобку, некалі донным, а сёння сухім рэчышчы старажытнай ракі, у цяньку навіслага над пясчаным берагам векавога дуба. Падсвядома адчуваю, што гэта мой дуб, бо некалі пад ім адпачывалі мой дзед і прадзед. Іх борць на дубе яшчэ і сёння не спарахнела. А на абсечанай маланкай вяршыні дрэва старая буслянка. А ў ім звесілі чырвоныя дзюбы, пазіраюць на мяне два буслы – бацька і маці – і двое белагаловых буслянят. Не выключана, адно з іх – я. Вось толькі каторае. Пад маім бокам, каля сэрца, просіцца на волю, рэжацца з пракаветнай тут грыбніцы зародак баравіка. Гэта мой зародак, гэта я са старажытнасці прарастаю грыбам.

Абуджанае і ці не падахвочанае маёй прысутнасцю колішняе рэчышча ракі залатымі і сярэбранымі пырскамі гулліва падміргвае небу, лупастаму сонцу. Вада ў новаяўленай старыцы прыхоплена сонечным агнём і гарыць. На самой справе гарыць, спадыспаду, да якой глыбіні толькі сягае мае вока і паверхнева – наколькі гэтае вока можа ахапіць, угнацца за сонечнымі

прамянямі. Пра тое, што нашыя рэкі вогненныя, я таксама ведаў здаўна. Тут мне няма ніякай навіны. Дастаткова толькі прыгадаць назву адной з пяці рэк славутай Прыпяці – Гарынь.

Такіх Гарыняў у нас процьма. Я сам у дзяцінстве не аднойчы здабываў і вызваляў агонь са Случы. Тады яна якраз мяняла рэчышча. Крута вільнула налева, спляжыла маю сцежку, абрэзала грудок, парослы лозамі і ракітнікам. Пакінула справа ад сябе непраточную ўжо завадзь – злучаную з рэчкай канаву. Не ведаю, чаму, але я ўпадабаў плёхацца і грэцца ў цёплай вадзе той канавы. А неяк утыркнуў, увагнаў у грузкае дно яе кол, абапершыся на яго, проста так – тады я яшчэ не курыў, але запалкі заўсёды меў пры сабе – узяў і чыркнуў сярнічкай. І кінуў яе ў ваду сабе пад ногі. Божа мой, як тут пыхнула, як ускінулася полымя. Я ляцеў з той канавы пераганяючы самога сябе. Хаця потым не раз вяртаўся туды і ўжо больш абачліва зноў і зноў здабываў рачны агонь.

Цяпер жа ці не такі агонь стварала рыба. Краснапёрка, што толькі адбілася ці працягвала біцца, жывіць колішняе рэчышча ракі. Доўжыць на мігі, імгненні яе, а гэта значыць і маё жыццё, складзенае з такіх вось бласлаўлёных хвілінаў, якія не ідуць у залік майго жыцця.

Краснапёрка, калі меркаваць па яе вёрткасці і хуткасці ў вадзе, зусім невялічкая. Але я таксама займаю ў дараванай мне прасторы не так ужо багата месца. Увогуле мы, палешукі, не любім адсвечваць і вытыркацца.

Я стоена ляжу на верасе пад дубам. Наглядаю, цікую і пільную жыццё, што знікае і нараджаецца ў мяне на вачах, за мігатлівым лётам адлітага з серабра і золата часу, яго куль, што няздольны нікога забіць. Прызначэнне якіх толькі адраджаць.

Гэта, пэўна, і з'яўляецца нятленным працягам жыцця. Бессмяротнасцю вечнага спакою заўсёды жывой памяці.

## ПРА НЯЎДОХУ КАРПА НА ПАНСТВЕ

Усе ведаюць, карась любіць, каб яго смажылі ў смятане. Карпу ж больш да спадобы быць фаршыраваным. Даўно і агульнавядома. Яшчэ з часоў цара Гароха. Калі той жа, яшчэ не фаршыраваны, жывы карп у краме і на базары каштаваў дзевяноста капеек кілаграм. Але дробны. Папраўдзе так – дробны. А вось за рубель дваццаць – вялікі. Вельмі вялікі, можна нават сказаць, буйны. Карась жа таксама, гледзячы па памерах, оптам і ў розніцу – наўкруг ішоў па шэсцьдзесят капеек. Жыў жа цар Гарох дый людзі вакол яго.

На карпа вялікага быў і попыт вялікі. Асабліва на залацістага. Не ажыятажны, зразумела, як на тую ж туалетную паперу, але... Карпаў хапала на ўсіх. Даваць яго – у тыя часы, такая ўжо была завядзёнка, усё толькі давалі, а не прадавалі – звычайна па восені, калі ён акурат падыходзіў, паспяваў пад фаршыраванне. І кожная луска на ім – дарэчы, таксама буйная – як залаты медаль на грудзях правадыра і генеральнага сакратара партыі.

Карась жа, хоць і больш танны, такім попытам і папулярнасцю не карыстаўся. Пустазельная рыба. Прысмакталася, расце каля карпаў, што пырнік на градах. Ні даглядаць, ні карміць яе не трэба, адно – прапалваць, каб не засмечваў культурную прастору. А да ўсяго, карась гэты з душком яшчэ, ціна́й патыхае нават на патэльні ў смятане. Бамжаваты, не

разборлівы ў выбары месца жыхарства. Боўтаўся і плёхаўся, пачуваўся як дома ў кожнай сажалцы і лужыне – вераб'ю па калена – пры кожнай жывёлагадоўчай ферме сярод яе сцёкаў. І нават у копанках паблізу сучасных энерганосьбітаў – бензазаправачных станцый. Расце і плодзіцца. І хто ведае, мо гэта папярэднік будучага чалавека?..

Так, раней, пры тым жа цару Гароху, былі часы, цяпер жа спрэс адны м а м е н т ы: пячкур плотку згроб – плоціць аліменты. Не, не адны толькі цары, але зрэдку і пралетарыі дапускаліся да вялікага карыта, былі карыстальнікамі таго, што Бог паслаў – дароў прыроды, праўда, рэшткамі іх, косткамі з царскага стала. Выпадалі яны і фаршыраваныя, і ў смятане. Каму ўжо што на родзе прапісана. Але ж карп і карась заўсёды былі і заставаліся што ні на ёсць самай пралетарскай і для пралетарыя рыбай. Таму апошнія добра і без прымусу засвоілі: лепшая рыба – мяса, лепшае ж мяса – каўбаса. А з гэтым лепшым было туга. Мо якраз таму і людзі, і рыба таго часу палюбілі чацвер і абвясцілі яго святочным днём. Без пазначэння, праўда, чыё ўсё ж, каму ў той дзень свята.

Нічога благога, хаця крыху і гнюсна, шыварат-навыварат, як шмат чаго тады. На адной шостай зямной сушы сумесна святкавалі карасі з карпамі і людзі. Не тое што сёння, калі ад аднаго толькі позірку на кошт карпа можа прыкінуцца мядзведжая хвароба: танчэй саломінкі, вышэй харомінкі. Той жа карп фаршыраваны ў нашых кавярнях і кулінарыях узляцеў у цане да касмічных высяў, узрос у сто – сто пяцьдзясят разоў. Неяк нават непрыстойна мне, пралетарыю, услых агучваць цану, а есці таго карпа можна хіба толькі ўпрыглядку, як Хаджа Насрэдзін спажываў нешта сваё, вельмі нацыянальнае: насалоджваўся пахам ежы, плаціў звонам сярэбраных манет.

Але ці варта ўсцешваць сябе і сваё чэрава не цалкам яшчэ сёння адмерлай памяццю тае пары, калі пра карпа ў слоўніках не без пагарды пісалі: прэснаводная касцістая рыба сямейства ляшчоў, сазанаў. Непераборлівая. Водзіцца паўсюль ва ўгрэўных вадаёмах. У дзікім стане на поўдні так і завецца – сазан. На Украіне кораб і корап. А ў нас не мудрагеліста: карп. Таму што гультаяваты і марудлівы, корпаецца, калупаецца ў прыдонных мулу і глеі, сціраe нос. А таму карпаты ці кірпаты – кірпаносы. Увогуле нешта накшталт воднага парасяці. Магчыма, менавіта апошняе прыйшлося па густу нашым прашчурам. А мы, іх нашчадкі, не набраліся духу аспрэчваць.

У нашых жа мясцінах, на каляпрыпяцкім Палессі, нягледзячы на дастатак яшчэ са старажытнасці разнастайнай рыбы, у тым ліку колісь асятра і бялугі, карпа паважалі. Не ляшча, не сазана, а менавіта карпа. Недзе яшчэ трохі болей за паўстагоддзе ляшча і за прыстойную рыбу не прымалі. У Случы, калі ён ішоў на нераст, можна было вясло старчма ставіць, і яно не падала. І бралі яго, ляшча, мяхамі, везлі падводамі. Ён, запечаны і высушаны на саломе ў печы, быў даволі смачны і надта прыдатны вясной ці ўлетку ў баршчах, куляшах асабліва падчас царкоўнага посту.

Сазан жа на гомельскім Палессі трапляўся зрэдку і быў мясцовым рыбакам амаль невядомы. На Жыткаўшчыне вадзіўся пераважна ў Княжай старыцы каля вёскі Княжбор. Рэчышча і сапраўды як вынырнула з пячорных часоў, панылa і пахмурна закурадымленае, закалоджанае. Непадступнае і загадкавае, нібыта там яшчэ захаваўся той жа пячорны першабытны чалавек і нікога не падпускаў. Яно то амаль цалкам знікала, як паглыналася зямлёй, пакідаючы толькі латачку, што вочка, толькі

невядома чые ці каго. Невядома адкуль і з якіх стагоддзяў пазіраючы на сённяшні белы свет, невядома за кім цікуючы, каго пільнуючы. След былой бягучай вады завужваўся, спечана, сукравічна ссядаўся да непраходнай дрыгвы і багны, плыткага донца верацённа сточанага ўюнамі, каля сыходна тагасветных нор якіх коўзаліся вялікія і гідкія чорныя жукі-падальшчыкі з рудым падчарэўем.

Такое звычайна надаралася пасярэдзіне надта ўжо спякотнага і сухавейнага лета. Але прыходзілі і праходзілі восень і зіма, брала сваё вясна і старыца, неахопная вокам, разліўна і шырока, казачна паўставала зноў. Што дзіўна, з рыбай, якая даросла і бессаромна паказвала сябе –нераставала, жыравала, буяніла. Такім чынам сазан быў жыхаром двух царстваў, гэтага і таго свету. Яго адчувальна пабойваліся. Хаця старыя людзі кляліся, што нічога смачней за вока сазана ў жыцці не спыталі: са сподак – вядро карчоўкі, мясцовага самагону, пад яго і, прабачце, – ні ў адным воку. А якім быў той сазан, вольны ўявіць сабе самі.

Карп жа набыў вядомасць таму, што быў тут пераважна халяўны. А на халяву, як сведчаць дапытлівыя людзі, і воцат салодкі. Сам па сабе ў дзікім стане ён амаль не сустракаўся. Меў славу дармаеда, пястуна белапольскіх панскіх сажалак, а пазней савецкіх рыбгасаў. Карпаў штучна разводзілі ў адмысловых гадавальніках. Перасаджвалі ў сажалкі, дзе яны выгульна набіралі вагі, без шкадавання сыпалі ім зерне, жыта і пшаніцу, спецыяльна распрацаваны камбікорм. З цягам часу, больш па восені з нагульных сажалак спускалі ваду і адлоўлівалі ўжо так званага таварнага карпа. І хуценька, хуценька, пакуль ён не зайшоўся, асфальтам і бетонам, мінаючы вясковыя хаты, падворкі, печы і сталы жывога, засоленага, вэнджанага везлі ў асалоду вялікіх гарадоў, абласных і сталічных – на Беларусі ж, вядома, тры сталіцы: Мінск, Бягомль і Плешчаніцы, а яшчэ ж ёсць і Масква. Везлі часам без прамежкавых кропак і супынкаў проста на сталы патрэбным і вельмі патрэбным рыбгасу, краіне ды і ўсяму чалавецтву людзям. Што садзейнічала, не магло не садзейнічаць у відушчых, але не маючых рыбы людзей абуджэнню свядомасці і пралетарскага гневу. Найбольш у жыхароў навакольных вёсак і мястэчак.

І таму цалкам зразумела і натуральна, што карп у пэўным полаваспелым узросце пачынаў наравіцца, натурыцца, сыходзіў у прочкі, як бы эмігрыраваў да сваіх не прынаджаных і не прыручаных сабратаў – ляшчоў і сазанаў. Падобна сам нават узломваў краты, скідваў завалы, уздымаў засаўкі запрудаў у знак салідарнасці і далучанасці да вольных галадранцаў і злыдняў тубыльцаў. А ўжо сужыхары гэтых тубыльцаў, самі тубыльцы – знаку няма дзе ставіць – добра ведалі гэты ўрочны час шалу з раскошы адзяржаўленага карпа, яго сыходу з камуністычна-размеркавальнай Меккі. І не толькі ведалі, але і спрыялі яго святой вызваленчай справе. Бо гэта сведчыла і аб надыходзе да векавых падворкаў сытнай і наварыстай восені, гарачай пары на сенажацях і ў полі, што прыпадала якраз у кароткі прамежак паміж яблычным і мядовым Спасам. Калі над першымі атавамі, прырэчнымі асокамі і азёрнымі чаротамі задаволена і цяжарна падрыгвалі рудзенькімі кольчатымі хвосцікамі асалавелыя ад спёкі стракозы, а конікі на пазгрэбанай ужо кашаніне падобна цацачным заморскім бумерангам сонна ўздымаліся з-пад самых ног чалавека і адразу ж вярталіся амаль туды, дзе склаўшы крылы ціхмяна сядзелі раней, пад шэрыя калашыны мужчынскіх сярмяг.

Якраз такой парой, пад час адлову ў рыбгасах рыбы, карп і здабываў сабе волю. Нечакана ў зонных, ахоўваемых сажалках пазначаліся прарэхі, дзіркі ў кратах, прарывы і праломы ў раўцах і запрудах. І карп без перашкодаў свежай сцёкавай вадой імкнуў да сапраўднага жыцця па каналах, якія злучалі сажалкі з ракой. І людзі ўжо прадчувалі яго з'яўленне.

Вада ў рацэ, да якой іх яшчэ падпускалі, з-за сажалкавых рыбгасных зліваў прыбывала, згушчана цямнела ад узнятага мулу і рэшткаў корму панскіх гадавальняў. У ёй цяпер балявалі, сыціліся і нагульвалі тлушч мясцовыя бязродныя пячкуры, вёрткія і пранырлівыя плоткі, якімі ў сваю чаргу ласаваліся акуні са шчупакамі, адмаўляючы самай вытанчанай рыбацкай прывадзе. Дымчата гусцела, здаецца, і паветра над вадой, пацяснёнае нашэсцем таксама ласых да халявы птушак і гнюсу.

Вясковыя вудзільшчыкі ў такую пару аддавалі перавагу ловам у прылучаных да ракі азярынах, старыках і старыцах. Цягалі вольных ужо дзяржаўных рыбгасаўскіх карпаў. Вялікіх, тлустых і багата. І ў самых непрадказальных мясцінах. Халяўны прышлы карп, здавалася ім, быў больш сакавіты і смачнейшы за тутэйшага, дзікага – не патыхаў балотам і быў салодкім. Да ўсяго часцяком трапляўся ён спрэс залацістым ці срэбным, амаль безлусковым. Таму тубыльцы і палявалі за ім, як, дарэчы, і я. Хаця вываджваць яго асаблівай асалоды не давала. Быў ён слабейшы за дзікую мясцовую басоту. Рабіў, як заведзена, магутны рывок – паўкруга ў вадзе, спрабуючы пакласці леску на спінны плаўнік, дзе ў яго мелася даволі вострая пілка, спрабуючы перапілаваць, перарэзаць жылку. Але хутка выдыхаўся, клаўся на ваду плазам, і, ужо хапіўшы свежага, насычанага кіслародам паветра, ачмурэла цягнуўся за жылкай у рукі. Я не стамляўся кожны раз з пільнасцю прыглядацца да яго. Мроілася, што ў яго буйной, вызубленай па краях лусцэ тоіцца пісанае золатам і срэбрам пасланне мне. І я разгадваў тое пасланне ў чарапковай шчарбатасці карпавага ўжо небыцця і суму. Безвынікова, зразумела. Што яшчэ не дадзена нам, тое не дадзена.

І хто ведае, ці не гэта падзвігла мяне, калі ў маім жыцці надарылася вялікая радасць – я атрымаў кватэру ў Мінску – адзначыць уваходзіны фаршыраваным залацістым карпам. Гэткае сціплае і даволі таннае на той час, хаця і трохі людажэрнае жаданне. Выправіўся па карпа за трыдзевяць зямель, у роднае мне Палессе – есці, дык ужо сваіх. У рыбгас добра мне вядомы, выхаджаны рыбалкамі, без браканьерства, і ціхім паляваннем на грыба, бо лепшых, больш спелых і магутных бароў я нідзе, ні на Беларусі, ні ў Сібіры не сустракаў. Бароў яшчэ некранутых ні сякерай, ні пілой з белапольскага часу, на дзіва ўрадлівых на баравікі. І сам рыбгас быў створаны яшчэ за тым жа польскім часам. Ці не самы лепшы, самы заможны тады на Гомельшчыне. Той самы, з якога карп напрыканцы кожнага лета збягаў на волю. Дырэктарам рыбгаса быў чалавек са знакавым прозвішчам Рыбалка.

На Палессі пра яго складалі легенды. Па-першае, ён быў, здаецца, непадуладны ўзросту – гэткі палескі Мафусаіл, па-другое, лічыўся непатапляльным. І, падобна, не ведаў стомы, ніколі не спаў. Удзень і ўначы сам за рулём калясіў на газіку па сажалкавых дамбах. Днём і ноччу над ціхімі водамі, акантаванымі чырванню маліны, да непрыстойнасці заселенымі дзікімі качкамі і качурамі – нібыта яны былі што ні на ёсць свойскімі – гучаў яго магутны мядведжы рык:

– Прекратите ловить рыбу! Прекратите ловить рыбу!

Гучаў у незалежнасці ад таго, лавіў тую рыбу хто, браканьернічаў ці не: жалезная перакананасць і ўпэўненасць чалавека і начальніка тых дый пераемна сённяшніх дзён – калі маецца што ўкрасці, то павінен быць і злодзей. Нязменная выснова сацыялістычнага ладу жыцця, пэўна, і далёка наперад ладу жыцця нашага будучага. Неаспрэчнасць сцвярджэння мястачковага ўладарання, прадбачлівасць у спалучэнні з беражлівасцю –партрэт наменклатуршчыка сярэдняга звяна. Ці не гэтым тлумачыцца заможнасць яго гаспадаркі. А яшчэ, на маё сённяшняе разуменне, тут браўся пачатак з'явы будучай – махровай карупцыі і хабарніцтва ўжо цяперашніх.

Рыбалка гадаваў і ўтрымліваў не толькі карпаў і іншых айчынных, прыдатных да стала рыб, але займаўся і вывядзеннем бесцера – скрыжаваннем бялугі і сцерлядзі. Развёў незразумелую на Беларусі амерыканскую рыбу буффало. Я неяк нават сам спадобіўся злавіць яе. Нешта прагоністае і серабрыстае, на паўкілаграма. Уважліва не паспеў разгледзець, памясціў гэта заморскае буффало ў драўлянае айчыннае карыта, што трапілася на вока. Адсадзіў ад іншай айчыннай рыбы ў маім садку. І, пэўна, гэтым карытным утрыманнем абразіў высакароднага амерыканца.

Маё буффало абурылася ледзь толькі я схіліўся над ім, зняважаным вясковым майном, струнна натужылася і порстка праменька з карыта стрэліла ў абвадны канал, дзе знаходзілася і да гэтага, пеставанае Рыбалкам.

Вось такі, па-тубыльску прадпрыймальны і па-амерыканску дзейсны быў паляшук дырэктар рыбгаса Рыбалка. Напрыканцы свайго рыбнага ўладарання, па сведчанні мясцовых людзей, вырашыў пабудаваць у палескай глыбінцы не што іншае, як аэрадром. Каб блакітныя лайнеры з жывым салёным і вэнджаным карпам напрасткі, без перасадкі: Рыбгас-Мінск, Рыбгас-Масква. І хто ведае, Рыбгас-Нью-Ёрк?..

Але гэта ўсё да слова. Да чаго выбітны і знакаміты наш айчынны непаглядны – касцісты і не надта спажыўны, на самой справе пралетарскі карп. Да чаго ж багатая і павучальная біяграфія яго, здавалася б, сціплага і цалкам застойнага жыцця.

Рыбалка поўнай мерай забяспечыў мяне самым што мае быць паўнавартасным і паўнаважкім – кожны пад тры кіло – карпам залацістым. Але амаль што адразу перада мной паўстала і новае пытанне – гатаванне карпа. Я ўжо казаў пра любоў гэтай рыбы да фаршыравання. А як вядома, лепш за ўсіх з фаршыраваннем спраўляюцца яўрэі. Цяжкасць крылася ў тым, дзе знайсці такога яўрэя. Яны ж на той час амаль усе з'ехалі, сышлі на сваю гістарычную радзіму. І ўсё ж адзін знайшоўся. Мой былы сябра Міша Ройтман, які выдаваў сябе за выбітнага кулінара, асабліва па рыбе.

Міша адразу, дзеля безумоўнага выканання рэцэптуры фаршыравання карпа, запатрабаваў літр гарэлкі. На маё асцярожнае пытанне: "Ці не занадта?" – шакаваў мяне: "Ну тады паўтара літра". Сышліся на літры з чвэрцю. Чвэрць адразу ж спажылі – за пачатак і ўдачу. Застаўшыся сам-насам з карпамі і літрам гарэлкі, Міша вытурыў мяне і жонку з кухні. Замкнуўся і чарадзеіў у адзіноце, як мне сёння здаецца, не меней паўнавартаснай працоўнай змены – да падыходу гасцей. Жонка сказала: не інакш каня фаршыруе.

Памылялася. Не, не каня, нашых залацістых безлусковых амаль карпаў. І каб не вяртацца болей да гэтага, скажу: Міша Ройтман быў не толькі адмыслоўцам у фаршыраванні карпаў, але наогул вельмі здольным чала-

векам і на ўсё іншае, датычнае кухні і рыбы. Таленавіты чалавек – таленавіты ва ўсім. Пасля здзейсненага Мішам працэсу фаршыравання мы з жонкай не менш за месяц скраблі, чысцілі і мылі кухню. А яшчэ з паўгода здзіўляліся, да чаго ж лускаваты бязлусковы залацісты карп, здымаючы яго залацінкі нават са столі.

Але трэба аддаць належнае, фаршмак Мішы Ройтмана, хаця і карпавы, быў на ўсе сто з хвосцікам. Гэта адзначылі і рэдакцыя газеты "Советская Белоруссия," і рэдакцыя часопіса "Нёман", што прыйшлі на ўваходзіны амаль у поўным складзе. Пэўна, натхнёныя тым фаршмакам дзяўчаты з "Советской Белоруссии" кінуліся гайдаць галоўнага рэдактара "Нёмана" Андрэя Ягоравіча Макаёнка. Ды так, што неўпрыкмет ўскінулі і пасадзілі яго на шафу, дзе з-за нізкай столі панэльнай кватэры сядзелася яму, шчыра скажам, не надта ўтульна. Хаця ён і рагатаў.

Гэты факт адразу ж быў зафіксаваны для гісторыі фотакарам "Нёмана" Анатолем Калядой. Але ж здымак разам з негатывам пацярпеў ад жорсткай цэнзуры намесніка Макаёнка па часопісу Георгія Папова. Быў канфіскаваны, каб у будучым прад той жа гісторыяй і нашчадкамі не дыскрэдытаваць Народнага пісьменніка Беларусі.

Ішоў час. У далёкім мінулым засталіся многія названыя тут дарагія мне людзі. А многія з іх незваротна пайшлі ў нябыт. А нітачка, якая яшчэ ў маленстве звязала мяне з залацістым карпам-пралетарыем, не толькі не абарвалася, але стала і больш трывалай. Падобна, сапраўды на лусцы яго прапісана пасланне да мяне ці да майго сына. Да чалавека. Таму, хто ўсё ж некалі зразумее яго і прачытае. Дойдзе да чытання і разумення ўсіх жывых моў нашай планеты. Павінен дайсці, бо без гэтага няма працягу нікому з нас. Так адзіна і згуртавана, самі не цямячы пра тое, плячо ў плячо жывуць усе пралетарыі. Так шточас сыходзяцца і перасякаюцца іх лёсавыя таго і гэтага светаў сцежкі. У нашым жа існаванні без дай прычыны нават камар не чхае. І выпадковасцяў на свеце няма – адно толькі недасведчанасць нашая і таму абыякавасць кожнага з нас да сябе, патуранне сабе.

Мая памяць пра залацістага карпа паступова сціралася, атухала ў чарадзе і бязладдзі дзён. Здавалася, вяртання да яго ўжо і не будзе. Я чарсцвеў душой і скурай, падобна чарапасе ўжо ці не цалкам убіраўся ў збудаваны мной жа касцяны панцыр. Адно толькі пыса трохі вонку ды нешта накшталт ног, і то надта ж кароценькіх, зусім не для бегаў – сродак паўзучага перасоўвання пераважна па набітай дарозе.

Але тут нечакана ў мяне з'явілася дача. Колішні патомны вясковец ад нараджэння знітаваны з ідыятызмам, як некім удала моўлена, вясковага жыцця, я спакваля пачаў вяртацца да гэтага ідыятызму – да самога сябе. Прыдбаў зямлю, пабудаваў хату ў вёсцы.

Суседам у мяне ці я ў яго апынуўся генеральны дырэктар будаўнічай фірмы "Рацыянальны беларускі дом". Такое сужыцельства, як ні круціся і не прыбядняйся, патрабавала адпаведнасці, калі і не хочаш, але мусіш пнуцца і надзьмухацца, як тая жаба. Гэтым, пэўна, і тлумачыцца тое, што я згадзіўся з прапановай генеральнага дырэктара. А задумалі мы сваю суседскую рацыянальнасць давесці ці то да дасканаласці, ці то да поўнага ўжо абсурду. Выкапаць паміж нашымі рознавялікімі хатамі сажалку. Запусціць рыбу – карпа залацістага і... Думаю, што ўсё тут зразумела і без лішніх тлумачальных словаў.

Прырода з фаўнай і флорай, падобна, спрыяла нам, памясціўшы паміж

нашымі сялібамі, іх межамі невялічкую балацінку з някідкай і сарамлівай на ўскрайку яе сярод космаў лазы і чаромхі гаваркой крынічкай. Таму ў нас не было патрэбы лішне намагацца і выжыльвацца з карчаваннем рэчышча будучай копанкі. Адно толькі – зберагчы, захаваць крынічку, высякчы збольшага лазу і прачысціць, паглыбіць балацінку.

Сыходзячы з маіх магчымасцяў і сілаў, я меркаваў: пяць, дзесяць рыдлёвак, столькі ж дурняў з сякерамі. І суботнік, ленінскі, што значыць не працяглы, які ўжо доўжыцца ў нашай краіне ці не шаснаццаць апошніх гадоў. Планы і меркаванні генеральнага дырэктара рацыянальнага беларускага дома былі цалкам супрацьлеглымі маім, куды больш маштабнымі, амаль глабальнымі. Недарэмна праз пэўны час яму прыйшлося лахі пад пахі і бегчы з Беларусі. Не азіраючыся аж да самай Масквы. Пужанулі на самым версе, вышэй ужо некуды. У адказ на яго велічныя планы і задумы спыталі: а хто сядзець будзе? Генеральныя дырэктары сядзець не любяць.

А ў канкрэтным жа выпадку з азярцом усё звялося да таго, што генеральны дырэктар прыгнаў свой фірмовы экскаватар. Мой удзел у дачным праекце палягаў толькі ў тым, каб забяспечыць таму экскаватару праход, зялёную вуліцу па прасёлку, што вёў да нас.

Здавалася б, чаго прасцей. Але толькі зірнуўшы на той экскаватар, я ледзь устояў на нашай палявой дарозе. Гэта быў зусім не для нас экскаватар, а паравоз, адно на гусеніцах. Мастадонт ці не марсіянскага паходжання. Пяцьдзясят тон жывой вагі без уліку паліва і гразі, на мазаўскай платформе. Са стралой, узнесенай да шчыкоў мачтаў лініі высокавольтных электраперадач, як назло густа пастаўленых на подступах да нашых хатаў. Зноў жа, як назло, з правіслым нізенька да зямлі, што ў цяжарнай сукі чэрава, дротам. Як усё гэта ацалела непавальна і непарвана пасля праходу таго іншапланетнага пудзіла – пытанне нашчадкам.

Мы – гэта я, мая жонка і жонка генеральнага дырэктара – вялі яго з такой жа жорсткай рашучасцю і трапяткой зацятасцю, як Іван Сусанін у свой час ляхаў. Забягаючы трохі наперад, скажу: лёс яго быў такі ж, як і ў тых ляхаў чатырыста гадоў таму – дэжа вю. Усё паўтараецца. Толькі нам больш пашчасціла.

Правялі мы таго балвана. Забяспечылі праход. І ён, не марудзячы, адразу ж прыступіў да працы. І адразу ж, ці не хутчэй за колішніх палякаў у лясных нетрах, на вачах пачаў знікаць. Тануць і грузнуць у неўстаялай яшчэ, вяснова-падатнай глебе. Відовішча было ашаламляльнае. Зямля хіжа прагнула паглынуць, зацягнуць ці не на той свет пяцідзесяцітонна ўссеўшага на яе грудзі ідыёта, пакараць за гвалт і здзек, грэбліва квахтала пухірамі паветра і бруднай вады. Ён жа ліхаманкава і хапатліва насядаў на яе, прыпадаў да яе плоці трохзубым сталёва бліскучым ротам каўша, скрыготна дзёр і скроб. І адступаўся, адступаўся, амаль малітоўна, як вернік, а хутчэй антыхрыст, пакідаючы царкву Ганебна ўцякаў, адпаўзаў ад яе расплясканага і бессаромна аголенага цела.

Выдзіраў з каранямі па жывому лозы, ламаў, што запалкі, трох –пяцігагадовыя асінкі і рабіннік, крушыў стракатa рабыя ствалы пракаветных чаромхаў, якія генеральны дырэктар наказваў нам асабліва берагчы. Але паспрабуй, уберажы пры непадробным сполаху самога экскаватаршчыка і яго балвана экскаватара. Яны, суладна падпарадкаваныя адно аднаму і, пэўна ж, сумеснаму страху і жаху, рашуча і назаўжды задушылі, стапталі крынічку, яе Богам удыхнутую душу. І цяпер душагуб балван, сутаргава

ўсхліпваючы дымам і пакалыхваючы мазутна чорным магутным азадкам, клыпаў, адступаў і адступаў назад, нібы адмаўляўся, адхрышчваўся ад сатворанай брыдоты. І тварыў паскудства і брыдоту новую.

Ён намацаў і прасадзіў, парваў сваім невымерным цяжарам даволі глыбока закапаныя ў зямлі кабелі, што забяспечвалі сялібу электрычнасцю. Пазбаўленая святла, энергіі дача генеральнага дырэктара імгненна была адкінута ў сярэднявечча. Мастадонт зґвалціў, паздзекваўся над балотцам, усім, што мелася вялося, расло і жыло ў ім. Пасля чаго задышна выбіўся з яго і стаў на цвёрды дарожны грунт. Але і зямная цвердзь прагнулася і раптоўна падламілася пад ім. І экскаватар зноў пачаў знікаць, апускацца ўжо невядома куды. Пайшоў у падземнасць – наскочыў, пэўна, на плывун. І застаўся ў яго плыткіх вадзяна пясочных абдымках назаўсёды, вытыркнуўшы толькі вонку шкляное засмужанае вока кабіны. Помнік невядома каму і чаму, якіх на нашай бацькаўшчыне процьма.

Калі мы ачомаліся і зразумелі, што яго з’явішча перад намі ў такім стане ўжо незваротна, а яміна, сатвораная ім, пачала набрыняць вадой, адчулі, што прыспявае час абзаводзіцца і рыбай. Зарыбляць наш вадаём. Канечне ж, карпамі. Няхай і не залацістымі, але неадкладна, каб за лета яны нагулялі, набралі вагі і былі гатовы калі ўжо не да фаршыравання, то да смажання ў смятане, як карась. Паколькі мой удзел у капанні катлавана быў нязначны, я павінен быў кампенсаваць гэта зарыбленнем. Па рыбу, малькоў, зноў паехаў на Палессе, па знаёмым адрасе. Рыбалка даўно ўжо быў на пенсіі. Але і новы дырэктар рыбгаса пранікся нашым жаданнем займець у прыватным карыстанні сваю сажалку, а ў ёй залацістага карпа. Не выключана, што менавіта гэта схіліла яго да нашай задумы – у кожным жа з нас заўжды жыве дзіця. І чым бы яно не забаўлялася, абы не плакала. Дзіця, якое дае падставы адбыцца сталасці без пазачаснай абыякавасці і стомы. І на дачу я вяртаўся з трохвядзёрнаю біклагай малькоў карпа, пераважна залацістага, прыгожага і жвавага.

Адбылося гэта напачатку вельмі клапатлівай і шматабяцальнай вясны. І я быў усхваляваны і рады, як тая баба, што купіла парася. Але пра бабу з яе парсюком я ўзгадаў ужо значна пазней, калі, як кажуць, адышлі кветкі і завязаліся ягадкі. Пасля ворыва і пасяўной на палетках прыспеў час іншых клопатаў. Баранавання, прарэджвання, хімічнай праполкі, падкормкі і г. д.

Нашыя залацістыя карпы ў нашай жа дробнаўласніцкай сажалцы пачуваліся як і належыць ім – нібыта ў сябе дома ці ў Хрыста за пазухай. У сонечныя дні блазнавалі, бойка і гулліва паказвалі сябе, бегалі слюдзяна празрыстымі чародамі, кропельна асвячалі ртутным серабром зялянiну прыдоннай травы, што дзе-нідзе пачала ўжо пракідвацца ў копанцы. Медалёва праблісквалі завяззю лускі па баках і рдзяна чырвонай меддзю іголкавых, яшчэ не ўмацярэлых плаўнікоў.

Але з нейкай пары я пачаў прыкмячаць на паверхні сажалкі размаіта стракатую плеўку, нібыта недзе паблізу выявілася нафта. Нябачнымі падземнымі атожылкамі дасягнула водаў нашай сажалкі. Я збіраў тую плеўку штодзень ранкам і ўвечары. І мне здавалася, ранкам расплыў яе меншаў. Але наступным днём яна зноў брала сваё, павялічвалася. Я, пэўна, так бы і застаўся ў непаразуменні да восені – часу паспявання і адлову карпаў, калі б аднойчы на світанні не ўбачыў з вакна хаты каля нашай сумеснай з генеральным дырэктарам сажалкі парад ці выставу сельскагаспадарчай тэхнікі ў баявым працоўным стане.

Не менш за дзясятак трактараў з рознымі прычапнымі прычындаламі выстраіліся на бульбяным полі паблізу нашых з суседам сядзібаў. Некаторыя з іх цішком папыхвалі сіненькімі струменьчыкамі салярных дымкоў. Але ў большасці рухавікі былі заглушаныя і каля іх было вымарачна пуста. Нібы гэта была нейкая іншапланетная тэхніка. Звалілася з космасу і працавала без удзелу чалавека.

Але чалавекі былі. І не зялёненькія, як належыць прыхадням, а белыя, хаця і мурзатыя – тутэйшыя трактарысты. Медытыравалі, кайфавалі на беразе сажалкі. У кожнага свой кусцік лазы ці чаромхі. У кожнага свой лапік зямлі. І, зразумела, у кожнага па вудачцы – ладным дрыну з прымотанай да яго канца жылкай. Трактарысты рыбалілі. Аблоўлівалі нашую сажалку. Лавілі нашых, маіх, залацістых карпаў. Кідалі іх у замазучаныя пакарабачаныя вёдры, ад якіх разыходзілася па вадзе вясёлкавая бэзавая плеўка. К восені нашая сажалка была пустая, як ялавая карова. Справа ў тым, што яна не мела агарожы, была як бы калгаснай. Адразу ўсіх і нічыёй, пэўна.

Да скнарасці ж, прагі халяўнага набытку рыбы, на маю думку, у шматлікіх рыбакоў, не толькі трактарыстаў, знайшліся і іншыя прычыны. Не сумняваюся, не ў адным з іх яшчэ не адмерла рудыментарнае, непазбытае старажытна-прытоенае адчуванне вінаватасці, нячыстасці такой здабычы. Але гэта, як і паўсюдна сёння ў кожным абдзеленым ці ў тым, хто лічыў сябе такім, толькі распальвала хцівасць і крыўдаванне адразу на ўвесь белы свет. І амаль эратычна ўзрушвала і ўзбуджала. Змагацца з гэтым немагчыма, вядома з кастрычніка 1917 года. І нічога тут ужо, як гаворыцца не паробіш і не пераробіш, нічога не папішаш. Такая ўжо наканаванасць у святога пралетарскага гневу і пачуцця справядлівасці і роўнасці, што паўторна даказана, на гэты раз без крыві, у Белавежскай пушчы на Беларусі ў 1991 годзе...

Трактарыстаў улетку змянілі вясковыя хлапчукі. Атрымалі адпачынак ад непасільнай вучобы ў школе і дазвол на спусташэнне і рабаванне чужых садоў, агародаў і, само сабой, экспрапрыяцыю жыўнасці буржуінскага вадаёму. Вопыт такой пралетарскай прыхватызацыі – жабрак, спяшайся абрабаваць жабрака, а не то ён абрабуе цябе і будзе задаволены – назапашаны ці не на працягу ўсяго апошняга стагоддзя і працягваў памнажацца і ў стагоддзі новым. Такім чынам восенню ад нашых залацістых карпаў не засталося і знаку – ні хвосціка, ні лускавінкі.

Хаця гэта – ні хвосціка, ні лускавінкі – канчаткова і даволі пераканаўча высветлілася наступным летам. Жабракі народ жывучы, вынаходлівы і трывушчы. Залацісты карп-пралетарый загартаваны дбайнасцю аб яго лёсе адразу чатырма рэвалюцыямі, што прыпалі на яго долю, прыстасаваўся выжываць і ў непамысных, несумяшчальных з жыццём умовах, чаго не дамагліся ні мамамнты, ні марсіяне.

Таму я не надта здзівіўся наступнай ужо вясной, калі сышоў, растаў лёд, і па берагах сажалкі ўсплыло з дзясятка паўтара буйных апруцянелых, канчаткова пазбаўленых медалёвага золата карпаў. Ім, мёртвым, я абрадаваўся ці не больш, чымсьці жывым. Абрадаваўся і абнадзеіўся, што яны і цяпер яшчэ не апошнія. Калі ў іх атрымалася ацалець у пору такой жорсткай, вынішчальнай да каліва тутэйшай прыхватызацыі, то яны здатныя ўберагчыся і ад прымаразкаў дэмакратыі. Тым больш, што на яе парозе – абяцанне глабальнага пацяплення.

Іх, карпаў-пралетарыяў самы ж час цяпер. Час іх росквіту і працвітання. Час іх панства, калі хоць трохі пашурупіць галавой: адно толькі ўявіць, па якім коштце ідуць яны сёння да нашага стала. І я кожным ранкам, як на працу, спяшаўся на бераг сажалкі. Мо дзе блісне, мо дзе брохне, боўтне – хвост ці што іншае пакажа. Іншае паказвалі. І часцяком. То птушкі, то стракозы, то казюркі. Але я не губляў надзеі. Сядзеў слупам, углядаўся, чакаў. Сапраўды, як у школьным сачыненні: Таццяна любіла прыроду і часта хадзіла на двор. Нічога, нічагусенькі.

Аднойчы ж, бліжэй ужо да сярэдзіны лета, выдаўся такі ранак, калі я прыйшоў да сажалкі, а яе не было. Увогуле яна была. Вялізная копанка з брудным глеевым і бязводным дном. І ўсё. І нічога болей. Разам з былой вадой збеглі ці не пад зямлю і мае жаданнікі, мае залацістыя карпы. Калі яны, зразумела, былі. Пакінулі мяне сам-насам з генеральным дырэктарам беларускага рацыянальнага дома. Збеглі, сышлі мо і таму, што не вытрымалі панства. Сорамна, ніякавата стала: крапіўная зрода не трывае панскай раскошы. З гразі ды ў князі – гэта толькі прыгожа гучыць, а на самой жа справе колькі ваўка ні кармі, а ў асла пасік большы...

Але я спадзяюся. Спадзяюся, чакаю і веру. І ўсё хаджу і хаджу на бераг копанкі, сумна зарослай цяпер чаротам і аерам. Што дзівіць, аер, здаецца мне, плача, выціскае не толькі зранку, але і пад полудзень на шабельна завостраным кончыку празрыстую слязінку. І ні сонца, ні вецер не здольныя яе высушыць і здзьмуць. А чарот, па ўсім, хвалюецца і злуецца. Хіліцца ва ўсе бакі над шэра патрэсканым да разор дном і, здаецца, з некім перашэптваецца.

І гэта нагадвае мне казку Пушкіна пра залатую рыбку. Растрэсканае карыта – асінавыя начоўкі, каля якіх маркоцяцца стары са старой. І я падобны да іх, сяджу, як на падмурку, на пастаменце кінутага тут і, пэўна ўжо наскрозь паржавелага істукана-экскаватара – колішняй маёмасці беларускага рацыянальнага дома (дарэмна хваляваліся: не будзе каму сядзець – ёсць, заўсёды ёсць, каму сядзець), у бязводдзі самотна шапаткога чароту і дурнічнага паху гаючага аеру. Праглядаю вочы, скручваю галаву, спрабуючы ўбачыць сваю залатую рыбку. Залацістага медаляноснага карпа-пралетарыя.

А раптам ён недзе для мяне ды захаваўся. Ацалеў, маецца, ёсць. А раптам, а раптам. Не такі ўжо ён вялікі пан, зробіць ласку, вернецца, пакажацца, стане даступны і мне. Ён жа як птушка фенікс – вечны, не тое, што я.

*(Працяг будзе)*



Анатоль Брусевіч



...Я не бачу ні пекла, ні раю,
Ні зямлі абяцанай абсяг...

# Вяртанне ў адсутнасць

### ЦІШЫНЯ

Калі на пыл шляхоў спадзе трывога
І вернецца нарэшце Цішыня,
Суцеш яе: яна шукала Бога,
Але нікога так і не знайшла.

На жаль, не ўсе шляхі вядуць да Пана.
Ёсць шлях, які вядзе да Цішыні.
На ім няма ні горшых, ні абраных,
А толькі вершаў бледныя агні...

### МАЁ АКНО

Маё акно без поўні і без зор.
Мароз на ім не піша свой узор.

Маё акно – варожы антысвет,
Маё акно – забыты трыялет.

Маё акно – салодкае віно.
Я п’ю яго, а дна ўсё не відно.

Маё акно – напятая струна.
Не падыходзь так блізка да акна!

## *КОЖНЫ ЧАЦВЁРТЫ*

Вясна. Халодны ветру звон.
Туман шляхі пустыя ліжа.
Сядзіць сябрына за сталом,
Ды кожны трэці сябар – лішні.

Бо кожны трэці ўжо не той,
Другім і першым з ім нягожа.
Вясна. Згубіўся за смугой
І не прыйшоў чацвёрты кожны...

* * *

Ноч – акіян пануры:
Вокны дамоў – караблі,
Якія з нябеснай буры
Вяртаюцца ў штыль зямлі.

Неба крычыць: “Спакойна!
Бура гартуе ваш дух!”
Вокны стогнуць і тонуць,
П’юць маўчання ваду.

Плача зямля: “Ранак,
Не дай ім пайсці на дно!
Ветразі жоўтых фіранак,
Дзе вы? Мне вас не відно!”

## *ВЯРТАННЕ Ў АДСУТНАСЦЬ*

Назад у адсутнасць – у белую снежную сцюжу,
У мёртвы сусвет адыходжу спакойны, як бог.
Мой розум – мяжа, за якою мінулага ружы
Скідаюць пялёсткі на вострыя руны шыпоў.

Смяецца душа ад бяссілля, ад стомы і здрады.
Мінулага ружы сплятаюцца ў брыдкі вянок.

Вяртаюся ў холад забытага райскага саду,
Да гнёздаў, разбураных некалі мною знарок.

* * *

У дзень зачыненыя дзверы
На два замкі – на ўсход і захад.
Ізноў не спяць жывыя дрэвы,
А кроплі стукаюць па даху.

То дождж, то снег, і трохі сумна,
Што зараз – ноч, а потым – ранак,
Што час – закінутая студня,
І нельга ў ім убачыць твару.

* * *

Адзін. Напалову
Нібыта рассечаны твар
Лязом. На падлогу
Кладзецца разбіты алтар.

Хай шэпчуцца думкі!
Хай рвуцца на волю цвікі!
А я агарнуся
Малітваю жоўтай ракі.

## *РАДАЎНІЦА*

Забыўшыся на малітвы,
Пакінуўшы цела труну,
Мой Дух выклікае на бітву
Маралі людской сатану.

Сябе забіваць не цяжка.
Смакуючы свету боль,
Цяжарныя Богам манашкі
Крычаць: “Мы з табой, Анатоль!”

І я паслухмяна крочу
Да іх па сямі грахах,
Па ранах, стыгматах, мошчах
З надзеяй на Божы Страх.

Падэшвамі цяжкіх ботаў
Я трушчу маўчанне дзён,

П'ю слёзы памерлых продкаў,
Вітаю пекла праклён.

### ***ПАРУШЭННЕ ПЯТАГА ЗАПАВЕТУ***

Паэт забівае Хама,
Што вершы чытаў услых.
Паэту не чутны лямант –
Ён рвецца з грудзей пустых.

Паэт забівае моўчкі,
Шануючы слова бляск.
І нават Паэта вочы
Замоўклі на ноце "ля".

І плавіцца сонца-пляма,
І промнямі б'е пад дых.
Яно забівае Хама,
Што вершы чытаў услых.

### ***БАЛЬ***

Сатана правіць баль
Шмаль
Прабівае на дзікі смех
Грэх
У вачах пустата і сон
Скон
Студзіць вусны гаркавы смак
Вакх
Памірае між кветак і
Тугі
Не хапае на ўсіх святла
План
Ціха тлее а вінны бог
Здох
Мой апошні пусты намер
Звер
Правіць баль Сатана
Хана

* * *

Мне ўнутраны голас сказаў:
"Вазьмі і застрэлься да ліха.
Калі надыходзіць адліга –
Не вартая жалю сляза!

Вазьмі сваю роспач і боль,
Кахання наіўнага комплекс,
І выплюні ў белую столь
Усё да апошняе кроплі!

І збудзецца мараў буклет,
І вернецца з выраю лета...”
Застрэліўся пэўна б, але
Не маю, на жаль, пісталета.

* * *

Даруй, мой Бог, што я адчуў нарэшце,
За што Ты ненавідзіш гэты свет.
Нашто любіць, калі жывыя вершы
Не згодныя, што іх стварыў паэт?

Калі радкі, паўстаўлыя з нябыту,
Адчуўшы моц і подых Твой святы,
Зрабіліся не светлаю малітвай,
А сведкамі бязглуздых парадыгм?

Калі ў чарговай літары і косцы,
Што мусілі засведчыць Твой працяг,
Чытаеш раптам здрадлівае “досыць”,
Бы белы сцяг, узняты на касцях?

Даруй, мой Бог, нянавісці пальчатку,
Якую Ты мне кінуў у спакой,
Я не падняў, бо я – твая асадка,
Але не верш, закрэслены Табой.

### *БУКЕТ*

Смерць нібы кветка вяргіні –
Не належыць ні лету, ні восені.
Толькі нябёсам сінім,
Толькі аблокам бялёсым,
Толькі самотным паэтам
Смерць свае дорыць кветкі –
Жоўты букет вяргіняў
І пацалунак-іней...

* * *

Хто там ведае, што нас чакае?
У пярэстым тумане жыцця

Я не бачу ні пекла, ні раю,
Ні зямлі абяцанай абсяг.

Так і цягнуцца дні-пантамімы.
Следам смерць, асядлаўшы віхор
Па фарватары сну вершалінаў
Жоўтых дрэў адплыве да зор.

### *КАРЫДА*

Восень, якая жыла яшчэ ўчора,
Падала лісцем на твар тратуараў,
Енчыла крыкам варон каля сметніц,
Дыхала поўна грудзьмі цеплатрасаў,
Сёння памерла. Плашчом матадора
Ранак зімовы мільгнуў перад тварам.
Бітва прайграная. Стомлены вецер
Шле пацалункі. Бура авацый.

Уладзімір Сіўчыкаў



...другім разам ад каго староннняга
яшчэ што мудрэйшае расчытаеш
дый пусціш у свет анекдот...

# Штодзённік

***З кнігі "Уладзевы гісторыі"***

## Візітоўка

Колькі гадоў таму падчас усесаюзнага пісьменніцкага форума, што праходзіў у Львове, загадчык гаспадарчай часткі СП Беларусі Сямён Самуілавіч Э. шпацыраваў па горадзе ў кампаніі трох кабет, пісьменніцкіх жонак.

Захацелі зайсці ў рэстарацыю, але шыльдачка на дзвярах запэўнівала, што вольных месцаў няма. Ды кавалер супакоіў дам – маўляў, зараз патрапім. Паклікаў ён непадступнага прыдзверніка і падаў таму кардонны простакутнічак...

Неўзабаве кампанія размясцілася ў шыкоўным кабінеце, а здзіваныя дамы настойліва дапытваліся, што так падзейнічала на рэстарацыйную адміністрацыю. Сямён Самуілавіч адно толькі загадкава пасміхаўся, але пасля трэцяга кілішка "Гуцульскай" раскрыў інтрыгу, "раскалоўся".

На візітоўцы з гербам, якую паказаў ён і сваім цікаўным спадарожніцам, было выдрукавана:

МАКСІМ ТАНК
(Яўген Іванавіч Скурко),
Старшыня Праўлення Саюза пісьменнікаў БССР,
дэпутат Вярхоўнага Савета СССР,
член ЦК КП Беларусі,
Акадэмік АН БССР.

Аказалася, што калі замаўляў у друкарні Сямён Самуілавіч візітоўкі Народнаму паэту Беларусі, дык пакінуў з дзясятак асобнікаў сабе. З гонарам паказаў ён і быкаўскія, мележаўскія, шамякінскія візітоўкі, якімі прынагодна карыстаўся, калі надакучвала прадстаўляцца Максімам Танкам.

*10 лютага 1992 года.*

## Зязюля

Літаратар-“узвышэнец” паскардзіўся Змітраку Бядулю, што сабрат па пяры нахабна падкочваецца да ягонай жонкі, і папрасіў паўшчуваць лавеласа.

На адной з літаратурных вечарынаў ахвочы да жаночае ласкі кінуўся да класіка паручкацца:

– Вітаю вас, дзядзька Бядуля!

– І ты будзь здаровы, зязюля! – рыфмаю грымнуў у адказ патрыярх прыгожага пісьменства.

– У якім сэнсе, дзядзька Бядуля? Чаму гэта я зязюля?! – зніякавеў той.

– А ў самым простым, у самым прамым! – адказаў, як адрэзаў, звычайна вельмі далікатны ў абыходжанні класік. – Не кладзі яйцы ў чужое гняздо!

*13 лютага 1992 года.*

## Бармэн vs драматург

За тое, што падбівалі астатніх працаўнікоў узбунтавацца супраць начальства, саслалі з рэстарана гатэля “Мінск” двух бармэнаў, Валодзю з Генам. Адкамандзіравалі іх у Дом літаратара, у бар, што мясціўся на першым паверсе, у камінная зале.

І вось неяк увечары Гена, паклаўшы рукі на стойку далонямі дагары, разгублена наракаў Міколу Сцепаненку, што лічыўся ў Доме літаратара за электрыка.

– Не можа быць! Такое са мною першы раз у жыцці!

– А што здарылася? – Мікола сербануў прастаўленай Генам кавы.

– Ты, мабыць, не горш за мяне ведаеш: грошы да яшчэ большых грошай самі плывуць, цягнуцца, нібыта прымагнічваюцца. Таму я заўсёды стараюся быць пры грашах, дый немалых. Калі не маю ў кішэні “штукі” ці дзвюх, чалавекам не пачуваюся. А сёння, сёння я сам даў кліенту лішняга чырвонца рэшты! – Гена разглядаў свае ладоні так, быццам аніколі ў жыцці іх не бачыў. – Не дадаць, не даважыць, не даліць – гэта я магу... Але даць лішку?! А ён, ты ўяўляеш, вярнуў мне таго чырвонца!

– І хто гэта “ён”? – недаверліва спытаўся Мікола.

– Ды вунь той мажны барадач у джынсовым гарнітуры. Узяў для пачатку “банку” “Шампуні” ды дзве колбы “Белавежы” на сваю кампанію...

– Ну, ты даеш! Гэта ж савецкі мільянер, драматург Лёша Дудароў! Ды за адно толькі тое, што ягоныя п’есы ставяць ў трохстах тэатрах, пералічваюць яму па дзвесце пяцьдзясят тысячаў на год! – Мікола падаў бармэну парожнюю філіжанку і паблажліва паляпаў па плячы. – Глядзі, не здай усю сваю дзённую выручку, калі раптам наведаецца сюды празаік Іван Пятровіч Шамякін!

*23 сакавіка 1992 года.*

## Беспрацоўныя

Ніна Іванаўна Прус была ў Доме літаратара за кур’ера і за прыбіральшчыцу аж покуль не выйшла на пенсію.

А муж у яе рабіў шафёрам. Аднаго разу патрапіў ён у аварыю, ледзь не забіў машынай дзяўчынку пры дарозе. Пасля таго доўга не мог адолець моцнае псіхічнае ўзрушэнне дый сесці за руль. Паставілі яго нават на ўлік у псіханеўралагічны дыспансер у сталіцы, што на вуліцы Бехцерава, дый адпаведную адзнаку ў пашпарце зрабілі.

Але час, які найлепшы лекар, браў сваё.

Ачуняў ён. Трэба ж недзе рабіць. Але адно толькі і ўмее, што круціць “баранку”. Ды хто ж яму выдасць наноў правы?!

Узяў ён тады дый спаліў свой пашпарт. А ў новым, атрыманым на падставе метрык ды вайсковага білета, дамаляваў маленькую рысачку – змяніў сваё прозвішча з Прус на Трус!

Заявіўся з тым пашпартам на Бехцерава. Атрымаў па ім даведку, што на ўліку ў псіханеўралагічным дыспансеры не стаіць, а разам з ёю – магчымасць зноў працаваць шафёрам...

А вось у сына Ніны Іванаўны праблемы з працаўладкаваннем узніклі па ягонай уласнай ініцыятыве. І праявіў ён тую ініцыятыву, калі служыў у чыне лейтэнанта ў аддзеле па барацьбе з крадзяжом сацыялістычнай уласнасці і спекуляцыяй.

Доўгі час бясследна знікалі грузы, у асноўным тавары народнага спажывання, на чыгуначным перагоне Брэст-Мінск. Весці тую справу даручылі маладому дый ініцыятыўнаму лейтэнанту Прусу.

Каб высачыць няўлоўных раскрадальнікаў, праехаў ён сам на даху таварнага вагона ад Брэста да самой сталіцы. І што ж пабачыў?! У менскім тупіку “камісія” на чале з ягоным саслужыўцам падагнала да аднаго з вагонаў машыну, загрузіла ўсё, што захацела, а потым склала акт пра раскраданне.

Падаў малады лейтэнант рапарт па камандзе, і неўзабаве выклікалі яго да начальства. Сказалі ў высокім кабінеце, што такія ініцыятыўныя, як ён, у аддзеле не патрэбныя, паабяцалі добра працаўладкаваць і загадалі напісаць яшчэ адзін рапарт – пра тое, што звальняецца па ўласным жаданні.

*12 кастрычніка 1992 года.*

## Ракаўскі салавей

Вясною выступаў паэт-песеннік Авяр’ян Дз. перад гасцямі ды супрацоўнікамі Дома творчасці і адпачынку “Іслач”, што па-над аднайменнай рэчкаю, непадалёк ад мястэчка Ракаў.

Наракаў, між іншым, на нядобразычліўцаў, якія нібыта праз творчую зайздрасць і нягледзячы на рэкамендацыі Пятра Глебкі ды Анатоля Астрэйкі, дванаццаць гадоў не прымалі яго, аўтара дзесяці кніжак, у члены Саюза пісьменнікаў.

Але калі Авяр'ян Сафонавіч заявіў, што ў "Ісачы" – салаўіным куце – у яго штодня нараджаюцца па тры песні, адна з кухарак меланхалічна зазначыла калежанцы: "Мабыць, пасля кожнага сняданка, кожнага абеду і кожнае вячэры. Бо пасля вечаровага кефіру хіба што добрае напішацца?!"

*7 красавіка 1993 года.*

## Алімпійцы

Ірына К. скончыла ў Політэхнічным інстытуце факультэт "Аўтамабільныя дарогі і гідразбудаванні" па спецыяльнасці "Праектаванне, пабудова і эксплуатацыя аўтамабільных дарог".

Атрымала яна дыплом, і накіравалі яе працаваць майстрам будаваць бетонную, так званую алімпійскую аўтастраду "Брэст-Масква".

Выйшла яна на працу, схапілася за вушы і ў першы ж дзень "накатала" дакладную начальніку будаўнічага трэста, што рабочыя – шафёры, экскаватаршчыкі, бульдазерысты – несупынна і брыдка лаюцца.

І як жа прарэагаваў той начальнік? Паабяцаў маладому спецыялісту разабрацца і нават аштрафаваць вінаватых.

Прыехаў і з алімпійскім спакоем, затое цэлым фантанам вычварных, мудрагелістых мацюкоў абклаў прараба, што падвярнуўся яму пад руку, а потым і іншых падначаленых.

*10 красавіка 1993 года.*

## Зайздрасць

Пасля творчага адпачынку вяртаўся Янка С. з абхазскага "выраю", з Дома творчасці і адпачынку "Піцунда". Палёт праходзіў нармалёва, хіба што не надта камфортна пачуваўся пісьменнік сярод дэлегатаў усесаюзнай канферэнцыі, глушцоў і нямкоў ад нараджэння.

Раптам самалёт лёг на правае крыло і пачаў мяняць курс. Паміж радоў крэслаў паспешліва прайшла сцюардэса, а неўзабаве ў салоне прагучала абвестка, што па тэхнічных прычынах экіпаж мусіць зрабіць аварыйную пасадку проста на мора.

Глянуў спалатнелы Іван Данілавіч, а суседзі ягоныя ціхамірна дрэмлюць або па-ранейшаму бесклапотна вядуць свае дыялогі моваю жэстаў ды выразнай артыкуляцыі.

Вось тады на імгненне і пазайздросціў пісьменнік глушцам і нямкам.

Але, дзякаваць Богу, усё абышлося, і самалёт удала прызямліўся ў Адэскім аэрапорце.

*15 красавіка 1993 года.*

## Канспіраткі

У сталічнай элітнай школе №19 з матэматычным ухілам у адзінаццатым класе Алеся была за старасту.

Пасля заняткаў у першую змену яна нярэдка званіла на працу бацькам, каб дазнацца, калі тыя вернуцца, і на некалькі гадзінаў прыводзіла паўкласа дадому – папіць гарбаты, паслухаць музыку, паблукаць па інтэрнэце, падзяліцца планамі на будычыню...

На лесвічнай пляцоўцы кожнага разу прачыняліся суседскія дзверы, і глыбокая пенсіянерка Соф'я Тодараўна сустракала яе неадменным "Добры дзень, Алеся!", і нярэдка частавала сваім фірмовым дэлікатэсам – печывам у выглядзе грэцкіх гарэшкаў са згушчонкаю ўсярэдзіне. А вось на Алесіных аднакласнікаў не зважала, нібыта не бачыла іх. Не было выпадку, каб за два гады яна не правяла старшакласнікаў словамі "Да пабачэння, Алеся!", нягледзячы на тое, што якраз дзяўчына-суседка нярэдка заставалася дома.

Працавала ў свой час Соф'я Тодараўна сакратаркаю ў апараце Савета Міністраў і любіла прынагодна пахваліцца, што ніразу ў жыцці не рабіла рамонту. Проста пісала заяву-просьбу на імя свайго непасрэднага начальніка, намесніка Старшыні Саўміна і адзінай жанчыны ва ўрадзе, і неўзабаве пераязджала на новую кватэру.

Алесіну таямніцу захоўвала Соф'я Тодараўна больш за тры гады і знесла яе ў лепшы свет, куды выправілася следам апошнім вясновым днём і неўзабаве па сваім шчодрым сюзерэне.

А апошняе сваё жытло, двухпакаёўку па-над "Акадэмкнігаю", пакінула яна ў спадчыну ўнучатай пляменніцы, Алесінай равесніцы. Не мінула і дзевяці дзён, як тая павыносіла "шчупаковы хвост" дый іншыя кветкі былой гаспадыні на лесвічную пляцоўку і распачала рамонт.

*31 траўня 2006 года.*

## Шасейныя кантрасты

Расказваў Уладзя блогеру і журналісту, а таксама зацятаму падарожніку і аўтааматару Глебу Л. пра дужа кантрастную шашу на Куршскай касе.

– Куршская каса – гэта ўнікальнае прыроднае ўтварэнне шырынёю ад чатырохсот метраў да чатырох кіламетраў, якое расцягнулася паміж балтыйскім морам і Куршскім залівам амаль на сто кіламетраў і пасярэдзіне падзелена паміж Расіяй і Літвою. Звыклай мяжы там няма, але і не заўважыць яе практычна немагчыма. Расійскае палатно шашы разбітае горш няма куды, а лес навокал забруджаны і неахайны. Затое літоўскі асфальт ідэальна гладкі, з акуратнай дарожнай разметкай, а лес дагледжаны, бо дзялянкі яго размеркаваныя паміж тубыльцамі, мабыць, яшчэ з таго часу, як жыў там класік нямецкай літаратуры Томас Ман.

– Практычна такую самую карціну бачаць беларускія турысты, калі прыязджаюць аўтобусам са знаным гісторыкам і краязнаўцам Антонам А. да Успенскага Пустынкаўскага манастыра, што ў Мсціслаўскім раёне, на самым ускрайку Магілёўшчыны. Шаша з беларускага боку выдатнай якасці, а з расійскага – суцэльныя яміны дый лужы. Але розніцу яны заўважаюць толькі тады, калі паводле даўняй завядзёнкі праходзяць дзвесце метраў да памежнага слупа, – у вачах малодшага таварыша заіскрыліся чарцінкі, – каб здзейсніць даўні абрад – у ахвотку пасікаць... на братнюю краіну!

*5 кастрычніка 2009 года.*

## “АйВоўка”

Брат Жэня аднойчы даволі ўдала пажартаваў: падораныя Уладзем саспелыя плады японскай айвы ачысціў ад бубачак, нарэзаў і настояў на гарэлцы.

Потым выдрукаваў на прынтары і наклеіў на пляшку цэтлік, на якім сумясціў, абыграў змесціва пасудзіны і імя гаспадара-лысагорца, да якога і прыйшоў у госці: “АйВоўка”! Новаствораны арыгінальны брэнд патрапіў у шэраг даўніх і традыцыйных – аераўка, зуброўка, пярцоўка, ядлаўцоўка...

Эксклюзіўна, файна і спакусліва выглядала тая настойка на стале ў альтанцы, заплеценай вінаграднай лазою і хмелем, бо нават гарнітура на цэтліку нагадвала японскія іерогліфы!

Не аспрэчваў Уладзя і іншую братаву лексічна-кулінарную вынаходку – “Каліньяк”, што азначала каліну, настоеную на каньяку або на брэндзі.

*7 лістапада 2011 года.*

## Здрада

Калі ўсё выдавала на тое, што найбліжэйшую цырульню “Александрына” зачынілі на перманентны рэмонт, мусіў перабрацца Уладзя ў муніцыпальны салон “Майстар”, што поруч з Акадэміяй мастацтваў.

Быў той салон мужчынскім, гэтаксама мясціўся непадалёк ад дому, а вокны ягоныя выходзілі на будынак політэхнікума з карынфскімі калонамі, дзе некалі арэндавала кабінеты і майстроўні вучэльня, якую Уладзя скончыў і згадваў з салодкай настальгіяй.

З усіх майстрыц у “Майстры” найбольш упадабаў ён Аню Г. Пра яе прафесіяналізм сведчылі і два лаўрэацкія дыпломы з гарадскіх конкурсаў за подпісам сталічнага мэра. Апроч таго, амаль заўсёды была яна ў гуморы, усмешлівай і гаваркою. Выклікала Аня Уладзеву сімпатыю, мажліва, і тым, што чымсьці няўлоўным выдавала падобнаю да ягонай старэйшай дачкі. Тыя прыязныя адносіны ён вельмі цаніў, бо лічыў, што сваю галаву, хай сабе раз на месяц ці на два, не вінен давяраць немаведама каму. Цягам амаль што гадзіны, покуль цырульніца шчыравала над ансамблем – фрызура “класіка” і барада – зазвычай вялася і нязмушаная гамонка, а часам і добразычлівыя пікіроўкі. У пэўнай ступені была Аня і за псіхааналітыка, бо некаторымі прыватнымі дробязямі з ёю можна было і падзяліцца. Але галоўнае – кожнага разу падымаўся Уладзя з яе крэсла ў добрым настроі, задаволены стрыжкай і ўкладкаю.

Усцешыўся, калі паступіла Аня ў жаночы ўніверсітэт “Энвіла”, а потым перавялася ў педуніверсітэт на аддзяленне псіхалогіі. Нават прыносіў, пазычаў ёй колішнія доччыны падручнікі і ўніверсітэцкія канспекты. Радаваўся за яе – бачыў, як расла адукацыйна і інтэлектуальна.

Яшчэ не атрымала Аня дыплома пра вышэйшую адукацыю, а прызначылі яе загадчыцай салона. Практыкаваць як цырульніца-майстрыха стала яна значна меней, але Уладзя застаўся сярод яе сталых кліентаў.

Праўда, трапляць да яе ў крэсла стала ўсё цяжэй. Спасылалася Аня то на планёркі ў начальства, то на бухгалтарскія справаздачы ў аб’яднанні “Усход”, то на клопат з электрыкамі дый сантэхнікамі, то на турботы з пастаўшчыкамі касметыкі ды парфумы.

Адміністраткі да яе не запісвалі, маўляў, загадчыца сама плануе

свой графік. На званкі на мабільны і на эсэмэскі яна часта не адгукалася або хуткамоўкаю прасіла перазваніць заўтра, праз пару дзён ці нават на наступным тыдні.

З цягам часу гэта стала стамляць і раздражняць, тым болей, што іншыя майстрыцы неахвотна бралі кліента сваёй загадчыцы, мабыць, баючыся не дагадзіць.

І вось аднаго дня, калі ў чарговы раз Уладзя пачуў па тэлефоне паспешлівае: "Перазваніце пазней, бо ў мяне цяпер людзі!", а потым і кароткія гудкі, дык угневана задаў сабе пытанні: "А я што, не людзь?! Можа, я нечым горшы за іншых ці ў салоне "Майстар" замнога наведнікаў?!"

Ён ужо ведаў, што на імаверны Анін званок праз некалькі тыдняў ці месяцаў адкажа яе, такімі самымі штампаванымі, дзяжурнымі словамі: "Перазваніце пазней, у мяне цяпер людзі!" Ведаў, што калі выпадкова перастрэне яе на вуліцы, дык найхутчэй удасць, што не пазнае ці ўвогуле не ведае яе. Ведаў таксама, што вернецца ў "Александрыну" або нават пяройдзе ў прыватны салон "Агора", які, хай сабе і месціцца на тры кварталы далей, але прывячае не толькі шчырай ветласцю, але і кубачкам кавы.

*24 сакавіка 2013 года.*

## Ячменнае чытво

Паслаў Ягор С. сваёй жонцы Ірыне лапідарную эсэмэску "Biuvar", што, як ён меркаваў, азначала просьбу прывезці яму ў бальніцу сябраву кніжку прозы.

Атрымаў на яе такі самы кароткі адказ лацініцай:

– Nielga!

Ягор настойваў:

– Viazi!

Адказам яму было:

– Doktar zabaraniu kategaryczna!

Тут ужо Ягор не стрымаўся і пазваніў са свайго мабільнага:

– Ну, што за глупства?! Што і чаму забараніў доктар?!

– Ты што, забыўся? У цябе ж заўтра раніцою аперацыя пад наркозам!

– Ну дык і што?

– Як гэта што?! Табе будуць рабіць спінальна-мазгавую анестэзію, а ты просіш прывезці спіртнога! – абуралася Ірына.

– Якога спіртнога?!

– Ты просіш прывезці піва, а гэта, хай сабе і слабое, а спіртное!

– Нічога не разумею! Пра якое піва ты чаўпеш?!

– Ты сам напісаў: "Бівер"!

– Які такі "Бівер"?! – не мог уцяміць Ігар.

– Ну, тваё ўлюбёнае піва.

– Ды не "Бівер" я пісаў, а "Бювар"! Я прасіў прывезці Валодзеву кніжку, якую ён мне падпісаў, бо раней рукі й вочы да яе не даходзілі. А тут ачуняю пасля аперацыі, адасплюся за дзень ці два і што потым рабіцьму?! Глядзець у столь тыдзень, а можа і болей?

Па невялічкай паўзе ў Ягоравай слухаўцы пачуўся крыху нервовы жончын смех.

– Выбачай! Я была без акуляраў і расчытала тваю эсэмэску як "Бівер"! Зараз спраўджу, перачытаю.

– Ну ты і дурніца! Што там перачытваць?

– Не кажы на мяне так! – пакрыўджаным голасам азвалася Ірына. – Я ж пра цябе клапачуся, хачу, каб усё як найлепей было!

– Даруй і ты мне! – прымірэнча сказаў Ягор. – Але надалей чытай у акулярах, калі зблізу кепска бачыш без іх. А то другім разам ад каго старонняга яшчэ што мудрэйшае расчытаеш дый пусціш у свет анекдот...

*21 жніўня 2013 года.*

## Рыбацкія мянушкі

Сяргей С. падгаварыў неяк Уладзю паехаць на рыбу на платную сажалку блізу колішніх будзінаўскіх Дудутак.

Хоць і выехалі пасля працы, але зарыентаваліся па карце, выставілі навігатар і спадзяваліся, што змогуць павудзіць гадзіны тры-чатыры, да самае цемры.

Спачатку кідалі спінінгі. Абышлі ўсе берагі, не раз мянялі блешні і воблераў – безвынікова. Падумалі, што як не хочуць брацца драпежнікі, дык, можа, будуць кляваць карпы. Раскруцілі вуды, прынадзілі макухай, закінулі спачатку на дажджавога чарвяка, потым спрабавалі на вараную бульбу, на распараныя ячныя крупы, на цеста, араматызаванае анісавымі кроплямі...

“А, можа, дураць тут нашага брата, можа, і няма тут аніякай рыбы?! – раздражнёна думаў Уладзя. – А тут яшчэ і канкурэнт аб’явіўся з мордаю, як альховы корч!”

Неафіт між тым правёў сваю блешню якіх метраў дваццаць, і відавочна ўдала падсёк, пачаўшы дзелавіта намотваць лёску на катушку.

– Невялічкі шчупачок, кілё або паўтара, не болей! – перахапіў ён зайздросна-здзіўленыя позіркі «калегаў», папыхваючы цыгаркаю.

Кінулі Уладзя з Сяргеем свае вуды і зноў схапіліся за спінінгі. Пляскалі, сцябалі, што пугамі па вадзе, ды ўсё дарэмна, хоць і стараліся пераймаць манеру ўдачлівага канкурэнта, на кукане ў якога неўзабаве боўталіся з паўдзясятка шчупакоў.

Калі ўжо стала насоўвацца шарая гадзіна, той злітаваўся і падказаў:

– Трэба было б праводзіць уздоўж трысьнягоў, а не пляшчыць па чыстай вадзе! Драпежнік, ён стаіць у траве ў засадзе, а адтуль кідаецца на розную драбязу!

– А, можа, вы саступілі б нам парачку шчупачкоў? – насмеліўся спытацца Сяргей. – А то няёмка вяртацца дадому з пустымі рукамі...

– Натуральна, што не за так, а за грошы... – падхапіў сябраву ідэю Уладзя.

Смуглявы ўдачлівец амаль што адразу пагадзіўся:

– А што, гэта можна! Толькі колькі ж мне з вас узяць? А давайце, каб хаця акупіць мне сённяшнюю ліцэнзію дый каб на цыгарэты засталося. І вы вось што яшчэ – пад’едзьце на Жданы на кірмаш, дзе гандлююць рыбацкім начыннем і рыштункам. Знайдзіце там Лесуна, яго там усе ведаюць...

– Каго-каго?

– Ну, Лесуна! Проста прозвішча ў яго Лясневіч, а ўсе гандляры-суседзі ведаюць як Лесуна. Скажаце яму, што ад мяне, Вэнджанага. Хай дасць вам уловістых блешняў, – ментарскім тонам параіў смуглявы рыбалоўца,

а злавіўшы ў вачах у дылетантаў нямое запытанне, патлумачыў ізноў: – Я на рыбе ледзь не штодня, а капелюшоў не цярплю. Вось і падвэндзіўся, падсмажыўся на сонцы...

– А калі Лесуна не будзе? – спытаўся заінтрыгаваны Уладзя.

– Тады пытайцеся Дыню!

– А што, гэта ягоная жонка?

– Ды не – кампаньён! – рассмяяўся Вэнджаны. – Сапраўднае прозвішча ў яго Гарбуз, але ён кажа, што Га́рбуз. Ну дык і сталі насуперак яму зваць Дыняю!

– А-а, знаёмая мелодыя! – паківаў Уладзя. – Гэта як тыя беларусы, што былі Лапата, Баран, Пятух ды Казёл, а паперайначваліся ў Лапато, Ба́рана, Пе́туха ды Козела?!

– А ў мяне вунь, – падхапіў Сяргей, – была суседка па лесвічнай пляцоўцы, маці-адзіночка. Мела прозвішча Вагі́на, а ўвесь час цвердзіла, што Ва́гіна!

– Гэта яшчэ што! Вось у маёй дачкі аднакласніца ў школе Марыся Бляцько! І нічога, звыклася.

– Не бяды, замуж пойдзе, дык зменіць прозвішча на мілагучнае. Горшага, пэўна ж, не будзе...

Сябры разлічыліся і развіталіся з Вэнджаным, адышліся да машыны, каб паспець яшчэ сфатаграфавацца без бліскаўкі.

— На фотках жа не будзе напісана, самі злавілі мы іх ці купілі, – пазмоўніцку казаў Сяргей, што пачуваўся крыху вінаватым за няўдалую рыбалку. – Дый жонкам пра тое ведаць не абавязкова, бо задзяўбуць, скажуць, што безліч грошай на вуды, начынне дый на бензін змарнавалі...

І настолькі сябры ўпадабалі мянушкі, якія пачулі пад Дудуткамі, што нярэдка потым званілі адзін аднаму і жартам скарыстоўвалі замест даўнейшых – Шэры і Вальдэмар.

– Алё, Лясун? Прывітанне, гэта я, Вэнджаны. Слухай сюды...

*11 кастрычніка 2013 года.*

## У каго што баліць

– Валодзька, а навошта табе тут, у лякарні, сухое сабачае ежыва? – спыталася адведніца, кузіна Валянціна, якая ўжо агледзела шафу і лядоўню ў палаце-адзіночцы.

– Дзе?

– Ды вось тут, на стале, у паўпразрыстым поліэтыленавым пакеце.

– Глупства нейкае! – сцепануў плячыма ляжачы пацыент. – Сабачага едзіва ў мяне і дома няма. Ты ж ведаеш, васямнаццаць гадоў трымаю котку Та́йгу.

– Тады што гэта? – Валянціна прыўзняла торбачку на ўзровень вачэй.

– А-а, гэта... Гэта абабраныя ад шкарлупін арэхі, ядзеркі фундука ці ляшчыны. Кажуць, што іх трэба спажываць, каб хутчэй зрасталіся косткі, гэтаксама як муміё, полівітаміны з кальцыем, усялякія студні дый жэле...

– А ў мяне ж дома пакаёвы сабачка, чухуахуа Сімка, дык і тут сабачы харч прымроіўся!

– Дзіва што! У каго што баліць, дык пра тое і бубніць...

*28 жніўня 2013 года.*

## Штодзённік

Здаўна ўзяў Уладзя за звычку набываць штодзённік на наступны год загадзя, за два-тры месяцы да Калядаў.

Сёлета ў бліжэйшай краме "Белсаюздруку" падалі яму на выбар некалькі томікаў, але ўсе айчыннай вытворчасці.

– І гэта ўсё, што вы можаце прапанаваць?! – спытаўся ён у гандляркі.

– А што вас не задавальняе?

– Якасць прадукцыі, мусульманска-савецкая колеравая гама і слоган "Купляйце беларускае!"

– Затое цэны даволі дэмакратычныя!

– Але мне хацелася б набыць высокаякасную рэч, бо браць мне яе ў рукі штодня. А вы паказваеце звычайныя блакноты: у ніводным не пазначаны ані даты, ані дні тыдня! Мне што – самому садзіцца дый размячаць трыста шэсцьдзесят пяць старонак?!

Праз колькі дзён жонка прынесла пад густ Уладзю штодзённік-2014 – у вокладцы з прыемным навобмацак скуразамяняльнікам, з якаснай паперай, з мноствам карыснай інфармацыі на першых аркушах, з належнай дацiроўкаю старонак, з шаўковым лясэ...

Выраблены ён быў у Італіі фірмаю Avanzo Daziaro, але, відавочна, паводле расійскай замовы, бо ўсе звесткі падаваліся найперш на рускай мове.

Але нямала падзівіўся Уладзя, калі ўчытаўся ў пазначаныя сінім колерам святы Расійскай Федэрацыі.

Сёмы дзень года значыўся як "Рождество Христово", а адзін з апошніх – як "Католическое Рождество".

"Хіба праваслаўныя каляды ўшаноўваюць Хрыстовае нараджэнне, а каталіцкія – не?! Да таго ж напрыканцы каляндарнага года святкуюць і многія праваслаўныя ва ўсім свеце, а таксама пратэстанты, якіх у адной толькі Расіі больш за мільён, і на якіх чамусьці забываюць! Але, мабыць, някепска пачуваецца дзяржава, калі дазваляе сваім грамадзянам два тыдні навагодніх вакацый!"

Дзень смеху, які ў многіх цывілізаваных краінах імянуюць Днём дурня, памяркоўна перацякаў паводле календара ў Дзень яднання народаў Беларусі і Расіі.

"Ну, добра, – падумаў Уладзя, – змяшаныя, міжэтнічныя шлюбы ўявіць проста, а вось як могуць яднацца, напрыклад, беларускія татары ці габрэі з расійскімі кумандзінцамі, нагайбакамі, хатукайцамі альбо эвенкамі?!

Пераважная большасць расіянаў не ведае, што за свята адзначаюць 4 лістапада. І, напэўна ж, не павінны весяліцца на Дзень народнага адзінства Расіі беларусы, літоўцы і палякі, якія жывуць у суседняй краіне. Прызначана свята ў гонар вызвалення Масквы ад нібыта польска-літоўскіх інтэрвентаў у 1612 годзе. Вынікае, што продкам палякаў і літоўцаў дазволена выступаць у якасці гістарычных ворагаў, а продкам беларусаў – ні ў якім разе! А між тым менавіта атрады і харугвы з беларускіх земляў Вялікага Княства Літоўскага захапілі сталіцу Масковіі напачатку XVII стагоддзя, менавіта беларускіх ваяроў seклі і тапілі пад лёдам грамадзянін Мінін ды князь Пажарскі!

Аніхто не сумняваецца, што Расія – марская дзяржава, і мае поўнае права адзначаць у ліпені Дзень Ваенна-Марскога флоту, але ці не перабор, – каб падрыхтавацца да яго, адсвяткаваць у траўні Дзень Чарнаморскага

флоту, Дзень Балтыйскага флоту, Дзень Ціхаакіянскага флоту, а 1 чэрвеня, разам з Днём абароны дзяцей, яшчэ і Дзень Паўночнага флоту?!"

Збянтэжыла Уладзю і тое, як дбайна ўшаноўвае суседняя дзяржава не толькі вайскоўцаў, але і працаўнікоў апарату пакарання, прыгнёту і гвалту, бо налічыў больш за два дзясяткі адпаведных святаў.

Першае прафесійнае свята ў календары ў расіянаў – Дзень работнікаў пракуратуры, другое – Дзень транспартнай паліцыі!

Надзвычай расквечаны ў гэтым сэнсе сакавік – Дзень работнікаў органаў наркакантролю, Дзень работнікаў крымінальна-выканаўчай сістэмы Мінюста Расіі, Дзень падатковай паліцыі і Дзень унутраных войск Міністэрства ўнутраных спраў Расіі!

У красавіку поруч стаяць два святы і можна хаўрусавацца адпаведным службістам – Дзень работнікаў следчых органаў і Дзень супрацоўнікаў ваенных камісарыятаў.

У ліпені адзначаюцца Дзень Дзяржаўнай аўтамабільнай інспекцыі (Дзень Дзяржаўнай інспекцыі бяспекі дарожнага руху Міністэрства ўнутраных спраў Расійскай Федэрацыі) і Дзень юрыдычнай службы Міністэрства ўнутраных спраў.

"Незразумела, як напачатку верасня адзначаюць расіяне Дзень салідарнасці ў барацьбе з тэрарызмам", – паціскаў плячыма Уладзя і пералічваў даты кастрычніцкія – Дзень работнікаў крымінальнага вышуку, Дзень мытніка Расійскай Федэрацыі, Дзень пазаведамаснай аховы Міністэрства ўнутраных спраў!

Ураджайным аказаўся і лістапад – Дзень судовага прыстава, Дзень супрацоўнікаў органаў унутраных спраў РФ, Дзень работнікаў падатковых органаў РФ.

Снежань, аказалася, прынясе Дзень юрыста ў Расіі дый Дзень падраздзяленняў уласнай бяспекі органаў унутраных спраў РФ, ну а пад Каляды, на Дзень работнікаў дзяржбяспекі РФ згадацьмуць свае гераічныя будні тыя, хто занятыя кіпучай чэкісцкай работай!

– Канечне, апафеоз, ці як сказаў бы канваір, проста вышка – гэта свята, якое накладаецца на разняволены ірландска-амерыканскі Хэлаўін, – Дзень работнікаў следчых ізалятараў і турмаў! – усклікнуў Уладзя. – Зразумела, кожная прафесія патрэбная, але, мабыць, не здзіўлюся, калі ў штодзённіку-2015 пабачу Дзень асенізатара або Дзень ка́та!

*10 снежня, Дзень правоў чалавека. 2013 год.*

## Цітушка

Адпісаў быў Уладзя па электроннай пошце сябрам рэдакцыйнай рады, а ў іх ліку і велешаноўнаму Міхасю М.

Але, напэўна, зрабіў нейкую прыкрую памылку ў адрасе – можа, не паставіў кропку пасля першай літары, што абазначала імя.

Упершыню за ўсе гады, што карыстаўся электроннай поштаю, атрымаў у адказ ад незнаёмага адрасанта пад нікам *mykola tychyna* лаянкавы ліст з мацернымі – непатрыятычнымі, англамоўнымі выразамі.

Адразу хацеў быў адказаць крылатай фразаю, якую прыпісваюць знакамітай актрысе: "З цэлага шэрагу прычын я не магу зараз адказаць вам словамі, якія скарыстоўваеце вы. Але шчыра спадзяюся, што калі

вы вернецеся дадому, ваша маці выскачыць з падваротні і як след вас пакусае!”

Але потым перадумаў пісаць, відавочна, данецкаму цітушку, і рашыў, што не варта даваць перуноў дый сыпаць перлы перад свіннямі...

*4 лютага 2014 года.*

## Рукі за спінаю

Жывапісец, графік і аўтар шматлікіх перформансаў Алесь М. сустрэўся быў з Уладзем пры каланадзе, што на ўваходзе ў сталічны Батанічны сад, дый падчас гаворкі недаверліва перапытаў:

– Што, і праўда не ведаеш барадатага анекдота пра чорны стод, які стаіць на другім баку плошчы, схаваўшы рукі за спіну?

Уладзя адмоўна пахітаў галавою і пачуў адзін з фальклорных узораў таго, як народ ставіцца да бальшавіцкіх ідалаў.

– Перастрэліся ў крамлёўскім калідоры Калінін з Арджанікідзе.

“Што гэта вы, дарагі Міхал Іваныч, хаваеце за спінаю?” – пытаецца грузін.

“Ды вось, таварыш Серго, іспанскія таварышы з Краіны баскаў прэзентавалі бутэлечку чырвонага віна. Кажуць, што не горшае за вашы знакамітыя “Хванчкару” з “Кіндзмараулі”. Калі адгадаеце, у якой руцэ, дык зараз жа наладзім дэгустацыю!”

“У правай!” – паспешліва тыцнуў Арджанікідзе.

“Думайце, таварыш Серго, думайце!” – просіць яго ўсесаюзны стараста.

*23 лютага 2014 года.*



Вольга Гронская



...Я – дрэва.
Ты – мая восень.
Ты павольна мяне распранаеш...

# Мора ўнутры мяне

* * *

Хочаш,
я раскажу табе казку?
Сядай.
Паслухай.

Калісьці жылі на свеце шкляныя людзі.
Каб не загінуць, баяліся рэзкіх рухаў,
абдымкаў і нават дотыкаў.
Раптам будзе
балюча?
Ці – нечакана – удар па пальцах?
Або, што намнога горш,
разаб'ецца сэрца?
І людзі рашылі
проста не дакранацца
і жыць на адлегласці
крокаў, вялікіх тэрцый,
гадоў, кіламетраў...

Бо блізкасць страшней за кулі –
яна забівае.
А людзі хацелі выжыць.

Ты не верыш,
бярэш мяне за руку
і
я рассыпаюся
на аскепкі
ў гэтай цішы.

* * *

*(ведаеш, гэтай восенню збіваюцца ўсе настройкі)*
я сёння гуляла па ранішніх ціхіх вуліцах:
між шэрых дамоў аранжавая праслойка,
і птушкі на лавачцы ў парку нібы цалуюцца,
*(хаця пра гэта ўжо Блок, паўтарацца не мае сэнсу,*
*ды й не такія, зрэшты, цяпер марозы...)*
у змоўклым фантане – цэнты, капейкі, пенсы,
у пераходзе – дзядуля з песнямі і марозівам,
*(ведаеш, часам хочацца кінуць усё і з'ехаць,*
*куды заўгодна, без розніцы, можна на Марс ці ў Лондан)*
так смешна, дзядуля зацягваў нешта з Эдзіты П'ехі,
потым салоны вабілі модным амбрэ і блондам,
усе хаваюцца ў цёплае, і толькі адзін – у шортах,
са мной павітаўся шэры маленькі коцік,
*(а нехта ўверсе кропкі злучае хордамі...*
*мяне без цябе ламае, ты мой наркотык...*
*эскімос, я лятучая рыба, што трапіла на кручок...)*
сыплецца лісце, дворнік падмахвае недакуркі...

усяго толькі пару імгненняў – уткнуцца ў тваё плячо
і бязгучна вярзці ўсё гэта каўнеру курткі

* * *

У яе падсвядомым
спрачаюцца дзіўныя галасы,
пальцам холадна,
ные шыя і штосьці ніжэй ключыц.
Вусны пахнуць суніцамі,
травою скошанай – валасы...
Толькі радасць яе і смех замкнёныя на ключы,
і агеньчыкі, што ў вачах, забыліся уключыць.

Пакрысе рыфмуюцца словы,
гатуюцца боршч і плоў,
у нататніку пішацца спіс неабходных спраў.
Вечарамі – падлік адказаў або галоў
ці шчаслівы фінал у нейкай з апошніх глаў
(толькі б не заміраць
у чаканні твайго “ало”).

І пакуль ты п’еш піва
або цалуеш тую з жанчын,
у якой бездакорны твар і локаны па плячах,
ёй ізноў
пераймае дыханне сярод начы,
сціскаюцца столь і падлога,
яна крычыць
і прачынаецца.
Тры.
Цемра, адчай.

Абхапіўшы аберуч калені,
сядзіць яна
ля сцяны на кафлянай плітцы
і п’е каньяк
(Саграваe крыху.
Як свечкі агеньчык.
Як
далоні твае на скуры яе сцягна).
І пустэча ўнутры, здаецца, не мае дна.

Ранкам кожны на месца вернецца,
у сваю графу.
У яе ўсё нармальна,
і думаць няма калі.
Ты спяшаеш на працу,
побач косяць траву...

Спатыкнуўшыся,
ты павернеш на водар той галаву,
і, магчыма,
на міг зварухнецца штосьці
і забаліць.

* * *

Я ёй пісала:
“Маю імя Ліліт,
палкія сны,
радзіму сярод аблокаў.

Гэта мяне штораз маляваў Далі,
мне прысвячаў радкі Аляксандр Блок,
і
Поль Элюар, калі гаварыў пра Нуш
ды расфарбоўваў сінім зямную кулю,
меў на ўвазе толькі мяне адну –
лёгкую,
непаўторную,
трапяткую...”

Толькі ў адказ прынеслася:
“Не аддам!
Будзь ты багіняй, німфай ці каралевай –
мой!
Застанецца разам са мной Адам.
Больш не пішы.
Шчаслiва”.
І подпіс –
Ева.

* * *

Адзін мой сябар
(той, што слухае цішыню)
ніколі не марыў стаць
ні кампазітарам, ні паэтам.
Ён любіць прабелы і паўзы.
А калі я яму званю,
мы доўга маўчым у слухаўкі
(у нас з ім свае сакрэты).

Ён часта ставіць шматкроп’і
ў лістах з фантазій і сноў
і сыходзіць, пакуль яшчэ
нічога не пачалося.
Я бачу яго ў мігценні
кадраў нямога кіно,
дзе ў ціхім і непрамоўленым
хаваецца шматгалоссе.

Ён верыць, што кожнае заўтра
нясе не фінал, а працяг.
Ён недзе па-за і па-над,
між вечарам і світанкам...

Я прыціскаюся вухам
да ракавінкі ў грудзях,
і мора ўнутры яго
спявае мне калыханку.

* * *

Гэта – маленькі бог.
Яму сумна бывае часам
там, на вясновым небе,
у доме з аблокаў.
Мама і тата на працы.
Але ў яго ёсць
чароўная скрыня цацак.
Ён іх выцягвае і гуляе
ў нас, далёкіх.

Вось па дарозе машынкі едуць –
хто ў М, хто ў Б.
Людзі ў футбольнай форме
ганяюць мячык.
Хтосьці будуе замак
ці самалёт сабе.
У казачнай школе
дзетак вучаць рашаць задачы.

А можна яшчэ ўзяць
белых пухнатых нітак клубок,
парэзаць дробна
і сыпаць на горад з неба...

Гуляй.
Хай табе будзе добра,
маленькі бог.
Толькі салдацікаў не бяры.
Не трэба.

* * *

Мне сніцца,
што я акварыюм
з каляровымі рыбкамі.
Ува мне трапечуцца гупі
і б'юць хвастамі.
Ёсць яшчэ залатыя,
якія здзяйсняюць мары
(што былі проста снамі,
або не з намі,
або не там і
таму – не лічацца,
толькі хіба – урыўкамі).

Вясёлкавыя, вясёлыя,
расфарбаваныя сонейкам,
рыбкі гуляюць у хованкі,
быццам малыя дзеці,
замест матылькоў у жываце
танцуюць дзівосны танец,
плывуць ад вуснаў да сэрца
і там хаваюцца дзесьці...
І мне не трэба ні Фрэйда,
ні нейкіх соннікаў,
хоць зразумець усё да канца
я ніяк не ў стане.

Мне сніцца,
што я акварыюм...
І да мяне падыходзіць
еці –
вялізны і страшны –
і рыбак маіх
глытае...

З крыкам я прачынаюся.
П'ю гарбату.
Іду па праспекце.
Тонкая,
але моцная.
Празрыстая.
І
пустая.

* * *

Я – дрэва.
Ты – мая восень.
Ты павольна мяне распранаеш.
Скідваеш з плеч кашулю
і, калі пачынаю мерзнуць,
ненадоўга вяртаеш лета,
прыносячы сонца ў далонях.
Мне ўжо цёпла.
Працягвай.
Можна.
На зямлю апускаюцца джынсы,
майка падае і шкарпэткі,
і ляжаць каляровай купкай
на падлозе каля канапы.
...Засталося зусім нямнога...

Чую вецер з усмяглых вуснаў.
Толькі два апошнія крокі
аддзяляюць
ад белай,
белай...
Раз –
як ліст, ападае станік.
Два –
і болей няма нічога.
Толькі вецер.
І толькі рухі.
Толькі мы
ў прадчуванні
снегу.

* * *

А калісьці было нам шэсць
(ці сямнаццаць?)...
Вось мы
сядзелі на падваконні,
глядзелі на вуліцу.
Вераб'і і вароны біліся за скарынку.
Сэрца білася
недзе між сёмым і восьмым.
Як каменьчык,
які ў тваім чаравіку муляецца,
словы рваліся вонкі,
калолі язык спружынкамі.
Мы, нягледзячы на, маўчалі.
Спяваў пра восень
назаўсёды любімы голас,
аблокі падалі
на зямлю і на плечы
таполевым пухам белым,
і было так дзіўна, казачна і нясмела...
У мяне –
счараванай рыфмамі і баладамі.
У цябе –
у тваім карцінкавым яркім свеце.
"Мы" – умоўнасць,
бо кожны жыў на сваёй планеце.
Дзесьці.

І цяпер
(калі нам трыццаць два,
трыццаць шэсць
ці сорак)

мы глядзім праз вакно на птушак,
складаем казкі
са шчаслівым фіналам
і самі сабе не верым.
...Сонца піша
спіралі Эшэра
на шпалерах...
Быццам хлопчык
з адной з далёкіх нябачных зорак,
поім чыстай вадой
адзіную ў свеце ружу,
ціха молячы свет і цемру :
“Ну калі ласка...”
Не жадаючы чуць
трывожныя пазыўныя
і глядзець у вачніцы
ўзведзеных некім ружжаў.

Мы ізноў паўтараем тое,
што гаварыў
пра адказнасць і сэрца
дзядзька Экзюперы...
Колькі б нам ні было,
мы дзеці,
зусім дурныя,
і маленькія лісы
плачуць
у нас
унутры.

** * * (PS)*

Марыянеткай
танцую я ў гэтым Сусвеце.
Мною кіруюць
тонкія ніткі пачуццяў.
Рухаюць пальцы і плечы,
ногі вядуць
і галаву нахіляюць у лёгкай усмешцы.

Марыянеткай
імкліва наперад лячу
ў вальсе
і не заўважаю,
як нехта магутны,
ў мойру гуляючы,
рэжа нябачныя ніткі.

Я забываю, як пахнуць трава і ваніль
*(рукі губляюць апору, хапаюць паветра),*
не адчуваю больш смаку ні вішняў, ні кавы
*(ногі няўпэўнена ловяць іншыя рытмы),*
не разбіраю ні шэпту, ні грукату колаў
*(і заўважаю, як рвецца апошняя нітка)*...

Ціха заплюшчваю вочы
і ў гэтай маўклівай,
незразумелай,
балючай,
бязводарнай
цемры
кропляй,
каменьчыкам,
пёркам,
лістком
і сняжынкай
падаю
ў бездань,
уніз...

У абдымкі
твае.



Аляксей Чубат



...бадзяжнаму сабаку

ніхто не дапаможа...

# Навушнікі

***Апавяданне***

Аляксандр быў уважлівым урачом. Ён быў уважлівым і да сябе, да дэталяў свайго гардэроба і сваіх думак. Думаў толькі тое, што трэба.

Ён прыходзіў у бальніцу яшчэ да пачатку працоўнага дня. Нельга сказаць, што ён жыў працай: так прызвычаіўся. Калі б Аляксандра спыталі, ці ў радасць яму тое, што ён лечыць дзетак, ён бы сумеўся. Так, ён разумеў, што быць здаровым лепш, чым быць хворым. Ён бачыў – бацькі вельмі хвалююцца за сваіх дзяцей, і разумеў, што спакой лепш, чым хваляванне. І ён даваў гэты спакой. Яму дзячылі, часам матэрыяльна. А калі ты адчуваеш, што дапамагаеш людзям, што ты запатрабаваны ў сваёй прафесіі – гэта як наркотык.

Яшчэ са студэнцкіх гадоў будучы доктар меў схільнасць быць пунктуальным і выглядаў ахайна. Ён ніколі не спазняўся на заняткі, а на практыку прыходзіў адным

з першых. Аднакурснікам няпроста было падладзіцца пад ягоны рытм жыцця, таму хадзіў ён звычайна ў самоце. Пазней, курсе на трэцім, стаў хадзіць на пару з аднакурсніцай. Потым яны пабраліся. Праўда, яна не стала лячыць дзяцей, а занялася гандлем лекамі.

Школьныя гады Аляксандра былі азмрочаныя. Яго маму выбіў з жыцця інфаркт, калі яму было шаснаццаць. Практыкаванні ёгай, загартоўванне, у цэлым – здаровы лад жыцця, які прывіў яму тата, дапамаглі юнаку перанесці нечаканы сыход блізкага чалавека. Але ён стаў замкнёным.

Сёння, як і заўсёды, Аляксандр ішоў на працу ў прыўзнятым настроі. Птушкі ўжо не спявалі, на пачарнелых дрэвах засталіся рэшткі засохлай лістоты, і скрозь яе сцішанае сонца кідала на Аляксандраў твар свае слабыя промні.

Ён, як звычайна, увайшоў у паліклініку, павітаўся з ахоўнікам. Ахоўнік, гарэзлівы маладзён, якога нядаўна ўзялі на працу, хацеў быў нешта спытаць у доктара, але спыніў сам сябе, перадумаў. Аляксандр увайшоў у кабінет – сёння другая змена і ён працуе адзін: медсястра адпрасілася, а замены не знайшлося.

У гэтую пару года колькасць хворых дзяцей павялічваецца. Першыя наведвальнікі прыходзілі з матулямі. Прастуды ў іх былі лёгкія, і Аляксандр хутка адпускаў дзяцей. Але чарговага малога прывёў бацька. Хлопчыку было восем, тату – разы ў чатыры больш.

– Прывітанне, хлапчына! – бадзёра сказаў доктар, калі малы з бацькам падышлі да стала. – Захварэў?

Хлопчык кіўнуў.

– Як тваё імя?

– Мікіта.

– Мікіта, Мікітка, значыць. Што непакоіць? – больш сур'ёзна спытаў ён, глянуўшы на тату.

Тата сеў, сын узлез яму на калені.

– Не, малы, доўга ты там не заседзішся – злазь, – прамовіў доктар.

– Ведаеце, – адразу пачаў апраўдвацца тата, – я яму казаў: Мікіта, не трэба табе гэтае марозіва, холадна на вуліцы. А ён: купі, купі.

– Дык што, горла баліць?

– Так, і тэмпература паднялася.

– Давай, хлопча, пагляджу, што з табой.

– Ідзі да дзядзькі доктара, – тата лёгка саштурхнуў сына з каленяў.

Аляксандр некалькі разоў патрос градуснікам, паглядзеў на шкалу і засунуў пад паху Мікіту.

– Часта ён у вас хварэе?

– Ды не тое, каб часта, як усе дзеці, вы ж ведаеце...

– Некаторыя дзеці ўвогуле не хварэюць.

– Ды ну! Мікіта як вып'е або з'есць штосьці халоднае, адразу ў яго горла чырванее, пачынае пяршыць, тэмпература падымаецца. Шалік не завяжа – тое самае. Мы ўжо стараемся яго і на вуліцу радзей выпускаць.

– А вось гэта дарма, якраз наадварот – на вуліцу яго часцей трэба, а яшчэ лепш – у палонку. Адкрый рот, хлопча, скажы: а-а-а.

– А-а-а-а-а...

– Так, ёсць чырвань, але – не надта сур'ёзная. На вірус не падобна. А вы – паліце?

– Я – не... Жонка вось час ад часу...

– Вось што: я прапішу вам паласканне, набудзьце рамонак, шалфей, падбел, думаю, соль з содай у вас знойдуцца.

– Доктар, а можа, якія таблетачкі прапішаце? Або гэты балончык – у горла пшыкаць? Мая жонка траўкі неяк не надта вітае.

Аляксандр кінуў погляд на тату.

– Магу і таблеткі, яны дапамогуць, кароткачасова. Але ў цэлым арганізм аслабне, не навучыцца змагацца з хваробай сам.

Мікітка адышоў і пачаў разглядваць шкляную шафу з медыцынскім абсталяваннем.

– Мікіта – ідзі сядзь, – пастараўся строга сказаць тата. Хлопчык з неахвотай вярнуўся.

– Разумееце, якая справа, – працягнуў доктар, – калі здароўе дзіцяці не падарванае вялікай колькасцю таблетак і вакцынаў, лепш яго натуральнымі сродкамі прыводзіць у норму. Трэба даць яму шанец справіцца з такой, нават не хваробай, а так – драбязой, самастойна. Дапаможам трохі траўкамі. Горла – гэта ж праява хваробы, сама хвароба сядзіць глыбей і спрабуе выявіцца такім чынам.

Тата хлопчыка рабіў выгляд уважлівага слухача, хаця знутры яго ахоплівала недавер. Ён не разумеў, што значыць “хвароба спрабуе паказаць”. Доктар паглядзеў на яго яшчэ раз: “Добра, я вам выпішу таблетачкі”. Ён напісаў на паперцы складанае слова, за якім хавалася бяспечная біялагічная дабаўка.

***

Працоўны дзень скончыўся, і Аляксандр пачаў збірацца дахаты. Ён расклаў усе рэчы на стале ў патрэбным парадку. Іншае прыбраў у шуфляду. Устаў, зняў халат, павесіў на цвічок, падышоў да рукамыйніцы і вымыў твар і рукі гарачай вадой з мылам.

Потым – апрануў паліто, выключыў святло, зачыніў дзверы на (ён заўсёды слухаў) дзве пстрычкі і выйшаў.

На вуліцы ўжо цямнела, ліхтары стаялі напагатове. Лістота пакідала дрэвы, іх прыгажосць увечары была іншай, чымсьці раніцай. На вуліцы было ціха. Аляксандра заўсёды здзіўляла здольнасць людзей у час, калі ўжо халодна, трапляць дахаты з працы незаўважна для іншых.

Але штосьці ўсё-ткі адбывалася. Пад сцяной дома варухнуўся цень і пасунуўся насустрач Аляксандру. Ён запаволіў крок, прыглядзеўся. Аб’ект таксама прыпыніўся і, нечакана, коратка скугольнуў. Аляксандр скіраваўся ў ягоны бок.

У святле ліхтароў ён убачыў, што сабака малады, не дваравы. Ён накульгваў на пярэднюю лапу. Вочы ў сабакі былі чалавечыя, нібыта ў іх змяшчалася душа. Аляксандр дрэнна разбіраўся ў пародах, але па складнасці сабакі, яго рыжым, белым і чорным колерах зразумеў, што сабака – паляўнічы. Доктар прысеў: “Што, сябра, не пашэнціла ў жыцці?” Сабака не адказаў. “Давай, пагляджу, што там з табой такое”.

Адкуль з’яўляюцца перабітыя лапы ў сабак? Сабака можа патрапіць пад машыну, зваліцца адкульсьці, яго можа стукнуць нядобры чалавек, злаўчыўшыся, грызануць іншы сабака. Але, як бы там ні было, бадзяжнаму сабаку ніхто не дапаможа.

Аляксандр прамацаў лапу: адчуў прыпухласць, інтуітыўна здагадаўся, што костка пераламана. Надзіва, сабака моўчкі вытрымаў агляд, не гыркаў,

нібыта разумеў, што яму робяць дабро. “Нічога, нічога, хлопча, – падумаў. – Я дапамагу табе”. Ён падняў сабаку, прыгарнуў да сябе і рушыў.

Пах падгарэлай ежы – першае, што адчуў нос Аляксандра, калі ён адкрыў дзверы кватэры. Да яго дадалася хваля няпранай адзежы: у цэлым, агортвала няўтульнасць. Жонка была ў камандзіроўцы з тыдзень, і тата з сынам жылі адныя.

Аляксандр акуратна апусціў сабаку на падлогу і зачыніў дзверы.

– Алесь! – паклікаў. Ніхто не адказаў. Ён прыадчыніў дзверы ў залу – сын сядзеў за кампутарам, на экране ўспышкай нешта ўзарвалася.

– Алесь! – сказаў бацька. Хлопчык здрыгануўся і рэзка зняў навушнікі.

– Зноў ты вочы псуеш, еў што-небудзь? – спытаў ён па інерцыі.

– Так, тата, – рэзка, каб адчапіўся, сказаў хлопец, і паспрабаваў зноў надзець навушнікі.

– Пайшлі, пакажу, ш... хто ў нас ёсць.

– Ну што там?

– Давай, давай, пайшлі.

Алесь без жадання вылез з-за стала і пацёгся ў вітальню. Тата ў гэты час пачаў мыць рукі.

– О, сабака! – амаль без эмоцыяў сказаў Алесь. – Адкуль ён?

Псіна ў гэты час нерашуча абнюхвала сцены і з насцярогай зірнула на новага чалавека.

– Дзе ты ўзяў яго?

– На вуліцы, у яго нага перабітая. Калі пагладзіш – адразу памый рукі, – і тата сам падставіў далоні пад струмень гарачай вады.

– Ладна, тады пазней, – хлопец хацеў зноў ірвануць да кампа.

– Зараз будзем накладваць яму шыну, каб нага загаілася.

Аляксандр пайшоў на кухню, дастаў з лядоўні кансервы, адкаркаваў і выклаў усё на сподачак. Перайшоў у малы пакой і паставіў імправізаваны “Раяль Канін” на падлогу. Побач, у глыбейшы сподачак, наліў вады. Сабака пачаў есці. Потым узяў шырокую коўдру, склаў яе ў некалькі разоў і паслаў каля батарэі.

Доктар адчыніў вялікую скрыню з лекамі. “Як на час ядзернай вайны”, – іранічна казала на скрыню жонку. “Апошнімі часамі яе словы падаюцца ўсё менш іранічнымі”, – падумаў муж.

Чаго тут толькі не было! Бутэлечкі з ёдам, стосы ампул антыбіётыкаў, уколы, процьма таблетак, хірургічныя інструменты, дэфібрылятар і шмат чаго іншага. Пералом быў закрыты, ніжэй за калена. Спатрэбіўся бінт, а замест шыны доктар вырашыў выкарыстаць глянцавы часопіс.

– Алесь! – зноў паклікаў тата. Хлопец не азваўся. Давялося ісці ў залу, дзе ён працягваў гуляць, і амаль настойліва прывесці хлопца.

– Хочаш паглядзець, як хутка падправіць нагу сабаку?

– Не вельмі.

– Пайшлі, пакажу, каб ведаў.

Алесь паставіў гульню на паўзу і без асаблівай ахвоты пакінуў кампутар.

– А дзе ён будзе начыць?

– Тут, у тваім пакоі. Ты ж зараз гуляеш, і яшчэ, відаць, будзеш працягваць, таму мы пакінем яго тут.

– Але я не хачу спаць у пакоі з сабакам!

– Тады сканчвай гульню, і мы яго перанясем у залу.

Алесь змоўчаў.

– Дарэчы, што ў цябе заўтра за ўрокі? Вывучыў? – спытаў тата, акуратна беручы лапу сабакі, які ляжаў на падлозе.

– Матэматыка, гісторыя.

– Гісторыя? Што праходзіце? Вось, глядзі, каб накласці сабаку шыну, напрыклад, у палявых умовах, можна ўзяць часопіс, скруціць яго ў трубку.

– Вывучаем Першы падзел Рэчы Паспалітай.

– Калі ён быў, здаецца, у 1772-м?

– Так.

Аляксандр не надта добра ведаў гісторыю, але нейкія даты са школьнай праграмы прыпомніць мог.

– Дык як там справа была? Чаму падзел адбыўся, – спытаў ён сына. – Бачыш, у яго закрыты пералом, косці не бачна, і ён, як ні дзіўна, спакойна рэагуе на нашыя дзеянні.

– Не было моцнай улады ў краіне.

– Што гэта значыць? Вось, глядзі, спакойна абгортваем лапу часопісам, та-ак.

– Ну, напрыклад, дэпутаты маглі прымусіць караля ажаніцца.

– Дэпутаты? Ажаніцца? А цяпер проста бярэм бінт – адрэж, калі ласка. – А ты дакладную дату памятаеш, калі адбыўся Першы падзел?

– Так, памятаю, пятага жніўня тысяча сямсот семдзясят другога... У тыя часы ў дэпутатаў была такая прывілея – liberum veto – кожны з іх мог застопіць прыняцце закона ў Сойме. Так шмат пасяджэнняў Соймаў скончалася нічым. Яшчэ – кожны шляхціч мог наўпрост сабраць сваё войска і быць незалежным. З-за гэтага...

– Цікава, цікава, – сказаў Аляксандр, гледзячы то на пысу сабакі, то на лапу, якую ён павольна бінтаваў. – А колькі было дэпутатаў у Сойме?

– Гэтага я не ведаю. Далей – Прусія і Расія пажадалі, каб правы ўсіх вернікаў былі ўраўняныя. Для гэтага нават былі створаны цэнтры падтрымкі праваслаўных і пратэстантаў. Рэлігійныя спрэчкі яшчэ больш аслабілі краіну. Потым у Бары...

– Дзе, у бары?

– Ва ўкраінскім горадзе Бар каталіцкая шляхта сабрала войска, каб бараніць традыцыйныя асновы краіны. Хаўруснікі змагаліся нават з каралеўскім войскам і хацелі падпарадкаваць увесь край. Але войскі Расіі, Прусіі і Аўстрыі ўвайшлі...

– Так напісана ў падручніку?

– Амаль.

– Добра, – сказаў доктар, зацягваючы вузел на бінце. – Вось і ўсё, паляжыць выходныя ў нас – так яму будзе небалюча, а потым, у панядзелак, звозім да ветэрынара. Колькі цяпер гадзін? – Аляксандр глянуў на запясце. – Праз сорак хвілінаў трэба класціся спаць. Не заседжвайся. Нам заўтра разам уставаць.

– Добра, тата.

– Слухай, заўтра субота. У цябе колькі ўрокаў?

– Пяць.

– А, значыць ты прыйдзеш раней за мяне. Выведзі сабаку на вуліцу, пахадзіце паўгадзінкі.

Алесь маўчаў.

– Зробіш? – тата прысеў і патрапаў пацыента па загрыўку.

– А ён не ўцячэ?

– Не, па-першае, гэта яму цяжка. А, па-другое, мы ж яму дапамагаем – чаго яму ўцякаць?

Калі Аляксандр назаўтра вяртаўся дахаты з працы, пяшчотнае мяккае восеньскае сонца лашчыла твар, постаці мінакоў, і кожны лісточак – а іх на дрэвах засталася дробязь – выглядаў, бы намаляваны ў паветры ўсемагутным мастаком. Такі спакой на вуліцы бывае звычайна тады, калі гарачае лета перадало лейцы халоднай восені, а тая іх ніяк не возьме. І хаця на календары ўжо не першы восеньскі месяц, некалькі дзён, а то і тыдзень надвор'е такое, нібыта Зямля пралятала побач з раем.

Аляксандр ужо падыходзіў да свайго дома, яму яшчэ хацелася затрымацца на вуліцы, але іншыя справы, запланаваныя напярэдадні, не давалі спыніцца.

Калі ён набіраў код дамафона, з пад'езда выйшла суседка. За другі канец ланцужка, які сыходзіў з яе рукі, трымалася такса.

– Вітаю вас, – ветліва сказала яна. – Як вашыя справы?

Доктар вымушана прыпыніўся.

– Дзякуй Богу, усё, як належыць.

Суседка хацела спытаць яго яшчэ пра нешта, але ён так рашуча імкнуўся ўвайсці ў праём пад'езда, што яна толькі кінула ўслед:

– Перадавайце прывітанне Зосі!

Ён увайшоў у кватэру і адразу адчуў, што ў ёй ціха. Доктар зняў паліто, абутак і накіраваўся ў малы пакой. Ён быў пусты: на прыкамечанай коўдры, на якой спаў сабака, яго тулава нібы пакінула свае абрысы. Аляксандр зазірнуў у спальню, на балкон, на кухню – усюды было пуста.

Тады ён пайшоў у залу – адчыніў дзверы. Сын сядзеў спінай да яго, утаропіўшыся ў кампутар. На галаве былі навушнікі.



Павел Гаспадыніч



...калі
нямыя
мы,
дык мы –
не мы...

# Аблокі над Крыўяй

* * *

Калі ты кажаш "халады
У жніўні жоўтым запануюць,
Лістотай першаю гады
Ў вачах самотна завякуюць..."
Я дакрануся ледзь, крыху,
Сам, нібы ліст, упалы з дрэва,
І пацалункам адкажу:
"Шчэ лета досыць не саспела.
Не адквітнеў жытнёвы сон –
Глядзі, гарэзнічаюць птахі...
Крыўі чароўнае палон
Не пакідае месца страхам...
А восень прыйдзе як заўжды
Ліцьвінскай слаўнаю князёўнай:
Ў душы запаляцца агні
Бела-чырвонае бавоўны...

Што ў кожным сэрцы назаўжды
Трапеча вольным лета сцягам...»
Калі ты кажаш – «Халады»,
Я адкажу: «Бог з намі разам...»

* * *

Страмніны нябёсных блакітаў,
Празрыстаць паветраных сноў.
На чоўне з даўніны спавітым,
Пугач заблукаў між багоў.
Як водарыць кветкамі сонца!
Як росна спявае святло!
Тчэ восень узоры бясконца
Сплятаючы іх у радно,
Якое дыванам усцеліць
Палеткаў пажоўклыя дні...
Якое натхненне прывеціць
У светла-самотным гаі.
Ледзь чутнай малітвай чароту
Вятрыска цалуе жыццё,
А там, ля старэнькага плоту
Бы прывід, аблічча тваё...

* * *

А ноч, прыснёная табой,
Хіба адно што вецер...
Каштуеш зоркавы напой –
Душа ляціць па свеце...
Дух спачывае на мяжы –
Салодкай мроі гукі...
Перакрыжуюцца нажы,
Як закаханых рукі...
Заззяе золатам рака,
Прысніш дзівосных птахаў...
І не ўстрымаць маладзіка,
Ад шчасця каб не плакаў.
...а ноч, прыснёная табой,
Засне на крылах ветру.
Чырвонай кропляй за табой
Душа ляціць планеты...

* * *

Апранулася восень у шалік лістоў,
У сукенку пажоўклага свету...

Капялюшык з халодна-гуллівых вятроў
Пасуе ёй, а мне так нясцерпна...
Нібы з лесу вярнуліся сны
Пра герояў паўстання у Слуцку,
Быццам нас не знайшлі змагары,
Што жыццё аддалі у пакутах...
Апранулася восень у дождж,
Капялюшык крывёй набрынялы..
Побач з намі, вакол ды і ўздоўж –
Успамін пра Радзіму апалы....

## *БЕЛЫ БУСЕЛ У ВЫРАЙ ЛЯЦЕЎ...*

Небакраем анёлавых межаў
Белы бусел у вырай ляцеў.
Прамінаючы гмахі і вежы,
У абдымках сцюдзёных залеў.
А на крылах бялютка-бліскучых
Чырванеў, паміраючы, дзень.
Белы бусел самотны, у скрусе
Пакідаў на Радзіме свой цень.
Раніцою вільготнаю ўвосень
Расквітнела раптоўна зямля...
Цень, пакінуты птахам, няўлоўны
Нарадзіўся працягам жыцця.
І той цень асвятлёны паветрам,
Раскашуе цяплом вышыні...
Забаўляецца з сонечным ветрам,
Саграваючы восені дні...
Небакраем анёлкавых межаў
Белы бусел у вырай ляцеў.
Каб не згінулі гмахі і вежы –
Цень ягоны у душах святлеў.

## *ВОСЕНЬ НА ДВАРЭ*

Лютуе восень на двары,
нібыта згадваючы волю,
Смуткуе быццам па вясне,
Далёкай ў памяці і кволай...
Памежжа хмараў і зямлі
Ашчэрыла вільготнасць пашчы.
Уздых замураванае душы
Б'е холадам лядашчым...
І пракаветны сон Літвы
Апалым лісцікам кружляе...
Хіба памерлі змагары?
Адказ даждлівасцю муляе.

Трапеча ўсё ж свабоды сцяг,
І восень не адужыць волі...
Бела-чырвона-белы страх
У дамавіну Юдаў гоніць...

* * *

Горкім сном не прысніцца віна –
Не мая, не твая, а чыя?
Як не прыйдзе ніколі вясна,
Не яго, не яе, а чыя?
Памяць ціха стаіць ля вакна –
Не мая, не твая, а чыя?
Нібы Чаша пакутаў без дна,
Не яго, не яе, а чыя?
Цемра плача з відна да відна –
Не мая, не твая, а чыя?
Уцякае скрозь пальцы вада –
Не яго, не яе, а чыя?
Новым днём прывітае зіма –
Не мая, не твая, а чыя?
Неўзабаве ўсё ж прыйдзе вясна –
Для яго, дя яе – Нічыя.

## *НОЧ У КРАКАВЕ*

Ноч снегавеем калядным
Душу сагрэе ў кавярні
Якая знайшла нас у Кракаве
Старым, як песні славянаў.
Годным як нерушы ў лесе
Што Татры ўпрыгожвае ў снезе
Велічным, як перамогі і слава,
Якіх мы з табой напаткалі
Якіх ты й яны там сустрэлі
Дзе чуецца звон дзідаў і стрэлаў,
Дзе памяць гайдае арэлі
І брамы палацаў святлеюць...
Ноч снегавеем калядным
Частуе нас кракаўскай кавай.

## *ПАНУЕ ВОСЕНЬ*

Ты сыдзеш, мабыць, як прыйшла:
Туман, балоты, восень...
Прысніцца раз, другі вясна
Як між чарноцця просінь...

Ты знікнеш хутка між агнёў:
Блуканне, вецер, попел...
Свет перакуліцца і зноў
Звычайнай стане восень.
Ты развітаешся і... ўсё–
Цяпло, валошкі, сонца–
Як быццам больш і нічыё:
Вакол пануе восень...

## ***ПЛОШЧА***

Адчуваю:
за мной са зброяй ідзе цень.
доўгі, насуплены, змрочны...
з цягам часу хаваецца ў Дзень,
нібы апошні бяглянак на Плошчы...

Ты адчуваеш:
боль – за табою бяжыць.
доўгі, апрануты ў форму вайскоўца.
адчуваеш:
сняжынка ў далонях трымціць
Светам пакінутай Плошчы.
Што за грукат
насупраць будынкаў?
«Спаць!» –
загадалі сцямнёныя вочы вакон.
ціха паўзе самота ў натоўпе –
нязвыкла
нібыта ўваходзіць
Плошча у Скон.

Мы адчуваем
подых натоўпу ціха-
застылага.
ценю крысо, Змрок Болю і
Ноч.
сэрца спявае слязьмі.
бел-чырвонымі крыламі шэпча
мароз:
з Плошчы кроч....

* * *

Снег напраўду падобны да ветру...
Ты пачуеш, як сэрца трымціць...
Мы заснулі ў бялюткім паветры –
Снег як вецер далей паляціць...

Валасоў тваех зорныя ніткі
Снег з пяшчотай ахутае сном...
На зямлі белатварай адбіткі
Нам пакіне ўстрывожаны гром.
Рэчка побач усмешкай заззяе,
Сіняй хваляй цалуючы снег...
У мінулым нас восень чакае
Белай кропкай між цьмяных павек.
Пройдзеш шляхам спамінаў-фантазій
З абярэгам снягоў і вятроў...
На кастрышчы стагоддзяў мы разам
Створым казку, сатканую з сноў,
Дзе напраўду снег дужы як вецер,
І дзе вецер мягчэйшы за снег...
Паляцім па-за часам па свеце
Праз адтуліны белыя стрэх..

* * *

Спаўзе ў гушчар туман сівы
Між елак покрывам бялюткім.
Ізноў прысніцеся не Вы
У панаванні Рэха гнуткім...
Спаўзе з галінкі кроплі звон,
Які падхопіць шоргат лісця...
Ізноў сустрэнецца Вам Ён,
У мроях стрэчаны калісьці.
Спадзе на вокны змроку цень,
Кране далоні сарамліва...
Ізноў не Вы – самотны дзень
Аб нечым просіць палахліва...

## АБЛОКІ НАД КРЫЎЯЙ

Аблокі, як анёлы, мой край аберагаюць,
З вышынь крыштальнай спёкай
Бог-Сонца ім спрыяе...
Аблокі, нібы дзеткі, люляюцца ў бяздонні
І край Ліцьвінскі светлы – Салодкасцю
палоняць...
У гэткай казцы цуды, у травеньскіх абдымках
Імчыць Пагоня здалеч
І паміраюць Юды...
Пагоня благлавёна, Крыўі пазнака вечна
Салодскасцю палоніць
І душу траўнем лечыць...

дэбют

Яўгенія Пракапчук



...На тканіне крыжоў і мовы
Кроплю цёплай крыві пакіну...

# Вышыванка

* * *

Расказаць пра сябе?
Толькі што расказаць?
Што цьмянею ў журбе?
Што пачуцці маўчаць?

Што смуткую даўно?
Што самлела далонь?
Што размовы віно
Млосна стукае ў скронь?

Пра сябе расказаць?
Расказаць аб усім?
Не, прасцей прамаўчаць.
Я здзічэла зусім.

Я маўчу. Я з імжой.
Размаўляю даўно
З парыжэлым крыжом,
З пашарэлай сцяной.

## СЦЕНЫ РОДНАЙ ХАТЫ

Сцены
Абдымаюць мяне за плечы
Невыказным, пяшчотным нечым,
Сарамлівым маўчаннем вечным
І чаканым цяплом сустрэчы,
Роднай
Атуляюць мяне гаворкай,
Прахалодай палынна-горкай,
Цішынёю шчымліва-жорсткай
І запозненай шэрай зоркай.
Хаты
Сцены цёмныя дзікавата
Абдымаюць мяне, як страту,
Церпкім пахам сухое мяты.

* * *

Забярыце ў чалавека голас –
Усё роўна думка недзе б'ецца.
Завяжыце чалавеку вочы,
То замест вачэй убачыць сэрца.
Затрымайце чалавеку ногі –
Правядзе душа, не дасць спыніцца.
Забярыце ў яго здароўе –
Вылечыць тады святая вера.
Адыміце ў чалавека мару –
Ён апусціць у бяссіллі рукі.

* * *

Пакідаю абразы, згрызоты
За дзвярыма, за ўмоўнай мяжой.
Па-дзіцячы, з бязмежнай пяшчотай
Удыхаю дрыготкі спакой.

Пройдзе ўсё. Хваляванні, турботы
Не пакінуць у сэрцы слядоў.

Дай жа, Божа, з такою ж ахвотай
Мне заўсёды вяртацца дамоў.

* * *

Ціхай зёлкаю з роснай смугой
Прытулюся да роднае хаты.
Мяне ж лічаць чужой
І завуць крапівой,
А я – толькі здзічэлая мята.

Не шкадуюць маіх каранёў.
Кажуць, нібы зямля мной хварэе.
Не скажу злосных слоў,
Хоць мяне гоняць зноў,
Але рукі пячы я не ўмею.

То хай нішчаць і зерне, і квет,
Покуль мара ўнутры шчэ не б'ецца.
Хай адыдуць ад бед
У нязведанны свет
Хоць яны з неапаленым сэрцам!..

## ***АКРАВЕРШ***

**М**не хочацца пакланіцца
**А**дрынам тваім, крыніцам,
**Я**змінам і навальніцам...
**М**аліцца табе, зямліца!
**А**дкрыцца табе, забыцца,
**Л**юбоўю сваёй бажыцца,
**І**мклівым дажджом паліцца,
**Т**уліцца да ніў, скарыцца
**В**ятрам, курганам, званіцам,
**А**звацца ў табе, маліцца!..

* * *

Я іду па чужых слядах,
Углядаюся ў рысы твараў.
Я шукаю цябе ў вачах
Пацьмянелых дамоў бульвараў.

Адчуваю тваё цяпло,
І здаецца, што чую подых.
Ты глядзіш на мяне праз шкло.
І знікаеш у ім жа. Шкода.

Я спрабую пачуць цябе
У пустым мармытанні ветру.
Я ў блуканне іду глыбей,
Захлынаюся ў самых нетрах.

Я шукаю цябе, а ты
Не жадаеш мне даць збаўлення.
Я пішу да цябе лісты.
Я чакаю цябе, натхненне...

* * *

Бывае, заные сэрца,
Здаецца, што ўжо мяжа.
Трымаецца, не здаецца,
За цела мая душа.

І прагна лаўлю, глытаю
Імгненні жыцця. З грудзей
Імкнецца любоў святая
Да родных чужых людзей.

Свой голас ад крыўды, болю
У плачы не надарву.
Я дзякую моўчкі долі,
Бо толькі ў той міг жыву.

## ***ВЫШЫВАНКА***

Вышываю жыццё чырвоным.
Па тканіне пустой крыжамі.
Кожны крыжык, маленькі, роўны,
Веснавымі краплю дажджамі.

Мне халодзіць іголка пальцы:
Наглыталася ў ветру сцюжы.
Нітак полымя ў гнуткім танцы
На тканіне выводзіць ружы.

Уплятаю ў нямыя ўзоры
Песню велічную, на роднай,
Хай малітвай ляціць да зорак,
Хай аздобіць прастор халодны.

Я ўсё ж вышыю ўзор жыццёвы,
І каб спеў у віры не згінуў,
На тканіне крыжоў і мовы
Кроплю цёплай крыві пакіну.

* * *

Не адмаўляйце мяне:
Я такое ж жыццё,
Я такое ж нясмелае сэрца.
Гэтай гульні – ці вайне? –
Слоў сухіх з пачуццём
Не аддацца б, не здацца б да смерці...

Толькі б душою гарэць,
Шчырым сэрцам любіць,
Раздарыць бы мне ўсё, што я маю.
Толькі паспець бы, паспець
Даказаць, дарабіць...
Толькі б жыць, толькі б жыць без адчаю!..

Толькі б агонь зберагчы,
Каб яго не згасіць,
Каб у ім жа згарэць, захлынуцца!..
Толькі б ад слоў не ўцячы,
У адказ бы не кпіць,
Не адмовіцца б толькі, вярнуцца...

# “Парадны ўваход у мастацтва”

## *Сучасная літоўская паэзія і проза*

***У верасні мінулага года ў Друскінінкаі адбыўся міжнародны літоўска-беларускі перакладчыцкі пленэр, у якім узялі ўдзел Алег Аблажэй, Казімера Астратовене, Уладас Бразюнас, Марус Бурокас, Паўліна Вітушчанка, Сальвейга Даўгірдайтэ, Вітаўтас Дэкшніс, Алма Лапінскене, Сюзанна Паўкштэла, Данатас Пятрошус, Томас Пятруліс, Алесь Разанаў, Андрэй Хадановіч, Раман Урбановіч. Падчас пленэру ўдзельнікі працавалі над перакладамі сучаснай прозы і паэзіі, абмяркоўвалі найноўшыя тэндэнцыі ў літоўскай і беларускай літаратуры ды дзяліліся творчым досведам. Вынікі праекту пазней былі прадстаўленыя ў Саюзе пісьменнікаў Літвы. Гэтая публікацыя – падсумаванне таго плённага супрацоўніцтва.***

### Айдас МАРЧЭНАС

#### *ЗІМОВАЯ МУЗЫКА Ў ПАЛАНЗЕ*

*Н.*

сюды памершы прыйдзем зноў бо ў спелых
сумётах парк пад месяцам у сне
твая рука кранецца клавіш белых
а чорных не кране

сюды памершы прыйдзем зноў бо бераг
і кірляў крык знікае ў тумане
твая рука кранецца клавіш белых
а чорных не кране

сюды памершы прыйдзем бо ў знямелых
дзвярах чакае ноч цябе й мяне
твая рука кранецца клавіш белых
а чорных не кране

сюды памершы прыйдзем зноў бо ў целах
сто тысяч зім у смутку і віне
твая рука кранецца клавіш белых
а чорных не кране

сюды памершы прыйдзем бо не ўявіш
як грэшная душа злятае з клавіш
і нібы снег у хвалях растае
ад музыкі твае

## Я НАД КНІГАЙ СЯДЗЕЎ

Я над кнігай сядзеў і драмаў, як раптоўна ў акно,
нібы ў Эдгара По, заляцела вядомая птушка,
за акном галасы, але мне ўжо было ўсё адно,
я ўжо ведаў, што гаспадаром можа быць толькі служка.

Тут зліваецца ўсё і вірue, кружляе, нясе
на той бок геаграфіі, словаў ды іншых асноваў,
усё робіцца ветрам і полымя нішчыць усе
каралеўствы, што д'ябал калісьці Хрысту прапаноўваў...

Я не йшоў, я лунаў... Гарады праплывалі ўначы,
за сталом засталося бяздушнае соннае цела,
я ляцеў над зямлёю, са мною браты-крумкачы,
а сястры не было, што б мяне ўратаваць захацела

з той краіны, якой і на свеце, здаецца, няма...
Бо й вар'яту такое не ўдасца ўявіць, уявіце:
ні руіны, ні замак, ні змрок, ні святло – ўсё дарма.
Хто стварыў бы ўсю вусціш, што ў гэтым была краявідзе?

Дзе я ўбачыў паэзію? Там, дзе ні "да", ні "пасля",
дзе братаюцца думка і смерць у адной настальгіі,
найглыбейшая з меляў расце ўвышыню, а зямля
і вада, і паветра гараць у чацвёртай стыхіі...

Паглядзіце глыбей: я разгледзеў між лісцямі дрэў
белы сад з немагчымымі птушкамі і аднарога...
Каб хапіла адвагі ўвайсці, то і дзеву б сустрэў,
што ўсміхнецца таму, хто ў апошнюю пойдзе дарогу.

Паміж ружаў самотна і велічна крочыць, бы ў сне,
лёгкі вецер і спеў салаўіны сплятаюцца гімнам,
аднарог, галаву апусціўшы, ёй сумна кіўне.
...Яна ўсё даравала. Яшчэ да народзін. Усім нам.

Ды радкі пацяжэлі і ўсё, як туман, паплыло,
і, нібыта шыпом, укалола раптоўнаю думкай.
Зноў руіны ці замак... Над імі ні змрок, ні святло...
І не зменіш наўкол краявіду, як птушкай ні крумкай.

Жыць у замку, далей ад зямлі, чуйнаваць уначы
там, дзе цела старэе і кнігі – слабой абаронай.
Толькі так ты навучышся словам, а зараз маўчы.
Дзе ты ўбачыў паэзію? Між каўпаком і каронай.

## ***ЗАСЛОНА ДАЖДЖУ***

Сыходзіць чэрвень, а я ўсё кажу,
і нават не істотна, *што* кажу я.
Не любячы нікога, ў ноч чужую
гляджу, а там няма канца дажджу.
“Ты чуеш...” Я не чую. Я сыйшоў.
У чорнае нішто не ўпішаш нешта.
Усё, што трэба, зроблена, а рэшта –
нікчэмны карнавал, дурное шоў.

За той заслонай сто гадоў зімы
панізяць градус нашае самоты,
самотныя па самыя сумёты
пляц, брукаванка, і дамы, і мы.
У п’яным бары танныя сябры,
пазыкі на таксоўкі й катафалкі.
То патрыёты ўспыхнуць, як запалкі,
то “вер у Бога й збавішся, стары!”

Жахліва й чорна, толькі дождж і змрок,
і на падтрымку марныя спадзевы,
але за шыбай сад, шапочуць дрэвы
пад кропель стук... І раптам, як знарок,
я чую: “На шкляных нагах бяжыць
па садзе дождж” – нібы адной цытатай
нябёсы шлюць ратунак мне. За хатай
шчаня скуголіць. І не страшна жыць.

Віднее. Хутка пройдуць дождж і ноч,
а там, глядзіш, і нервавацца кінеш.
Смерць – плоская развязка, кепскі фініш,
ніякіх таямніцаў, лепей збоч.

Ноч – пастка, дождж – звычайны стан вады,
начных матросаў сустракае бухта,
а ў смерці мала дзіўнага – таму, хто
пражыў на свеце трыццаць тры гады.

### ГОД БЕЗ КОНІКА

Дзень цепліцца яшчэ, ды карацее.
Пад восень ноч халодная й сырая.
Смерць побач, і жыццё на бой збірае
апошнюю пяшчоту і надзею.
Адолець – варта спробы. Лепшай спробы.
Лісты гараць, як вогнішча лістоты.
Этапы. Адзіночкі. Адзіноты.
Год без цябе, мой конік. Год хваробы.

“Ўсе немачы ад нерваў. Толькі першай
было каханне. І яму – застацца”.
“Народу зразумелае мастацтва
патрэбнае! Што значаць вашы вершы?”
Спявай, мой конік, праз адчай і стому.
Я не пачую, але грай, гарэзнік.
Асенні лівень вязню – выцвярэзнік.
Маліся ж, калі выпусцяць дадому:

“Ойча не наш, што болей не ўваскрэсне!
Не хлеб надзённы дзецям безрадзімным –
дай ім пірог, пакуль не стала гімнам
апошняя нязмушаная песня!”
Смех скардзіцца на спёку цёплым летам,
грэх жаліцца, што навальніца мчыцца.
З Пісання не народзіцца гарчыца –
таму я тут. Таму і стаў паэтам.

Таму сыйду. Эпоха адлятае.
Сок ціснуць, хоць не вырасла ўраджаю.
Вам дастанецца спадчына чужая:
усё, што меў я, – восень залатая.
Дзяліце, не пакрыўдзіцца ніводзін,
і ты мне падаруй усё, што трэба:
у дзень народзін – трохі свайго неба,
і трохі ў ім пажыць – у ноч народзін.

### ГОСПАДЗЕ, Я ЗНАЙШОЎ ГРЫБ

Бога і я не сустрэў, ані разу ў жыцці,
але вось баравік, нібы волат, глядзіць на мяне,

архетып архетыпам! Чаму ж я баюся сысці,
калі ўсё, што люблю на зямлі, гэтак хутка міне?

Я даўно здагадаўся, я з лісця не зводзіў вачэй,
так на грошы з надзеяй і страхам глядзіць ліхадзей.
Касманаўт з маіх мараў, мы там апынемся хутчэй,
чым палезуць на лоб тэлескопы ў няшчасных людзей.

Асы з лятучых талерак! Куды несяце вы мяне?
Ад рэальнасці ў тонкія высі, на злом галавы?
Я ўсё ведаю, мой баравік расказаў мне ўва сне –
я бясконцы, як вы, а таму й бескарысны, як вы.

Сесці ў човен і плысці ў нікуды, ніхто, ніадкуль,
аж завершыцца эра і памяць растане на дне.
Час абраў нас. Абраў да апошніх лушпінаў. Пакуль
мы падымемся ў абсерваторыю, восень міне.

## *КЛАСІЧНЫ САНЕТ СЁННЯ*

Там куфар і клетка ў пасаг салаўям,
сталовае срэбра і скарбы піратаў,
чароўная лямпа на шэсцьдзясят ватаў,
засохлая ружа і ўзор вінных плям;

прыбой, што міжземныя ветразі шые,
Петраркавы цень між магіл вядзе рэй,
жывая вада з іншай казкі й чужыя
дзве даты, і дзверы да іншых дзвярэй;

звычайная форма, праклён і замова –
так з семені лес вырастае нанова;
мастацтва журбы й выжывання ў журбе,

і рэшткі любові пад гэтай журботай,
як шапкі зладзеяў, згараюць употай –
кастрычніцкай зоркай, лістом ад цябе.

## *УПЛЫЎ*

хто на мяне ўплываў? туман,
дажджы і бунінскія вёскі,
з евангелістаў двойчы ян,
і тры разы сусвет наш боскі

разоў пяць-шэсць зрабіў уплыў
таркоўскі, можна ганарыцца

і трыццаць год язмін мне цвіў,
таму і ўплываў роўна трыццаць

уплывы, так бы мовіць, музаў:
п’яных амбіцый поўны кузаў,
бяссонніца, гамэр, крыло

пегаса, гузакі, самота
й салодкага жыцця гаркота,
што паўплывала – і сплыло

## *SECOND HAND*

няўжо для пачатку мне лён проста зараз пасеяць
няўжо як бажку пладароддзя з азімымі мёрзнуць у сцюжу
няўжо мне бавоўну збіраць ці авечак завесці й вычэсваць
руно – хто скажыце вязаць або ткаць яшчэ ўмее

нават калі б я і меў хоць якую старую тканіну
штуку ангельскае воўны ад войнаў схаваную дзедам
нават калі б і кітайскі лягчэйшы за полымя тонкі
шоўк – і тады гэта ўсё нібы з полымя попел

вось жа не маю ніякіх магчымасцяў сшыць іх самому
талентаў новае нешта купіць я не маю тым болей
тым што вы калісь набылі задорага ці атрымалі
дарам – паношанай вашай адзежай душу прыкрываю

душу бо дрыжыць на марозе і так я нябогу шкадую
што прыкрываю яна ж апранахі чужой не жадае
так не жадае што румзае супраціўляецца б’ецца
адзежы кладу на паперу а ёй усё зябка дрыжыць

## *ВЫЖЫВАНКА*

з убогіх шматкоў і шматочкаў, аскепкаў нябеснага княства
я шыў бы і шыў – як у бога за печкай – даосец-забаўнік
а потым насіў бы – нішто на вятры, пералётнае птаства
як рэшата м*а*нны, парадны ўваход у мастацтва
а з чорнага – рэшта ман*ы*, незапоўнены ежаю страўнік

мяняецца націск, і карты картавяць, бы кат уключыў перамотку
віновы кароль зноў шукае цэзуру пад лаўкай
нявінную рубіць прыстаўку, пад корань, і вешае верш, нібы котку
якая сама па сабе, павадок спыніць словаў паводку
каб вывесці сучку на шпацыр, гуляй і не гаўкай

маленькаю мандалай міма аптэкі, садка і па коле
а потым вялікай вакол найбліжэйшага універсама
ён ведае, дзе яна какае й дзе не пасерыць ніколі
тым больш, што яна – гэта я, увасоблены вобраз нявoлі
мой стомлены розум і лепет дзіцячы таксама

я! скурчаны свет, сумесь Божага подыху й гліны
напрыканцы ліпеня з самага ранку а пятай
па сцежках, па траўцы, па клумбах, між белай шыпшыны
сем дзён як адлучаны ад алкаголю, тры дні – ад жанчыны
і месяцы – ад тэлефона, на шворцы пад вашаю хатай

яшчэ не прачнуўшыся, з ранішніх сноў – на тры чвэрці
на чвэрць – ідыёт, але час быць на "ты" з гэтым светам
стварыць сябе нанава з ветру і лотаці, лішняе сцерці
пакуль малако не абсохла на тэксце, падумаць аб смерці
у дваццаць сем год, каб пасля не хварэць дыябетам

ну вось і дадому, не ўсё ж на капыл арыштантаў
вакол кругласутачнай кармы, з ман*о*ю пад націскам м*а*ны
а ўвечары зноў тое ж кола і шворка, няшмат варыянтаў
няхай не па грынвічы, ды не паводле курантаў
гадзіннік цік-так у грудзях, Божа мой, да чаго ж ужываны

*Пераклаў з літоўскай Андрэй ХАДАНОВІЧ*

## Гінтарас ГРАЯЎСКАС

### *ПАЭТЫЧНЫЯ ЧЫТАННІ*

толькі паслухай, як файна чытае
голас выразны, правільныя інтанацыі
падкрэсліў чырвоным алоўкам
усе лагічныя націскі: таленавіты, зараза
бегае, як піяніст, па эмоцыях

(мне вось больш падабаецца, калі чытаюць
як судовыя клеркі – сёння толькі паэты
і клеркі ў судзе так чытаюць:
манатонна, ведаючы, што асуджаны
марнаваць свой час на нікому
непатрэбныя больш фармальнасці)

не, ты толькі паслухай яго: здаецца, і сам
зараз расплачацца ад прыгажосці

сам сабе й звон, і святар,
і вялізарная царква

а ў самым куточку
нямая царкоўная мыш:
верш

### *МАЛЕНЬКІ БУДА*

вечна так
ні з пушчы, ні з поля
як закрычаць

потым быццам зміраюцца з чымсьці

глядзяць па баках
доўга, а потым ні з пушчы, ні з поля
як пачынаюць

я тады як сказану
што прыйдзе да галавы, але гучна:
заўтра будзе воблачна
з праясненнямі!

(яны слупянеюць, пераглядаюцца
во дурдом, кажа нехта)

а што я яшчэ магу
я, партатыўны радыёпрыймач
66-га года выпуску

* * *

пабадзяўся па свеце
і вярнуўся дадому пры бабках,
з падарункамі ў новай машыне

сабралося багата сямейнікаў
за сталом, смакуюць “Джэк Дэніэлз”,
ветліва моршчацца

падарожнік кульнуў пару чарак, крыху
перабраў і, каб нешта сказаць, узяў і
паскардзіўся

немцы прыстойныя, шатландцы добра працуюць
галандцы гасцінныя, толькі мы,
літоўцы, не маем чым пахваліцца

тут бацька як схопіць кавеньку,
як трэсне яму па зубах,

кажачы: вось і табе цяпер будзе
чым перад светам хваліцца

### *ХТО НАШ КАРОЛЬ*

ведаеш, у нас няма караля
мы выбіраем парламент
суем вось такія карткі ў такую шчыліну
так, ты таксама зможаш, калі падрасцеш

а замест караля ў нас прэзідэнт
а замест каралевы прэм’ер
а замест фрэйлін міністры
а замест каралеўскіх выжлаў паліцыя

добра, толькі не плач, адкрыю табе
сакрэт, наш сапраўдны кароль –
Элвіс, толькі глядзі, больш нікому

### *СУСЕД ПА ПАД’ЕЗДЗЕ*

“цяпер мааагууу прызнацца...”
гарлаў ён п’яны ўвесь вечар

потым заплакаў, ужо
ціха, сабе па нос

так хочацца ў чымсьці прызнацца

а няма ў чым

### *БО ШТО ЯШЧЭ ЗАСТАЕЦЦА*

Старэючы
усё болей і болей
шаную
духоўную прыгажосць

### *БУКІНІСТ*

здароўкі, можна прысесці? Я на хвілінку. Кнігі
вось прадаю, не жадаеш? Класны тавар,
баба з дому выгнала, і кнігі ў акно
бабах, цяпер прадаю вось, а куды яшчэ дзяваць?

Чо, грэбуеш? Ды ты зірні толькі – проста
паглядзі, не хочаш – не купляй, зірнуць жа
можна, га? Так, ёсць і нашыя, не ўсё ж толькі
рускія. О, бачыш: “Адвечным шляхам”,

“Далягляды”... А вунь, глядзі, Дастаеўскі,
на рускай. Па-руску ферштэйн? Ну, вось бачыш. Ага,
той самы, што “Муму” напісаў, ведаеш? Не?
Ну, тады паўтара. Ой, ладна, за адзін літ аддам.

Заплаціў літ – і гуляй. Ці паўтара, оптам,
за ўсё, разам з “Чатырма танкістамі”,
Муму + Шарык, будзе салодкая
парачка, не? Ну, не хочаш – не еш.

Я думаў, у акулярах, дык, блін, разбіраецца
ў кніжках. Ну, не хочаш – як хочаш, іншы з рукамі
адарве. Чакай, можа, дваццаць цэнтаў знойдзецца?
На пузыр не хапае, са Славікам накацілі ўчора.

Славіка знаеш? Ну, той, без нагі, з чатырнаццатай
кватэры? Не ведаеш? Мужык, ты чаго?
Яго ж усе ведаюць? Ладна, сып, і дробязь таксама,
вазьму. Я ж не горды. Таак, разам дваццаць сем...

Малавата. А, можа? Ну, не – дык не,
давай тады, пакулечкі. Будзь здароў, не кашляй.
Гэй, чакай, успомніў яшчэ – а можа
ведаеш, каму мабільнік загнаць? Аддаю за так.

Нокія. Новая, з музыкай. Чысцяк,
муха не ябалася. Гэй, ты куды!
Куды пабег – пачакай, пагамонім
як людзі. Гэй!..

### *ЧАМУ ТОЙ РАЗ, САМ-НАСАМ З САБОЮ, Я РАГАТАЎ, ЯК ВАР’ЯТ*

у трыццаць чатыры
даведаўся смешную рэч

усе мае хібы
дзеля якіх я так пераймаўся

насамрэч мае
адзіныя вартасці

## ВЕРШ ПРА ПОШУКІ ЛІТОЎСКАЙ ІДЭНТЫЧНАСЦІ

*Літоўцы вельмі шчырыя, але ж не надта гаваркія*
*(З падарожных уражанняў нямецкага турыста)*

чаму яны п’юць сярод лета гарэлку з рыльца
чаму як пяюць, то заўжды ваяўніча, з крыкамі і пагрозамі
чаму пачынаюць бойку, а потым плачуць абняўшыся?

таму, што жыццё панылае

чаму ядуць бутэрброды ў абедзенны перапынак
чаму на сняданак харчуюцца кавай і позіркамі на гадзіннік
чаму вось цяпер яны паляць на рыштаваннях,
плююць на зямлю й тарэшчацца ў неба?

таму, што жыццё панылае

чаму яны прыспяшаюць адно аднаго і ўвесь час спазняюцца
чаму ледзь сустрэнуць адно аднаго, адразу ж і разыходзяцца
чаму ім ніколі не шчасціць і толькі зрэдку шанцуе?

таму, што жыццё панылае

чаму ўстаюць сярод ночы, каб сунуць башку ў лядоўню
чаму ўстаюць сярод ночы, каб сунуць башку ў пятлю
чаму не ўстаюць раніцой і ўвесь дзень валяюцца ў ложку?

таму, што жыццё панылае

чаму яны ходзяць у храм па нядзелях
чаму яны ходзяць па бабах у чацвяргі
чаму яны раптам спыняюцца ўпёршыся як наравістае быдла?

таму, што жыццё панылае

чаму яны кажуць: здаецца, што гэта ўсё ўжо было
чаму паціскаюць плячыма й кажуць: халера з ім, так пераб’емся
чаму ківаюць галовамі й кажуць: штосьці не так, напраўду,
штосьці не так

таму, што жыццё панылае
таму, што жыццё панылае
таму, што жыццё панылае

кажуць тыя літоўцы, пасля зусім,
зусім замаўкаюць

### *ARS LONGA*

з усіх мастацтваў
найболей непадуладным
часу й капрызам моды
аказалася ўменне свістаць
на дзьмухаўцовай сцяблінцы

### *НАЙЛЕПШЫ БОК ПІНЖАКА – ПАДШЭЎКА*

раней я жыў сам па сабе
упарта: падаў і
ўставаў, падаў і ўставаў

цяпер жыву інакш,
як усе з усімі: падаю
і ўстаю, падаю і ўстаю

вось нібыта і ўсё

ага, яшчэ адно – прыдумаў сабе,
што скажу перад смерцю

перад смерцю абавязкова скажу:
дзякуй, было прыгожа.

*Пераклаў з літоўскай Андрэй ХАДАНОВІЧ*

## Гедрэ КАЗЛАЎСКАЙТЭ

### *ПРАБЕЖКА Ў ПАРКУ*

Слімакі на дарозе: некаторых раструшчыла шынамі.
Ніяк не магу прабегчы спакойна, адрываю іх ад асфальту,
пускаю ў іншым кірунку, падманваю карму, бо сапраўды баюся,
што яны абгоняць мяне. Ядвабная маміна сукенка: рудая,
у белы гарошак,
за якую я чаплялася, яшчэ не пачаўшы жыць.
Я лічыла тыя гарошкі, ды не далічыла.
Быццам пялёсткі чаромхі: яны.

Я, здаецца, зазнала ўжо ўсе пачуцці, я больш не прагну
ні воплескаў, ні пасмачкі ў медальёне, ні прынца на белым кані;
быць не як усе, ні залатой
клеткі з папугам, у якой я магла б спяваць;
ні пагладжвання (супраць поўсці таксама), ні ботаў
на абцасах Ахіла.

Замест гэтага, далічыўшы гарошкі, я набіраю літары
павольна, на старажытным мабільніку, і гэта дапамагае забіць
бессэнсоўнасць.

Я больш не прагну зведаць столькіх рэчаў, па якіх так сумую –
Больш не хачу на мора, за мяжу, мне не патрэбны дом,
Нейкая музыка – яе наогул можа не быць.
Больш не прагну вучыць мовы, сустракаць
цікавых людзей, жыць шыкоўным жыццём гетэры
або высакародным – аскета.
Мне больш непатрэбныя дзеці, ўсё больш аддаляюся ад іх
і набліжаюся
да бясплоднай адзіноты сеціва.
Больш не купляю кніг, пра якія так марыла; ласункаў,
недаступных раней.
Кроў не цячэ больш з носу ад дудзення ў флейту.
Усе вялікія жарсці перажытыя, і нічога велічнага
пад сонцам ужо не здарыцца: ведаць ці разумець
таксама выглядае, як замах на ўласнасць.
Больш не прагну любіць Бога ўсім сэрцам, не сумняюся
ў яго існаванні,
не трымаюся
яго запаветаў: не імкнуся да новых зорачак на пагонах свайго
шыняля,
не выходжу спаткаці вясну.
Скочучы ў рэчку з маста, які мне ўвесь час сніцца,
дзеля сімвалічнага нараджэння, занурэння ў каляплодныя воды,
вяртання ва ўлонне маці, праз паўторныя хрэсьбіны,
прагну толькі адчуваць: я жывая
і вада амывае маю душу.

* * *

Дзяўчынка ў язмінава-белай сукенцы на плошчы Еўропы
бегае між бетонных тумбаў, на якіх архітэктары
мусілі б запісаць Канстытуцыю ці хаця б сімфонію №9
але пакінулі месца для графітчыкаў і скейтбардыстаў свядомасці.
Я назіраю за ёй з тэрасы, высока, але халодна, і вецер
які варушыць яе валасы, сярдзіта гартае мае паперы,
нібы хоча замачыць тунікі Эраты ў астылым супе.

Чытаю сяброў (я ўсіх іх ведаю), іх вершы, ужо не важна,
хто піша лепей, уся гэтая гонка
страціла вартасць, на алімпіядах
зачыняюцца таталізатары, бегавыя дарожкі
выводзяць на фінішную прамую жыцця (усе яны пішуць адзін
лепей за аднаго, – годна, няспешна, трымаюцца правілаў,
не прамаўляюць банальнасцяў:

іх ужо не хвалюе неба над намі і гэты няшчасны
маральны закон, якія дагэтуль апашляюцца ўсякімі спрынтэрамі.
Усё даўно пераасэнсавана, даўно зразумета,
імёны багоў вывучаныя, скейтбардысты зрабілі ўрокі.
У сваіх вершах яны пафасна
плачуць, што нас мала, што мала каму
ёсць справа да Шымборскай за паўцаны і іншых самотных
кніжак, што замянілі нашы ўбогія біяграфіі.
Дзяўчынка лічыць сімвалічныя надмагіллі, узбіраючыся
на іх па чарзе – ну вось, яе за руку
цягне пажылая жачына: пара сыходзіць.

Нечакана (рэчаісней за вецер) мне ўзварушыла сэрца
гэтая дачка алімпійскіх багоў; язмін, што па-персідску
значыць “дарунакбагоў” (яна для мяне сапраўды –
зламаны ветрам язмін, ад якога
загортваюцца кнігі і халаднее суп).

У сваіх вершах
яны ўздымаюць галоўнае, найважнейшае
для нас пытанне, ад яго блякне неба
і ліняе любая мараль (у вуснах дурных журналістаў
яно гучыць так): ну і ў чым тут паэзія?
На яго адказала б дзіця, прысеўшы на надмагіллe: вось у гэтым.

І дзе ж тая клятая радасць, з якой мы
зацята вяртаемся ў дзяцінства?

Як бы я хацела, каб яна
прачытала гэтыя радкі, калі вырасце.

### *SILENTIUM*

Ніякай драмы не здарылася – ты не змяніла статусу,
не пабілася ні з кім у каментах, не выйшла на вуліцу
з транспарантам, не зрабілася гераіняй глянцу
(што досыць эфектна, хоць і бязмежна вульгарна).
Ты проста паволі жыла няясным для ўсіх навакольных
і мусіць, непад'ёмным жыццём, калі з крыкам уночы
абуджаешся ад кашмару: з ланцуга сарваўся сабака –
сімвал таго, што заўсёды надзейна зарыта;
шмат каму ён можа перагрызці горла.

Ва Ўкраіне адбывалася рэвалюцыя, сацыяльныя сеткі гулі
і ўсе хоць крыху асабістыя запісы ў той час
выглядалі мізэрна. Яны вянчаліся на фоне барыкадаў, яны
ішлі з люстэркамі супраць Беркута; дзіця ўсё не пачынала
гаварыць,

мы цягалі яе па лекарах, усё, што тыя
маглі нам сказаць, было: трэба захоўваць надзею.
Затое яна пазнавала літары свайго імені
на тэлевізары і пральнай машыне, радасна
іх вымаўляючы: гаварыла хутчэй па-японску,
відаць, навучыўшыся з мульцікаў
на youtube. Аднак было ясна – яна не гаворыць, каб
не выдаць камусьці чагосьці лішняга,
і каб мы выжылі.

Была халодная зіма, малых не пускалі ў школы,
а мы вялі яе ў садок, бо мне трэба было
на семінары, з якіх толькі й памятаю, што ў мансардным акне
быў відаць крыж Бернардынаў; здавалася, яго можна
дастаць рукой,
прывязаць каня фантазіяў. Мучыла летаргія, так, быццам я
дзесяць гадоў нікуды не хадзіла, не бачыла горада;
людзі выглядалі іначай, як бы ўжо мадэрновыя,
але быў нейкі дысананс з асіметрычнымі
скосамі класіцызму. Я спазнілася з дысертацыяй,
нават маці ў мяне больш не верыла, гаварыла:
"Далася табе тая вучоба." Я сніла, што яна высвятляе,
як мы жывем – асуджае, патрабуе разводу,
галосіць, тэрарызуе, а наш белы агрэсіўны
сабака зрываецца з ланцуга, ён можа пакусаць людзей:
трэба хавацца, каб не загрыз.

Нават калі мы жывем у нары (вобраз катакомбаў залішне
высакародны),
у тэатры ценяў Майдану пазнаўшы
літары сваіх сапраўдных імёнаў, праз таго сабаку
мы не хацелі пачынаць гаварыць.

## *АЎРОРА*

"Аўрора" была караблём герояў,
пакуль мы жылі ў казцы.

Хлопчыкі, што пахлі тэстастэронам,
любілі яе маляваць, хоць ніколі не бачылі.
Калі пасля параду выстрэльвалі халастымі,
яны беглі збіраць гільзы на вайсковых могілках.
Крылатая багіня з пярстамі пурпурнымі, у шатах колеру шафрану,
што пралівала расу з залатых судзінаў. У школе
мы верылі ў высакароднасць стрэлу, што пачаў рэвалюцыю.
Пазней не засталося калысак, і людзі
гушкалі малых дзяцей на арэлях.
Адпускалі пасвіцца, толькі калі яны вырастуць.

Пакуль я была эмбрыёнам
я марыла пра тагасвецце
неразвітымі вачыма
бачыла карціны раю.

Тыя сны пра Бога
немагчыма пераказаць, яны прымушаюць
паверыць у яго нелагічнае існаванне
нават у чэраве, дзе пасвіліся яе жывёлы.

Чалавек пісаў лісты філосафу –
Неадаптаваныя жывуць пад вадой,
а словы – слабыя, у іх кволыя цяглiцы,
косткі хатніх мутантаў.

Пад вадой, пад вадой
у чэравах крэйсераў, у залатых судзінах замест кветак
рытуальна перажагнацца каля тваёй брамы.
Мы пафарбавалі валасы ў сівы, як тая акторка з “Гадзінаў”,
замест плюшавай трыумфальнай аркі
я адпісала табе куст шыпшыны
з чмялямі, якія так лагодна джаляць.

Дванаццаць летаў я пасвіла сваіх жывёлаў і толькі цяпер
пачула, як галасамі тыграў
скрыківаюцца паўліны.

*Пераклала з літоўскай Марыя МАРТЫСЕВІЧ*

## Гедра РАДВІЛАВІЧУТЭ

### Мая амерыканская біяграфія

Калі я нарадзілася ў 60-х у правінцыйным мястэчку, савецкія жаўнеры збілі самалёт амерыканскага разведчыка Паўэрса, што даследаваў інтымныя месцы нашай вялікай краіны. У “Праўдзе” хтосьці намаляваў Статую Свабоды, усю ў чорных ястрабах у шапках пентагонаўскіх вайскоўцаў. У кіпцюрах яны трымалі бомбы. Мама, як і іншыя жанчыны мястэчка, думала, што гэты інцыдэнт стане пачаткам вайны з Амерыкай. На двары быў травень, самы час сеяць кукурузу, а ўсе людзі абмяркоўвалі што сказаў Хрушчоў дэ Голю, МакМілану і Эйзенхаўэру. У чаканні страшных рэчаў пабляклі ўсе жыццёвыя непрыемнасці. Ніхто не звяртаў увагу на беспарадак у пакоі драўлянага дома, што здымалі бацькі, засталося незаўважаным нават тое, што з радзільні я прывезла вошай. Хоць савецкім правадырам было ясна, што з агрэсарамі за адным сталом нам не месца, пазней, мусіць, за яго і сеўшы, Паўэрса выменялі на нейкага свайго калегу. Звычайным людзям невядома, як адбываюцца такія абмены, але мне яны ўяўляюцца падобнымі на сцэну з фільма “Мёртвы сезон”.

Бацька тады яшчэ быў вельмі добры і адпускаў маму ў кіно. Не тое, каб яна кіно неяк асабліва любіла, але часам, відаць, сумавала па далёкіх краях, прыгожай вопратцы, словам, па іншай атмасферы. Мама працавала на варыўні прывакзальнага рэстаранчыку. Ідучы дамоў, нават зімой не апранала шапкі, каб, покуль вернецца, з валасоў выветрыўся пах сланечнікавага алею, што ўпітваўся ад штодзённа вараных бублікаў. Аднойчы ў нядзелю, ідучы з “Вялікага Каруза”, яна зачапілася за няроўны тратуар цэнтральнай вуліцы, няўдала звалілася ды зламала руку. У шпіталі аказалася, што руку прыйдзецца аперавацьь, бо перелом адкрыты. Тэрміны траўматолагаў мне заўжды здаваліся залішне просталінейнымі, адкрыты пералом я ўяўляю сабе як падняты ноччу пецярбуржскі мост. Даведаўшыся, што дома застаецца трохмесячнае немаўля, доктар адразу ж агледзеў маміны грудзі і, чамусьці ўжываючы множны лік, сказаў: “З такой колькасцю малака Амерыку ўсё роўна не дагонім”. Таму мама засталася ў шпіталі, а мяне аддалі ў яшчэ меншае мястэчка на выхаванне да бабулі і дзядулі.

Калі я ўжо была большая за макі, што раслі ў агародзе пры хаце, і больш ужо не смактала соску, я пачала звяртаць увагу на людзей, што шасталі па двары, так званых суседзяў. На верхнім паверсе жылі расейскія вайскоўцы, якіх туды засяліла савецкая ўлада. Суд пастанавіў, што дзядуля набыў дом незаконна, бо яго гаспадар-габрэй падрабіў дакументы. Тыя пацверджаныя натарыусам паперы маю да гэтага часу. Мне падабаецца вадзіць пальцам па пажоўклым плане, успамінаць калідоры таго дома і знаходзіць маленькі пакой, з прывідам барадатага карліка, там, памятаю, стаяла заржавелая бочка солі. У той год у мястэчку адбылося яшчэ некалькі падобных працэсаў, пасля каторых у дамы іх удзельнікаў засяляліся суседзі з рэвальверамі. Пра судовую справу дзядуля не мог гаварыць не трасучыся ад злосці, але часам выпіваў з тымі вайскоўцамі пляшку самагонкі на першым паверсе. Яны без аніякай злосці называлі дзядулю “*Батя*”, а ён, дачакаўшыся вечара, уключаў радыё і слухаў навіны, што пачыналіся са словаў “Голас Амерыкі гаворыць Літве”. Я не разумела, чаму бабуля адразу ж завешвае вокны, замыкае аканіцы ды кажа размаўляць шэптам. Ніякіх вельмі страшных рэчаў па радыё не чулася. Прыемныя жаночы ды мужчынскі галасы абвяшчалі пра важныя сустрэчы Кенедзі, яго клопат пра Эквадор. Ён пастаянна паўтараў, што адносіны Амерыкі ды Савецкага Саюза важныя не толькі для яго краіны, але й для ўсяго свету. Так, нічога не разумеючы, толькі гледзячы на вока радыё зменлівай зеляносці, я слухала навіны, а потым уяўляла сабе, што такімі вачмі мусіла б глядзець Статуя Свабоды.

Па пятніцах дзядуля мыўся. Пасля лазні ён выстрыгаў валасы, што тырчалі з носу, складаным ножыкам зразаў мазалі з пятаў і кідаў іх у шуфляду. Потым пераапранаўся ў загадзя перакінутую праз крэсла чыстую бялізну і сядаў есці малочны суп. Узяўшы лыжкай пляму падталага масла, задаволены, ён выдыхаў адно слова: “Амерыка...” Гледзячы на тую пляму масла, я пачынала ўсведамляць, што ў Амерыцы так, як мусіць быць па ўсім свеце, – чыста, сыта ды правільна. Не так, як у нашай хаце, дзе ў шуфлядзе валяліся абрэзаныя мазалі, а на другім паверсе жылі суседзі з рэвальверамі.

– Амерыка – гэта дзе? – аднойчы спытала я дзядулю, спрабуючы да канца зразумець яго задаволены выдых.

– Там, – правай рукою сёрбаючы суп, левым указальным пальцам, відаць, маючы на ўвазе другі бок зямлі, ён паказаў на падлогу. Можа, таму, што

яго палец калісьці быў зламаны й зросся пад вуглом. Месцазнаходжанне Амерыкі мне засталося незразумелым. Да самай яго смерці. Дзядулю быццам падабалася ляжаць у труне з той таямніцай, у асляпляльна белай кашулі, дасланай ў мястэчка з Амерыкі стрыечным братам, што калісьці туды эміграваў.

Ужо ў школе, разглядаючы Паўночную Амерыку, падобную да пеўня, падвешанага за ногі, я ўспамінала ўказальны палец дзядулі, што паказваў на падлогу. Палец, праламаўшы кару зямлі, утыкаўся ўглыб і вылазіў на ўзбярэжжы Атлантыкі з пяском пляжа Маямі пад пазногцем.

Здаецца, бацька пачаў нас пакідаць якраз у той час. Кажу "пачаў пакідаць", бо раз і назаўжды сем'і пакідаюць толькі цынікі. А бацька быў рамантыкам: пісаў вершы, збіраў гербарыі й хварэў на сухоты. Калі б ён вырашыў застацца паэтам, то, можа, усё закончылася б добра, але ён кінуўся пісаць прозу. Я ўпэўненая, што людзі пішуць тады, калі ім нічога больш не застаецца. Адзінае бацькава апавяданне было пра яго адзіноту, якую можна было перадаць толькі па-мастацку. Герой, адзінокі летуценнік, здалёку назірае за банальным жыццём: "Праз акно пакоя ён бачыць вуліцу. Яна недалёка, бо газон перад домам даволі вузкі. Дом – рудаваты, нефарбаваны, сціплы аднапавярховы будынак, таксама невялікі і амаль зусім схаваны за кустамі падбярэжніку, мальваў ды язміну". Мне заўжды было шкада бацькі праз той падбярэжнік. Ён, як чалавек, што збіраў гербарыі, мог памяняць **тыя балотныя расліны** на штосьці іншае. Рэдактар ужо быў збіраўся твор надрукаваць у гарадской газеце, але падбярэжнік запомніў, і паколькі якраз у той час чытаў Фолкнерава "Святло ў жніўні", пазнаў некаторыя сказы, як і той, цытаваны, – спрэс спісаныя з той кнігі.

Адразу пасля таго здарэння бацька знік. Месяц ён быццам лекаваў лёгкія ў вядомым санаторыі, але вярнуўся дахаты толькі забраць свае кніжкі. У залішняй спешцы (відаць, баяўся сустрэць маму, што мусіла неўзабаве вярнуцца з працы), ён склаў у валізку і Фолкнера, якога ведаў на памяць, і мае кніжкі казак. Я любіла не столькі чытаць іх, колькі разглядаць каляровыя малюнкі, якія часам, калі нікога не было дома, наводзілі на мяне страх. Ведзьма з памаранчавымі валасамі, цмок з трыма галовамі на гідкай шыі быццам ажывалі і, пакінуўшы свае выявы ў кнізе, станавіліся ў мяне за спінаю.

Наступным летам я пайшла са старэйшай стрыечнай сястрой у Парк моладзі пакатацца на коле агляду. Мы падняліся на самы верх, калі ўжо здаецца, што вісіш у паветры адна, і тут я глянула ўніз і ўбачыла свайго бацьку, што ішоў па сцежцы з другой жонкай. У той жа момант мая кабіна адарвалася і марудна, быццам была не кавалак металу, а пуховая пярына, якую маме сшыла бабуля, звалілася на пару, што гуляла ўнізе... Пазней, згаладаўшыся без такой мары, я часта сніла, што падаю, а мама гладзіла мяне па галаве і казала, што ў гэтым няма нічога страшнага. Усім дзецям сніцца, што яны падаюць, гэта значыць, што яны растуць.

У школе я адрознівалася ад вучнёўскай эліты тым, што не мела бацькі і джынсаў. Пра бацьку я ўжо расказала, а джынсаў не мела з некалькіх прычынаў. Па-першае – маці не мела грошай, каб іх набыць, а па-другое – мне не падабаюцца абцягнутыя азадкі, калі яны не на ровары ці матацыкле. Не ўсе аднакласнікі набывалі тыя штаны на рынку, часта іх прысылалі родныя з Амерыкі. Джынсы яны зношвалі да белізны эмаляванай міскі, а тады разразалі на кавалкі і прадавалі

на латкі. Хоць Гвідас таксама не меў бацькі, але джынсы насіў. Хадзіў, засунуўшы вялікія пальцы ў цесныя кішэні, і глядзеў на ўсіх так, быццам за яго спінай фыркаў мускулісты конь. А яшчэ ён не верыў у Бога. Не таму, што ў падручніках пісалі, што Бога няма, але таму, што ніхто яму не мог даказаць існавання найвышэйшай сілы. А калі Армстранг з Олдрынам высадзіліся на месяцы, тэма Бога Гвідасу зусім надакучыла. Я добра памятаю, як, таркуючы бульбу, на варыўні бабуля малілася, каб дзядуля не піў, каб зажыла маміна рука, што ўсё яшчэ балела пасля пералому, каб нас не пакінуў бесталковы бацька. Хоць Бог не выканаў ніводнай просьбы і, задзёршы галаву, я не чула паху яго ног, але я верыла Госпаду, а не Гвідасу. Аднойчы ён, страціўшы цярпенне, расказаў мне тую ж рэч, якую мне ўжо распавядала старэйшая стрыечная сястра, – пра Ганг. У тую святую раку ў Індыі лезуць дурныя вернікі, хочучы загаіць незагойныя раны, і яшчэ больш заразіўшыся, паміраюць. Такіх фактаў я не магла аспрэчыць аніякімі аргументамі. Сядзела за партай заплаканая і маўчала. Гвідас адкрыў акно класа, выскачыў на луг і нарваў мне поўныя далоні дзьмухаўцоў, уручыў жэстам прынца букет для пераможцы. Настаўніца напісала чырвоным у яго дзённік заўвагу аб хуліганскіх паводзінах, хоць перад заняткамі ён і сцёр з падваконня адбіткі сваіх маленькіх ног. Пра Бога мы больш не спрачаліся і пачалі разам святкаваць дні народзінаў. Неўзабаве Гвідаса ўсынавіў другі муж яго мамы, вельмі добры чалавек, вайсковец. На адзін дзень народзінаў Гвідас падарыў мне ўручную выпаленую драўляную карцінку з маленькай хаткай, калодзежам і вераб'ём, што шчабеча на плоце, а яго айчым павёў нас глядзець на сапраўдныя вайсковыя самалёты. Дагэтуль я не ведала, што ў нашым мястэчку быў аэрадром. Самалёты стаялі маленькія, пафарбаваныя ў нястрашны бульбяны колер, але пасавалі для барацьбы з ворагам. Паводле Гвідасава айчыма, усе ворагі жылі тады ў Амерыцы, мусіць, у тым жа доме, што й Паўэрс. Калі вярталіся назад, Гвідас набраў поўныя боты снегу (я дык не, бо ішла па вытаптаных слядах) і захварэў на запаленне лёгкіх. Я не дачакалася яго вяртання, бо мусіла хутка перайсці ў школу, што бліжэй да дому, але вечарамі доўга яшчэ не магла заснуць, уяўляючы сабе цяжка хворага Гвідаса, – у кожным яго лёгкім шчабятаў верабей. На апошнім курсе ўніверсітэта Гвідас ажаніўся і праз пару месяцаў развёўся. Потым хутка зноў ажаніўся, з амерыканскай літоўкай, і жыве ў Філадэльфіі. Усё гэта мне расказвалі аднакласнікі са старой школы. Жывога Гвідаса я бачыла толькі аднойчы, "дваццаць год па тым", як сказаў бы Дзюма... Выйшаўшы з працы ў рэдакцыі, я абедала з сяброўкай ў адной са сталічных рэстарацыяў. Гвідас сядзеў у куце залы. Я не сумнявалася, што побач сядзела яго жонка: завушніцы з дыяментамі, кароткая футровая накідка, што зусім не пасавала тут, дзе на трохкутных століках віселі, абапёршыся на локці, п'яныя мастакі, халодныя шэрыя вочы. Твар мне паказаўся арытмічным, бессэнсоўным, вочы хацелася памяняць з агеньчыкамі завушніцаў. Гвідас доўга калупаўся ў меню, дэманстратыўна выбіраў стравы, вялікі палец рукі, як у дзяцінстве, усунуўшы ў кішэню джынсаў. Я не падыйшла. Была цяжарная, тоўстая. Вядома, было б цікава пачуць з першых вуснаў тое, чаго не паспеў расказаць дзядуля. І калі б побач не ела жонка, я шмат аб чым хацела б запытацца. Ці растуць там, дзе ён жыве, дзьмухаўцы, ці памятае ён, як націраюць ногі

ваўняныя шкарпэткі, калі набярэш поўныя боты снегу, ці выпальвае ён яшчэ драўляныя карцінкі з вераб'ём на плоце... Мяне цягнула на ваніты, вядома ж, не ад вінегрэту, але ад успамінаў і сантыментаў, што так нечакана нахлынулі (драўляная карцінка ў мяне й да гэтуль адна). Я тады так і не падышла. Нельга было нерваваўцца. Я працавала ў адносна спакойнай рэдакцыі, трэба было проста выпраўляць мову некаторых артыкулаў і час ад часу падбіраць для часопіса адпаведную прозу, але тады мы ўжо кожны дзень чакалі страшных падзеяў.

Уначы пад вокнамі інтэрната, дзе я жыла з мужам, у горад ехалі савецкія танкі. Пяціпавярховік стаяў на гары, раніцай я нават знаходзіла на падваконні намецены з абрыву пясок, але зямля дрыжала пад цяжкімі машынамі, і шыбы калаціла як градам. Муж, як і шмат іншых людзей, некалькі начэй хадзіў да парламента. Я вельмі прасіла, каб ён гэтага не рабіў. Але ён кожную раніцу вяртаўся. Паставіўшы на стол пусты тэрмас, складаў у партфель нейкія абарваныя кніжкі мінулых стагоддзяў і сыходзіў на працу. Як я дазналася пазней, тымі днямі нават унутры, у парламенце, былі жынчыны, што мелі дзяцей, адна нават была цяжарная. Раніцай яны фарбаваліся і здавалася, што яны зусім не баяцца смерці. Ноччу я ўключала радыё. Спачатку, пакуль радыёстанцыя не была акупаваная, я слухала мясцовыя навіны, а потым "Вольную Еўропу" і тыя, што пачыналіся з "Гаворыць Голас Амерыкі..." І там, і тут літоўцы чакалі адной простай рэчы – што вялікія краіны чым хутчэй афіцыйна прызнаюць незалежнасць Літвы; але прыемныя галасы, мужчынскі і жаночы, вяшчалі аб важных сустрэчах прэзідэнта ЗША, яго клопат пра Кувейт. Праўда, часта паўтаралі, што адносіны з Савецкім Саюзам важныя не толькі ягонай краіне, але й усяму свету. Часам якая-небудзь важная асоба, але не прэзідэнт, казаў, што гэтыя адносіны могуць разбурыць падзеі ў краінах Балтыі.

Пасля ночы забойстваў да нас у пакой прыйшоў сусед, які ўсё бачыў зблізку. Калі расказваў, то глядзеў на нас з мужам так, быццам мы былі шкляныя чаркі з ніколі не карыстанага сервізу. Ноччу, калі навіны перарываліся песняй пра волю, я бегала ванітаваць у агульную прыбіральню ў канцы інтэрнацкага калідора. Хацела чым цішэй, каб не чулі суседзі. Я ванітавала кожную ноч, хоць дзіцё ўжо рухалася, і харчавалася толькі садавіной, бо ўсё, нават хлеб, здавалася падобным да мяса. Шкадуючы сябе, я спачувала і Гвідасу, што ён, прыязджаючы з Філадэльфіі, нават не прадчуваў, што яго тут чакае. Тралейбусы хадзілі рэдка, на вуліцах стаялі барыкады з будаўнічых блокаў. Начамі раптоўна ўключаліся сірэны заводаў. Ужо значна пазней па тэлебачанні паказалі дакументальны фільм пра тыя дні. Здымалі ўсё, нават тое, што адбывалася ў парламенце. Кадры, дзе ксёндз бласлаўляе ўсіх, хто там застаецца, выглядалі па-майстэрску сыгранымі. Мне падаўся цікавым эпізод, дзе кіраўнік нашай дзяржавы чакаў тэлефоннай сувязі з Амерыкай. Калі ён гаварыў з натоўпам праз вакно парламента, заўжды трымаўся спакойна. А там, у сваім кабінеце, крычаў у слухаўку, як усе. Я, праўду кажучы, таксама не зусім разумею, як прэзідэнту правільнай краіны трэба было б па-ангельску і яшчэ ветліва сказаць, што тут танкі трушчаць жанчын, мужчынаў і дзяцей. У слухаўцы суразмоўніка тыя словы, мусіць, гучалі як карэктная просьба аб дапамозе, а ў кабінеце трывала па-абсурднаму працоўная гатоўнасць да смерці.

Якраз у той час сяброўка на працы дала мне на трошкі пачытаць празаічную кніжку літоўскай пісьменніцы-эмігранткі. Я паспела глянуць толькі адну аповесць, але яна цалкам пасавала для вялікоднага нумару. Паколькі ў студзеньскім нумары, на чорным фоне белымі літарамі мы друкавалі размовы з блізкімі загінулых (тыя тэксты нават візуальна чытаць цяжка), хацелася нейкай палёгкі. Хоць кніжка была выдадзеная ў Чыкага вельмі даўно і ўжо не трэба было плаціць пісьменніцы ганарар, я напісала ёй ліст з просьбай. Праз месяц я атрымала пасылку. Яна прыйшла якраз адтуль, дзе, як мне ў дзяцінстве здавалася, крывым пальцам дзядуля паказваў месца Амерыкі – Фларыда, мястэчка паблізу Маямі. Пісьменніца да свайго ліста дадала касету **з уласным голасам** начытанай навелай і два фотаздымкі. Адзін быў ейны, другі – мястэчка, дзе яна жыла. Сукенка жанчыны была такога ж колеру, як і акіян з другога здымку. Яна ўсміхалася – так у той краіне ўсміхаліся і простыя жанчыны, і жонкі прэзідэнтаў. Я глядзела на тыя здымкі, было цалкам зразумела, што па тых курортах ходзяць зусім не падобныя да нас людзі, з іншымі біяграфіямі, з іншым досведам. Калі яны прыязджаюць сюды, то іх адразу пазнаеш па яркай вопратцы і аспіраваных зычных у мове. Яшчэ не прачытаўшы ліст, я ўставіла касету ў магнітафон. Навела пасавала і дзецям, і дарослым. Жанчына пісала пра старыя часы, калі яна да Другой сусветнай вайны жыла ў Коўне. Апавяданне, на першы погляд, здавалася фрагментарным, але ўсе ўражанні былі аб'яднаныя штодзённым дзіцячым досведам. Тады дзяўчынка была ледзь большая за макі, што раслі пры бацькоўскім доме... У труне ляжыць мёртвы дзядуля. Яго кашуля незвычайна белая, а між застылых пальцаў пункцірам чарнее ружанец. Дзядулі дзяўчынка зусім не баіцца. Значна страшнейшыя ёй кніжкі казак. Яна любіць не столькі чытаць іх, колькі разглядаць малюнкі. І калі нікога не бывае дома, ёй робіцца страшна. Вядзьмарка з памаранчавымі валасамі, цмок з трымя галовамі на гідкай шыі быццам ажываюць і, пакінуўшы свае выявы ў кніжцы, ціха становяцца ў яе за спінаю. Дзяўчынка гуляе ў двары ля дому, скача з дзецьмі ў траву з цэментавага падвальнага ганка. Аднойчы яна падае на камень, што схаваўся між сцяблінаў, і раніць нагу. Усе дзеці, спалохаўшыся крыві, збягаюць, а яе падымае з зямлі суседскі хлопчык. Ён слюнявіць трыпутнік, заклейвае дзяўчынцы калена і кажа патрымаць трохі на сонцы. Тады яшчэ набірае поўныя далоні дзьмухаўцоў, бо дзяўчынка стаіць у траве босая, заплаканая, са смаркатым носам. Яна не называе хлопчыка па імені, але памятае яго як прынца – на ілбе ў яго свяціўся месяц, а на скронях зіхацела па зорцы. Пазней Коўна акупуе чужое войска. Жаўнеры ходзяць па чырвоных маках ў агародзе, чагосьці шукаючы. Маці завешвае вокны, замыкае аканіцы ды загадвае размаўляць шэптам, але тыя людзі ўрываюцца ўсярэдзіну. Пінаючы, адкрываюць валізкі, спакаваныя для выезду за мяжу, пратыкаюць рэвальверамі падушкі. У канцы навелы дзяўчынцы, што толькі прачнулася, пер'е падаецца сняжынкамі. Замест таго, каб падаць за вокнамі на вуліцы, яны спускаюцца на яшчэ цёплую падушку, падаюць у вазу з карычневага шкла на стале, якую бессэнсоўна было класці ў валізку.

У друкаваным на кампутары лісце жанчына пісала, што апавяданне, якое я выбрала для часопіса, і прысланая навела – з таго самага зборніку. Тая кніга, аказваецца, вельмі даўно атрымала нейкую прэмію амерыканскіх

літоўцаў. Хацелася б неяк займець тую кніжку надаўжэй і прачытаць усю. Але мусіць, зрабіць тое будзе нялёгка. Тыя, хто цяпер усё яшчэ чытае кніжкі, шукаюць рэдкіх, прывезеных здалёк – усё хочуць даведацца штосьці новае.

*Пераклала з літоўскай мовы Паўліна ВІТУШЧАНКА*

## Пацыентка №27

**3 студзеня**

Жанчына не пярэчыць, калі падчас сеансаў я буду рабіць запісы.

Выпадак будзе лёгкі: мноства банальных, характэрных для саракагадовых "schreibende Frau" комплексаў. Плюс – несумнеўная менапаўза. Тыповыя прыкметы – змена настрою без нейкай аб'ектыўнай прычыны, таблеткі – замест пачуццяў, фунікулёр на вежу Гедыміна – замест аргазму, у апошнія гады – нясмелыя сумневы наконт свайго полу і нявер'е ў відавочныя, найноўшыя пацверджаныя навукай факты, напр., што тварог можа замяніць мяса.

Атыповыя сімптомы – пацыентка зусім не верыць у сны і гараскопы. Шырокавядомыя адкрыцці Карла Густава Юнга падаліся ёй навіной. А нашыя сны – гэта ж лісты з падсвядомасці, закадаваныя веды. У сне, напрыклад, мы можам знайсці згубленыя рэчы. У безданях падсвядомасці мы ўзгадваем, дзе мы тую рэч паклалі, і ў сне бачым яе. Калі мы хочам знайсці згубленую рэч, перад сном будзем інтэнсіўна пра яе думаць. Можа быць, што калі не ў гэтую, дык у наступную ноч мы пабачым у сне, дзе яна. У гэтым месцы пацыентка раптам мяне перапыняе, папраўляе панчоху, якая з'ехала (панчоха, дарэчы, была са спушчаным вочкам, такая неахайнасць можа быць прыкметай дэпрэсіі) і прызнаецца, што часта сніць, быццам баіцца ўпасці. Гэта сведчыць пра канкурэнтную напругу (магчыма, прыхаванай кар'ерысткі). Я сказала, што страх павінен знікнуць, калі ў сне жанчына з апошніх сілаў пастараецца падняцца ўверх. Жанчыны часта бачаць у снах і бурлівае мора, у якім плаваюць на караблях. А гэта ўжо азначае сур'ёзныя парушэнні дзейнасці яечнікаў. Заўвага: у наступны яе візіт не забыцца даць ёй тэлефон жаночай кансультацыі Раймы з Антокаля. (У доме, які будуе Райма, мне будзе належаць прыкладна чвэрць, бо гэта ўжо будзе яе пяцьдзесят пятая пацыентка ад мяне.)

**7 студзеня**

Як толькі жанчына ўладкавалася ў фатэлі, я асцярожна пытаюся, ці не пераследуюць яе кашмары, якія паўтараюцца. Яна шчыра, быццам пасля першага сеансу яшчэ мела сумневы ў маёй кваліфікацыі, здзівілася: "Як Вы здагадаліся? Сняцца пастаянна. Каля мяне, у дзіўнай прасторы ў форме чорнага проставугольніка, стаяць чатыры мужчыны. Каляровыя. Яны мяне пераследуюць, і я хачу гэты сюжэт застрэліць". Гэтыя рэгулярныя сны, страх і агрэсія, што яго суправаджае, і тое, што пацыенка ў запрапанаваную мной каву не паклала ні адной лыжачкі цукру, сведчыць, што ў дзяцінстве жанчына перажыла сексуальную траўму.

Колькі б мы ні гаварылі ў гарадах і вёсках, у Сойме і Канстытуцыі пра гвалт над жанчынамі, патрыярхальная частка нашага грамадства ўсё роўна застаецца глухою. Фемінізм усё яшчэ разумеюць як чыгунную патэльню, а

жанчыны-празаікі, якія наважваюцца стаічна, адкрыта, займальна і нават, я сказала б, маляўніча пісаць пра найбольш інтымныя жаночыя праблемы, літоўскім мужчынам не падабаюцца, мужчыны іх не любяць і пацяшаюцца з іх. І гэта прымушае жанчын бадзяцца па далёкіх краях. Мая пацыентка таксама з гэтай прычыны чатыры гады пражыла ў ЗША. А па сутнасці, мужчынская праблема ў Літве, кажучы дакладнай медыцынскай мовай, якая? А такая – кароткі палавы акт. А жаночая праблема ў Літве якая? Такая – доўгае абмеркаванне гэтай з'явы. Часам – і ў кавярнях "Прэста". Вось адзін з выпадкаў, якія найчасцей трапляюцца ў маёй практыцы. Мужчыны жанчын схільныя мяняць часта. Кожную жанчыну трэба заваяваць, да яе трэба заляцацца. Гэта адымае шмат часу, сілаў, грошай і стварае ўсё большае сексуальнае напружанне. Праз некалькі такіх пакутлівых для асобы гадоў у мужчыны парушаецца палавая функцыя, бо падчас збліжэння з новай жанчынай, ён думае, што будзе *адхілены*. Заўвага: не забыцца заўтра выслаць па электроннай пошце тэзісы для канферэнцыі: "Інтэграцыя ў НАТА як інтэграцыя ў супрацьлеглы пол і глабальныя праблемы жанчын турэцкай паўночнай часткі Кіпра". Інтэграцыя ў супрацьлеглы пол – слова "інтэграцыя" напісаць у двукоссі.

**11 студзеня**

Пацыентка нарадзілася ў 1960 годзе ў Паняевежысе. Блізкіх сяброў свайго ўзросту ў родным гарадку не мае. Сумна. Амаль што ўсе яны раптоўнымі смерцямі перамерлі ў ліфтах, на бензакалонках і ў сажалках прыватных дамоў. Аднак сам гарадок пацыентка помніць і апісвае з любоўю і цеплынёй. Яна сцвярджае, што там і макіяж у жанчын ярчэйшы, і кавярня замест тэатра ёсць, і нават банды там маюць назвы найпрыгажэйшых раслінаў – "цюльпанчыкі", "вішнёвыя".

У літаратурным свеце пацыентка, магчыма, і мела б сяброў, аднак яна іх пазбягае свядома. Яна думае, што сябры ў літаратуры – тое ж самае, што сябры ў банку. Можаш дачакацца халяўных працэнтаў. Заўвага: духоўныя рэчы жанчына схільная мераць грашыма. Гэтай тэмай трэба пацікавіцца асобна і пасля чацвёртага візіту памяняць кошт сеансу. Калі пацыентка сама прагаварылася пра літаратурны свет, я спыталася, які з апошніх прачытаных раманаў ёй спадабаўся. Аказалася, што "Год зайца" Арта Паасіліна. Я пацікавілася – чаму. Яна адказала хутка і не вагаючыся – дзеля чалавечай цеплыні і пераканаўча адлюстраванай свабоды асобы. Кожны псіхолаг, нават першакурснік, скажа, што чалавечая цеплыня і свабода асобы – гэта цалкам супрацьлеглыя рэчы. Пацыентка цытавала раман па памяці, са слязьмі на вачах: "Левая задняя лапка зайчаняці была зламаная. Звісала бездапаможна – зайчаняці так балела, што яно не магло ўцячы, нават пабачыўшы, што набліжаецца чалавек.

Журналіст ўзяў зайчанятка на рукі... адламаў галінку і, разарваўшы насоўку, наклаў шыну. Зайчык схаваў пыску паміж пярэднімі лапамі, вушы ў такт сэрцу". Пацыентцы, здаецца, Арта Паасіліна падабаецца як асоба, можа нават, як мужчына. Заўвага: фінскім пісьменнікам пацікавіцца асобна.

**16 студзеня**

Артам Паасілінам пацікавілася. Прачытала кніжную вокладку. Ён сябе характарызуе як "вельмі фінскага". Любіць працаваць на сваім участ-

ку памерам 6 га ў Лапландыі, 25 гадоў не паказваўся па тэлебачанні, адмовіўся ад мноства прапановаў падарожнічаць па свеце. Пацыентка шкадавала, што ён у мінулым годзе не прыехаў на літаратурны фестываль у Біржах, у якім брала ўдзел і яна сама. Пісьменніку яна даслала запрашэнне, на якім быў выціснуты абсыпаны срэбрам велікодны зайчык. У паштоўку жанчына ўклала і свой фотаздымак. Падазраю, што менавіта гэты фотаздымак і абумовіў цвёрдае рашэнне пісьменніка не прыязджаць. Непрыезд знакамітага пісьменніка натхніў яе напісаць эсэ з сімптаматычнай, з пункту гледжання псіхалогіі, назвай – "Няма, няма мужчыначкі, не наракай на лёс". Гэтую тэму, калі далей будзе лекавацца, варта працягваць.

**22 студзеня**

Увага пацыенткі да зайчаняці мне падалася празмернай. Магчыма – нават дзіўнай. Аднаго разу да мяне на размову пацыентка прыйшла з кошыкам для ката ці сабачкі. З кошыка за тую гадзіну ніхто так і не паказаўся. Калі я запыталася, што так доўга там робіць жывёлінка, яна адказала, што пасля абеду *кашэрна* паспаць. Гэта, як мне падалося, я ўжо недзе чула. Можа, ад Раймы? Пацыентка сцвярджае, што на гэтым свеце яна засталася прывязанай навечна толькі да дзвюх жывых істот: да дачкі і да ката. Я прачытала адно з апошніх яе эсэ. Там узгадваецца кацiная эрэкцыя. Вельмі можа быць, што пацыентка з дапамогай інтымных апісанняў няшчаснай жывёліны спрабуе кампенсаваць сваю недастатковую сексуальную рэалізацыю. (Гэта пацвярджае і ўзгаданая ёю на першых сеансах паралель фунікулёра і аргазму.)

У апошні час мне вельмі баліць галава і блытаюцца думкі. Пацыентка, можа, і не будзе зусім лёгкім выпадкам. Патрэбна да яе дабірацца наўпрост і, магчыма, памяняць методыку.

**29 студзеня**

Рызыкнула наўпрост запытацца ў гэтай жанчыны пра яе адносіны з мужчынамі. Яна ў некалькіх сказах расказала пра нейкага Набокава. Расказваючы, успыхвала і чырванела, быццам ад гэтай сувязі ёй было неяк няёмка. Падазараю, што згаданы Набокаў – гэта адзін з тых грамадзянаў Расіі, якія ў нас нелегальна займаюцца нерухомасцю. Калі я добра зразумела, ён выдатна валодае англійскай мовай, жыве ў Германіі, першае вывучанае ім рускае слова было "*какао*". Набокаў атрымаў бездакорнае заходняе выхаванне, аднак гэта не перашкодзіла яму здраджваць пацыентцы з нейкай непаўнагадовай. Заўвага: сужыцелькай Набокава пацікавіцца асобна. Факт эксплуатацыі непаўнагадовых можа спатрэбіцца на канферэнцыі пра глабальныя праблемы жанчын турэцкай паўночнай часткі Кіпра ў кавярнях "Прэста". І пра інтэграцыю ў НАТА, як у двукоссе супрацьлеглага полу. Заўвага другая: яшчэ раз праверыць, якія тэзісы я выслала для канферэнцыі. Калі выслала, то для якой канферэнцыі, і ці сапраўды тэзісы.

**9 лютага**

Як толькі яна прыйшла, я вырашыла памяняць метад. Весела прапа-

навала сёння не размаўляць, а пагуляць. Хацела праверыць міжвольны, спантанны ход думак пацыенткі. Папрасіла, каб на сказанае мной слова яна, не раздумваючы, сказала першую асацыяцыю, што прыходзіць у галаву. Магчыма, нарэшце праясніліся б нейкія яе прыхаваныя патрэбы, прыхільнасці, закадаваныя сцэнары. Пачалі. Пахмелле – Імануіл Кант. Я збянтэжылася, але здолела не паказаць гэтага. Папрасіла рацыяналізаваць гэтую нечаканую асацыяцыю. Яна сказала, што гэта калі прачынаешся пасля вечарынкі, хай сабе і добрай, у лужыне поту, з раніцы, і нічога не помніш, толькі Канта: "Зорнае неба нада мной і катэгарычны імператыў ува мне".

Працягваем далей. Пах – чабурэкі. Жах – запланаваныя імгненні. Мастацтва – Альфонс. Набокаў – Лаліта Варанавічэнэ. Каханне – Міхаіл. Апека – сусед.

Заўвага: у галаве пацыенткі – мешаніна. Мне ясныя толькі дзве апошнія асацыяцыі, і гэта толькі пасля прачытання некаторых яе эсэ. Міхаіл і сусед – два персанажы, што паўтараюцца ў гэтых творах. Міхаіл – сапраўдны, сусед – выдуманы. Ён выконвае функцыю бацькі, якога ў дзяцінстве ў яе і не было і не хапала. Сусед з'яўляецца тады, калі ў апавядальніцы псуюцца электрапрылады, адвальваюцца ручкі ў камодзе ці да селядца патрэбныя сушаныя грыбы. Сусед выконвае пэўныя дзеянні – змазвае рыпучыя дзверы, збірае грыбы ў Налібоцкай пушчы разам з жонкай і рызеншнаўцэрам. Інакш кажучы, умоўна жыве па ўмоўным суседстве. Стоп. Заўвага: Налібоцкая пушча сапраўдная. Уладальнікам пушчы Налібокам пацікавіцца асобна.

**13 лютага**

Пацыентка пачынае стамляць. Выпадак дакладна не будзе такім лёгкім, як я думала спачатку. Тым больш, што ў мяне ёсць і іншыя праблемы. Адказ на тэзісы, якія я даслала для канферэнцыі ў Турцыю, прыйшоў чамусьці са Швецыі. Быў напісаны толькі адзін сказ. Па-ангельску. Патэлефанавала Райме ў паліклініку, каб яна пераклала. Кажа, пытаюцца, калі ты апошні раз была ў псіхіятра. Учора тэзісы і кароткі змест паведамлення на ўсялякі выпадак даслала і ў Турцыю, і ў Швецыю. Максімальна скараціла назву паведамлення. Пакінула так: "Глабальны выклік жанчынам Кіпра – "НАТА"/ "Прэста". НАТА напісала ў двукоссі.

Пацыентка прыходзіць усё больш раскудлачаная, на панчохах – усё больш спушчаных вочак і ўсё з тым жа брудным кошыкам на плячы, з якога падчас размовы не паказваецца ніякая эрэкцыя, г.зн. фунікулёр, і ў ім не прачынаецца ніякая Прыгажуня з соннага лесу. Дала ўсё больш маркотнай жанчыне пачытаць дадаткі "Летувос рытас" пра гісторыі шчаслівага кахання і некалькі часопісаў "Стылюс". Падумала, што сучасная публіцыстыка дапаможа ёй атаясаміць сябе з эмансіпаванымі, незакамплексаванымі, здольнымі паслядоўна імкнуцца да мэты жанчынамі. У рэшце рэшт пацыентка сама павінна пастарацца расставіць усе кропкі над "і" і "G". Рэкамендаваныя выданні ёй не спадабаліся. Яна прачытала толькі назвы артыкулаў. Адной, па яе меркаванні, канібальскай, яна проста спужалася: "Студэнтка падаравала сваё сэрца палкоўніку". Да некаторых назваў аднеслася скептычна: "Цудоўны секс у шлюбе". Яшчэ адна была ёй незразумелая: "Сэрца падначаленай кіраўнік пакарыў рамантычнымі

жэстамі”. А яшчэ адна нібыта разбурае яе ўтульнае ўяўленне аб акце кахання: “Танец кахання ў рытме тэніснага мячыка”.

Але я не здалася. Толькі не сядзіце, сказала, дома адна, выйдзіце пагуляць, сустрэньцеся з сяброўкамі, з Набокавым, схадзіце на які спектакль. Яна перш за ўсё запыталася, ці пусцяць яе на спектакль з кошыкам, пасля запыталася, на які. Я параіла новы, той, на якім была сама: “Дзівосная і кранальная гісторыя пра дзве піцэрыі”. Пацыентка сказала: “Скончу апошні роздум і тады схаджу”. Фрагменты гэтых роздумаў яна друкуе ў “Паўночных Афінах”.

Выданнем “Паўночныя Афіны” я пацікавілася асобна. Штотыднёвік, які вывучае антычнасць у аспектах інтымнай культуры чалавека. Ілюстрацыі з тэкстамі або не звязаныя нават асацыятыўна, або звязаныя чыста анатамічна. Рэдактар у дадзены час – пісьменнік Сігітас Парульскіс, якога грамадства ацэньвае неадназначна. Зусім выпадкова я чытала некалькі ягоных эсэ. З таго, з якой утрапёнасцю ён шукае антычныя каштоўнасці – каханне, Бога, – раблю выснову, што ён таксама мог бы быць маім пацыентам.

Выданне ўсё ж параіла жанчыне памяняць. Чытанне – таксама. Няхай чытае лёгкую вытанчаную прозу. Вось Геркус Кунчус увесь час піша эпас, якога так не хапае літоўскай літаратуры. Я парэкамендавала пацыентцы і адну канкрэтную кнігу пра роднасную ёй датклівую душу, мастака, які таксама ходзіць па псіхіятрах. Погляд на свет – неахопна шырокі, раман Леанардаса Гутаўскаса называецца “Лісты і гасцінец”. Калі пацыентка апошні раз выйшла на тралейбусны прыпынак, згорбленая, з пахам ад непамытага пасля “часу сэканд-хэнду” адзення і зноў з брудным кошыкам на плячы, я адкрыла тую кнігу Леанардаса Гутаўскаса, і – дзіва дзіўнае! – мне падалося, што ўсё, што я дагэтуль казала жанчыне, было крыху недакладна. Я падумала, як шмат з напісанага на выпадкова адкрытай дзевятнаццатай старонцы гэтага рамана пра хваравітага мастака пасуе маёй пацыентцы.

“...з гэтым лютым поглядам углыб самога сябе, з гэтым шуканнем сябе ў багнах быцця, у тупіках, у лабірынтах дзён і начэй, бо што ж мне засталося, як толькі ўкопвацца ў сябе, у гэтую ўнутраную маю мітусню, у мяшанку, як свінні, як крату ў непраглядны чарназём душы. Я шукаў сябе і ў люстэрках, і па той бок іх шкла, і ў студнях, і ў Сілаамскіх купальнях у Іерусаліме, і ў вірах кніг, і на Бермудах раманаў, крывавымі вугрынымі вачамі шукаў сябе, нічога, о, нічога не ахвяруючы для іншага. Шукаў, выварочваючы сябе, нібы змяіную скуру, атрутным нутром вонкі, а знайшоўшы хоць найменшую чыстую часцінку сябе, ператвараўся ў блазна, падскокамі, дзіўнымі каленцамі і шапкай з бразготкамі пужаў і смяшыў праведнікаў, зладзеяў, суддзяў, пісьменнікаў, мастакоў, лаўрэатаў прэмій, можа, калі-небудзь і ты гэта ўсё бачыў, толькі не ведаў, што гэта я, тварыш дзён тваіх суровых”.*

*Пераклала з літоўскай мовы Сюзанна ПАЎКШТЭЛА*

* Прамова падчас прэзентацыі кнігі “Запланаваныя імгненні”.



**Гінтарас Граяўскас** – паэт, драматург, празаік. Нарадзіўся ў 1966 годзе ў Мар'ямпалі, вучыўся на Клайпедскім факультэце Дзяржаўнай кансерваторыі Літвы (кафедра джазу). Піша вершы, эсэ, п'есы і раманы. Лаўрэат шматлікіх літаратурных прэміяў, сярод якіх прэмія Міністэрства культуры Літвы (2003) і Залаты Сцэнічны Крыж (2007) за п'есы "Дзяўчынка, якой баяўся Бог". Вершы перакладзеныя на шматлікія мовы. Беларускія пераклады друкаваліся ў "Дзеяслове" (№68). Жыве ў Клайпедзе.



**Гедрэ Казлаўскайтэ** – паэтка, празаік. Нарадзілася ў 1980 годзе. Скончыла філалагічны факультэт Віленскага ўніверсітэта, дзе навучалася таксама ў дактарантуры. Аўтарка адной празаічнай, дзвюх паэтычных кніг, у суаўтарстве з айцом Юліюсам Саснаўскасам напісала кнігу каментароў да рэлігійных гімнаў. З 2010 года працуе рэдактаркай у тыднёвіку культуры *Šiaurės Atėnai* ("Паўночныя Афіны"). Жыве ў Вільні.



**Айдас Марчэнас** – паэт і літаратурны крытык. Нарадзіўся ў 1960 годзе ў Каўнасе. Адзін з найвядомейшых прадстаўнікоў літоўскай "новай хвалі" 1980-90-х гг. Першы паэтычны зборнік выдаў у 1988 годзе. Прыхільнік класічнага вершаскладання, адрадзіў у сучаснай літоўскай паэзіі жанр санета. Томас Вэнцлава назваў Марчэнаса "надзеяй літоўскай паэзіі". Жыве ў Вільні.



**Гедра Радвілавічутэ** – празаік, эсэіст. Нарадзілася ў 1960 годзе ў Панявежысе. У 1983 г. скончыла аддзяленне літуаністыкі Віленскага ўніверсітэта і працавала настаўніцай у правінцыі. У 1986 г. перасялілася ў Вільню, доўгі час працавала ў рэдакцыі. У 1994-1997 гадах жыла ў Чыкага. У 1999 г. у прэсе пачалі публікавацца яе эсэ. У 2002 г. пяць яе эсэ выйшлі ў калектыўным зборніку "Сюжэт прапаную застрэліць". У 2004 г. выйшаў яе асабісты зборнік эсэ "Запланаваныя імгненні". За зборнік "Сёння я буду спаць ля сцяны", які выйшаў у 2010 г., аўтарка была ўзнагароджаная Літаратурнай прэміяй Еўрасаюза.

Васіль Дранько-Майсюк



...ты навучыла мяне гэтаму
сатурніянскаму вальсу!
Як мы яго вытанцоўвалі на абручах Сатурна
на зайздрасць тым планетам,
што абручоў не маюць!...

# Сатурніянка

***Меладраматычная містэрыя ў дзвюх дзеях з пралогам і эпілогам***

*Прысвячаю Ангеліне Уэльскай.*

*У п'есе гучаць вершы Янкі Купалы, Язэпа Драздовіча, Міхася Машары, Леаніда Дранько-Майсюка.*

А с о б ы :

ЮРКА – малады рэжысёр
АЛЕНКА – фотамастачка
ДЗЕД
ЛІЛЕЯ
САТУРНІЯНКА *(абавязкова іграе тая ж актрыса, што і ўвасабляе вобраз Лілеі)*
МІХАСЬ – акцёр
МІХАСЬ МАШАРА – паэт, якога называюць Звінячым
ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ – мастак
ХРУСЯ – вясковая дзяўчына

КАРП
АРАНЖАВА-ЛІМОННЫ ЛЕЎ
САТУРНІЯНСКІ ЦЫКЛОП
ПЯТРО ПЯТРОВІЧ – мастацкі кіраўнік Тэатра Маладой Драматургіі
ІВАН СЯРГЕЕВІЧ – народны артыст Рэспублікі Беларусь
АРТЫСТЫ ТЭАТРА МАЛАДОЙ ДРАМАТУРГІІ

## УСТУП

Запальваецца святло. Перад намі пустая сцэна, на якой стаіць мастацкі кіраўнік Тэатра Маладой Драматургіі Пятро Пятровіч.

ПЯТРО ПЯТРОВІЧ (*звяртаецца ў залу*). Паважаныя калегі, сябры мастацкай рады, толькі што мы паглядзелі з вамі невялічкі ўрывак, творчую заяўку нашага маладога рэжысёра і драматурга Юрася... Калі ласка, прашу выказацца. Слова нашаму вядучаму майстру сцэны, народнаму артысту Івану Сяргеевічу...

ІВАН СЯРГЕЕВІЧ (*з залы*). Я, извиняюсь, по-русски скажу. Хочу спросить у «нашага маладога рэжысёра»... Юрец, что это была за хрень?

ПЯТРО ПЯТРОВІЧ. Іван Сяргеевіч...

ІВАН СЯРГЕЕВІЧ. Нет, Петрович, надо вещи называть своими именами... Хрень она и есть хрень! О чем это все вообще было?

ГОЛАС 1-шы. Я згодная з калегам. Да ўсяго трэба падыходзіць прафесійна, а такая тэма якую ты, Юра, закрануў, вобраз мастака, вобраз Драздовіча, увогуле патрабуе...

ГОЛАС 2-гі. Ребят жалко, которые в этой лабуде играли...

ПЯТРО ПЯТРОВІЧ. Не будзем забываць, што гэта першая рэжысёрская работа Юркі. Гэта эксперымент...

ІВАН СЯРГЕЕВІЧ. Экскремент это, Петрович, самый настоящий. Пусть бы наш «малады рэжысёр» дома, закрывшись в комнате, экспериментировал, а театр здесь причем? Времени сколько было убухано, могли бы твой, Петрович, «Вишнёвый сад» наконец-то доработать и выпустить... Да чего базары лишние разводить? Забыть, как страшый сон, эту муть, вот и все!

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### Сцэна першая

ЮРКА, АЛЕНКА

Зацямненне. Запальваецца святло. Кватэра Аленкі. Пасярэдзіне стаіць ложак. У ложку ляжаць Юрка і Аленка.

АЛЕНКА (*іранічна*). ...І забылі яны, Буля, твой эксперыментальны спектакль пра Драздовіча, як страшны сон, і вечная цемра на тэатр гэты апусцілася...

ЮРКА. Аленка!..

АЛЕНКА. Паказычы мне, Булечка, жывоцік дзюбкаю носа, як ты ўмееш.

ЮРКА. Хопіць мяне называць...

АЛЕНКА (*ласкава*). А ты, калі натапыраны, то вельмі на бульдога французскага падобны! У цябе тады такія ж разумныя вочкі, верхнюю губу закусваеш, а твой хвосцік... Куды, дарэчы, хвосцік схаваўся?.. (*Хавае руку пад коўдру, нібыта чаго шукае.*)

ЮРКА (*перапыняе*). Табе смешна? Табе ўсё смешна?!

АЛЕНКА. Не крычы, дзеда пабудзіш. Ён не зразумее, што ў пасцелі яго ўнучкі робіць чужы голы мужчына...

ЮРКА. ...мне ў гэтым Тэатры Маладой Драматургіі жыцця не будзе...

АЛЕНКА. Ох, як пафасна: "жыцця не будзе"! Проста пакутнік! Прапануй свой спектакль тэатру якой-небудзь іншай, не такой маладой драматургіі...

ЮРКА. Аленка!.. Хопіць!

АЛЕНКА. Чаму? Я чытала п'есу. Мне спадабалася.

ЮРКА. Вядома, табе спадабалася! Бо хто ідэю падказаў?

АЛЕНКА. Можа, ты проста не тую актрысу на ролю Сатурніянкі выбраў? Я думаю, табе трэба...

ЮРКА. Што ты ўсё за мяне вырашаеш? Спярша спакусіла гэтым Драздовічам... А цяпер што? Можа, я не хачу ў іншы тэатр, можа, я ўвогуле не хачу быць рэжысёрам...

АЛЕНКА. ...а таксама не хочаш паказытаць дзюбкаю носа мой спакушальны жывоцік. Дык чаго ж ты, Булечка, хочаш?

ЮРКА. Каб ты мяне так больш не называла!

АЛЕНКА. Чаго ты хочаш? Сур'ёзна пытаю.

ЮРКА. ...я... кідаю... увогуле кідаю тэатр...

АЛЕНКА. Мужна. І?..

ЮРКА. ...і... і... я... я разумею, што гэта крыху нахабна і, магчыма, нечакана... і мы не так даўно адно аднаго ведаем... але... ці не магу я крыху ў цябе пажыць? Хочаш, буду ў фотасесіях памагаць... Не ведаю, там, мізансцэны мадэлям выдумляць, ці яшчэ што...

АЛЕНКА (*іранічна*). Ты забываеш, я замужняя дама!

ЮРКА. Дык ён жа вечна ў раз'ездах! Я нават не бачыў яго ніколі.

АЛЕНКА. Вяртаецца праз тыдзень...

ЮРКА. Я толькі на некалькі дзён!

АЛЕНКА. А пра дзядулю ты забыў?

ЮРКА. Ён стары, спіць увесь час. Нічога не чуе, нікога не бачыць...

АЛЕНКА. А як жа твае мама, тата, любімы кот Махнач, жонка Ніна? Сумаваць не будуць?

ЮРКА. Хай адпачнуць...

АЛЕНКА. Гуманіст!

ЮРКА. Ты згодная?

АЛЕНКА. Паказычы мне, Булечка, дзюбкаю жывоцік, як ты ўмееш, і тады скажу.

Юрка, уздыхнуўшы, дае нырца, пад коўдру.

Зацямненне.

**Сцэна другая**

ЮРКА, АЛЕНКА

Цемра. Адно толькі свеціцца ноўтбук. Набіраецца святло. Юрка спіць. Званок скайпа.

На экране з'яўляецца Аленка.

АЛЕНКА. Буля-Буля-Крамбамбуля!!! Апранайся-ўмывайся, часу вельмі мала!

ЮРКА. Аленка?! Чакай... А ты дзе??
АЛЕНКА. Еду ў аэрапорт. Размаўляю па далькажыку!
ЮРКА. У аэрапорт? Але куды?
АЛЕНКА. Куды-куды... У Судан на тыдзень! Творчая камандзіроўка! Памятаеш, Лені Рыфеншталь адкрыла там племя Нуба. Вось і я хачу зрабіць фотарэпартаж пра якое-небудзь новае эратычна-прыцягальнае племя! Чым я горшая за Рыфеншталь?
ЮРКА. Чакай, пры чым тут Рыфеншталь... А як жа я...
АЛЕНКА. А з табой будзе ўсё выдатна, мой каханы Булечка! Слухай. Ты застаешся ў мяне. Роўна тыдзень. За дзеда не хвалюйся. Я папярэдзіла яго, што мой траюрадны брат па лініі маці крыху пагасцюе. Але галоўнае не гэта!
ЮРКА. А што галоўнае?
АЛЕНКА. Дзесьці... Ого, праз дзесяць хвілін ужо да мяне прыедзе з Мікашэвічаў мая даўняя сяброўка Ліля. Летась я рабіла з ёй фотасесію. Папрасіў адзін фонд дапамогі інвалідам.
ЮРКА. Гэта тая бедная прыгажуня, у якой... Забыўся...
АЛЕНКА. У якой ДЦП! Яна вельмі творчая, марыць пра тэатр. Жыве ў сваіх Мікашэвічах і сумуе, марнее, бо нікому не патрэбная! Памятаеш, ты як убачыў яе здымкі, то адразу натхніўся напісаць п’есу...
ЮРКА. Ці мала чым або кім я мог натхніцца? Ты мне сама гэтыя здымкі падсунула!.. Навошта яна сюды едзе, калі цябе няма?
АЛЕНКА. Бо ты ёсць!
ЮРКА. Я?
АЛЕНКА. Так! Яна як даведалася, што натхніла цябе на стварэнне п’есы, дык не магла больш ні пра што думаць, як толькі пабачыць спектакль пра Драздовіча!
ЮРКА. Спектакля ніякага няма!!! Навошта ёй ехаць???
АЛЕНКА. Ты яго створыш!
ЮРКА. Дык я і п’есу паспеў выдаліць!
АЛЕНКА. Адновіш. Не хвалюйся, Буля! Ліля згодная табе дапамагаць.
ЮРКА. Згодная??? Можна не хваляваццa?! А мяне ты запытала? Мяне запытала?!! Я еду дамоў!
АЛЕНКА. А я тваім бацькам падалькажыла і сказала праўду.
ЮРКА. Праўду?
АЛЕНКА. Так. Сказала, што я і мой муж узялі цябе на сафары. І запомні, ты паабяцаў, што прывязеш маме скуру льва. Не расчароўвай маму, Буля! Мужчына павінен трымаць слова!
ЮРКА. Гэта нейкае вар’яцтва! Ты мяне пакідаеш на цэлы тыдзень з незнаёмай дзяўчынай-інвалідам! Ды ёй жа догляд спецыяльны патрэбны!
АЛЕНКА. Не называй яе інвалідам! Яна з асаблівасцямі! Зразумеў? Зразумеў, пытаю?!
ЮРКА. Так...
АЛЕНКА. Паўтары!
ЮРКА. Яна з асаблівасцямі...
АЛЕНКА. Малайчынка. Кожны дзень, роўна ў 11.00 яе будуць да цябе прывозіць на тры гадзіны, а затым адвозіць.
ЮРКА. Хто будзе прывозіць? Куды адвозіць?
АЛЕНКА. А гэта, даражэнькі, не твой клопат. Галоўнае – зрабі тое, што яшчэ пачаў у тэатры – выдатны спектакль пра майго любімага мастака Язэпа Драздовіча. Зразумеў?

ЮРКА. Аленка...
АЛЕНКА. Зразумеў, пытаюся?!
ЮРКА. Так... але я...
АЛЕНКА. Ты ж мяне, Булечка, кахаеш?
ЮРКА. Пры чым тут...
АЛЕНКА. Кахаеш?!
ЮРКА. Кахаю-кахаю, але...
АЛЕНКА. Дык вось – калі спектакль мне спадабаецца, то абяцаю – развядуся з мужам, развяду цябе з жонкай, і мы будзем разам.
ЮРКА. Гэта шантаж!
АЛЕНКА. А іначай, я ведаю, што сказаць пра цябе мужу... А ён, павер, хоць і не чэмпіён, але майстар спорту па боксу някепскі!
ЮРКА. Гэта шантаж!
АЛЕНКА. Булечка, каханы, ты паўтараешся! І ў цябе засталося пяць хвілін!
ЮРКА. Аленка!
АЛЕНКА. Ежы я табе нагатавала, усяго павінна хапіць. Грошы схаваны ў 6-м томе Францішка Аляхновіча. Бывай здаровы! Мне не звані! Скайп у пустынях Судана вельмі кепскі! Калі што, я цябе сама набяру!
ЮРКА. Аленка!!!
АЛЕНКА. І глядзі, паводзь сябе з Ліляй прыстойна, ёй толькі сямнаццаць! Кахаю цябе, Буля!
ЮРКА. Не называй мяне Булем!!!!

Скайпавая выява Аленкі знікае. Юрка ў здранцвенні.

**Сцэна трэцяя**

ЮРКА, ЛІЛЯ, КАРП

Званок у дзверы.

ЮРКА (*нацягвае штаны, блытаецца ў калашынах, падае*). Ой, ёёё... Зараз, хвілінку! Ох, ты Божа мой!..

Званок паўтараецца.

ЮРКА. Зараз-зараз!..

Надзявае футболку, кідае плед на ложак і збольшага папраўляе пасцель.

Трэці званок.

ЮРКА. Божа, ратуй!..

Ідзе адчыняць. На сцэне з'яўляецца двухметровы дзядзька Карп, які заносіць Лілю і садзіць яе на канапу.

ЮРКА. Добры дзень...
КАРП (*роўным голасам*). Я – Карп. Забяру яе праз тры гадзіны.

Карп выходзіць. Юрка ў разгубленасці прысаджваецца на зэдліку. Ліля маўчыць, не рухаецца.

Паўза.

ЮРКА. Прывітанне... Я – Юрка...

ЛІЛЯ (*нешта піша ў нататніку, а затым перадае яго Юрку*).

ЮРКА (*чытае*). «Мне Аленка пра вас усё-ўсё расказала...» (*Адрываецца ад нататніка.*) Што, праўда ўсё-ўсё? (*Ліля з усмешкай ківае. Юрка чытае.*) «Выбачайце, што пішу. Вы ж знаеце, у мяне асаблівасці. Цяжка гаварыць і рухацца...» (*Убок.*) О-хо-хо...

ЛІЛЯ (*забірае нататнік і нешта піша. Юрка заўважае, што ў яе левая рука дзейнічае лепей, чым правая.*)

ЮРКА (*чытае*). «Думаеце, што са мной рабіць?» (*Адрываецца ад нататніка.*) Ды не, што вы? І блізка не думаў!? (*Працягвае чытаць.*) «Ствараць спектакль. Я – вашая Сатурніянка!»

Паўза.

ЮРКА. Ухxx... Можа, гарбаткі? Альбо кавы?

ЛІЛЯ (*паказвае на гадзіннік. Піша.*)

ЮРКА (*чытае*). «Мала часу». (*Убок, мармыча.*) Ах ты, Божа мой! Якія мы хуткія... А вы... вы ўпэўненыя?

Ліля ківае.

ЮРКА. Але са мной вельмі цяжка...

Ліля паказвае, што гэта яе не палохае.

ЮРКА. Я бываю злым, раздражнёным, няўдзячным, жорсткім...

Ліля згодна ківае.

ЮРКА. У мяне рэпутацыя донжуана...

Ліля паціскае плячыма, маўляў, «Ну і што?»

ЮРКА. Калі я захоплены працай, то забываю чысціць зубы і надзяваць чыстыя шкарпэткі...

Ліля дастае з сумачкі зубную пасту і чыстую пару шкарпэтак.

ЮРКА (*збянтэжана*). Бачу, падрыхтаваліся, як след... Але паслухайце, паслухайце ўважліва! Я не ведаю, што вам нагаварыла Аленка, але... але... нават, калі мы з вамі што-небудзь і зробім, то гэта нікому не будзе патрэбна! Маю п'есу завярнулі! Мне ніводзін тэатр не дасць сваёй сцэны! Я – кепскі рэжысёр!.. І не проста кепскі, а ніякі! Паверце! Хай пра Драздовіча лепей ставяць Луцэнка, Пінігін, Ляляўскі, Гарцуеў, Савіцкі, Анісенка, Кавальчык, Еранькова, ці хто там яшчэ!.. Вы да іх звярніцеся і ў іх іграйце Сатурніянку!.. Яны абрадуюцца, проста не перадаць як!

Ліля яго ўважліва слухае, затым нешта хутка піша ў нататніку і перадае яго Юрку.

ЮРКА (*чытае*). «Мы ўжо згубілі паўгадзіны. Калі пачнем?»

Юрка аддае нататнік.

ЮРКА. Добра! Добра!.. (*Нахіляецца да Лілі.*) Не хацеў гаварыць, але, прабачце... Лілечка, дарагая... Ну трэба ж... Ведаць свае магчымасці... Якая

вы актрыса? Вы ж ні хадзіць без чужой дапамогі, ні гаварыць толкам не можаце?!

Раптам Ліля хапае яго за вуха.

ЮРКА. Што вы робіце? Пусціце!!! Пусціце!!!

Юрка круціцца на месцы. Ліля яго адпускае. Яна з цяжкасцю прамаўляе. Гаворыць у нос, не ўсе гукі і словы выразныя.

ЛІЛЯ. Мне не трэба спяваць, танцаваць і хадзіць, як іншым! Я – Сатурніянка. Табе ясна, Буля?!

ЮРКА. Так... так... ясна... беднае маё вуха... чаго ж мы не пачынаем?!

Зацямненне.

**Сцэна чацвёртая**

ЮРКА, МІХАСЬ

Святло запальваецца. У крэсле сядзіць Міхась. Юрка, занураны, ляжыць на канапе. У яго вялікае чырвонае вуха.

ЮРКА. І што скажаш?..

МІХАСЬ. Табе заўсёды з незвычайнымі дзяўчатамі шанцуе...

ЮРКА. Шанцуе?! У яе ж ДЦП! Мне здавалася, што ўсе гэтыя ДЦПісты ціхія, рахманыя, сядзяць у сваіх вазочках, жыць нікому не замінаюць...

МІХАСЬ. Ды і яна табе жыць не замінае... Наадварот, да жыцця абуджае...

ЮРКА. Што-што?

МІХАСЬ. Ну, а як жа... Хоча, каб ты адрадзіў свой спектакль, а гэта значыць і сябе як рэжысёра ажывіў.... І якое імя слаўнае, проста, як з купалаўскага верша:

Гэй ты, дзяўчына, кветка-лілея,
Вольная птушка сумнай зямліцы!

ЮРКА. Міхась, давай толькі без лірыкі! Табе б не артыстам Тэатра Маладой Драматургіі быць, а паэтам! І ніякая яна табе ні Лілея, а Ліля! Самая звычайная Ліля!

МІХАСЬ. А вось тут, як казаў гер Спічыні: “Дазвольце вам не паверыць...”

Са свайго пакоя выходзіць Дзед.
Ідзе праз усю сцэну на кухню, ні на кога не звяртаючы ўвагі.

ЮРКА. Гэй, дзядуля, вячэру зрабіць? Як сябе адчуваеце? Дзядуля?! (*Дзед знікае за дзвярыма кухні.*) Вось бачыш! Мяне тут за чалавека не лічаць... Адна вуха круціць, другі проста не заўважае... Міхась! Прашу цябе! Ніколі не прасіў, а зараз папрашу. Я тут адзін звар’яцею! Дапамажы зрабіць гэты прakляты спектакль! Ізноў, як тады на паказе, сыграй паэта Міхася Машару. Ратуй, дружа!!!

МІХАСЬ. Але ж я заняты на рэпетыцыях «Вішнёвага сада»...

ЮРКА. Да чорта твайго Пецю Трафімава! У мяне ты будзеш – брутальным і магутным Міхасём Машарам!

МІХАСЬ. Я не магу...
ЮРКА. Хочаш, я на калені стану!
МІХАСЬ. Ды не магу я!!!
ЮРКА. Чаму?
МІХАСЬ. Я баюся...
ЮРКА. Табе ўжо чаго баяцца?
МІХАСЬ. А раптам я закахаюся?
ЮРКА. У каго?
МІХАСЬ. У Лілею. Яна вельмі незвычайная.
ЮРКА. Ты яе ў вочы не бачыў! Якая яна там незвычайная? Пра такіх кажуць – людзі з асаблівасцямі. Разумееш? Яна проста з асаблівасцямі, вось і ўсё!
МІХАСЬ. Ты ж ведаеш, я ледзь не сканаў пасля свайго апошняга няўдалага кахання...
ЮРКА. Гэта ты пра тую сляпую дзеўку, якой падабаліся хлопцы з дрэдамі, і ты, калі прыходзіў на спатканні, надзяваў парык?
МІХАСЬ. Ты не бачыў, што з ёй было, калі падман раскрыўся! Для яе – фанаткі Боба Марлі – дрэды былі – як святыня, а я...
ЮРКА. Я ж не прашу цябе падманваць Лілею!
МІХАСЬ. Але калі раптам я ў яе закахаюся, то гісторыя паўторыцца. У мяне заўсёды так. Я адчуваю, кім хоча мяне бачыць дзяўчына і стараюся стаць ім. І як толькі гэта адбываецца – мяне называюць нягодным падманшчыкам...
ЮРКА. А раптам адбудзецца цуд, і ты не закахаешся?
МІХАСЬ. Ты ж сам сказаў – яна з асаблівасцямі! А мне заўсёды падабаліся асаблівыя дзяўчаты! Таму не! Закахаюся!

Міхась набліжаецца да выхаду.
Званок у дзверы.

ЮРКА. Гэта яна! Згаджайся!
МІХАСЬ. Не! Не! Не! Я не магу!
ЮРКА. Позна!

Юрка бяжыць адчыняць. Міхась кідаецца ў пакой Дзеда.

**Сцэна пятая**

ЮРКА, (*цяпер ужо*) ЛІЛЕЯ, КАРП

Заходзіць Карп. Нясе Лілею і садзіць яе на канапу.

КАРП. Забяру праз тры гадзіны.
ЮРКА. Добра...

Карп выходзіць. Юрка азіраецца, але нідзе не бачыць Міхася. Лілея ўсміхаецца.

ЛІЛЕЯ (*прамаўляе з цяжкасцю*). Рада бачыць!
ЮРКА. Што вы сказалі? А-а-а... Рады бачыць... Я таксама (*Нервова мармыча.*) Куды ж ён знік?..
ЛІЛЕЯ. Які будзе пачатак?
ЮРКА. Які будзе што?.. Пачатак?.. Пачатак нашага спектакля, значыць,

такі... Зацямненне. Затым пражэктар паказвае маленькую белую кропку... Яна ўсё павялічваецца, павялічваецца, і мы бачым, што гэта як быццам планета Сатурн. (*Лілея хоча нешта сказаць, але Юрка працягвае далей.*) Вы хочаце спытаць чаму, як быццам? Бо калі планета становіцца зусім ад нас блізка, мы разумеем, што гэта прыгожая Сатурніянка. Такі, як бы сюр, разумееце?.. Задаем, так бы мовіць, правілы гульні. Яна творыць свой сатурніянскі танец. Затым яна робіць такі прыгожы жэст рукой, як быццам кідае зерне ці нешта да яго падобнае. Светлавыя і гукавыя эфекты... І вось мы бачым, што з гэтага сатурніянскага зерня расце ён – вялікі беларускі мастак Язэп Драздовіч. Цяпер ясна – чаму ён увесь час імкнуўся на Сатурн, чаго яго так цягнула ў космас, чаму яму сніліся самнамбулічныя сны, у якіх ён падарожнічаў па планетах... Вось неяк так...

Лілея іранічна глядзіць на Юрку.

Паўза.

ЮРКА. Што такое... Вам не спадабалася?..

Лілея моршчыць нос.

ЮРКА. Але ж... Але ж... Менавіта так тонка-метафарычна і пачынаўся мой спектакль! Вы ж хацелі іграць у маёй гісторыі?

Лілея з усмешкай ківае.

ЮРКА. Ну вось! А калі вам не падабаецца, то...

Лілея піша нешта ў нататніку.

ЮРКА (*чытае*). «Забудзьце пра тое, што было. Цяпер у Вас я! Дык які зробім пачатак?» (*Пра сябе.*) Ах, каб цябе!.. Добра-добра!.. Зараз!.. (*Нервова ходзіць і разам з тым аглядаецца, шукае Міхася. Ціхенька мармыча.*) Куды ж цябе чэрці падзелі!..

ЛІЛЕЯ. Што вы шукаеце?

ЮРКА (*уздыхае, гаворыць сам сабе*). Ох, Божа... Каб ты яшчэ гаварыць магла нармальна... Што я шукаю? Натхненне! Натхненне я шукаю!

ЛІЛЕЯ. Я вас не натхняю?..

ЮРКА. Вы мяне? О, вядома ж, натхняеце! Яшчэ як! Але ж... Але...

Раптам чуецца гучная музыка. Знікае святло. Лілея і Юрка ад нечаканасці ўскрыкваюць.

**Сцэна шостая**

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ, САТУРНІЯНКА, ЦЫКЛОП

Гучыць музыка. Паступова запальваецца святло. Перад намі – нейкая белая пляма, якая набліжаецца. Гэта – сатурніянскі Цыклоп. Ён пяшчотна нясе Сатурніянку.

Мы бачым, што ў кутку нехта спіць. Сатурніянка казыча пяткі гэтаму чалавеку. Ён падхопліваецца. Перад намі Язэп Драздовіч.

Цыклоп асцярожна перадае Сатурніянку Драздовічу. Яна абдымае мастака. Цалуе яго. Яны кружацца ў эратычна-касмічным вальсе.

Зацямненне.

**Сцэна сёмая**

ЮРКА, МІХАСЬ, ЛІЛЕЯ

Святло набіраецца. Кватэра Аленкі. На сцэне – Міхась, а таксама Юрка і Лілея.

ЮРКА. Маньяк! Дурань!! Вычварэнец!!! Гэта што за перформанс быў такі?!

МІХАСЬ (*дэкламуе*).

Мы – песняры працоўнай эры,
І зоры шлях нам ткуць.
Ідзем у свет і новай верай,
Як сонцам, чысцім пуць.

(*Звяртаецца да Лілеі.*)

Выбачайце за маё такое спантаннае ўварванне! Я – Міхась, акцёр... У гэтым спектаклі буду сялянскім паэтам Міхасём Машарам, які канфліктуе з Язэпам Драздовічам! Лепшы паэт Заходняй Беларусі! (*Становіцца ў позу хлопца-зуха.*)

Мы – песняры народнай гушчы,
І лёгак наш узлёт.
У песнях – шум лясоў і пушчы,
У песнях – веснаход.

ЛІЛЕЯ (*смяецца і пляскае ў далоні*).

МІХАСЬ (*весела дэкламуючы, падхоплівае Лілею на рукі і садзіць яе ў крэсла, усё адно, як на трон*).

ЮРКА (*назірае за ўсім гэтым у вялікім здзіўленні*). Прабачце, я што, адзін тут нармальны?

ЛІЛЕЯ (*робіць знак, каб Юрка змоўк, прынюхваецца*). Кухня!

ЮРКА. Што кухня?

МІХАСЬ (*Лілеі*). Вам дапамагчы?

ЛІЛЕЯ (*ківае*).

МІХАСЬ. Зараз!

Міхась бярэ на рукі Лілею і адносіць на кухню.

ЮРКА (*адзін*). Падурэлі... Далібог, падурэлі!..

**Сцэна восьмая**

ЮРКА, МІХАСЬ

Вяртаецца Міхась.

ЮРКА. А дзе гэтая... З асаблівасцямі?

МІХАСЬ. Яна засталася з Дзедам. Ён нешта сабе варыў і заснуў, вада вылілася, газ пайшоў...

ЮРКА. Яшчэ адзін... З Сатурна!..

Хоча пайсці на кухню, але Міхась яго спыняе.

МІХАСЬ. Не хадзі туды. Яна памагае Дзеду гатаваць...

ЮРКА. Што яна там зможа нагатаваць? Але добра. Хай. Хоць адпачнем крыху... (*Праз невялічкую паўзу.*) А цяпер скажы, што гэта такое было?

МІХАСЬ. Ну... Ты ж мяне ведаеш... Я напалохаўся... Хацеў уцячы... Забег у пакой Дзеда... Думаў скочыць праз вакно... Але пасля... Пасля пачуў яе голас... І адчуў...

ЮРКА. Што ты ўжо адчуў?

МІХАСЬ. Што яна чакае пачатку! Яркага, энергічнага, эфектнага пачатку! Эратычны танец з Сатурніянкай! Гэта ж выдатна! Хіба не?! Адчуўшы яе думкі, я вырашыў дзейнічаць... І, здаецца, атрымалася ідэальна!..

ЮРКА. І што ж ты ўбачыў тут ідэальнага?

МІХАСЬ. Не «што», а каго! Лілею! Гэта ідэальная дзяўчына! Яна створана для таго, каб яе насілі на руках! Ведаеш, што мяне заўсёды раздражняла ў самых прыгожых неверагодна-чароўных дзяўчатах? Тое, што яны ходзяць. Так, раздражняе тое, што яны ходзяць! Калі ты такая неверагодна-чароўная, то не хадзіць ты павінна, а плысці, як у сучаснага паэта:

Ты праплывай заўсёды нада мной
І ў ружу завівай маё дыханне,
Здзіўляй мяне парнаскаю цаной,
Стамляй парнаскім хваляваннем.
І з таямніц, незразумелых мне,
Адкрый мне тую таямніцу,
Што ў гэтым хваляванні і цане
Класічным мармурам іскрыцца...

ЮРКА. А Лілея ўмее гэтак... Праплываць?

МІХАСЬ. Яшчэ як умее! Дурань ты, калі гэтага не бачыш! Яна – ідэальная Сатурніянка!

З кухні гучыць голас Лілеі, які кліча Міхася.

МІХАСЬ. Я зараз!..

Выбягае на кухню.

**Сцэна дзявятая**

ЮРКА, МІХАСЬ, ЛІЛЕЯ, ДЗЕД

Праз некалькі імгненняў з кухні выходзяць Міхась, які нясе Лілею.
Крыху пазней з’яўляецца Дзед з талерачкай супу.

ЮРКА. Дзядуля, усё ў вас там добра?

Дзед праходзіць міма.

ЮРКА. Ага, як са сценкай...

ДЗЕД (*рэзка паварочваецца*). Чаго? Шышка! Ганарлівец! Дзед – стары-глухі, нічога не бачыць, нічога не чуе! Так? А дзед усё бачыць, усё чуе! Усё ўмее! Дзед камету за хвост спаймаць можа, раскруціць і ажно да Давыд-Гарадка закінуць! Яна (*ківае на Лілею*) зупу гатаваць адной рукой умее. Ах, ты мая гаспадынька!.. А што ты ўмееш?.. Хочаш, каб век табе ў сраку дзьмулі?..

ЮРКА. Нічога сабе...

Дзед знікае ў сваім пакоі.

Зацямненне.

**Сцэна дзясятая**

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ і МІХАСЬ МАШАРА

Цемра. Чуецца нейкае сёрбанне і чмяканне. Марудна запальваецца святло.

На сцэне – Міхась Машара, які з асалодай есць суп, і Язэп Драздовіч, які ляжыць на ложку. Бачна, што мастак толькі-толькі прачнуўся.

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. Ты?..

МІХАСЬ МАШАРА. Малайчына, Нарцызка! Зупу згатаваў, уххх!!! І кроплю крамбамбулькі тэцнуў, як я люблю!!! Плюнь на малярства – кухарам будзь! (*Язэп Драздовіч адварочваецца.*) Чаго лыч вернеш? Зноў сваю касмічную цацу сніў? Хопіць спаць!!! (*На вуха Язэпу Драздовічу.*)

Мы жывём не днём будзённым,
І жыццё наша не сон.
Край гаротны, край наш родны
Маладзеець з кожным днём!

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. Ой, нездарма цябе Звінячым называюць! Дурань я, што, выпіўшы, пра Сатурніянку табе ўчора расказаў...

МІХАСЬ МАШАРА. Дурань ты, што галаву сваю космасам задурыў! Нармальным будзь! І мастацтва нармальнае твары! Малюй тое, што народу трэба!

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. І што яму, народу, трэба?

МІХАСЬ МАШАРА. Ды хоць вазьмі мяне. Я – пішу для народа! Значыць, я народны паэт! Знаеш, што мне трэба?

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. Яшчэ супу?

МІХАСЬ МАШАРА. Партрэт! Вялікі ў поўны рост! У вышыванцы! І каб бусел нада мной ляцеў, і араты на заднім плане і...

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. Твой партрэт?

МІХАСЬ МАШАРА. А чый! Не твой жа! Ты намалюеш, а я Хрусьцы падару! Агонь-дзеўка! Хай убачыць, які я ёсць! Павесіць у сябе... А я глядзець буду на яе з партрэта дзень і ноч, і закахаю! Далібог, закахаю! Проста з партрэта закахаю!

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. Ты большы вар'ят, чым я...

МІХАСЬ МАШАРА. Я сказаў! А ўбачу, што малюеш не мяне, а гэтую сваю Сатур-ні-янку – сам знаеш, што будзе!..

Зацямненне.

**Сцэна адзінаццатая**

ЮРКА, МІХАСЬ, ЛІЛЕЯ, КАРП

Запальваецца святло. На сцэне – Юрка, Міхась і Лілея.

ЛІЛЕЯ (*пляскае ў ладкі*).

МІХАСЬ. Вось ён! Вось пачатак! Малайчына, Юрка, мне спадабалася! А вам, Лілейка? Праўда, чароўна? (*Тая згодна ківае.*)

ЮРКА. Значыць, так і пачнем! Спярша – рамантычная сустрэча Язэпа Драздовіча з Сатурніянкай, іхні вальс, затым – сцэна з Міхасём Машарам і яго просьбай-ультыматумам, а пасля...

Званок у дзверы. Заходзіць Карп.

КАРП (*да Лілеі*). Вас можна забраць?

Лілея робіць паветраныя пацалункі Юрку і Міхасю. Карп яе выносіць. Паўза.

МІХАСЬ (*Юрку*). Ты бачыў? Бачыў? Яна мяне пацалавала! Паветрана пацалавала! Пачуццёва і разам з тым як быццам мімаходзь... Так яшчэ ніхто мяне не цалаваў! (*Робіць кульбіт.*) Ах ты, дзяўчына-лілея... Лілея, кветка евангельская... (*Тонам Міхася Машары, узяўшы Юрку загрудкі.*) А ты глядзі, каб ніякай Сатурніянкі! Мяне малюй! Мяне! Зразумеў?! Ахххх!!!....

Міхась падскоквае ўгору.

Зацямненне.

**Сцэна дванаццатая**

ЮРКА, АЛЕНКА

Цемра. Гарыць толькі экран ноўтбука.
Званок у скайп. Юрка ляжыць у ложку, падымаецца.
На экране – нейкія шкуры. Смех Аленкі, затым з’яўляецца і яна.

ЮРКА. Гэта яшчэ што?
АЛЕНКА. Як што? Шкуры львоў! Табе якая больш падабаецца?
ЮРКА. Аленка...
АЛЕНКА. Бачу, стомлены, мой Булечка, заспаны, працаваў...
ЮРКА. Мы цэлы дзень рэпетавалі...
АЛЕНКА. Я і не сумнявалася! Дык якую выбіраеш?
ЮРКА. Навошта мне шкура?..
АЛЕНКА. Забыўся? Маме падарунак зрабіць! Ты ж – мужчына! Паляўнічы! Слова трымаць трэба! Ну і для спектакля могуць прыдасца!
ЮРКА. Якім чынам?
АЛЕНКА. А раптам ты прыдумаеш, што Язэп Драздовіч і Міхась Машара палююць на льва Алены Кіш, які ўцёк з яе дывана і наводзіць жах на мясцовых жыхароў?
ЮРКА. Аленка... Твае жарты... Чаму ты не пытаеш, як мае рэпетыцыі?..
АЛЕНКА. Каб было ўсё кепска – то, Булечка, адразу пачаў бы жаліцца.
ЮРКА. Аленка! Я ж прасіў не называць мяне...
АЛЕНКА. Ад мужа прывітанне! Хутка пабачымся!..
ЮРКА. Чакай... Хацеў у цябе пра дзядулю спытацца...
АЛЕНКА. А што з ім?
ЮРКА. Не, усё добра... Мы нават пачалі размаўляць... Проста... Ведаеш... Ты мне ніколі пра яго не расказвала... Кім ён увогуле быў?
АЛЕНКА. Ну, калі вы з ім пачалі размаўляць, хай сам пра сябе і раскажа!

Выява Аленкі знікае.

Цемра.

**Сцэна трынаццатая**

ЛЕЎ, ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ, МІХАСЬ МАШАРА

Цемра. Чуецца нейкае вуркатанне і лёгкі рык. Пражэктар асвятляе пысу Льва.

Святло набіраецца, і перад намі – прыгожа намаляваны на дыване Аленай Кіш апельсінава-лімонны Леў, які гуляе па райскім лесе. Святло знікае.

Затым ізноў запальваецца – на дыване нікога няма. Чуваць грозны рык.

Цемра.

МІХАСЬ МАШАРА (*голас у цемры*). Нарцызка!!!

Пастулова запальваецца святло. Пакой Язэпа Драздовіча. Міхась Машара будзіць мастака.

МІХАСЬ МАШАРА. Леў на свабодзе!!! Падымайся!!!

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. Як? Значыць, ён і напраўду з дывана ўцёк?.. Казаў я Алене, каб вартаўніка якога пры іх намалявала...

МІХАСЬ МАШАРА. З якога дывана? Жывы леў уцёк з вандроўнага цырка! І зараз акурат бегае ў ваколіцах той вёскі, дзе Хруська жыве! Трэба ратаваць дзеўку!

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ (*падхопліваецца і апранаецца*). Так-так! У адным самнамбулічным падарожжы я паляваў на львоў з паўночнага боку Сатурна... У іх былі тры языкі і тры лапы, як у бабуінаў, і яны хацелі напасці на маю...

МІХАСЬ МАШАРА. Ведаю-ведаю, на тваю Сатурніянку! Нарцызка! Па пысе атрымаеш за свае сны! Ты ў першую сусветную фельдшарам быў?

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. Так.

МІХАСЬ МАШАРА. Ну дык паляцелі! Бо ці мала там што!

Міхась Машара хапае Язэпа Драздовіча за каршэнь, і яны выбягаюць.

Зацямненне.

**Сцэна чатырнаццатая**

ЮРКА, МІХАСЬ, ЛІЛЕЯ, ДЗЕД

Запальваецца святло. Кватэра Аленкі. Перад намі – Міхась, Юрка і Лілея.

МІХАСЬ. А прычым тут леў? Мы ж гісторыю зусім пра іншае робім? (*Да Лілеі.*) Кветачка нашая евангельская, я ж правільна кажу?

Лілея запытальна ківае Юрку, маўляў: «Растлумач!»

ЮРКА. Ну, як “прычым”... Язэп Драздовіч выратуе каханую Міхася Машары дзякуючы хітраму паляўнічаму спосабу, якім ўратаваў у свой час Сатурніянку ад ільвоў з паўночнага боку Сатурна... Хруся пасля гэтага здарэння зацікавіцца Сатурнам і ўвогуле космасам! І Міхась Машара захоча... захоча, каб Язэп Драздовіч выразаў з дрэва менавіта яе ў вобразе Сатурніянкі! Разумееш? І будзе настойваць на гэтым! (*Гаворыць тонам Міхася Машары, хапае Міхася загрудкі.*) Глядзі, каб ніякага майго партрэта! Сатурніянку рабі! Сатурніянку! Зразумеў?!

МІХАСЬ. І што?

ЮРКА. А тое... тое...

ЛІЛЕЯ (*нешта піша падчас іхняга дыялогу і перадае Міхасю*).

МІХАСЬ (*чытае*). «Тое, што Хруся з таго моманту закахаецца... Але не ў Машару!»

МІХАСЬ. А ў каго?

ЮРКА. Гэта мы яшчэ высветлім!

МІХАСЬ. Ох, ты!.. Проста нейкі Іван Шамякін!.. А бедны Міхась Машара ні пра што не здагадваецца?

ДЗЕД (*выглядвае з пакою*). А ён ніколі ні пра што не здагадваўся! Таўстаскуры, бы гіракатон!

Усе здзіўлена глядзяць на Дзеда.
Дзед марудна выходзіць з пакою, трымаючы пустую талерку ад супа.

**Сцэна пятнаццатая**

ЮРКА, МІХАСЬ, ЛІЛЕЯ, ДЗЕД

ЮРКА. Таўстаскуры... Прабачце, як хто?

ДЗЕД. Гіракатон! Нешта сярэдняе паміж маржом, вавёркай і нашым зубрам... На Меркурыі такіх шмат...

ЮРКА. А вы адкуль...

ДЗЕД. Цыц!

Дзед знікае на кухні.

Паўза.

МІХАСЬ. Можа, шаноўны дзядуля, дзённікі Язэпа Драздовіча чытаў? Кніжка ж выходзіла...

ЮРКА. Я ўсё, што было надрукавана перачытаў! Ніякіх там гэтых, як іх... гіракатонаў няма!

Дзед вяртаецца.

ДЗЕД. Эх вы, шышкі лускатварыя! Чыталі яны! Вывучалі!.. Шмат чаго ў вашых кніжках няма!

ЮРКА. Дык адкуль вы...

ДЗЕД. Адтуль, адкуль і Язэп Нарцызаў! З Дзісеншчыны я родам! Ты лепш скажы мне, ганарлівец, калі такі разумны і пра львоў з паўночнага боку Сатурна ўсё знаеш, як Нарцызаў і Звінячы Ільва паймалі?

ЮРКА. Ну, можа... Можа...

ЛІЛЕЯ. На жыўца!

ДЗЕД (*ласкава*). Вось! Правільна! (*Юрку.*) Так! На жыўца! Толькі на жыўца! Але на якога жыўца?

ЮРКА. ...ну, як на якога... На парасё там... На ягнё...

ДЗЕД. Парасё... Ягнё... Сам ты добрае ягнё! На мяне! На мяне павінен быў Леў выйсці!

ЮРКА. Як на вас?!!! Колькі ж вам гадоў тады было?

ДЗЕД (*раззлаваны*). Колькі мне гадоў?! Ах, ты, целам немагушчы, мозгам неімушчы! Колькі гадоў мне знаць хочаш, а пра Нарцызава нічога толкам і не знаеш...

Хоча пайсці, але Лілея яго спыняе і ўсміхаецца яму. Дзед лагаднее.

ДЗЕД. Свістаць умееце?

ЮРКА. Што?
ДЗЕД. Ану, свісніце, як хто можа!

Юрка і Міхась спрабуюць, але непераканаўча.

ДЗЕД. Эх вы, кілуны!

Пачынае свісцець, і так гэта робіць па-мастацку выразна, аб'ёмна і прыгожа, што ўсе ажно раты параскрывалі. Затым выводзіць свістам мелодыю "Саўкі ды Грышкі".

ЮРКА. "Саўка ды Грышка"?..
ДЗЕД. А што я табе, "Кацюшу" свістаць павінен? А цяпер думайце, як Леў быў злоўлены?! (*Ласкава Лілеі.*) Пайшлі, мая гаспадынька, крупнік Нарцызаў варыць!

Дзед падтрымлівае Лілею, і яны выходзяць на кухню.

**Сцэна шаснаццатая**

ЮРКА, МІХАСЬ

МІХАСЬ (*задуменна*). Хто я?.. Дзед-барадзед... (*да Юркі.*) Ты паверыў, што ён знаў Язэпа Драздовіча?
ЮРКА. Увагу да сябе, стары хрэн, прыцягнуць хоча!
МІХАСЬ. Да гэтага не хацеў, а зараз хоча? Ды і кветка нашая евангельская паверыла яму, а я веру ёй...
ЮРКА. Які даверлівы! А яму твая Лілея спадабалася! Бачыў, як перад ёй распускае хвост! "Пайшлі, мая гаспадынька, крупнік Нарцызава варыць!" Ён паэт – хітрэйшы за цябе!
МІХАСЬ (*з абурэннем*). Кінь дурное! Не сорамна? Знаеш, ёсць недамеркі, а ты нейкі недаверак!
ЮРКА. Што?!
МІХАСЬ. Пра Льва! Давай пра Льва думаць! Ясна што звера гэтага можна было завабіць адмысловым свістам...
ЮРКА. Правільна, Дзед наш умее свістаць. Але адкуль увогуле Міхась Машара з Язэпам Драздовічам адкапалі гэтага... Дзеда...
МІХАСЬ. Тады ён яшчэ не быў Дзедам...
ЮРКА. Думаеш? Я ўжо ні ў чым не ўпэўнены. Адкуль ён? Хто ён?
МІХАСЬ. Давай уявім, што наш Дзед – вучань Язэпа Драздовіча. Самы любімы вучань.
ЮРКА. Дзед – мастак?
МІХАСЬ. Я калі хаваўся ў яго пакоі, то ўбачыў, што там вісела старая карціна...

На заднім плане высвечваецца карціна. На ёй намаляваная нейкая гара, вакол якой лес, зорнае начное неба і камета.
Хлопцы ўважліва аглядаюць карціну.

МІХАСЬ. Бачыш, намалявана камета, зоркі, можа гэта і сам Язэп Драздовіч...
ЮРКА. Не! Стыль не той!
МІХАСЬ. Тады, будзем думаць, што гэта карціна Дзеда!

ЮРКА. Значыцца, у Язэпа Драздовіча быў вучань, які ўмеў па-мастацку выдатна свістаць! Але чаму ён умеў свістаць?

МІХАСЬ. Гэта ж Заходняя Беларусь! Там магло быць усё!

ЮРКА. Пераканаў! І вось Міхась Машара, Язэп Драздовіч і Дзед...

МІХАСЬ. Ды які ж ён табе Дзед?

ЮРКА. А, мусіць жа, яго і тады так называлі, бо характар буркатлівы меў з маленства... Словам, усе яны разам ідуць паляваць на Льва!

ЛІЛЕЯ (*за сцэнай*). Мы гатовыя!

ЮРКА. Што ж яна такая хуткая...

МІХАСЬ. Хвілінку!

Зацямненне.

**Сцэна сямнаццатая**

ДЗЕД, ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ, МІХАСЬ МАШАРА, ЛЕЎ

Запальваецца святло. Перад намі – дрэвы, палянка, дзесьці ўдалечыні бачныя хаты.

З'яўляюцца Язэп Драздовіч, Міхась Машара і Дзед. Язэп Драздовіч знакамі паказвае Міхасю Машару схавацца ў правым кутку сцэны і дае яму невялічкі барабан. Сам трымае дудку і хаваецца ў левым баку сцэны. Дзед застаецца стаяць пасярэдзіне. Садзіцца па-турэцку, тварам да гледача. Цішыня.

Дзед пачынае свістаць. Спярша ціха і неяк без асаблівай мелодыі, але затым усё гучней і мілагучней. Гучыць "Саўка ды Грышка". Выглядвае нецярплівы Міхась Машара, Язэп Драздовіч яму паказвае, каб хутчэй хаваўся.

З'яўляецца Леў. Ярка-апельсінава-лімонны, як быццам, і сапраўды ўцёк з дывана Алены Кіш. Выходзіць асцярожна. Крадзецца да Дзеда.

Дзед выпростваецца, не перастаючы свістаць. Леў гэтаксама становіцца на заднія лапы.

Са сваёй схованкі выходзіць Язэп Драздовіч. Ён іграе на дудцы. З'яўляецца і Міхась Машара, які адбівае рытм на барабане. Леў танцуе. Музыка паскараецца, а разам з ёй і танец Ільва. Праз нейкі момант знясілены звер падае.

Зацямненне.

**Сцэна васямнаццатая**

ЮРКА, МІХАСЬ, ДЗЕД, ЛІЛЕЯ

Запальваецца святло. Кватэра Аленкі. Юрка і Міхась запытальна глядзяць на Дзеда і Лілею, якія сядзяць на канапе.

На століку стаяць кубкі з крупнікам.

Паўза.

ЮРКА. Ну, вось неяк так... Што скажаце, Дзядуля?

МІХАСЬ. Што скажаце, Лілейка?

ЛІЛЕЯ (*Дзеду*). Язэп Драздовіч так добра іграў на дудцы?

ДЗЕД. Гэты Нарцызаў умеў усё!

ЛІЛЕЯ. А што было з Ільвом?

ДЗЕД. Ільва гэтага цыркавога мы Алене Кіш падарыць захацелі, але мужыкі не далі, падумалі, што шалёны і забілі! Шкуру ж Нарцызаву як выратоўцу падарылі, а ён мне аддаў...

ЮРКА і МІХАСЬ. Вам?!

ДЗЕД. Мне!...

На Міхася і Юрку падае шкура Льва.

ДЗЕД. Што гэта?!! Га? Недаверкі! Што гэта??? Што???

ЮРКА. А хіба гэта не Аленка з чарговага сафары прывезла...

ДЗЕД. Недавярака ў носе ср...ка!.. Галавой сумліцельна круціш? Галавой сваёй... Галавой... Эххх... (*Рэзка выпівае крупнік. Раптам пачынае голасна спяваць*).

Галава ты мая разудалая,
Колькі гора і бед ты відалая,
Колькі бур жыцця ты знасіўшая,
А да берагу не даплыўшая...

**Сцэна дзевятнаццатая**

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ, МІХАСЬ МАШАРА, ДЗЕД, ХРУСЯ

Імгненная адбіўка святла – і мы ў хаце Хрусі, дзе за сталом сядзяць і п'юць крупнік Язэп Драздовіч, Міхась Машара, Дзед і Хруся.

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ (*пяе*).

...Ой да берагу, – на прыстанішча,
На прыстанішча, ды на ціхае,
На прыстанішча, ды на ціхае,
Абмінаючы гора ліхае.

МІХАСЬ МАШАРА (*з іншага боку падсаджваецца да Хрусі, п'янавата пяе*).

Пяіце, пяіце!
Крылатае слова
Хай вечна жыве і лунае ў нас!
Няпраўда!
Што мы да жыцця не гатовы,
Няпраўда, што творчы парыў наш загас!

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ.

Галава ты мая разудалая,
Разудалая, непакорная!
Ні прад чым, ні прад кім не карылася,
Не карылася, ні мірылася.

МІХАСЬ МАШАРА (*яшчэ цясней падсаджваючыся да Хрусі*).

Няхай навальніца шалее над светам –
Гатовы спаткаць мы
разгон увесь бур.
Няпраўда, што нельга быць сяння паэтам,
Няпраўда,
Што словам разбіць нельга мур.

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ.

Не змаглі цябе беды горкія,
Не змаглі цябе злыя ворагі,

А змаглі цябе вочкі чорныя,
Вочкі чорныя – непакорныя...

Хруся вызлізгвае з-за стала, так што Міхась Машара з Язэпам Драздовічам ледзьве не сутыкаюцца ілбамі.

ХРУСЯ (*звяртаецца да Дзеда*). А вы паэт?
ДЗЕД. Не...
ХРУСЯ. Паскачам?

Хруся заводзіць патэфон. Чуваць вясёлы факстрот. Хруся танцуе з Дзедам.
Міхась Машара нейкі час насуплена глядзіць. Затым падымаецца падыходзіць да іх і дае Дзеду ў морду.

Зацямненне.

**Сцэна дваццатая**

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ, САТУРНІЯНКА, ХРУСЯ

Запальваецца святло. Хата Язэпа Драздовіча. Гаспадар спіць. З цемры выплывае Сатурніянка, якую нясе на руках Цыклоп. Ён пачціва садзіць яе на край ложка і знікае. Сатурніянка сочыць за тым, як мастак спіць. Некалькі разоў хоча дакрануцца. Затым рэзка скідвае з яго коўдру. Язэп Драздовіч падхопліваецца. Хоча абняць яе, але яна ад яго ўцякае.

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. Што з табой?

Сатурніянка адбівае сваімі доўгімі рознаклярова-багата-ікруставанымі пазногцямі, як кастаньетамі, нейкі рытм.
Ад стуку пазногцяў аб пазногці – разносіцца крыштальны і разам з тым крыху рэзкі, патрабавальна-прыгожы гук. Так яна гаворыць.

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. Ты стамілася? Але хто, хто цябе стаміў?

Сатурніянка адбівае рытм.

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. Я? Чым стаміў? Чаму?

Сатурніянка адбівае рытм.

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. Павінен здагадацца? Але я не вінаваты прад табой!

Сатурніянка адбівае рытм.

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. Не верыш? Я заўсёды лячу толькі да цябе! Я шчаслівы, калі да мяне прылятаеш ты! Мне нікога не трэба апроч цябе!

Сатурніянка пакрыўджана адварочваецца. Язэп Драздовіч дастае дудку.

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. Ну, чаго ты? Эгей! Памятаеш? Твая любімая мелодыя! (*Іграе “Саўку ды Грышку”.*) Давай разам! Падпявай! (*Сатурніянка не адразу пачынае сваімі пазногцямі-кастаньетамі адбіваць рытм.*) Вось-вось... А ты навучыла мяне гэтаму сатурніянскаму вальсу! Як мы яго вытанцоўвалі на абручах Сатурна на зайздрасць тым планетам, што абручоў не маюць! (*Пяшчотна кранае яе за руку. Вельмі асцярожна бярэ на

*рукі і танцуе прыгожа-эратычна-касмічны вальс і падчас танца гаворыць.*) Дзякуючы табе, я навучыўся ўлагоджваць самых наравістых ільвоў...

Сатурніянка спыняе танец. Вырывае дудку і трушчыць яе.

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. Толькі вось цябе не магу ўлагодзіць...

Сатурніянка адбівае рытм.

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. Кожны вечар ты вяртаешся да гэтага... Кожны вечар!.. Не магу я! Не магу... Як ты не цяміш!.. Ну хіба кепска і так? Ты знаеш... Я не манах... Я быў шмат на якіх планетах, але ні нахабныя марсіянкі, ні сціплыя лунідкі, ні насмешлівыя меркурыянкі, ні арыстакратычныя юпітэркі, ні цнатлівыя нептунянкі мяне не натхнялі так, як натхняеш ты! Дык чаму ты такая?

Сатурніянка адбівае рытм. Драздовіч ад вялікага здзіўлення адступае на некалькі крокаў.

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. Я табе маню?!

Сатурніянка адказвае.

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. Як ты можаш такое казаць?!! Паглядзі-паглядзі!

Язэп Драздовіч адыходзіць углыб сцэны, робіць жэст – асвятляецца частка сцэны. Стаіць вялікі ў поўны рост, выразаны з дрэва, партрэт, амаль гатовы, але няма яшчэ твару. Каля партрэта ў той жа паставе знаходзіцца Хруся.

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. Раблю на замову Звінячаму – партрэт яго каханай дзяўчыны! Паглядзі! (*Падымае твар Хрусі.*) Падобна? Падобна да каго? Хто гэта? Чый партрэт? Твой! Твой партрэт!!! Раблю Хрусю, а выходзіш ты!!! Бачыш, як моцна я цябе кахаю! Хіба гэта не адзнака маёй вернасці?!! Чаго ж табе яшчэ трэба?!

Сатурніянка адбівае рытм. Язэп Драздовіч адыходзіць ад скульптуры, якая адразу ж патанае ў цемры.

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. Ты ізноў!!! Што за дзікі капрыз?!

Сатурніянка адказвае. Язэп Драздовіч яе перапыняе.

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. Я зразумеў! Гэта проста рэўнасць! Звычайная рэўнасць! Ты падгледзела, як мы весяліліся са Звінячым у Хрусінай хаце!.. Як я спяваў ёй сваю песню... І табе не сорамна?

Сатурніянка паварочваецца да яго спінай, робіць жэст, з'яўляецца Цыклоп.

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. Стой-стой, пачакай!

Сатурніянка рэзка абарочваецца і адбівае рытм пальцамі.

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. Але ж я так не магу! Я не магу назаўсёды!!! Я не магу кінуць... Паглядзі на мае рукі! Паглядзі на мае пальцы! Ты бачыш пярсцёнкі? Іх няма! Няма, бо я не люблю нічога, што цісне, тое, што мёртва трымае і не выпускае! Пярсцёнкі, гальштукі, шалікі... А ты... Але што дзіўнага! Ты на Сатурн, каб не ўцёк, абручы ўсцягнула, а што пра мяне казаць!..

Сатурніянка яму адказвае.

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. Дурная баба! Такая ж, як і гэтыя зямныя сакатухі!!! Прэч! Пайшла адсюль!!! Пайшла!!!

Язэп Драздовіч хапае сякеру. Сатурніянка і Цыклоп знікаюць.

Цемра.

**Сцэна дваццаць першая**

ЮРКА, МІХАСЬ, ЛІЛЕЯ, ДЗЕД

Запальваецца святло. За сталом сядзяць Юрка, Міхась, Лілея і Дзед. Задуменна п'юць крупнік.

ЮРКА. Бачу, крупнічак па рэцэпту спадара Нарцызава атрымаўся што трэба! Цяпер ясна, адкуль такая фантазія была і ў яго, і ў некаторых ягоных вучняў!.. Пра абручы гэта вы добра прыдумалі...

ДЗЕД (*меланхалічна*). Шышка ты неразумная, немагушчая... Гэта не канец гісторыі...

МІХАСЬ. А што было далей? Што далей?.. Працягвайце!..

Дзед дае Лілеі сігнал, і яна падлівае яшчэ крупніку.

ДЗЕД. Нарцызаў адмовіўся ляцець разам з Сатурніянкай... Але быў адзін чалавек, які больш за ўсё на свеце жадаў быць з ёй на якой заўгодна планеце... У якой заўгодна галактыцы...

ЮРКА. І хто гэты дзівак?

Дзед адпівае крупнік. Праз паўзу.

ДЗЕД. Я.

Зацямненне.

К а н е ц п е р ш а й д з е і

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

**Сцэна першая**

ДЗЕД, ХРУСЯ

Цемра. Чуваць, як нехта прыгожа свішча "Саўку ды Грышку". Запальваецца святло. На сцэне – Дзед. Ён у львінай шкуры, працуе над скульптурай Сатурніянкі.

З'яўляецца Хруся. Нясмела падыходзіць.

ХРУСЯ. Прывітанне...

ДЗЕД (*захоплены працай, не паварочваецца*).

ХРУСЯ. Помніш, як мы танцавалі...

ДЗЕД (*маўчыць*).

Хруся падыходзіць да левага боку сцэны, робіць жэст – там запальваецца святло. Мы бачым патэфон. Пачынае іграць факстрот. Хруся танцуе, спрабуючы звярнуць на сябе ўвагу Дзеда. Але той абыякавы.

Пакрыўджаная Хруся хапае пласцінку і разбівае яе.

ХРУСЯ. ...А пасля табе Міхась у морду даў! Помніш? Помніш? Проста ў морду! Ага?

ДЗЕД (*маўчыць*).

ХРУСЯ. Ён і зараз так табе ўмажа, што ўсё павылятае! І бабу гэтую пасячэ! Пасячэ! Пасячэ!

Разгневаная Хруся дае Дзеду аплявуху і ўцякае.

**Сцэна другая**

ДЗЕД, ЮРКА

ЮРКА. Чакайце, чакайце. Вы ж, здаецца, казалі, што скульптуру выразаў...

ДЗЕД (*усхвалявана звяртаецца да Юркі*). Гэта ўжо сёмая!..

ЮРКА. Што сёмая?

ДЗЕД. Сёмая скульптура, якую Звінячы пасячэ!!!

ЮРКА. Дзядуля...

ДЗЕД. Гэтая Хруська зноў да яго пабяжыць і наплявузгае чорт ведама што!

ЮРКА. Не разумею...

ДЗЕД. А што тут разумець? Ён яе кахае, яна закахалася ў мяне, а я...

За сцэнай чуваць злосны рык.

ЮРКА. Гэта хто, Міхась Машара?

Рык павялічваецца.

ЮРКА. Божа!!!

Ярка ўспыхваюць нейчыя вочы.

Зацямненне.

**Сцэна трэцяя**

ЮРКА, МІХАСЬ, ДЗЕД, ЛІЛЕЯ, КАРП

Запальваецца святло. Юрка ляжыць у ложку. Каля яго сядзяць Лілея, Міхась і Дзед. Лілея выцірае яму лоб і дае выпіць адвар.

ЮРКА. Божа...

ДЗЕД. Адвар па рацэпту Нарцызава!

МІХАСЬ. Лілейка згатавала!

ДЗЕД (*ласкава*). Гаспадынька...

МІХАСЬ. Падымае не толькі безнадзейна, але і надзейна хворага!

ЛІЛЕЯ. Ты самлеў на рэпетыцыі.

ДЗЕД. Пі адвар! Храпу не адварочвай!

ЮРКА (*моршчыцца*). Мне ўжо добра...

ДЗЕД. Знаю, па смаку, як качыныя сікі, але там ёсць і іншыя зёлкі! Пі!

Дзед заціскае Юрку нос, Міхась вылівае ўвесь адвар яму ў рот, а Лілея выцірае хустачкай твар хворага. Юрка булькае, кашляе, плюецца.

ДЗЕД. Хай пабулькае крыху, пахлюпоча – усё ліхое выглякне!
ЮРКА (*Лілеі*). Адкуль вы ўсё ўмееце?.. Як вам удаецца... У вас жа... Вы ж...
ЛІЛЕЯ. Тата дзень і ноч трэнерам робіць. Падымае мікашэвіцкі футбол. Мама самадзейнасцю кіруе, па вобласці ездзіць-выступае. Калі адна ў хаце, то шмат чаму навучышся і яшчэ бабульку дагледзіш.
ДЗЕД (*ласкава Лілейцы*). Гаспадынька...
МІХАСЬ (*Юрку, захоплена*). Я ж табе казаў, якая нашая Кветка евангельская незвычайная...
ЮРКА (*Лілейцы*). Прабачце мне... Я быў з вамі грубы...
ДЗЕД. От, саплівец! Ляжы і не хлюпай!
МІХАСЬ. Што ж, хай наш Юрка адпачывае, працягнем рэпетыцыю заўтра.. Добра? Як вы думаеце, Лілейка?..

Званок. Заходзіць Карп.

КАРП (*Лілеі*). Можна забіраць?
ЛІЛЕЯ. Так.

Выходзяць.

**Сцэна чацвёртая**

ЮРКА, ДЗЕД, ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ, САТУРНІЯНКА

ДЗЕД (*Юрку*). Скажы “Гааа!!!”
ЮРКА. Гааа...

Дзед улівае ў яго яшчэ крыху адвару і закрывае яму нос.

ДЗЕД (*Юрку*). Ну, чаго глядзіш, вочы свае па-нептунянску вырачыўшы ад здзіўлення? Дзівіць, чаго я ў шкуры льва Сатурніянку выразаў?
ЮРКА. Вы былі, як... першабытны чалавек...
ДЗЕД (*крыўдліва*). Першабытны!! Зіма тады была лютая... А калі няма свайго кажуха, то і шкуру льва ўздзяўбурыш... Пі адвар!

Дзед хоча напаіць Юрку.

ЮРКА. Дзядуля, пачакайце...
ДЗЕД. А чаго чакаць? Чаго чакаць? Шышка ты чакальная! Ты хоць знаеш, што я быў найлепшым вучнем Нарцызава! Знаеш? Бачыў маю карціну? (*Узнікае на заднім плане выява карціны з каметай.*) Думаеш, гэта я ў Нарцызава зрысаваў? Га? Ды я змалку яшчэ хацеў учапіцца за хвост каметы і ажно да самага Давыд-Гарадка яе зашпурнуць! Браты з мяне смяяліся, бацькі не разумелі... А пасля я пачуў, што да нас мастак прыехаў, школу малярскую адкрывае. У той жа дзень я намаляваў гэтую карціну і прынёс паказаць. Каб ты бачыў, як яна яму спадабалася! А на другі ці трэці дзень і ён сам пачаў космас на сваіх палотнах выдумляць!..
ЮРКА. І вы падарожнічалі па планетах разам з Язэпам Драздовічам?..

ДЗЕД (*раз'юшана падымаецца*). Пі адвар! Булькай, хлюпачы, глюкачы – прачышчай хракачы!

ЮРКА. Што я сказаў не тое?

ДЗЕД. Што сказаў? Што ты, лускатвары саплівец, сказаў не тое?!! Хочаш пачуць пра мае падарожжы? А не пачуеш! Нічога не пачуеш! Думаеш, не пачуеш, бо не варты знаць? Ніводнага! Ніводнага самнамбулічнага сна ў мяне не было! А ў яго – колькі хочаш! Ён мне расказваў... Ён усё расказваў, я ж найлепшы вучань, надзейны сябра, нават шкуру Ільва мне падарыў... Ён расказваў... А я пасля плакаў... Малады славалюбівы пацук, падрапаны сляпым кацянём, не так горка плакаў бы, як я... І нікому не мог пажаліцца...

ЮРКА. Цяжка вам было...

ДЗЕД. А што? Думаеш, разнюніўся?... На сваю дзюбку мераеш? Не! Кнігі купляў, дзе снамі кіраваць вучаць, лепшыя польскія часопісы па самнамбулізме выпісваў! Ёгам стаў! На цвіках мог спаць і нічога! Нічога! Божа! А якія ў яго былі падарожжы!.. Нахабныя марсіянкі! Сціплыя лунідкі!.. Насмешлівыя меркурыянкі!!!.. Арыстакратычныя юпітэркі!!! Цнатлівыя нептунянкі!!!... "Буркатун – у носе сярун!" – смяяліся з мяне зямныя дзеўкі... Яшчэ малым, мяне "Дзедам" называлі, бо сур'ёзны быў, не тое, што вы – шышкі... Я верыў, што на іншых планетах усё інакш... Нахабныя марсіянкі! Сціплыя лунідкі!.. Насмешлівыя меркурыянкі!!!.. Арыстакратычныя юпітэркі!!! Цнатлівыя нептунянкі!!!... Штоночы ён быў з імі! А потым...

ЮРКА. Што потым?

ДЗЕД. ...потым паляцеў на Сатурн... Ён прайшоў праз усе яго абручы! Ён біўся на паўночным баку з сатурніянскімі ільвамі! Ён прыняволіў Цыклопа і паланіў сэрца...

ЮРКА. Сатурніянцы?..

ДЗЕД (*п'е Юрчын адвар*). Калі я яе ўбачыў...

ЮРКА. Дык, значыць, і вы трапілі на Сатурн?

ДЗЕД. Ніводная лунідка, ніводная меркурыянка, ніводная марсіянка, ніводная юпітэрка, ніводная нептунянка не прыходзіла сама да Нарцызава... а гэтая явілася!.. (*Дзед хвалюецца. Машынальна бярэ адвар і выпівае.*) Я спаў у суседнім пакоі... Я часта заставаўся ў Нарцызава... І вось ноч... З'яўляецца нешта белае... Яно павялічваецца... Думаў – Звінячы брыжкуе! А гэта... Гэта Цыклоп! Самы сапраўдны сатурніянскі Цыклоп! Божа! Няўжо!!! Няўжо ў мяне самнамбулічны сон? Цыклоп кагосьці пяшчотна нясе на руках... Гэта, гэта...

ЮРКА. Сатурніянка!

ДЗЕД. Пасля яна сышла з рук Цыклопа і пайшла... Не, не пайшла, паплыла...

ЮРКА.

Ты праплывай заўсёды нада мной  
І ў ружу завівай маё дыханне,  
Здзіўляй мяне парнаскаю цаной,  
Стамляй парнаскім хваляваннем...

ДЗЕД. Яна праплыла міма мяне... Прайшла праз сцяну ў пакой Нарцызава... А пасля пачуліся дзівосныя зыкі, шчаслівы смех... Гучала мелодыя, якую іграў Цыклоп на нейкім фантастычным інструменце... Што за музыка! Гэта табе не той дурны зямны факстрот, які так Хруська любіла, а нейкі касмічны вальс... Я пракалупаў у сцяне дзірку і глядзеў...

На заднім плане запальваецца прывіднае святло, і там мы бачым, як Язэп Драздовіч і Сатурніянка твораць свой вальс, а Цыклоп іграе.

Дзед і Юрка назіраюць за імі.

ДЗЕД (*хістаецца ў рытме вальса*). Я глядзеў... Кожную ноч... Кожную ноч... Кожную ноч... Душу маю тысячы хохлікаў скублі зубкамі, душылі лапкамі, сцябалі хвосцікамі, казыталі пазурочкамі... Звінячы, ён жа Міхась Машара, смяяўся: "Што, Дзед, улюбіўся?" Адкуль яму было ведаць, у каго я ўлюбіўся? А часам Нарцызаў знікаў... На дзень, на два, на тыдзень...

ЮРКА. Куды?

ДЗЕД. Казалі, што ў Вільню, у Беларускі музей імя Івана Луцкевіча, ездзіў прадаваць кійкі... Але я знаў... Ведаў...

Цыклоп падхоплівае Сатурніянку і Язэпа Драздовіча, і яны знікаюць.

ЮРКА. Ляцеў на спатканне да Сатурніянкі?

ДЗЕД. Тысячы хохлікаў мне гэта падказвалі, драпалі пазурочкамі...

Пачынае падаць снег. Дзед падхопліваецца, сцягвае Юрку з ложка.

ЮРКА. Што такое?

ДЗЕД. У той дзень пайшоў снег! Я сам не знаю, чаму пачаў ляпіць... Пачаў ляпіць, як ашалелы! Ян Матэйка з большым спакоем маляваў сваю "Грунвальдскую бітву"!

Дзед пачынае ляпіць нябачную скульптуру.

ЮРКА. Няўжо ляпілі Сатурніянку?

ДЗЕД. О! Цяміш?! Глядзі! Не ён першы! Я пачаў яе ствараць! Я! Цэлы дзень, цэлую ноч я ляпіў яе! А з якой хуткасцю! Я крычаў, я спяваў! Я спяваў сатурніянскі кліч кахання! Нарцызаў так заўсёды зваў яе! За доўгія ночы я паспеў вывучыць гэты кліч! Я верыў, калі прапяю ўсё верна, нідзе не схіблю, яна прыляціць. Убачыць сваю скульптуру. Зразумее, што я варты яе і кіне яго! Я пяяў, вецер выў і тут...

ЮРКА. Яна?

ДЗЕД. Звінячы... Вясёлы... П'яны... "Га-га-га! Што за снегавіка такога ты зляпіў? Дай я яму нос папраўлю!.." Пачаў кідацца снежкамі... разбіў ёй нос, адбіў вуха... Тысячы хохлікаў заекаталі, заенчылі, засакаталі... Я кінуўся на яго.

ЮРКА. І?

ДЗЕД. Гэта было пад ранак. Міма на ровары праязджаў паліцыянт. Хацеў нас разбараніць, разняць... І так атрымаў у лыч, што пасля на ровара сесці не мог. А мы з месяц у вязніцы сядзелі... І ў вязніцы аматар кідацца снежкамі напісаў:

І вы, муры маёй вязніцы,
Вы – сведкі крыўды і пакут,
Вас хутка крыллем навальніцы
Змяце з зямлі працоўны люд.

Паўза.

ЮРКА. А потым?..

ДЗЕД. Ды ўсё ты знаеш! Спектакль жа робіш!!! Нарцызаў дачуўся,

каго я ляпіў і калі пачаў партрэт Хруські выразаць, то яна была ў яго вельмі ж падобная да...

ЮРКА. ...Сатурніянкі?

ДЗЕД. Так! (*Паўза.*) Як жа ён мог...

ЮРКА. Што?

ДЗЕД. Як ён мог адмовіцца ад такой... Такой багіні!

ЮРКА. Не мог кінуць нашу планету...

ДЗЕД. Не мог кінуць што?! Гэты азёрна-марскі шарык, поўны пустынь, лясоў, надакучлівых Хрусь, Звінячых, дурных факстротаў і тысячы хохлікаў, што шкрабуць тваю душу?! Зямля... Планета Зямля! Слова ж якое, як быццам у рот мокрага пяску заглынуў, які вяжа табе горла, сціскае ўсяго цябе і ператварае ў чарвяка, якога надзейна трымае гэтая Зямля сваім брыдкім прыцягненнем, як старая жонка-рапуха свайго маладога слабавольнага мужа... Трымае, душыць у абдымках і ператварае ў пясок... Чуў выраз: "Пясок сыплецца"? Гэта ўсё ад яе адбымкаў... Толькі вар'ят захоча тут жыць! А ён!.. Ён так разлютаваўся, такі быў яры – скульптуру пасёк на дробныя кавалкі!.. Стаяў увесь чырвоны... Сякерай махаў... Заб'е – далібог – заб'е! Леў, які ўцёк з заапарку, быў не такі люты, як Нарцызаў!..

ЮРКА. Вам не было страшна?

ДЗЕД. Сячы! Рубай! Сатурніянку мне аддай! Я крычаў страшным голасам. Крычаў у рыфму і сам таго не цяміў, што смешы быў... У вачах слёзы, увесь калачуся, бы шалёны... Пены толькі не хапае... Сячы! Рубай! Сатурніянку мне аддай! Сячы! Рубай! Сатурніянку мне аддай!..

Святло падае на левы бок сцэны. Мы бачым Язэпа Драздовіча, які стаіць з сякерай каля рэштак скульптуры Сатурніянкі.

**Сцэна пятая**

ДЗЕД, ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ

Дзед увесь калоціцца, марудна падыходзіць да Язэпа Драздовіча.

ДЗЕД (*паўтарае, бы ў прастрацыі*). Сячы! Рубай! Сатурніянку мне аддай!..

Язэп Драздовіч яго спыняе дзержаком сякеры.

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. Хочаш да яе?

ДЗЕД. Так...

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. Назаўсёды хочаш?

ДЗЕД. Так!

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. Добра падумаў?

Падымае адной рукой галаву Дзеда, глядзіць яму проста ў вочы. Адкідае сякеру. Святло ў левым баку сцэны знікае.

**Сцэна шостая**

ДЗЕД, ЮРКА, ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ

Кватэра Аленкі. Юрка, па-ранейшаму на ложку. Унураны Дзед сядзіць побач.

ДЗЕД. Я гэтага не чакаў... Ён... Ён узрадаваўся... Ён захацеў мне дапамагчы...

Святло выхоплівае левы кут сцэны, дзе знаходзіцца Язэп Драздовіч.

**Сцэна сёмая**

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ, ДЗЕД

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. А цяпер слухай... Усё проста... У адну з прыгожых лютаўскіх начэй, калі Поўня вялікая табе ў душу зазірае, Марс па-бандыцку міргае і Венера сінім холадам любую гарэлку ў квас ператварае, дык вось, у такую ноч трэба... Выразаць новы вялікі партрэт...

ДЗЕД. ...трэба выразаць новы вялікі партрэт...

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. Але, глядзі ж, на гэты раз не Хруські, яе і блізка не падпускай, бо тая касмічная цаца – дзеўка раўнівая!

ДЗЕД. Яна – раўнівая...

ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ. Затым пакліч яе па-сатурніянску і ніводнай ноты не схлусі... Калі ж ёй спадабаецца партрэт, калі спадабаецца твая песня, то, хто знае? Мо і зацягне яна цябе на той Сатурн! Зацягне на векі вечныя і амін!

ДЗЕД. ...калі Поўня вялікая мне ў душу зазірае, Марс па-бандыцку міргае і Венера сінім холадам любую гарэлку ў квас ператварае... На векі вечныя і амін!..

Язэп Драздовіч смяецца і знікае.

**Сцэна восьмая**

ДЗЕД, ЮРКА

ДЗЕД. Я нават не знаў, што зямныя дзеўкі бываюць такія надакучлівыя...

ЮРКА. Хруська? Пакрыўдзілася, што не яе партрэт робяць?

ДЗЕД. Не знаў, што зямныя дзеўкі могуць быць такімі ярымі, калі ўлюбяцца! (*Юрку.*) Помніш, з-за чаго ты самлеў? Хто цябе, шышку немагушчую, напалохаў?..

ЮРКА. Нечыя вочы і рык... Я думаў, гэта Міхась Машара!

ДЗЕД. Леў!

ЮРКА. Вы ж з яго шкуру злупілі...

ДЗЕД. Так бы табе і даў Нарцызаў з жывой істоты шкуру лупіць!

ЮРКА. Дык вы ж самі былі ў шкуры...

ДЗЕД. Я быў у шкуры здохлага каня, якую Нарцызаў у цыгана выменяў і пад Ільва аздобіў. А сапраўдны Леў, каб людзі яго не скрыўдзілі і ў заапарк не вярнулі, у адрыне быў схаваны... Грубу там Нарцызаў паставіў, каб ад холаду звер не акалеў. Гэты Леў ва ўсім слухаўся Нарцызава. Калі Звінячы разоў шэсць сек маю работу, Нарцызаў даў наказ, і Леў стаў абараняць скульптуру. Звінячы цяпер і сунуцца не мог! Сам Леў цябе спалохаў, таму ты і самлеў!

ЮРКА. Фантастыка нейкая...

ДЗЕД. І вось надышла ноч, калі...

ЮРКА. ...Поўня вялікая табе ў душу зазірае?

ДЗЕД. ...Марс па-бандыцку міргае!

ЮРКА. ...і Венера сінім холадам любую гарэлку ў квасператварае?

ДЗЕД. За вокнамі завіруха. Леў мірна спіць каля грубкі, у дзверы Хруська жаласліва шкрабецца, Звінячы, п'яны, ля ног Хруські скавыча і мяне кляне, а я заканчваю сваю Сатурніянку! Адзін штрых... Яшчэ адзін... Вось і ўсё... Гатова!.. Можна пачынаць! Можна пачынаць! (*Юрку.*) І каб ніводнай ноткі не схлусіць! Ніводнай ноткі, і на векі вечныя амін!

Зацямненне.

**Сцэна дзявятая**

МІХАСЬ, ЛІЛЕЯ, ЮРКА

Кватэра Аленкі. На сцэне – Міхась, Юрка і Лілея.

МІХАСЬ. Не можа быць! Не ведаю, ці атрымаецца наш спектакль, але новага паэта ты адкрыў! І гэта нечаканая творча-мужчынская зайздрасць да Язэпа Драздовіча!.. Проста нейкі беларускі варыянт "Моцарта і Сальеры", толькі без атручэння, а са шчаслівымі ўцёкамі нашага Сальеры на Сатурн!

ЛІЛЕЯ. Як ён зараз?

ЮРКА. Стаміўся. Ляжыць.

МІХАСЬ. Лілейка! Юрка? Давайце гэта рэпетаваць! Давайце...

ЛІЛЕЯ (*Юрку*). Але ж ты не ўсё нам расказаў?

ЮРКА. Не ўсё...

**Сцэна дзясятая**

ДЗЕД, ЮРКА

Святло выхоплівае правы бок сцэны. Стаіць Дзед. Юрка яго слухае.

ДЗЕД. Усё!.. Усё было гатова. Леў мірна спіць каля грубкі, у дзверы Хруська жаласліва шкрабецца, Звінячы, п'яны, ля ног Хруські скавыча і мяне кляне, а я заканчваю сваю Сатурніянку! І каб ніводнай ноткі не схлусіць... І вось яно... Нешта белае, бясформеннае... Яно робіцца ўсё большым... Гэта ён – Цыклоп, які пяшчотна кагосьці нясе... Нясе яе... Сатурніянку... Усё сціхла! Яна аглядае свой партрэт!.. Дае знак Цыклопу... Той адыходзіць і чухае жывот Ільву, які бязгучна вуркоча... Яна смутная: Нарцызаў і яго сякера яшчэ стаяць перад ёй... Я заплюшчваю вочы... Думаю, расплюшчу – і ўсё знікне, прападзе... Мінае хвіліна... Чую каля вуха нейкі пошчак, як быццам хто адбівае нейкі дзіўны касмічны рытм пазногцямі... Яна стаіць перада мной... А я... Я... У яе... У руках... Яна мяне гушкае, лашчыць... Леў усміхаецца і чухае жывот Цыклопу, які вуркоча... Яна схіляецца да мяне, набліжаецца... Яна хоча танцаваць са мной свой вальс...

Дзед раптоўна змаўкае.

Доўгая паўза.

ЮРКА. Што? Што было далей?

ДЗЕД (*глядзіць на Юрку, як на найвялікшага дурня*). Цябе цікавіць мая біяграфія? Мой жыццяпіс?! У 1939-м намаляваў карціну, прысвечаную яднанню Заходняй ды Усходняй Беларусі... Дзе трэба яна спадабалася... Разам са Звінячым шмат і дзе трэба засядалі, выступалі... Маляваў каго трэба і што трэба... Трэба было пра дзяцей будучых падумаць... Ажаніўся з Хрусяй.

ЮРКА. З Хрусяй? А як жа Міхась Машара?..

ДЗЕД. У яго ж і так была жонка. Хруська для яго – захапленне...

ЮРКА. А што здарылася...

ДЗЕД. З Нарцызавым? Ад сатурніянскіх абручоў ён уцёк у лясы і пушчы беларускіх вёсак... Яму, аказваецца, усё адно было, дзе падарожнічаць – па планетах альбо дзікіх балотах. Галоўнае – быць свабодным, галоўнае – аніякіх абручоў... Леў уцёк разам з ім... У заапарк не вярнуўся... Кажуць, аблюбаваў адзін з дываноў Алены Кіш... Сатурніянка ж больш не з'яўлялася. Ніколі.

ЮРКА. Але...

ДЗЕД (*выварочвае кішэні, з якіх сыплецца пясок*). Бачыш, сыплецца? Я ж сказаў – ніколі! ...Толькі мая карціна з каметай засталася... Ніколі... Ніколі... Ніколі...

Зацямненне.

**Сцэна адзінаццатая**

ЮРКА, МІХАСЬ, ЛІЛЕЯ

Запальваецца святло.

МІХАСЬ. Але ж чаму? Ён жа марыў пра гэта! Жадаў гэтага!..

ЛІЛЕЯ. Што можа быць страшней за здзейсненую мару?.. Асабліва для мужчыны?

ЮРКА. Зараз ён маўчыць і ляжыць. Не рухаецца... Здаецца, нават не міргае.

МІХАСЬ. Ён хоць жывы?

ЮРКА. Ён казаў, што і Зямля, раўнівая рапуха, яго не бярэ, і Сатурніянка больш да яго не прыйдзе... Яны абедзве ў ім зняверыліся!

МІХАСЬ. Які трагічны, велічны фінал! Давайце так і завершым!

ЛІЛЕЯ. Не...

МІХАСЬ. Але чаму, Лілейка?

ЛІЛЕЯ. Таму што я ведаю, што гэта такое – маўчаць і ляжаць, не рухацца і, здаецца, нават не міргаць! Карп!

З'яўляецца Карп.

КАРП. Выклікалі?..

ЛІЛЕЯ. Так!

Зацямненне.

**Сцэна дванаццатая**

ЮРКА, МІХАСЬ, ДЗЕД

Цемра. Гучаць галасы Юркі і Міхася. Марудна запальваецца святло.

ЮРКА і МІХАСЬ (*пяюць*).
А-эээзііііўўўўаааааааэээээааааа
Оoooўўўўўўэээээээііііііііііііыы
ыыыыыеееееееааааааууууyoooo!

Твораць адмысловы танец і пяюць. Пачынаюць адбіваць рытм на барабанах.

ЮРКА (*спыняецца*). Чакай! Нейкая лажа выходзіць!.. Мы як два прыдуркі!..

МІХАСЬ. Прыдурак ты, што спыніўся! Даверся ёй!

ЮРКА. Ты, бачу, даверыўся ёй цалкам!

МІХАСЬ. Працягвай!..

ЮРКА. Але паслухай...

МІХАСЬ. Табе веры не стае! Ты ніколі нікому не верыў! Недаверак! І Дзеду надурыў галаву, што паверыў яму! Каб дапамагчы яму, трэба верыць! Разумееш? Лілея верыць! Я веру Лілеі, а ты?.. Ты каму верыш? Таму і паставіць нічога не можаш, і каханку з жонкай не радуеш, і ката Махнача з мамай засмучаеш...

ЮРКА. Чаго ўсхадзіўся? Мама тут прычым? Мы ж рэпетуем? Спектакль ствараем? Давай... Давай яшчэ раз... Апошні акт... Самы важны... Самы цяжкі! Ты хоць сам гатовы?

МІХАСЬ. Пачынаем!

Адбіваюць рытм, танцуюць.

ЮРКА і МІХАСЬ (*пяюць*).
А-эээзііііўўўўаааааааэээээааааа
Оoooўўўўўўэээээээііііііііііііыы
ыыыыыеееееееааааааууууyoooo!

МІХАСЬ (*прыслухоўваецца, шэптам*). Чуеш?

ЮРКА (*шэптам*). Што?

МІХАСЬ (*шэптам*). У ягоным пакоі... (*Паказвае на пакой Дзеда.*)

ЮРКА (*шэптам*). Так... нейкі рух...

ЮРКА і МІХАСЬ (*пераглянуўшыся, пяюць з новай сілай*).
А-эээзііііўўўўаааааааэээээааааа
Оoooўўўўўўэээээээііііііііііііыы
ыыыыыеееееееааааааууууyoooo!

Дзверы ў пакоі адчыняюцца. Марудна выходзіць Дзед.

Зацямненне.

**Сцэна трынаццатая**

ЮРКА, МІХАСЬ, ДЗЕД, ЛІЛЕЯ, КАРП

Цемра. Гучаць сатурніянская хваласпевы Юркі і Міхася. Сцэна асвятляецца зіхоткім ззяннем. З'яўляецца нейкая белая пляма. Гэта Цыклоп, якога іграе Карп. Ён кагосьці пяшчотна нясе. Перад намі – Лілея ў вобразе Сатурніянкі. Дзед аслупняеў. Яна адбівае рытм пазногцямі. Асвятляецца левы бок сцэны. Там стаіць – у чалавечы рост круглае абчасанае бервяно, акурат для партрэта. Сатурніянка набліжаецца да Дзеда. Цалуе яго. Яны танцуюць вальс. Танцуючы, набліжаюцца да гэтага бервяна.

Зацямненне.

**Сцэна чатырнаццатая**

АЛЕНКА, ЮРКА

Запальваецца святло. На сцэне – ложак, у якім – Юрка і Аленка.

ЮРКА. Значыць, Афрыка, сафары, племя Нуба – усё падман?
АЛЕНКА (*смяецца*). ...і толькі не падман каханне!
ЮРКА. Табе не сорамна?
АЛЕНКА. Не.
ЮРКА. І што, нават... Нават у прыбіральні ты паставіла свае камеры?..
АЛЕНКА. А паверхам вышэй – зняла яшчэ адну кватэру і абсталявала яе разам з маім мужам. Ты яго бачыў, ён прыносіў на рэпетыцыі Лілею. Яго завуць Карп. Выбачай, што раней не пазнаёміла.
ЮРКА. Гэты Карп... Твой муж?.. Баксёр?..
АЛЕНКА. Ну, ён былы баксёр, а зараз займаецца дакументалістыкай.
ЮРКА. А Лілея...
АЛЕНКА. Лілея, кветка евангельская... Я пасяліла яе гэтаксама паверхам вышэй!
ЮРКА. А Міхась?..
АЛЕНКА. Ты ж яго ведаеш, ён любіць творчыя эксперыменты.
ЮРКА. Любіць эксперыменты... Выходзіць, вы мяне проста скарысталі, разыгралі...
АЛЕНКА. Скарысталі?! Буля! У цябе ёсць гатовы спектакль! Я ўгаварыла галоўнага рэжысёра Тэатра Маладой Драматургіі, твайго любімага Пятра Пятровіча, каб ён даў табе яшчэ адзін шанец...
ЮРКА. Якім чынам?
АЛЕНКА. Пераслала яму некалькі ролікаў і здымкаў з рэпетыцый... А ў мяне будзе гатовы фільм пра ваш спектакль і майго Дзеда. Карп даробіць мантаж, і мы яго адправім на фестываль дакументальнага кіно ў Ратэрдаме! Даўно марыла здымаць дакументальна-эмацыйныя рэчы! Хопіць з мяне фотасесій з дурнымі мадэлямі! Чым я горшая за Рыфеншталь! А мой Дзед – значна круцей за нейкае там племя Нуба!
ЮРКА. Малайчынка... Усё прадумала... Нікога не пакрыўдзіла... Усіх узбагаціла... Нават не ведаю што сказаць... Адчуваю сябе... Як нейкі... Нейкі славалюбівы пацук, якога душаць слёзы, але яму няма каму і няма на што пажаліцца...
АЛЕНКА. Нееe, Булечка! Ты не пацук! Ты – горш! Ты – паэт, які робіць усё, каб не быць паэтам! (*Перадражнівае.*) “Я не хачу быць рэжысёрам, не хачу ставіць спектаклі... Мяне пракінулі! Ніхто не дасць пляцоўку!!! Ува мне зняверыліся!!!” Такі ж, як і мой дзед! Што заўгодна зробіць – навыдумляе чортведама чаго, усе будуць вінаватыя – космас, Язэп Драздовіч, які быццам бы краў яго тэмы, зямныя дзяўчаты, міфічная Сатурніянка, уся нашая планета – абы не заставацца паэтам! Абы не раскрывацца! Бо гэта ж страшна, бо праз такое гранічнае раскрыццё можна быць навечна паланёным абручамі Сатурна!
ЮРКА. А што дзядуля?..
АЛЕНКА. Перад смерцю бабка Хруся расказала мне, якія ён рабіў дзівосныя скульптуры Сатурніянкі! Ён усё знішчыў! Усё! Нават карціну пра ўз’яднанне Беларусі спаліў!.. Застаўся толькі жывапісны краявід з каметай... Не ведаю, чаму ён яго не парэзаў... Мабыць, спадзяваўся, што на

гэтай камеце яна ўсё ж такі да яго рана ці позна прыляціць і ў яго будзе другі шанец... Я хацела пагутарыць з дзедам, але ён маўчаў! Колькі я яго знала – ён увесь час маўчаў! Гэты пакутлівы позірк, насупленыя бровы – я памятаю з самага дзяцінства! Больш за ўсё на свеце я хацела зрабіць так, каб ён абудзіўся! Я не магу спакойна жыць, калі паэт спіць! Разумееш? Выпадкова, я пазнаёмілася з табой. Мне падабаліся твае студэнцкія работы. Там было столькі экспрэсіі! Ты любіў фантастыку, палёты! І таму я цябе натхніла Язэпам Драздовічам! Думала, атрымаецца спектакль, Дзед яго паглядзіць і нешта прачнецца і ў ім...

ЮРКА. А пасля, калі той паказ праваліўся, ты прыдумала яшчэ хітрэй...

АЛЕНКА. Усё атрымалася як найлепей! Вы зацікавілі яго! А вашая фінальная сцэна, калі Сатурніянка прыходзіць да Дзеда і загадвае яму зноў ствараць яе партрэты – геніяльная! Яна будзе кульмінацыйнай у маім фільме! Ён паверыў! Ён паверыў! Гэта сапраўдны цуд!

ЮРКА. Гэта было паскудна. Мы проста падманулі беднага хворага чалавека...

АЛЕНКА. Так, вы падманулі яго, і гэты бедны хворы чалавек зноў пачне выразаць неверагодныя скульптуры і маляваць палотны з каметамі! Я падманула цябе – і ты адчуў сябе рэжысёрам!!!

ЮРКА. Аленка...

АЛЕНКА. А пра Лілею ты забыў? Дзяўчына з ДЦП, пасля ўсяго гэтага, я ўпэўненая, стане зоркай, ды і Міхась твой выб'ецца з эпізоднікаў!

ЮРКА. Аленка, паслухай...

АЛЕНКА. Не, гэта ты мяне, каханы Булечка, паслухай! Калі паэт, сапраўдны паэт, хоча ўцячы, схавацца ад сваёй паэзіі, хоча забыць яе, дык я зраблю ўсё, ні перад чым не спынюся, каб ён успомніў, хто ён ёсць! І мне няважна, што ён пры гэтым адчувае, як яму і дзе баліць! Ты, Буля, можаш крыўдзіцца на мяне, нават ненавідзець... Але дзякуючы мне, ты зноў рэжысёр.

ЮРКА. Так...

АЛЕНКА. А цяпер ідзі... Ідзі да мамы, таты, жонкі Ніны, ката Махнача. Выспіся. Адпачні. Праз некалькі дзён у цябе паўторны паказ у Тэатры Маладой Драматургіі.

ЮРКА (*іранічна*). А як жа тваё абяцанне развесціся?

АЛЕНКА (*гэтак жа іранічна*). Ну, ты ж ведаеш – я падманшчыца! Яшчэ якая падманшчыца! Ідзі! А то дзядуля не зразумее, што ў пасцелі яго ўнучкі робіць голы малады таленавіты рэжысёр!

ЮРКА. Ах, дзядуля не зразумее! А я хачу яго пабачыць! Я патлумачу! Хачу каб ён зразумеў! Камеры працуюць? Зробім сапраўдную кульмінацыю для твайго фільма!

АЛЕНКА. Які ваяўнічы! А яго няма!

ЮРКА. Як няма? А дзе ён?

АЛЕНКА. Ну-у... (*Глядзіць на гадзіннік.*) Мабыць, танцуе зараз вальс на абручах Сатурна! Да раніцы абяцаў вярнуцца!..

ЮРКА. Жартуеш?

Юрка выбягае ў пакой Дзеда. На заднім плане ўзнікае карціна з каметай. Толькі цяпер на камеце сядзіць шчаслівы Дзед з Сатурніянкай, намаляваныя ў наіўным стылі.

Юрка вяртаецца.

АЛЕНКА. Не забудзь пакуначак. Падарунак для мамы!
ЮРКА (*іранічна*). Шкура Ільва?
АЛЕНКА. Ты ж маме абяцаў. А мужчына павінен трымаць слова!

Юрка дастае нешта з пакунка. Разварочвае. Перад намі – дыван Алены Кіш з намаляваным апельсінава-лімонным ільвом.

Зацямненне.

**Сцэна пятнаццатая**

ПЯТРО ПЯТРОВІЧ

Запальваецца святло. Перад намі пустая сцэна, на якой стаіць мастацкі кіраўнік Тэатра Маладой Драматургіі Пятро Пятровіч.

ПЯТРО ПЯТРОВІЧ (*звяртаецца ў залу*). Паважаныя калегі, сябры мастацкай рады, толькі што мы паглядзелі з вамі творчую работу нашага маладога рэжысёра і драматурга Юрася... Калі ласка, прашу выказацца. Слова нашаму вядучаму майстру сцэны, народнаму артысту Івану Сяргеевічу...
ІВАН СЯРГЕЕВІЧ. Я, извиняюсь, по-русски скажу. Хочу сказать «нашаму маладому рэжысёру». Юрец, я ни хрена не понял, но чутье подсказывает – это прокатит! Особенно в Европе. Они такое любят. Хорошая может быть фестивальная штучка!
ГОЛАС 1-шы. Я згодная з калегам. Такая тэма якую ты, Юра, закрануў, вобраз мастака, вобраз Драздовіча, увогуле патрабуе менавіта такога мадэрновага прачытання!
ГОЛАС 2-гі. Ребята молодцы! Отлично сыграли! Особенно девочка, которая Сатурниянкой была. Я думаю, её надо взять в штат театра! Она особенная, и для нее нужно создавать особенные роли...
ІВАН СЯРГЕЕВІЧ. Уверен – Юрец еще не один особенный спектакль с ней сбацает!
ПЯТРО ПЯТРОВІЧ. Вельмі цешыць, што першая сур'ёзная рэжысёрская работа Юрася адбылася ў нашым тэатры. Прапаную...
ІВАН СЯРГЕЕВІЧ. Извини, перебью, пока не забыл! Мы, Петрович, твой "Вишневый сад" во Францию на фестиваль посылать хотели, но так как он еще не доработан, а сроки поджимают, предлагаю отправить эту вещь про Драздовича, или как там его. Кто за?

Зацямненне.

**Сцэна шаснаццатая**

ЮРКА, МІХАСЬ

МІХАСЬ. Віншую!
ЮРКА. Дзякуй...
МІХАСЬ. Чаго такі сумны?
ЮРКА. Усё добра...
МІХАСЬ. Як там Аленка?
ЮРКА. З'ехала з мужам у Канаду. Сказала, там растуць добрыя кедры, для дзедавых сатурніянак.

МІХАСЬ. А твая сям'я?

ЮРКА. Мая сям'я нікуды не з'ехала...

МІХАСЬ. А мяне... Мяне Лілейка запрасіла... Уяўляеш? Мяне ніколі дзяўчаты не запрашалі!.. А яна запрасіла!

ЮРКА. Куды?..

МІХАСЬ. У кавярню! Адкрылася новая літаратурная кавярня, дзе расплачвацца трэба не грашыма, а вершамі беларускіх паэтаў! Колькі ведаеш на памяць вершаў, столькі можаш і ежы замовіць! Хочаш з намі?

ЮРКА. Настрою няма...

МІХАСЬ. Ты праплывай заўсёды нада мной... Ну!?

ЮРКА. І ў ружу завівай маё дыханне?

МІХАСЬ. Правільна!.. Здзіўляй мяне парнаскаю цаной...

ЮРКА. Стамляй парнаскім хваляваннем.

МІХАСЬ. І з таямніц, незразумелых мне...

ЮРКА. Адкрый мне тую таямніцу...

МІХАСЬ. Што ў гэтым хваляванні і цане...

ЮРКА. Класічным мармурам іскрыцца...

МІХАСЬ. Малайчына! Галодным у кавярні не застанешся!

ЮРКА. Заўтра ў нас рэпетыцыя...

МІХАСЬ. Ад кавы яшчэ ніхто не п'янеў! Лілея чакае! Хадзем! Адзначым з'яўленне новай артысткі ў штаце нашага тэатра!

Выходзяць.

Зацямненне.

**ЭПІЛОГ**

На заднім плане мы бачым нейкую пляму. Яна павялічваецца. Запальваецца святло – гэта апельсінава-лімонны Леў, на якім скача ў вышыні сцэны вясёлы Язэп Драздовіч. Мастак напявае сваю песню "Галава ты мая разудалася..."

Седзячы на Льве і лунаючы над галовамі гледачоў, мастак вітае артыстаў, якія выходзяць на апладысменты.

КАНЕЦ

*6-га лютага – 9-га сакавіка 2015 г.*



Генадзь Бураўкін



…ведаю, што я паэт шчыры,

я паэт, як кажуць, не бяздарны.

А астатняга не знаю…

# Апошняе сумоўе

***Сяргей Шапран – пра развітальныя сустрэчы з Генадзем Бураўкіным***

***Удзень 15 мая 2014 года пачуўся тэлефонны званок: «Сярожа, дзень добры! Як твае справы?» Гэта быў Бураўкін. Я разгубіўся, бо ведаў, што Генадзь Мікалаевіч цяжка хварэе, а тут раптам тэлефануе… Я пачаў гаварыць пра падрыхтоўку – непадцэнзурных быкаўскіх кніг, а ён у адказ: «Не чую… не чую…» – «Генадзь Мікалаевіч, вельмі рады вас чуць!» Але зноў: «Я цябе не чую… не чую…» І так некалькі разоў… Зрэшты, хутка я даўмеўся, што Бураўкін тэлефануе не дзеля таго, каб я распавёў яму пра свае справы, – мусіць, у яго пэўная патрэба ўва мне. І сапраўды, ён папрасіў завітаць да яго, асабліва не адкладваючы, заўважыў – не на кароткі час. «Добра, заўтра буду. А як ваша здароўе?» – «Давай не будзем пра гэта», – сказаў Генадзь Мікалаевіч зусім іншым, пагаслым голасам.***

***Праўда, я быў у яго толькі праз дзень, бо назаўтра да яго без папярэджання і запрашэння завітаў нехта з маскоўскіх гасцей, хоць Бураўкін пасля пытаўся ў жонкі Юліі Якаўлеўны, ці тэлефанаваў я. Зрэшты, нават Юлія Якаўлеўна не ведала, якая ж патрэба была ў яго да мяне…***

Генадзь Мікалаевіч быў у ложку. Сілы імкліва пакідалі яго – ён не мог уставаць, гаварыў слабым голасам. Хвароба не шкадавала яго, было бачна – ідзе адлік апошніх дзён. Пра гэта ён сам казаў адразу і без аніякіх умоўнасцей, гаварыў, што адчувае, што ў хуткім часе пойдзе, таму ў яго некалькі просьбаў да мяне.

Адна з іх: на пісьмовым стале ляжыць блакітны сшытак, у якім вершы апошніх гадоў. Генадзь Мікалаевіч прасіў, каб я падрыхтаваў з тых вершаў яго новую кнігу і заняўся гэтым як мага хутчэй. Праўда, пасля выказаў сумніў – а ці будзе магчымасць выдаць тую кнігу? Я запэўніў, што падключу да гэтай справы Глеба Лабадзенку, і разам мы абавязкова нешта прыдумаем... Яшчэ адна просьба была таксама нечаканай: каб я прыходзіў да яго штодня і задаваў любыя пытанні пад запіс. Ён неаднойчы пасля падкрэсліваў: «Я табе даю права задаваць любыя пытанні».

Зрэшты, з прапановай штодзённых гутарак было нібыта зразумела – Генадзь Мікалаевіч не паспеў напісаць мемуары і цяпер, мусіць, хацеў хоць у такім выглядзе пакінуць свае ўспаміны. Даўнія яго сябры – Рыгор Барадулін і Уладзімір Някляеў, а разам з імі Аляксандр Фядута ды аўтар гэтых радкоў таксама – не раз спрабавалі пераканаць Бураўкіна ўзяцца за мемуары, але ён не спяшаўся. Зрэшты, прычыну адмовы кожнага разу называў адну і тую ж: найбліжэйшыя яго сябры Васіль Быкаў і Валянцін Болтач (і не толькі яны), напісаўшы ўспаміны, у хуткім часе пайшлі з гэтага свету. У гэтым Генадзь Мікалаевіч бачыў бясспрэчную заканамернасць і наканавасць. Некалі так і сказаў мне: ён хоча завяршыць працу над новай паэтычнай кнігай «Лісты да запатрабавання», якую бачыў тады апошняй сваёй кнігай паэзіі, а пасля, спадзяваўся, Бог падорыць яму яшчэ гадоў пяць, каб паспець напісаць успаміны. Адкладаючы не адзін год гэтую працу, ён, мусіць, хацеў абыграць лёс. І гэта яму сапраўды ледзь не ўдалося: «Лісты да запатрабавання» выйшлі ў 2010-м, у запасе ў Генадзя Мікалаевіча заставалася яшчэ амаль чатыры гады. Аднак праблема была ў тым, што за мемуары Бураўкін так і не ўзяўся. Адзінае выключэнне – у кастрычніку-лістападзе 2012 года ў эфіры радыё «Рацыя» прагучаў вялікі цыкл яго аўтабіяграфічных аповедаў.

Такім чынам, з інтэрв'ю было зразумела, але з кнігай апошніх вершаў чаму менавіта да мяне? Я знаходзіў толькі адзін адказ: на пачатку красавіка я быў у яго дома з кнігай «У неба пехатою» Рыгора Барадуліна, якую мы паспелі выдаць да саракавін па дзядзьку Рыгору. Гэта стала магчымым найперш дзякуючы падтрымцы бізнесоўца і мецэната Паўла Бераговіча, а таксама пры дапамозе Глеба Лабадзенкі і выдавецтва «МЕДЫЯЛ» у асобе Ігара Віркоўскага. Бураўкін быў знаёмы з Бераговічам, і калі праз пару дзён я сказаў, што Павел гатовы ўсяляк садзейнічаць выданню яго кнігі, Генадзь Мікалаевіч быў расчулены і, як падалося, крыху супакоіўся – значыцца, кніга сапраўды будзе.

Дарэчы, яшчэ пра тую красавіцкую сустрэчу. Я быў у Бураўкіна за месяц да таго, ён быў вельмі слабы, з ложка не падымаўся. І вось цяпер, у красавіку, відавочна пайшоў на папраўку, і, мусіць, таму ўвесь час быў у добрым настроі, жартаваў па сваёй заўсёднай звычцы, і доўга не адпускаў, і хай і з «хадункамі», але нават да парога праводзіў, і ўсё гаварыў, гаварыў... А пасур'ёзнеў толькі аднойчы – калі я запытаўся пра планы на будучыню. Генадзь Мікалаевіч казаў, што трэба дажыць да жніўня (28 жніўня – яго дзень нараджэння), а там, дадаў, пабачым. Але ўжо праз некалькі дзён стан яго здароўя раптоўна пагоршыўся, і ён зноў апынуўся ў рэанімацыі. Аднак Бог, мусіць, злітаваўся над ім і даў яшчэ крыху часу, каб паспець уладкаваць апошнія зямныя справы. І дапамагчы ў тым Генадзь Мікалаевіч нечакана паклікаў мяне...

*17 мая.* Пасля чатырох быў у Бураўкіна. Ён не меў сіл не тое, што садзіцца, – нават падымацца з ложка. Голас дужа слабы, не ранейшы, бураўкінскі. Генадзь

Мікалаевіч амаль непазнавальна змяніўся. Часам мне здавалася, што ён зрабіўся падобны да Васіля Быкава ў апошнія яго дні. Нярэдка я нават не мог пазбавіцца ад адчування, што нібыта гэта Быкаў і ёсць...

Генадзь Мікалаевіч сказаў, што ў яго некалькі просьбаў да мяне. «Там, у другой шуфлядзе, злева мае дзённікі. Дазваляю табе падрыхтаваць іх і надрукаваць праз пяць гадоў, як...» – тут ён асёкся і не сказаў, праз пяць гадоў *пасля чаго*. Пра тыя дзённікі нават Юлія Якаўлеўна нічога не ведала.

Другая просьба: «На стале ўверсе ляжыць рукапіс цэлай кнігі новых недрукаваных вершаў. Гэта самае важнае і дарагое для мяне – вось гэтая кніжка. Калі яна будзе выдадзена, прычым выдадзена як мага хутчэй, астатняе, даруй, мне не так важна». Я прапанаваў падключыць да гэтай справы Уладзіміра Някляева, на гэта Генадзь Мікалаевіч заўважыў: «Я прасіў Валодзю – ён гатоў быць складальнікам і рэдактарам. Але я ведаю Валодзю і ведаю, як кажуць, рэальнасць і таму спадзяюся на цябе».

Што тычыцца вершаў, дык яны былі не ў адным, а ў двух сшытках. Уверсе кожнага пазначаны даты: «IX.2009 – X.2011 г.», «X.2011 г. –». Другі сшытак быў спісаны толькі напалову. Не самы разборлівы почырк, да таго ж вершы напісаны алоўкам. (Пазней ужо высветлілася, што хоць Генадзь Мікалаевіч і казаў, што вершы не друкаваліся, мусіць, проста забыўся, бо ў сапраўднасці яны часткова з'яўляліся на старонках «Дзеяслова» і ў «Літаратурнай Беларусі», дадатку да газеты «Новы час»; вершы за 2009 год увайшлі ў кнігу «Лісты да запатрабавання».)

Потым Генадзь Мікалаевіч папрасіў прабачэння: «Даруй, што я ў такім стане...» Я сказаў: «Усе перадаюць з вуснаў у вусны: што Бураўкін? як Бураўкін? Цяжка ад таго, што вы, Генадзь Мікалаевіч, тут, побач, але да вас не патрапіш. Ці можна будзе неяк завітаць да вас разам з Міхасём Скоблам ды Глебам Лабадзенкам? Яны таксама дужа хацелі ўбачыць вас». Бураўкін у адказ: «Вас траіх я люблю і буду рады бачыць, хоць, канечне, такога, як кажуць, сумоўя, як хацелася б, наўрад ці атрымаецца... Прыходзьце з хлопцамі на наступным тыдні, не адцягвайце».

Трэцяя просьба была таксама нечаканай – Генадзь Мікалаевіч прасіў прыходзіць штодня, каб мы гутарылі пад запіс, дадаў: «Я табе даю права ў любы час прыходзіць і задаваць любыя пытанні». Дыктафон быў у мяне з сабой, і мы адразу распачалі гутарку – падаю яе тут практычна без змен. Безумоўна, быў бы жывы Генадзь Мікалаевіч, ён многае паправіў бы па стылі, бо заўсёды дужа ўважліва і адказна ставіўся да сваіх публікацый. Дый я таксама, каб рабіў гутарку пры жыцці Бураўкіна, нешта паправіў бы, нешта падкараціў бы, але каштоўнасць нашых апошніх гутарак, як падаецца, найперш у іх стэнаграфічнасці.

*Сяргей Шапран:* Генадзь Мікалаевіч, ці магу найперш запытацца пра Рыгора Барадуліна?

*Генадзь Бураўкін:* Гэты боль яшчэ вельмі блізкі.

*С. Ш.:* Не палічыце, калі ласка, за нахабства, але, можа, усё ж не адкладваць? Вы ж разумееце, што гэты боль будзе яшчэ доўга.

*Г. Б.:* Канечне.

Генадзь Мікалаевіч не пярэчыў, таму я запытаўся пра аднаго з найбліжэйшых яго сяброў, поплеч з якім ён так ці інакш быў ледзь не ўсё сваё жыццё. Гэта было тым больш важна, што калі наведаў Бураўкіна яшчэ ў сярэдзіне сакавіка, паведаміў яму тады пра жаданне падрыхтаваць кнігу ўспамінаў пра Барадуліна. Генадзь Мікалаевіч: «Рабі, і як мага хутчэй, бо пасля ніхто гэтага не зробіць». І дадаў праз паўзу: «І я не ўяўляю гэтай кнігі без мяне. Я вось папраўлюся і ці нешта напішу, ці пагляджу старое і нешта дадам...» Зрэшты, пра яго станоўчае стаўленне да маёй задумы я ўжо ведаў ад Уладзіміра Някляева, які быў у Бураўкіна праз

тры дні пасля смерці Барадуліна і тады ж напісаў мне: «Я сказаў яму пра твой намер неадкладна зрабіць кнігу ўспамінаў пра Барадуліна. Ён цябе пахваліў і на працу благаславіў».



*Генадзь БУРАЎКІН.*

*С. Ш.:* Дзядзька Рыгор гаварыў, што як толькі вы пазнаёміліся, ён адразу вылучыў вас – для яго вы ад самага пачатку сталі сваім. Генадзь Мікалаевіч, ці памятаеце, калі ўпершыню ўбачылі Барадуліна?

*Г. Б.:* Упершыню Барадуліна я ўбачыў на першым курсе.

*С. Ш.:* На першым вашым курсе?

*Г. Б.:* Нашым.

*С. Ш.:* Хіба вы разам вучыліся?

*Г. Б.:* Канечне. Мы вучыліся на адным курсе, толькі былі розныя аддзяленні: у мяне адзяленне журналістыкі філфака, а ў Рыгора аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філфака. Мы і жылі ў адным інтэрнаце разам, праўда, не ў адным пакоі. А калі я ўпершыню ўбачыў Рыгора, дакладна, канечне, не магу сказаць, але помню, што гэта было на першым курсе, прытым у самым пачатку. Я адразу звярнуў увагу на вяртлявага, вельмі актыўнага хлопца. А чаму? Ну, таму, што ён быў такі вось вельмі актыўны, і проста таму, што на філфаку было мала хлопцаў...

Я ж пазнаёміў яго і з Валяй, з Валянцінай Міхайлаўнай. Гэта было на балі першакурснікаў у Оперным тэатры. Тады кожны год рабілі баль першакурснікаў. І мы з Рыгорам былі там, канечне, больш-менш прыкметныя людзі, бо чыталі свае вершы... І вось аб'явілі белы вальс, і да нас падбеглі дзяўчаткі, адна з іх запрасіла мяне. А я, па-першае, не ўмеў танцаваць, а па-другое, падышла тая, з якой я не хацеў танцаваць, і хуценька перадаў яе Рыгору, сказаў: «Рыгор – найлепшы танцор! Вось, калі ласка, з ім». А ён сапраўды такі быў... Словам, я ўцёк. Уцёк яшчэ таму, што ўжо тады мы сябравалі з Юляй, і я вачмі шукаў, дзе ж Юля...

Так мы адзін аднаго і ўведалі. А далей было літаратурнае аб'яднанне пры «Чырвонай змене», куды хадзілі і я, і Рыгор, і дзе чыталі свае першыя няўмелыя вершы, спрачаліся, думалі...

*С. Ш.:* Дзядзька Рыгор, калі гаварыў пра студэнцкія часы, кожнага разу прыгадваў радыёпраграму «На калючай хвалі», калі вы разам напісалі песню пра піжона, пасля чаго пачалі прыходзіць заяўкі з просьбамі паўтарыць песню, што было дзіўна, бо вы крытыкавалі піжонаў, а тут адваротны эфект атрымаўся.

*Г. Б.:* Ты разумееш, калі супрацоўнічалі на «Калючай хвалі», там усякае было – і сур'ёзнае, і несур'ёзнае... Пачакай, я трошкі стаміўся...

Бураўкін сапраўды перыядычна стамляўся, да таго ж часта прасіў вады...

*С. Ш.:* Генадзь Мікалаевіч, а ці ёсць людзі, якія не расчаравалі на працягу ўсяго жыцця?

*Г. Б.:* Ёсць... Васіль Быкаў... Пімен Панчанка... Гаўрыла Вашчанка...

*С. Ш.:* А Барадулін?

*Г. Б.:* Барадулін мяне не расчароўваў, але былі моманты няпростасцей ва ўзаемаадносінах. Мы то збліжаліся, то аддаляліся, аднак ніякай варожасці і непаразумення ніколі не было.

*С. Ш.:* Ведаеце, нехта добра сказаў: палюбіце нас чорненькімі, а беленькімі нас кожны палюбіць.

*Г. Б. (усміхнуўшыся):* Так.

*С. Ш.:* Тым больш, што характар у дзядзькі Рыгора быў...

*Г. Б.:* Няпросты.

*С. Ш.:* А што скажаце, Генадзь Мікалаевіч: неяк я запытаўся ў Някляева, ці ўмеў Барадулін сябраваць, і Уладзімір Пракопавіч адказаў: «З гадамі навучыўся».

*Г. Б.:* Згодзен.

*С. Ш.:* У апошнія гады ён стаў, па-мойму, амаль бездакорны не толькі ў паводзінах, але і ў стаўленні да іншых. Мяне толькі засмучала, што дзядзька Рыгор не надта добра прыгадваў, прычым пры любой нагодзе, Ніла Гілевіча, а так рэдка калі пра каго кепска гаварыў.

*Г. Б.:* Так.

*С. Ш.:* Ён стаў...

*Г. Б.:* Ён стаў як бахматы чмель. Ён стаў мудры.

*С. Ш.:* А ў маладосці складана было з ім сябраваць?

*Г. Б.:* Няпроста, таму што з яго вылазіў, з усіх, як кажуць, дзірак вылазіў характар – характар востры, характар вось такі...

*С. Ш.:* Задзірысты.

*Г. Б.:* Задзірысты, так. І не кожны гэта разумеў. Таму з ім было няпроста. Але мы з ім сябравалі.

*С. Ш.:* А чаму ён піў у маладосці?

*Г. Б.:* А вось гэтага я не знаю.

*С. Ш.:* Можа, з той жа прычыны, з якой піў Анатоль Сыс?

*Г. Б.:* Так-так.

*С. Ш.:* Вы яшчэ неяк расказвалі мне, што калі былі разам у Акуліны Андрэеўны перад самым яе сыходам, дык яна папрасіла, каб вы наглядалі за яе сынам, не пакідалі аднаго.

*Г. Б.:* Так, было такое, а чаму – не знаю.



*Рыгор БАРАДУЛІН і Генадзь БУРАЎКІН.*

І зноў мы зрабілі перапынак. Пасля Бураўкін нечакана загаварыў пра кнігу ўспамінаў «Наш Быкаў»,

якую ён падрыхтаваў у першы пасля сыходу Васіля Уладзіміравіча год. Гэтай кнігай некаторыя яго тады папікалі – маўляў, паспяшаўся, нават надмагіллі ставяць не раней, чым праз год пасля смерці!.. Але я перакананы, што Бураўкін зрабіў вялікую справу, бо кніга атрымалася цікавая і змястоўная. Калі б Генадзь Мікалаевіч не ўзяўся тады за гэтую працу, мы сёння не мелі б многіх каштоўных сведчанняў пра творчы і жыццёвы лёс Васіля Быкава. Дый сам Бураўкін казаў мне ўжо цяпер, што спадзяваўся, што «Наш Быкаў» станецца першым зборнікам успамінаў пра Васіля Уладзіміравіча – пасля будуць іншыя кнігі. Але ніхто нічога падобнага больш не зрабіў.

*Г. Б.:* Хоць многія мне тады раілі: «Пачакай, яшчэ болей часу пройдзе – будзе болей успамінаў», але я настояў і не стаў адкладаць. І хвалю сябе за тое, што не спыніўся і зрабіў гэтую кнігу. Хоць некаторых успамінаў, якія павінны былі быць, там няма.

*С. Ш.:* Вы расказвалі, што няма ўспамінаў Грыгорыя Бакланава, да якога вы звярталіся, няма ўспамінаў і Ніла Гілевіча, які абяцаў напісаць...

*Г. Б.:* Так-так.

*С. Ш.:* Да таго ж няма ўспамінаў Чынгіза Айтматава, якому вы тэлефанавалі з гэтай нагоды ў Брусэль.

*Г. Б.:* Так, Бакланаў, Айтматаў, Гілевіч – мне і цяпер не ясна, чаму яны не захацелі.

*С. Ш.:* Станіслаў Шушкевіч, дарэчы.

*Г. Б.:* І Ірына Міхайлаўна...

Прыгадаўшы жонку Васіля Уладзіміравіча Ірыну Міхайлаўну, Генадзь Мікалаевіч замаўчаў. Трэба сказаць, што гадзінай раней я, прабачаючыся, нагадаў, што некалі прасіў яго пра рэкамендацыю для майго ўступлення ў Саюз беларускіх пісьменнікаў. Размова пра гэта заходзіла ў мінулым годзе неаднойчы, але Генадзь Мікалаевіч кожнага разу гаварыў, што напіша, як толькі гэта будзе трэба. І вось сёння я сказаў, што, хоць у мяне ёсць рэкамендацыі Рыгора Барадуліна і Уладзіміра Някляева, уступаць у СБП не буду, бо няма рэкамендацыі Бураўкіна, – некалі звярнуўшыся да яго, не стану цяпер мяняць яго на каго іншага. Генадзь Мікалаевіч відавочна разгубіўся: «А што, я табе не напісаў?.. Не можа быць... Божа мой, я лічыў, што мы даўно з табой... Ну, зробім...» І вось пакуль мы гаварылі, ён, мусіць, адначасова думаў пра тую рэкамендацыю. І хоць я прапаноўваў напісаць не болей, чым проста «рэкамендую», Бураўкін трымаўся іншай думкі, і цяпер папрасіў Юлію Якаўлеўну запісаць такі тэкст:

«Апошнія гады ў літаратурным жыцці Беларусі стала ўсё больш яркай асоба Сяргея Шапрана. Яго намаганні ў выданні шматтомнага выдання Васіля Быкава, яго шматлікія публікацыі з літаратурных архіваў, яго вялікія і маленькія адкрыцці зрабілі яго працу цікавай і важнай. Кожная яго публікацыя чытаецца з захапленнем, прыносіць нешта новае ў гісторыю нашай айчыннай літаратуры. Прытым усё гэта зроблена на добрым мастацкім узроўні, дасведчана і арыгінальна. Можна смела сказаць, што яго публікацыі чакаюць, што за імі ўважліва сочаць. Без іх наш літаратурны працэс быў бы куды бяднейшы.

З удзячнасцю, з надзеяй і верай вітаю ў нашым прафесіянальным саюзе актыўнага, баявога, арыгінальнага калегу».

Гаварыў гэта Генадзь Мікалаевіч так, нібыта тэкст быў перад яго вачыма. Потым папрасіў Юлію Якаўлеўну паглядзець нумар яго сяброўскага білета. Нумар быў 78-ы.

*С. Ш.:* Гэта так мала вас тады было? А цяпер у мяне будзе, мусіць, які-небудзь тысячны нумар.

*Г. Б.:* А цяпер да храна.

*С. Ш.:* І хто з іх пісьменнікі, Генадзь Мікалаевіч?

*Г. Б.:* Вельмі мала.

*С. Ш.:* І хто застанецца ў літаратуры?

*Г. Б.:* А гэта амаль ніхто. Акрамя такіх, як Распуцін, Астаф'еў...

*С. Ш.:* А з беларускіх хто?

*Г. Б.:* Ну, з нашых застанецца, канечне, Быкаў. Застанецца, канечне, Караткевіч. Застанецца, канечне, Барадулін. Застанецца, канечне, Стральцоў. Застанецца, канечне, Адамчык...

*С. Ш.:* І Адамчык таксама?

*Г. Б.:* Так.

*Юлія Бураўкіна:* Віктар Казько.

*Г. Б.:* Казько застанецца, так.

*С. Ш.:* А Някляеў?

*Г. Б.:* Думаю, так. Думаю, абавязкова.

І зноў мы зрабілі паўзу, падчас якой Юлія Якаўлеўна распавяла, што нядаўна Генадзь Мікалаевіч сасніў сон, у якім наяве бачыў Уладзіміра Дубоўку. Той сон ён пасля пераказваў у дэталях. Прычым, як казаў цяпер, з Дубоўкам ён «і спрачаўся, і пагаджаўся», але падрабязнасцей той «размовы» на гэты раз не здолеў прыгадаць.

Нечакана я звярнуў увагу на кнігу «Я иду!» Ігара Шклярэўскага, якая стаяла навідавоку ў кніжнай шафе. «Я іду!» – гэта, па-мойму, дакладны лейтматыў настрою ледзь не кожнага, хто робіць першыя крокі ў літаратуры...

*С. Ш.:* Ніколі не бачыў гэтую кнігу Ігара Шклярэўскага, толькі яшчэ ў школе чытаў пра яе. Гэта ж першая яго кніга...

*Г. Б.:* Між іншым, «Я иду!» – гэта назва аднаго майго верша.

*С. Ш.:* А калі вы толькі ўваходзілі ў літаратуру, ці было ў вас менавіта такое адчуванне – я іду – і каб яшчэ з клічнікам?

*Г. Б.:* Ну, нешта падобнае, дужа смелае было... Было-было...

*С. Ш.:* Калі, паступіўшы ў БДУ, я прыехаў у Мінск, дык у мяне было няўцямнае адчуванне, што нешта павінен буду тут зрабіць, хоць і не ведаў дакладна, менавіта што. Вы, Генадзь Мікалаевіч, з такім жа адчуваннем ехалі ў Мінск?

*Г. Б.:* Прыкладна.

*С. Ш.:* Працуючы ў архівах над кнігай пра Васіля Быкава, знайшоў у тым ліку і вашы лісты ў рэдакцыю часопіса «Маладосць» і адказы літкансультантаў. Ішоў 1953 год, вы былі яшчэ школьнікам. Дасюль не магу забыцца пра адказ вам Міколы Аўрамчыка: «А пішаце вы непісьменна і ў дадатак да гэтага не ведаеце самой тэхнікі вершаскладання». Сёння гэта вельмі падобна на гістарычны анекдот, але ці помніце вы, Генадзь Мікалаевіч, гэтае ліставанне з літкансультантамі «Маладосці»?

*Г. Б.:* Не ў дэталях, але помню.

*С. Ш.:* Але, увогуле, гэта ж даволі небяспечна, бо вельмі лёгка паставіць крыж на чалавеку.

*Г. Б.:* Канечне.

*С. Ш.:* Вы, мабыць, дужа тады перажывалі?

*Г. Б.:* Ну, канечне!

На гэтым наша размова завяршылася. «Ну, што, Сярожа... На сёння мы з табой закончым», – сказаў Генадзь Мікалаевіч.

Увечары я коратка напісаў пра ўсё Уладзіміру Някляеву, тым больш што Бураўкін неаднойчы пытаўся: дзе Някляеў? што Някляеў? Уладзімір Пракопавіч

адказаў: «Я на Украіне. Перад ад’ездам заходзіў да яго ў рэанімацыю, сказаў, куды еду, што да 25 траўня мяне не будзе. Пэўна, ён забыўся.

І пра тое, каб ён з табой пачаў запісваць успаміны пра Быкава, сказаў. Ён адгаворваўся: “Слабы”. Але я настойліва паўтараў і паўтараў: “Ты павінен. Ты абяцаў”. Урэшце ён згадзіўся.

Жаданне выдаць апошнія вершы зразумелае...»

*18 мая.* Каля чатырох гадзін дня быў у Бураўкіна. Ён сустрэў разгублена-нецярплівым пытаннем: «Чаму ты так доўга ішоў?» Відаць, не мог дачакацца майго прыходу, хоць я папярэдзіў Юлію Якаўлеўну, што буду не раней за чатыры.

Калі запытаўся пра яго здароўе, Генадзь Мікалаевіч жартам адказаў: «Дзякуй. Хрэнова». Пачуццё гумару не пакідала яго нават у гэтыя дні. Адзначыўшы гэта цяпер, я прыгадаў адну гісторыю. Калі ў 2011 годзе за быкаўскі двухтомнік мне ўручалі ў ПЭН-цэнтры літаратурную прэмію імя Алеся Адамовіча, Бураўкін таксама прыйшоў павіншаваць, прыйшоў з чырвонай ружачкай. Шчыра кажучы, я не сумняваўся, што ружа – для лаўрэата, але Генадзь Мікалаевіч, сказаўшы цёплае слова пра маю жонку Наталлю, без якой, як ён адзначыў, кнігі пра Быкава не было б, Наташы тую ружачку і падараваў. Некалі я ўжо прыгадваў Генадзю Мікалаевічу гэтую гісторыю, і вось цяпер паўтарыў: «Я ж думаў, Генадзь Мікалаевіч, што гэта мне ружачка...» – Бураўкін умомант адрэагаваў: «Шыш!» – весела, нават гулліва казаў ён, жартам паказаўшы дуліну... Гэта быў ранейшы Генадзь Мікалаевіч, той, якога я ведаў і якога любіў...

Сёння з раніцы ён спрабаваў падпісаць свой «кнігазбораўскі» том для маіх сяброў, але не здолеў – ён ужо практычна не ў стане быў трымаць асадку ў руках. Праўда, калі прыйшоў, Генадзь Мікалаевіч і Юлія Якаўлеўна былі ў добрым, нават радасным настроі. Прычына гэтага была надзвычай простая: пасля некалькіх няўдалых спроб Генадзь Мікалаевіч усё ж здолеў падпісаць мне рэкамендацыю і цяпер быў шчыра ўсцешаны тым...

*С. Ш.:* Генадзь Мікалаевіч, ці магу задаваць пытанні?

*Г. Б.:* Давай-давай... Прычым чым больш ты задасі пытанняў у найбліжэйшы час, тым больш у цябе гарантыі, што будзеш мець адказ.

*С. Ш.:* Генадзь Мікалаевіч, гэта ж нечакана з вамі здарылася, – гэтая хвароба?

*Г. Б.:* Абсалютна.

*С. Ш.:* Памятаю, мы гаварылі з вамі на самым пачатку студзеня (на наступны дзень вы леглі ў бальніцу), і ўжо тады адчувалася ў вашай інтанацыі разгубленасць. Аднак, мусіць, ніхто, і вы ў тым ліку, не чакаў, што хвароба пачне развівацца так хутка.

*Г. Б.:* Гэта абсалютна нечакана.

*С. Ш.:* Генадзь Мікалаевіч, прабачце, але, можа, буду нязручныя пытанні задаваць.

*Г. Б.:* Я разумею. Я табе дазваляю.

*С. Ш.:* Пра што вы думаеце ў гэтыя, мабыць, самыя цяжкія для вас месяцы?

*Г. Б.:* У гэтыя месяцы я думаю, калі гаварыць агульнымі словамі, пра жыццё. А калі казаць канкрэтней, дык думаю: вось што такое жыццё, ужо пражытае? Разумееш, пакуль жыццё не пражытае, зусім іначай думаеш і пра яго, і пра магчымасці, і пра нейкія рэчы, якія хацеў бы зрабіць. А вось калі яно ўжо практычна пражыта, зусім іначай думаеш. І я не знаю нават, дзе тут больш справядлівы пункт гледжання. Вось цяпер... Дай мне глыток вады...

Першае, пра што думаецца, гэта гонар за сваё пакаленне. Гонар за тое, што мы рабілі для Беларушчыны, што мы рабілі для беларускай літаратуры. Гэта ж, божа мой, і Васіль Быкаў, і Уладзімір Караткевіч, і Міхась Стральцоў, і Рыгор

Барадулін. І ўсё гэта адбывалася, як кажуць, на маіх вачах, а часам, можа, і з маім нейкім удзелам. І, канечне, я ганаруся гэтым. Хоць ёсць адно горкае адчуванне, што я мог бы зрабіць больш і цікавей. Справа ў тым, што ўвесь час я адкладваў – трохі пазней, трохі пазней, вось пачакаем... А бачыш, як атрымліваецца ў жыцці: прыходзіць час, калі ўжо няма чаго чакаць, калі няма ўжо куды адкладваць...

*С. Ш.:* Вы сказалі, што зрабілі б цікавей – вы кажаце пра сваю паэзію?

*Г. Б.:* Так, перш за ўсё, перш за ўсё.

*С. Ш.:* Вы пра гэта найбольш шкадуеце цяпер?

*Г. Б.:* І пра гэта.

*С. Ш.:* Пра што яшчэ?

*Г. Б.:* А яшчэ пра тое, што ў свой час я, можа быць, быў не надта актыўны і не надта адкрыты.

*С. Ш.:* Актыўны ў чым?

*Г. Б.:* У жыцці, у рэагаванні на падзеі жыцця. Актыўны ў рэакцыях на тое, што адбывалася.

*С. Ш.:* Вы сказалі «не надта адкрыты», але ў чым не надта адкрыты? Перад кім?

*Г. Б.:* Ну, што такое літаратура? Гэта суразмоўца з усім светам. Субяседнік, ва ўсялякім разе, з вельмі вялікай колькасцю людзей. Вось я так сабе ўяўляю. І, можа быць, гэта залішне смела, але я так сабе ўяўляю і сваю пазіцыю, і свае магчымасці.

*С. Ш.:* Але пра што яшчэ шкадуеце?

*Г. Б.:* Ну, шкадаванні... Я казаў табе, што мала напісаў...

*С. Ш.:* Генадзь Мікалаевіч, а вам шкада, што вы столькі высілкаў і часу аддалі дзяржаўнай і грамадскай працы?

*Г. Б.:* Ты знаеш, і шкада, і не. Шкада, канечне, бо – я ўжо некалі, па-мойму, гаварыў, – што мая работа на Дзяржтэлерадыё скрала ў мяне, як мінімум, тры зборнікі вершаў... Канечне, шкада. А ў той жа час як падумаю: я ж тое-сёе зрабіў, што іншыя не зрабілі б, калі б там былі, на гэтай пасадзе...

*С. Ш.:* Можа, нават не падумалі б зрабіць.

*Г. Б.:* Можа, нават і не падумалі б, так. Таму не проста адказаць... І шкада, і не.

*С. Ш.:* Між тым, Рыгор Барадулін, кажучы пра вас незадоўга да свайго сыходу, найперш прыгадваў тое, што вы зрабілі для Беларусі, у тым ліку на пасадзе старшыні Дзяржтэлерадыё. Ён са скрухай гаварыў, што сённяшнія чыноўнікі гэтага не памятаюць, але, казаў, затое памятае гэта Беларусь.

*Г. Б.:* Дай Бог... Дай Бог, каб так было. Баюся, што ў нечым усё гэта забываецца, вытаптваецца. Так што, дай Бог, каб так было.

*С. Ш.:* Генадзь Мікалаевіч, што тычыцца кніг паэзіі, якія ў вас скрала, па вашых словах, гэтая пасада, – як гэта адбывалася: вершы да вас прыходзілі, але не было часу сесці ды запісаць іх?

*Г. Б.:* Так-так-так... Ты вось калі будзеш разбіраць мае завалы папер, дык убачыш, колькі там, як той казаў, зярнят, з якіх нешта магло быць. Магло быць і не адбылося. І я ж кажу, што, канечне, шкадую, шкадую... Дай мне вады...

*С. Ш.:* Але якія вашы вершы самыя дарагія для вас?

*Г. Б.:* Для мяне самыя дарагія вершы апошняга, як кажуць, жураўлінага часу. Але чаго яны мне самыя дарагія? – там мой настрой. Таму і «Жураўліная пара» – гэта дарагая для мяне кніжка.

*С. Ш.:* Мусіць, і «Лісты да запатрабавання»?

*Г. Б.:* Так, але «Лісты да запатрабавання» – больш роздумная, спакойная кніга, а «Жураўліная пара» дарагая тым, што там настрой, які быў са мной у тыя дні, у тую пару.

*С. Ш.:* Між іншым, вельмі ўдалыя назвы – «Жураўліная пара» і асабліва «Лісты да запатрабавання» – вы нібыта пісалі лісты ў вечнасць з думкай, што, можа, калі-небудзь, калі вас ужо не будзе, яны некаму й спатрэбяцца.



*Ва ўніверсітэцкім скверыку. Стаяць (злева направа): Рыгор Барадулін, Анатоль Клышка, Васіль Зуёнак, Анатоль Вярцінскі, Генадзь Бураўкін. Сядзяць: Юрась Свірка, Мікола Арочка, Кастусь Цвірка.*

*Г. Б.:* Ну, тут не ў вечнасць, бо ў вечнасць – гэта дужа высока і далёка. А гэта спадзяванні, што ў будучым унукі, сябры...

*С. Ш.:* Унукі сяброў.

*Г. Б.:* Так, я не супраць, калі яны звернуцца да маіх вершаў, якія сёння яны, можа, не заўважылі, прайшлі міма, але заўтра прыйдуць да іх. Вось такое спадзяванне ў мяне было.

*С. Ш.:* У гэтай сувязі прыгадваецца такі запіс Янкі Брыля: суседка, руская маладзіца, кажа: «Иван Антонович, миленький, выйду на пенсию – прочитаю все ваши произведения!» «А самой трыццаць, і здаровая, аж свіціцца, – усміхаўся Іван Антонавіч. – Што ж, пачакаем».

*Г. Б.:* Добра.

*С. Ш.:* Увогуле, калі ўзгадваеш Барадуліна, найперш прыгадваецца яго «Трэба дома бываць часцей...». А калі называеш вашае імя, першым чынам прыгадваецца «Калыханка»...

*Г. Б.:* Думаю, што так.

*С. Ш.:* Вас самога здзіўляе поспех «Калыханкі», якая невядома ўжо колькі пакаленняў выхавала? І, дарэчы, невядома, колькі яшчэ выхавае...

*Г. Б.:* Дай Бог.

*С. Ш.:* Яе ж спрабавалі замяніць на іншую калыханку, але – не ўдалося.

*Г. Б.:* Два разы спрабавалі. Не ўдалося... Сапраўды, адразу дзве песні ў сувязі з маім прозвішчам прыгадваюцца: гэта «Калыханка» і «Белы снег, белы снег, белы снег...». Я думаю, што для абодвух прыгадванняў ёсць свае прычыны. «Калыханка» вельмі хораша легла, як кажуць, для дзяцей. А «Белы снег» – гэта такая імпрэсія. Крытыкі і сябры гэтага не заўважалі і не заўважаюць, а ў мяне ж многа імпрэсій. Сярод іх добра паядналася з музыкай вось гэта – «Белы снег, белы снег, белы снег...». А раней з маім імем ядналіся лірычныя песні пра каханне.

*С. Ш.:* Генадзь Мікалаевіч, ніколі не гаварыў вам, дык хачу цяпер сказаць, што ваша паэзія дужа блізкая мне, шмат якія вашы вершы вельмі добра кладуцца на душу. Вось сёння раніцай адкрыў вашы «Лісты да запатрабавання» і адарвацца не мог...

*Г. Б.:* Дзякуй. Дзякуй, дружа Сярожа.

Тут Генадзь Мікалаевіч зноў загаварыў пра будучую кнігу: «Што я хачу сказаць, Сярожа: з гэтай кнігай трэба спяшацца. Таму я хачу сустрэцца са Скоблам – ён вялікі майстар у складанні, рэдагаванні кніг». І пасля дадаў: «Смешна апраўдваць ці тлумачыць кнігі прадмовамі. [Бураўкін загаварыў пра гэта, бо раней я прапаноўваў звярнуцца па прадмову да Уладзіміра Някляева. – *С. Ш.*] Гэтая кніга мне дарагая тым, што я свядома... я ведаў, што гэта мая апошняя кніга. Я гэта ведаў, гэта асаблютна было для мяне ясна. І таму я хацеў, каб яна была такой, якой была ў мяне ў душы. Вось як я зафіксаваў гэтую кнігу, як змог зафіксаваць, такой яна і павінна застацца».

*С. Ш.:* Генадзь Мікалаевіч, а ці ўяўляеце вы свайго чытача?

*Г. Б.:* Ну, трошкі ўяўляю па пісьмах, па водгуках. Гэта ў асноўным інтэлігент сярэдняга веку, прычым не абавязкова настаўнік – ёсць, скажам, і інжынеры. Але гэта, паўтаруся, інтэлігент сярэдняга веку.

*С. Ш.:* Можа быць, вы ўсё ж не зусім уяўляеце гэтага свайго чытача. Вы ўжо прабачце, калі ласка, за такую аналогію, але калі мы развітваліся з Рыгорам Барадуліным, дык прыйшлі не толькі, як вы кажаце, інтэлігенты сярэдняга веку, але і было шмат моладзі. Думаю, што і сам дзядзька Рыгор не ўяўляў, што ён быў дарагі, мусіць, найперш для моладзі.

*Г. Б.:* Дай Бог... Дай Бог.

*С. Ш.:* Ваша кніга «Лісты да запатрабавання» пачынаецца вершам «Што яно – жыццё? // Не першы раз // Я шукаю для сябе адказ. // А яго няма, няма, няма...» Вы і цяпер не можаце адказаць на гэтае пытанне?

*Г. Б.:* Ты знаеш, і магу, і не магу. Не магу, таму што гэта ўсё-ткі сапраўды загадка... Я быццам бы пражыў дастаткова многа, каб сказаць, што знаю, што такое жыццё... Гэта ўзаемаадносіны людзей, гэта ўзаемаадносіны падзей, гэта нейкае няспыннае кола... Вось бачыш, мне ўжо цяжка.

*С. Ш.:* Зараз вам цяжка?

*Г. Б.:* Так.

*С. Ш.:* Мо спынімся, Генадзь Мікалаевіч?

*Г. Б.:* Не-не-не. Мне цяжка, але будзе яшчэ цяжэй.

*С. Ш.:* Давайце ў такім выпадку гаварыць, пакуль вы яшчэ ў стане гаварыць.

*Г. Б.:* Так-так-так-так. Я яшчэ здольны. А ты пытайся.

*С. Ш.:* Я так разумею, што ў вас ёсць патрэба сказаць тое, што не паспелі напісаць...

*Г. Б.:* Ой, многа!

*С. Ш.:* Генадзь Мікалаевіч, дык, можа, вы самі скажыце, што хочацца сказаць?

*Г. Б.:* Ты пытайся, таму што сам я... Нават сухасць у роце перашкаджае мне.

*С. Ш.:* Даць вам вады?

*Г. Б.:* Дай...

На гэтым нашая размова нечакана завяршылася. Гаварылі мы, можа, толькі гадзіну. Між тым я быў у абсалютнай разгубленасці, бо пра што пытацца ў чалавека, які вось-вось пойдзе? Якія пытанні істотныя, а на якія не варта губляць часу? Бо сказаў жа не раз Генадзь Мікалаевіч: «Усё роўна не паспееш задаць усе пытанні...» Зрэшты, і адказваў не так, як усе гады раней, – коратка і сцісла. Ці ашчаджаў сілы, ці бярог час, які яшчэ застаўся. А мо ўжо не ставала сіл, як потым скажа, на нашае сумоўе.

Пра свае развагі я ўвечары напісаў Уладзіміру Някляеву, ён у адказ: «Не намагайся з пытаннямі, адказы на якія – як бы адказы на ўсё жыццё. Няма такіх адказаў. Пытайся пра тое, што цікава табе самому. І не думай пра тое, што перад табой чалавек, які адыходзіць».

*19 мая.* У дзве гадзіны быў у Бураўкіна. Юлія Якаўлена спрабавала ўгаварыць Генадзя Мікалаевіча паесці малочнага супу, але ён сказаў крыху раздражнёна: «Што ты мяне ўгаворваеш – я ж не маленькі...» (Праз пару дзён Юлія Якаўлеўна зварыла суп з тых сушаных грыбоў, якія я прынёс сёння. І хоць Генадзь Мікалаевіч дужа любіў грыбы, але сербануў, як сам казаў, толькі крыху і дадаў: «Я помню смак». У хуткім часе ён увогуле адмовіцца ад ежы. Прычыну гэтага сам пасля патлумачыць: «Ой, Сярожа, я сам хачу... Ты разумееш, гэта не прыхамасць – гэта хвароба».)

Сённяшнюю размову вырашыў пачаць з даўняй гісторыі, калі беларускія літаратары паўсталі на абарону Васіля Быкава: пасля таго, як пачалося шальмаванне ў друку аўтара «Мёртвым не баліць», маладыя паэты Генадзь Бураўкін і Анатоль Вярцінскі, напісаўшы ў ЦК КПБ ліст у абарону Быкава, сабралі пад ім 53 подпісы. Ішоў 1966 год. Гэта быў рэдкі, унікальны не толькі па тым, але і па сённяшнім часе ўчынак. Пра гэта мы з Бураўкіным не раз ужо раней гаварылі, але застаўся адзін складнік гэтай гісторыі, пра які я ніколі не пытаўся.

*С. Ш.:* Генадзь Мікалаевіч, вы тады з Анатолем Вярцінскім былі маладыя, як жа вы адважыліся на такі ліст? Няўжо не было страшна? Вы ж працавалі ў газеце «Правда»...

*Г. Б.:* Не, па-мойму, у «ЛіМе».

*С. Ш.:* Але ж вы разумелі, што рызыкуеце?

*Г. Б.:* Абсалютна... Абсалютна... Я табе скажу, што рызыка была абумоўлена маладосцю. І ў той жа час яна была выклікана разуменнем абавязку. Я разумеў – і, думаю, што Толя таксама, – што калі мы прапусцім і на гэты раз, дык іншым разам нас ужо і за людзей не палічаць. Таму мы і зрабілі гэта. Зрабілі свядома... Таму што тут сказаць?.. Ну, канечне, было страшнавата, бо я рызыкаваў далейшай перспектывай. Было ж зразумела, што гэта не спадабаецца, што гэта будзе мець адпаведныя вынікі, але ў мяне былі свае прынцыпы, якія былі для мяне важней. Тое ж, я думаю, было і з Толем Вярцінскім. Тое ж, думаю, было і з іншымі, хто падпісаў гэты ліст.

*С. Ш.:* Але ж былі і такія, хто адмовіўся падпісаць.

*Г. Б.:* Былі, былі... Дай мне «баржомі»... Такіх амаль не было. Чаму? – таму што з прапановай падпісаць мы падыходзілі да канкрэтных людзей. І мы ўжо ведалі, што гэты чалавек такіх вось настрояў, гэты – такіх, і прытым у адносінах да Васіля Быкава. Не проста дэмакратычных настрояў, а менавіта ў адносінах да Быкава. Таму нейкіх вялікіх адмоў не было. Здараліся некаторыя замінкі. Напрыклад, першы раз не падпісаў Навуменка – толькі з другога разу... Ой, дай вады, сушыць... Са старэйшых жа адмовіўся падпісаць Ільля Гурскі. Калі мы да яго падышлі з прапановай падпісаць, ён не толькі адмовіўся, але сказаў: «Ой, хлопчыкі, будзе вам за гэта! Партыя не любіць калектыўных лістоў. Таму падумайце». Вось гэта было. Гэта Ільля Данілавіч Гурскі, паважаны даволі пісьменнік. А так не было праблем, бо я ж кажу, што мы не абы да каго падыходзілі, большасць гэтых людзей мы добра ведалі.

*С. Ш.:* Вы ж толькі нядаўна даведаліся пра тое, што ў той час ішлі данясенні з КДБ СССР у ЦК КПСС у сувязі з лістом 53-х? Прычым у тых данясеннях фігуравала і ваша прозвішча.

*Г. Б.:* Абсалютна. Я гэтага не ведаў. Я ведаў, канечне, што гэта не падабалася, што гэта мела адмоўныя ацэнкі, але не думаў, што пытанне вырашалася на такім высокім узроўні – КДБ СССР, Палітбюро... А аказваецца, во як было.

*С. Ш.:* Генадзь Мікалаевіч, яшчэ адзін з годных вашых учынкаў – друкаванне ў часопісе «Маладосць», рэдактарам якога вы тады былі, кнігі «Я з вогненнай вёскі...».

*Г. Б.:* Так.

*С. Ш.:* Гэта ж таксама ўчынак з вашага боку, бо няпроста было ў той час апублікаваць такую кнігу.

*Г. Б.:* Так-так-так. Тут я магу сказаць вось што: гэтую кнігу прынеслі ў рэдакцыю Адамовіч і Брыль. Я адразу, канечне, як толькі прачытаў, ухапіўся, бо зразумеў, якая гэта рэдкая з'ява і якое гэта шчасце, што ў рэдакцыю трапіў такі рукапіс. Але ў гэтага рукапісу была свая гісторыя. Аказваецца, ён ужо быў у рэдакцыі «Полымя», дзе яго не проста не прынялі, а не прынялі па палітычных матывах. І тыя, хто мяне пра гэта папярэдзіў, відаць, думалі, што я спалохаюся і таксама, як кажуць, летану ў кусты. Ну, але мяне гэта не спалохала. Адзінае, што, канечне, дадало турбот. Дадало, дадало, бо прыдзіраліся да кожнай старонкі, прыдзіраліся да кожнага факта, да кожнага эпізода. І ўсё-ткі і я, і Адамчык, як намеснік, і іншыя ў рэдакцыі – мы былі перакананы, што кнігу трэба друкаваць. І хоць у ЦК з упартасцю змагаліся «супраць», мы з упартасцю змагаліся «за». І шукалі, канечне, аргументы, і ўсяляк рыхтаваліся да абароны. Словам, я таксама ганаруся, што мы надрукавалі гэтую кнігу.

*С. Ш.:* Якая стала вельмі прыкметнай з'явай у той час.

*Г. Б.:* Так-так-так.

*С. Ш.:* Яна ж пасля на шмат моў была перакладзена.

*Г. Б.:* Так-так-так.

*С. Ш.:* У сувязі з вашым рэдактарствам у «Маладосці» можна прыгадаць і тое, што вы друкавалі Быкава...

*Г. Б.:* Так.

*С. Ш.:* Таксама ж няпроста было?

*Г. Б.:* Ну, з Быкавым было якраз не самае складанае. Але, канечне, Быкаў ёсць Быкаў.

*С. Ш.:* Вы самі некалі расказвалі мне пра гісторыю публікацыі «Яго батальёна»: каб аповесць усё-ткі пабачыла свет, Васіль Уладзіміравіч вымушаны быў дапісаць у фінале аповесці «даведку з архіва»...

*Г. Б.:* Так.

*С. Ш.:* А вось яшчэ што тычыцца вашага старшынства ў Дзяржтэлерадыё: гэта ж Пётр Машэраў даў вам карт-бланш, каб беларускае тэлебачанне стала беларускім?

*Г. Б.:* У пэўным сэнсе.

*С. Ш.:* Але чаму ўсё гэта цяпер прыгадваю – Генадзь Мікалаевіч, што скажаце: трэба ўсё-ткі часам рызыкаваць?

*Г. Б.:* Так.

*С. Ш.:* А ці глыбока вы раздумвалі, робячы той ці іншы падобны ўчынак?

*Г. Б.:* Ты знаеш, не заўсёды. Часам было чыста імпульсіўнае рашэнне, а часам глыбіннае, як той казаў... Так, доля рызыкі, доля нейкай смеласці, бясспрэчна, была. Але была і негалосная абарона Машэрава. Усе ведалі, што Бураўкін – гэта чалавек Машэрава, і не надта кідаліся на мяне з прэтэнзіямі.

*С. Ш.:* Сёння вы, Генадзь Мікалаевіч, з якім пачуццём прыгадваеце Машэрава?

*Г. Б.:* Машэрава прыгадваю як цікавую гістарычную асобу, як чалавека складанага, але вельмі інтэлігентнага. І чалавека, скажам так, супярэчлівага, чалавека свайго часу, чалавека сваёй эпохі. І чалавека, з якім я хацеў бы сустракацца і гаварыць.

*С. Ш.:* Гэта не роўня сённяшнему кіраўніку?

*Г. Б.:* Што вы! Божачкі!

*С. Ш.:* І таму, відаць, невыпадкова быў перайменаваны адзін з цэнтральных праспектаў Мінска?

*Г. Б.:* Ну, тут я не магу нічога сказаць, бо я ў гэтым не ўдзельнічаў, са мной ніхто не раіўся, і ніхто ў мяне не пытаўся. Але тое, што праспект Машэрава быў галоўнай магістраллю, было, на мой погляд, абсалютна справядліва.

*С. Ш.:* Памятаеце пушкінскае «Они любить умеют только мёртвых»? Гэтыя і мёртвых не здольныя любіць.

*Г. Б.:* На жаль, так.

*С. Ш.:* Разам з тым не магу не ўзгадаць яшчэ дзве гісторыі, прычым адна падобная на другую. Гэта калі вам прапанавалі публічна адмовіцца ад сяброўства з Васілём Быкавым, і тады вы атрымаеце любую пасаду, якую толькі ні пажадаеце. Другая гісторыя – калі пасля прэзідэнцкай кампаніі 2010 года вам прапанавалі выступіць з публічным асуджэннем Уладзіміра Някляева, узамен вам абяцалі ўсе магчымыя даброты. І ў абодвух выпадках вы адмовіліся ад здраніцтва. На мой погляд, гэта таксама ўчынкі, якімі можна ганарыцца. Далёка не кожны зрабіў бы так на вашым месцы.

*Г. Б.:* А я ганаруся. Так, былі такія неафіцыйныя прапановы: выступі, асудзі Някляева – і будуць выходзіць твае кніжкі, і ты будзеш, як кажуць, у пашане. Я адмовіўся, таму што для мяне сяброўства, тым больш сяброўства з выдатным паэтам Някляевым, даражэй. Тым больш што Някляеў, на маю думку, гэта асоба ў нечым новая для беларускай літаратуры, для беларускай паэзіі. Відавочна, што гэта не толькі яркі самабытны паэт – гэта і грамадскі дзеяч з адкрыта выяўленай пазіцыяй, які рвецца ў бой і, на мой погляд, разумна і цікава абараняе свае пазіцыі, пазіцыі дэмакратычныя, пазіцыі нацыянальныя. Думаю, што па яркасці і па актыўнасці такога ў нас апошнім часам не было.

*С. Ш.:* А як паэт?

*Г. Б.:* Ну, паэт першакласны. Недарма Рыгор Барадулін, калі пачынаў гаворку пра сучасную паэзію, звычайна пачынаў з Някляева. Яго апошнія паэмы, вершы ягоныя – гэта проста цуд па майстэрстве, а, па-другое, яго паэзія – вельмі мудрая і разумная. Гэта сапраўдны паэт, сапраўдны, на гады.

*С. Ш.:* Мы аднойчы ўжо гаварылі з вамі, Генадзь Мікалаевіч, але не пад запіс – вы тады сказалі, што ў жанры паэмы Някляеву няма роўных у сучаснай беларускай літаратуры.

*Г. Б.:* Мне так здаецца.

*С. Ш.:* Аднак што тычыцца Някляева-палітыка: вы ж адзін час хацелі пераканаць яго, каб ён сышоў з палітыкі і засяродзіўся выключна на творчасці, каб не марнаваў час на палітычную дзейнасць.

*Г. Б.:* Ну, дарагі мой, я сапраўды спрабаваў гэта зрабіць у свой час – мне гэта не ўдалося. Але я давяраю Някляеву – раз ён зрабіў так, значыць, для гэтага былі вельмі важкія прычыны. А тое, што ён зрабіў, – гэта яго рашэнне, гэта яго лёс. Я веру яму. І таму прымаю яго рашэнне.

*С. Ш.:* Генадзь Мікалаевіч, а ці магу папрасіць вас сказаць колькі слоў асабіста Някляеву?

*Г. Б.:* Валодзя, з тваім тэмпераментам, з тваім талентам, з тваёй мужнасцю я чакаю ад цябе вельмі-вельмі многага. Дай Бог, каб ты ўсё гэта змог ажыццявіць. Я вельмі веру, што Бог даў табе доўгія гады, і ты паспееш рэалізаваць свой выдатны талент. Дай Бог, Валодзечка, каб ты спраўдзіў усё тое, на што спадзяюцца чытачы, сябры, урэшце ты сам. Шчасця табе, Валодзечка, і доўгіх гадоў жыцця.

*С. Ш.:* Раней мы ўзгадвалі кнігу «Я з вогненнай вёскі...», адным з аўтараў якой быў Алесь Адамовіч. Вы ж асабіста былі з ім знаёмы. Што гэта была за асоба, што за чалавек і пісьменнік?

*Г. Б.:* Асоба была выдатная, і пісьменнік быў выдатны. Справа ў тым, што Алесь, канечне, больш публіцыст, чым пісьменнік, але ўсё, што ён пісаў у свой час, гэта глыбока і вельмі сучасна. Бяда многіх чытачоў у тым, што яны не паслухаліся, не прыслухаліся да Адамовіча тады. А ён папярэджваў, ён вельмі настойліва папярэджваў... А пісьменнік, а пісьменнік ён быў, паўтаруся, больш публіцыстычны, але вельмі глыбокі па думцы і вельмі мудры па сутнасці сваёй. Думаю, яго творчасць яшчэ не даацэнена. Яна павінна быць прачытана, перачытана і ацэнена.

*С. Ш.:* І тут, мусіць, трэба выказаць вялікую падзяку ягонай дачцы Наталлі Аляксандраўне, бо гэта найперш дзякуючы яе намаганням выходзяць апошнім часам кнігі Адамовіча.

*Г. Б.:* Ну, гэта канечне.

*С. Ш.:* І ўвогуле трэба дзякаваць тым сваякам, намаганнямі якіх часам і выходзяць кнігі і такім чынам шмат у чым захоўваецца цікавасць да пэўных асоб.

*Г. Б.:* Гэта, канечне, сваякі Адамовіча і сваякі Быкава...

*С. Ш.:* Дарэчы, у звязку з імем Адамовіча прыгадваецца такі запіс з яго нататніка: «...А кто-то, возможно, будет смотреть на фотогр[афию] твоего времени или читать вот это... Ну, а вы? Вы как?.. Неужели вы всё ещё позволяете фюрерам дурачить вас?» Напісана гэта было ў 1989 годзе, а як прароча сёння гучыць.

*Г. Б.:* Я думаю, што і сёння гэтая фраза вельмі надзённая.

*С. Ш.:* Прычым з ёй можна звяртацца не толькі ў наш сённяшні час, але і ў будучыню таксама...

*Г. Б.:* Так-так.

*С. Ш.:* Бо на жаль, гісторыя без фюрэраў не абыходзіцца.

*Г. Б.:* Так. І фюрэры ўсё драбнеюць і падлеюць.

*С. Ш.:* Гэта вы хораша сказалі. Але, Генадзь Мікалаевіч, хацеў бы яшчэ вярнуцца да ўчорашняй размовы: вы гаварылі пра сваё здзіўленне тым, якім магутным аказалася ваша літаратурнае пакаленне. Але ці бачыце вы аналагічнае па сіле пакаленне, якое ішло б на змену вашаму?

*Г. Б.:* Такой сілы не бачу.

*С. Ш.:* Толькі адзінкі?

*Г. Б.:* Та-ак, адзінкі, а вось патоку не бачу. Можа, я дрэнна сачу за літаратурным працэсам, можа, я нечага не ведаю, але мне здаецца, што такога пакалення, як наша пакаленне 1960-х, на жаль, цяпер няма.

*С. Ш.:* Ці разважалі вы, чаму так адбываецца?

*Г. Б.:* Разважаў, але так і не прыйшоў да адной высновы... Тут і тое, што вайна была – гэта пакаленне ваеннае. Тут і тое, што былі ХХ з'езд і іншыя грамадскія патрасенні. Тут і тое, што якраз у тую пару проста сышліся таленавітыя людзі.

*С. Ш.:* Прабачце, калі ласка, за наіўнае пытанне, але, на вашу думку, такіх людзей пасылае лёс ці Бог?

*Г. Б. (пасля паўзы):* А што такое лёс і Бог у дадзеным выпадку?.. Бог пасылае, бо ў Яго ўладзе гэта зрабіць.

*С. Ш.:* Калі гаварыць пра адзінкі ў сённяшняй літаратуры, каго б вы найперш назвалі? Мусіць, першым трэба прыгадаць Някляева?

*Г. Б.:* Так.

*С. Ш.:* Ён апошнім часам проста як ледакол ідзе...

*Г. Б.:* Федарэнку назваў бы з празаікаў... Ты знаеш, галава мая цяжкая...

Тут мы зрабілі невялічкі перапынак, пасля якога прадоўжылі размову.

*С. Ш.:* Мабыць, недалікатнае пытанне, але, Генадзь Мікалаевіч, вы веруючы чалавек?

*Г. Б.:* Веруючы.

*С. Ш.:* Гэта праз усё жыццё?

*Г. Б.:* Этапамі – усвядомлена, этапамі несвядома, але ўсё жыццё.

*С. Ш.:* І зноў жа прашу прабачыць за наступнае пытанне, але верніку, мабыць, адыходзіць з гэтага свету, крыху лягчэй?

*Г. Б.:* Ты знаеш, адыходзіць з гэтага свету, я думаю, усім людзям няпроста і нялёгка. І чым лягчэй удаецца гэта зрабіць, тым больш чалавеку пашанцавала.

*С. Ш.:* Як, скажам, Барадуліну.

*Г. Б.:* Так. А так я веруючы. Я верую, што ёсць Бог, Вышэйшая сіла, Вышэйшая справядлівасць. А тое, што я не ўцаркоўлены, не хаджу ў царкву – ну, гэта вось такая форма маёй штодзённай веры ў Бога.

*С. Ш.:* Вы ж праваслаўны?

*Г. Б.:* Ну, у гэтым сэнсе так.

*С. Ш.:* А калі вас хрысцілі? Мусіць, у дзяцінстве?

*Г. Б.:* Мяне хрысцілі ў вайну.

*С. Ш.:* Вы помніце гэта?

*Г. Б.:* Канечне.

*С. Ш.:* Зараз можаце распавесці?

*Г. Б.:* Магу, але цяжка мне. Пачакай трошку, адпачну...

*20 мая*. Дзень пачаўся з ліста Паўла Бераговіча – ён напісаў, што ў выданні кнігі Бураўкіна можна цалкам разлічваць на яго. Пра што я найперш і сказаў сёння Генадзю Мікалаевічу, дадаў: «Цяпер можаце не сумнявацца – кніга будзе». – «Дзякуй, дзякуй», – адказаў ён. Было відавочна, што Бураўкін шчыра расчулены гэтай навіной, ён папрасіў: «Перадай яму дзякуй. Гэта для мяне радасць. Я проста шчаслівы, што і мяне таксама сваім мяккім крылом крануліся яго ўвага, яго дабрыня. Дзякуй, Павел, дарагі, дзякуй». І ўжо ў адказ на маё: «Спадзяюся, вы дачакаецеся гэтай кнігі» – «Хачу дачакацца. Спадзяюся, што дачакаюся».

Да таго ж, перш чым прадоўжыць гутарку, я вярнуўся да ўчорашняй размовы, калі загаварыў пра магчымасць прыняць прычасце. Генадзь Мікалаевіч сказаў цяпер: «Сярожа, у нас тут многа блізкага і ёсць, так сказаць, розніца. Справа ў тым, што ты надаеш вялікае значэнне гэтаму абраду, а я – не, хаця, я ж кажу, таксама веру ў Бога». І яшчэ раней: «Я ўжо так дажыву, як жыву».

*С. Ш.:* Давайце, Генадзь Мікалаевіч, паспрабуем крыху пагаварыць?

*Г. Б.:* Давай, але нядоўга.

*С. Ш.:* Гаворачы ўчора пра сучасную беларускую літаратуру, вы назвалі толькі два імя: Някляева і Федарэнкі. Але ж, мусіць, маглі б яшчэ некага вылучыць?

*Г. Б.:* Міхася Скоблу.

*С. Ш.:* Чым вам цікавы ён?

*Г. Б.:* Скобла, па-першае, майстар, па-другое, ён культурны, адукаваны і, як паэт, валодае даволі высокім майстэрствам. Што ж да іншых імёнаў, то апошнім часам я слаба ўжо сачыў і магу некага забыць.

*С. Ш.:* Але назаву яшчэ адно імя – Глеб Лабадзенка таксама, мусіць, прыкметная асоба?

*Г. Б.:* Так, Глеб Лабадзенка цікавая асоба. Я так сфармулюю дакладна: Глеб Лабадзенка – цікавая асоба. Асоба мне сімпатычная, асоба арыгінальная і асоба, на якую я ўскладаю надзеі. Пакуль што ён больш выступае, як арганізатар, і менш, як паэт, як творчая асоба.

*С. Ш.:* Але спадзяецеся, што яшчэ зробіць нешта і ў літаратуры?

*Г. Б.:* Канечне.

*С. Ш.:* З іншага боку, Генадзь Мікалаевіч, многія ж пачыналі з журналістыкі, у тым ліку і вы, і Быкаў, і Някляеў.

*Г. Б.:* Ва ўсіх гэта было.

*С. Ш.:* Калі казаць пра сучасную беларускую літаратуру, дык нельга не ўзгадаць яшчэ адно імя: Анатоль Сыс, якога многія яшчэ пры ягоным жыцці называлі геніяльным паэтам. Ці пагодзіцеся з гэтым?

*Г. Б.:* Было такое. Я скажу, што момантамі і мне так здавалася, але толькі момантамі. Тым больш, што ўсё засланялі яго скандалы, усе яго, як кажуць,

закідоны. А ў прынцыпе, не скажу, што ўсё, што чытаў у яго, мне здавалася геніяльным, але, паўтаруся, момантамі сапраўды гэта было геніяльна.

*С. Ш.:* Яшчэ хацеў запытацца пра іншае. Мусіць, у гэтыя цяжкія дні вы, Генадзь Мікалаевіч, думаеце і пра тое, што пакідаеце гэтую краіну зусім не такой, пра якую ўсе мы марылі і дасюль яшчэ марым?

*Г. Б.:* Я мару, імкнуся да беларускай Беларусі. Гэта пакуль што не адбылося.

*С. Ш.:* Але, на вашу думку, гэтая беларуская Беларусь некалі ўсё ж будзе?

*Г. Б.:* Хачу, каб была. Хачу. Але ты знаеш, вера гэтая слабая.

*С. Ш.:* А які лёс, на ваш погляд, чакае беларускую мову?

*Г. Б.:* Я ўсё болей разумею месца мовы ў жыцці народа і ў маім асабістым жыцці. Я ўсё болей разумею значэнне мовы для яднання народа. Канечне, я думаю пра мову і магу пацвердзіць у канцы свайго жыцця: калі не будзе мовы, дык не будзе беларускай нацыі, не будзе беларускага народа.

*С. Ш.:* Генадзь Мікалаевіч, магу яшчэ папрасіць вас сказаць нешта тым, хто застаецца?

*Г. Б.:* Да тых, хто застанецца, у мяне адна вялікая просьба: берагчы Беларусь, прадаўжаць тое, што зрабілі і не дарабілі яе сыны лепшыя. І спадзявацца, што ўсе мы – і тыя, што былі, і тыя, што будуць, і тыя, што ёсць, – усе мы вечныя. Вечныя ў нашай мове, вечныя ў нашай гісторыі, вечныя ў беларускай зямлі, у беларускім слове.

*С. Ш.:* А я хачу сказаць вам, Генадзь Мікалаевіч, яшчэ вось што. Помніце, мы былі разам з вамі і Рыгорам Барадуліным у Бараўлянах у Васіля Быкава, і пасля вы справядліва заўважылі, што Васіль Уладзіміравіч адыходзіў вельмі мужна. Вы прабачце ўжо, калі ласка, але ў гэтыя дні, калі бачу вас, калі думаю пра вас, у мяне пастаянна ўзнікае асацыяцыя з Быкавым. І я таксама магу сказаць, што паводзіце вы сябе, Генадзь Мікалаевіч, вельмі мужна і годна.

*Г. Б.:* Стараюся... Стараюся... Дзякуй, Сярожа. Ты са мной усе гэтыя цяжкія часіны мае, так што можаш бачыць, можаш рабіць высновы... Стараюся, стараюся, дарагі мой. Гэта апошняе, што я магу.

*С. Ш.:* Я б сказаў, што вы і тут з'яўляецеся прыкладам чалавечай годнасці.

*Г. Б.:* Ну, гэта табе меркаваць.

*С. Ш.:* Дадам яшчэ, што мне дужа шкада развітвацца з вамі, Генадзь Мікалаевіч, бо найперш вы і Рыгор Барадулін былі падтрымкай мне ў апошнія гады.

*Г. Б.:* Дзякуй. Так, мы сапраўды стараліся цябе падтрымаць.

*С. Ш.:* У гэтай сувязі хацеў бы пагаварыць яшчэ пра адну рэч, але папярэдне запытаюся: раней мы прыгадвалі з вамі Пімена Панчанку, вы ж былі блізка знаёмыя з ім?

*Г. Б.:* Вельмі.

*С. Ш.:* Што гэта была за асоба – Пімен Емяльянавіч?

*Г. Б.:* Гэта была для мяне дарагая і вельмі высокая асоба. Гэта быў і паэт выдатны, і чалавек шчыры і светлы, чалавек дзіцячай душы. У яго сініх беларускіх вачах адбівалася, можа быць, самае галоўнае ў ягонай душы. Ён сачыў за маладой паэзіяй, ён любіў Рыгора і падтрымліваў нас. Ён увогуле быў трапяткі і малады. І для мяне Пімен быў узорам і вельмі блізкім чалавекам.

*С. Ш.:* А наколькі важная была тады для вас, маладзейшых, падтрымка старэйшых?

*Г. Б.:* О-о-о! Вельмі важная! Справа ў тым, што тады адносіны да старэйшых былі іншыя. І падтрымка, і ўвага старэйшых былі вельмі важныя для нас. Гэта было вельмі важна, калі сказаў слова Лынькоў, калі сказаў слова Панчанка, калі сказаў слова Брыль, калі сказаў слова Мележ, калі сказаў слова Куляшоў. Гэта як узнагарода была. Таму, канечне, кожнае такое вось выказванне, якое даходзіла да нас, цанілася вельмі высока.

*С. Ш.:* Але і ваша пакаленне, Генадзь Мікалаевіч, таксама шмат што значыць для майго пакалення. Як для вас шмат значыла слова Мележа ці Панчанкі, гэтаксама для майго пакалення многае значыла і значыць слова і падтрымка і ваша, і Барадуліна. У гэтым сэнсе пераемнасць пакаленняў захавалася...

*Г. Б.:* Была.

*С. Ш.:* Але цяпер, мне здаецца, яна парушаецца.

*Г. Б.:* На жаль, у мяне такое адчуванне таксама ёсць.

*С. Ш.:* А ці знаёма было вам такое пачуццё – неяк Панчанка сказаў Барадуліну: калі мы пойдзем, дык вы адразу адчуеце сябе старымі. Ці было ў вас такое адчуванне пасля сыходу пакалення Пімена Емяльянавіча?

*Г. Б.:* Нешта такое было.

*С. Ш.:* Ці адчувалі, ці адчуваеце гэтую адказнасць, як адзін з патрыярхаў беларускай літаратуры?

*Г. Б.:* Ты знаеш, гучныя словы я не люблю, але нешта такое было.

*С. Ш.:* Я таксама не люблю гучных слоў, але калі апошнім часам думаў пра Барадуліна, дык нечакана зразумеў, што, улічваючы ўзрост і агульную павагу да яго, дзядзька Рыгор сапраўды зрабіўся патрыярхам беларускай літаратуры. Барадулін і вы – вось сённяшнія патрыярхі беларускай літаратуры.

*Г. Б.:* Атрымалася, што так.

*С. Ш.:* Дык, паўтаруся, гэтую адказнасць вы сапраўды адчувалі?

*Г. Б.:* Канечне.

*С. Ш.:* Яна накладвала нейкі адбітак на вашы паводзіны?

*Г. Б.:* Безумоўна. Я стараўся падтрымліваць таленавітых людзей і, чым мог, дапамагаць ім, і заўсёды трымаць, як кажуць, высока планку. Гэта звязвае адно з другім.

*С. Ш.:* Між іншым прыгадваецца, што гэта ж менавіта Пімен Панчанка напісаў некалі ліст у Саюз пісьменнікаў, у якім уздымаў пытанне пра наданне вам звання народнага паэта Беларусі.

*Г. Б.:* Так-так-так. Гэта былі 1990-я гады, калі я вярнуўся з дыпламатычнай службы з Амерыкі. Так, Пімен мне казаў, што ён напісаў ліст з прапановай надаць мне званне народнага пісьменніка. І для мяне гэты ліст вельмі важны – важней, чым нейкія афіцыйныя хадайніцтвы. Ён казаў, што аддаваў ліст Васілю Зуёнку як кіраўніку Саюза пісьменнікаў. Так што, можаш папытацца.

*С. Ш.:* Дарэчы, што тычыцца вашай дыпламатычнай службы: Павел Бераговіч прыгадваў, што калі вы неяк размаўлялі з ім падчас уручэння прэміі «Дэбют», дык вы сказалі, што калі напішаце пра сваю дыпламатычную працу ў ААН, там будзе шмат сенсацый...

*Г. Б.:* Не, цяпер не прыгадаю. І часу мала, і памяць ужо не тая.

*С. Ш.:* Вось яшчэ каго хацелася б прыгадаць – гэта Станіслава Шушкевіча. Якім ён застаецца ў вашай памяці як кіраўнік Беларусі?

*Г. Б.:* Для мяне гэта гістарычная асоба, бясспрэчна нацыянальная, беларуская асоба. Але, мне здаецца, як палітык ён, на жаль, не самага высокага палёту.

*С. Ш.:* Што вы маеце на ўвазе?

*Г. Б.:* Яму не хапала вышыні мыслення. Яму не хапала глыбіні аналізу. Яму не хапала прадбачання. А ў прынцыпе, гэта выдатная асоба беларускай гісторыі.

*С. Ш.:* На маю думку, Шушкевіч не ў час нарадзіўся – гэта, хутчэй, быў бы выдатны кіраўнік будучай Беларусі.

*Г. Б.:* Ну, хто яго ведае, гэта ж не ўгадаеш. Але тое, што ён зрабіў добрую справу для гісторыі, гэта бясспрэчна.

*С. Ш.:* І, безумоўна, павінен увайсці ў гісторыю са знакам плюс?

*Г. Б.:* Безумоўна.

*С. Ш.:* А як вы ставіцеся да Зянона Пазьняка? Ці змянялася вашае стаўленне да яго з цягам часу?

*Г. Б.:* Да Зянона Пазьняка я стаўлюся з глыбокай-глыбокай павагай. Тое, як ён мысліць пра гісторыю Беларусі, тое, як ён яе асэнсоўвае і фармулюе, мне вельмі і вельмі блізка. І я заўсёды ставіўся да яго з увагай і з павагай. Адзінае, што на нейкіх этапах ён быў, як мне здаецца, залішне радыкальным. А з беларускім характарам трэба было быць мякчэйшым. А так, гэта таксама гістарычная асоба, якая адыграла важную ролю ў беларускай гісторыі.

*С. Ш.:* Старэйшы сын Быкава Сяргей Васільевіч расказваў пра адну размову з бацькам: ён неяк заўважыў, што, мабыць, Васіль Уладзіміравіч нарадзіўся не ў той час і не ў той краіне. Быкаў адказаў на гэта: можа быць, не ў той час, але дакладна ў той краіне. А вы, Генадзь Мікалаевіч, нарадзіліся ў свой час і ці ў той краіне?

*Г. Б.:* Тое, што ў той краіне, гэта бясспрэчна. Іншай краіны ў мяне няма. А ў той час ці не – Божа мой, каб я знаў, што нас чакае далей, як усё будзе... А так, буду спадзявацца, што не ў самы горшы час.

*С. Ш.:* Сапраўды, былі ж і горшыя часы ў беларускай гісторыі.

*Г. Б.:* Так-так-так.

*С. Ш.:* Я некалі заўважыў Барадуліну: часам здаецца, што чым далей, то жыццё робіцца ўсё горш і горш, але дзядзька Рыгор казаў, што жыццё заўсёды было такім, проста мы па-рознаму ўспрымаем яго ў маладосці і калі сталеем-старэем.

*Г. Б.:* Я не зусім з Рыгорам згодзен, таму што ў беларускай гісторыі былі розныя людзі, а ад людзей многае залежыць. І сярод кіраўніцтва былі відавочныя інтэлігенты, лідары, напрыклад, той жа Пётр Міронавіч Машэраў, а былі абсалютна шэрыя асобы, як, скажам, Сакалоў...

*С. Ш.:* Ці той жа Слюнькоў.

*Г. Б.:* Нават не Слюнькоў, а Малафееў.

*С. Ш.:* Ці Дземянцей, напамінам пра якога застаўся, бадай, толькі тэрмін «дземянцееўка».

*Г. Б.:* Так. Таму судзіць адным махам я б не стаў. Розныя былі людзі, рознае іх месца ў гісторыі, і па-рознаму да іх трэба ставіцца.

*С. Ш.:* А якія самыя светлыя часы ў вашым жыцці?

*Г. Б.:* Ну, відаць, юнацтва, калі было каханне, калі было маладое ўніверсітэцкае гуртаванне літаратараў, бо я не помню тады сябе сумным, разгубленым...

*С. Ш.:* І гэта былі самыя светлыя вашы часы?

*Г. Б.:* Думаю, што так.

На гэтым мы развіталіся. «Добра-добра, да заўтра, – сказаў Генадзь Мікалаевіч і дадаў у адказ на маю просьбу трымацца: – Буду трымацца. Мы павінны зрабіць кніжку».

*21 мая.* Сёння я, выбачаючыся, запытаўся, ці можна будзе зрабіць фотаздымкі? Адказаўшы станоўча, Генадзь Мікалаевіч заўважыў: «Як сказаў Васіль...» Ён не дагаварыў – ці забыўся, ці, хутчэй за ўсё, не захацеў паўтараць быкаўскае «снимок на смертном одре». Васіль Уладзіміравіч казаў так, калі разам з Бураўкіным і Барадуліным былі ў Бараўлянах за пяць дзён да яго сыходу. Генадзь Мікалаевіч дадаў цяпер: «Васіль мудры быў чалавек, ён разумеў...» І хоць фотаапарат быў у мяне з сабой, але я не наважыўся дастаць яго.

*С. Ш.:* Генадзь Мікалаевіч, хацеў бы працягнуць учорашнюю размову і, калі гаварыць пра старэйшае пакаленне, прасіў бы вас даць яшчэ некалькі характарыстык. Вось што за чалавек быў Пятрусь Броўка?

*Г. Б.:* На мой погляд, гэта была складаная асоба. Ён вельмі многа зрабіў для беларускай справы – гэта і тое, што арганізаваў і ўзначаліў «Энцыклапедыю»,

і тое, што быў на чале розных ініцыятыў. А як паэт... як паэт, канечне, быў слабаваты. Ну, але, як той казаў, каму Бог колькі даў. Аднак паэт быў шчыры, «непритязательный», па-руску кажучы. У яго ёсць некалькі даволі прыстойных вершаў, звязаных з прыродай, з маладосцю, – той жа «Пахне чабор», «Шумі, мой лес, шумі...». І гэта, лічу, павінна ў гісторыі не згубіцца.

*С. Ш.:* Але, мабыць, найгалоўнейшая заслуга Броўкі, як вы ўжо сказалі, гэта тое, што ён стварыў «Беларускую энцыклапедыю».

*Г. Б.:* Так-так-так.

*С. Ш.:* Увогуле ці мелі б мы сёння тую энцыклапедыю, каб не Броўка.

*Г. Б.:* Наўрад.

*С. Ш.:* Я так разумею, што ў нечым супрацьлеглая Броўку асоба – Аркадзь Куляшоў.

*Г. Б.:* Ну, не супрацьлеглая. Куляшоў – маўчун, чалавек у адзіноце. Але вельмі глыбокі, вельмі таленавіты. Гэта, канечне, майстар слова. Ён радок шліфаваў – чаго не рабіў Броўка. Наогул, Куляшоў выводзіў нашу паэзію на еўрапейскі ўзровень.

*С. Ш.:* Яшчэ адно імя – Максім Танк.

*Г. Б.:* А-а! Максім Танк – гэта геніяльны паэт. Ён, канечне, у нечым, на мой погляд, уступаў і Куляшову, і Панчанку – уступаў у рабоце над радком, але гэта паэт геніяльны. Яму столькі было дадзена, што ён нават, відаць, і не ўсведамляў таго, як многа яму дадзена. Ну, і потым, я чытаў летам ягоныя дзённікі ў 10-м томе – гэта споведзь чалавека нашага часу, чалавека як быццам бы паднявольнага. Споведзь шчырая, споведзь разумная, споведзь балючая.

*С. Ш.:* Генадзь Мікалаевіч, а якія, на ваш погляд, асноўныя памылкі гэтага пакалення? Безумоўна, гэтыя пісьменнікі былі людзьмі свайго часу...

*Г. Б.:* Гэта сапраўды знакі свайго часу. І ў Броўкі, і ў Танка, і ў іншых многа пустога, бяздумнага грамыхання. Але я не знаю, вініць іх за гэта ці не вініць. Быў такі час. Мы ў ім жылі. Мы ягоныя дзеці.

*С. Ш.:* Гэта было сталінскае пакаленне. Ці адчуваўся страх у паводзінах старэйшых?

*Г. Б.:* Не знаю... Думаю, што часамі адчуваўся.

*С. Ш.:* Прыгаданы вамі Панчанка неяк сказаў Барадуліну нібыта жартам, але, відаць, не без сур'ёзнасці: «Я не здолеў стаць геніем, дык ты павінен стаць ім. А калі не станеш, дык збяромся ўсім кагалам і адлупцуем цябе».

*Г. Б.:* Ну, удалы, але разумны жарт.

*С. Ш.:* Аднак чаму цяпер прыгадаў яго: Барадулін, на ваш погляд, здолеў стаць геніем?

*Г. Б.:* Канечне. Бясспрэчна.

*С. Ш.:* Гэта было відавочна яшчэ пры ягоным жыцці?

*Г. Б.:* Так, канечне. Для мяне – так.

*С. Ш.:* Ці гаварылі вы пра тое Барадуліну?

*Г. Б.:* Мы амаль не гаварылі, але ён ведаў пра гэта.

*С. Ш.:* У вас, дарэчы, была літаральна за некалькі дзён да сыходу Барадуліна тэлефонная размова з ім. Не прыгадаеце, пра што тады гаварылі?

*Г. Б.:* Я не помню... Ён чытаў нешта новае напісанае, пытаўся пра здароўе. Не помню... Дай пару глыткоў...

*С. Ш.:* А, на вашу думку, геніямі нараджаюцца ці становяцца? І ці можна пахаваць у сабе генія?

*Г. Б.:* Можна. Я лічу, што нараджаюцца. Геніі нараджаюцца, а потым людзі геніяльныя або гэта ўсё развіваюць, як Пушкін, Міцкевіч, або, наадварот, хаваюць, закопваюць.

*С. Ш.:* І, мабыць, адзін з падобных прыкладаў – Анатоль Сыс?

*Г. Б.:* Можа быць.

*С. Ш.:* Раней вы сказалі, што Максім Танк, мабыць, не ўсведамляў сваю геніяльнасць, а Барадулін?

*Г. Б.:* Усведамляў.

*С. Ш.:* Але ніколі пра гэта не гаварыў?

*Г. Б.:* Не. Але ўсведамляў.

*С. Ш.:* Адкуль вы гэта ведаеце?

*Г. Б.:* Ну, вось такое ў мяне адчуванне.

*С. Ш.:* Ён жа нават у паводзінах гэтага не выказваў.

*Г. Б.:* Не-не-не. Ён не гаварыў аб гэтым, не падкрэсліваў, але, на мой погляд, усведамляў.

*С. Ш.:* Мяне заўсёды здзіўляла ў паводзінах дзядзькі Рыгора такая рыса: калі ён паказваў свае новыя вершы, пасля кожнага разу пытаўся: «Ці нармальна?» І было бачна, што гэта сапраўды яго цікавіла. Аднак мяне ўвесь час засмучала, бо здавалася, што ён сам павінен ведаць, што выйшла з-пад яго пяра.

*Г. Б.:* Думаю, што ён ведаў.

*С. Ш.:* Генадзь Мікалаевіч, прабачце за правакацыйнае пытанне, але ці ўсведамляеце, якой велічыні вы паэт?

*Г. Б.:* Не зусім... Не зусім... Ведаю, што я паэт шчыры, я паэт, як кажуць, не бяздарны. А астатняга не знаю.

*С. Ш.:* На мой погляд, вы паэт, калі казаць па-руску, «большой». Паэт далёка не сярэдняй рукі.

*Г. Б. (праз паўзу):* Не буду пярэчыць.

*С. Ш.:* Някляеў неяк напісаў, што не бывае паэтаў без зайздрасці. Гэта сапраўды так?

*Г. Б.:* Не знаю, не знаю. Доля зайздрасці, як жаданне выйграць спаборніцтва, безумоўна, у кожнага паэта ёсць.

*С. Ш.:* Але чаму яшчэ запытаўся пра гэта: памятаеце нядаўні наш праект імянных дзіцячых вершаў? Дык апроч іншага, гэты праект мне быў цікавы яшчэ тым, што ў дадзеным выпадку атрымлівался своеасаблівае літаратурнае спаборніцтва. Я ж вам расказваў, як раўніва слухаў Барадулін вашы вершы, – было заўважна, што нейкая зайздрасць у яго ўсё ж прысутнічала, бо было відавочна, што вы напісалі вельмі добрыя вершы. Некаторыя, на мой погляд, былі нават лепшымі за барадулінскія.

*Г. Б.:* Ну, што ж, гэта добра, што такі момант у нашым жыцці быў.

Размова ішла пра наступны праект: справа ў тым, што неяк мне прыйшло ў галаву, што калі чаго і не хапае ў прыгожым беларускім пісьменстве, дык гэта імянных дзіцячых вершаў. Але хто мог бы іх напісаць? Вядома, тры найлепшыя сучасныя паэты: Барадулін, Бураўкін і Някляеў. З такой прапановай і звярнуўся да іх. Вершы меркавалася друкаваць на сайце кампаніі «Будзьма беларусамі!» І хоць Генадзь Мікалаевіч першапачаткова паставіўся да гэтай прапановы даволі скептычна (адзін толькі дзядзька Рыгор ад самага пачатку ўспрыняў маю задуму з аптымізмам), але пасля напісаў літаральна за адзін дзень ажно дзесяць цудоўных вершаў для дзетак. Прызнаваўся потым, што не чакаў ад сябе такога. І было заўважна: ён і сам рады і задаволены тым, што атрымалася.

*С. Ш.:* Дарэчы, Генадзь Мікалаевіч, вы для дзяцей любіце пісаць?

*Г. Б.:* Ну, не скажу, што вельмі люблю, але не супраць.

*С. Ш.:* Але ж для дзяцей таксама трэба ўмець пісаць?

*Г. Б.:* Канечне.

*С. Ш.:* Якія тут ёсць асаблівасці?

*Г. Б.:* Ну, з дзецьмі трэба быць вельмі шчырым і не пераступаць вось гэтую мяжу сур’ёзнасці і шчырасці, якая больш відавочная ў дзіцячых вершах, чым у дарослых.

*С. Ш.:* Ніколі не пытаўся ў вас: а «Калыханка» як з’явілася?

*Г. Б.:* Раскажу. Магу нават падрабязна. Мы стваралі нацыянальную тэлевізійную праграму, і нам не хапала «Калыханкі», і мы шукалі для яе песню. І вось аднойчы да мяне прыйшоў Вася Раінчык, які папрасіў: «Генадзь Мікалаевіч, давайце паспрабуем зрабіць песню». І, пакінуўшы мне касету з музыкай, пайшоў. Я час ад часу ўключаў тую касету, і вось аднойчы... Дай мне вады... Вось аднойчы я падняўся раніцай, усе мае яшчэ спалі, уключыў тую касету, і ў мяне атрымалася гэтая песня. Калі мы зноў сустрэліся з Раінчыкам, нам стала зразумела, што гэта тое, што трэба. Ну, а потым ужо выканаўцы пастараліся. Так «Калыханка» і стала папулярнай і любімай сярод дзяцей.

*С. Ш.:* Але вы не чакалі такога поспеху?

*Г. Б.:* Не чакаў.

*С. Ш.:* А ўвогуле, ніколі не ўгадаеш, якая будзе рэакцыя на вершы і песні?

*Г. Б.:* Не ўгадаеш.

*С. Ш.:* Не прадказальна гэта?

*Г. Б.:* Абсалютна.

Ужо на развітанне зноў гаварылі пра будучую кнігу – Генадзь Мікалаевіч прасіў, каб «графічным сваім тварам яна была падобна на ранейшыя кнігі» і, апроч гэтага, была не толькі чарговай яго кнігай, а чарговай у серыі бібліятэкі часопіса «Дзеяслоў». Я заўважыў: «Ну, як жа яна можа быць пасмяротнай, калі вы жывы? Дый вы ж павінны яшчэ паспець яе ўбачыць». – «Павінен патрымаць у руках, а ты – зрабіць здымак», – лагодна адказаў Бураўкін. Я працягваў: «Першапачаткова думаў прасіць Уладзіміра Някляева напісаць прадмову, але ў ранейшых вашых кнігах няма прадмоў, таму і раблю яе як проста новую вашу кнігу». – «Так-так», – адказаў Генадзь Мікалаевіч. «Я, канечне, думаю, як яна павінна выглядаць, але без усялякіх надрыўных нот – проста ваша новая кніга». – «Так», – зноў пацвердзіў Бураўкін. «І наша цяперашняя з вамі гутарка – гэта для будучых выданняў, а тут толькі ваша паэзія апошніх гадоў». – «Усё правільна, усё правільна, дарагі мой. Іменна так я і хачу».

*22 мая.* З раніцы ў Бураўкіна быў Глеб Лабадзенка, таму калі я запытаўся, ці зможам сёння пагаварыць, Генадзь Мікалаевіч адказаў: «Трошкі, а то я стаміўся...»

*С. Ш.:* Глеб, мусіць, падрабязана расказаў пра курсы «Мова нанова». Вас, мабыць, парадавала тая вялікая цікавасць, што ўзнікла апошнім часам да вывучэння беларускай мовы?

*Г. Б.:* Так-так-так!

*С. Ш.:* Глеб кажа, што курсы пачало наведваць утрая больш людзей, чым у мінулым годзе.

*Г. Б.:* Так, гэта мяне парадавала.

*С. Ш.:* Вось Барадулін... Вы прабачце, калі ласка, Генадзь Мікалаевіч, што даволі часта прыгадваю гэтае імя, але Барадулін быў вашым блізкім сябрам. Дык вось апошнім часам ён паўтараў, што калі б беларускую мову ўвогуле забаранілі, цікавасць да яе была б, можа, яшчэ большая. Ці пагодзіцеся з гэтым?

*Г. Б.:* Парадаксальна, але праўда.

*С. Ш.:* І зноў жа запытаюся: на вашую думку, які ўсё ж лёс чакае беларускую мову?

*Г. Б.:* Нялёгкі, але ўсё-ткі яна будзе жыць.

*С. Ш.:* А як думаеце: нацыянальныя сімвалы – бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня» – яшчэ вернуцца?

*Г. Б.:* Вернуцца.

*С. Ш.:* У якасці дзяржаўных сімвалаў?

*Г. Б.:* Так. Гэта я так думаю.

Сённяшняя гутарка атрымалася кароткай і сумбурнай. Сумбурнай не без маёй, вядома, віны, бо, па шчырасці, я хацеў не проста даць зразумець Генадзю Мікалаевічу, як стаўлюся да яго, – я хацеў паспець сказаць яму гэта. Паспець, бо было відавочна, што кожны дзень можа стацца апошнім... Не буду пераказваць тое, што гаварыў тады... Ужо напрыканцы я прыгадаў радок з верша паэта Веніяміна Блажэннага: «Пока я жив, никто не умирал, умершие живут со мною рядом». – «Добра сказаў», – заўважыў на гэта Генадзь Мікалаевіч...

*С. Ш.:* А вось імя іншага вашага блізкага сябра – Мікалая Ягоравіча Матукоўскага ўсё ж у забыццё пайшло...

*Г. Б.:* Трохі так.

*С. Ш.:* Але не сумняваюся, што вашае імя, імя Барадуліна, безумоўна, імя Быкава – застануцца.

*Г. Б.:* Ну, дай Бог.

*С. Ш.:* А пасля, калі мы ўсе ўтрох сустрэнемся – вы, Барадулін і я, – дык калі што не так зраблю, зададзіце мне ўзбучку.

*Г. Б.:* Ой, дадзім!

*С. Ш.:* Я перакананы, Генадзь Мікалаевіч, што мы з вамі яшчэ ўбачымся, бо мы ж не атэісты з вамі.

*Г. Б.:* Так.

*С. Ш.:* У гэтыя дні шмат чытаю вас, дык прыгадаў, чым заўсёды вабіла ваша паэзія: на старонках вашых кніг на роўных суіснуць тонкі паэт-лірык і паэт-грамадзянін. Прычым у вашай грамадзянскай паэзіі няма ні залішняй дэкларатыўнасці, ні празмернага пафасу, вашы радкі складваюцца з даволі простых словаў...

*Г. Б.:* Не хвалі, не хвалі.

*С. Ш.:* Але гэта маё асабістае ўражанне ад вашай паэзіі.

*Г. Б.:* Дзякуй, але не хвалі.

*С. Ш.:* Чаму?

*Г. Б.:* Не хачу.

*С. Ш.:* Не любіце, калі вас хваляць?

*Г. Б.:* Не люблю.

*С. Ш.:* Ну, гэта мая думка, Генадзь Мікалаевіч.

*Г. Б.:* Дзякуй.

*С. Ш.:* Тады пра іншае. Калі здарылася гэтая непапраўная бяда з Барадуліным, дык мяне выратавала праца над яго кнігай «У неба пехатою», бо я нібыта ўвесь час размаўляў з дзядзькам Рыгорам...

*Г. Б.:* Так-так-так.

*С. Ш.:* Гэтаксама цяпер і з вамі. Вы, Генадзь Мікалаевіч, выратоўваеце працай над вашай кнігай.

*Г. Б.:* Дзякуй-дзякуй-дзякуй.

*С. Ш.:* Але вось якая нечаканая складанасць узнікла: вашы вершы запісаны алоўкам, я не думаў, што расчытваць аловак цяжэй, чым асадку. Вы ўсё жыццё пішаце алоўкам?

*Г. Б.:* Так.

*С. Ш.:* А гэтыя апошнія вершы – гэта, па сутнасці, чарнавікі? Вы ж, мусіць, не перапісвалі іх начыста?

*Г. Б.:* У прынцыпе адразу запісваў як чарнавікі.

*С. Ш.:* Тут праўкі даволі рэдкія...

*Г. Б.:* Невялікія.

*С. Ш.:* Гэтыя вершы вы выношвалі? Ці садзіліся за пісьмовы стол, і яны адразу нараджаліся?

*Г. Б.:* Я іх выношваў, а не высіжваў.

*С. Ш.:* Жартуйце, Генадзь Мікалаевіч, жартуйце!.. Між іншым, сёння пачуў такі жарт Оскара Уайльда: старыя звычайна даюць маладым толькі адны парады, бо ўжо не ў стане паказаць дурны прыклад.

*Г. Б. (усміхнуўшыся):* Добра-добра-добра...

Ужо на развітанне я запытаўся пра назву будучай кнігі. «О, гэта балючае пытанне, якое я хацеў удакладаніць, – казаў Генадзь Мікалаевіч. – У мяне розныя ёсць варыянты. Калі былі мае падборкі за гэтыя гады [у часопісе «Дзеяслоў» і ў «Літаратурнай Беларусі», дадатку да газеты «Новы час». – *С. Ш.*], дык у кожнай падборкі была назва. Паглядзі, і давай, можа, сярод іх мы выбярэм назву». І яшчэ казаў пра кнігу: «Рабі не як пасмяротную, а як звычайную кнігу... Пастарайся зрабіць так, каб праз два тыдні кніга была». Але я нічога не адказаў на гэта, бо ведаў, што за два тыдні мне не паспець.

*(Заканчэнне будзе).*



Зіновій Прыгодзіч



...золкай сакавіцкай ноччу
трыццаць трэцяга года
мне даволі настойліва пастукалі ў дзверы...

# “Чаму мы такія?..”

***Гутарка з Максімам Лужаніным***

*Восенню 1979 года Барыс Сачанка пазваніў мне і запрасіў у паездку разам з Максімам Лужаніным на Случчыну, радзіму паэта. Вядома ж, я з радасцю пагадзіўся.*

*Аляксандр Амвросьевіч Каратай (такое сапраўднае імя Лужаніна) аказаўся незвычайна цікавым субяседнікам. За дзве гадзіны язды ён расказаў гэтулькі займальных гісторый са свайго жыцця і жыцця сяброў-пісьменнікаў, што мы і не заўважылі, як прыехалі ў Слуцк.*

*Узяўшы на сябе абавязак гіда, Аляксандр Амвросьевіч павёў нас паказваць тутэйшыя славутасці. Гэта было цікава ўдвая, бо незвычайная экскурсія давала магчымасць не толькі па-новаму зірнуць на, здавалася б, добра знаёмы горад, але і па-свойму раскрывала, высвечвала самога “гіда”. Здзіўляла найперш яго эрудыцыя – глыбокае веданне гісторыі, нацыянальнай і сусветнай культуры. Гэтак жа вольна ён арыентаваўся і ў падзеях сучаснага грамадскага жыцця. Але яшчэ больш уражвала лужанінская энергія, нястомнасць. Абхадзіўшы амаль паўгорада пешкі, ён заставаўся бадзёрым, лёгка*

*рухомым, не ў прыклад нам, маладзейшым, што ўжо былі не супраць таго, каб і адпачыць.*

*Калі ж мы апынуліся на знакамітым слуцкім рынку, Аляксандр Амвросьевіч, здавалася, і зусім забыўся пра стому. Пераходзячы ад аднаго гандлёвага раду да другога, ён лёгка і проста пачынаў жывую гамонку то з якім-небудзь дзядзькам з-пад Прусаў, то з цёткай з-пад Касыніч, прагна распытваў іх пра жыццё-быццё, радаваўся кожнаму трапнаму выразу, кожнаму дасціпнаму жарту, ды і сам, як кажуць, не лез за словам у кішэню.*

*Яшчэ тады мне падумалася: вось адкуль у яго гэтае веданне народнага быту, гэтае тонкае адчуванне роднай мовы. І хто ведае, можа, адным з галоўных сакрэтаў яго даўгалецця і душэўнай маладосці з'яўляюцца вось гэтыя жыццялюбства і аптымізм. Хаця лужанінскі аптымізм ніяк не назавеш бяздумным. Пісьменнік вельмі востра, глыбока эмацыянальна ўспрымае ўсё, што адбываецца ў навакольным жыцці. Сведчаннем таму два рубцы на сэрцы – два інфаркты.*

*Урачы настойліва раілі яму "збавіць абароты", адкласці хоць на нейкі час пяро, пажыць нармальным жыццём звычайнага пенсіянера – грыбы, рыбалка, няспешны мацыён раніцаю і вечарам. Але не, такое жыццё не для Максіма Лужаніна! Ён па-ранейшаму сярод людзей. Хаця, канечне, хваробы ўжо напамінаюць пра сябе, не дазваляюць вырывацца ў паездкі так часта, як хацелася б. Але не пісаць, не адгукацца на тое, што хвалюе людзей, ён не можа...*

## Самы горшы вораг – мы самі

***– Аляксандр Амвросьевіч, не магу не запытацца ў вас вось аб чым. Усіх нас хвалюе стан беларускай мовы ў нашым сённяшнім грамадстве. Чаму мы такія? Чаму цураемся роднага матчынага слова? Адкуль вытокі гэтай бяды?***

– Так, сапраўды гэта становіцца ўжо цэлай бядой. Мы цяпер, трэба ці не трэба, усюды пераходзім на рускую мову – на вуліцы, на рабоце, у сям'і, у школе, ужо фактычна і даўно не беларускай. Але ж мы такімі былі не заўсёды. Узгадайце дваццатыя гады, першую хвалю нацыянальнага адраджэння. Які быў усплёск цікавасці да роднай мовы! Як хораша, як актыўна, бы цеста ў дзяжы, падымалася маладая беларуская літаратура! А пасля па ўсім гэтым чорным жалезным каткОм прайшлася навала сталінскіх рэпрэсій. За трыццатыя гады амаль уся інтэлігенцыя была распарушаная – каго расстралялі, каго запраторылі ў гулагаўскія лагеры, а той, хто ацалеў, уцякаў за межы рэспублікі.

Фактычна за той час Мінск згалеў. Не было каму гаварыць па-беларуску, а хто ўмеў і любіў, ад страху падладжваўся пад начальства, тое – трымалася і мовы свае, і клопату свайго. Каб выслужыцца, усе мясцовыя адзін перад адным перасталі ўжываць родную мову. Не стала чуць яе ў дзяржаўных установах, а пасля і ў навучальных.

У першыя гады пасля вайны пачалася новая хваля нацыянальнага ажыўлення ў культуры. Пісалася ўсё ад душы, друкавалася без перашкод, аглядкі і асуджэння. Ды неўзабаве зноў грымнуў гром: даклад Жданава і пастанова пра часопісы "Звезда" і "Ленинград". Удары пасыпаліся адзін за адным. За верш Уладзіміра Сасюры "Любі Украіну" калашмацілі не толькі аўтара, але і перакладчыкаў – Аляксандра Пракоф'ева і Максіма Танка. Літаратуру сапхнулі на абвыклы даваенны троп: у кожным вершы хрысціліся на Сталіна абавязкова двойчы – напачатку і ў канцы.

З мовай рабілася горш і горш. Яна паступова знікала з усіх сфер нашага жыцця. Праўда, была яшчэ адна, трэцяя, спроба нацыянальнага адраджэння. Я маю на ўвазе пленум ЦК КПБ у 1953 годзе. Праводзіў яго зусім нечакана другі сакратар ЦК, вярнуўшыся ў Мінск, амаль на правах першага, пасля пэўных загадаў і наказаў ад тых, хто стаяў вышэй за яго ў Маскве. Дык вось на гэтым пленуме ўпершыню

быў зроблены даклад на беларускай мове, і ўсе, літаральна ўсе, нават тыя, хто прыкідваўся, быццам не ведае ці забыў яе, выступалі па-беларуску. Словам, быў абвешчаны рэзкі паварот да развіцця нацыянальнай культуры, да паўсюднага ўжывання мовы ў школах, вышэйшых навучальных установах, у міністэрствах і ведамствах.


*Максім ЛУЖАНІН.*

За адну ноч, як гаварылі, тады памянялі на беларускія мноства шыльдаў, закруцілася па-беларуску праца ва ўсіх канцылярыях. Акрыяла душою інтэлігенцыя. Колькі гаворак, колькі радасных спадзяванняў. Ды цягнулася тое раптоўнае ажыўленне нядоўга. Тыдні праз два быў дадзены поўны адбой. Усё пайшло па-старому. Давяршыла страту мовы хрушчоўскае мудраванне: вывучаць яе, няшчасніцу, з трэцяга класа, як замежную – камунізм жа блізка, праз 20 гадоў.

Цяпер дайшло да таго, што нават пісьменнікі і артысты не карыстаюцца ў сем'ях роднай моваю. У многіх тэатрах беларускія п'есы пачалі рэпеціраваць па-руску. Бо ў рэжысёрах хадзілі людзі, далёкія ад жыцця рэспублікі, абыякавыя да нашай культуры.

Ці выб'ецца зноў на паверхню наша нацыянальная культура, Бог знае. Хаця, на першы погляд, як быццам няма чаго наракаць. Назвы вуліц па-беларуску, кавярні, гасцініцы, рэстараны носяць прыгожыя беларускія імёны. Выдавецтвы выконваюць планы, атрымліваюць прэміі. А беларускіх кніг не большае, выглядаюць яны не дужа ўдала, а самае галоўнае – амаль не маюць попыту. Не разыходзяцца нават мінімальныя тыражы.

Кніг не купляюць па той прычыне, што іх няма каму чытаць, не ўмеюць маладыя па-беларуску, не навучылі іх.

Расказваюць, у дзіцячым тэатры падчас удалага спектакля падлеткі шумелі, бегалі, дурэлі. "Чаму вы так сябе трымаеце? П'еса ж цікавая..." – зрабіў заўвагу малым адзін з нашых драматургаў. І пачуў у адказ: "Мы не понимаем, о чем они говорят".

***– Няўжо ж, калі і далей так пойдзе, наша мова зусім знікне?***

– Мне ўсё ж хочацца спадзявацца на лепшае. Аптымізму надаюць прыклады з гісторыі. Не так чутнай некалі была Бенгалія, але з'явіўся Тагор, і стала вялікай. А згадаем Ірландыю. На час нацыянальнага вызваленчага паўстання, у 1916 годзе, кажуць, у краіне гаварыла па-ірландску толькі каля пяці соцень асобаў. Цяпер жа родная мова там стала не толькі папулярнай, але і прэстыжнай. Так што малых народаў не бывае, ёсць няўзрослыя, бо не ўсвядомілі сябе народамі.

***– Мне здаецца, што важную ролю ў выхаванні такой усвядомленасці магла б і павінна адыграць наша літаратура…***

– У вашым пытанні ёсць негатыўны падтэкст: маўляў, магла б, але нічога не зрабіла... Не, я так катэгарычна сказаць не магу. У свой час яшчэ Якуб Колас

заставаўся непахісным у адстойванні правоў народа на мову. Агульнавядомы цяпер факт: незадоўга да скону ён напісаў вялікі, грунтоўны ліст пра мову, адрасаваны членам бюро ЦК КПБ. Складаў доўга, раячыся, збіраючы факты, таксама карпатліва. І паводле сведчання старэйшага ягонага сына Данілы, у дзень смерці Колас павёз гэты ліст у ЦК. Звычайна ўсе хадайніцтвы, просьбы людскія ён адсылаў па пошце. А тут, разумеючы важнасць праблемы, пажадаў перадаць асабіста, Першаму. Але таго не аказалася на месцы, і ліст давялося пакінуць у прыёмнай. Ці дайшоў ён да высокага кіраўніка, ці яго перахапілі адпаведныя спецслужбы, невядома. Але ніякай відочнай рэакцыі на крык душы народнага песняра, на яго апошні запавет, кажучы па-руску, *не последовало*.

А колькі такіх “крыкаў” было выказана на нашых пісьменніцкіх сходах, літаратурных пленумах і з’ездах! Прычым нярэдка ў прысутнасці высокіх цэкоўскіх работнікаў. Не скажу, каб гэта ўжо зусім быў “глас вопиющего в пустыне”, але і па-сапраўднаму дзейсных мер ніхто не прымаў.

Свае тры капейкі ўставіў і я. Калі ў “Звяздзе” з’явіліся артыкулы кіраўнічага характару нашага патрыярха літаратуры і выклікалі ўсеагульнае пярэчанне мовазнаўцаў і педагогаў, то не ўцярпелася і мне. Аднак на мой ліст-пратэст сакратар ЦК Кузьмін нават не адказаў, а мой артыкул пра мову тагачасны рэдактар “Полымя” надрукаваць адмовіўся. Больш пярэчыць патрыярху ніхто не адважыўся.

А калі вярнуцца да вашага пытання “Чаму мы такія?”, мне здаецца, што вытокі гэтай бяды вось у чым. Вельмі доўга гнялі нас, таму і парабіліся ўсе ціхія, слухмяныя, да ўсяго звыклыя, з усім згодныя, гатовыя не стаяць за сябе, а таптаць сваё.

***– Што ж, на вашу думку, трэба зрабіць, каб вярнуць беларусам іх родную мову?***

– Хай не падасца вам лёгкадумнасцю, але мая думка такая: беларусам сваю мову вярнуць няцяжка. Я за сваё жыццё многа варожага да беларускай мовы сустракаў, Пры мне неаднойчы нават гаварылі, што беларускае слова брыдкае. Але майго смаку да мовы гэтым не сапсавалі.

Самы горшы вораг у беларускай мовы – мы самі. Прыехала мая пляменніца з Украіны, яе бацька ваенны, дык яна ўжо не хоча вывучаць беларускую мову. “Я – ваенная!” Я кажу: “Вось вазьму зараз пасак, дык паглядзім, хто больш ваенны”. Такім чынам яна вывучыла мову і на даволі прыстойнай пасадзе цяпер.

Дык вось, разумееце, найперш трэба нам пераадолець нацыянальную апатыю, якая вельмі характэрная для беларусаў.

***– Лёгка сказаць…***

– І ведаеце, што я зрабіў бы найперш? Увёў бы вывучэнне беларускай мовы з першага класа. А яшчэ лепш – з дзіцячага садка. І так, год за годам, узнімацца па гэтай нескладанай лесвіцы нацыянальнага выхавання, аж покуль чалавек не авалодае ў дасканаласці ўсім багаццем роднай мовы, не пранікнецца шчырай любоўю да сваёй культуры.

Развіваць мову, культуру загадамі шкодна, нельга. І тым не менш некаторыя непажаданыя працэсы можна было б спыніць і валявым метадам. Ну вось хоць бы такі прыклад. Каму і навошта спатрэбілася ўсе абласныя газеты і нават галоўную газету для сялян пераводзіць на рускую мову? Няўжо для таго, каб паспрыяць развіццю беларускай мовы і культуры? Не, гэта ўмела нацэлена: сельскае насельніцтва, праўда, парадзелае цяпер, усё ж было і застаецца ахоўнікам даўніны, укладу жыцця, песень і казак, мовы. Дык вось вам – рускія газеты, чытайце, вучыцеся, як трэба гаварыць. Лягчэй адкідвайце прэч дзядоўскае слова, на поце і крыві ўзрослае, што нясе ў сабе і побыт, і звычаі, і гісторыю, нават шум лесу і колер неба. Гэта яшчэ К. Д. Ушынскі сказаў, і ўсе паўтараюць яго залатыя словы, іх вага пашыраецца і на мовы нацыянальныя.

Дык чаму б загадам, пастановай не спыніць гэту негатыўную тэндэнцыю,

а заадно і ўціхамірыць не ў меру заўзятых чыноўнікаў ад асветы, якія выпіхваюць беларускую мову са школы, адхрышчваюцца ад яе, вызваляюць ад вывучэння ўсіх, хто б таго ні пажадаў, ці бацька, ці вучань?

***– Вы згадалі нашыя газеты... У гэтай сувязі я хацеў бы ў вас запытацца: а беларускамоўныя выданні, яны адыгрываюць сваю ролю ў прапагандзе беларускага слова, нацыянальнай культуры?***



*Сябры-аднадумцы. Злева направа: М. Хведаровіч, М. Лужанін, З. Астапенка, В. Сташэўскі, А. Звонак, Т. Кляшторны. Стаяць: П. Глебка, І. Харык, У. Хадыка. 1931 год.*

– Напэўна. Хаця, не ў крыўду вам будзе сказана, далёка не так, як хацелася б. У свой час Якуб Колас трапна заўважыў, што для пісьменніка мова з'яўляецца і матэрыялам, і інструментам. Не шкодзіла б помніць пра гэта і газетным работнікам. Журналіст павінен валодаць мовай так арганічна, мець настолькі вялікі і шырокі слоўны запас, каб усе яго думкі, ідэі і вобразы былі данесены да чытача выразна, ярка і дакладна.

Праца над творам (мастацкі ён ці публіцыстычны – усё роўна) мне ўяўляецца, як двухбаковы творчы працэс: моўны і вобразны. Калі журналіст адносіцца да мовы не творча, карыстаецца гатовымі размоўнымі ці газетнымі зваротамі, не шукае ўласнай будовы сказа, новай расстаноўкі слоў, інтанацыйных хадоў, дык твор будзе напісаны штампаванай, невыразнай мовай.

Агульная хіба мовы нашых газет змяшчаецца вось у чым. Мы абавязкова хочам слова ў слова перакласці кожны сказ з рускай мовы. А тут замінаюць аддзеяслоўныя формы – дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі. Вось і атрымліваюцца словы-недарэкі кшталтам рабіўшыеся і публікуемыя, або яшчэ горш – прадстаячыя. Апошнім часам пачалі пісаць маючы адбыцца. Крыху лепш, але нязначная палёгка. Тут трэба звяртацца да выразаў мае быць, мае адбыцца, на чарзе. Сказы будуць куды больш удалыя і мілагучныя.

Не хачу звінаваціць у нядбайнасці і непавазе да мовы газетных работнікаў агулам. Ёсць тут і спецыфічныя акалічнасці: матэрыялы ў нумар даводзіцца рыхтаваць хапаючыся, на апрацоўку ніколі не стае часу. Праз гэта – вялікая колькасць моўных і не моўных ляпсусаў. Што, безумоўна, не спрыяе аўтарытэту і пашане нашай мовы.

І яшчэ хачу сказаць: мова не можа заставацца без догляду, пра яе трэба клопат штодня. Мова – гэта хлеб, добра спечаны, не ў гарачай і не ў халоднай печы, абскрэбены спадыспаду ад лісця ці мукі, ахалоджаны пад абрусам. Тады ўжо яго крояць і смакуюць, ён не ачарсцвее, а толькі смачнее пад канец тыдня. На жаль, такога догляду мы даўно ўжо не маем.

## Гэтак яно рабілася

***– Аляксандр Амвросьевіч, пара вашага літаратурнага станаўлення прыйшлася на вельмі бурны і надзвычай цікавы час. У беларускую літаратуру***

***ў тыя гады на хвалі рэвалюцыйнага абнаўлення, нацыянальнага адраджэння прыйшла цэлая плеяда яркіх, таленавітых асобаў. Напэўна, з многімі з іх вы былі знаёмыя, магчыма, яны аказвалі нейкі ўплыў на вашую творчасць…***

– Мне, безумоўна, пашанцавала. З самага пачатку лёс звёў мяне з цікавейшымі, цудоўнымі людзьмі. У Беларускім педагагічным тэхнікуме, куды я паступіў летам 1924 года, студыяй “Маладняка” кіраваў вядомы празаік Міхась Зарэцкі. На нашыя заняткі ён нярэдка запрашаў сваіх таварышаў, старэйшых і маладзейшых. Жывыя, непасрэдныя гутаркі з імі, канечне ж, не маглі не аказваць свайго дабратворнага ўплыву на пачынаючых студыйцаў.

Рукапіс маёй першай паэтычнай кніжкі чытаў і блаславіў у друк Цішка Гартны. Пашчаслівілася мне таксама мець зносіны з Кузьмой Чорным, Кандратам Крапівой, Змітраком Бядулем. Я ўжо не кажу пра сустрэчы з Янкам Купалам і Якубам Коласам. Кожная такая сустрэча давала штуршок наперад, прыклад іх літаратурнага майстэрства абавязваў нас да сур’ёзнай, патрабавальнай працы, а крытычныя заўвагі і практычныя парады вымушалі задумвацца аб высокай пісьменніцкай місіі.

***– Вы ўпамянулі студыю “Маладняка”. Трапіць туды лічылася за вялікі гонар. Чаму ж вы, пабыўшы ў гэтым аб’яднанні недзе з год, выйшлі адтуль?***

– Уласна кажучы, я выходзіў з “Маладняка” не таму, што зрабілася там цесна і душна. На мой тагачасны літаратурны рост у арганізацыі ставала і паветра, і прасторы. Мяне, ды, відаць, не памылюся, калі скажу – і маіх сяброў, прыцягвалі да таварышаў, што выйшлі раней, іх літаратурныя магчымасці. Каля гэтых людзей, думалася нам, малодшым, прастарней будзе ў хадзе, больш магчымасцяў для навукі, калі не літаральнай, дык праз творы. Ім жа, старэйшым, хто паспеў сфармавацца як літаратар, было ўжо добра відаць, што літаратура перарастае адзежыну арганізацыйных формаў. Неўзабаве гэта стала зразумела больш шырока. Пасля ўтварэння намі “Узвышша” з таго ж “Маладняка” выйшла яшчэ група, каб аб’яднацца ў “Полымя”.

Што дало мне асабіста новае літаратурнае асяроддзе? Перш за ўсё гэта быў крок у паглыбленне, паляпшэнне літаратурнай работы. Хоць напісаў я ў тыя гады ці мала зялёнага, аб чым цяпер не дужа хочацца прызнавацца, затое навучыўся разумець: літаратура не любіць напалавіну прыкладзеных рук, не да астатку раскрытае душы.

Пасля заканчэння педтэхнікума я паступіў на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне Белдзяржуніверсітэта. І здарылася так, што ва ўніверсітэце мы зноў сабраліся разам на адным курсе: Трус, Глебка, Дарожны, я і наш былы студыйны настаўнік Зарэцкі. На старэйшых курсах было таксама ці мала літаратараў. Аднак не ўсе з іх здолелі па-сапраўднаму стаць членамі новага студэнцкага калектыву. Пачаліся непаразуменні, неразумныя выбрыкі супраць пісьменнікаў у студэнцкім друку.

Тады наогул літаратура ўваходзіла ў пару бурных дыспутаў, зацяжных дыскусій, жорсткіх узаемных атак адной літаратурнай арганізацыі на другую. Таму большасць з нас вучылася кепскавата, а я праз недаравальную легкадумнасць навучання не закончыў і быў змушаны пасля доўга сляпіць вочы, давучвацца саматугам.

***– Аляксандр Амвросьевіч, у адным з вашых інтэрв’ю я чытаў, што менавіта ў гэты час вы былі не толькі сведкам такой глабальнай з’явы як калектывізацыя, але і яе непасрэдным удзельнікам. Якім чынам гэта адбылося?***

– Вельмі проста. З мэтаю вывучэння жыцця я самастойна зрабіў некалькі падарожжаў у новы дзень рэспублікі. Назапасілася багата матэрыялу, вочы сталі больш шырока і поўна глядзець навокал. Найбольш уразіла паездка па Палессі на пачатку 1930 года. Менавіта там мясцовыя кіраўнікі папрасілі мяне паўдзельнічаць у арганізацыі калгасаў каля Мазыра, у Юравіцкім і Тураўскім раёнах. Пасля


З паэтам Сяргеем ЗАДАРОЖНЫМ. 1928 год.

гэтага ў мяне засталося некалькі тоўстых блакнотаў, якія так і штурхаюць пад руку, вымагаючы вывесці тагачасныя запісы на прыстойную паперу.

***– І яны ў вас да гэтага часу ляжаць нерухома?***

– Ляжаць. Бо ў іх шмат такога, што немагчыма было надрукаваць. Вось толькі цяпер, з прыходам шырокай галоснасці, з'явілася такая магчымасць.

***– Раскажыце, калі ласка, гэта ж вельмі цікава.***

– Цяпер то, можа, і цікава, а тады мне было не вельмі. Мы, упаўнаважаныя, праводзілі бяссонныя ночы ў школах і хатах-чытальнях, агітуючы людзей запісвацца ў калгас. Але на ўсе нашыя ўгаворы адказам было глухое маўчанне. Ажылі бандыцкія стрэлы, узнікалі пажары, варожыя рукі раскідвалі здабытыя за мяжой лістоўкі...

У вёсцы Азераны ўспыхнуў масавы бунт. На яго ўціхаміранне прыслалі вайскоўцаў. Аднак разгневаныя сяляне заляпілі каменданта гразёю, вайсковых закідалі камянямі, а работнікаў сельсавета загналі на дах... Скончылася тым, што бабы пайшлі да абагуленай жывёлы, сякерамі разбілі замкнёныя дзверы і разагналі кароў і коней. Толькі на наступны дзень, калі на дапамогу вайскоўцам прыехала міліцыя, удалося навесці парадак.

У другой вёсцы міліцыя прыехала забіраць для высылкі на поўнач заможныя сем'і. Дык сын дзяка ўскочыў на званіцу і давай званіць. Пачалі збягацца бабы (чамусьці ўсюды закапёршчыкамі хваляванняў былі жанчыны. Мужчыны ж стаялі ўбаку, нервова пакурвалі самакруткі і назіралі). Калі бралі дзяка, яго адстойвалі з каламі. Моцная бойка была. Выхвацілі тры сям'і.

У Юравіцкім раёне паўстанні ўспыхнулі адразу ў чатырох вёсках. Раён практычна апынуўся на ваенным становішчы. З вялікім намаганнем створаныя ўвечары калгасы – на раніцу рассыпаліся. На сходах крычалі: "Мясцовай улады не прызнаем, давай Чарвякова!", "Далоў калгас! Даеш Польшчу!" Зрывалі чырвоныя сцягі і вывешвалі белыя. Пасылалі хадакоў у сталіцу. Іх вярталі: адных з Мазыра, другіх – з Мінска. І адпраўлялі на вывазку лесу.

Я многа чаго не разумеў, шмат у чым вагаўся. Але ўсё, што бачыў і чуў, запісваў сумленна. І ў мяне паступова складвалася агульнае ўражанне. Вельмі прыкрае ўражанне. Было бачна, што мясцовыя ўлады з работай па калектывізацыі не спраўляюцца. Старшыня сельсавета не ведае, на каго можна абаперціся. Не ведае колькі разабрана (самавольна!) насення. Колькі чалавек у групе беднаты. Актывісты запалоханыя і не праяўляюць ніякай ініцыятывы. Пастановы пра высяленне надзвычай шаблонныя, мала канкрэтных фактаў, усё агульныя фразы. І людзі часта не разумеюць, за што іх раскулачваюць. Таму работа фактычна спынілася. Калі пачыналі приставаць з угаворамі ісці ў калгас, людзі даставалі з-за пазухі газету з артыкулам Сталіна і трэслі ёю: "Мы таксама граматныя. Вось пачытайце!"

Але і там, дзе калгас сяк-так скалацілі, ніякай работы не вялося – ні падрыхтоўкі да перавыбараў, ні пасеўкампаніі, ні збору попелу. Мёртва. Старшыня мала

граматны і сам не ведае, хто ў яго ў праўленні. Не ўмее чытаць па-беларуску. Моладзь не ведае чым заняцца. Радыё- і кінаперасоўкі не працуюць. Бібліятэка бедная: пяцьдзясят беларускіх кніжак, пяць газет (“Звязда”, “Праўда”, “Беларуская вёска”, “”Чырвоная змена”, “Бязбожнік”), два часопісы (“Шляхі калектывізацыі” і “Изба-читальня”).

Крыху лепшай аказалася абстаноўка ў Тураўскім раёне. Тут, дзякуючы неблагой рабоце актыву сярод насельніцтва, ні паўстанняў, ні бунтаў фактычна не было. І к канцу трыццатага года на Тураўшчыне змаглі арганізаваць 29 калгасаў. Асабліва мяне здзівіў рост мясцовай партячэйкі. Амаль адначасова падалі заяву на ўступленне ў партыю 20 чалавек. Памятаю, пытаюся ў аднаго жахара, Навума Палубца: “Чаму ўступаеш?”. А ён адказвае: “Кіпучы мамэнт. Хачу памагаць партыйцам”.

Але і тут не абыходзілася без вострых сутычак, шматлікіх непаразуменняў. На сходзе, здаецца, у вёсцы Тонеж, мяне засыпалі пытаннямі: “А што будзе, калі цэлая вёска не пойдзе ў калгас?, “Якія правы будуць тым, хто запішацца ў калгас?” І нават такое:”Хто вам даў гэтае права так людзей мучыць?” Да глыбокай ночы я цярпліва тлумачыў людзям што да чаго і ў канцы сходу пачуў прыемнае для сябе: “От каб гэтак адразу казалі, чаго б мы тады супраціўляліся? А то: не пойдзеш у калгас – не будзе табе тут месца! Гэны самы начальнік міліцыі, што сёння так мякка гаворыць, дык да яго ні прыступу не было. Запісвайся – і ўся справа...”

А ў другой вёсцы, там жа, на Тураўшчыне, да мяне падышло двое тутэйшых жыхароў:

– Дзядзька, дайце паперы – курыць, кніжак дваццаць хаця б.

– Навошта вам столькі? – пытаюся.

– У дарогу, – кажуць. – Высылаюць нас.

Запасаліся курывам, сухарамі. Высылкі чакалі не толькі заможныя сяляне, але і многія серадзякі. Абстаноўка была вельмі напружаная, трывожная, і ў многім, як мне цяпер здаецца, ад таго, што метады работы былі не заўсёды правільныя, хацелася ўсё і адразу. Не заўсёды знаходзілі для гэтых палескіх сялян простае, пераканаўчае слова. Запалохвалі рознымі карамі, пагражалі высылкай. Дык каб жа толькі пагражалі...

Але тады, я павінен вам чэсна прызнацца, усе гэтыя дзеянні мясцовых уладаў у мяне, як упаўнаважанага, не выклікалі не толькі пратэсту, а нават сумненняў у правільнасці курсу на суцэльную і паскораную калектывізацыю. Занадта моцнай была вера ў неабходнасць рэвалюцыйнай перабудовы грамадства.

***– Убачанае і пачутае нейкім чынам паўплавала на вашу творчасць?***

– Канечне, уплывала. Але не толькі гэты мой вопыт упаўнаважанага. У тыя гады я шмат ездзіў па Беларусі. І з маладнякоўскімі, і з белапаўскімі брагадамі аб’ездзіў усе нашыя гарады, пабываў на буйнейшых заводах і будоўлях. І ў меру сваіх здольнасцяў адгукаўся на ўбачанае – вершамі, паэмамі, апавяданнямі. Творы мае друкаваліся ў часопісах і газетах, выходзілі асобнымі кнігамі.

Разам з тым мушу сказаць, што быў уплыў і іншага характару. Хоць творчая моладзь і сяброўвала, нягледзячы на розную арганізацыйную прыналежнасць, былі аднак аматары пагрэць рукі на раздзіманні ўяўнай варожасці. Атмасфера была напружаная і нервовая. Узаемныя крыўды, недаверлівасць, абвінавачванні, часта праўдзівыя, але абвязкова перабольшаныя з зярняці да снежнай лавіны.

У 1930 годзе прайшлі першыя арышты беларускіх вучоных, пісьменнікаў, былых дзеячаў нацыянальна-вызваленчага руху. Пагроза расправы навісла над Янкам Купалам і Якубам Коласам. Смяротны ўдар быў нанесены згуртаванню “Узвышша” і яго органу – часопісу пад той жа назвай, былі арыштаваны многія яго члены, а само згуртаванне і часопіс неўзабаве закрыты...

Супраць амаль усіх узвышаўцаў, у тым ліку і супраць мяне, высоўваліся са-

мыя неверагодныя палітычныя абвінавачванні. Бяда ў тым, што я сам і мая літаратурная раўня не ўмелі пісаць дакладна і выразна. Гэта давала магчымасць адвольнага тлумачэння твораў, дарэмных прычэпак, а то і проста махлярскага перакручвання.

Так было з маімі радкамі “Мы не хочам радасці вітаць, што чужымі дадзена рукамі”. Не ведаю, чыя злая рука ўпершыню выхапіла іх з верша, не чытаючы яго далей, каб прыпісаць мне жаданне адасобіцца ад сям’і савецкіх народаў. Менавіта не чытаючы. Бо каб прачыталі наступную страфу, дык не было б за што мяне лаяць нашай крытыцы, не было б за што хваліць падбрэхічам за мяжой.


*З жыхаркай вёскі Чапялі Марынай ХОЛАД. 1984 год.*

Тым не менш радкі былі выхаплены. І пайшла пісаць губерня... У адным з маскоўскіх выданняў мне далі такую характарыстыку: “Стихотворения первого периода его творчества полны личных, интимных переживаний. Советская действительность ему чужда: он не чувствует в современности почвы под ногами. В его произведениях заметно большое влияние нацдемовщины; отрицаемой им советской дествительности он противопоставляет идеализированное прошлое...”

Не лепшым чынам абыходзіліся са мною і дома. Крытыкавалі больш чым каго: справядліва, а болей несправядліва. На думку аднаго шаноўнага паэта (дальбог, не хочацца цяпер называць яго прозвішча), я, аказваецца, належаў да групы спадарожнікаў правага крыла, а гэта, маўляў, пісьменнікі, якія найбольш былі пад уплывам буржуазнай ідэалогіі. Адсюль, заключаў шаноўны крытык, і ўсе мае грахі: “ідэалістычны метад”, “калупанне ўнутры свайго “я”, “непазбыўны смутак і туга”, ідэалізацыя патрыярхальнай вёскі і мінулага Беларусі, ідэал Беларусі не савецкай, а нацдэмаўскай, адмаўленне класавай барацьбы, праявы буржуазнага гуманізму і таму падобнае...

***– Як жа вы маглі працаваць у такой атмасферы?***

– А мне і не далі працаваць. Усе мае далейшыя творчыя планы былі неўзабаве парушаны. Золкай сакавіцкай ноччу трыццаць трэцяга года мне даволі настойліва пастукалі ў дзверы. Літаратурную працу давялося прыпыніць сама тады, калі я пачаў станавіцца на ногі. Ну а пра тое, што перажыў у турме і ў высылцы, прабачце, не хачу расказваць – не люблю пра гэта ўспамінаць.

***– Што ж памагло выстаяць, выжыць?***

– Вы ведаеце, можа, гэта прагучыць трохі напышліва, але я скажу цвёрда: вера. Вера ў нашыя ідэалы, у лепшую будучыню, у тое, што ракавая памылка ў адносінах да мяне будзе ўрэшце рэшт выпраўлена і справядлівасць пераможа. Аб гэтым я нават верш напісаў: “Вось так я верыў... Можа слепа, ды гэтым дні трымаў свае і з пайкай лагернага хлеба, а часцяком і без яе...”

А яшчэ ў гэты цяжкі час мяне вельмі моцна падтрымала мая жонка, вядомая сёння паэтэса Яўгенія Пфляўбаўм. Яна, ахвяраваўшы ўсім, не пакінула мяне ў бядзе, прабыла ўсе тры гады разам са мною ў высылцы. Колькі жыць буду, буду ёй удзячны за гэта.

***– Рэпрэсіі закранулі многіх беларускіх пісьменнікаў…***

– На вялікае няшчасце, гэта так. Яшчэ да майго арышту былі рэпрэсаваны Максім Гарэцкі, Уладзімір Дубоўка, Адам Бабарэка, Язэп Дыла, Язэп Пушча...

Пасля ўзяліся за маладзейшых – Сяргея Дарожнага, Валерыя Маракова, Барыса Мікуліча, Андрэя Мрыя... Мае равеснікі, мае добрыя таварышы.

Усяго ж за 1932 – 1937 гады ў Беларусі было рэпрэсавана больш як 50 літаратараў. А колькі горкіх прагалаў у выніку гэтага палявання “за ведзьмамі” ўтварылася ў іншых атрадах творчай інтэлігенцыі! У выніку нашай культуры былі нанесены незваротныя страты.

Нашая бяда яшчэ і ў тым, што рэпрэсіі закранулі не толькі творчых, але і пэўную частку партыйных, савецкіх, гаспадарчых работнікаў. Адсюль, я перакананы, цягнуцца карані таго нацыянальнага нігілізму, з якім мы сутыкнуліся сёння, распрацоўваючы праграму адраджэння беларускай мовы, беларускай культуры.

***– На сённяшні дзень практычна ўсе нявінна асуджаныя рэабілітаваны і іх творы, раней забароненыя, вернуты нашай літаратуры.***

– Канечне, гэта добра. Вернутыя творы, несумненна, узбагачаюць нашую літаратуру, выклікаюць значны грамадскі рэзананс. Але несумненна і іншае: гэты рэзананс быў бы непараўнальна большым, калі б памянёныя творы прышлі да чытачоў своечасова. Я ўжо не кажу пра тое, што многія таленавітыя пісьменнікі, расстраляныя ў росквіце творчых сіл, да лепшых сваіх твораў яшчэ толькі падыходзілі. Хто і калі запоўніць гэтыя страты? Гэта няпраўда, што незаменных людзей няма. У мастацтве кожная асоба непаўторная і незаменная.

***– Вернемся, аднак, да вашай творчасці.. Ведаю, што вы зараз рыхтуеце да выдання выбраныя творы. Ці ўсё вас задавальняе з напісанага раней? Стваралася ж у розны час, пры розных абставінах і з розным настроем.***

– Гэта вы правільна заўважылі: розны час – розныя творы. Таму рыхтуючы іх да перавыдання, хацелася б пакінуць самае жывое, самае трапяткое, што можна ўзяць у руку і перадаць наступніку.

Я думаю, кожны чалавек стараецца скараціць сябе там, дзе некалі нагаварыў лішняга. Я магу вам паказаць томік сваіх ранейшых вершаў і тое, што ад іх засталося. Амаль з кожнага верша выкрасліў добра калі адну, а то і дзве, і тры страфы. А некаторыя вершы выкінуў цалкам. Можа, я ўжо і залішне сурова абышоўся, але мой цяперашні і жыццёвы, і творчы вопыт не дазваляюць мне паступаць інакш.. Я заўсёды кажу сабе: дбай ды дбай, каб сказаць усё, што рупіць, і так, як хочаш, каб не перабраць лішняга і не спыніцца, не дабраўшы патрэбнага. Хай выходзіць ад цябе слова такога гучання і даверальнасці, нібыта яно і ёсць адна-адзіная найбольшая і найчысцейшая ў цэлым свеце праўда, якое ні да гэтага не існавала, ні пасля не народзіцца... Ну вось, зноў збіўся на непатрэбны пафас. Прабачце...

***– Аляксандр Амвросьевіч, пры такой звышпатрабавальнасці як жа вам пішацца?***

– Пішу я марудна і цяжка. Ад першага накіду да больш-менш устойлівай рэчы, дзе праразаецца ўласная манера, адкідваюцца штампы, саступаючы месца словазлучэнням неабвыклым, мяне адлучаюць пяць-шэсць перапісванняў. Калі саспявае патрэба выказацца, сядаю за стол з адчуваннем, што нічога дагэтуль не рабіў, не ведаю і не ўмею. Пачынаю так, як той свой самы першы верш.

***– Нараджэнне верша – таямніца з таямніц. Розныя паэты прыход свайго паэтычнага натхнення тлумачаць па-рознаму. А як яно адбываецца ў вас?***

– А гэта, прызнацца па праўдзе, мне невядома і самому... Недзе глыбока жыве ўзрушэнне, часта не сабранае ў зрокавы вобраз. Яно, як сігнальны агеньчык, то ўспыхвае, то гасне, каб нарэшце перайсці ў трывалае і роўнае святло. Тады адкрываецца карціна. Для фіксацыі яе трэба слова. І яно не прыходзіць само, чакае рытмічнага штуршка, удалага сугучча, асновы, на якую наніжуцца радкі.

Ніводзін верш не напісаўся ў мяне як след, калі гэтаму не папярэднічала ўзнікненне мелодыі. Яна зноў-такі прабіваецца аднекуль з глыбіні, гучыць спачатку няўлоўна, а затым ўсё больш і больш выразна, пакуль з яе гукаў не ўтвараюцца

першыя два-тры словы, накід твора. Колькі пасля гэты накід будзе перапрацоўвацца, дапісвацца – Бог ведае. Але я ўжо настрой свой занатаваў, злавіў жар-птушку за хвост.



*Сярод землякоў на Слуцкім рынку.*

Для прыкладу я раскажу, як пачыналася мая паэма “Так нараджаўся новы свет”. Мы, група беларускіх пісьменнікаў, былі ў Маскве на пленуме творчых саюзаў. Выйшлі раніцай з Куляшовым з гасцініцы. І я раптам адчуў у сабе мелодыю. Вярнуўся ў гасцініцу, схапіў блакнот і пачаў запісваць. Радкі, паўрадкі, асобныя словы, сугуччы... Гэта выклікала думку, высвятляла ўсю задуму, увесь змест твора. Праседзеў цэлы дзень. Пасля пісаў у Друскеніках, у санаторыі, у Слуцку, нават у Нью-Ёрку, калі быў на сесіі ААН, а скончыў на дачы ў Ждановічах. Праца доўжылася амаль 15 гадоў!

Каб пачаць пісаць, патрэбен штуршок, зрух, тое, што паставіла б на дарогу пісання. Такі штуршок можа быць псіхалагічны – валявое, душэўнае намаганне да пераходу ў творчы стан, праз фізічныя дзеянні – наведванне месцаў, дзе запала ў душу першаўражанне, узнаўленне абставінаў, такіх, што запомніліся некалі. Гэта можа быць і проста зноў пачутая песенька птушкі, знойдзены ў папцы шматок паперы, дзе ў свой час запісаўся радок, рэпліка, слова – усё гэта можа аднавіць бачанае і чутае, і рука вольна пойдзе па паперы.

Пісанне – паўтару яшчэ раз – справа цяжкая і марудная. Я мала веру ў тое, што можна на тыдзень паехаць у калгас або на завод і гэтага хопіць на раман ці паэму. Пісьменнік, калі ён сапраўды творчая асоба, павінен няспынна, хоча ён ці не хоча, назапашваць матэрыял з наваколля: паводзіны і гутаркі людзей, здарэнні і з’явы, уражанні. Усё гэта будзе жыць у ім, выспяваць, чакаючы пары нарадзіцца на свет. Можна лічыць, што такое назапашванне, забеспячэнне свайго ўнутранага свету – значная частка работы над творам.

***– Ну вось мы лагічна падышлі да яшчэ адной важнай праблемы – літаратурнага майстэрства. Як вы лічыце, гэтае майстэрства даецца чалавеку ад Бога ці яму можна ўсё ж навучыцца?***

– Як на мой розум, навучыцца можна толькі таму, да чаго ў чалавека ёсць прыродная схільнасць і жаданне. Калі ж гэтага няма, то ніякія, самыя вопытныя настаўнікі, самыя прэстыжныя інстытуты нічому не навучаць.

Літаратура тут – не выключэнне. Наадварот, прыродны, боскі пачатак асабліва запатрабаваны. Прабачце, магчыма я скажу банальнасць, але для таго, каб напісаць мастацкі твор, мала ўбачыць з’яву і адчуць яе, трэба выказаць сваё адчуванне, перадаць убачанае па-свойму, па-новаму. У гэтым змяшчаецца своеасаблівасць і непаўторнасць пісьменніка, тое, чым ён адрозніваецца не толькі ад звычайных людзей, але і ад сваіх сяброў па пяру.

І разам з тым, пры ўсёй важнасці свайго, уласнага бачання рэчаіснасці я павінен зазначыць: найбольшы поспех спадарожнічае пісьменніку там, дзе асабістае ўбірае ў сябе агульначалавечае. Усякія спробы ўцякчы ў вежу са слановай косці

ад грамадства і тым самым ад сябе як асобы ва ўзаемаадносінах з часам канчаліся марна. Духоўная незапоўненасць аўтара клопатам сучасніка прыводзіць да вельмі не густой прозы і яшчэ радзейшых вершаў. Дробязнасць думкі і мізэрнасць пачуцця сіляцца прыхаваць пад манернасцю выражэння, уяўнай мнагазначнасцю, што часам збываецца ў друк пад выглядам філасафічнасці і нават наймяноўваецца філасофіяй. Пра што мы ўжо крыху гаварылі. Але магчыма варта паўтарыць яшчэ: даўно вядома, што чым вышэй майстэрства пісьменніка, тым прасцей форма яго твораў, тым выразней і даступней для разумення яны напісаны.

***– А чым, якімі крытэрыямі можна вызначыць ступень літаратурнага майстэрства?***

– Самы галоўны наш суддзя і наш непадкупны ацэншчык – чытач. Калі ён усёй душой прыняў твой твор, радуецца тваёй усмешцы або цішком уцірае слязу – значыць, твая праца не была марнай. Чытач не ведае і не павінен ведаць тваіх намаганняў. Як толькі ў творы кідаюцца ў вочы знакі ад сякеры ці наждака – бяда! Найчасцей гэта след рамесніцтва або так званага самаедства, калі талент ператочваецца звышсамакрытычнасцю: робяцца дзясяткі варыянтаў, а выбраць адзін, найлепшы, часам – самы першы, не стае густу.

***– Але пра густы, кажуць, не спрачаюцца.***

– Ведаеце што, густ, канечне, катэгорыя вельмі няпэўна акрэсленая, але тым не менш абавязковая для пісьменніка. Гэта – і выбар тэмы, і матэрыялу, і спосабаў апрацоўкі і, нарэшце, вызначэнне суразмернасці частак твору, умельства зазірнуць на ўсё сваё збудаванне цалкам. І тады – ужо ў гатовым! – адкінуць непатрэбную прыбудоўку, прыняць якую-небудзь пераборку ўсярэдзіне, каб паветра было больш і прастору для думак, здзіўленняў, нечаканак для таго, хто ўвойдзе ў твой будынак следам за табой.

Тут ужо, акрамя цябе самога, ніхто не дапаможа і нічога не дарадзіць. Густ ёсць густ, яго не могуць замяніць самыя танчэйшыя электронныя вымяральнікі і нават добразычлівыя знаўцы, з кім ты прывык раіцца перад надрукаваннем рэчаў.

Толькі тады можаш лічыцца майстрам, калі выспее сіла вырашыць: друкаваць твор ці не. Не хапае рашучасці ўстрымацца, адкласці ўбок слабае – відаць, сталасць рукі і думкі яшчэ не прыйшла.

Літаратурная праца патрабуе здольнасцяў і ўмельства, якія неабходна сістэматычна і мэтанакіравана развіваць. Нельга прыйсці на будоўлю дома і адразу пачаць выкладаць сцяну. Як многа кніг прайграе ад таго, што рука зусім не слухае аўтара, што няма навыкаў стройна разгортваць сюжэт, гаварыць лаканічна, што цэлыя старонкі і нават раздзелы майстар мог бы замяніць адным трапным сказам.

Літаратура вымагае, каб ёй былі аддадзеныя ўсе сілы да астатку, яна не церпіць абыякавага пісання ад часу да часу, нанізвання лянівым пяром лянівых думак і жорстка абыходзіцца з кожным, хто спрабуе выдаць ваду за слёзы, а ледзь прыкметны падагрэў за напал страсці.

На жаль ці, магчыма, на шчасце, каталогу спосабаў мастацкай апрацоўкі матэрыялаў не складзена, бо яны ніколі не паўтараюцца. Для выбару матэрыяла і спосабу яго апрацоўкі мала аднаго крытэрыя: гэта, бачыце, было, а мы павінны пісаць праўду – тое, што было. Аднак робячы так, не заўсёды нам удасца дасягнуць тыпізацыі, бо яна грунтуецца на памнажэнні вопыту, і не проста жыццёвага вопыту, а паўтаральнасці сітуацый, яркасці падзей і ўчынкаў, каб у іх быў момант узору і прыкладу.

Мерка “так бывае” і “так не бывае ў жыцці” патыхае, даруйце, літаратуразнаўствам каменнага веку. Твор з жыццёвым фактам, так сказаць, народжаны жыццём, можа выйсці з-пад пяра сюррэаліста, экспрэсіяніста, экзістэнцыяліста – словам, якога хочаце “іста”. Але ад рэалізму ён будзе на такой жа адлегласці, як Лысая гара ад Эльбруса. Па той простай прычыне, што для ўсіх падоб-

ных мастакоў, ці пераважнай большасці іх, рэчаіснасць – штосьці выпадковае, суб'ектыўнае. Таму, як ні парадаксальна гэта, іхняя абмежаванасць перарастае ў неакрэсленасць: дробязнае выдаецца за велічнае, а велічнае абмінаецца, не можа знайсці выражэння.

***– Скажыце, калі ласка, а як нарадзіўся ваш псеўданім – Максім Лужанін?***

– Тады, у дваццатыя гады, калі я пачынаў пісаць, было вельмі модна і нават прэстыжна выбіраць сабе прыгожыя, паэтычныя псеўданімы. Міхась Чарот, Алесь Дудар, Сяргей Ракіта, Цішка Гартны... Ну вось захацелася і мне замест праставатага Каратай выбраць прозвішча больш прывабнае, мілагучнае. Стаў думаць. Зямля наша беларуская багатая на лугі і лугавіны. А там буяе шмат рознага квету і красак. Гэтакая ж і наша мова – шматколерная і шматфарбная. Таму я і Лужанін. Што ж да імя Максім, то гэта ў гонар Максіма Багдановіча. Я хацеў, каб гэтае імя заўсёды было маім паэтычным эталонам.

## У сузор'і талентаў

***– Аляксандр Амвросьевіч, на вашым жыццёвым шляху сустракалася шмат яркіх, таленавітых асобаў. Хто з іх і чым вам запомніўся найбольш?***

– У гэтым сэнсе мне моцна пашанцавала. Паступіўшы ў 1924 годзе ў Мінскі педагагічны тэхнікум, я апынуўся ў гушчы літаратурнага, а крыху пазней і грамадска-палітычнага жыцця. Каб расказаць пра ўсіх, з кім сустракаўся, сябраваў, вёў гарачыя, задзірыстыя дыскусіі, у каго вучыўся жыццю і творчасці, нам з вамі не хопіць і цэлага дня. Таму, відаць, я спынюся толькі на тых асобах, хто зрабіў на мяне лёсавызначальны ўплыў.

Найперш – пра Янку Купалу. Першы раз я ўбачыў яго ў нас, на адным з тэхнікумаўскіх вечароў. Сіламі студэнцкага гуртка ладзілі "літаратурны суд над Лабановічам як грамадскім дзеячам". Колас сядзеў у пярэднім радзе, сур'ёзны, нават крыху суровы. Поруч з ім быў чалавек, які трымаўся іначай. Ён штосьці гаварыў Коласу на вуха, пасміхаўся і часам нават пляскаў у далоні, калі "пракурору" ці "абаронцу" ўдавалася заблытаць каго-небудзь са сведак. Седзячы збоку, я не мог добра разгледзець аблічча гэтага чалавека, але міжволі чамусьці сачыў болей за ім, чым за тым, што адбывалася на сцэне. І не адзін я рабіў гэта: многія позіркі і галовы былі скіраваны ў бок незнаёмага. Раптам ён павярнуўся назад і я пазнаў: Купала!

Але ў той вечар ні пабыць побач з любімым паэтам, ні тым больш пагаварыць з ім не ўдалося. Пасля "суду" Купала і Колас выйшлі з клуба разам і накіраваліся ўніз па вуліцы да рэчкі.

Аднак я не траціў надзеі, што яшчэ ўбачу Купалу. І такі выпадак неўзабаве надарыўся. Аднаго разу маладыя літаратары, седзячы ў Доме пісьменніка на Савецкай вуліцы, дзяліліся ўражаннямі аб нядаўнім літаратурным вечары, дзе выступаў і народны пясняр. Мікола Нікановіч, наш весялун і перасмешнік, даволі ўдала імітаваў Купалава чытанне. Тым часам нячутна адчыніліся дзверы, і голас, вельмі падобны да таго, які мы слухалі, перапыніў імітатара:

– А нішто сабе выходзіць, ліханька!

У пакой зайшоў Купала. Збянтэжаны Мікола густа пачырванеў і памкнуўся ўцякаць. Але Купала затрымаў яго і, каб зняць узніклую няёмкасць, павёў усіх нас у буфет. Вось дзе мы ўжо нагаварыліся!

На пачатку 1928 года я прынёс у Дзяржаўнае выдавецтва сшытак перапісаных ад рукі вершаў. Сакратар пагартаў, паківаў галавою:

– Не вазьму, нясі да "самога". Загадаў без ягонага дазволу вершаў да друку не прымаць.

"Сам" – гэта быў Цішка Гартны, у той час дырэктар выдавецтва. Адчуваючы,

што пад нагамі абсоўваецца падлога, я пастукаўся ў ягоны кабінет. Дырэктар сядзеў за сталом каля самага акна. А побач стаяў Купала, ужо збіраючыся адыходзіць.

– Што скажаш? – запытаўся Гартны ў адказ на маё здароўканне.

Я падышоў бліжэй. Іван Дамінікавіч зрабіў крок наперад і падаў мне руку.

– Здароў! – павітаўся тады і Гартны.

Страшэнна хвалюючыся, я вытлумачыў мэту свайго прыходу.

– Каб ты дуж быў! – пасміхнуўся Гартны. – Пішуць гэтых вершаў цэлыя стагі, а я – выдавай.

– А ты дзякуй Богу, што пішуць, – падаў голас Купала. – Бо машыны ў друкарні стануць, не будзе чаго рабіць.

Жарт зменшыў напружанне. Я пасмялеў і паклаў на стол сшытак. А Купала тым часам, пасміхнуўшыся, разважаў:

– Добрая ў нас прырода. Многа пра яе пісаць трэба... І маладыя хлопцы глядзяць на яе ўжо іншымі вачамі, чым глядзелі мы. Але адна справа – дрэва ў лесе, а другая – у вершы. Тут яно павінна ўжо не лісцем шумець, а чалавечым голасам гаварыць.

У словах Купалы прагучалі і дакор, і навука. Я зразумеў, што яны былі адрасаваны не столькі дырэктару выдавецтва, колькі мне, майму няўмеламу прыродаапісальніцтву. Неяк жа трапілі яму на вока мае першыя радкі.

Гартны бліснуў акулярамі на Купалу, потым на мяне.

– За дзесяць дзён перачытаю, зайдзі, – сказаў.

А калі я праз вызначаны тэрмін зайшоў у выдавецтва, сакратар падаў мой рукапіс, на якім красавалася рэзалюцыя: “Друкаваць”. Абрадаваны, я пайшоў, не здагадваючыся нават, як памог мне Янка Купала.

Прайшло некалькі год. Аднойчы летнім днём мы сустрэліся на Савецкай з Міхасём Зарэцкім.

– Пойдзем Купалу павіншуем, – сказаў ён. – Сёння ў яго дзень нараджэння.

Я сумеўся. Ісці няклiканаму? Няёмка.

– Не бянтэжся. Ён будзе рад, – супакоіў Міхась. – Ён добра ўспамінае цябе. Толькі вось зойдзем купім якую драбязу ў падарунак.

Купала нас сапраўды сустрэў з відавочнай радасцю. Мы даўгавата-такі пасядзелі за гасцінным сталом, падрыхтаваным дбайнамі рукамі жонкі паэта, Уладзіславы Францаўны. А калі прыйшла пара развітвацца, Купала сказаў:

– Дзякуй за падарункі, хлопцы. Але ад цябе, – ён зірнуў на мяне, – я ўжо каторы год чакаю падарунку не гэткага...

І ўбачыўшы на маім твары разгубленасць, растлумачыў:

– Помніш, як Цішку рукапіс прыносіў? Мы тады ж з ім удвух і прачыталі яго. А ты мне да гэтага часу кніжкі не падараваў.

Ад сораму я ледзь не згарэў. Назаўтра ж сабраў усё, што было выдадзена за гэтыя гады, зрабіў надпісы вершам і перадаў Уладзіславе Францаўне. Купалы дома не было.

– Дарагія ты мне словы напісаў, – сказаў ён пры сустрэчы. – А можа і не словы. Ты праўда любіш мяне?

І тады я вымушаны быў прызнацца, што ён ледзь не з дзяцінства мой любімы паэт.

А яшчэ прыгадваецца адзін сход ці дыспут (дакладна не магу сказаць), які праводзіўся ў клубе імя Карла Маркса, што стаяў да вайны насупраць Купалаўскага тэатра. Вялікая зала поўным-поўная. Белапаўцы, палымянцы, узвышаўцы – усе тагачасныя літаратары прысутнічаюць у поўным складзе. Прамоўца, асоба на той час уплывовая ў літаратурных колах, пералічвае пісьменніцкія грахі. Найбольш дастаецца “Полымю” і “Узвышшу”. Некаторыя пісьменнікі атрымліваюць індуль-

генцыі, яны “пераадольваюць памылкі”, таму пераводзяцца з разраду “правых” папутнікаў у “левыя”.

Не чую свайго прозвішча ні ў адным з “класіфікацыйных радоў”. Не ведаю: радавацца ці сумаваць. Раптам успамінаюць і маю работу ў якасці зусім нечаканай: халтура. Па катэгарычнасці тону – гэта амаль прысуд, закрэсліванне ўсяго напісанага.



*Пісьменнік любіў прыязджаць да вучняў Чапялёўскай сярэдняй школы, якую некалі сам заканчваў.*

У зале раптам чуюцца крокі. Галовы паварочваюцца на гук. Спыняецца прамоўца, здзіўлены такой непавагаю. Па праходзе не спяшаючыся ідзе Купала і хаваецца за дзвярыма.

Даслухоўваем апошнія заклікі стварыць магнітабуды літаратуры і разыходзімся. На лесвічнай пляцоўцы Купала дакурвае папіросіну і, убачыўшы мяне, спыняе:

– Хадзем са мною.

Па дарозе Іван Дамінікавіч тлумачыць:

– Я ўжо не мог уседзець. Ведаю, гэта можа кепска адрыгнуцца... Не веру я, што чалавека можна чаму-небудзь навучыць, б’ючы аглобляю... Не зважай на дурную крытыку. Будзем глядзець на большае. Астатняе ўсё – глупства. Мала што можа чапляцца за ногі ў вялікай дарозе.

Гэтая шчырая, сардэчная падтрымка народнага песняра саграваюць мяне ва ўсе часіны майго жыцця. Саграваюць і дагэтуль.

***– Згаданы вамі эпізод пра многае гаворыць. На такі ўчынак здольны далёка не кожны. Тым болей у такі суровы час.***

– Ведаеце, Купала ўвогуле быў стрыманы на выяўленне пачуццяў, раскрываўся перад суразмоўнікам не часта і ненадоўга. Гаварыў мала і скупа, ажыўленую размову падтрымліваў хіба што ў коле прыемных яму людзей, калі быў у асабліва добрым настроі.

Гэта не значыць, што ён шукаў адзіноты. Купала любіў бываць сярод людзей, і людзі шанавалі і ўмелі цаніць яго прысутнасць. Паэтычная моладзь таго часу гарнулася да Купалы, дзверы яго гасціннага дома не паспявалі зачыняцца за шматлікімі наведвальнікамі. Ён ведаў у твар усіх, каму ўдалося напісаць дзясятак прыстойных радкоў.

Вонкавая абаяльнасць Купалы магла растапіць любую душу. Нават дзіцячую, якая адчувае няшчырасць што называецца за вярсту. Летам 1932 года Купала прыехаў да нас у госці ў Калодзішчы, дзе мы з жонкаю здымалі палавіну хаты пад “дачу”. Івана Дамінікавіча вельмі ўсцешыў сын гаспадароў нашай хаціны. Гэты пяцігадовы хлапчук быў вельмі самалюбівы і засвоіў ад дарослых пагардлівае стаўленне да жанчыны, якое яшчэ бытавала ў сялянскіх сем’ях. Таму калі Купала паклікаў малога “Хадзі сюды!”, той адмахнуўся рукою: “Дык там жа бабы!” – “А я табе цукерку дам”. Хлопчык завагаўся, але ўсё ж падышоў і цукерку ўзяў. На дзіва, яны вельмі хутка падружыліся. Больш таго, калі Купала на развітанне запытаўся ў малога: “Дык можа паедзеш са мною?”, той пацягнуўся да вуха Івана Дамінікавіча і прашаптаў: “Паеду...”

І мы, і бацькі яго на момант анямелі ад здзіўлення: як і калі ўдалося гэтаму чалавеку знайсці ключык да такога незалежнага дзіцячага сэрца!

Ужо каля вагона Купала пасміхнуўся сам сабе і сказаў:

– Праўда, прывязі калі-небудзь малога да мяне. З ім варта сябраваць. З такіх аторваў моцныя людзі растуць.

І было яшчэ некалькі сустрэч у Маскве, летам 1941 года. Усе тыя дні Купала быў сумны, задуменны, але жыў упэўненасцю, што фашысцкая навала хутка мінецца і мы вернемся на родную зямлю.

У апошні раз я забег да яго на хвілінку. Развітацца. У кішэні ляжала позва з’явіцца на зборны пункт ваенкамата. Купала правёў мяне да трамвайнага прыпынку. Развітваючыся, адну руку палажыў мне на плячо, а другою зашпіліў мне гузік у пінжаку. Стала горача ў грудзях. З гэткім самым рухам выпраўляла мяне некалі маці вучыцца, а цяпер Купала выпраўляў на фронт.

Менш чым праз год у нашую часць прывезлі пошту. Я разгарнуў “Красную Звезду” і ўбачыў імя Купалы ў чорнай жалобнай рамцы. Радкі некралога плылі перад вачыма, блыталіся, мяняліся месцамі. Не верыць было нельга, але сэрца ўпарта не давала веры, не магло, не хацела пагадзіцца з гэтай жахлівай навіною.

Я не бачыў Купалу ў труне. Можа таму ён заўсёды ўяўляецца мне жывым: у садку, каля таполі, на трыбуне, за размоваю з хлапчуком на дачы, а найчасцей такім, як запомніўся ў час апошняй сустрэчы...

***– Вы былі добра знаёмыя, нават, здаецца, трохі сябравалі з Кузьмой Чорным.***

– Ну, сябравалі – гэта, можа, і загучна сказана. Але адносіны паміж намі сапраўды былі вельмі цёплыя, шчырыя, таварыскія. Першы раз я ўбачыў Кузьму Чорнага на пачатку зімы 1925 года. У рэдакцыі “Звязды” было чытанне новых твораў. Сабралася шмат прысутных – маладых літаратараў, студэнтаў універсітэта, супрацоўнікаў рэдакцыі.

Кузьма Чорны сядзеў на крэсле паміж двума сталамі, спінаю да акна. Па першых апавяданнях, так ці іначай звязаных з ваеннай тэмай, і па псеўданіму, пісьменнік уяўляўся мне высокім, шыракаплечым здаравяком, з гучным голасам, у скураной куртцы. І якое ж было маё расчараванне, калі я ўбачыў ціхага бялявага чалавека ў міншвееўскім мышастым бобрыку. Маладое, занадта белае, нібы крыху хваравітае аблічча з рэзка акрэсленай губою і раздвоеным падбароддзем. Прыцягваў увагу толькі цудоўны высокі лоб, які надаваў твару выраз задумення, глыбокага роздуму.

Чытаць Кузьму Чорнаму давялося апошнім, калі аўдыторыя ўжо парадкам стамілася. Таму чытаў ён спяшаючыся, не зусім выразна, без усякіх намаганняў падкрэсліць, падаць эфектны момант. Ці то праз гэтую абегласць вымаўлення, ці праз адсутнасць розных модных на той час літаратурных штукарстваў, апавяданне не зрабіла ўражання на прысутных. Затое заўвагі, справядлівыя і несправядлівыя, пасыпаліся як з меха. На здзіўленне, Чорны нікому не пярэчыў. Ён згарнуў рукапіс і, прамовіўшы нешта накшталт “трэба раздумацца”, пачаў апранацца...

Гады праз паўтара, на адным з падобных літаратурных сходаў, мне ўжо давялося чытаць самому. У адным з прачытаных вершаў былі радкі, дзе гаварылася, што я чую пад нагою кожны камень і нават шуршанне пяску. Гэтыя словы не прэтэндавалі ні на якія абагульненні і былі выкліканы выключна катастрафічным станам маіх студэнцкіх чаравікаў. Аднак Чорнаму штосьці ў іх упадабалася. Ён пасадзіў мяне поруч і нязвыкла доўга гаварыў пра паэзію, пра вучобу. Потым запытаўся:

– А ты не хворы?

Я сумеўся.

– А чаму ты як ідзеш, дык нагамі соваеш?

Праклятыя чаравікі! Я сапраўды баяўся падымаць ногі, каб не паказаць пратоптаных да дзірак падэшваў.

Чорны зірнуў на мяне і пра ўсё здагадаўся.

– Заходзь да мяне ў “Вёску”. І вершаў захапі, каб да жніва падышлі. Па-мойму, добра робіш, што працей пісаць стараешся. А чаравікі – купіш...

Ад таго часу пры сустрэчы ён, трымаючы маю руку ў сваёй, крыху адступаўся, уважна аглядаў мой абутак, круціў галавою, і мы дружна рагаталі.

Пасля запрашэння заходзіць у рэдакцыю я стаў даволі часта наведвацца ў “Беларускую вёску”, друкаваўся і ў самой газеце і ў літаратурным дадатку “Чырвоны сейбіт”.

***– Праца ў газеце, ведаю па сабе, забірае шмат сіл і часу. Калі ж і як удавалася яму пісаць сваё?***

– Справа ў тым, што Чорны разумна прадумаў свой графік. На работу прыходзіў рана, напружана працаваў да абеду, здаваў паложаную колькасць радкоў у нумар і больш не затрымліваўся. Далей – пачыналася праца за хатнім сталом. Прычым сталом бездакорнай чысціні з дзвюма кіпамі вялікіх аркушаў добрай белай паперы. Злева ляжалі ўжо спісаныя, а перад сабою – чыстыя. Да гэтага добра пасавалі і вельмі акуратныя кніжныя паліцы і наогул уся абстаноўка пакоя, дзе кожная рэч мела сваё месца і прызначэнне.

Мне не даводзілася бачыць памарак на рукапісах Чорнага, шматлікіх чарнавікоў, пакрэсленых і паблытаных шматкоў паперы, што больш-менш характэрна для нашага брата. Магчыма, ён перапісваў услед, не дапускаючы непарадку, а можа, многае пісаў адразу, начыста.

Спачатку мне здавалася, што творчаму працэсу пісьменніка не папярэднічала ніякая падрыхтоўчая работа – проста садзіўся і пачынаў пісаць. У сапраўднасці ж было іначай. Кузьма Чорны ніколі не выключаўся з творчага працэсу. Гэта заўважалася і на сходах, і пры гаворках, і нават у шумных бяседах. Ён шчыра весяліўся, успамінаў і выдумляў смешныя гісторыі, ад душы рагатаў. Здавалася, весялейшага чалавека і няма сярод прысутных. Але варта было зірнуць яму ў вочы, і яны выкрывалі ўсё. Вочы паблісквалі і няўтомна ўбіралі ў сябе позы і рухі суразмоўнікаў, іх вопратку, прыход новых асоб, узоры на сценах, лямпачкі пад столлю, мокрыя галіны за акном... Ён за ўсім назіраў. І не толькі заўважаў і запамінаў галоўнае, характэрнае, але і прыкмячаў усё смешнае, дробнае.

У апошнім для яго 1944 годзе мы жылі на вуліцы Берсана ў суседніх пакоях. Вечарамі ён прыходзіў піць чай у мой пакой – там была разетка і чайнік. Працаваць яму было забаронена, думаць, каб не хвалявацца, – таксама. Допыты і катаванне ў засценках КДБ падарвалі яго здароўе катастрафічна. Аднак пісьменніцкі сверб не даваў яму спакою. Чорны гаварыў пра будучы раман, вялікі, аркушаў на дзесяць, пра новую п’есу, нарэшце марыў аднавіць нарыс пра “Новую зямлю” Я. Коласа, чарнавік якога згарэў падчас вайны.

Задумы гэтыя, на жаль, так і засталіся не ажыццёўленымі, не давялося нам пабачыць яго новых твораў. А як многа чакалася яшчэ! Узрастала майстэрства, пашыраліся далягляды, сталела думка, цвярдзела рука. На сорак пятым годзе жыцця волата нашай літаратуры не стала...

***– Як цікава было б яшчэ паслухаць ад вас аповеды пра іншых вашых сяброў-калег – маладнякоўцаў Паўлюка Труса, Алеся Дудара, Сяргея Дарожнага, узвышэнцаў Адама Бабарэку, Уладзіміра Дубоўку, Язэпа Пушчу, Андрэя Мрыя... Але на гэта ў нас, як вы кажаце, не хопіць і цэлага дня. Буду прасіць вас як-небудзь іншым разам. А сёння не магу не запытацца пра Уладзіміра Караткевіча. Ведаю, што вы блаславілі ў друк ягоны самы значны і, можа, самы пакутны твор – раман “Каласы пад сярпом тваім”, напісаўшы для выдавецтва небывала вялікую рэцэнзію з мноствам крытычных заўваг, пасля якіх аўтар, нібыта, дужа на вас пакрыўдзіўся.***

– Не, усё было трохі не так. Аднойчы ў выдавецтве мне паказалі некалькі

пухлых папак, патлумачыўшы, што гэта рукапіс рамана Караткевіча “Каласы пад сярпом тваім”. Раман ужо друкаваўся ў часопісе “Полымя”, але ў дужа скарочаным і адрэдагаваным варыянце. А гэта – рукапіс у яго першасным выглядзе, як ён сышоў з пісьменніцкага варштата. І цяпер выдавецкія работнікі не ведаюць, што з ім рабіць. Я выказаў жаданне твор пачытаць і напісаць рэцэзію. Выдаўцы абрадаваліся і блаславілі. Перацягаўшы папкі ў машыну, я завёз іх на дачу і засеў за чытанне.

Канечне ж, у рамане агромністых памераў, якіх у нас яшчэ не было, малады аўтар не з усім управіўся даць рады. Недзе не дапільнаваў добрага густу, недзе не ўлічыў асаблівасцяў часу. Аднак недакладнасці і невыразнасці, перасолы і недасолы, пра якія давялося чуць у рэдакцыі “Полымя”, не бачыліся мне неадольнымі. Бо было галоўнае: твор жыў і жыццё ў яго ўдыхнута сапраўдным талентам. Аўтар адгарнуў немалую скібіну, стварыў шырокую панараму гераічных і трагічных падзей напярэдадні паўстання 1863 года. Захаплялі шматлікія эпізоды, дзе дыхалі, дзейнічалі, гаравалі і радаваліся жывыя людзі, кожны са сваім абліччам і клопатам, ствараючы атмасферу праўды, якую не падменіш і якую называюць мастацкаю.

Пра ўсё гэта я і сказаў у сваёй рэцэнзіі, зрабіўшы, аднак, і значную колькасць не заўсёды далікатных заўваг. Пры гэтым агаварыў, што гэта хутчэй і не заўвагі, а засмучэнні прыдзірлівага чытача, што вось тут аўтар мог сказаць лепей і чамусьці не сказаў, тут, замест таго каб ісці проста, даў вярсту кругу, там – натхнёна ляпіў вобраз і раптам – недакладным словам, непрадуманым учынкам перасаладзіў ці перагарчыў яго, а там – лінуў фарбы, калі трэба было ледзь даткнуцца пэндзлем.

І падагуліў свае заўвагі так: час, які адлучае аўтара ад напісання рамана, дае магчымасці для цвярозай развагі і дзеянняў у дачыненні напісанага ім з любоўю, талентам і дасведчанасцю.

***– І што Караткевіч?***

– Успрыняў даволі спакойна. Нават сказаў: “Ну вы крыху падсаладзілі, каб у выдавецтве не чапляліся...”

– Але гэта яшчэ не ўсё, – сказаў я тады. – Найбольш клёку – у “птушках” на кожнай старонцы, Доўга пісаць трэба.

– А вы не пішыце. Сядзем, перагартаем рукапіс. Што адразу папраўлю, а тое-сёе потым, падумаўшы.

Так і зрабілі. Некалькі дзён дзён мы з Валодзем працавалі не разгінаючыся з ранку да вечара. Значную частку заўваг знялі, астатнія, больш сур’ёзныя, ён забраў дадому – падумаць.

Якое ж было маё расчараванне, калі праз пэўны час папкі зноў трапілі ў мае рукі і я ўбачыў, што Валодзя адно толькі ахайненька павыціраў сляды алоўка на пазначаных намі старонках – вось і ўся работа. Не буду хавацца, стала гаркавата. Дзеля чаго аднаму было старацца чытаць, прадумваць, тлумачыць, а другому лёгка згаджацца, абяцаць памеркаваць дадаткова....

І тады я першапачатковы варыянт рэцэнзіі стаў дапаўняць усімі іншымі сваімі засмучэннямі і пажаданнямі. Атрымалася і сапраўды мнагавата – 75 старонак машынапісу. Калі рэцэнзія была скончана, Валодзя прыехаў да мяне, пачытаў, прызнаўся, што вярнуў рукапіс “з гарачых вачэй”, не спадзеючыся на выхад кнігі пасля любых пераробак.

– А як цяпер? – папытаўся я.

– Цяпер спадзяюся.

І сам завёз рукапіс у выдавецтва.

***– І ніякіх крыўд, непаразуменняў?***

– Што тычыцца непаразуменняў, то яны здарыліся крыху раней. Падчас маёй

работы на кінастудыі. Са сцэнарных курсаў Валодзя, наколькі помніцца, прыехаў з гатовым сцэнарыем. Складаўся ён з трох асобных навел пад агульнаю назваю "Гневное солнце палящее". Зразумела, у тыя часы нельга было і вытыркацца з выпускам фільма пад такой назвай. Да таго ж у першай навеле відавочнай была думка аб захаванні мінулага, спапяленні сучаснага.

Валодзя шмат чаго перарабіў, напісаў новыя старонкі. Аднак назву мяняць катэгарычна адмовіўся. Сцэнарый з некаторымі агаворкамі мы прынялі і паслалі на разгляд у Галоўнае ўпраўленне ў Маскву. Там ад яго пайшлі бурбалкі, а студыі наківалі пальцам.

Валодзя доўгі час лічыў, што больш за ўсіх вінаваты ў гэтай валаводзе – я. Так і можна было падумаць. Выконваючы абавязкі галоўнага рэдактара студыі, я мусіў падагульваць погляды на абмеркаваннях і такім чынам нібыта прымаць захады і рашэнні. Маім тлумачэнням ён не паверыў і пачаў бочыцца, ледзь-ледзь вітаўся.

Непаразуменне развеялася падчас нашай сумеснай паездкі. Ехалі з Брэста. Нас звялі і пакінулі адных у купэ. Маўчаць было няёмка. Пачалася размова, падобная спачатку на размову людзей, якія тыдзень таму навучыліся гаварыць. Але паступова далі волю зычлівасці, яснасці, сказалі адно аднаму шчырае слова...

Крыху пазней у артыкуле да майго 60-годдзя Валодзя з нагоды сваёй недарэчнай непрыязнасці журыўся: "Сорамна зараз прызнацца ў гэтым. Сорамна і пісаць. Але з адносін нашых гэтага не выкрасліш. Што ж, тым большая цана нашым цяперашнім добрым адносінам. Адносінам узаемнай павагі".

***– У кожнага пісьменніка, як вядома, свая манера пісання, свае няпісаныя правілы і звычкі. А як працаваў Караткевіч?***

– Як працаваў? Поначы і хутка. З папяросай і шклянкай чорнай кавы, за ноч не адной. Ніводнага разу я не бачыў, каб ён пісаў, абкладзены стосамі кніжак. Здавалася, што ён і не звяртаўся да кніг і дакументаў, здабываючы ўсё патрэбнае з глыбіні бяздоннай сваёй памяці.

Аднойчы я меў магчымасць непасрэдна назіраць, як Валодзя працуе. Рэдакцыя "Полымя" папрасіла ў яго напісаць пра мяне артыкул. Валодзя прыехаў у наш дачны пасёлак з самага рання. Размаўляючы пра ўсё на свеце, пра яго і пра мяне, пра нашых сваякоў, смуткі і ўпадабанні, мы прабавілі дзень і заўтрашнюю раніцу. Валодзя не разлучаўся з блакнотам, час ад часу нешта натуючы. На адыходзе папрасіў пачытаць што-небудзь з новага. Я выбраў урыўкі з паэмы "Так нараджаўся новы свет". Валодзя хутка запісваў асобныя строфы. Узяць перапісаныя на машынцы раздзел адмовіўся, сказаў, што запісаў дакладна.

І праўда, чытаючы ў часопісе ягоны артыкул, цытаты, запісаныя, здавалася б, похапкам, нідзе не былі перайначаны, нават неабавязковыя, інтанацыйныя знакі прыпынку стаялі на сваім месцы. Хуткасць чытання і запісвання ў яго была наўздзіўная, можна сказаць, маланкавая. Як і здольнасць запамінаць.

Марыў дабрацца да маёй бібліятэкі, асабліва да некаторых гістарычных і літаратурных рарытэтаў. А часта мы проста абменьваліся дэтэктывамі, звычайна на польскай мове. Адну кніжку, вельмі ўпадабаную, нават збіраліся разам перакласці. Перашкодзіла хвароба, з якой ён надоўга злёг у бальніцу.

Апошні раз ён пазваніў мне па тэлефоне недзе ў сярэдзіне дня. Я ўзрадаваўся. Спадзяваўся, што за тэлефонным званком прыйдзе і сам, і паплыве ў нас, як звычайна, шырокая размова са спасылкамі на вялікія цені папярэднікаў, пачую пераказы смешных і трагічных здарэнняў, а ведаў і помніў Валодзя болей чым можна ўявіць, быў чалавекам розуму сапраўды энцыклапедычнага.

Аж трубка расчаравала.

– Еду на Прыпяць, – чамусьці ўздыхнуў Валодзя.

На ўгаворы, што ён яшчэ не акрыяў пасля хваробы, што ў падарожжы тым невядома дзе будзеш начаваць, што трапіцца з'есці, гаварыў адно:

– Паеду. Са мною добрыя хлопцы. А можа, гэта апошні раз.

Так і напрарочыў сабе. Больш мы не ўбачыліся, не перакінуліся словам.

***– Ну і напаследак – два словы пра сваю працу ў Якуба Коласа. Два словы, таму што падрабязна пра гэта вы напісалі ў кнізе "Колас расказвае пра сябе". А я хацеў бы высветліць толькі адно: што за канфлікт адбыўся ў вас з Канстанцінам Міхайлавічам і чаму? Даруйце за магчымую нетактоўнасць пытання, але ж розныя чуткі ходзяць да гэтага часу...***

– Што-што, а папляткарыць у нас любяць! Уласна кажучы, ніякага канфлікту і не было. Восенню 1955 года, прыехаўшы з Чэхаславакіі, я паспяшаўся да Коласа. Даўнавата не бачыліся, падымала радасць сустрэчы і літаральна распірала ад навін.

Прынёс бутэлечку чэшскай слівовіцы. Канстанцін Міхайлавіч сядзеў каля стала ў звычайнай рабочай паставе. Нібыта гневаваўся за нешта. Падарунак узяў, амаль не абазваўшыся. Я палічыў за лепшае не назаляць чалавеку, развітаўся і пайшоў. Колас не затрымліваў.

Літаральна праз некалькі гадзін мне пазванілі і сказалі, што Канстанцін Міхайлавіч пасля майго адыходу выказваў нездавальненне. Колькасцю часу, якую я аддаю яму, работай, якую быццам бы раблю і не раблю.

Ісці і высвятляць адносіны не хацелася. Але і пачуццяў стрымаць не мог: напісаў ліст. Праз дзень-два пайшоў туды, каб, павітаўшыся, быццам нічога не здарылася, пакінуць напісанае на стале. А Колас захварэў.

І толькі месяцы праз паўтара, калі Канстанцін Міхайлавіч пайшоў на папраўку, я аддаў-такі свой даўно напісаны ліст. Паклаў, адыходзячы на папку з паперамі, і развітаўся.

Ледзь паспеў увайсці ў дом – званок.

– Еду да цябе! – пачуў я неспакойны голас Канстанціна Міхайлавіча.

І зараз жа прыехаў. Зачыніў за сабою дзверы ў мой пакой, паклаў на стол ліст, а сам не сеў.

– Я часамі думаў пра цябе ўсяк. Потым выходзіла не на маё. Можа, што лішняе і сарвалася з языка. Быў я вельмі знерваваны тады... Калі можаш, выбачай...

Вось і ўвесь канфлікт.

***– Аляксандр Амвросьевіч, тады дазвольце яшчэ адно пытанне. Значную частку свайго жыцця вы правялі побач з Якубам Коласам, працуючы ў яго літаратурным сакратаром. Што дало вам гэтае супрацоўніцтва як пісьменніку, і як чалавеку?***

– Вельмі многае Хачу сказаць, што Колас жыве ўва мне адразу ў некалькіх іпастасях. Па-першае, як настаўнік – у прамым, літаральным сэнсе гэтага слова. У педтэхнікуме я вучыўся ў яго методыцы выкладання роднай мовы. Па-другое, як літаратурны настаўнік. У тыя гады, калі мне давялося пачынаць свой шлях у літаратуру, буйных паэтычных твораў, акрамя Коласавых, яшчэ не было. І я многаму вучыўся ў Коласа. Пазней, калі я ўжо стаў працаваць з ім, гэтая вучоба набыла форму жывых непасрэдных гутарак. Ён вельмі строга адносіўся да маёй творчасці. Не пакідаў без увагі ніводнага нядбайнага слова, недакладнага выразу... Аднойчы, не паказаўшы рукапіс Коласу, я надрукаваў частку свайго твора ў часопісе. Ён шчыра пакрыўдзіўся. Мае апраўданні, што я пасаромеўся яго турбаваць, адымаць час, ён не прыняў. "А ты ж слухаеш тое, што я табе чытаю?" Пасля гэтага любы свой рукапіс на першую чытку я нёс Коласу, і ён заўсёды рабіў самыя дакладныя заўвагі, даваў самыя слушныя парады.

І трэцяя іпастась – чыста чалавечая. Колас па натуры быў чалавек увогуле даволі стрыманы, да размоў з мала знаёмымі людзьмі не вялікі ахвотнік. Але калі некаму давяраў, то ўжо расчыняў душу насцеж.

Не адразу сыйшоўся з ім і я. Колас доўга да мяне прыглядваўся, не раз і не два выпрабоўваў мяне ў розных абставінах. Знаёмства пачалося з сумеснай паездкі

ў Маскву. Яшчэ па дарозе, у купэ, разгаварыліся. Колас многа і добра расказваў пра сябе, пра работу на Піншчыне, пра судовы працэс і турэмнае зняволенне, пра тое, як стваралася “Новая зямля”. А калі прыехалі і пасяліліся ў гасцініцы, Колас нечакана прапанаваў перайсці да яго ў нумар: “Удваіх будзе весялей...”

З гэтага часу Колас як бы замяніў мне бацьку. Колькі ў нас было з ім шчырых, адкрытых, сардэчных размоў! Многае я выслухаў, многае запісаў. Кніга “Колас расказвае пра сябе” складаецца якраз з гэтых запісаў. Але многае яшчэ застаецца ў маёй памяці, чакае свайго часу.

*Дзякую пісьменніку за гутарку і выходжу ў зябкасць восеньскага дня. Парыў ветру падхоплівае жоўта-бурае лісце, што ляжыць на абочыне, і з цікім шамаценнем гоніць іх па мокрым асфальце. Журботна і нерухома стаяць распранутыя дрэвы. Пачарнелыя ад дажджоў, азяблыя ад начных халадоў... Але жалю яны не выклікаюць. Наадварот: у гэтай іх адкрытасці, неабароненасці ёсць нешта мужнае і гордае, а ў журботнай задуменнасці схавана нейкая таямніца...*

*Восень прыроды і восень чалавечага жыцця... Філосафы знаходзяць у гэтым нямала тоеснага. Зрэшты, паэты таксама.*

Я намерыўся ехаць. Параюся з картай
І патраплю на могільнік пройдзеных дзён.
Хоць зірну, ці ёсць завязь пасеяных мар там,
Ці прапрадзедаў колас на ветры відзён.

*Мне не выпадкова прыгадаліся гэтыя пранікнёныя радкі Максіма Лужаніна на фоне асенняга горада. У іх, як мне здаецца, схавана свая таямніца. Таямніца, якую мы ўсе разам і кожны паасобку спрабуем спасцігнуць: якое ж прызначэнне чалавека? У чым сэнс і мэта зямнога быцця?*

*Пісьменнік, з вышыні пражытых дзесяцігоддзяў, адказвае на гэтыя пытанні так: пакінуць на ніве жыцця “завязь пасеяных мар”, зберагчы ад усіх сцюж і вятроў “прапрадзедаў колас”... Формула як быццам простая. Але я цяпер ведаю: выпакутавана яна ўсім няпростым жыццём чалавека-працаўніка, напоўнена крывёю гарачага сэрца сапраўднага сына сваёй зямлі.*

*1989*

Сяргей Шапран



…не вытрымае падмурак выбуху тых мін,
якія пад яго ўжо закладзены, —
і няма нашага храма, і мы не народ,
а насельніцтва…

# Уладзімір Някляеў. Незавершаная аўтабіяграфія

***Старонкі новай кнігі***

*Працяг. Пачатак у №№6 (73), 1-2 (74-75).*

## ДЗЯДЫ-88

30 кастрычніка 1988 г. тысячы мінчукоў, якія прыйшлі да Усходніх могілак, каб адзначыць Дзяды, ушанаваць памяць продкаў, былі разагнаныя міліцыяй. Гэты быў першы адкрыта выяўлены канфлікт беларускага народа і савецкай улады. У той жа дзень Уладзімір Някляеў напісаў верш «Маўклівы мітынг»:

Усё, што коціцца,
Дакоціцца да нас...

І дакацілася.

Ля могілак якраз,
Дзе сны пра вечнасць сняць
Ці спяць без сноў
З усімі
Караткевіч,
Куляшоў... —
Маўклівы мітынг.

З кожным, хто прыйшоў,
З'явіліся і сталі побач продкі...

Маўклівыя
    стаялі цені родных,
        Маўклівыя
            стаялі цені блізкіх:
Пад крыжам злеглых. Зоркай. Абеліскам.
Ва ўсіх Хатынях спаленых. Забітых
Пад Грунвальдам. На Калыме «прышытых».
Бясследна зніклых. Хапам пахапаных.
Нікім, нідзе, ніяк не пахаваных,
Ці ў Курапатах
        скінутых у роў...

Ад плоці плоць
І ад крывінкі кроў —
Мы ведалі,
пра што маўчалі з імі.
Жывыя з мёртвымі.
І мёртвыя з жывымі.

І ўпершыню, маўкліва сцяўшы рот,
З натоўпу глянуў люд. Амаль народ[1].

Праз дваццаць гадоў Някляеў прызнаецца: «Тыя Дзяды паўплывалі на мяне і эмацыйна, і палітычна, і як заўгодна яшчэ. Таму што са мною сталася тое самае дзіва, якое сталася з большасцю людзей. [...] Адна справа — чытаць у творах Уладзімера Караткевіча, што ёсць народ беларускі, ёсць гісторыя беларуская. І зусім іншая справа — увачавідкі ўбачыць: вось яна, Беларусь, прыйшла ў гэтых вось абліччах дзяўчынак, цётак і мужыкоў. Вось яно, тваё. Я тады ўпершыню неяк аб'ёмна ўбачыў рэальную Беларусь. І тэксты свае я стаў усьведамляць па-іншаму. Яны сталі шукаць нейкі адрас, пачалі шукаць, да каго прыйсьці. Я ўсё гэта і ўсіх іх — убачыў»[2].

Дзяды-88, на думку Някляева, адна з найважнейшых палітычных падзей у беларускй гісторыі, якая, калі вынесці, па яго словах, за дужкі Вялікае Княства Літоўскае і стварэнне ў 1903 г. Беларускай сацыялістычнай грамады, фakталагічна выглядае наступным чынам:

1917 г. — рэвалюцыя;
1918 г. — утварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі;
1 студзеня 1919 г. — абвяшчэнне БССР;
жнівень 1920 г. — Варшаўская бітва палякаў з бальшавікамі;
1924 г. — першае ўзбуйненне Беларусі;
1926 г. — другое ўзбуйненне Беларусі;
1947 г. — прыняцце Беларусі ў склад краін-заснавальніц ААН;
30 кастрычніка 1988 г. — Дзяды.

«Недакумэнтальным вынікам іх [Дзядоў-88. – *С. Ш.*] стала ўсясьветнае разуменьне таго, што Беларусь была, ёсьць і будзе. А дакумэнтальным вынікам стала прыняцьце Дэкларацыі аб сувэрэнітэце і стварэньне Рэспублікі Беларусь. Будзьма шчырымі: што, пракамуністычная бальшыня ў Вярхоўным Савеце спалохалася двух дзясяткаў дэпутатаў з БНФ? Не, яна спалохалася тае Беларусі, якая праявіла сябе 30 кастрычніка 1988 году»[3].

Разам з тым Дзяды-88 сталіся прычынай і для несуцяшальных роздумаў паэта: «“Як ні горка і ні смешна, калі мы пачынаем гаварыць аб адраджэнні беларускага народа, аб патрэбе для яго нацыянальнага і палітычнага жыцця, нам задаюць пытанне: чы мы, беларусы, у сапраўдзі ёсць жывы народ, чы не маем мы намеру

стварыць нейкую штучную нацыю і штучнае палітычнае ўладарства?..” – пачаў сваю кнігу пра праблемы самавызначэння беларусаў Фабіян Шантыр.

Было гэта ў 1918 годзе.

У 1998-м – праз 80 гадоў, праз цэлае жыццё! – мы чуем тое самае пытанне.

Чаму беларусы так і не здолелі давесці, што яны “ў сапраўдзі ёсць жывы народ?” Пачынаючы не ад Шантара і не ад Купалы – ад Каліноўскага? Толькі таму, што Каліноўскі быў павешаны, Шантыр расстраляны, Купала скінуты з 9-га паверха гатэлю “Масква”? Толькі праз тэрор, толькі праз знешні ціск нам так дасюль і не ўдалося здзейсніць нацыянальную мару?..

Не.

Я раптам зразумеў гэта дзесяць гадоў таму – 30 кастрычніка 1988 года, на Дзяды, убачыўшы, як побач з могілкамі, дзе ў зямлі ляжалі мёртвыя, пасламіся на гэтай жа зямлі, хто стаўшы на калені, хто сеўшы на кукішкі, жывыя. Пасламіся перад сілай, шэрай у шэрых шынялях, што насоўвалася на іх па полі, дзе яны спыніліся на мітынг. Нехта спрабаваў выпрастацца, падняцца, каб прарваць тую сілу, яе шэрыя ланцугі, але ўсе астатнія крычалі: “Сядайце! Няхай яны ідуць – сядзем перад імі! Нічога не робім! Сядай, Беларусь!”

І Беларусь села. У халодным полі пад сцюдзёным ветрам, пад колкім, што ляцеў дробным шротам, снегам...

З усяго, што адбылося тады каля Усходніх могілкаў і па дарозе на Курапаты, гэты сядзячы мітынг уразіў мяне найбольш. Уражаны, я хацеў напісаць, што нельга перамагчы на каленях, на кукішках! Але я быў разам з усімі... і напісаў не пра сядзячы мітынг, а пра маўклівы.

Мы ведалі, пра што маўчалі з імі,
Жывыя з мёртвымі і мёртвыя з жывымі.
І ўпершыню, маўклівы сцяўшы рот,
З натоўпу глянуў люд. Амаль народ.

У тым і праблема, што *амаль*» [4].

## ДАВЕРАНАЯ АСОБА

У 1990 г. Уладзімір Някляеў — давераная асоба кандыдата ў народныя дэпутаты СССР Алеся Адамовіча. Перад тым ён, праўда, даў згоду быць даверанай асобай Васіля Быкава, але так сталася, што Адамовіч з Быкавым яго без яго «падзялілі»[5].

У хуткім часе і сам Някляеў стаў кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР. Прычым, па ўласным прызнанні, даволі нечакана для сябе — яго вылучылі камсамольцы. Адмаўляцца не выпадала, бо — лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола, на БАМ ездзіў... За ўсё ў жыцці



*З Аляксеем ДУДУРАВЫМ і Алесем АДАМОВІЧАМ.*

рана ці позна даводзіцца разлічвацца[6]. Камсамольцы ж у дадатак папрасілі, каб на сходзе, на якім вылучаўся Някляеў, прадставіў яго Васіль Быкаў. І Быкаў «прыйшоў на сход, — прыгадвае Някляеў, — расхваліў мяне і пайшоў.

Выступіў так, што ўзнікла паўза — і нехта ўскочыў: "Някляеву пісаць трэба, а не на палітыку час марнаваць!.."

І мяне не вылучылі, прагаласавалі супраць. Усё наогул магло добра скончыцца, але апамяталіся: "Чакайце, мы ж тады без кандыдата застанемся!.." — і аднагалосна перагаласавалі»[7].

Далей пайшло, як і прадбачыў Быкаў: Някляева паклікалі ў гаркам партыі, дзе тагачасны сакратар па ідэалогіі Пётр Краўчанка прапанаваў акругу, па якой ад Беларускага народнага фронту абіраўся Міхась Ткачоў. Чалавек, якога Някляеў паважаў і таму рэгістравацца па яго акрузе адмовіўся і «выбраў акругу пад нумарам 13, дзе ад БНФ абіраўся Алесь Емяльянаў, які рабіў палітычную кар'еру на публічным прызнанні ў тым, што быў стукачом»[8].

Дэпутатам Вярхоўнага Савета Някляеў не стаў, бо, не адчуваючы ў той час памкненяў да палітыкі і не маючы палітычных амбіцый, ніякіх стараннаў для таго, каб стаць дэпутатам, не прыклаў: пасля першай жа сустрэчы з выбаршчыкамі з'ехаў з Мінску ў дом творчасці пісаць вершы.

## У ЧАС МАЎЧАННЯ. «ПРОШЧА»

«...На перападзе 80-90-х гадоў, пазначаных агульным грамадска-палітычным і культурным крызісам, творчая актыўнасць Уладзіміра Някляева перапыняецца даволі працяглай паўзай: не выдаюцца ягоныя кнігі, рэдка з'яўляюцца публікацыі ў перыядычным друку. "Ператрываць гэты боль, перамаўчаць гэты час", — так патлумачыць прычыну паўзы сам паэт»[9]. І пасля ўдакладніць: «Вы разве скучаете без моих стихов, вам чего-то без них не хватает? Полагаю, что нет. И никто не скучает, всем всего хватает. Почти десять лет все истошно, надрывно о чём-то кричат — и никто никого не слышит. Люди оглохли от собственного крика, оглушили время, пространство. В эту "чёрную дыру" бессмысленно вбрасывать стихи, они погибнут, как новорождённые в пустыне. Жалко»[10].

Разам з тым Л. Турбіна адзначала, што хоць «час гэты ў творчай біяграфіі паэта вонкава сапраўды выглядае, як час маўчання, але толькі вонкава, бо ўнутрана, нібы прыхаваная ад таго, каб не сурочылі, выспявае кніга вершаў і паэмаў "Прошча"[11]. Кніга ў нечым пацвердзіла адно з даўніх дапушчэнняў Уладзіміра Някляева пра тое, "што чуць і бачыць — значыць быць маўклівым". У "Прошчы" значна паўней, глыбей, чым у любым ранейшым зборніку, *пачута нячутнага і ўбачана нябачнага*, а тым самым спраўджана ці не асноўнае прадвызначэнне паэзіі. У паўзе, як аказалася пасля з'яўлення "Прошчы", іншым разам значна больш сэнсу, чым у таропка прамоўленым слове»[12].

Увогуле, на думку крытыка, «жанр паэмы[13], бадай, найбольш арганічны для Уладзіміра Някляева, найбольш адпаведны прыродзе ягонага таленту. Гэта тая дыстанцыя, на якой паэт найглыбей дыхае, лепш за ўсё сябе пачувае, і паэмы ягоныя без аніякага перабольшання можна аднесці да найзначных здабыткаў сучаснай літаратуры. Яны ж перш за ўсё дазваляюць вызначыць "Прошчу" як кнігу, што выводзіць нас з шэрагу лінейных будняў, узносіць у тую касмічную прастору духу, дзе паўстаюць апошнія пытанні нашага існавання на гэтым свеце, і не толькі на гэтым...»[14]

У сваю чаргу Любоў Гарэлік адзначала: «Безумоўна, "Прошча" — лепшая з кніг паэта, але, на жаль, да гэтага часу як след не прачытаная крытыкамі, а між тым ёй належыць значнае месца ў літаратурным працэсе. Вострай надзённай праблематыкай, суперажываннем чужога болю, як уласнага, багатай вобразнай

сімволікай, згушчанай метафарычнасцю, дыялектыкай мыслення, заснаванай на бінарных апазіцыях, "Прошча" У. Някляева засведчыла блізкасць да паэзіі французскіх рамантыкаў і сімвалістаў — Ш. Бадлера, П. Верлена, С. Малармэ»[15]. А Алесь Карлюкевіч, заўважаючы, што ў кнізе «Прошча» «ёсць нешта гранічнае з самавычарпальнасцю, што для паэзіі небяспечна», праводзіў зусім іншыя паралелі: «У паэтычнай асобе аўтара "Прошчы" здзейснілася дзіўнае спалучэнне. Калі гаварыць фігурамі знакавымі, то, як мне асабіста падаецца, сышліся на адной сцежцы і не збіраюцца разыходзіцца Купала і Колас. І справа, справа параўнання зусім не ў тым, што хочацца прымераць на Някляева кашулю, сатканую з Купалавай рамантычнасці, шляхетнасці і Коласавай жыццёвай практычнасці, стрыманасці. Мы ж гаворым пра паэзію, а не толькі, а мо нават і зусім не пра жыццё. І наўрад ці трэба даказваць, што Купала і Колас абодва — паэты. Някляеў — таксама. Ён — наступнік, традыцыяналіст і разам з тым наватар [...]». І ў завяршэнне А. Карлюкевіч пісаў пра тое, што «так і карціць надаць Уладзіміру Някляеву прыгожае мастацкае (не палітычнае!) азначэнне: еўрапейскага ўзроўню паэт, альбо — усеславянскі паэт»[16].

Па вызначэнні ж Міхася Скоблы, «Прошча» — адна з найлепшых паэтычных кніг не толькі самога Някляева, а наогул мінулага стагоддзя[17]. І, безумоўна, меў рацыю Леанід Дранько-Майсюк, калі пісаў, што ў «Прошчы» «мы ўбачылі іншага Някляева — нацыянальнага паэта»[18].

Сам жа Някляеў прызнаўся ў «нулявыя» гады: «Апроч кахання, сям'і, сяброў, Бог даў яшчэ і занятак, які па мне. Літаратуру. Паэзію. Хоць доўгі час, даволі жорстка сябе ацэньваючы і самому сабе не давяраючы ("Нібыта ўвайшоў без білета Туды, дзе спытаюць білет..."), я і Богу не давяраў. А раптам Ён памыліўся?.. І толькі пасля трэцяй ці чацвёртай кнігі, ці нават пасля пятай, пасля "Прошчы", я падумаў, што, можа быць, і не сталася памылкі на нябёсах. А калі сталася, дык невялікая»[19].

## «САМЫ ФАРТОВЫ»

23 красавіка 1998 г. адбыўся XII з'езд СП Беларусі. Ён праходзіў у Доме літаратара, які належаў ужо не літаратарам — гаспадарчаму ведамству прэзідэнта. Пры вылучэнні на пасаду старшыні праўлення СП восем чалавек свае кандыдатуры знялі, застаўся адзін Някляеў, які і быў абраны на безальтэрнатыўнай аснове большасцю галасоў[20].

Напярэдадні з'езда сябры-пісьменнікі Аляксей Дудараў, Генадзь Бураўкін і Сяргей Законнікаў пераконвалі яго, што на дадзеным гістарычным этапе на чале СП патрэбен толькі ён — Някляеў[21]. Сам жа ён пісаў перад гэтым: «Аднак, калі ўжо з'езд пазначаны фартовай лічбай 12, то пафарціць павінна ўсім: і тым, каго абяруць, і тым, каго не. Невядома, праўда, каму болей». І далей прадбачліва заўважаў: «Наперадзе чакае з'езд № 13, чортаў тузін, і хто яго ведае, што там станецца з самым фартовым»[22].

Ужо пасля з'езда новаабраны старшыня казаў: «Многие могли бы сегодня возглавить СП, но лишь на уровне представительском. Все восемь человек — люди серьёзные, творчески одарённые, с опытом. Но, видно, задумались: собственно говоря, а что же дальше делать? Союз писателей не может не стоять на прежних позициях: национальная независимость, приоритет белорусского языка — другого никто и не ожидает. А дальше что? Продолжать декларировать или начать подкладывать под слова нечто конкретное? Для этого нужна и определённая гибкость, и согласие чем-то поступиться, если вообще не наступить на горло собственной песне. Пойти на такое сегодня не значит облегчить собственную жизнь: за рабочим столом будешь сидеть с одними мыслями, а приходя в кабинет власти,

вынужден лавировать, притираться, хитрить. Для творческого человека — это не самая лучшая ситуация». Пры гэтым Някляеў заўважаў: «Вот кем бы мне не хотелось быть, так это политиком, хотя и понимаю, что сейчас избежать этого будет очень сложно»[23]. І ўжо значна пазней, калі яго кіраванне СП застанецца ў мінулым: «Понимая, что на самом деле происходит, я предпринял попытку договориться с властью. Смысл попытки заключался в том, что литература готова поступиться частью своего суверенитета в обмен на нейтралитет. Попытка была изначально ошибочной, потому что литература изначально суверенна. Я имею в виду литературу, а не всяческих тех и этих, которые в ней подвизаются»[24].

Між іншым, некаторыя з «тых і гэтых», якія ў літаратуры «подвизаются», звярнуліся да новага кіраўніка СП з прапановай... данасіцельства. «Эти люди, может, как никто понимают, что жизнь — это борьба всех против всех. И лучшее оружие в борьбе со всеми — это информация. И чем больше у тебя информации, тем ты сильнее. Причём каждый из стукачей, очевидно, думает, что коль человек стал начальником, то это место для него дороже всего. Вот и приходят: “Я знаю, что такой-то и такой-то встречался с тем-то и тем-то, а тот был в Совмине и о тебе произошёл следующий разговор...” Правда, я в услугах подобного рода не нуждался»[25], — рэзюмуе Някляеў.

Вядома, не ўсім новаабраны старшыня прыйшоўся даспадобы. Але дзіўна было не гэта, а тое, як яно выяўлялася: спачатку садралі шыльду над уваходам у рэдакцыю «Крыніцы», пасля — шыльду «ЛіМа», затым — шыльду з дзвярэй някляеўскага кабінета ў СП (тут ужо было вядома, што зрабіў гэта адзін народны паэт). Такім чынам, Някляеў стаў, мусібыць, чэмпіёнам СП па садраных шыльдах. А можа, не толькі СП[26]. Пасля ж «пачалі ўзломваць замкі, біць сантэхніку, нават сабачыць на ганку»[27].

Зразумела, гэта не дадавала імпэту ў працы, якая аказалася больш чым няпростай. Някляеў стаў на чале Саюза пісьменнікаў «без аніякіх папярэдніх дамоўленасцяў з уладай, маючы свой план выпраўлення сітуацыі, у якой аказаліся пісьменнікі. Палягаў ён на тым, каб не толькі вярнуць пісьменніцкую маёмасць, а стварыць на яе падмурку камерцыйныя структуры і пазбавіцца татальнай залежнасці ад дзяржавы, займець хоць нейкую свабоду. А свабода, калі ўбаку пакінуць балбатню пра яе, гэта эканамічная самастойнасць»[28].

Зыходзячы з акрэсленай задачы, старшыня Саюза пісьменнікаў пачаў гульню з уладай (забягаючы наперад, можна сказаць, што ўрэшце яна, гэтая гульня, не танна яму абыйшлася).

*«№ 133/1* *8 ліпеня 1998 г.*

ГЛАВЕ АДМІНІСТРАЦЫІ ПРЭЗІДЭНТА
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
МЯСНІКОВІЧУ М. У.

Паважаны Міхаіл Уладзіміравіч!

Як Вы, напэўна, ведаеце, нядаўні XII з’езд Саюза пісьменнікаў заклаў трывалую аснову для кансалідацыі пісьменніцкай арганізацыі і актывізацыі творчай дзейнасці майстроў пяра і літаратурнай моладзі, скіраваўшы іх на больш глыбокае асэнсаванне і мастацкае адлюстраванне гістарычнага і сённяшняга жыцця народа і краіны.

Апроч творчых пытанняў, Саюз пісьменнікаў, як і любая іншая ўстанова, мае арганізацыйныя, фінансава-гаспадарчыя праблемы, якімі павінна займацца кіраўніцтва пісьменніцкай арганізацыі і ў вырашэнні якіх мы просім Вас аказаць дапамогу:

1. Устанавіць, што дні нараджэння Янкі Купалы (7 ліпеня), Якуба Коласа (3 лістапада) і Максіма Багдановіча (9 снежня) — знакавых велічынь беларускай нацыянальнай культуры — з'яўляюцца знамянальнымі датамі і адзначаюцца на дзяржаўным узроўні; закласці ў бюджэт і накіроўваць праз Міністэрства культуры сродкі, неабходныя для правядзення мерапрыемстваў, звязаных з названымі датамі.

2. Узнавіць пры Саюзе пісьменнікаў дзейнасць бюро прапаганды беларускай літаратуры і метадычнага кабінета, увёўшы ў штат СБП адзінкі дырэктара бюро прапаганды, намесніка дырэктара і метадыста-арганізатара, загадчыка метадычнага кабінета і метадыста, забяспечыўшы гэтыя адзінкі дадатковым фондам зарплаты.

3. Перадаць ва ўласнасць Саюза пісьменнікаў будынак па вул. Фрунзе, 5, ці пры немагчымасці гэтага — выдзяліць у карыстанне СБП трэці паверх, кабінет старшыні Саюза пісьменнікаў на другім паверсе, бібліятэку, а таксама для гаспадарчых патрэб падвальнае памяшканне і гараж з пагашэннем арэнды і камунальных паслуг за кошт бюджэтных сродкаў.

4. Надаць будынку па вул. Фрунзе, 5 ранейшы статус Дома літаратара, перавёўшы адзінку начальніка корпуса ў штатную адзінку дырэктара Дома літаратара.

5. Устанавіць, што ўсе творчыя і арганізацыйныя мерапрыемствы Саюза пісьменнікаў праводзяцца ў Доме літаратара прыярытэтна і без аплаты за арэнду памяшканняў, неабходных для іх правядзення.

6. Перадаць ва ўласнасць Літаратурнага фонда Саюза пісьменнікаў будынак па вул. Румянцава, 4 для ўзнаўлення дзейнасці паліклінікі і супольнага карыстання ёю членаў усіх творчых саюзаў.

7. Хадайнічаць перад Мінскім гарвыканкамам аб выдзяленні за кошт дзяржаўнага фінансавання штогод двух-трох кватэр для паляпшэння жыллёвых умоў членаў Саюза і супрацоўнікаў літаратурна-мастацкіх выданняў, заснавальнікамі якіх з'яўляецца Саюз пісьменнікаў.

8. Даручыць Дзяржкамдруку распрацаваць і ўнесці ў Савет міністраў Пастанову аб адлічэнні Беларускаму літаратурнаму фонду 5% ад ганарару па ўсіх выдавецтвах і 1,5% ад прыбытку па ўсіх друкарнях — на выданне беларускамоўнай літаратуры і матэрыяльную падтрымку літаратараў, на медыцынскую дапамогу, дапамогу па старасці і г. д.

9. Даручыць Дзяржкамдруку стварыць пісьменніцкае выдавецтва "Літаратурны фонд" шляхам выдачы ліцэнзіі на выдавецкую дзейнасць Беларускаму літаратурнаму фонду, забяспечваць выдавецтва дзяржзаказамі, прыбытак ад якіх скарыстоўваць на выданне твораў сучаснай беларускай літаратуры.

10. Хадайнічаць перад Саветам міністраў Рэспублікі Беларусь аб падатковых льготах на фінансава-гаспадарчую дзейнасць Беларускага літаратурнага фонда.

11. Хадайнічаць перад Міністэрствам фінансаў Рэспублікі Беларусь аб выдзяленні грашовай дапамогі альбо беспрацэнтнай пазыкі ў суме 7,3 млрд. рублёў для капітальнага рамонту і ўзнаўлення круглагадовай работы пісьменніцкага Дома творчасці "Іслач".

Старшыня Саюза пісьменнікаў *Уладзімір Някляеў*»[29].

Праўда, ужо тады ён разумеў, што без кантактаў з віцэ-прэм'ерам Уладзімірам Замяталіным, які курыраваў пытанні культуры, не абыйдзецца. І якраз у гэтым палягала вялікая праблема: «С Владимиром Петровичем можно разговаривать и на том языке, которым владеет он, и на том, которым владеешь ты. Только в результате всё равно будет так, как положено быть в его понимании, независимо от самого разговора»[30]. Аднак ні Някляеў, ні хтосьці іншы, мусібыць, не прадбачыў, чым абернецца ўрэшце супрацьстаянне старшыні Саюза пісьменнікаў і намесніка старшыні ўрада...

Пазбегнуць уцягвання ў палітыку Някляеву не ўдалося, сам ён гаварыў: «Мне

пришлось на собственном опыте убедиться, что означает включение национальной культуры, национального языка в сферу антинациональной по сути политики. Я никогда не думал, что у нас дойдёт до таго, что само пользование белорусским языком уже будет означать твою принадлежность к оппозиции. И я, может быть, чересчур самонадеянно решил, что вот таким крепким ребятам, как, скажем, тот же Гончар, не удалось повлиять на власть, а у меня получится». І іншым разам: «Амаль усё, за што я ні браўся, мне тады ўдавалася, і гэта давала адчуванне ўпэўненасці і сілы. А з такім адчуваннем часта ўдаецца зрабіць нават большае ад таго, на што ты здольны. І мне падалося, што я, мы, калі ўсе згуртуемся і будзем біць у адно, здольныя выправіць сітуацыю»[31]. Так Някляеў напіша ўжо ў эміграцыі, бо ў хуткім часе будзе змушаны з'ехаць з Беларусі. Тады ж прызнаецца: «Вдруг к горлу подошло — всё, хватит, больше не могу...»[32]

Раней за Някляева з краіны з'ехаў Васіль Быкаў, які ў інтэрв'ю перад ад'ездам сказаў, што ў тым складаным становішчы, у якім апынуўся Саюз пісьменнікаў, яго старшыня «ничего и не намерен менять. По крайней мере, это не следует из его заявлений. Его целиком устраивает данная ситуация. [...] Он встречается с полковником Заметалиным, с другими идеологами режима. Он — любимый писатель президента. И этим всё сказано...»[33]

Калі б такое сказаў нехта іншы, але тое сказаў Васіль Быкаў. Гэтае ягонае «любимый писатель президента» магло развесці Някляева з Быкавым на ўсё жыццё. Але — не развяло.

## БЫКАЎ

«Я не быў з Васілём Уладзіміравічам у блізкім сяброўстве, — напіша Някляеў ва ўспамінах. — Гэтага не магло стацца ні праз розніцу ў гадах, хоць з часам яна сцягвалася, меншылася, ні праз рознасць характараў. Нават не столькі характараў, колькі светаадчуванняў. У аснове майго — змяшанасць колераў, паўтоны. Іх недавыказанасць, неадназначнасць... У тым, як жыў і пісаў Быкаў, чыстыя фарбы. Іх кантрасты. Сябар — вораг, герой — баязлівец, праўда — мана. Паміж гэтымі палярнасцямі, як між полюсамі магніту, і наструніліся лініі ягонага лёсу. Быць побач з Быкавым у такім сілавым полі было няпроста. [...]

Нашы адносіны вызначала, бадай, узаемная зацікаўленасць. Прастора, якая падзяляла нас, то сціскалася, то пашыралася, але не рвалася. Як для мяне жыццё ягонае не было староннім, так і яму было не абыякава, што я пішу, што раблю, як жыву. Гэта я і сам адчуваў, і ён даваў мне пра тое знаць.

Можна згадаць, як ён даваў знаць пра тое неспадзяваным клопатам, спагадай, словамі і жэстамі падтрымкі. Але ўсё яно — звычайнае, што водзіцца паміж нармальнымі людзьмі. З чаго нічога не вынікае. Ну, быццам бы...»[34]

Калі напярэдадні чэрвеня 1998 г. Быкаўззбіраўся ў Хельсінкі, Някляеў патэлефанаваў яму, хоць, па ўласным прызнанні, не надта таго хацеў, але быў вымушаны, у тым ліку і таму, што быў старшынёй СП. Праўда, перад тым Канаплёў (тагачасны намеснік старшыні так званага парламента, але што важней — паплечнік і сябар Лукашэнкі) папрасіў Някляева, каб той не дапусціў ад'езду Быкава за мяжу і давёў яму, што ўлада зробіць для яго абсалютна ўсё. Але пры адной умове — Быкаў павінен сустрэцца з Лукашэнкам. Някляеў сказаў Канаплёву, што Быкаў сустрэчы шукаць не стане. «А вось калі б Лукашэнка адкрыта сам яго запрасіў, карона б не звалілася — і выйшла б зусім іншае. Калі б нават Быкаў адмовіўся... Тады можна было б публічна развесці рукамі: народны прэзідэнт, не зважаючы на палітыку, паклапаціўся пра народнага пісьменніка, хацеў як найлепш, а той, заядлы, заўпарціўся, дык што ж... Тады ў Лукашэнкі і па-чалавечы, і палітычна адны плюсы, ніякіх мінусаў»[35].


*З Васілём БЫКАВЫМ. Дом літаратара, 1989. Фота Я. КОКТЫША.*

Быкаў быў патрэбны Някляеву не менш, чым Лукашэнку, «бо з ім вага Саюза пісьменнікаў – адна, без яго – іншая»[36]. Перад СП стаялі сур'ёзныя праблемы, Быкаў аўтарытэтам сваім мог дапамагчы іх вырашыць – адсюль і ўсе гэтыя хітрыкі. І хоць карона з Лукашэнкі зваліцца не магла, бо ў 1998-м прырасла ўжо намёртва, сам ён Быкаву не патэлефанаваў, сустрэцца не прапанаваў.

І Быкаў з'ехаў[37]. Але ў інтэрв'ю перад ад'ездам сказаў тое, што сказаў, і што рэзанула Някляева па жывому.

«...Гэта адразу стала публічнай праўдай. Каб нехта іншы сказаў, дык мала хто і што кажа... А калі сказаў Быкаў, значыць, праўда. Феномен Быкава — найперш феномен праўды. У гэтым з ім ніхто не можа раўняцца, грамадства нікому не верыла так, як яму. І мне таксама прыйшлося паверыць. У тое паверыць, што за гэтым. Што менавіта так, а не інакш, выглядае ўсё, што я раблю, у вачах людзей, якіх паважаю. Дык нашто яно мне?.. І ўсё я зламаў, перайначыў. Не выключна, канечне, з-за быкаўскага інтэрв'ю, — і ўсё ж...»[38]

Пра тое, наколькі балюча гукнуліся ў Някляеве гэтыя некалькі быкаўскіх слоў, сведчаць неаднаразовыя згадкі пра іх...

2003 г.: «Опять же к слову — об укусах и ошалевшей судьбе. Меня ведь не Лукашенко первым куснул, а Быков. Вроде как за то, что Лукашенко меня ласкал — и я не противился ласкам. Вроде как проститутка за валютку... И я у него, у Быкова, в Берлине с ним встретившись — Сергей Законников тому свидетель, — спросил: "Что ж это вы, Василь Владимирович?.. Кусать коня, который с вашим — в одной упряжке? Как будто вы слепень..." А Быков, мудрый шмель, пробубнил — ответил этак, бубня, что потому и куснул. Для меня куснул коня. Чтобы тот понёс, а то застоялся в яслях... *"Каб лёс панёс..."*

Я тогда ни хрена не понял, разобиженный. На Быкова, на всех... И только потом стал понимать с трудом, что и Быков, и все — ни при чём. Это Бог судьбу мою куснул. И спасибо, что жалом мудрого шмеля. Потому что слепни, мухи кусали — я и не замечал.

Дзякуй, Васіль Уладзіміравіч... Я жывому Вам гэта сказаць паспеў і зараз тое самае кажу... За гэта дзякуй — і за ўсё паклон... Нябесная ў нас апошняя размова прадыхнулася. Такой у мяне ніколі і ні з кім не было...»[39]

2004 г.: «Калі Быкаў прыкладваў, дык з размаху, не цацкаўся. Не толькі мяне — каго заўгодна. І мне не даводзілася чуць, каб ён пасля пакаяўся ў гэтым ці хоць бы пашкадаваў. Ва ўсялякім выпадку, знешне яно ніяк не выяўлялася... Характар»[40].

«Я цяпер глыбока шкадую, што яго няма. Гэта не ў залежнасці ад таго, ці бачыўся б я з ім, ці не — проста вельмі шкада, што няма. Яно так заўсёды: пакуль

чалавек жывы, не разумееш, што ён значыць для цябе. Не разумееш, пакуль не згубіш. Аднак у выпадку з Быкавым я ўсё разумеў і менавіта з гэтай прычыны пайшоў на тое, каб наладзіць нашы адносіны. Бо можна было б пайсці і па іншым шляху — усё адсекчы. І трэба аддаць належнае Быкаву: ён трохі патаптаўся-патаптаўся — бо яму таксама трэба было неяк выйсці з гэтай даволі некамфортнай сітуацыі — і выйшаў, зрабіўшы паўзу. Гэта быў, відаць, самы дакладны ход, які можна было зрабіць. Цяпер я разумею, чаму ён не згадзіўся на размову са мной у Берліне, — ён бачыў, як гэта яшчэ вельмі моцна непакоіць мяне... Галоўная заслуга яго — і ў нечым мая, — што мы разабраліся, як нармальныя людзі, бо абодва разумелі, што знаходзімся па адзін бок. Не скажу, што Быкаў такі ўжо вялікі ўрок мне даў — нічога б не "преподалось", калі б я ўнутрана не быў гатовы да таго. У нашых адносінах пасля ягонага інтэрв'ю намеціўся разрыў, аднак тое, як мы іх выраўнівалі і выводзілі з крызісу, мне дасюль здаецца прыстойным. Гэта была сапраўдная мужчынская спроба разабрацца ў тым, што ж паміж намі сталася»[41].

Праўда, тады, у 1998-м, усё выглядала інакш. Някляеў прыгадваў: «Калі Быкаў хацеў, каб мне лепей было, дык у нейкім сэнсе зрабіць яму гэта ўдалося. Як толькі надрукавалася інтэрв'ю, у якім ён выцяў мяне бізуном, так з Лукашэнкі адразу пасыпаліся пернікі. Вырашаліся праблемы, якія здаваліся невырашальнымі, і ўрэшце дайшло да таго, што ў гаспадарчым упраўленні справамі прэзідэнта са мной самі загаварылі пра вяртанне пісьменнікам аднятай у іх маёмасці. [...] Праз Міністэрства аховы здароўя абяцалі адрамантаваць і Дом творчасці пісьменнікаў, часткова пераабсталяваўшы яго пад санаторый, і шмат чаго яшчэ было наабяцана...

Я спытаўся ў Канаплёва, з чаго раптам так са мною зацацкаліся, і ён перадаў словы Лукашэнкі, сказаныя на нейкай іх нарадзе ў вузкім коле: "Быкава мы згубілі, але Някляева не можам і не павінны згубіць".

Выходзіла так: калі я чужы для Быкава, значыць, свой для іх»[42].

І «сваім» зрабіць Някляева спрабавала не толькі ўлада. Вядомы расійскі пісьменнік Валянцін Распуцін, калі пісаў пра Быкава, «вдоволь нахороводившегося с теми, кто сеял семена раздора между нашими народами», тут жа, пасля гэтых і іншых зняважальных слоў на адрас Васіля Быкава, дысанансам называў «самого известного сейчас в Беларуси поэта» Уладзіміра Някляева, у якога, на думку Распуціна, хоць таксама было «недоверие к москалям» («и он не промолчал о нём»), «но был с нами и на первой встрече, и на литературном вечере в минском университете, и на заключительной встрече, когда подписывалось соглашение между русскими и белорусскими писателями, участвовал в разработке этого соглашения». І далей Распуцін авансам уключаў Някляева ў свой лагер — у той самы лагер, дзе Быкава не было і быць не магло: «Как, любя Некляева-поэта, не отнестись с уважением к его сомнениям, которые за несколько дней, конечно же, не могли исчезнуть, но не помешали ему понять, насколько важны сейчас эти объединительные усилия»[43].

Відавочна, што Някляева разводзілі з Быкавым. Прычым, не менш за ўладу завіхаліся пісьменнікі.

Гэты эпізод ва ўзаемаадносінах Някляева і Быкава ў нечым нагадвае выпадак у адносінах Быкава і Салжаніцына, калі раптам аказалася, што Быкаў «падпісаў» у 1973 г. ліст супраць Аляксандра Салжаніцына і Андрэя Сахарава, які насамрэч не падпісваў. Быкава ў гэтым хто толькі не вінаваціў як пры жыцці, так і па смерці. І Някляеў, нягледзячы на складаныя адносіны з Быкавым, напісаў дзеля светлай памяці ягонай ліст Салжаніцыну:

«Уважаемый Александр Исаевич!

Летом этого года исполняется 80 лет со дня рождения Василя Быкова. В его безупречной биографии имеется единственный будто бы сомнительный эпизод,

который используется людьми, уничижающими Быкова. Это его (якобы) подпись под письмом известных деятелей культуры, осуждающих деятельность Сахарова и Солженицына.

Василь Быков написал незадолго до смерти книгу воспоминаний “Долгая дорога домой”. Вот что он пишет:

«В Могилёве проходили выступления и встречи с участием большой группы писателей... Поехали на головное могилёвское предприятие — капролактамовый комбинат... Зашли в кабинет директора, где тот, как обычно, начал рассказывать об успехах предприятия. В середине рассказа распахивается дверь, и элегантно одетый мужчина спрашивает: “Кто здесь Быков? Срочно вызывает Минск”. Я даже испугался — не случилось ли чего дома... Оказалось, надо ехать в обком к прямому проводу.

В пустом кабинете первого... дали трубку, в которой я узнал голос одного тогдашнего белорусского цэковца. Он тихо и вежливо сообщил, что в ЦК КПСС есть письмо известных деятелей культуры, которые решительно осуждают подрывную деятельность Сахарова и Солженицына. От Беларуси то письмо подписал Мележ, нужно, чтобы была и подпись Быкова. Я сказал, что письма не читал, поэтому подписывать его не могу. Он ответил, что это моё дело, но он должен предупредить о возможных последствиях. Положив трубку, я вышел из кабинета...

К отелю добирался сам. Когда приехал, едва ли не все мои коллеги сидели перед телевизором, смотрели программу “Время”. Дикторша как раз читала то самое письмо из “Правды”, где группа советских писателей осуждала Сахарова и Солженицына. С особенной интонацией назвала подписантов, в том числе и моё имя. Мои коллеги оживились...»

Случившееся потрясло Василия Владимировича, он поехал добиваться правды в Москву. Ничего там, разумеется, не добился. Вот чем, как он пишет дальше, всё закончилось:

“Прежде всего необходимо было объясниться с Александром Исаевичем... Начал звонить по знакомым, кто-то дал телефон Растроповича, где какое-то время жил Солженицын. Но телефон тот не отвечал, как и московский телефон будущей жены Солженицына. Один из общих знакомых сказал, что Александр Исаевич съехал. Должно быть, за границу. Здесь его не найти.

Я написал письмо в ЦК... Но ни в один из подъездов на Старой площади меня не впустили. Пришлось отнести письмо на почту, отправить заказным. Ответа на него я не получил никогда”.

Из разговоров с Василием Владимировичем я знаю, как провокация с подписью под письмом против Вас мучила его. В предположении, что Вы могли поверить, будто письмо он действительно подписал.

К 80-летию Василя Быкова среди всего прочего готовится к изданию книга воспоминаний о нём. Мне известно, что встречались Вы с ним лишь однажды. Тем не менее, надеюсь, сочтёте возможным хотя бы коротко о нём высказаться, что расставило бы всё на свои места.

С глубочайшим уважением и самыми добрыми пожеланиями, —

*Владимир Некляев.*

*07.01.2004*
*Финляндия, Хельсинки»*[44].

...Толькі з цягам часу Някляеў даведаўся, што ў тым інтэрв’ю Быкаў сказаў яшчэ вось што: «Так что, думаю, карьера ему обеспечена, если он будет верно служить, то получит звания и народного писателя, и лауреата Госпремии»[45]. Аднак гэты сказ ён на наступны дзень выкрасліў — выкрасліў з ужо звярстанай паласы. Мусібыць, кар’ера Някляева ва ўладзе ўсё ж не здалася яму забяспечанай.

## ЗАМЯТАЛІН

Выступаючы 11 чэрвеня 1998 г. на парламенцкіх слуханнях па праблемах нацыянальнай культуры, Някляеў казаў:

«Паслухаўшы выступленні дэпутатаў, прачытаўшы падрыхтаваныя дакументы і заканадаўчыя праекты, я адчуў непадробную заклапочанасць сённяшнім станам нацыянальнай культуры, убачыў агульнае разуменне ўсёй глыбіні праблемы і жаданне карэнным чынам выправіць сітуацыю. І ўжо адной гэтай акалічнасцю я быў бы ўзрадаваны і ўсцешаны, калі б не задаўся прагматычным пытаннем: хто і як канкрэтна — там, на месцах, дзе йдзе рэальнае жыццё — будзе прымаць дакументы да дзеяння і законапраекты ажыццяўляць? Хто і як канкрэтна — пры ўсіх спрыяльных умовах за выключэннем адной: палітычнай волі, адчувальна скіраванай на тое, каб Беларусь была Беларуссю. Хай у саюзе дзвюх, хай у кагорце чатырох, няхай у садружнасці, няхай ва ўсім аб'ядналым белым свеце, але — Беларуссю.

Словы мае зацікаўленымі асобамі могуць быць спешна аднесены выключна ў адрас прэзідэнта Беларусі. Але прашу зацікаўленых асоб, калі яны тут прысутнічаюць, не надта спяшацца ў гэтым старацца. Якраз прэзідэнт па ўзважаным разуменні аб'ектыўна з'яўляецца зараз адзіным гарантам нашай незалежнасці — і гэта здымае ў адносінах да яго ўсе другасныя, хай сабе нават істотныя прэтэнзіі. Ніякіх іншых гарантый незалежнасці — ні эканамічных, ні палітычных, ні сілавых — сёння ў нас не існуе. Так склалася, гэта гістарычная рэальнасць, з якой любому і кожнаму, у тым ліку апазіцыі, незалежна ад асабістых памкненняў і амбіцый, нельга не лічыцца. Гэтаксама, як нельга не лічыцца з тымі абставінамі, у якіх вымушаны дзейнічаць прэзідэнт, не лічыцца з тымі стасункамі, якія склаліся з іншымі краінамі і найперш з Расіяй, з той палітычнай інтрыгай, механізм якой закручаны і якая проста павінна быць даведзена да нейкага выніку, да лагічнага завяршэння. Патрабаваць ад прэзідэнта, ад дзеючай асобы вялікай палітыкі паводзін удзельніка палітыкі малой, асцерагаць яго, прапаноўваць не самому здаваць палітычную карту, а чакаць, якую здадуць яму, — гэта па меншай меры наіўна. Ёсць шляхі, на якіх нельга спыніцца, пакуль іх не пройдзеш. Нельга таксама не разумець таго, што прэзідэнт так, як ніхто з нас, звязаны ўмовамі гульні, таму ў кожным выпадку ён павінны суадносіць са знешнепалітычнай сітуацыяй свае дзеянні і выказванні ў палітыцы ўнутранай — у тым ліку ў сферы культурнай, моўнай, нацыянальнай, адносячы рашэнні на потым, надалей. Але хто і што не дазваляе сёння, зараз актыўна дзейнічаць у гэтым накірунку астатнім галінам улады? Што замінае рабіць гэта, напрыклад, Савету міністраў? Хіба толькі тое, што так тонка курыруе ўсю нацыянальную культуру, на жаль, адсутны тут зараз віцэ-прэм'ер[46], пад якога нават не падкапаешся з тым, што ён і культуру гэтую, і прадстаўнікоў яе не надта паважае, нават на дух не выносіць, як і наогул усё сапраўды беларускае. Такая супярэчнасць службовых абавязкаў і рэальных дзеянняў Уладзіміра Пятровіча Замяталіна не падаецца мне карэктнай, і не толькі мне аднаму, пад чым можа падпісацца дастатковая колькасць творчай інтэлігенцыі, якую яшчэ не ўсю Уладзімір Пятровіч паспеў перасварыць паміж сабою сваімі нястомнымі пошукамі верных і няверных, надзейных і ненадзейных. На жаль, да голасу нацыянальнай інтэлігенцыі наша высокае чынавенства не надта прыслухоўваецца, таму за лепшае было б для выпраўлення становішча каму-небудзь з найшаноўных членаў ніжняй ці верхняй палаты парламента, ягоных кіраўнікоў узяць ды па-беларуску памяркоўна, як бацька, сказаць:

— Уладзімір Пятровіч, ну добра, не падабаецца вам усё беларускае, не жадаеце вы лічыцца беларусам — гэта ваша права згодна з Дэкларацыяй правоў чалавека і нашай Канстытуцыяй. Але ж па службовых абавязках, калі не "поспособствуйте", дык хоць не замінайце пачувацца беларусамі тым, хто хоча імі быць, гэта значыць, таму самаму народу, дзеля якога і напісана беларуская Канстытуцыя, якім абраны і беларускі прэзідэнт, і беларускі парламент, і прызначаны беларускі ўрад, членам

якога вы з’яўляецеся, і ўжо па адной гэтай прычыне абавязаны Беларусі і яе народу верай і праўдай служыць [...].

Шаноўны сход, паважаныя дэпутаты і ўсе прысутныя! Агульныя праблемы айчыннай культуры найчасцей звязваюцца апошнім часам са станам беларускай мовы — і гэта заканамерна, таму што мова ёсць падмурак усяго нашага светлага храма духоўнасці. Не вытрымае падмурак выбуху тых мін, якія пад яго ўжо закладзены, — і няма нашага храма, і мы не народ, а насельніцтва.




*Гэтай шыльды з выявай Пагоні на будынку Дома літаратара ўжо няма.*

Пры нейкіх іншых абставінах я мог бы вам распавесці, што мова — гэта не адно тое, што я сказаў, а вы пачулі, што функцыя яе значна глыбейшая, што яна абумоўлівае нацыянальны характар, спосаб мыслення, побыту, што менавіта праз яе беларусы і ёсць беларусы, — але, вядома, не тут і не зараз кранаць гэтыя найскладаныя аспекты быцця і сутнасці мовы. Яна існуе стагоддзі, на ёй напісана духоўная і свецкая літаратура сусветнай значнасці, з ёй не звалодала, не здолела знішчыць яе ні паланізацыя з захаду, ні русіфікацыя з усходу — яна выстаяла, выняньчыла сваіх вялікіх і малых дзяцей, і ёй немагчыма здрадзіць, як немагчыма здрадзіць маці. І выстаяла яна зусім не таму, што заўсёды знаходзіліся асобныя змагары за яе, сярод якіх — асабліва ў найноўшыя часы — было нямала і такіх, якія проста скарыстоўвалі яе ў сваіх карыслівых мэтах. А выстаяла яна таму, што яе зберагаў і ахоўваў народ. Увесь. Цалкам. Народ, дзякуй Богу, жыве і зараз, і будзе жыць вякі, і з гэтага, здавалася б, можна зрабіць выснову, што праблема захавання мовы штучна перабольшаная ўсялякімі пісьменнікамі і іншымі ворагамі ідэі поўнага зліцця ўсіх народаў і моў. Але гэта не так, якраз зараз небяспека для мовы ёсць і, як мне бачыцца, па двух асноўных прычынах. На нашых продкаў у мінулых стагоддзях татальна не ўздзейнічалі сродкі масавай інфармацыі, тым больш не на роднай мове. Нашы продкі ў мінулых стагоддзях ведаць не ведалі, што такое агульная сярэдняя адукацыя. Гэта заваёва цывілізацыі, але, як і ўсялякая іншая заваёва, яна нясе ў сабе элементы паразы. Ад іх нам і неабходна засцерагчыся, пакуль не позна, і калі ёсць у нас на гэта воля. Менавіта ў названых мной грамадскіх інстытутах — і ў першую чаргу ў школе — вырашаецца тое, ці будзе наш далейшы лёс беларускім.

Шаноўная грамада, паважаныя дэпутаты, дарагія вы мае беларускія людзі, усё сказанае мной нібыта ўсім вядома, і мне самому ніякавата, што я паўтараюся ў аксіёмах, але чаму я ўсё-ткі кажу менавіта пра гэта, а не пра іншае? А толькі таму, што мне, як і кожнаму з вас і любому іншаму чалавеку, дадзена адно жыццё і хочацца дастойна яго спраўдзіць. Я не залічваю сябе ні ў геніі, ні ў прарокі, не прымяраюся да пастаментаў, не мая заслуга ў тым, што дадзены мне Богам нейкі талент, і я заўсёды ўсведамляў і ўсведамляю, што дадзены ён мне толькі для таго, каб за яго перад Богам адпрацаваць. І калі ўдзень ці ўночы здарыцца, напішацца на прыстойным узроўні верш, паэма, кніга, і душа твая захлынецца тым ні з чым непараўнальным пачуццём еднасці з нябёсамі, што дае толькі творчасць, раптам цемрай за акном паўстае пытанне: а хто гэта ўсё, напісанае па-беларуску, сёння

ці заўтра будзе чытаць? І зірнеш з гэтым пытаннем у цемру, што не дае адказу, і развядзеш рукамі. Не дай нам Бог усім разам дажыць да такіх часоў, калі на пытанне: "А дзе ж мы, беларусы? А дзе наша мова? А дзе наша культура? А дзе наша спадчына і ў чым наша будучыня?" — мы толькі развядзём рукамі.

Спадзяюся на тое і перакананы ў тым, што такога не станецца, бо не можа стацца. Усе разам мы не дазволім давесці сябе да гэткага сораму перад Боскім светам. За нас гэтага не зробіць ніхто»[47].

Ужо праз год Някляеў выказаўся больш жорстка: «Исходя из личного опыта, смею утверждать, что в изощрённых формах и методах аппаратной борьбы и закулисной возни, в обустройстве хитроумных провокаций Владимиру Петровичу Заметалину нет равных. Причём, имея за плечами определённую высшую школу, он почти нигде не оставляет следов, не делает черновую работу собственными руками — для этого всегда находятся подручные.

В подконтрольной Владимиру Петровичу прессе (опять же подконтрольной закулисно, потому что формально — какое отношение может иметь вице-премьер правительства страны, скажем, к той же газете "Славянский набат", учреждённой и издаваемой государственным предприятием "Комаровский рынок"?) серийно стали появляться публикации, сочинители которых без церемоний изголялись над Союзом писателей, порочили ведущих наших литераторов и прежде всего членов международного "масонского" ПЭН-клуба, "ЛіМ", "Крыніцу", обобщающий идеологический компромат на которую появился за подписью В. Севрука[48] (знающего своё дело идейного борца) на страницах "Народной газеты"[49]. [...]

Первый успех был достигнут, когда на основе заметалинского идеологического компромата президент Беларуси во время встречи с представителями творческой интеллигенции 29 декабря 1997 года вдруг крайне резко высказался по поводу редакционной политики газеты "Літаратура і мастацтва" [...]»[50].

У выніку бюджэтнае фінансаванне «ЛіМа» спынялася, што магло прывесці да закрыцця газеты. Але гэтага ўсё ж не адбылося, і Замяталін, вядома, застаўся незадаволеным. Незадаволенасць яго вырасла яшчэ больш, калі стала вядома пра сустрэчу Лукашэнкі з Радай Саюза пісьменнікаў.

*(Працяг будзе)*

---

[1] Някляеў У. Выбраныя творы. С. 40-41. Упершыню: Маўклівы мітынг // Літаратура і мастацтва. 1988. 11 лістап.; Крыніца. 1989. № 1. С. 10.

[2] З інтэрв'ю У. Някляева радыё «Свабода» 28 кастр. 2008 г. Скобла М. Дзяды-88 у ліку найважнейшых падзей ХХ стагодзьдзя // Электронны рэсурс: http://www.svaboda.org/content/transcript/1335806.html.

[3] Скобла М. Дзяды-88... // Электронны рэсурс: http://www.svaboda.org/content/transcript/1335806.html.

[4] Някляеў У. Знакі прыпынку / прадм. В. Казько; уклад., камент. С. Шапрана. Мінск: Лімарыус, 2013. С. 62—63.

[5] Паводле: Някляеў У. Стрэмкі // Наш Быкаў. С. 450.

[6] Раней, у 1987 г., Някляеў быў абраны дэпутатам Маскоўскага раённага Савета народных дэпутатаў Мінска (згодна з пасведчаннем, якое захоўваецца ў архіве У. Някляева).

[7] Някляеў У. Стрэмкі // Наш Быкаў. С. 452.

[8] Някляеў У. Стрэмкі // Наш Быкаў. С. 452.

[9] Турбіна Л. Сярод вынаходцаў вятроў // Някляеў У. Выбранае. С. 16.

[10] Машынапіс. Арыгінал. Архіў У. Някляева.

[11] Някляеў У. Прошча: вершы і паэмы. Мінск: Мастацкая літаратура, 1996.

[12] Турбіна Л. Сярод вынаходцаў вятроў // Някляеў У. Выбранае. С. 16.

[13] У кнігу ўвайшлі паэмы «Прошча», «Індыя»; упершыню: Крыніца. 1995. № 10. С. 44—63.

[14] Турбіна Л. Сярод вынаходцаў вятроў // Някляеў У. Выбранае. С. 19—20.

[15] Гарэлік Л. Уладзімір Някляеў // Гісторыя беларускай літаратуры ХХ стагоддзя: у 4 т. Т. 4, кн. 2. С. 518.

[16] Карлюкевіч А. Веданне Уладзіміра Някляева // Звязда. 1998. 26 лістап.

[17] Паводле: Краса і сіла: анталогія бел. паэзіі ХХ ст. / склад. М. Скобла. Мінск: Лімарыус, 2003. С. 577.

[18] Дранько-Майсюк Л. Гаспадар літаратуры // Народная воля. 2006. 5 ліп.

[19] Някляеў У. Выбраныя творы. С. 552.

[20] Паводле: К. Н. Саюз застаўся саюзам... // Літаратура і мастацтва. 1998. 1 мая.

[21] Паводле: Подберезский Д. Владимир Некляев: Тогда я сказал «да» / инт. с В. Некляевым // Белорусская деловая газета. 1998. 30 апр.

[22] Някляеў У. Сёння з'езд, а заўтра — дзень чарговы // Літаратура і мастацтва. 1998. 24 крас.

[23] Подберезский Д. Владимир Некляев: Тогда я сказал «да» // Белорусская деловая газета. 1998. 30 апр.

[24] Шапран С. Идеи путчистов живут. Но побеждают ли? // Белорусская деловая газета. 2002. 29 авг.

[25] Шапран С. Союз писателей. Секция эпистолярного жанра // БДГ. Для служебного пользования. 2002. № 8.

[26] Паводле: Някляеў У. Стрэмкі // Наш Быкаў. С. 472.

[27] Карней І. Ён яшчэ вернецца? / інт. з У. Някляевым // Свободные новости. 2000. 10—17 марта.

[28] Някляеў У. Стрэмкі // Наш Быкаў. С. 445—446.

[29] Машынапіс на бланку Рады Саюза пісьменнікаў Беларусі за подпісам У. Някляева. Арыгінал. СБП.

[30] Подберезский Д. Владимир Некляев: Тогда я сказал «да» // Белорусская деловая газета. 1998. 30 апр.

[31] Някляеў У. Стрэмкі // Наш Быкаў. С. 444.

[32] Букчин С. Каждый платит по своим счетам / беседа с В. Некляевым // Народная воля. 1999. 29 чэрв.

[33] Шапран С. Василь Быков: Заключённого концлагеря не покупают — его истребляют / инт. с В. Быковым // Имя. 1998. 4 июня.

[34] Някляеў У. Стрэмкі // Наш Быкаў. С. 438.

[35] Някляеў У. Стрэмкі // Наш Быкаў. С. 442.

[36] Някляеў У. Стрэмкі // Наш Быкаў. С. 442.

[37] Праз два гады Някляеў напіша: «Афіцыйная прапаганда намагаецца выціснуць з грамадска-палітычнага поля ўсе колькі-небудзь значныя фігуры дзеля адной, якая б кіравала паходам пешак. Толькі ў выпадку з Быкавым — гэта гульня супраць саміх сябе, бо вынік матча [...] даўно вырашаны. Асноўныя партыі ў ім Быкаў выйграў яшчэ тады, калі сённяшнія ягоныя саペрнікі гуляліся ў казакоў-разбойнікаў» (Карней І. Ён яшчэ вернецца? // Свободные новости. 2000. 10—17 марта).

[38] Шапран С. Быкаўскі камень / гутарка з У. Някляевым // Дзеяслоў. 2006. № 1 (20). С. 208.

[39] Былое и думы Владимира Некляева / инт. С. Шапрана с В. Некляевым // «Комсомольская правда» в Белоруссии. 2003. 26 сент.

[40] Някляеў У. Стрэмкі // Наш Быкаў. С. 439.

[41] З гутаркі аўтара кнігі з У. Някляевым. Ліпень 2004 г.

[42] Някляеў У. Стрэмкі // Наш Быкаў. С. 456—457.

[43] Распутин В. Кто сеял семена раздора... // Славянский набат. 1998. 18 февр.

[44] Друкуецца паводле электроннага носьбіту з архіва У. Някляева.

[45] Закрэсліўшы гэты сказ, Быкаў дапісаў: «и этим всё сказано». Арыгінал. Архіў аўтара кнігі.

[46] Віцэ-прэм'ер Замяталін пакінуў залу якраз перад выступленнем Някляева.

[47] Някляеў У. Служыць Беларусі верай і праўдай. Упершыню: Служыць Беларусі верай і праўдай: выступленне старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі У. П. Някляева // Дзяржаўная нацыянальная праграма «Культура» і ўдасканаленне заканадаўчай базы галіны ў Рэспубліцы Беларусь: парламенцкія слуханні (11 чэрвеня 1998 года). Мінск: Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь, Палата прадстаўнікоў. С. 86—88.

[48] Уладзімір Сеўрук — адказны супрацоўнік ЦК КПСС (намеснік загадчыка, затым загадчык аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПСС); супрацоўнік апарата Савета міністраў Рэспублікі Беларусь (1998—2003). Вядомы шматгадовым, на працягу дзесяцігоддзяў, цэнзурным пераследам і шальмаваннем Быкава.

[49] Гэты «кампрамат» друкаваўся на старонках газеты «Рэспубліка»: Ростиков Е. «Элита» и власть, или Ещё раз об их взаимоотношениях / инт. с В. Севруком // Рэспубліка. 1999. 24 лют.; Севрук В. Доносы не горят! // Рэспубліка. 1999. 7, 8, крас.

[50] Некляев В. Антиподы и эфиопы, или Документальная история о том, как «совместно» вырабатывали конкретные решения Владимир Заметалин — вице-премьер белорусского правительства, и Владимир Некляев — председатель Союза белорусских писателей // Народная воля. 1999. 8 чэрв. Заўважым, што ў асабістым архіве В. Быкава (Мінск) захавалася ксеракопія гэтага артыкула.

Юры Пацюпа, Вячаслаў Мартысюк



...ёсць выпадкі,
ад якіх застаецца
пачуццё няёмкасці,
але гэта не галоўнае,
галоўнае – праўда...



# Праўда дзесьці побач*

***Пра атрыбуцыю і фалькларызацыю***

## ЧЫЙ СЛОЎНІК?

Усё пачалося з кнігі Льва Барага «Беларуская казка», дзе я напаткаў вось такую інфармацыю:

«Яшчэ ў *1813 г. маскоўскі прафесар М. П. Пагодзін склаў «Словарь белорусского наречия», які захоўваецца ў рукапісным фондзе бібліятэкі імя У. І. Леніна ў Маскве. У пачатку XIX ст. у Мінскай губерні збіраў дыялекталагічныя матэрыялы К.Ф. Калайдовіч, аўтар даследавання «О белорусском наречии» (1822)»[1].*

Слоўнік 1813 г.? У мяне аж дух заняло ад радасці, я ўсім паведамляў і цешыўся: гэта ж першы з новабеларускіх слоўнікаў. Дагэтуль лідэрства было за слоўнікам Калайдовіча 1822 г., а

* З меркаванняў чыста палемічных так выйшла, што ў гэтага эсэ адзін апавядальнік: *Юры Пацюпа*, але два аўтары: *Юры Пацюпа* і *Вячаслаў Мартысюк*, таму аповед вядзецца то ад адной асобы, то ад дзвюх.

слоўнік 1813 г. нават у даведніку В. Кіпеля і З. Саўкі не згадваецца[2], аўтары якога хоць і ўпусцілі сёе-тое, але шчыра стараліся абняць як мага больш, нават гласарыі, дадаткі да вершаў улічвалі, усякія міфічныя і паўміфічныя згадкі пра слоўнікі фіксавалі. А тут – нічога. Як так сталася? А таму што лінгвісты не чытаюць фалькларыстаў, як і фалькларысты лінгвістаў. Калі хто з знаўцаў казкі і спатыкаў тую мясціну, наўрад ці дзівіўся – свет вялікі, ці мала якія слоўнікі ў нас былі! Апрача таго, Масква – не Санкт-Пецярбург і не Вільня, дзе архівы поўныя беларускіх матэрыялаў. У бок Масквы мала хто глядзіць з беларусазнаўцаў.

Адным словам, трэба было на гвалт знайсці гэты слоўнік і ўратаваць, пусціць яго ў свет. І тут варта зрабіць заўвагу – гэта не адзіны выпадак, калі беларускія моўныя матэрыялы злачынна ігнараваліся, ігнаруюцца, і ўжо шмат чаго загінула незваротна. Нас гэтая праблема даўно непакоіць. Хто б тут парадзіў? У Маскве, мы ведалі, ёсць такі чалавек, які не паставіцца абыякава да гэтай справы і, не зважаючы на сталы век, не палянуецца пайсці ў архіў. І не памыліліся. Неўзабаве сп. Аляксей Каўка апублікаваў звесткі пра слоўнік, ці, як выявілася, усяго толькі слоўнічак, у газеце «Наша слова», не забыўшыся прысвяціць сваю публікацыю апавядальніку гэтага тэксту, які і звяртаўся да яго па дапамогу[3].

Не маючы нават уяўлення пра выгляд рукапісу, колькасць старонак і да т. п., не выпадала гадаць на кававай гушчы і разважаць пра такія сур'ёзныя рэчы як аўтарства. Мы нават не былі пэўныя, што слоўнік знойдзецца, што маем дакладную інфармацыю пра месца яго захоўвання, што атрымаем да яго доступ. Часта здаралася – у апісанні адно, а на справе зусім іншае, або архіў не той, або перамясціўся ў іншае месца, або адзінка захавання страцілася пры перамяшчэнні і іншых нядолях. Але былі пэўныя: Л. Бараг, сур'ёзны вучоны, адзін з найлепшых айчынных фалькларыстаў, не містыфікатар і не дылетант, таму абы чаго пісаць не стаў бы. Сумнявацца ў праўдзівасці першаснай інфармацыі не было падстаў. Відаць, так разважаў і А. Каўка, калі абвясціў, што слоўнік знойдзены. Апрача ўсяго іншага ён зазначыў:

*«Дзвесці гадоў гэтай нязвыклай памятцы, што туліцца ў рукапісных зборах Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі, у калекцыі М. П. Пагодзіна. <...>*

*...слоўнічак Пагодзіна – першы ў новым часе дослед з лексікаграфічнага палетка Беларусі. <...>*

*Будзем жа перачытваць, натхняцца даўнім арыгіналам сакавіта нятускнага роднага слова, з маўклівай удзячнасцю спамінаючы расійскага вучонага, як і начальнікаў колішняга Віцебскага кляштара езуітаў – месца нараджэння "Словаря..."[4]».*

Гэта была не так публікацыя, як дэманстрацыя слоўнічка і папярэднія разважанні пра яго і магчымага ўкладальніка. Заўважым, А. Каўка не вельмі і настойваў на аўтарстве М. П. Пагодзіна (а на тытуле, як выявілася, аўтар не пазначаны). Але ўсё ж прыняў версію Л. Барага, аўтарытэт якога паслужыў гарантыяй праўдзівасці атрыбуцыі.

Большую пільнасць праявіў С. Запрудскі, зараз адгукнуўшыся на допіс А. Каўкі ў сваім блогу (шкада, што гэты допіс не патрапіў у газету «Наша слова»):

*«З вялікай цікавасцю і прыемнасцю пазнаёміўся са змешчаным у № 18 газеты «Наша слова» ад 30 красавіка допісам Аляксея Каўкі пра датаваны 1813 годам «Слоўнік беларускай мовы». Прызнаю: канстатацыя А. Каўкі пра тое, што апісаная ім праца мала вядомая ў тым ліку даследчыкам-адмыслоўцам, – праўдзівая. То дзякуй вялікі шаноўнаму спадару Аляксею![5]»*

Аднак С. Запрудскі засумняваўся ў Каўкавай, а насамрэч – Барагавай атрыбуцыі:

*«Напрыклад – хто быў аўтарам слоўніка? Калі верыць загалоўку публікацыі і першай часткі допіса, то гэта быў расійскі гісторык і журналіст М. П. Пагодзін.*

*Калі ж, аднак, прачытаць перадапошні абзац (якому аўтар публікацыі не надаў належнай увагі), то нехта з езуітаў Віцебскага кляштара»*[6].

Гаспадар блогу адным росчыркам пяра давёў, што аўтарам слоўніка не мог быць Пагодзін:

*«Асцярожную здагадку А. Каўкі <...> трэба прызнаць неверагоднай. <...>*

*Пагодзіна немагчыма лічыць аўтарам гэтага слоўніка: у 1813 г. яму было... толькі 13 гадоў, ён тады жыў у Суздалі і нават яшчэ не быў гімназістам»*[7].

С. Запрудскі заўважыў у Каўкавым допісе больш імаверную гіпотэзу аўтарства *«нехта з езуітаў Віцебскага кляштара»*, але не стаў удакладняць яго, перадаверыўшы гэтую справу А. Каўку і апавядальніку нашага тэксту:

*«Спадзяюся, што шаноўны спадар Аляксей або Юрась Пацюпа, якому была прысвечана гэтая публікацыя аб «слоўніку Пагодзіна», знойдуць магчымасць выкласці матэрыял аб гэтай важнай працы поўна і акуратна, такім чынам, каб ім можна было карыстацца ў навуковай практыцы».*

Вядома, я не магу несці адказнасці за Барагаву атрыбуцыю. Не маючы на руках слоўніка, я не мог займацца і яго вывучэннем. Але пачуццё віны перад сп. Аляксеем Каўкам засталося, бо менавіта я заварыў гэтую кашу. Мы з Вячаславам і заняліся атрыбуцыяй, балазе, фактаў ужо назбіралася нямала – не толькі да слоўніка.

Езуіты Віцебскага кляштара таксама слабыя кандыдаты на аўтарства, цяжка ўявіць, каб яны, пераважна носьбіты польскай культуры, тлумачылі беларускія словы праз рускую мову. Пры бліжэйшым знаёмстве з тэкстам сумневы хутка адпалі – найбольш імаверны аўтар слоўнічка ўвесь час быў побач, і ў Барага, і ў Каўкі ён згадваўся не раз, гэта – К. Ф. Калайдовіч. А сам слоўнічак, відаць, першая, чарнавая версія ягонага ж слоўніка 1822 г. Каб у гэтым упэўніцца, варта тэкст, які ніжэй публікуем, прымеркаваць да тэксту 1822 г.[8] У чыставой версіі, у параўнанні з чарнавой, парадак артыкулаў быў узгоднены з алфавітам, нешта Калайдовіч скасаваў, нешта ўдакладніў, падаў ілюстрацыйны матэрыял, падрабязней распрацаваў тлумачэнні і дапісаў некаторыя новыя артыкулы. Затое чарнавая версія дае інфармацыю пра месца стварэння слоўніка – Віцебскі езуіцкі кляштар.

Так што дзякуй Аляксею Каўку за руплівасць, а Сяргею Запрудскаму за пільнасць. Як бы там ні было, гэта каштоўны набытак беларусістыкі. Адзінае, з чым бы мы не пагадзіліся – гэта з словам *канфуз*, пазначаным сярод тэгаў у блогу ў Запрудскага. Бо канфуз даўнімае пачуццё няёмкасці за выканаўцу. Было б несправядліва так жорстка ацэньваць звычайны недагляд. Навука не робіцца ў белым гарнітуры, як у тым анекдоце, калі адзін персанаж дырэктару цырка прапанаваў суперновае шоу: выступаюць магі, акрабаты, жанглёры, клоўны, сланы, львы – усё зззяе золатам, і тут прарывае каналізацыю, усіх залівае... «Ну, і што тут новага?» – «Як што?! А тады выходжу я ў белым гарнітуры!» На жаль, ці на шчасце, так не бывае. Пра тое, што ад памылак і недаглядаў не застрахаваны ніхто, і пойдзе гаворка далей. Хоць ёсць тут выпадкі, ад якіх застаецца пачуццё няёмкасці, але гэта не галоўнае, галоўнае – праўда, якая дзесьці побач.

## НЕВЯДОМЫЯ НАРОДНЫЯ ПАЭТЫ

Не так даўно В. Шукеловіч зрабіў «адкрыццё» – знайшоў і апублікаваў «невядомы» твор «Пайшла цешча к зяцю ў госці»[9]:

*«Падчас размовы з зямлячкай Ф. Багушэвіча, найстарэйшай жыхаркай вёскі Лусцішкі – Шукеловіч Гэленай Міхайлаўнай, мне ўдалося запісаць два вершы, якія пані Гэлена ахарактарызавала як «байкі». На самай справе спачатку пані Гэлена працытавала верш, які амаль поўнасцю супадае з багушэвічаўскім «Здарэннем».*

*Бабуля нават і не падазравала, што ведае адзін з твораў Ф. Багушэвіча. Затым яна прачытала яшчэ адзін верш, таксама не ведаючы яго аўтара. Мне адразу здалося вельмі падазроным такое суседства ў памяці жанчыны менавіта гэтых вершаў»*[10].

Вось пры якіх загадкавых, амаль казачных абставінах аб'явіўся той верш:

*«З маці яна выбралася ў маліны <...>. Па дарозе жанчына з дачкой напаткалі яшчэ адну дзяўчынку дванаццаці-трынаццаці год, троху старэйшую за малую Гэленку. <...>. Гэта дзяўчынка якраз і прачытала па памяці верш, які вельмі спадабаўся Гэленцы і яе маці. Яны папрасілі дзяўчо навучыць іх. Пакуль дайшлі да малінаў, дык добра і запомнілі»*[11].

Мы не будзем падрабязна каментаваць здарэнне, нават не будзем лішне сумнявацца, ці магла дзяўчынка, менш за дванаццаць гадоў, запомніць вялікі «дарослы» твор, адно заўважым: з'яўленне верша вельмі нагадвае аб'яўленне цудадзейных абразоў. Кажам гэта без іроніі, звяртаючы ўвагу на асаблівасці народнай памяці.

В. Шукеловіч, як чалавек дасведчаны і спанатраны, не мог не звярнуць увагі на час, месца ды абставіны. Ён адразу робіць гіпотэзу па гамбургскім рахунку:

*«Магчыма, што тая невядомая дзяўчынка была з саміх Кушлянаў і чытала хутчэй за ўсё верш самога Ф. Багушэвіча. Верагодна, што ці яна сама, ці яе бацькі мелі непасрэдныя кантакты з сям'ёй Багушэвічаў. Ад некага з іх яна магла пачуць і гэты верш. Не трэба забываць, што было гэта зусім нядаўна пасля смерці паэта»*[12].

Далей падаецца аргументацыя з прыцягненнем звестак У. Содаля:

*«Пані Гэлена ўдакладніла, што потым гэты твор некаторы час вельмі папулярным быў у Жупранах і наваколлі, яго нават спявалі на вечарынах. Як запісаў даследчык У. Содаль, спявалі ў Жупранах і верш Багушэвіча «Сватаная» і, магчыма, іншыя»*[13]

Балазе, падстава для такой гіпотэзы ёсць – страчаны зборнік паэта, які аброс доўгай барадою легендаў:

*«Верш мог уваходзіць у нявыдадзены зборнік Ф. Багушэвіча «Скрыпачка беларуская». Сапраўды, творы з гэтай кнігі павінны былі некуды дзецца. Некаторыя з іх «пайшлі ў людзі» ад самога аўтара ці яго блізкіх. Пра гэта сведчыць тое, што верш бытаваў у час, калі былі жывыя сучаснікі Багушэвіча, памяць пра яго яшчэ не паспела згаснуць»*[14].

А як жа іначай, рукапісы ж не гараць! І каб ніхто не сумняваўся ў аўтарстве Ф. Багушэвіча, ідзе спасылка на аднадумцаў:

*«На аўтарства Багушэвіча ў сувязі з гэтым вершам указвае ўпамінанне яго ў перапісцы жыхаркі Свіранаў і аматаркі творчасці Багушэвіча Вэрці Казлоўскай з Уладзімерам Содалем. Яна піша: «Мяне інтарасуе адна песьня-верш, каторую я знаю ад сваёй мамы. Гэта вельмі складная, із двацацаці куплетаў, жартаўлівая песьня «Пайшла цешча да зяця ў госці» (Ул. Содаль. Свіранскія крэскі. Мн., 1995. Ст. 57). Пані Вэрця дапускае, што гэты твор мог быць апрацаванай Ф. Багушэвічам народнай песняй. Сапраўды, магло быць і так. Але магчыма і тое, што гэта фальклярызаваны твор Багушэвіча, а ў Свіранах ведаюць варыянт жупранскага запісу»*[15].

Пад факталагічныя звесткі падводзіцца ідэалагічны грунт – «філасофія» самога паэта:

*«Па аўтарскай задуме свет дзеліцца на два лагеры – справядлівасці і дурнаватага граху. Гэтыя супрацьлеглыя пазіцыі рэпрэзентуюць мужчыны і жанчыны адпаведна. Прадстаўніцы жаночага полу паўстаюць перад намі як пляткаркі і гультайкі, што стасуецца з жыццёвай філасофіяй Багушэвіча»*[16].

Здаецца, гэта ўсё ж перабольшанне. А ў нашу эпоху татальнага гендэра – нават мядзведжая паслуга сялянскаму адвакату. Ён можа патрапіць у групу небяспечных цемрашалаў, быць упісаным у індэкс забароненых аўтараў, а пры

поўнай перамозе гендэрнага эгалітарызму – нават спалены на вогнішчы. Мы падрабязна цытуем разважанні В. Шукеловіча не толькі, каб выкрасіць усмешку ў чытача, а перадусім каб паказаць сістэму довадаў, на падставе якіх робіцца атрыбуцыя.

Але так выпадкова сталася, што мне гэты твор вядомы з юнацкіх гадоў як твор Якуба Коласа. Помніцца, бацькаў сябра, былы галоўны лекар нашай бальніцы, што ў в. Азёры Гродзенскага р-на, Уладзімір Плюцінскі захапляўся талентам Коласа-гумарыста і ў якасці прыкладу якраз называў верш «Зяць». Думаю, гэта не безцікавая рысачка да факту папулярнасці твораў народнага паэта. Пазней, ужо прафесійна знаёмячыся з абшарамі бытавання Коласавага верша, я пераканаўся, што яго ведаюць па ўсёй Беларусі, ад Дзісеншчыны да Палесся. Дый хто не чуў, як захапляліся людзі, што выраслі пад сялянскай страхою, паэмай «Новая зямля»! Мой дзед па бацьку, былы партызан Фёдар Пацюпа, ведаў «Новую зямлю» на памяць. І гэта не вынятак. Такіх аматараў, як мой дзед, можна было сустрэць калі не ў кожнай вёсцы, то ў кожнай акрузе. Так што не толькі Багушэвічавы творы «фальклярызаваліся» (пра апошні тэрмін пагаворым ніжэй).

Калі ж я прачытаў, што Коласаў твор на поўным сур'ёзе прыпісваецца Багушэвічу, вачам не паверыў. Мо памяць падводзіць? Як на злосць, пад рукамі былі толькі тамы з лірыкай, а верш «Зяць» уваходзіць у том вершаваных апавяданняў. Але апошняя выпадковасць пайшла на карысць. Не маючы пад рукамі патрэбнага тома, я паспрабаваў рэканструяваць Коласаў тэкст паводле фальклорных запісаў, а на той момант у мяне іх было нямала ў карыстанні – таксама шчаслівы збег абставін. Філалагічная гульня вылілася ў ідэю працы пра кагнітыўныя аспекты фальклярызацыі вершаваных тэкстаў. Мы не будзем тут заглыбляцца ў гэтую спецыяльную праблему, адно звернем увагу на адну цікавую дэталь. Коласаў сюжэт сапраўды адпавядае крытэрам народнага гумару і мог спачатку існаваць як анекдот, які паслужыў асновай твора. Але ўсе фіксаваныя варыянты не пакідаюць сумневаў наконт ягонага аўтарства і нават канкрэтнай аўтарскай рэдакцыі.

Рэч у тым, што народныя творы маюць просты сінтаксіс: сінтагмы супадаюць з коланамі верша, ці, інакш, фальклорны тэкст не трывае пераносу сінтаксічных канструкцыяў з аднаго радка ў другі, г. зв. анжабеманаў. А ў вершы «Зяць» анжабеман нават не паміж радкамі, а паміж строфамі – сказ з першай страфы сканчаецца ў другой страфе. Яшчэ адна важная акалічнасць – усе варыянты, якія засталіся ў народнай памяці, сягаюць першай рэдакцыі твора, апублікаванай у 1908 г. у газеце «Наша Ніва»:

Цешча к зяцю пашла ў госці, –
Ой, сярдзіты быў той зяць!
Меў ён многа ў сабе злосці,
Не любіў і патураць

Ні сабе, ні сваёй жонцы!
Маці гутарку вядзе,
Як дачцэ яе, Алёнцы,
Жыцце замужам ідзе[17].

Тэкст, папраўлены Коласам і змешчаны ў зборы твораў, гучыць інакш:

Цешча к зяцю прыйшла ў госці.
Ой, сярдзіты быў той зяць!
Ні пяшчоты. ні мілосці,
А ў мінуты гневу, злосці
Мог і лейцы ў рукі ўзяць,

Каб паставіць па-сваему
Ды ў свае ўзяць абцугі.
Не праціўся лепш Ахрэму:
Дасць па карку і – халэмус!
Строгі, хай яго багі[18]!

Ён не мае ніякага дачынення да тэкстаў вуснага бытавання – сяляне чыталі «Нашу Ніву», але не збор твораў.

Дык вось, якраз гэтыя першыя дзве страфы найбольш дэфармаваліся ў вусным бытаванні. На сённяшні дзень у нас ёсць больш за дзесяць варыянтаў Коласавага верша, зафіксаваных у розных рэгіёнах, і толькі ў адным з іх, што з в. Парэчча Лідскага р-на (запісала Сяргей Валянціна Іванаўна ад Сніціч Ганны Пятроўны, 1924 г. н.), захаваліся гэтыя дзве страфы:

Пайшла цешча к зяцю ў госці.
Ой, сярдзіты быў той зяць –
І не меў ён многа злосці,
І не мог ён спатураць

Ні сабе, ні сваёй жонцы.
Цешча гутарку вядзе:
Як дачцы яе Алене
Жыцце замужам ідзе[19].

І захаваліся чыста выпадкова, бо ў цэлым лідскі тэкст не вылучаецца дакладнасцю, ён менш поўны, чым астатнія. У астатніх жа другая страфа проста знікае і тэкст працягваецца з трэцяй страфы, тут заўжды выходзіць нейкая сэнсавая невыразнасць, рэзкі пераход:

Маладзіца зараз ў слёзы,
Лае мужа і кляне:
– А бадай яго залозы,
Душыць працай ён мяне[20].

Часам прападае яшчэ некалькі строф. У смаргонскай версіі (запіс Л. Б. Краўцова, іншыя звесткі не захаваліся), наадварот, знікае першая страфа[21] – так ці інакш, не можа памяць утрымаць пераносу. Затое заўжды застаюцца строфы кульмінацыйныя, у якіх зяць запрагае цешчу ў барану, а потым сустракае, частуе і хваліць цесця. Спадзяюся разбору варыянтаў прысвяціць асобнае даследаванне, а пакуль што падрахуем вынікі.

Пры атрыбуцыі тэкстаў трэба хоць збольшага абшарваць свае кішэні, як раіў, з іншай нагоды, Якуб Колас, абапірацца не толькі на рамантычныя версіі, але і на грунт кніжнай навукі. Вядома, чалавек не можа ведаць усяго, але, па-першае, тут мы маем справу з класікамі, па-другое, у В. Шукеловіча не знайшлося нават следу сумневаў, жадання абаперціся на іншыя версіі, шукання на пазітыўным тэксталагічным грунце. Тут настойліва, але мала пераканаўча (з прынцыпу «мне гэта падабаецца», «я так хачу») праводзіцца працэдура верыфікацыі, але ігнаруецца працэдура фальсіфікацыі. Гэта ўжо не недагляд, а лёгкасць высноў надзвычайная. Праўда, для В. Шукеловіча ёсць і апраўданне: паводле нашых назіранняў людзі ад навукі і літаратуры, маючы справу з Коласавым тэкстам, часта не ведалі, хто яго аўтар. Таму справа тут не ў гульні «адгадай мелодыю», а менавіта ў адказнасці за метады атрыбуцыі. І ў сумным факце грамадскага занядбання класікі. А каб інфармацыя па гэтай справе была поўнай, дадамо, што ў Вільні[22] захоўваецца беларускі тэкст пад назваю «Як запрасілі цешча і цесць ды зяця к сабе на чэсць», якую У. Абрамявічус характарызаваў як «рукапісную

паэму з канца XIX ст. дыдактычна-сатырычнага характару (Ф. Багушэвіча?)»[23]. З усяго відаць, што Коласаў тэкст застанецца Коласавым, але тут, можа, знойдуцца якія паралелі. На жаль, нам не ўдалося здабыць тэксту, але гэтай публікацыяй спадзяемся зацікавіць людзей неабыякавых, скажам, таго ж В. Шукеловіча.

Разгледжаная сенсацыя не вынятак, а тэндэнцыя, якая ўсё настойлівей прабівае сабе дарогу. Дзве плягі падпільноўваюць тэкстолага на гэтай дарозе: павярхоўная паспешлівасць і небесстароннасць, імкненне жаданае выдаць за рэальнае. Вядома, грэх асуджаць даследніка, які хоча вынесці на грамадскае абмеркаванне невядомы твор, рызыкуючы пад тое схібіць, падацца наіўным. Але, калі можна, то лепш не ствараць праблем атрыбуцыі там, дзе іх няма. Многія «амерыкі» можна спакойна пакінуць на ўласнай творчай кухні, для карысці і аўтарытэту самога Калумба. Бо рана ці позна на пастаўленыя пытанні нехта мусіць даць адказ, і пачуццё няёмкасці ўзнікае, калі адгадка простая, пачуццё павагі – калі сапраўды ставіцца рэальная праблема. Загадкі, узятыя намі да разгляду, не ўсе роўныя, адны ад пачатку былі элементарныя, іншыя вымагалі працы – хай чытач сам мяркуе.

Не так даўно ў газеце «ЛіМ» з'явіўся нарыс вядомага літаратуразнаўцы А. Мальдзіса пра ягонага земляка-краязнаўцу, які аўтару нарыса *«перадаў <...> рукапісы беларускіх вершаваных твораў, знойдзеных ім у літоўскіх і беларускіх засценках, – для высвятлення аўтарства і публікацыі»*[24]. Аўтар жа не марнаваў часу на атрыбуцыю і адразу змясціў «невядомыя» творы ў газеце, вось адзін з іх пад назваю «Беларусам»:

Ўстаньце, хлопцы, ўстаньце, браткі,
Ўстань ты, наша старана.
Ўжо глядзіць к нам на палаткі
Жыцця новага вясна.
Ці ж мы, хлопцы, рук ня маем,
Ці ж нам сілы Бог ня даў?
Ці над родным нашым краем
Луч свабоды не бліщчаў?
Выйдзем разам да работы,
Дружна станем, як сцяна.
І прачнецца ад дрымоты
З вамі наша старана[25].

Да яго прыкладаецца інфармацыя пра рукапіс:

*«Даволі чытэльны подпіс расшыфроўваецца так: «І. Ф. Сымановіч». Высветліць, хто гэта быў у мінулым і ці не засталося ад яго больш вершаў, – справа гонару мясцовых краязнаўцаў»*[26].

І адразу робіцца шчаслівая выснова:

*«На літаратурнай карце Астравеччыны з'явілася яшчэ адно прозвішча – Сымановіч (або Шымановіч)»*[27].

Аднак цешыцца няма падстаў, бо зноў перад намі верш Якуба Коласа, які, між іншым, стаіць на самым пачатку збору твораў[28]. Тут усё слова ў слова супадае, толькі парушаная разбіўка на строфы і крыху змененыя знакі прыпынку, а сам тэкст, відаць, узяты з «Нашай Долі»[29], бо пазней словы *«луч свабоды»* Колас замяніў на *«промень волі»*.

А яшчэ пад гарачую руку класік атрымаў вымову за «самавуцтва»:

*«Зусім іншым почыркам, буйным, размашыстым, і куды слабейшым стылем напісаны верш «Беларусам». У ім менш колеру, больш адчуваецца самавуцтва. Датаваны ён 13 сакавіка 1907 года і, хутчэй за ўсё, народжаны на хвалі «нашаніўскага» нацыянальна-патрыятычнага ўздыму. Гучыць жа смела, патрыятычна»*[30].

Дык можа меў рацыю Максім Багдановіч, калі пісаў:

*«Як артыст-маляр Колас не стаіць вельмі высока, і не ў пекнасці формы, мовы ці малюнку хаваецца цэннасць яго вершаў, але ў праўдзівай – далёкай ад усякай хвальшы – любві да бацькоўшчыны»*[31]*?*

Зрэшты, сёння гэта ўжо неістотна – паэты былі сучаснікамі, Багдановіч выступаў як крытык і стаяў на іншай, чым Колас, эстэтычнай платформе. А вось калі ў літаратуразнаўчы дыскурс уплятаюцца крытычныя ноткі – гэта не зусім карэктна. Але характэрна. Існуе даволі пашыраная і заганная практыка ацэньваць мову ці эстэтычныя вартасці даўнейшых твораў з пазіцыі сучасных ведаў і сучасных каштоўнасцяў. Прытым часта здараецца, той, хто бярэцца ацэньваць М. Цяцерскага, Л. Гмырака ці яшчэ каго – сам распісваецца ў недасведчанасці. Як бачым, з гэтым можна патрапіць у няёмкае становішча. Эстэтычны аналіз вельмі важны метад атрыбуцыі, але ён адрозніваецца ад метадаў літаратурнай крытыкі.

Цікава было б прымеркаваць рукапіс таго «І. Ф. Сымановіча» да Коласавых. А раптам гэта аўтограф самога паэта – тады шмат што мяняецца ў раскладцы. А. Мальдзіс паведамляе: верш перадала нявестка рэзчыка па дрэве Баляслава Сымановіча, сцвярджаючы, быццам напісаў яго Баляславаў брат – *«вучань нейкай установы»*[32]. Нам вядома гэтае прозвішча – рэдакцыя газеты «Наша Доля» раз за разам заклікала: грошы на падпіску *«прысылаць канешне на імя Яўстафія Сымановіча»* (з № 2 па № 4), а пасля расколу наадварот: слаць *«у рэдакцыю «Нашае Долі» Вільня, а не на імя быўшага стоража рэдакцыі Яўстафія Сымановіча, бо ён больш не служыць»* (гл.: № 6). (Літару «J» у ініцыяле, відаць, пазней пераблыталі з «І».)

А вось тлумачэнне А. Луцкевіча, якое адразу «ажыўляе» загадкавае імя:

*«Гэта затым, каб іх [грошы] не мог узяць Тукеркес з пошты, бо яны былі не яго, а пакушэнні на іх былі роблены. Сымановіч жа служыў у Т[укеркеса] за лёкая і быў узяты за экспедытара ў газету. З увагі на тое, што лёкай выказваў да сябе больш давер'я, чым ягоны «пан», і была зроблена гэта абвестка»*[33].

Наколькі аб'ектыўны А. Луцкевіч, зараз не выпадае меркаваць. Праўда, у ягоных словах гучыць нешта занадта «панскае», пагардлівае. Не ўсё тут выклікае давер: што гэта за «лёкай», які не падпарадкоўваецца свайму пану! Звернемся яшчэ да аднаго сведкі, больш бесстаронняга. Ф. Умястоўскі ў цэлым пацвярджае Луцкевічаву інфармацыю, толькі выказвае яшчэ адну версію імя:

*«Станіслаў Сымановіч – экспедытар і адміністратар "Н<ашай> Долі"»*[34]

У палеміцы з Саўкам Барывоем (Р. Зямкевічам) ён дадае істотныя звесткі пра далейшы лёс названай асобы:

*«Насамперш, што датычыць* ***Ефстафія*** *Сымановіча. Так, праўда, Сымановіч, які працаваў у «Нашай Долі» меў імя не Станіслаў, а Яўстафій. Называючы яго Станіславам, я абмыліўся дзеля таго, што і цяпер яго называюць Стасюком. Але магу ўпэўніць беларускае грамадзянства, што гэты Стасюк Сымановіч, які працуе ў саюзе каапператываў у Вільні (Малая Пагулянка, 12) і жыве ў Вільні, Полацкая вуліца 7, кв. 2, і ёсць тым самым Яўстафіем Сымановічам, які быў экспедытарам "Нашае Долі"»*[35].

Як бачым, знойдзены рукапіс можа быць ключом да надзвычай цікавай гісторыі, але мы не будзем на ёй запыняцца.

Праблемай «ананімных» твораў зацікавіўся і І. Запрудскі, дзеля чаго ім *«быў зроблены франтальны прагляд студэнцкіх фальклорных запісаў, што захоўваюцца ў лабараторыі беларускага фальклору і дыялекталогіі»*[36]. У кнізе «Па дарозе на Парнас», праблематыка якой акрэсліваецца як «атрыбуцыйныя даследаванні і пытанні рэцэпцыі беларускай літаратуры», ён змясціў шэраг выяўленых тэкстаў яўна літаратурнага паходжання і, між іншым, зазначыў:

*«Палічыўшы амаль безнадзейнымі далейшыя спробы непасрэднай атрыбуцыі прыведзеных вышэй вершаў, мы на нейкі час спынілі працу ў гэтым кірунку. Сёння*

*ж друкуем гэты артыкул, каб мець абгрунтаваную нагоду апублікаваць шэраг іншых тэкстаў аўтарскага паходжання, што ёсць у нашым распараджэнні»*[37].

Толькі ці так усё безнадзейна? Можа, спрактыкаваны літаратуразнаўца проста паленаваўся займацца той працай усур'ёз? Прыкладам, вось тэкст з кнігі І. Запрудскага, запісаны *«ў 1983 г. студэнткай беларускага аддзялення філфака БДУ З. І. Лішка ад Марыі Іосіфаўны Сазонавай, якая твор пераняла ад маці (1916 г. н., адукацыя 2 кл., мясцовай) у вёсцы Барсукі Лепельскага раёна Віцебскай вобласці»*[38]:

Антак ходзіць чуць не голы,
Але заўжды ён вясёлы.

Далей можна не працягваць, бо двух радкоў даволі, каб упэўніцца, што твор належыць яшчэ аднаму народнаму паэту – Кандрату Крапіву і вядомы пад назваю «Як Антак стрэў "вельканоц"»[39]. Мы ўсё ж прасочым тэкст да канца, бо народная версія крыху разыходзіцца з аўтарскай, што заслугоўвае на ўвагу:

| **Кандрат Крапіва «Як Антак стрэў "вельканоц"»** | **Версія з в. Барсукі Лепельскага р-на** |
|---|---|
| Антак ходзіць чуць не голы, | Антак ходзіць чуць не голы, |
| Але заўжды ён вясёлы, | Але заўжды ён вясёлы. |
| І «вельканоц» стрэў «па-панскі» – | І вельканоц сустрэў па-панску, |
| Быў пірог і быў «пазнанскі». | Быў пір «ах» і спірт пазнанскі. |
| Антак спірту налупіўся, | Антак спірту налупіўся, |
| Потым з жонкаю схапіўся | Потым з жонкаю схапіўся, |
| І гуляў з ёй «кракавяку», | Танцаваў ён кракавяка, |
| Потым поўзаў Антак ракам, | Потым Антак поўзаў ракам. |
| Потым лёг, нагамі дрыгаў, | Потым лёг, нагамі дрыгаў, |
| Потым з'ездзіў двойчы ў «рыгу», | Потым двойчы з'ездзіў у Рыгу. |
| А назаўтра ўстаў з пахмелля,– | <.....................................> |
| Праклінае Антак «зелле»: | <.....................................> |
| Ўсё баліць – нібы пабіты, | <.....................................> |
| Лоб, як волавам наліты, | <.....................................> |
| Хлеў свіны зрабіўся з рота – | Хлеў свіны зрабіўся з хаты, |
| Нават есці неахвота. | Што аж есці неахвота. |
| Пуста, моташна у хаце, | Дзе ні гляніць – пуста ў хаце, |
| Малака няма дзіцяці, | Малака няма дзіцяці. |
| Ні скарынкі няма хлеба,– | <.....................................> |
| Жабраваць, няйначай, трэба. | <.....................................> |
| Дык затое скажа кожны: | Але гэта скажа кожны, |
| «Антак «гжэчны» і набожны – | Што Антак гжэчны і набожны. |
| Стрэў «вельканоц», «як належы», | Хоць у парванай ён адзежы, |
| У падранай хоць адзежы, | Вельканоц сустрэў як належыць. |
| Але еў і піў «па-панскі» – | |
| Быў пірог і спірт «пазнанскі». | |

Па-першае, у вуснай версіі выпала некалькі «неабавязковых» радкоў без лішняй шкоды для сюжэту, па-другое, і гэта асабліва кідаецца ў вочы, знік «другі» слой тэксту, які падтрымваўся графічнымі сродкамі – няўласна аўтарская мова, перадражніванне маўлення спаланізаваных беларусаў, па-трэцяе, знікла залішне складаная метафара: параўноўванне роту з хлявом, і, нарэшце, канцоўка стала ўдарнай, без апавітага завяршэння-паўтору. Памер і рыфмы ў цэлым захаваліся, але ёсць і збоі. Дарэчы, чаму ў Кандрата Крапівы менавіта Антак? Ці не паўплываў на яго шырока вядомы «крэсовы» верш, адну з версій якога мы чулі ў в. Дамэйкі Лідскага р-на:

Antek z Mańkaj żyli w zgodzie,
Postawili dom na wodzie.
Antek piernuŭ, Mańka bznuła –
I chałupa nawiernuła.

Аднак пакінем Крапіву, Коласа ды Багушэвіча ў спакоі, звернемся да аналітыкаў і спытаем: дзе тут абяцаныя ў падзагалоўку кнігі «атрыбуцыйныя даследаванні»? Ці можна ўявіць, каб вершы Пушкіна ці байкі Крылова так атрыбутаваліся?

Адно суцяшае: і Колас, і Крапіва нездарма атрымалі годнасць народных паэтаў, раз іх вершы запісваюцца поруч з фальклорам. Як той казаў, каму народныя, а каму нярадныя...

## ЯШЧЭ НЕ АДЗІН НАРОДНЫ ПАЭТ

Чым далей ад святла, тым цямней, чым далей ад класікі, тым цяжэй атрыбутаваць тэксты. Але патрабаванне карэктнасці довадаў не здымаецца, бо іначай навошта і філолагам называцца. У этымалогіі дылетантызм, пустую балбатню лёгка адсеяць, а вось пры атрыбуцыі, на жаль, можна забалбатаць справу, пусціць пыл у вочы і нічога не сказаць. А можна карэктна вытрымаць усе працэдуры, пазбіраць найаўтарытэтнейшыя сведчанні і зноў нічога не дабіцца. Яшчэ ў 1970-я гады У. Содаль узяўся *«пастрабаваць пашукаць вершы Багушэвіча ў памяці народнай. Прычым такія, якія раней нідзе не друкаваліся, а толькі распаўсюджваліся ў рукапісах, у вусных пераказах»*. І неўзабаве ў зборніку «Дзень паэзіі-77» падзяліўся поспехам[40]:

*«І ўсё ж такі нам удалося адшукаць адзін з жаданых вершаў, які былыя кушлянцы аднагалосна называюць Багушэвічавым»*[41].

Гэта была байка «Пан і блыха», запісаная на тэрыторыі Польшчы ў Пазнаньскім ваяводстве ад братоў Зыгмунта і Восіпа Каспяровічаў, сыноў Пятра Каспяровіча, *«былога Багушэвічавага суседа па Кушлянах»*, якія ў адзін голас сведчылі:

*«Верш гэты я ведаю з маленства, і бацька мне казаў, што напісаў яго Мацей Бурачок»*[42].

За Багушэвічава аўтарства падпісалася нават паэтава ўнучка Станіслава Тамашэўская:

*«Верш пра пана памятаю і магу пацвердзіць, што напісаў яго дзядуля...»*[43].

Сам У. Содаль, прааналізаваўшы байку, падсумаваў:

*«Няма сумнення, гэты твор напісаны ў Багушэвічавым стылі; ён не выбіваецца і з Багушэвічавай тэматыкі»*[44].

Але факты, як казаў яшчэ адзін паэт, рэч упартая – існуюць, і ні ў зуб нагой. А факт такі, што і ў 1977 годзе, і сёння, у 2015, гэтая байка як належала Янку Быліну, так і належыць да гэтай пары[45]. Калі прымеркаваць 1977 і 2015 гады, то памылка У. Содаля цалкам даравальная. Тады не тое што кампутараў ды інтэрнэту не меў у сваім распараджэнні даследнік, нават успамінаць пра ксяндза-паэта было небяспечна. Содаль, публікуючы «Пана і блыху», можна сказаць дыверсію супраць савецкай ідэалогіі ўчыніў. Ну, праявіў слабасць, хацеў знайсці твор улюбёнага паэта, дый сведкі былі ўсе, як на падбор... Багушэвічу, відаць, наканавана прыцягваць да сябе ўсё найлепшае. Тут ён вырастае да маштабаў эпічнага героя, увасаблення паэтычнай сілы, духу народа. У. Содаль і В. Шукеловіч нават не заўважылі, што з суб'ектаў шукання сталі прыладамі стварэння легенды. Але тое што было даравальна ў 1977-м, не зусім даравальна ў 2012-м, калі І. Запрудскі наступіў на тыя самыя граблі і апублікаваў той самы твор, толькі пад назваю «Блыха і пан», запісаны *«А. Э. Вайніцкай ад Кацярыны Францаўны Астроўскай (1894 г. н.) у вёсцы Залясоўшчына*

*Іеўскага раёна Гродзенскай вобласці»*[46]. Але апублікаваў ужо як ананімны, *«напісаны ў багушэвічаўскіх традыцыях»*[47]. Цяпер мы маем нагоду параўнаць усе тры версіі:

| **Янка Быліна «Блыха і пан»** | **Версія з в. Залясоўшчына Іўеўскага р-на** | **Версія з Пазнаньскага ваяводства** |
|---|---|---|
| Блыха ўлезла ў пярнат.<br>З яе быў пан не рад:<br>Стала грызць яго за брушка –<br>Тлуста, мякка, як падушка.<br>Засмакавала пана кроў:<br>Паскача ды смокча зноў.<br>Варухаючысь на бакі,<br><br>Пан доўга,<br>як цюцька, скрабаўся,<br>Злавіўшы ж блыху, адазваўся:<br>– Ага, злавіў цябе такі!<br>Ах ты, насенне праклята,<br>Збрыдла табе хамская хата?!<br>Досыць, што жывеш усё<br>без працы, –<br>Захацела ты жыць у палацы?<br>Знай, як шанаваць паноў<br>І смактаць яшчэ з іх кроў.<br>Так мармочучы пад нос,<br>Блыху да свечкі пан паднёс.<br>– Чаго хочаш, пан, чаго?<br>Закрычала блыха тут, –<br>К Богу ідзём, пан, на суд.<br>Бо гдзе ж справядлівасць,<br>гдзе ж?<br>Я п'ю кроў з цябе аднаго,<br>А ты – з тысячаў кроў п'еш. | Блыха ўлезла ў пярнат (?),<br>А пан з яе то быў не рад.<br>Стала грызці яго за брушка,<br>Тлуста, мякка, як падушка.<br><.............................><br><.............................><br><.............................><br><.............................><br>Наш пан,<br>як цюцька, скрабаўся,<br>Злавіўшы блыху, адазваўся:<br><.............................><br>– Га, ты насенне праклята,<br>Збрыдла табе хамская хата?<br><.............................><br><.............................><br>Знай, як шанаваць паноў,<br>Ды яшчэ смактаць з іх кроў.<br>Так бармычучы пад нос,<br>Блыху да свечкі пан паднёс.<br>– Стой, стой! –<br>крычыць блыха. –<br><.............................><br>К богу, пан, пойдзеш на суд,<br>Бо ідзе на справядлівасць,<br>ідзе ж.<br>Я з цябе аднаго кроў п'ю,<br>А ты дык з тысячы<br>кроў п'еш. | Блыха ўлезла<br>пану ў пярнат,<br>Пан з яе ня быў рад,<br>Стала кусаць<br>яго за брушка,<br>Тлуста-мякка, як падушка.<br>Пасмакуе пана кроў,<br>Паскача – і смок ізноў.<br>Пан на бакі варухаўся,<br>Як цюцька, скрабаўся,<br>Нарэшце, блыху<br>злавіўшы, адазваўся:<br>«Ты праклятае насенне,<br>Не досць табе, што жывеш<br>без працы,<br>Яшчэ захацела жыць<br>у палацы?»<br><.............................><br><.............................><br><.............................><br>І так, мармычучы пад нос,<br>Блыху да свечкі ён паднёс.<br>«Стой! – закрычала<br>блыха тут, –<br><.............................><br><.............................><br>Праўда дзе ж?<br>Я п'ю з цябе аднаго кроў,<br>А ты з тысячы<br>людзей п'еш!» |

Як бачым, памяць народная па-рознаму захоўвае выходны тэкст. Адно, што неадменна застаецца – экспазіцыя сюжэта, завязка і афарыстычная канцоўка, высновa. У Іўеўскай версіі нават верш удасканаліўся, асабліва калі ўзяць пад увагу, што пры запісе студэнтка магла міжволі рэдагаваць і псаваць тэкст: «пачуць» літаратурнае *грызці*, хоць на Іўеўшчыне сказалі б як у аўтара і як зафіксаваў У. Содаль – *грызць*. Незразумелыя формы ў трэцім ад канца радку: *ідзе, ідзе ж* – ці гэта дзеяслоў *ісці*, ці заступнік *дзе* з прыстаўным [і]? У Пазнаньскай версіі, наадварот, тэкст зрушыўся ў бок празаізацыі – лішняе пабочнае слова *нарэшце*. Варта звярнуць увагу і на выклічнікавую форму дзеяслова *смок*, пашыраную ў гутарковай мове. Цікава, што ў абедзвюх народных версіях з'явіліся воклічы *Стой!* і *Стой, стой!*, якіх не было ані ў газетнай публікацыі[48], ані ў зборніку Быліны[49], з якога якраз байкі і пайшлі ў народ. У цэлым жа, падобная варыяцыйнасць характэрная для ўсіх тэкстаў вуснага бытавання.

Яшчэ адзін тэкст, запісаны *«А. Драбышэўскім і В. Буткевіч ад Валехны Васіля Аляксандравіча (1905 г. н.) у вёсцы Даржэлі (?) Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці»* і апублікаваны І. Запрудскім разам з «безнадзейнымі» і ананімнымі творамі, таксама не безнадзейны і не ананімны[50]. Ён вядомы як байка Я. Быліны «Курыца»[51], у чым можна пераканацца, зірнуўшы ў табліцу:

| Янка Быліна «Курыца» | Версія з в. Даржэлі Браслаўскага р-на |
|---|---|
| Адна курыца пачула,<br>Як спеў хваляць салаўя,<br>Яе зайздрасць агарнула:<br>– Пачакайце, ось і я<br>Запаю, як салавей!<br>І вот, скарэй<br>Свой надуўшы добра брух,<br>Запяяла, як пятух.<br>– Кепска, – думае курыца, –<br>Трэба, мусіць, мне напіцца<br>І прамачыць добра горла,<br>Бо там у ім штосьці спёрла.<br>Напілась, пасакатала,<br>Дый зноў, надуўшысь, запяяла.<br>А ўсё так жа, як пятух.<br>– А бадай твой звёўся дух!<br>(Гаспадар кляў з пакалення)<br>Вот праклятае насенне!<br>Так і знай:<br>Пяець яна мне на бяду!<br>Ах ты, шэльма, пачакай,<br>Лепш са свету ця звяду!<br>І вот скарэй<br>Сваю курыцу злавіў,<br>На парозе ля дзвярэй<br>Галаву ёй адрубіў.<br>Паміж курэй.<br>Там падняўся смех такі,<br>Што балелі ім бакі. | Адна курыца пачула,<br>Як спеў хваляць салаўя,<br>Яе зайздрасць агарнула.<br>– Пачакай жа, вот і я<br>Спяю лепш за салаўя.<br><..............................><br>І вот скарэй, надуўшы брух,<br>Запяяла, як пятух.<br>– Кепска, – думае курыца, –<br>Трэба мне, мусіць, напіцца,<br>І добра прамачыць горла,<br>Бо ў ім там нешта спёрла.<br>Напілась, пасакатала,<br>Ды зноў, надуўшысь, запяяла.<br>А ўсё-такі, як пятух,<br>А бадай, той звёўся дух.<br>Гаспадар кляў з пакалення:<br>– Вот праклятае насенне,<br><..............................><br>Пяець яна мне на бяду,<br>Пачакай, шэльма,<br>Са свету лепш цябе звяду.<br><..............................><br>Вось сваю курыцу злавіў,<br>На парозе ля дзвярэй.<br>Галаву ёй адрубіў<br>сярод курэй.<br>Там падняўся смех такі,<br>Што балелі ім бакі. |

Былінава «Курыца», трэба сказаць, няблага захавалася. Але што цікава, у вусным абарачэнні пазнікалі амаль усе кароткія радкі. Мабыць, ізасілабізм і, як вынік, ізаметрызм – істотны мнеманічны чыннік. А можа г. зв. вольныя ямбы – асноўны памер рускіх баек – у народным успрыняцці не зусім верш, а толькі рыфмаваная проза, ці вершапроза, – раёшнік.

А. Мальдзіс у разгляданым артыкуле таксама цытуе нейкія загадкавыя вершы са сшытка свайго земляка, якія, між іншым, яму спадабаліся больш за Коласаў верш:

*«Напісаны яны ўвогуле літаратурна. То, можа, сам Багушэвіч іх пісаў? Праўда, адпаведнага сацыяльнага гучання няма, напісана тэматычна даволі «дробненька». То, можа, аўтарам з'яўляецца Стары Улас, які перад смерцю жыў у падвіленскіх мясцінах недалёка ад Няменчына»*[52].

Як бачым, зноў з'яўляецца цень Багушэвіча, бадай што магічны для нашых літаратуразнаўцаў. Але клопаты атрыбуцыі А. Мальдзіс перадаверыў калегу:

*«Высветліць жа, ужо на старонках не газеты, а часопіса, скажам, «Полымя», хто з'яўляецца аўтарам дзвюх працытаваных вышэй гутарак, я папрасіў бы багушэвічазнаўца Уладзіміра Содаля»*[53].

На жаль, У. Содаль ужо нічога не скажа (пра ход яго разважанняў гл. далей). А насамрэч перад намі зноў творы Я. Быліны. Першы з іх – верш «Папаў да неба»[54], як сведчаць цытаты ў Мальдзісавым артыкуле:

А другі, хаця багаты,
Можа умна гаварыць.
А пампэць – як чорт рагаты,
Так у пекле ён гарыць!
........................

– Можна першы памыліцца, –
Петрык даў яму адказ.
– Дурань можа ажаніцца,
Як ты, братку, другі раз![55]

А другі тэкст – апавяданне ў вершах «Як Петрык наш жаніўся»[56]:

Недалёка Шумска ляснік жыў багаты,
Да яго Марыські Пётрык хоча ў сваты.
А гэты ляснік дык Маце~~ем~~й [на]з[ы]ваўся,
Спачатку жыў бедна, сіроткай астаўся
Ад бацькі, ад маткі. Потым ажаніўся,
Ня меўшы зямелькі, па службе пусціўся[57].

Ад аўтарскіх варыянтаў яны адрозніваюцца толькі знакамі прыпынку, відаць, захоўваліся ў пісьмовым выглядзе. А трэці радок, які адхіляецца ад арыгіналу, мы тут паправілі з дапамогаю квадратных дужак і закрэслення.

Тое, што публікатар «не пазнаў», як той казаў, вочы ў вочы Быліну, асабліва ўражвае, калі ўспомніць – А. Мальдзіс жа займаўся ім адумысна[58].

Колькасць твораў Я. Быліны, запісаных з вуснаў народа ці ўпісаных простымі людзьмі ў сшыткі для памяці, па-добраму ўражвае. Мы разгледзелі толькі тое, што было апублікавана як ананімныя і памылкова атрыбутаваныя творы, а насамрэч такіх запісаў куды больш. Працуючы з фальклорным архівам Аляксея Пяткевіча (студэнцкія зборы 1968–1973 гг.), мы выявілі яшчэ шэраг Былінавых вершаў-апавяданняў даволі вялікага аб'ёму, зафіксаваных як ананімныя творы. Выходзіць, каб стаць народным паэтам, неабавязкова атрымаць такое найменне афіцыйна. Ім проста трэба быць. І Быліна, поруч з Багушэвічам, Коласам займае адно з першых месцаў па шкале папулярнасці. Верш Былінавых баек метрычна нявытрыманы, ён можа раздражняць густ, выхаваны на стэрэатыпах артаметрыі, але, як бачым, беларускіх сялян гэта не бянтэжыла[59]. Яны ахвотна завучвалі і доўгія сілабічныя апавяданні ў вершах, хоць сілабіка лічыцца непрыдатнай для беларускай мовы. Тое, што Я. Быліна да гэтай пары не перавыдадзены і невядомы нашым найбольш дасведчаным літаратуразнаўцам, вельмі прыкры факт. Але трэба аддаць належнае калегам па цэху: не ўва ўсім яны памыляліся. І тое, што яны знаходзілі Багушэвіча ў Быліне, не дзіва. І тое, што Багушэвіча шукалі ў кожным фалькларызаваным творы, таксама слушна. У нас ёсць добры эксперт у гэтай справе – Казімір Сваяк, які пісаў, звяртаючыся да аўтара «Дудкі» і «Смыка»:

Беларус твае матывы
Запяяў па ўсёй зямлі...[60]

А пра Быліну, які найбольш поўна наследаваў Багушэвічу (хоць ёсць у паэта-ксяндза і яўныя перапевы Багдановіча, і не толькі яго), Сваяк таксама сведчыў:

Смяяўся Рэўка з нас калісьці,
Што крывулі з нас як адзін:
Па ім ўжо сохнуць лаўраў лісці,
Прадаў і ліру яго сын.

Сымонка «смык» панёс ў магілу,
А «дудку» недзе пахаваў,
Аж ў нашых часах (мо праз сілу)
Яе Быліна дзесь дастаў[61].

Зрэшты, апраўданнямі не варта лішне цешыцца. Часам інфарматар дае даследніку дакладны ключ да разгадкі, а той і не думае яго пакарыставаць. Прыкладам, Содалеў карэспандэнт піша:

*«Другі верш, «На прызбе», я навучыўся, чытаючы невялікую кніжачку «На прызбе», напісаную вершам, і гэта была прадмова да той кніжачкі, але не была яна напісана праз Ф. Б. Хто быў аўтарам, я не помню»*[62].

Здавалася б, ідзі шукай аўтара зборнічка «На прызбе» – і будзеш мець усе карты ў руках, але даследнік нават не пацікавіўся, што гэта за зборнік. Няйначай, прызнанне Купалавага лірычнага героя *«Мне мудрасці кніжнай не даў Бог пазнаці...»* нашы гісторыкі літаратуры ўзялі сабе за метадалагічны прынцып і кнігі адкінулі як перажытак.

Аднак Я. Быліна не адзіны заходнебеларускі паэт, творы якога «пайшлі ў народ». У 1990 г. у газеце «ЛіМ» Л. Тарасюк падала падборку вершаваных тэкстаў да 150-годдзя з дня нараджэння Францішка Багушэвіча. Натхнёная прыкладам У. Содаля, яна таксама паставіла на тую самую карту:

*«Яшчэ пяць твораў невядомага паходжання настолькі ідэнтыфікуюцца з паэзіяй Ф. Багушэвіча (праблематычна і стылёва), што і іх можна аднесці (з вялікай доляй верагоднасці) да вершаў беларускага паэта. Яны маглі распаўсюджвацца ў народзе яшчэ з рукапісаў самога паэта»*[63].

Насамрэч твораў было шэсць – адзін тэкст кантамінаваны (два вершы), іх *«у 1980 годзе ў час фальклорнай практыкі група студэнтаў-філолагаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта запісала на Смаргоншчыне (вёска Чухны непадалёк ад Крэва) ад 55-гадовага Левановіча Івана Уладзіміравіча»*[64]. Здаецца, 1990 год ад нас не так далёка, але тады, як і ў 1977, не было ў распараджэнні даследніцы кампутара і інтэрнэту, праўда, ідэалагічныя перашкоды ўжо адпалі. Таму ідэнтыфікаваць тэксты было шмат цяжэй, чым сёння – так і засталася тая публікацыя без водгуку. У падборцы мы выявілі тры вершы Улада Ініцкага (Уладзіслава Паўлюкоўскага), у тым ліку і ягоны «хіт» – гумарэску «Як на дурня», якая не раз перадрукоўвалася[65]. Дарэчы, у тым жа 1990 г. ужо выйшла анталогія заходнебеларускай паэзіі, укладзеная У. Калеснікам «Ростані волі», дзе была і гумарэска Ініцкага[66].

| **Улад Ініцкі «Як на дурня»** | **Версія в. Чухны Смаргонскага р-на** |
|---|---|
| Едзе Янка ў вагоне,<br>У куточку там сядзіць,<br>На паноў тых і на паняў<br>Ўсё дзівуецца, глядзіць.<br>Закурыў сабе ён люльку,<br>Дымам пыкае, плюе,<br>А паны ўсё круцяць носам,<br>Чхаюць так, што страх бярэ.<br>А на Янку пазіраюць,<br>Як на дзікага звяра,<br>Вось адзін пан і пытае<br>Лапцявоза-мужыка:<br>– Ці бываў ты дзе на свеце,<br>Як гавораць між людзей?<br>– Чаму не, – той Янка кажа:<br>Пабывалася, ой-ей!<br>Быў у Горадні, у Вільні<br>У Пазнані пабываў,<br>У Нясвіжы, і ў Варшаву<br>Нават лёс мяне ганяў.<br>– А скажы, па колькі дурняў<br>Там на рынку прадаюць?<br>– Гэта, пане, як на дурня,<br>Дзе якога пападуць.<br>Дурань пан – заплацяць болей,<br>Бо на выстаўках дзяржаць.<br>Мужыка ж, як я, у лапцях,<br>Дык зусім не хочуць браць!.. | Едзе Янка у вагоне,<br>У куточку там сядзіць,<br>На паноў тых і на паняў<br>Усё дзівуецца глядзіць.<br>Закурыў сабе ён люльку,<br>Дымам пыхае, плюе,<br>А паны так круцяць носам,<br>Чхаюць, што аж страх бярэ.<br>А на Янку пазіраюць,<br>Як на дзікага звяра.<br>Вось адзін пан і пытае<br>Харошага мужыка:<br>– Ці бываў ты дзе на свеце,<br>Як гавораць між людзей?<br>– Чаму не, – той Янка кажа. –<br>Пабываў я ай-я-яй.<br>Быў у горадзе у Вільні,<br>У Пазнані пабываў,<br>У Варшаве і Нясвіжы.<br><............................><br>– Дык скажы, па сколькі дурняў<br>Там на рынку прадаюць?<br>– Гэта ж, пану, як на дурня,<br>Дзе якога пападуць.<br>Дурань пан – заплацяць болей,<br>Бо на выстаўках дзяржаць.<br>А мужык, як я, у лапцях,<br>Дык дарма не будуць браць! |

Менавіта да гэтай гумарэскі прыляпіўся зверху яшчэ адзін тэкст, і ў выніку кантамінацыі завязка сюжэту змазалася, стала менш выразнай. А ў астатнім твор захаваўся на дзіва добра, што паказана ў табліцы. Сцерлася з памяці характарыстычнае слова *лапцявоз*, наблізіўся да стандарту зменены дзеля памеру і рыфмы выклічнік *ой-ей!* і неўжыванае на той час уласнае імя *Горадня* перамянілася на агульнае *горад*.

Няблага захавалася ў памяці Івана Левановіча яшчэ адна гумарэска Улада Ініцкага «На рынку»[67], што відаць з табліцы:

| **Улад Ініцкі «На рынку»** | **Версія в. Чухны Смаргонскага р-на** |
|---|---|
| Раз на рынку, ўвосень штосьці,<br>Прадае Арцём кабылу.<br>Тая ж – проста скура і косці...<br>Глянеш толькі шэрхнуць жылы.<br>Шэрсць на ск[у]ры дыба стала,<br>З грывы нейкі лямец збіўся.<br>Капыты ў валадку распляскала,<br>А з хваста дык смык зрабіўся.<br>Дзеля здзеку патаргуюць<br>Канюхі, прыпадкам, бітку –<br>Пастаяць так, пажартуюць,<br>А Арцёму злосць дый брыдка,<br>Каб жа гэта. Йшчэ назола –<br>Чэрці жулікаў прынеслі.<br>Кожны бітку палкай пора<br>І рагоча, чуць не трэсне.<br>Цыганы, жыды Арцёма<br>І сяляне абступілі –<br>Усе пытаюцца, вядома,<br>Аб цане такой кабыле.<br>Што казаць. Арцём не знае.<br>Бо на здзек яго пытаюць,<br>І, як дурань пазірае.<br>Людзі ж болей прыбываюць.<br>Пры Арцёмавай бітцы<br>Ну, другі кірмаш зрабіўся,<br>У футэрцы і накідцы<br>Нават нейкі пан з’явіўся<br>І, зірнуўшы касым вокам<br>На народ, што так забраўся,<br>Пан нібыта ненарокам<br>У Арцёма запытаўся:<br>– Чалавеча, што каштуе<br>Гэтай біткі адзін локаць?<br>А Арцём нібы рахуе,<br>Каб цаною не спалохаць.<br>І, падняўшы хвост кабыл[ы],<br>Адказаў уважна пану:<br>– Аб цане, паночку мілы,<br>Дык звярнецеся у краму. | Нeяк раз увосень штосьці<br>Прадаваў Арцём кабылу.<br>Тая ж проста скура і косці,<br>Глянеш – страх аж жэгнуць жылы.<br>Шэрсць на скуры дуба стала,<br>З грывы нейкі лямец збіўся.<br>Капыты ў аладку распляскаты,<br>А з хваста дык смык зрабіўся.<br>≈<br>Мужыкі тут і сяляне (?)<br>Тут Арцёма абступілі.<br>Усе ж пытаюцца, вядома,<br>Аб цане такой кабылы.<br>≈<br>Што й казаць, Арцём не знае,<br>Бо на здзек яго пытаюць,<br>І як дурань пазірае.<br>Людзі ж болі прыбаўляюць.<br>≈<br>Каб на гэта шчэ казала,<br>Чэрці жулікаў прынеслі.<br>Кажды ў каня палкай пора<br>І рагоча, як не трэсне.<br>≈<br>Пры Арцёмавай кабыле<br>Нават другі кірмаш зрабіўся.<br>У футэрцы і накідцы<br>Нават нейкі пан з’явіўся.<br>Пан зірнуўшы касым вокам<br>На народ, што там сабраўся,<br>І як быццам ненарока<br>У Арцёма запытаўся:<br>– Чалавеча, што каштуе<br>Гэтай біткі адзін локаць?<br>А Арцём нібы рахуе,<br>Каб цаною не спалохаць.<br>І, падняўшы хвост кабылы,<br>Адказаў паважна пану:<br>– Аб цане, паночку мілы,<br>Дык звярніцеся у краму. |

Тут адбыліся перастаноўкі ў сярэдзіне тэксту. Мабыць, на гэта часткова паўплываў анжабеман: *Каб жа гэта. Йшчэ назола.* Але, як вышэй назіралася і ў Быліны, добра перахавалася завязка ды ўдарная канцоўка. Варта таксама звярнуць увагу, што замест літаратурнага слова *кожны*, якое Я. Станкевіч лічыў украінізмам, ужыта смаргонскае дыялектнае *кажды*. Народная версія перахавала для нас і мясцовае слова ***жэгнуць*** ‘застываць’ замест *шэрхнуць*. Гэта не апіска, а прадстаўнік малалікага класу статыўных дзеясловаў: *гаснуць – гасла, тухнуць –*

*тухла, яркнуць – яркла, жэгнуць – жэгла.* Корань паходзіць ад літоўскага *žaginỹs* ‘жэрдка’. У паўночна-заходніх гаворках: ***жэгень, жэгінь*** ‘кол, жэрдка’, ‘высокі чалавек’ (*Маскалі называлі астроўя, а ў нас – жэгені.* Кураполле Паст.; *У гумне ставілі жэгіні.* Кемялішкі Астр.; *Чалавек тонкі, як жэгень, сухі.* Ёдлавічы Брасл); ***паджэглены*** ‘падгалісты, падхорцісты’ (*Дзейка, як паджэглена – ні жывата, худая. Сабака бегае, як паджэглены.* Слабада Смал.); ***ажэгнуцца*** ‘перапячыся’ (*Ажэгнуўся хлеб, прыстае к скарынцы сподняй, а верхняя скарынка адстала.* Ухвала Круп.)[68].

І трэці тэкст, запісаны ў в. Чухны, які кантамінаваўся з першым – гэта пераклад УладаІніцкага з украінскага паэта Сцяпана Руданьскага (1833–1873)[69], тут страцілася канцоўка, але без страты асноўнай ідэі твора.

| **Улад Ініцкі «Што прыстойна для каго» (З Руданьскага)** | **Версія в. Чухны Смаргонскага р-на** |
|---|---|
| Нейк пад гумар пан пытае<br>Селяніна аднаго,<br>Як цалуюць гэта людзі<br>У руку папа свайго.<br>– Я б ніколі не згадзіўся,<br>Хоць бы мучыць пачалі,<br>Лепш сабаку цалаваў бы...<br>Гавару я ад душы.<br>Селянін памяўся й кажа:<br>– Так, цалуем, бо свайго,<br>Хай цалуе пан сабаку.<br>Што прыстойна для каго. | Неяк пад гумар пан пытае<br>Селяніна аднаго:<br>– Як гэта цалуюць людзі<br>У руку пана свайго?<br>Я б ніколі не згадзіўся,<br>Хоць бы і мучыць пачалі.<br>Лепш сабаку цалаваў бы, –<br>Гавару я ад душы.<br><............................><br><............................><br><............................><br><............................> |

Апрача вершаў Ініцкага ў падборцы Л. Тарасюк мы выявілі фрагменты з драматычнага абразка Вінцука Адважнага «Пад касцёлам», які друкаваўся ў газеце «Беларуская крыніца»[70]. Ніжэй змяшчаем фрагменты арыгіналу злева, а народны тэкст справа, у якім на месцы купюраў зрабілі разрывы, каб дабіцца эквалінеарнасці:

| **Вінцук Адважны «Спрэчка пад касцёлам» (фрагменты)** | **Версія в. Чухны Смаргонскага р-на** |
|---|---|
| **<1>**<br>Цо ту чуваць, нех пан рада?<br>Сымон<br>Жывём, пане мой, спакойна,<br>Працавіта, багабойна;<br>Касцёл блізка, дык вясёла:<br>Ходзім часта да касцёла.<br>А даўней не так бывала –<br>З гакам трыццаць вёрст – без мала:<br>Пакуль ў Слонім даскрабешся,<br>Дык начыста падаб’ешся,<br>Ды не толькі за дарогу, –<br>За ксяндза тож дзякуй Богу!<br>І даступны, і вясёлы,<br>І ў касцёле, і да школы<br>Прыбягае, дзетак вучыць –<br>Аж залішне часам мучыць.<br>Яцэнты<br>Хоць вы хлопы, ды палякі,<br>А тэн ксёндз тут... нейкі, такі,<br>Цо он гэта... проста мова,<br>Навет хамске у ёй слова,<br>Зачол мувіць на амбоні.<br>А няхай нас Пан Буг броні!<br><...> | – Дзень добры, пан Ясенты.<br>Што чуваць у вас добрага?<br>●<br>– Жывём, мой пане, спакойна,<br>Працавіта, багамольна.<br>Касцёл блізка, дык вясёлы,<br>Часта ходзім да касцёлу.<br>А даўней не так бывала:<br>Трыццаць вёрст пачці без мала<br>Пакуль слонцам даскрабешся,<br>Дык начыста падаб’ешся.<br>За вясёлую дарогу,<br>За ксяндза то дзякуй богу.<br>Ён даступны і вясёлы<br>Да касцёла і да школы<br>Прыязджае, дзетак вуча,<br>Аж залішне часам муча.<br>●<br>Але хоць хлопцы мы палякі,<br>Ксёндз наш нейкі сякі-такі.<br>Беларуска пачаў мовіць,<br>Хоць і хамска у ім слова.<br>Пачаў мовіць на амбоні,<br>А няхай Пан Буг броні: |

| | |
|---|---|
| **<4>**<br>Вы, шляхцюры ўсе тутэйшы!<br>Толькі ж вы крышачку лянівы,<br>Як той жыдоўскі конь фальшывы:<br>Падскочыць ўгору і асядзе,<br>Хоць кол ламі яму на задзе.<br><...> | ●<br>– Ах вы, шляхты, вы лянівы,<br>●<br>Як жыдоўскі конь фальшывы:<br>То ўперад скоча, то ўзад асядзе,<br>Хоць ламі кол яму на задзе... |
| **<3>**<br>То ж вы тут не за гарамі:<br>Мы вас добра знаем самі –<br><...> | ●<br>Тут жа ж мы не за гарамі,<br>Мы вас знаем добра самі. |
| **<2>**<br>Беларуска наша мова,<br>Хоць і просты у ёй словы,<br><...><br>Гэтай мовай мы гаворым,<br>Ці жартуем, пяём, спорым;<br>На вяселлі ці ў патрэбе...<br>Я ц э н т ы<br>Бракавала яшчэ ў небе!<br><...><br>Ды што таіць! скажу тут смела,<br>Што князь літоўскі, сам Ягела,<br>Хоць каралём каранаваўся,<br>Іначай тож не адзываўся,<br>Як беларускай нашай мовай.<br>Пісалі акты, дакументы –<br><................................><br>Што ж ты на гэта, пан Яцэнты?<br><...> | ●<br>А беларуска наша мова<br>Яна ёсць пекна і талкова.<br>●<br>Гэтай мовай мы гаворым,<br>Ці жартуем, пяём, спорым,<br>На вяселлі ці ў патрэбе,<br>●<br>Нават аж у самым небе.<br>●<br>Ды і таіць не буду, // Скажу тут смела,<br>Што князь літоўскі сам Ягела<br>Хоць каралём каранаваўся,<br>Але іначай не адзываўся,<br>Як беларускай нашай мовай<br>Пісалі акты, дакументы.<br>●<br>– Цо ж бы на гэта, пан Ясенты? |

Верш В. Адважнага захаваўся ў народнай памяці вельмі мудрагеліста, у асноўным пачатак, дзе раскрываецца ўся праблематыка, а таксама вялікія і зусім дробныя фрагменты з сярэдзіны – пераважна афарыстычнага гучання, так што п'еска ператварылася ў цэльную гутарку – квінтэсэнцыю абразка В. Адважнага. Відаць, Іван Левановіч меў выдатную памяць, бо захаваныя радкі гучаць блізу слова ў слова, змяніліся толькі тыя, дзе ўскладнены сінтаксіс і ёсць пераносы: *А тэн ксёндз тут... нейкі, такі; Ды не толькі за дарогу, – // За ксяндза тож дзякуй Богу; Цо он гэта... проста мова*. Таксама замяніліся некаторыя спецыфічныя словы на больш звыклыя: *шляхцюры → шляхты*, уласныя імёны – на агульныя: *Слонім → слонцам* і г.д. Польскія фразы загучалі па-беларуску, але ў канцы – наадварот. Адбыліся перастаноўкі ў тэксце, што відаць з нумарацыі фрагментаў у левай калонцы. Месцамі ў народнай версіі нават памер удасканаліўся супраць арыгіналу. Цікава, што найбольш сэнсава значны кавалак народнага тэксту, на які звярнула ўвагу і які працытавала Л. Тарасюк[71], склаўся з асобных, істотна аддаленых радкоў, так што ўтварыўся своеасаблівы цэнтон з афарыстычна завершанай думкай:

А беларуска наша мова
Яна ёсць пекна і талкова.
Гэтай мовай мы гаворым,
Ці жартуем, пяём, спорым,
На вяселлі ці ў патрэбе,
Нават аж у самым небе.

Вінцук Адважны вядомы як аўтар наследаванняў Феліксу Тапчэўскаму (творы

якога на Віцебшчыне былі папулярныя не менш, чым Багушэвічавы на Віленшчыне) – «Панскае ігрышча на новы лад» і «Адказ Юрцы...»[72] Пра фальклярызацыю твораў Тапчэўскага пішуць І. Запрудскі і В. Рагойша, апошні, між іншым, апублікаваў наследаванне Тапчэўскаму, якое мясцовыя жыхары прыпісваюць Паўлюку Трусу:

*«У вёсцы Нізок Уздзенскага раёна ўжо ледзь не сто гадоў жыве ў вусным бытаванні верш, аўтарам якога называюць Паўлюка Труса. Вершам «Вечарынка», запісаным мной яшчэ ў 1961 г. у часе студэнцкай фальклорнай экспедыцыі ад Тэклі Герман (1894 г. н.), які, па словах рэспандэнткі, прачытаў дзесяцігадовы паэт на адной з вясковых вечарынак, наладжаных з выпадку адыходу навабранцаў у войска»*[73].

Гэтак, праз народную памяць, наканавана было сустрэцца тром вельмі розным паэтам – Феліксу Тапчэўскаму, Вінцуку Адважнаму і Паўлюку Трусу – кожны з якіх заслугоўвае называцца народным. Мы не будзем змяшчаць тут Трусавай «Вечарынкі» (вельмі імаверна, што яна яму належыць). Звернем увагу на іншы тэкст, які падае В. Рагойша ў сваім артыкуле як *«запісаны <...> у 1982 г. у Ракаве ад П. І. Рагойшы (1914 г. н.)»*[74]. Аўтар артыкула амаль не памыліўся, калі напісаў:

*«Гэты верш, які, відаць, у свой час друкаваўся ў нейкім малавядомым заходнебеларускім выданні»*[75].

Запраўды, ён друкаваўся ў заходнебеларускім гумарыстычным часопісе «Маланка» (хіба ўдакладнім, не такім ужо і малавядомым) пад назваю «Пісар і мужык» і належыць Пётру Маслоўскаму[76].

| **Пётра Маслоўскі «Пісар і мужык»** | **Версія м. Ракаў Мінскага р-на** |
|---|---|
| Пісар шоў у ботах новых,<br>Аж тут лужа па дарозе.<br>Вось дзе гора і бяда:<br>Боты вымачыць шкада. | Ішоў пісар ў ботах новых,<br>Аж тут лужа на дарозе.<br>Вось дзе гора і бяда –<br>Боты вымачыць шкада.<br>● |
| Тут мужык яму папаўся,<br>Шапку зняў і прывітаўся.<br>Й просіць пісар: «Галубок,<br>Як дабрацца на той бок?». | Мужычок яму папаўся,<br>Шапку зняў і прывітаўся.<br>Пісар кажа: «Галубок,<br>Як прабрацца на той бок?»<br>● |
| Падышоў мужык да лужы, –<br>Дагадзіць ён быў дасужы.<br>Узяў пісара на плечы,<br>Ад натугі толькі крэкча. | Падышоў мужык да лужы.<br>Дагадзіць ён быў дасужы,<br>Узяў пісара на плечы,<br>Ад натугі толькі крэкча.<br>● |
| – Дзякуй, мой ты галубок,<br>За ту працу, мой браток,<br>Я ніколі не забуду,<br>Як ізноў служыць я буду! | Пісар кажа:«Галубок,<br>Гэту працу, мой браток,<br>Я ніколі не забуду,<br>Як служыць ізноўку буду».<br>● |
| – Хіба пан ужо не служа? –<br>Запытаў мужык дасужы.<br>– Вось сягоння ёсць загад,<br>Каб я выехаў назад. | Запытаў мужык дасужа:<br>«А ці пан ужо не служа?» –<br>«Ёсць сягоння мне загад,<br>Каб я выехаў назад».<br>● |
| Як пачуў мужык навіну,<br>Кінуў пана ў лужу з спіны,<br>Сярод самай глыбіны,<br>Між балотнай трасіны. | Як пачуў мужык навіну,<br>Кінуў пана ў лужу спінай<br>Паміж самай глыбіны,<br>Між балотнай трасіны.<br>● |
| – Я пранёс цябе паўлужы,<br>Бо не знаў, што ты не служыш.<br>Як пачнеш ты зноў служыць,<br>Дык прыду канчаць насіць. | <................................><br><................................><br>І сказаў: «Буду я цябе насіць,<br>Як ізноў будзеш служыць!». |

У народнай памяці тэкст захаваўся так добра, што нагадвае асобную аўтарскую рэдакцыю, месцамі нават палепшаную – з яго выпалі толькі два радкі ў канцы. А ці сапраўды была іншая рэдакцыя ці не, сёння адназначна адказаць нельга, таму мы не будзем аналізаваць адрозненні, рушым далей.

Пакуль пісаўся гэты тэкст, быў атрыбутаваны яшчэ адзін верш з запісаў Л. Тарасюк – «Як гультай за работу...»[77], што разглядаўся ў нас як імаверна заходнебеларускі ці нашаніўскі. Выявілася, гэта сатыра Вінцука Адважнага «Хто ён?»[78]. Вось жа, не паспелі мы развітацца з другім ксяндзом-паэтам, як мусім вяртацца да яго зноў.

| **Вінцук Адважны «Хто ён?»** | **Версія в. Чухны Смаргонскага р-на** |
|---|---|
| «Гультай за работу,<br>А мазоль за рукі!»<br>Шмат праліў ён поту,<br>Эх, дазнаў ён мукі! | Як гультай за работу,<br>Дык мазоль за рукі.<br>Шмат ён выеў мукі,<br>Многа да з навукі. |
| Двойчы ў хату зайдзе,<br>Бродзіць ён пры рэчцы:<br>Мейсца там не знайдзе –<br>«Дзе ж тут мне падзецца?» | ●<br>То ў хату зойдзе,<br>То бродзе пры рэчцы,<br>Месца ж ён не знойдзе,<br>Няма дзе падзецца. |
| А ў паветры парыць,<br>На дварэ панура, –<br>Страшна сонца жарыць –<br>Мусіць прыйдзе бура? | ●<br><.......................><br><.......................><br><.......................><br><.......................> |
| Бегчы трэ' на поле –<br>Аж на сенажаці:<br>(«Эх, ты, доля-доля!») –<br>Сена паскладаці... | ●<br>Трэба йсці на поле,<br>Аж на сенажаці.<br>Эх ты, доля, доля,<br>Сена паскладаці. |
| Трэба ж граблі правіць,<br>Гладка падгаліцца. –<br>«Мамка есці зварыць, –<br>Пабягу памыцца!» | ●<br>Трэба йсці на рэчку<br>Крыху падгаліцца.<br>– Мама есці зварыць,<br>Тады пайду мыцца. |
| Чорны хмары бродзяць,<br>Хоць ты разарвіся! –<br>Сену не зашкодзяць,<br>Бо бліны у місе... – | ●<br><.......................><br><.......................><br><.......................><br><.......................> |
| Смачная салата –<br>Жаль было расстацца:<br>«Каб я жыў, дзяўчата,<br>Не мог адарвацца!» | ●<br><.......................><br><.......................><br><.......................><br><.......................> |
| Не дагрыз ён хлеба,<br>Склеіў папяроску,<br>Прыкурыў, як трэба,<br>Бег-пабег праз вёску!.. | ●<br>Хаця не скончыў хлеба –<br>Скруціў папяроску,<br>Закурыў як трэба<br>І ляціць праз вёску. |
| Ён да сена валіць –<br>Дух з яго аж прэцца:<br>Як пярун засмаліць, –<br>«Ах, як сэрца б'ецца!» | ●<br>Ён да сена валіць,<br>Аж дух з яго прэцца.<br>Пярун як засмале –<br>Няма дзе падзецца. |
| «Каб яно згарэла,<br>Хай яго там д'яблы!<br>Памяць адляцела –<br>Я ж забыўся грабляў!..» | ●<br><.......................><br><.......................><br><.......................><br><.......................> |

| | |
|---|---|
| Хоць цягаў рукамі –<br>Хапаў сена хопам, –<br>Хоць скакаў часамі<br>Па лугу галопам, – | •<br><......................><br><......................><br><......................><br><......................> |
| Але ўсё дарэмна,<br>Бо нячыста сіла,<br>(Злосць яе нікчэмна!),<br>Сена прамачыла... | •<br><......................><br><......................><br><......................><br><......................> |
| «Верце мне, дзяўчаткі,<br>Што было б парою,<br>Каб прыпомніў татка<br>Граблі ўзяць з сабою!» | •<br>Верце ж мне, дзяўчаты,<br>Што было б парою,<br>Каб прыпомніў тата<br>Граблі ўзяць з сабою. |

Зноў народная памяць дэманструе знаёмы нам парадак перахоўвання тэкстаў: застаецца завязка і ўдарная развязка, а цэнтральная частка дзеяння, асабліва пейзажныя замалёўкі, выпадаюць, сюжэт як цэлае пры гэтым не разбураецца. Зменаў у захаваных фрагментах няшмат. Адметна, што выраз *дазнаў [ён] мукі* ператвароўся ў сугучны яму *да з навукі* (няйначай, слова *дазнаць*, з старабеларускай мовы, было менш зразумелае, чым новы цьмяны выраз). І характэрна, што замест дзеяслова *бегчы* з'явіўся больш тыповы для Смаргоншчыны *ляцець* (да яго мы яшчэ вернемся).

А цяпер разгледзім апошні з твораў гэтага шэрагу, змешчаны ў кнізе У. Содаля. Народная пагудка яго таксама прыпісвае Багушэвічу. У прыватнасці Яніна Шымановіч (і як тут, прачытаўшы гэтае прозвішча, не ўспомніць знаёмага нам экспедытара «Нашай Долі» Яўстафія Сымановіча!), народжаная Болзан, сцвярджала:

*«Усе жупранцы лічаць гэты верш за Багушэвічаў. У кніжках яго не было. Ад таты і мамы мы яго вывучыліся. Але я яго трохі ў сярэдзіне і канцы выпусціла, забылася, – неяк вінавата, з дакорам на сваю памяць, кажа Яніна. І тут жа суцяшае мяне: – Але не бядуйце, мой Стах добра ведае гэтую байку, і я папрашу яго пераказаць, выпішу яго і прышлю»*[79].

Аўтар кнігі, трэба прызнаць да яго гонару, не даў веры пагудцы, хоць яна яму імпанавала:

*«Я сяджу і не ведаю, што сказаць, што падумаць. Адчуваю, што верш мясцовы. Гучаць у ім і мясцовыя назвы. Ёсць у ім нешта і з Багушэвічавай песні «Сватаны», але прыгадваю, што ў Багушэвіча крыху іншая танальнасць верша. Казаць штосьцьвек катэгарычнае пра гэты верш не бяруся»*[80].

На жаль, У. Содаль не стаў дакопвацца да праўды. А быў вельмі блізка ад яе: *«Гучаць у ім і мясцовыя назвы»*. За *Рудзянятамі* тут зусім няцяжка адгадаць Арляняты (з гэтага самага рэгіёну) – гняздо роду Станкевічаў. А гумарэска сапраўды належыць Станіславу Станкевічу, паэту, якому фатальна не шанцуе[81]. Бяда ў тым, што паэт і кнігар Станіслаў Станкевіч – цёзка і аднафамілец крытыка і палітычнага дзеяча Станіслава Станкевіча, які да таго ж быў бургамістрам г. Баранавічы. У біябібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменнікі» гэтыя дзве асобы злепленыя ў адну, а дакладней – крытык проста паглынуў паэта і кнігара. Мала таго, няпростая біяграфія крытыка негатыўна паўплывала і на лёс паэтавых твораў. Яшчэ ў 90-я гг. Я. Трацяк аднавіў справядлівасць, растлумачыў, хто ёсць хто[82]. На жаль, сёння, працуючы з электроннай картатэкай Нацыянальнай бібліятэкі, мы сустрэлі тую самую блытаніну: усё, што належыць паэту-кнігару, – прыпісана крытыку.

Як бібліёграфы аддаюць творы Станкевіча-паэта Станкевічу-крытыку, так народная пагудка ўзычвае іх Багушэвічу. Зусім нядаўна Ю. Внуковіч апублікаваў тэксты фальклору, збертыя ў 2010 г. на тэрыторыі Літвы. Ад Браніславы Антонаўны

Станкевіч (sic!) 1928 г. н. з в. Кулі (Віленскі р-н) ён запісаў новую версію верша, зафіксаванага У. Содалем[83]. Шкада, што на момант публікацыі, мы яшчэ не паспелі атрыбутаваць тэкст. Ніжэй змяшчаем для параўнання арыгінальны твор побач з народнымі версіямі.

| **Станіслаў Станкевіч «Сваты»** | **Версія в. Жупраны Смаргонскага р-на** | **Версія в. Кулі Віленскага р-на** |
|---|---|---|
| Задумаў бацька<br>жаніць сына<br>І паслаў яго у сваты;<br>Вёрст за сем жыла дзяўчына<br>У засценку Рудзяняты. | Як задумаў бацька<br>жаніць свайго сына<br>Ды паслаў яго у сваты.<br>За сем вёрст жыла дзяўчына<br>Ды ў засценку Рудзяняты.<br>● | Задумаў бацька<br>жаніць сына<br>І паслаў яго у сваты.<br>За вёрст шэсць жыла дзяўчына<br>У засценку Рудзяняты. |
| Ўзялі свата, вельмі многа<br>Які ў гэтым дзеле знаўся,<br>Аляксея Канцавога,<br>Што за словам не капаўся. | Узяў свата, як вядома,<br>Што у гэтым дзеле знаўся –<br>Аляксандру Канцавога, –<br>Што за словам не капаўся.<br>● | Узяў ён свата, як вядома,<br>Што ў гэтым дзеле знаўся,<br>Аляксандру Канцавога,<br>Што за словам не хапаўся. |
| Са дзве кварты водкі мелі, –<br>У сядзенне палажылі;<br>Воз заслаўшы удвух селі<br>І гасцінцам пакацілі. | Са дзве кварты водкі мелі,<br>У сядзенне палажылі,<br>Воз заслалі, удвух селі<br>І гасцінцам пакацілі...<br>● | Узялі водкі са дзве кварты,<br>У сядзэне палажылі.<br>Воз заслалі, удвух селі<br>І гасцінцам пакацілі. |
| За гадзінку й Рудзяняты:<br>Іх там скоранька спаткалі,<br>Выйшаў бацька й сын жанаты,<br>Ды й у хату ўраз пазвалі. | За гадзіну і Рудзяняты.<br>Там іх хуценька спаткалі:<br>Выйшаў бацька, сын жанаты<br>І ў хату іх пазвалі. | За вёрст шэсць – і Рудзяняты!<br>Там іх хуценька спаткалі.<br>Вышаў бацька, сын жанаты,<br>І у хату іх пазвалі. |
| Жаніх – праўда, ў гэтай справе<br>Нібы трошачкі стыдаўся,<br>Аднак смела сеў на лаве<br>І дзяўчыне прыглядаўся. | <............................><br><............................><br><............................><br><............................> | <............................><br><............................><br><............................><br><............................> |
| А сват – доўга не чакаўшы –<br>Сваё дзела пачынае,<br>І слоў некалькі сказаўшы,<br>На стол водку ўраз стаўляе. | Сват быў шустры, як вядома,<br>Дзела ўлатвіць пастараўся...<br><............................><br><............................> | <............................><br><............................><br><............................><br><............................> |
| Зара ўсе за стол паселі,<br>І сватоўства распачалі, –<br>Частаваліся чым мелі,<br>І аб справе талкавалі. | <............................><br><............................><br><............................><br><............................> | <............................><br><............................><br><............................><br><............................> |
| А сват доўга не капаўся,<br>Ён быў шустры, як вядома, –<br>Дзела ўладзіць пастараўся<br>І да дня былі ўжо дома. | <............................><br><............................><br><............................><br><............................> | <............................><br><............................><br><............................><br><............................> |
| Зранння бацька, злезшы з печы,<br>Стаў у лапці абувацца, –<br>– Ну, дзяўчына ці дарэчы?"<br>Ён у сына стаў пытацца. | Заўтра бацька злез з печы,<br>Стаў у лапці абувацца.<br>– Ну, дзяўчына, ці дарэчы? –<br>Стаў у сына ён пытацца.<br>● | Заўтра з печы злазя бацька,<br>Стаў у лапці абувацца:<br>– А дзяўчынка ж ці дарэчы? –<br>Стаў у сына ён пытацца. |
| – Нішто, – кажа – паказалась,<br>Відаць крэпкая, а тлуста!<br>Але вось што спадабалась: –<br>Гэта іхная капуста! | Нішто,– кажа, – паказалась,<br>Відаць, крэпка й тлуста.<br>Ну от што мне спадабалась,<br>Гэта іхняя капуста...<br>● | – Вот дзяўчынка, як дзяўчынка,<br>Вельмі тлуста,<br>Але вот што спадабалася –<br>Іхная капуста! |
| Ўжо капуста над капусту,<br>З іхным хлебам еў аж змогся,<br>А каб нашага так лусту,<br>Дык бы ты, бацька, апрогся! | <............................><br>З іхнім хлебам еў аж змогся.<br>Каб так нашага лусту,<br>Ей жа богу, ты, бацька,<br>аж апрогся б... | От, капуста над капустай!<br>З іхным хлебам еў – аж змогся!<br>А каб нашаго лусту,<br>Дальбог, бацька, бы адрокся! |

І чарговы раз мусім звяртаць увагу на выпадзенне сярэдзіны верша ды захаванне канца і пачатку. Адметна, што Содалева інфарматарка ведае пра няпоўную захаванасць, нават бядуе з такой нагоды (апошняя страфа была запісаная з вуснаў яе ўнука Стаха), але аўтар для жанчыны – адназначна Багушэвіч, а не Станкевіч. Чарговы раз мы мусім канстатаваць статус аўтара «Дудкі» і «Смыка», народнага адваката як легендарнага героя. Гэты статус шмат у чым перазываецца з легендамі, якія ў Англіі ходзяць пра У. Шэкспіра, ува Ўкраіне пра Т. Шаўчэнку і г. д. Вось яшчэ адзін цікавы аб'ект для фалькларыстыкі – вобраз пісьменніка ў народным успрыняцці.

*(Працяг будзе)*

ДАДАТАК

Ніжэй публікуем слоўнічак 1813 г. (а калі сказаць дакладней, то матэрыялы да слоўніка), рукапіс якога захоўваецца ў Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы, у калекцыі М. П. Пагодзіна. Змест рукапісу дазваляе меркаваць, што слоўнічак належыць рускаму філолагу і археолагу К. Ф. Калайдовічу і ёсць чарнавой версіяй яго слоўніка 1822 г. Тэкст падрыхтаваны паводле копіі аўтографа, змешчанай А. Каўкам у газеце "Наша слова" (2014, 30 крас.). Тэкст рукапісу ўзгоднены з нормамі сучаснага рускага правапісу, а словы і выразы беларускай часткі – з нормамі беларускага. Беларуская лексіка тут падаецца тоўстым шрыфтам, пераклад на рускую мову і каментары – простым, а ілюстрацыі – курсівам. Адаптацыя ў значнай меры праясняе тэкст і робіць даступным масаваму чытачу, на жаль, некаторыя розначытанні згладжваюцца, спадзяемся пры нагодзе вярнуцца да слоўніка ў спецыяльным выданні.

## Словарь белорусского наречия

Сие наречие есть общее крестьянам Смоленской, Белорусских и некоторых польских губерний. Оно очень важно для объяснения некоторых мест в древней нашей словесности, и потому я решился свободные часы от должности посвятить занятию оным.

*Витебск, кляштер Езуитов, 1813, января 13 дня*

**Пушча** – лес.
**Фальверак** – деревня.
**Шлях** – большая дорога.
**Пуня** – сарай.
**Ралейны** – пахотный (говоря о хомуте). *Ралейны, вазавы хамут.*
**Глумлю** – смехотворю.
**Балонка** – заслонка в деревенск<их> окнах.
**Папрыяй** – подружи, м<есто> у Нест<ора>
**Кавалак** – кусок.
**Засценак**
**Кола** – дрожки, телега.
**Ключ** – раздел<ение> в повете и в кажд<ом> по восемь ключей, коих начальн<ник> назыв<ается> *ключвойтом.*
**Бавюсь** – мешкаю и *забавюсь, ~~забавляю~~.*
**Досіць** – довольно, полно.
**Гасцінец** – большая дорога. *На сельскам гасцінцы дзярейня была.*
**Статак** – скот.
**Пруд** – мельница.
**Грэбля** – плотина.
**Лазня** – баня.
**Провар** – винный и пивной завод.
**Маладзец** – работник.
**Маладчанка** – работница.

**Ліхтар** – подсвечник.
**Пол** – примостка на чем спят и пол в бане.
**Крокві** – стропила.
**Мост** – пол в хате.
**Скрыня** – сундук.
**Стрэльба** – ружье.
**Скапа** – шкаф, также кляча.
**Передок** – скамейка.
**Слончык** – столик.
**Гузікі** – пуговицы.
**Таплічкі́** – крючки у платья.
**Жупан** – кафтан.
**Шляпніца** – колпак.
**Хустка** – платок.
**Чуйка** – шинель, капот.
**Семя** – так назыв<ается> одно льняное, а конопляное – *каноплі*.
**Капуста** – капустные щи.
**Буракі** – бурачные щи.
**Мур** – камен<ное> строение.
**Мураваны** – каменный.
**Рог** – угол (гов<оря> об улиц<е> или переулке. *На рагу*).
**Істобка** – хатка, в которой есть печка и ставят хозяйск<ие> вещи.
**Це́пла** – огонь.
**Пояс** – кушак.
**Капялюш, брыль** – шляпа.
**Валёнка** – белая шляпа.
**Выследуюць** – пойдут по следу.
**Лезу** – вхожу куда. *Улез у хату, у лазню.*
**Асочаць** – отыщут.
**Чы** – ли. *Чы есць жыд у карчме.*

**Атаман** – голова волости. Сим имен<нем> назыв<ается> чиновн<ик> только в одн<ом> месте (?) [Могил<евской> Губерн<ии>], в Сеннинском повете в Мощонах – имении Матв<ея> Федор<овича> Толстого – в Москве приставом.

**Муж** – староста[84].
**Лічыць** – считать.
**Палічы** – сосчитай.
**Пірог** – калач котор<ый> в Белорус<сии> пекут без <ручки>.

*Расшыфроўка тэксту В. МАРТЫСЮКА, падрыхтоўка да друку Ю. ПАЦЮПЫ*

---

[1] Бараг, Л. Р. Беларуская казка: пытанні вывучэння яе нацыянальнай самабытнасці параўнальна з іншымі ўсходнеславянскімі казкамі. – Мінск: Вышэйшая школа, 1969. С. 9.

[2] Беларускія слоўнікі й энцыкляпэдыі: бібліяграфія / склад. В. Кіпель, З. Саўка. – Нью-Ёрк. – Менск: Беларускі інстытут навукі й мастацтва, 2001.

[3] Каўка, А. Першы беларускі...: М. П. Погодин. Словарь белорусского наречия 1813 г. // Наша слова. 2014. 30 крас.

[4] Тамсама.

[5] [Запрудскі, С.] М. Пагодзін не быў аўтарам беларускага слоўніка 1813 г.: [Электронны рэсурс] // Рэжым доступу: http://zaprudski.livejournal.com/73644.html. Дата доступу: 24.02.2015 г.

[6] Тамсама.

[7] Тамсама.

[8] Гл.: Калайдовичъ, К. Ф. О бѣлорусскомъ нарѣчіи // Труды Общества любителей

Россійской Словесности при Имп. Московскомъ ун-тѣ. 1822. Ч. 1. С. 67–80; Калайдовіч, К. О белорусском наречии // Роднае слова. 1994. № 12. С. 22–25; [Калайдовіч, К.]. О белорусском наречии // Прыгодзіч, М. Р. Беларускае мовазнаўства. – Мінск.: БДУ, 2006. С. 7–13.

[9] Шукеловіч, В. Вяртанне страчанага, або Зноў пра Францішка Багушэвіча: [Электронны рэсурс] // Рэжым доступу: http://www.westki.info/artykuly/12577/viartannie-strachanaha-abo-znou-pra-franciska-bahusevicha. Дата доступу: 24.02.2015 г.

[10] Тамсама.

[11] Тамсама.

[12] Тамсама.

[13] Тамсама.

[14] Тамсама.

[15] Тамсама.

[16] Тамсама.

[17] Булава, Т. [Колас, Я.] Зяць // Наша Ніва. 1908. 28 сак. (№ 7).

[18] Колас, Я. Збор твораў. У 14 т.: Т. 3. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1973. С. 7.

[19] АІМЭФ. Ф. 13. Воп. 13. Спр. 11.

[20] Шукеловіч, В. Вяртанне страчанага.

[21] АІМЭФ. Ф. 13. Воп. 11. Спр. 224.

[22] ЦБАН Літвы. Ф. 21. Спр. 927. С. 77–84.

[23] Абрамавичюс, В. Библиография по белорусской литературе XIX века: Художественные и публицистические произведения, опубликованные и рукописные. – Вильнюс: [б. и.], 1949. С. 87.

[24] Мальдзіс, А. Вершы захаваліся ў Літве // Літаратура і мастацтва. 2011. 4 лют. (№ 5). Тое самае: [Электронны рэсурс] // Рэжым доступу: http://www.lim.by/limbyfiles/lim/lim5-2011.pdf. Дата доступу: 24.02.2015 г.

[25] Тамсама.

[26] Тамсама.

[27] Тамсама.

[28] Колас, Я. Збор твораў. У 14 т. Т. 1. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1972. С. 24.

[29] Колас, Я. Беларусам // Наша Доля. 1906. 20 вер. (№ 3).

[30] Мальдзіс, А. Вершы захаваліся ў Літве...

[31] Багдановіч, М. Творы. – Мінск: Мастацкая літаратура, 2014. С. 291.

[32] Мальдзіс, А. Вершы захаваліся ў Літве...

[33] Луцкевіч, А. Выбраныя творы: Праблемы культуры, літаратуры і мастацтва. – Мінск: Кнігазбор, 2006. С. 206.

[34] Умястоўскі, Ф. Праўда аб рэдагаванні «Нашае Долі» (Адказ на пісьмо С. Барывоя) // Беларускі дзень. 1927. 24 снеж.

[35] Умястоўскі, Ф. Яшчэ аб «Нашай Долі»: Адказ С. Барывою (?) // Беларускі дзень. 1928. 10 лют.

[36] Запрудскі, І. Па дарозе на Парнас: Атрыбуцыйныя даследаванні і пытанні рэцэпцыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя: нарысы і артыкулы. – Мінск : БДУ, 2012. С. 77. Гл. таксама: Запрудскі І. З архіва народнай памяці (Да праблемы выяўлення і атрыбуцыі фальклярызаваных літаратурных тэкстаў) // Acta Albaruthenika: Polsko-białoruskie związki literackie, językowe i historyczno-kulturalne. 2008. 8. – Warszawa, 2008. – S. 182–194.

[37] Тамсама. С. 81.

[38] Тамсама. С. 81–82.

[39] Крапіва, К. Збор твораў. У 5 т. Т. 1: вершы, байкі, эпіграмы, паэмы. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1974. С. 44. Упершыню: Маланка. 1926. № 9. С. 3.

[40] Содаль, У. З памяці народнай // Дзень паэзіі ’77. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1977. С. 173.

[41] Тамсама.

[42] Тамсама. С. 174.

[43] Тамсама.

[44] Тамсама. С. 173.

[45] Bylina, J. Na pryźbie. – Wilnia: Drukarnia S. Bekkiera, 1924. S. 51.

[46] Запрудскі, І. Па дарозе на Парнас. С. 81.

[47] Тамсама. С. 82.

[48] Krynica. 1922. 29 kastr.

[49] Bylina, J. Na pryźbie. S. 51.

[50] Тамсама. С. 82.
[51] Тамсама. S. 51.
[52] Мальдзіс, А. Вершы захаваліся ў Літве.
[53] Тамсама.
[54] Bylina, J. Na pryźbie. S. 17–27.
[55] Мальдзіс, А. Вершы захаваліся ў Літве.
[56] Bylina, J. Na pryźbie. S. 11–16.
[57] Мальдзіс, А. Вершы захаваліся ў Літве.
[58] Гл.: Мальдзіс, А. «Астравецкі» верш Янкі Быліны // Астравецкая праўда. 1986. 20 вер.; Мальдзіс, А. Рукапісны зборнік Янкі Быліны // Астравецкая праўда. 1989. 7 сак.
[59] У апошнім зборніку Быліны старыя вершы падаюцца ў новай, дасканалай і адшліфававанай, рэдакцыі. (Bylina, J. Na pokuci: bajki i roznyja wieržy. – Wilnia: Wydańnie Biełaruskaha instytutu haspadarki i kultury, 1934.)
[60] Сваяк, К. Выбраныя творы. – Мінск: Кнігазбор, 2010. С. 99.
[61] Тамсама. С. 102–103.
[62] Содаль, У. Сцежкамі Мацея Бурачка: пошукі – замалёўкі – нарысы. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1991. С. 171.
[63] Тарасюк, Л. У памяці народнай // Літаратура і мастацтва. 1990. 23 сак.
[64] Тамсама.
[65] Ініцкі, У. Клім бабаю і іншыя жарты. – Вільня: Выд. Знамяроўскага і Будзькі, 1929. (Гумарыстычная бібліятэчка. Сш. 1). С. 27. Упершыню: Маланка. 1928. № 11. С. 7.
[66] Ростані волі: З заходнебеларускай паэзіі / уклад. і аўт. прадм. У. А. Калеснік. – Мінск: Мастацкая літаратура – 1990. С. 156–157.
[67] Ініцкі, У. Клім бабаю і іншыя жарты. С. 25–26.
[68] Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. У 5 т. Т. 1. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979. С. 68, 113; Т. 2. – Мінск: Навука і тэхніка: 1980. С. 172; Т. 3. – Мінск: Навука і тэхніка: 1982. С. 306.
[69] Тамсама. С. 30–31.
[70] Адважны, В. Выбраныя творы. – Мінск: Кнігазбор, 2011. С. 27–41. Упершыню: Biełaruskaja Kryniсa. 1932. 10, 20 vieras., 16 kastr.
[71] Тарасюк, Л. У памяці народнай.
[72] Biełaruskaja Kryniсa. 1932. 10, 25 žn.
[73] Рагойша, В. Пра фалькларызацыю літаратурных тэкстаў // Фалькларыстычныя даследаванні. Кантэкст. Тыпалогія. Сувязі: зб. арт. Вып. 3. – Мінск: Бестпрынт, 2006. – С. 9–10.
[74] Тамсама. С. 8–9.
[75] Тамсама.
[76] Маланка. 1926. №. 2. С. 7. Перадрукоўваўся ў кн.: Гэй, смалі, страляй, маланка! Сатыра і гумар Заходняй Беларусі (1920–1939 гг.) / уклад. Г. А. Каханоўскі. – Мінск: Выд-ва ЦК КПБ, 1989. (Б-ка «Вожыка»; № 5). С. 19.
[77] Тарасюк, Л. У памяці народнай.
[78] Гл.: Адважны, В. Байкі і іншыя вершы. Ч. 1–2. – Лёндан: 1973. – С. 88–89.
[79] Содаль, У. Сцежкамі Мацея Бурачка. С. 163.
[80] Тамсама. С. 162–163.
[81] Гл.: Stankiewič, St. Smiech – nia hrech: humarystyčnyja wieršy. – Wilnia: Vydaviectva A. Jacyny, 1926. – S. 23–25.
[82] Трацяк, Я. «Аб якім тут Станкевічу гутарка?..» // Літаратура і Мастацтва. – 1997. – 29 жніўня.
[83] Внуковіч, Ю. Народная культура Віленшчыны ў палявых запісах пачатку XXI стагоддзя: [Працяг. Пач. у Вып. 1] / Ю.І. Внуковіч // Беларускі фальклор: матэрыялы і даследаванні. – Вып. 2. – Мінск: Беларуская навука, 2015. – С. 393–455.
[84] Каментар да слова *атаман* у рукапісе размешчаны так, што адносіцца і да слова *муж*.

Міхась Скобла



...мяркуючы па фальклоры,
беларусы –
ад прыроды талакоўцы...

# Саркафагі страху

*З будучай кнігі*

## “Янки голос соловьиный...”

Падымаеш галаву ў маскоўскім метро, і проста над табой – даваенны герб БССР. Такое адчуванне, што ён табе на макаўку зваліцца. Спрабуеш інстынктыўна ўхіліцца, але вірлівы натоўп падхоплівае цябе і, не даўшы апамятацца, нясе да эскалатара. А ў таксоўцы ездзіць па Маскве – трэба мець вялікае цярпенне і яшчэ больш часу. Як на добры розум, масквічам варта пратэставаць не толькі супраць трэцяга-чацвёртага тэрміна Пуціна ці развязанай ім вайны ва Украіне, але і супраць аўтазатораў, бо свабоду кожнай асобна ўзятай асобы на маскоўскіх вуліцах абмяжоўваюць найперш яны. “Заплутаным і невыразным горадам” назваў перадрэвалюцыйную Маскву Янка Купала. І гэта ў той час, калі па ёй ездзілі толькі рамізнікі ды рэдкія аўто, а самым хуткім сродкам транспартных зносінаў лічыўся самакат. Што б сказаў Купала пра сённяшнюю Маскву?

Зрэшты, на Кутузаўскім праспекце, дзе сённяшняя Масква

дала прапіску Купалу, затораў практычна не бывае. Пешаходныя пераходы схаваныя пад зямлю, святлафораў таксама не відно, і шматпалосная аўтастрада ў сваім імкненні вырвацца за кружную дарогу нагадвае ўзлётную паласу ў кірунку Беларусі. Настаяўшыся на скрыжаваннях у цэнтры горада, легкавікі тут ідуць пад сотню, не асцерагаючыся гібэдэдэшнікаў.

Купала стаіць у акуратным скверыку на невысокім пастаменце, апершыся на поручні. “Мо нізка поручні былі / у тым гатэлі?” – адразу ўспамінаюцца радкі Сержука Сокалава-Воюша. Няма ўжо таго маскоўскага гатэля, у якім паэт загінуў 28 чэрвеня 1942 года. Мясцовыя беларусы спрабавалі адшукаць архіўную справу аб ягонай загадкавай гібелі. І справа знішчаная – такі быў афіцыйны адказ. І тут адразу напрошваецца пытанне: калі тую справу спачатку засакрэцілі, а потым знішчылі (у што верыцца слаба), то, значыцца, расійскія спецслужбы не хацелі разгалошвання нейкай інфармацыі адносна смерці Купалы?

Відаць, у той справе былі адпаведныя інструкцыі, імёны агентаў ды іх данясенні? Відаць, былі нейкія рэзалюцыі на спецпаведамленні, адпраўленыя ў тыя трагічныя дні на імя Сталіна і Берыі, дзе, дарэчы, Купала тройчы названы чужым прозвішчам – Луцкевіч. Маўчаць маскоўскія архівы, маўчыць бронзавы Купала на Кутузаўскім праспекце, маўчыць за яго спінай новамаскоўскі халодны краявід са шклянымі хмарачосамі.

Калі помнік у 2006 годзе ўсталявалі, неяк падышлі да яго маскоўскі пісьменнік і маскоўскі беларус, які ўсё жыццё рупіўся пра ўшанаванне памяці песняра ў Маскве. Пісьменнік іранічна пасміхнуўся і, кіўнушы на манумент, спытаўся: – А не великоват ли? Ведь, поди, вровень с Пушкиным будет...

У гэтым пытанні – праўдзівае стаўленне расійцаў і да Янкі Купалы, і да незалежнай Беларусі. Маўляў, не павінен “малодшы брат” зраўняцца са “старэйшым” нават вышынёй помнікаў сваім галоўным паэтам. І тут справа не ў маштабах літаратурных талентаў, а ў нечым яшчэ больш істотным, што мелі на ўвазе тыя самыя расійцы ў сціслай формуле: “Пушкін – наша ўсё”.

І тут мне прыгадваецца гісторыя, пачутая калісьці ад Янкі Брыля. Падчас нейкага літаратурнага свята ён жыў у адным гатэльным нумары з пісьменнікам-таджыкам. Вярнуўшыся вечарам з банкета, яны працягвалі гаворку пра дружбу народаў – дружбу літаратур. І тут таджык пытаецца: “За што вы так узвышаеце свайго Купалу? Чытаў я яго ў расійскіх перакладах – нічога асаблівага”. Брыль пачаў казаць, што поўны Купала да гэтай пары не перакладзены, пачаў наракаць на перакладчыкаў-халтуршчыкаў. А потым вырашыў ураўнаважыць спрэчку і заўважыў, што і веліч Фірдаусі значна перабольшаная. Пачуўшы такое, таджык ледзь не кінуўся на беларуса з кулакамі. А, можа, і кінуўся б, каб не двухметровы брылёўскі рост і вывучка былога марпеха. Але пра тое, што Фірдаусі – самы геніяльны паэт усіх часоў і народаў, пачуў у той вечар увесь гатэль...

Помнік Янку Купалу ў Маскве ўсталяваны гадоў дзесяць таму, але да гэтай пары афіцыйна не адкрыты. Чаму? Невядома. Беларуская амбасада раіць маскоўскім беларусам забыцца на гэты факт. Для яе гэтае пытанне закрытае. Але як можна, даруйце за каламбур, закрыць неадкрытага Купалу? Тым больш памятаючы, якія палымяныя прамовы гучалі і колькі шампанскага вылілася ў Свіслач на адкрыцці помніка Пушкіну ў Мінску.

Штодня па Кутузаўскім праспекце праносіцца прэзідэнцкі картэж. Праехаць міма і не заўважыць Купалу немагчыма – хвала за гэта маскоўскім архітэктарам. А заўважаючы, пра што думае ВДЛ (*высшее должностное лицо* – са слоўніка гібэдэдэшнікаў) Расіі? На ягоны запытальны погляд памочнік мог бы працытаваць радкі Дзям'яна Беднага: “Янки голос соловьиный / превратился в шип змеиный”. А за што гэты Янка ўдастоіўся такой джалячай эпіграмы ад крамлёўскага сатырыка? – магло б пацікавіцца ВДЛ, азірнуўшыся на ўсталяваны пры “страціўшым давер”

мэры Лужкову помнік. І памочнік, клацнуўшы накрыўкай свайго айпэда-ўсязнайкі, мог бы прачытаць верш пра расійскага чынадрала:

Он снит былую мощь и ширь:
Цари, царицы, царский трон,
Погромы, каторги, Сибирь...
О Русь! Прими раба поклон!
Разбитых не сорвёшь оков
И ты, Москвы отребье, знай:
Былых не воскресишь веков,
С какой брехнёй не вылезай...

У Маскве не адкрыты не толькі Купала-помнік. У Маскве не адкрыты і Купала-паэт. Перакладзены ён на расійскую мову (за нешматлікімі выняткамі) дрэнна. Каб не быць галаслоўным, прывяду некалькі яскравых прыкладаў неадэкватнага ператлумачэння ягоных твораў.

У Купалы: “Там за вёскай у полі / тры стаялі таполі”. У перакладзе Эдуарда Багрыцкага атрымалася: “За околицей в грозы (?) / три стояли берёзы”.

У Купалы: “Чаго вам хочацца, панове, / які вас выклікаў прымус...”. Перакладчык С. Спаскі сёе-тое падправіў: “Чего вам, господа, угодно? / Что растревожило ваш вкус?”. Пагадзіцеся: прымус і вкус – зусім не сінонімы.

У Купалы: “Як вецер, свабодны мой дух, / хоць рукі закуты ў ланцуг”. У перакладчыка Р. Куранёва выйшла стылёва нязграбнае: “Как ветер, свободен мой дух, / хоть горя таскаю за двух”.

Купала піша: “Годзе заходняй і ўсходняй культуры”. Выхадзец з Магілёўшчыны масквіч Іван Бурсаў перакладае: “Хватит свои прививать нам культуры”.

А вось як гучыць па-расійску вядомы купалаўскі верш “...О так! Я – пралетар!”: “Я – пролетарий... Это я – / покорный раб, вчерашний нищий, / низвергнув бога и царя, / всем на земле владею нынче”. Але Купала ў арыгінальным тэксце не зрынае Бога. Навошта той жа Куранёў зрабіў атэістам беларускага паэта, які, да слова, вянчаўся ў маскоўскім Петрапаўлаўскім касцёле?

Купала пачынае верш “Царскія дары” так: “Цар грозны, маскоўскі, вясёлы...” Той жа Бурсаў па-зямляцку самаўпэўнена падпраўляе песняра: “Хмельной от побед царь московский...”

Часам перакладчыкі (ці рэдактары) папросту скарачалі купалаўскія вершы. Гэтак, з вершаў “Прыстаў я жыць” і “Паўстань” выкінута па дзве страфы, у тым ліку знакамітыя фінальныя радкі: “Паўстань з народу нашага, Ўладар, / і адбудуй свой збураны пасад”. Думаецца, скароты гэтыя насілі яўна невыпадковы характар. І добра, што падобная перакладчыцкая дзейнасць яскрава паказаная ва ўкладзенай доктарам Аляксеем Каўкам кнізе Янкі Купалы “Молодая Беларусь”, што дзіўным чынам пабачыла свет у 2008 годзе ў маскоўскім выдавецтве “Московский писатель”.

Купала застаецца неадкрытым у тых шматлікіх перакладных кнігах, што выходзілі ў розныя часы ў Маскве і Ленінградзе. Купала застаецца закрытым у архівах ФСБ. Помнік на нелегальным становішчы... І тут асабліва не паўстанеш, як тыя Прарок, Ваяк і Уладар у аднайменным вершы...

Адкуль жа такія дзіўныя, калі не сказаць непрыяцельскія, адносіны да беларускага класіка? Няўжо ізноў “Янки голос соловьиный превратился в шип змеиный”? Дарэчы, верш гэты напісаны ў Крамлі, дзе жыў Дзям’ян Бедны ў раскошнай кватэры.

## Як абакралі Уладзіміра Караткевіча

Свабоды і гадоў шэсцьдзясят жыцця прасіў у лёсу малады Уладзімір Караткевіч. Узамен абяцаўся напісаць сто тамоў, дадаючы ў дужках – пры штодзённай

катаржнай працы. Лёс паскупіўся і не дадаў просьбіту цэлых шэсць гадоў. На што іх пісьменнік патраціў бы? На стварэнне гісторыі беларускай літаратуры? На напісанне вясёлай кнігі “Парнас дыбкі”? На кнігу публіцыстыкі “Вы, беларусы”? А мо на серыю гістарычных раманаў “Век”, якая якраз і павінна была складацца з шасці тамоў – па адным томе на год? Магчыма, і на гэта. Бо ўсё пералічанае ўваходзіла ў план задумаў Караткевіча, якіх было так многа, што ён жартам прапаноўваў іх у яго купляць.

Наўрад ці знайшоўся б пакупнік на гэткі спецыфічны тавар. Бо чаго вартыя былі самыя арыгінальныя задумы без караткевічаўскай неўтаймоўнай фантазіі, без яго вобразнай мовы, без усяго таго, што з часавай адлегласці звычайна абазначаецца адным словам – геній.

Геніяльнага Караткевіча няма з намі ўжо трыццаць гадоў, а мы яшчэ не прачыталі ўсіх ягоных твораў. І каму тут выстаўляць рахунак? Затузанаму рознымі бязглуздымі рэарганізацыямі акадэмічнаму Інстытуту літаратуры? Караткевічаўскаму музею ў Оршы, які, безумоўна, мусіў бы не толькі захоўваць мемарыяльныя набыткі, але і займацца даследчыцка-публікатарскай працай? Гэтак званым караткевічазнаўцам пры ўніверсітэцкіх кафедрах, якія паабаранялі кандыдацкія дысертацыі па творчасці пісьменніка, але ні разу не папрацавалі ў ягоным маладаследаваным архіве?

Маладаследаваным – бо аднаго нястомнага Анатоля Вераб’я ўсё ж недастаткова, каб апрацаваць увесь архіў, адначасова вышукваючы караткевічаўскія тэксты па прыватных зборах і збіраючы пісьменніцкі эпісталярый літаральна па ўсім свеце. Патрэбныя галіновыя даследчыкі – найперш тэкстолагі, якія заняліся б параўнальным аналізам аўтографаў і апублікаваных за савецкім часам твораў, як тое зрабіў Глеб Лабадзенка з “Ладдзёй роспачы”.

Мяркуючы па фальклоры, беларусы – ад прыроды талакоўцы. Адна пчала мёду не наносіць. Адна галавешка і ў печы не гарыць... Але насамрэч – яшчэ як гарыць і другія запальвае. Менавіта дзякуючы таму самаму Анатолю Вераб’ю ў выдавецтве “Мастацкая літаратура” пачаў выходзіць Збор твораў Уладзіміра Караткевіча ў 25 тамах. Пасля папярэдняга васьмітомавіка дадалося тэкстаў адразу ажно на 17 тамоў! Ведаю, колькі скептыкаў было ў гэтага праекта, але ён, нягледзячы на ўсе аб’ектыўныя і суб’ектыўныя перашкоды, усё ж ажыццяўляецца.

Прызнаюся, у першым томе, у які ўвайшлі вершаваныя творы за адно толькі дзесяцігоддзе (1950-1960), я адразу пачаў падлічваць колькасць упершыню апублікаваных тэкстаў. Іх аказалася больш за паўсотні. Думаецца, і наступныя тамы таксама парадуюць нас першапублікацыямі. Што само па сабе сведчыць пра ўнікальнасць і беспрэцэдэнтнасць гэтага збору твораў у гісторыі айчыннага кнігавыдання.

Але я не пішу рэцэнзію на свежавыдрукаваны том. Проста хочацца засцерагчы і выдавецтва, і ўкладальніка ад паўтарэння зробленай калісьці памылкі. Яна мела месца, калі ў 1987—1991 гадах выдаваўся Збор твораў Караткевіча ў 8 тамах. Тым больш што выдавецтва і ўкладальнік абодвух збораў твораў – тыя самыя. І тут мне не абысціся без невялічкага адступлення ў мінулае.

1968 год. У выдавецтве “Беларусь” рыхтуецца да друку паэтычны зборнік Рыгора Семашкевіча “Леснічоўка”. Раптам перад здачай рукапісу ў набор Галоўліт выяўляе ідэалагічную дыверсію – адзін з вершаў прысвечаны студэнту філфака БДУ (Семашкевіч там выкладаў), паэту-пачаткоўцу Алесю Разанаву, які незадоўга перад гэтым разам з Віктарам Ярцам і Лявонам Барташам разварушылі ўвесь філфак, сабраўшы подпісы за выкладанне ўсіх дысцыплінаў па-беларуску. Зразумела, верш з прысвячэннем цэнзура зняла, а дырэктару выдавецтва паківалі пальцам за страчаную пільнасць.

Апёкшыся на малацэ, і на ваду дзьмухаць будзеш. Таму любыя прысвячэнні ў

наступных кнігах разглядаліся ледзь не пад мікраскопам і пры найменшых сумненнях выдаляліся. Асабліва не пашанцавала паэтычнаму зборніку Караткевіча “Мая Іліяда” (1969). У ім было знята ажно дванаццаць (!) прысвячэнняў тым сябрам паэта, якія з афіцыйнага гледзішча не выглядалі ідэйна беззаганнымі. Пад рэдактарскую рэзекцыю трапілі наступныя вершы: “Дзядзькаў кубак” (з прысвячэннем Васілю Сёмуху), “О любоў мая, Беларусь!” (прысвечаны Ларысе Геніюш), “Скарына пакідае радзіму” (прысвячэнне – Вячаславу Рагойшу), “Генуэзская крэпасць” (ахвяраваны Уладзіміру Дамашэвічу), “Энкелад” (меў прысвячэнне Валянціну Тарасу), “Балада пра дзіка і чалавека” (тут падазрэнне выклікаў кінааператар Анатоль Забалоцкі, які здымаў з Караткевічам дакументальныя фільмы на Палессі, а пазней – “Каліну чырвоную” В. Шукшына)...

За кожным са знятых прысвячэнняў – свая гісторыя, нейкія эпізоды сяброўства, якія павінны вывучацца біёграфамі Уладзіміра Караткевіча. Скажам, “Дзядзькаў кубак” на свет з’явіўся пасля таго, як Васіль Сёмуха разам з Караткевічам пражылі цэлы месяц у Рагачове – у дзядзькі пісьменніка Ігара Грынкевіча. За маладым перакладчыкам сцігавалі тады спецслужбы, і Уладзімір Сымонавіч своечасова прадаставіў свайму сябру “палітычны прытулак” у зацішным гарадку на беразе Дняпра. Дарэчы, тады ж Васілём Сёмухам быў зроблены пераклад на расійскую мову рамана “Леаніды не вернуцца на зямлю”, які падчас генсакратарства “дарагога Леаніда Ільліча” палахлівымі рэдактарамі быў пераназваны ў “Нельга забыць”. Але гэта – гісторыя асобная.

Прысвячэнне Ларысе Геніюш над вершам “О любоў мая, Беларусь!” так напалохала выдавецкага рэдактара Хведара Жычку, што ён увогуле выкінуў гэты кароценькі пяцірадковы твор з “Маёй Іліяды”. Ён быў апублікаваны толькі праз васямнаццаць гадоў у пасмяротнай кнізе Караткевіча “Быў. Ёсць. Буду” (зноў жа – без прысвячэння).

Ці трэба казаць, у якім непрыемным становішчы апынуўся аўтар пасля выхаду “Маёй Іліяды”. Па словах таго ж Васіля Сёмухі, ён на чым свет стаіць лаяў выдавецтва, абзвоньваў сяброў і прасіў у іх прабачэння. Шляхотны, далікатны Уладзімір Караткевіч, які сваю сяброўскую вернасць засведчыў аўтографам на кнізе, падараванай Міколу Аўрамчыку: “... ад таго, хто ніколі не падводзіў сяброў і заўсёды ўмеў любіць іх”.

У папярэднім Зборы твораў, папулярным васьмітомавіку (наклад – 60 000 асобнікаў!), прысвячэнні Ул. Караткевіча сябрам не замоўчаныя, але яны апынуліся ў каментарнай частцы. А месца іхняе – у асноўным тэксце. Захаваліся ж аўтографы пісьменніка – святая святых для любога публікатара.

Уявім сабе, што “Маленькі прынц” Антуана дэ Сент-Экзюперы друкуецца без знакамітага прысвячэння – “Лявону Верту, калі ён быў маленькім”... Альбо ўявім, як з “Песні пра зубра” Міколы Гусоўскага хтосьці задумаў прыбраць прысвячэнне каралеве Боне Сфорца ды яе сакратару Людвіку Альфію... У Экзюперы прысвячэнне ўвогуле ўспрымаецца як першы раздзел ягонай славутай казкі. А прысвячэнне Гусоўскага – як нітка, тузянуўшы за якую можна разблытаць цэлы клубок жыццёвых калізій з побыту аўтара ў Рыме, без разумення якіх і “Песню пра зубра” нам да канца не зразумець. Гэтаксама шмат чаго не зразумеем мы і без караткевічаўскіх прысвячэнняў.

Аднойчы ў хату да Уладзіміра Караткевіча залезлі зладзеі. “Абакрасці Караткевіча – як абакрасці храм”, – адразу ж адгукнулася на гэтую вестку Ларыса Геніюш у адным з лістоў да Зоські Верас. Я не ведаю, што тады вынеслі з кватэры-храма зламыснікі – грошы, рэдкія кнігі, рукапісы? Але ўкрасці можна не толькі матэрыяльныя каштоўнасці. Савецкая цэнзура ў 1969 годзе паспрабавала скрасці ў Караткевіча сяброў. І пакінуць гэтую ганебную спробу без адпаведнай увагі ўкладальнікі, рэдактары і выдаўцы новага Збору твораў пісьменніка проста не маюць права.

## Пасмяротна рэпрэсаваны Уладзімір Жылка

Уявім сабе: сустрэліся на тым свеце Якуб Колас і Уладзімір Жылка. Пагаварылі, паўспаміналі агульных сяброў і знаёмцаў, прыгадалі сваю першую сустрэчу на Акадэмічнай канферэнцыі ў 1926 годзе ў Мінску. А потым старэйшы класік бярэ маладзейшага за гузік і сурова так пытаецца: “Дык хто напісаў верш “Беларускаму люду” – вы ці я?”

Збянтэжаны Жылка з нездаровым румянкам на шчоках яшчэ больш чырванее: “Выбачайце, дзядзька Якуб, няма маёй віны ў тым, што верш гэты прыпісалі мне. Як сёння памятаю, у дзень яго апублікавання ў газеце “Звязда” – 23 лістапада 1926 года – я прыходзіў у рэдакцыю на агледзіны, а неўзабаве быў прыняты туды літсупрацоўнікам. Тады ўвесь Мінск гаварыў пра вашу поўху бальшавікам. Дык як я магу забыцца – хто аўтар?”

Колас моўчкі працягвае пакручваць гузік, і Жылка яшчэ больш бянтэжыцца. Збіваючыся, ён паспешліва расказвае народнаму паэту ўсё, што ведае пра верш “Беларускаму люду”. Твор гэты друкаваўся ў зборніку “Водгулле” (1922) і яшчэ паспеў увайсці ў першы Збор твораў Якуба Коласа ў двух тамах (1928). Затое потым ні ў сямітомавік (1952-1954), ні ў дванаццацітомавік (1961-1964), ні нават у чатырнаццацітомавік (1972-1978) верш гэты не трапіў. Затое з дзіўнай паслядоўнасцю стаў з’яўляцца ў кнігах самога Жылкі – у “Творах” (1996) і ў зборніку “Матылі” (2009). Абедзве кнігі выйшлі ў выдавецтве “Мастацкая літаратура” агульным накладам 8000 асобнікаў і прызначаліся для школьных бібліятэк.

Уражаны эрудыцыяй маладога калегі, Колас пацяплелым позіркам зірнуў у будучыню, убачыў старшакласніка ля школьнай дошкі, які баявіта дэкламаваў: “Нас падзялілі – хто? Чужаніцы, / цёмных дарог махляры. / К чорту іх межы! К д’яблу граніцы! / Нашы тут гоні, бары...” Потым скіраваў зноў пасуровелы позірк на выдавецтва “Мастацкая літаратура”, дзе ў зацішных кабінетах сядзелі, унурыўшы галовы ў рукапісы, дыпламаваныя рэдактары і карэктары, адпусціў гузік і працадзіў скрозь зубы сваё ўлюбёнае слоўца: “Хамуты!”...

Няўдзячная і рызыкоўная гэта справа – прыдумваць падобныя сустрэчы і гутаркі. Але я ўпэўнены: калі б два класікі сапраўды спаткаліся, то пра забраны ў аднаго і аддадзены другому верш загаварылі б абавязкова. Бо твор гэты – знакавы для Коласа, ён быў водгукам паэта на драпежніцкі падзел Беларусі пасля Рыжскага міру ў 1921 годзе. Ды і ўвогуле, каму з паэтаў такое можа спадабацца? Вунь Янка Купала ва Уладзіміра Хадыкі за адзін пазычаны радок ганарар спаганяў, хай сабе і жартоўна. А тут цэлы верш (ды які!) аддалі другому аўтару.

Як жа такое магло стацца? Паспрабуем разабрацца. У падсавецкай Беларусі пабачылі свет дзве кнігі Уладзіміра Жылкі – “Вершы” (1970) і “Пожні” (1986). Абедзве былі складзеныя дасведчаным знаўцам заходнебеларускай літаратуры прафесарам Уладзімірам Калеснікам. Абедзве невялікія аб’ёмам, яны і не прэтэндавалі на ахоп усёй рознажанравай літаратурнай спадчыны паэта. Не ўзнікала ў чытача асаблівых прэтэнзіяў і да нешматлікіх, але прыкметных купюраў у Жылкавых тэкстах – прыкладам, у паэме “Уяўленне”. Што ж, “быў час, быў век, была эпоха”, калі і выдаўцамі, і рэдактарамі, і аўтарамі кіравалі з сумнавядомай установы, менаванай Галоўлітам. Чытачы разумелі: раз купюра зробленая – значыць, так яно і павінна быць. Да пары да часу.

У пачатку 90-х вершы Жылкі былі ўключаныя ў школьныя праграмы, і сама сабой паўстала праблема аднаўлення тэкстаў. Я тады працаваў намеснікам галоўнага рэдактара навукова-метадычнага часопіса “Беларуская мова і літаратура ў школе” і пры падрыхтоўцы твораў Жылкі да публікацыі звярнуўся да Калесніка з канкрэтнай просьбай – аднавіць першапачатковы тэкст у “Вершах аб Вільні”. Адказ шаноўнага прафесара збянтэжыў: “А ці варта гэта рабіць?” Пасля колькіхвіліннай

тэлефоннай дыскусіі Уладзімір Андрэевіч пагадзіўся, што варта, і ў “Вершах аб Вільні” з’явілася адсутная ў ранейшых выданнях страфа:

Ў жыдоўскім гета дробязь, клопаты
І аб Сіёне сны ў туман,
І гэткі ж сум, і тыя ж допыты
Вядуць таполі базыльян.

Пасля распаду савецкай імперыі і ператварэння ўсемагутнага беларускага Галоўліту ў шараговае ўпраўленне ва ўстанове пад назвай Дзяржкамдрук (Дзяржкумдруг – як часам называлі яе ў пісьменніцкіх колах) наспела новае выданне твораў Жылкі. Калі яно ў 1996 годзе з’явілася, я найперш паглядзеў, ці на месцы тое адноўленае “жыдоўскае гета”. Гета было на месцы, але ў вернутай з забыцця страфе адзін з радкоў быў перайначаны. Мяне гэта насцярожыла, я пагартаў кнігу і ўбачыў у ёй той самы верш Якуба Коласа “Беларускаму люду”. Паўтаруся – убачыў у кнізе Уладзіміра Жылкі.

А паколькі гэтым разам усчынаць дыскусію не было з кім – Уладзімір Калеснік, на вялікі жаль, ужо адышоў у лепшы свет, – то я пайшоў у Акадэмічную бібліятэку і замовіў прыжыццёвыя выданні Жылкі – “На ростанях” (1924) і “З палёў Заходняй Беларусі” (1927). Параўнаўшы іх тэксты з выдадзенымі ў “Мастацкай літаратуры”, я быў проста шакаваны. У многіх вершах былі замененыя словы, некуды пазнікалі асобныя радкі і цэлыя строфы, нейчаю зламыснаю рукою без відочнай патрэбы была парушаная аўтарская пунктуацыя. Пасядзеўшы пару дзён у бібліятэцы, я налічыў 575 (!) брутальных умяшанняў у аўтарскі тэкст. Прызнаюся, нічога падобнага я раней не бачыў. Пачаткоўцаў у рэдакцыях правяць больш ашчадна, чым гэта было зроблена з Уладзімірам Жылкам у дзяржаўным выдавецтве!

Так, у вершы “Палімпсест” на месцы “народнага духу” аднекуль узнік “працоўны дух”.

У вершы “Сёмуха” – “паўбітыя бярозкі” зрабіліся чамусьці “вясёлымі”.

У вершы “Дарма, што значны раны...” словазлучэнне “душа Яе ў палон” загучала, як “душа ў яе палон”. Гэта ў матэматыцы ад перамены месцаў складнікаў сума не змяняецца, а ў паэзіі змяняецца не толькі сума, але і сэнс.

У вершы “Бяспынна, глуха працьма часу...” не толькі “бяздушны” заход стаў “бясшумным”, але і ўзнік няўцямны неалагізм “радзімей” на месцы слова “балючай”.

У вершы “Летунковасць, нерашучасць...” словазлучэнне “юнаку было прынадна” няўзнак перакінулася ў “юнаку была прынада”, а аўтарская “напеўнасць” стала “няпэўнасцю”. (Як тут не прыгадаць пацешны выступ колішняга сакратара ЦК КПБ Гарбунова ў Саюзе пісьменнікаў: “Броўка вершаў, напеўна, не напіша”.)

У вершы “Каму жыццё – атруты келіх...” пяшчотныя “абдоймы” раптоўна змяніліся на ваяўнічыя “абоймы”, а слова “капец” прадказальна ператварылася ў “канец”.

У вершы “Наш лёс, бы кат, з рукой забойнай...” вой, які да гэтай пары стаяў “цвёрдакаленна”, раптам паўстаў “цвёрдакаменна”, выклікаючы ў чытацкім уяўленні хіба выяву якога-небудзь выкапнёвага Шклоўскага ідала, а не адважнага ваяра.

У адным з найскладанейшых вершаў Жылкі, у “Альбігойцы”, “авечая цнота” зрабілася “адвечнай”, што дарэшты збівала з панталыку чытача, якому і так нялёгка было разблытваць вузлы асацыяцыяў і гістарычных аналогіяў, якімі літаральна перанасычаны твор.

Не пашанцавала і паэме “Уяўленне”. Яе асобныя строфы пасля выдання ў “Мастацкай літаратуры” ўвогуле патрабавалі расшыфроўкі. Прыкладам, як разумець наступныя радкі:

Шырокаю тропай
Ў час гэты з пакус
На мапу Еўропы
Ўзышоў беларус?

З якіх-такіх “пакус” на еўрапейскую мапу вылез беларус, мабыць, добра-такі пакусаны? Глядзім у зборнік “З палёў Заходняй Беларусі”, і ўсё становіцца зразумелым – “у час гэты спакус”, а значыць – у спакуслівы час.

Праз колькі строфаў – новая загадка: “Мой дух не барух”. Разгублены чытач гатоў лезці ў філасофскі слоўнік, мо што падкажа той Барух – па прозвішчы Спіноза. Але Спіноза не падкажа, бо наўрад ці што кеміць у беларускай паэзіі. Падкажа той, хто зірне ў прыжыццёвае выданне, проста трэба чытаць: “Мой дух не патух”.

Не абмінула ліхая доля і найвядомейшы Жылкаў твор – “Тастамент”, поўная назва якога, дарэчы, гучыць, як “Тастамент, або Духоўніца, адпісаная Уладзімірам з Адама і Таццяны сынам Жылкавым люду паспалітаму на карысць і спажытак, пісьменству прыгожаму на росквіт і аздобу”. Гэткі падзагаловак вымагаў бездакорнага пісьма, а чытач з першых радкоў пачынаў спатыкацца аб няўцямныя словазлучэнні “гуляў у бор” (замест “ганяў”), “баяй бясконца” (замест “буяй”), “спачыцьмуць спакой” (замест “сачыцьмуць”).

Не надта давяраючы “Беларускай газеце”, дзе “Тастамент” быў упершыню надрукаваны 6 жніўня 1942 года Яўхімам Кіпелем, я праз добрых людзей звярнуўся да сына публікатара – Вітаўта Кіпеля, дырэктара Беларускага Інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку. І неўзабаве атрымаў ад яго копію аўтографа. Параўнаў тэксты – аўтэнтычны нью-ёркскі і мінскі – і налічыў ажно 35 памылак і недакладнасцяў!

На гэтым мае сумныя “адкрыцці” не спыніліся. З некаторых твораў па невядомай прычыне былі выкасаваныя цэлыя строфы. Так, у вершы “Ўзысці на вогнішча натхнення...” не ставала чатырохрадкоўя:

Перадбачаць далёкім вокам
І з нестрыванай яснатой
Над хаосам і ночы змрокам
Ўладаць гармонні глыбінёй.

Але найбольш пацярпеў верш “Антону Навіну”, скарочаны напалову – з дзесяці строфаў у кнігу трапілі толькі пяць. Абсалютна незразумела, з якой прычыны, такое ўражанне, быццам проста не хапіла месца на старонцы.

На фоне такога складальніцка-рэдактарскага самаўпраўства адзін радок, прапалы ў вершы “Будзь бласлаўлёна, мая маладосць...”, здавалася б, – невялікая бяда. Але названы верш – унікальны ў беларускай паэзіі. Яшчэ крытык Антон Адамовіч у заўвагах да нью-ёркскага выдання Жылкавых “Твораў” (1955) выказаў меркаванне, што страфічная схема гэтага верша вынайдзена самім аўтарам, і прапаноўваў назваць новы від верша ў гонар паэта – жылкай.

І трэба сказаць, што жылка прыжылася-такі ў беларускай паэзіі. Прынамсі, мне вядомы адзін верш, напісаны з выкарыстаннем аналагічнай рыфмоўкі. Гэта “Прыйсце” (1958) Міхася Кавыля. На мой пісьмовы запыт паэт паведаміў, што ён насамрэч свядома напісаў менавіта жылку. А яшчэ дадаў: выкінуць з яе адзін радок – значыць разбурыць усю архітэктоніку. Гэта тое самае, як у класічным санеце пакінуць толькі трынаццаць радкоў.

Скрэсліўшы папраўкамі знявечаныя ў “Мастацкай літаратуры” тэксты Уладзіміра Жылкі, я цвёрда пастанавіў выдаць іх у аўтэнтычным выглядзе. І ў 1998 годзе Жылкаў том выйшаў у класічнай серыі “Беларускі кнігазбор”.

Здавалася б, усе наступныя выдаўцы, складальнікі і рэдактары не палянуюцца пры патрэбе ў яго зазірнуць. Паленаваліся. Праз пэўны час тая ж "Мастацкая літаратура" выдала чарговае выбранае шматпакутнага Жылкі пад назвай "Матылі". І што там убачыў чытач? Той жа верш Якуба Коласа "Беларускаму люду", той жа знявечаны "Тастамент", таго ж невядома кім "пакусанага" беларуса, таго ж "цвёрдакаменнага" воя і дзясяткі іншых згаданых і не згаданых раней памылак. Плюс да ўсяго Жылку прыпісалі яшчэ адзін чужы верш – "Пры Roentgen" чэшскага паэта Іржы Волькера...

Пры гэтым складальнік-інкогніта (імя ў выходных дадзеных не пазначана) не пасаромеўся напісаць, што кніга друкуецца паводле "кнігазбораўскіх" "Выбраных твораў". Як складальнік і аўтар прадмовы да таго выдання я мушу канстатаваць: гэта хлусня. Скажу болей: выдавецтва "Мастацкая літаратура", так свавольна (тройчы!) абышоўшыся са спадчынай Уладзіміра Жылкі, зняважыла ягоную памяць і засведчыла прафнепрыгоднасць сваіх супрацоўнікаў.

Рэдактар, які не можа адрозніць Якуба Коласа ад Уладзіміра Жылкі (паэтаў абсалютна непадобных), і карэктар, які пакутуе на моўную глухату, адназначна заслугоўваюць прафесійнай дыскваліфікацыі. Такіх на гарматны стрэл нельга дапускаць да выдавецтва. Але ў "Мастацкай літаратуры" лічаць інакш. У выдавецтве аніхто аніякага спагнання за ўчыненае не атрымаў. Там усё – шыта-крыта.

Уладзімір Жылка, якога крытыка 20-х гадоў называла другім Багдановічам, не вярнуўся са сталінскага Гулагу. Ён памёр ад туберкулёзу 1 сакавіка 1933 года ў горадзе Уржум Кіраўскай вобласці. Праз трыццаць гадоў – у красавіку 1961-га – Вярхоўны Суд БССР рэабілітаваў паэта. Але рэпрэсіі супраць яго, як выглядае, працягваюцца і ў нашыя дні. У сумнавядомыя 30-я паэтаву далікатную лірыку нявечыла бальшавіцкая цэнзура, нацдэмаўскую крамолу вышуквалі ў ёй крытыкі Тодар Глыбоцкі і Лукаш Бэндэ. Сёння іх ролю, як бачым, выконвае дзяржаўнае выдавецтва "Мастацкая літаратура".

## Украінскі фронт Васіля Быкава

"Васіль Быкаў быў баец. Вайна яго так і не пакінула ў спакоі", – роздумна гаворыць Юры Мушкетык. З адным са старэйшых ва Украіне пісьменнікаў мы сядзім у гатэлі "Дніпро" ў Чаркасах, дзе праходзяць 200-я ўгодкі Тараса Шаўчэнкі. Толькі што вярнуліся з Халоднага Яру, дзе Юры Міхайлавіч у свае восемдзесят пяць пад спякотным сонцам з паўгадзіны натхнёна расказваў пра антыбальшавіцкую Халоднаярскую рэспубліку, якая за кароткі час змагла паставіць "пад ружжо" 15 тысячаў змагароў. Пасля яркіх сонечна-сланечнікавых краявідаў хочацца пабыць у паўзмроку, у нумары не гарыць святло. Прыцьмела і зорка Героя Украіны на грудзях майго суразмоўцы.

Быкава мы прыгадалі з тае прычыны, што праз нейкую сотню кіламетраў на поўдзень – Кіраваградчына, дзе ён ваяваў і адкуль у вёску Бычкі на Віцебшчыне ў 1944 годзе прыйшла "пахаронка". У пасёлку Вялікая Севярынка да гэтай пары стаіць помнік загінулым, на якім сярод іншых пазначана і прозвішча Быкава, а ў мясцовай школе створаны невялікі Быкаўскі музей, якім апякуецца былая настаўніца Лізавета Сергіенка.

Раней я думаў, што ў выпадку з "пахаронкай" штабісты нешта наблыталі ў ваеннай неразбярысе. Але нядаўна даследчык Сяргей Шапран апублікаваў архіўны дакумент – спіс загінулых у тым жорсткім баі пад Вялікай Севярынкай. Дык там усё па-ваеннаму коратка і ясна: камандзір стралковага ўзвода лейтэнант Васіль Уладзіміравіч Быкаў загінуў 10 студзеня 1944 года, паведаміць бацьку... І пячатка з подпісамі камандзіра і начштаба палка – капітана Перапёлкіна і маёра Марозава.

Сам Быкаў у "Доўгай дарозе дадому" прыводзіў дзве версіі свае "гібелі".

Цікаўных адсылаю да гэтай кнігі, без якое шмат што ў быкаўскім жыццяпісе зразумець складана. Зрэшты, у лёсе геніяў выпадковасцяў не бывае. Нейкі знак звыш быў і ёсць і ў той даўняй "пахаронцы", і ў тым помніку на Кіраваградчыне, на якім так і засталося прозвішча пісьменніка. Здаецца, ён і не прасіў нікога, каб спіс той падкарэктавалі, не бачыў у тым праблемы. Можа, верыў у народную прыкмету, паводле якой пахаваны пры жыцці мусіць жыць доўга.

Раптоўна, як нейкая палёгка, да нас з Мушкетыкам прыходзіць высноа, што Быкаў загінуў за Украіну. Хай сабе і сімвалічна. Не за неабсяжную "родину", а менавіта за Украіну. Бо за спінай лейтэнанта Быкава быў украінскі стэп, была Вялікая Севярынка, якую штурмавалі нямецкія танкі. Канкрэтна ён абараняў менавіта лапік украінскай зямлі, а не прасторы і хімеры савецкай імперыі. Самы галоўны ваенны фронт Быкава быў усё ж украінскім.

Мушкетык са шкадаваннем прызнаецца, што не ведае новай прозы Быкава, ягоных прыпавесцяў. А яны, тыя прыпавесці, ляжаць у маім нумары на стале! Ды яшчэ па-ўкраінску. У перакладзе Дзмітра Шчарбіны з Крывога Рогу. Кніжку я прыхапіў з сабой са спадзевам, што ў чарадзе святочных імпрэзаў знойдзецца акно, знойдуцца яшчэ ахвотнікі, і мы з'ездзім у тую Вялікую Севярынку. Нейкая сотня кіламетраў... На жаль, не знайшлося ні акна, ні ахвотнікаў.

Але кніжка ўсё ж нездарма прыехала ва Украіну. Неўзабаве Юры Мушкетык ужо разглядае, узважвае яе на далоні. "Василь Биков. Байки світові. Передне слово – Ігор Ольшевський, перекладач Дмитро Щербина, видавництво "Янтар", книжку надруковано в кількості 60 нумерованих примірників..."

Мушкетыку ажно не верыцца, што Быкава зусім нядаўна выдалі ў Луганску, які стаў адным з цэнтраў сепаратызму, вакол якога ідуць паўнамаштабныя ваенныя дзеянні з выкарыстаннем баявых самалётаў і танкаў.

Атрымалася – Быкаў нібы ізноў змабілізаваны на ўкраінскі фронт. У Другую сусветную ў ягоным распараджэнні быў узвод. На гэтай вайне ягоныя салдаты, ягоная нацыянальная гвардыя – 60 кніжак. Дзе яны служаць сёння? У бібліяфільскіх калекцыях, на якія праз патрушчанае шкло стэлажоў вогненна дыхнула вайна? Ці ў вайсковых заплечніках тых луганцаў, якія змагаюцца за адзіную і непадзельную Украіну? А можа, "Байки світові" гартае цяпер, прысеўшы ў акопе, які-небудзь маладзён, які ўпершыню знаёміцца з творчасцю Васіля Быкава. На вайне чытачы таксама трапляюцца. Памятаеце радавога Фішара з "Жураўлінага крыку"?

Юры Мушкетык шматкроць сустракаўся з Быкавым, калі быў старшынёй украінскага Саюза пісьменнікаў. Добра ведае ранейшую творчасць свайго амаль раўналетка, лічыць яе актуальнай да сканчэння веку ("Сотнікаў" – твор на вечную тэму"). А ці актуальныя быкаўскія прыпавесці? Я раю свайму суразмоўцу прачытаць "Насарогі ідуць" – пра тое, як адно племя трапіла пад прыгнёт другога, больш магутнага, якое адбірала ў сваіх суседзяў зямлю, брала ў палон людзей. Прычым зямлю захоплівала паступова, па частках. І паланяла таксама не ўсіх адразу – спачатку забірала, як выкуп, самых прыгожых дзяўчатаў. Племя насарогаў дзейнічала нахабна, парушаючы ўсе дамовы, аж пакуль не натыкнулася на адчайны, самаахвярны адпор...

Юры Міхайлавіч чытае "Насарогаў" услых, хваліць майстэрства перакладчыка. А я пра яго што магу сказаць? Ведаю, што Дзмітро Шчарбіна – карэнны крыварожац, які ніколі не быў у Беларусі. Мову беларускую вывучыў, чытаючы "Слова пра паход Ігараў" і "Вожык" ды слухаючы радыё "Свабода". Перакладаць з беларускай мовы на ўкраінскую і наадварот пачаў гадоў сем таму – пунктам адліку тут прыпавесць Быкава "Тры словы нямых", надрукаваная ў кіеўскім часопісе "Всесвіт".

Свае пераклады з Рыгора Барадуліна, Анатоля Вярцінскага, Рыгора Крушыны,

Уладзімера Някляева Дзмітро публікуе на сваёй старонцы ў сеціве (www.dmytrosherbyna.blogspot.com). Пазнаёміліся мы з ім завочна, праз фэйсбук, год таму. І з тае пары я не перастаю захапляцца яго перакладчыцкім талентам, яго літаратурным густам, яго адчуваннем нашай мовы (калі браць пад увагу адсутнасць спецыяльнай адукацыі).

Дзмітро з маленства мае сур'ёзныя праблемы са зрокам, лекары забараняюць яму праседжваць за кнігай ці кампутарам, а ён усё роўна чытае, перакладае і папулярызуе ва Украіне беларускую літаратуру, увядомлівае ў байнэце ўкраінскую. Самахвярнік, якія цяпер сустракаюцца надзвычай рэдка.

Адны перакладчыкі пільнуюцца літары, другія – стараюцца захаваць дух твора. Дзмітро Шчарбіна ў сваіх перакладах з Быкава здолеў дапільнаваць і літару, і дух – быкаўска-беларускі. У працэсе перакладу да кожнага сумнеўнага слова ён падбірае цэлы ружанец сінонімаў, і гэта так нязвыкла ў нашым паспешлівым свеце.

На развітанне Юры Мушкетык моцна сціскае маю руку і жадае братам-беларусам "світлой долі". Я выходжу на балкон сцішэлага ўжо гатэля і думаю пра ўкраінскі складнік у лёсе Быкава. Украіна прызвала яго, учарашняга навучэнца Віцебскай мастацкай вучэльні, на Другую сусветную. Украіна яго "пахавала", як героя, ушанавала помнікам. Ва Украіне быў створаны першы музей Быкава. Украінка Ларыса Шапіцька зняла самы вядомы ў свеце фільм паводле Быкава – "Узыходжанне". Восем з шаснаццаці быкаўскіх аповесцяў перакладзеныя на ўкраінскую мову. І сёння Украіна выдае Быкава, прычым не ў зацішным Львове, а ў памежным зрусіфікаваным Луганску, на перадавой новай вайны. А значыць, "баец Быкаў" зноў атрымаў позву на ўкраінскі фронт, як некалі ў сорак першым. Бо – насарогі ідуць...

## Тры словы Шымборскай

"Пані Віслава", – так у размовах называла яе незабыўная Ніна Мацяш. У кожны мой прыезд у Белаазёрск Шымборска невідочна прысутнічала ў светлай мацяшоўскай кватэры: ці то гаспадыня чытала новыя пераклады, ці то прасіла дастаць з верхняй паліцы кнігу з удзячным аўтографам паэткі-набілянткі, ці то раілася, як лепш аздобіць пёркаграфіяй вокладку яе дзвюхмоўнага зборніка "Chwila" ("Хвіля"), які мне ў 2005-м выпала рэдагаваць для "Беларускага кнігазбору".

Мне добра помніцца прэзентацыя таго зборніка ў бібліятэцы незабранага яшчэ Дома літаратара, калі людзі стаялі ўздоўж сценаў і дзве гадзіны слухалі паэзію Шымборскай – у арыгінале і па-беларуску. Ніна Мацяш чытала, седзячы ў інвалідным вазку, але якім духаўздымным было тое чытанне! І слухачы пляскалі і патрабавалі чытаць яшчэ, у сваім міжвольным эгаізме забываючы, што перакладчыцу тым вечарам яшчэ чакала няблізкая зваротная дарога на Берасцейшчыну, у Белаазёрск, на вуліцу Леніна.

Тая вуліца Леніна Ніны Мацяш з вышчарбленымі ходнікамі выразна кантраставала з горадам Шымборскай Кракавам, які за стагоддзі не страціў сваёй каралеўскай велічы. Гэтаксама як кантраставалі міжсобку дзве прэміі – уручаная польскай паэтцы Нобелеўская і Дзяржаўная РБ, якую ў самы апошні момант палахлівыя чыноўнікі вырашылі не даваць паэтцы беларускай. Непараўнальна выглядала і сусветная слава пані Віславы, чые вершы вывучаліся ва ўсіх найбуйнейшых універсітэтах свету, у параўнанні з вядомасцю Ніны Мацяш, якая як кіраўніца адной з абласных філіяў незалежнага Саюза пісьменнікаў не мела доступу ні на старонкі афіцыйных выданняў, ні ў дзяржаўны тэле- і радыёэфір.

У чым беларуска не саступала польцы, дык гэта ў чытацкай любові. Перакладчыцу і паэтку Ніну Мацяш у Беларусі любілі як мала каго. У дадатак да згаданай ужо вечарыны менскай мне прыгадваюцца дзве яе аўтарскія сустрэчы

ў Белаазёрску – у мясцовым Электрамеханічным каледжы і гарадскім Доме культуры, дзе сваю пісьменніцу сышліся паслухаць чалавек 600. У годзе 2004-м мне давялося браць удзел у кракаўскім паэтычным фестывалі “Наезд паэтаў на сталіцу Пястаў”, там таксама паўпустых залаў не было, але ўсё ж параўнанне – не на карысць палякаў. З тае пары помніцца самакрытычнае выказванне аднаго з арганізатараў таго фестываля: “У нас паэтаў любяць пасмяротна – як Міцкевіча”.

Думаю, што з Віславай Шымборскай лёс абышоўся куды больш літасціва, чым з аўтарам “Пана Тадэвуша”. Яе любілі і шанавалі пры жыцці. Яна прынесла польскай літаратуры чацвёртага Нобеля – пасля Генрыка Сянкевіча, Уладыслава Рэйманта і Чэслава Мілаша. Прэзідэнт Польшчы, ганаруючы яе прэстыжным ордэнам Белага Арла, прызнаў, што менавіта паэзія Шымборскай абудзіла ў паляках падупалы за часы ПНР нацыянальны дух.

Што і казаць, любы нацыянальны дух, абуджаючыся, можа ўпадаць у фанабэрыю, не пазбегнуць іншых хваробаў росту. Шымборска ў падобных выпадках клікала на дапамогу іронію. Вось у адным з вершаў нейкая не вельмі абазнаная ў геаграфіі француженка тэмпераментна запытваецца: “La Pologne? La Pologne? Там вельмі холадна, праўда?” Сярэднестатыстычны кракавяк ці варшавяк, ведама ж, абурыўся б – як, вы не ведаеце, дзе знаходзіцца Польшча?! А Шымборска вынаходліва падтаквае, нанізваючы адну іранічную гіпербалу на другую: “О пані, маеце рацыю, паэты майго краю пішуць у пальчатках, іх вершы складаюцца з суцэльных пахукванняў, класікі поркаюць чарнільным ледзяшом па прытаптаных гурбах, а калі хтосьці кагосьці схоча ўтапіць, то мусіць спачатку сякерай прасекчы палонку”...

Ці не ад гэтых радкоў паэткі адштурхнуўся лонданскі даследчык Арнольд Макмілін, калі назваў сваю гісторыю беларускай літаратуры “Пісанне ў халодным клімаце”? Бо еўрапейскі “полюс холаду” неяк незаўважна перасунуўся ў Беларусь, і беларускім паэтам наўслед за Шымборскай можна смела засяляць Нарач і Свіцязь цюленямі, а Белавежу – белымі мядведзямі.

Верш Шымборскай не толькі іранічны. Ён – свабодны і вольны (зрэшты, гэта літаратуразнаўчыя тэрміны). Хутчэй, ён – разняволены наколькі магчыма, ён зазвычай не зашпілены на гузікі рыфмаў, яго не ўціскаюць метры і рытмы, у ім логіка часам адступае перад неўтаймоўнай фантазіяй. Вобразы паэткі ўражваюць то сваёй планетарнасцю (“Гімалаі – горы ў бегу на Месяц”), то ўціснаннем глобуса ў мапу-міліметроўку, і ўжо “Ціхі акіян слухмяна ўплывае ў рачулку Рудаву”, якая, у сваю чаргу, “нядаўна хмурынкай плыла над Парыжам”...

Гісторыя і філасофія – вось два рухавікі паэзіі Віславы Шымборскай. Першая – падкідвае сюжэты, другая – перадумвае іх на свой лад. Але часам бывае дастаткова для чытання і першай часткі верша, асабліва калі вы збіраецеся ў госці, і ваша сяброўка прымярае перад люстэркам вечаровую сукенку:

Дэкальтэ паходзіць ад decollo.
Decollo азначае “сцінаю галаву”.
Каралева Шатландская Марыя Сцюарт
З’явілася на эшафот у адпаведным строі:
Кашуля выдэкальтаваная была,
Чырвоная, як крываток...

Вергілій вёў героя “Боскай камедыі” кругамі пекла. І чытач Шымборскай часамі апынаецца перад дзвярыма, прыадчыненымі ў страхотлівае XX стагоддзе. Вунь за тымі дзвярыма маленькі Адольфік Шыкльгрубер усміхаецца ў фотакамеру, а за тымі – дзяўчынка Ірма, зачатая на матрацы з чалавечых валасоў, прывезеных з Бухенвальда ці Дахаў...

Паэзія Шымборскай пранізаная трагічным неспакоем, часам яна заганяе

чытача ў куток сваёй безвыходнасцю. І тады думаеш, што вершы гэтыя маглі б узяць на ўзбраенне прыхільнікі шматкроць прадказанага канца свету. Часам верш ператвараецца ў метафарычны гушчар, праз які прадзіраешся і, знясілены, мусіш спыніцца на сярэдзіне, каб перавесці дых. Тады адчуваеш сябе бездапаможным героем знакамітага брэхтаўскага верша "Пра людзей Картэса", у якім джунглі за ноч праглынулі цэлую экспедыцыю. Зрэшты, гэта толькі маё суб'ектыўнае ўражанне. Камусьці творчасць польскай паэткі падасца больш жыццялюбнай. Вось жа і Ніна Мацяш, якая перастварыла па-беларуску тры яе кнігі, адчувала ў іх "светлую энергетыку, параўнальную хіба з ціхім чарам пухнатых вярбовых коцікаў, лёгкіх зменлівых аблокаў, з густападным адвольным віраваннем сняжынак".

Восемдзесят восем поўных гадоў адпусціў Бог Віславе Шымборскай. І гэтыя дзве васьмёркі – як знакі бясконцасці яе паэзіі, якую нам спасцігаць і спасцігаць. Ужо без Ніны Мацяш. Яны так і не сустрэліся тут, можа быць, сустрэнуцца там і як роўня з роўняй паразмаўляюць пра штосьці істотнае – з гледзішча вечнасці.

З нядаўняй паездкі на Гарадзеншчыну я вярнуўся акурат у дзень смерці Віславы Шымборскай. Вярнуўся з неспадзяванай знаходкай дакамптарнай эры – друкаркай маркі "Ивица". Калісьці яна належала Ніне Мацяш, і машынапіс першай беларускай кнігі будучай набілянткі для выдавецтва "Мастацкая літаратура" яшчэ ў савецкі час рыхтаваўся на ёй. Затым друкарка трапіла да Дануты Бічэль у Гародню, дзе на ёй падпольна размнажаліся антысавецкія вершы Ларысы Геніюш. На высахлай амаль да празрыстасці чорнай капіявальнай стужцы можна распазнаць асобныя літары і нават словы. Сярод іх дзесьці ў хаатычнай неразбярысе і словы Шымборскай. Які сказ з іх можна скласці сёння, калі паэткі не стала? Толькі адзін, з трох словаў – СВЕТ ВАРТЫ ВЯРТАННЯ. Так і называлася яе кніга, выдадзеная восенню 1991 года, – як падарунак незалежнай Беларусі.

## Расплятанне тканіны

Кросны для мяне – не экспанат у музеі. У мае школьныя гады ў вёсках на Гарадзеншчыне яшчэ ткалі. Адзін з дарагіх успамінаў – зімовым вечарам вучу ўрокі, а за перагародкай мякка пастукваюць кросны. Маці ткала посцілкі на ложкі – у нас іх называлі радзюжкамі. Ромбікі, палоскі, дробныя квадрацікі, нейкія мудрагелістыя карункі сняжынкападобнай формы – невядома адкуль тыя арнаменты браліся. Спалучэнне колераў і па сёння выклікае здзіўленне – то чорным па жоўтым, то зялёным па чорным, то палосы ўсіх колераў вясёлкі па такой жа стракатай тканіне.

Маці ткала доўга, пачасту далёка за поўнач, але вельмі марудна. Так мне, прынамсі, здавалася. Імкліва лётаў чаўнок, хутка, як веласіпедныя педалі, апускаліся-падымаліся панажы, але гатовая ўзорыстая тканіна накручвалася на навоі надзвычай павольна. Амаль незаўважна – па некалькі сантыметраў за гадзіну. На тканне адной посцілкі ішоў мінімум месяц. Што і казаць, нудная была праца ткалляў, мусілі яны апрача ўсяго іншага мець вялікае цярпенне.

Каб развеяць нуду, да нас у хату штовечар прыходзілі суседкі. Успаміналі маладосць, часам ціха спявалі, часам прыладжвалі ў куце калаўротак. О, гэта было за шчасце – пакруціць яго з паўгадзіны. Уяўлялася, што некуды едзеш і едзеш на вялікім драўляным коле. Кола шпарка круцілася, бёрды ў кроснах мякка пастуквалі, няспешна цякла размова, і раптам...

– Лёдзя, ты ж няправільна тчэш, тут у строгі раёк трэба, а ты закасіла. Распускаць трэба! – гэта маладзейшая і нібыта больш відушчая суседка, якая незадоўга перад тым зайшла ў хату.

Жаночы кансіліум схіляецца над свежавытканай посцілкай. Прыглядаюся да яе і я, хоць, прызнацца, ніякіх “райкоў” і “перакосаў” не бачу. Узор ляжыць роўна, сіметрычна, і мне незразумелыя прэтэнзіі патрабавальнай суседкі. Тым не менш прымаецца калегіяльнае рашэнне распусціць немалы адрэзак посцілкі.

Гэта была самая недарэчная, самая антыпрадукцыйная праца, якую мне даводзілася назіраць у маленстве. Па настойванні суседкі, якая, падазраю, разбіралася ў народных ткацкіх арнаментах, як у канфігурацыі зорак на небе, колькідзённая работа ішла кату пад хвост. Маці як не сваімі рукамі, прыгалошваючы, выцягвала назад “няправільна” ўтканыя ніткі, каб па-новаму выткаць той строгі раёк.

Яшчэ раз паўтару, расплятанне тканіны выглядала нават у дзіцячых вачах відавочнай непатрэбшчынай. Ды і маці шкадаваў, яе вачэй і рук, што “цягам доўгія часіны” (ужо тады я ведаў напамяць “Слуцкіх ткачыхаў” Багдановіча), сантыметр за сантыметрам, выштукоўвалі тыя неабходныя ў хатнім побыце посцілкі.

Той даўні выпадак прыгадваецца мне кожнага разу, калі сёння ў СМІ ці на інтэрнэт-форумах чытаю пра неабходнасць адмовіцца ад назвы Беларусь. Маўляў, накінула яе нам расейская імператрыца, каб прывязаць Белую Русь да Русі Маскоўскай. А вось калі мы адмовімся ад гэтай імперскай “белай рашкі” на карысць гістарычнай Літвы, то ўсё ў нас адразу пойдзе на лад: і нацыянальная свядомасць адновіцца, і мова адродзіцца, і самы зацяты імперац з намі ва ўсім палахліва згодзіцца. І тады ўжо, маўляў, мы падкуем сваіх коней залатымі цвікамі – як нібыта казалі некалі ў Вялікім Княстве Літоўскім.

Не падкуем, на жаль. Па-першае, коней амаль усіх звялі, па-другое, золата ў Нацбанку – кот наплакаў, каб хоць на падтрымку штаноў хапіла, не тое што на цвікі.

А калі сур’ёзна, то хочацца спытацца ў ахвотнікаў пераназвацца – вы сапраўды думаеце, што калі трухлявы плыт назваць ледаколам, то ён лёд пачне крышыць? Сёння вам “прывязка” да Расіі жыць замінае, а заўтра “прывязка” да Летувы – не будзе?

На маю думку, дыскусіі пра змену назвы краіны – гэта тое самае расплятанне тканіны. Цягам стагоддзяў, хай сабе з вымушанымі перапынкамі, працавалі кросны і ткаўся, і напаўняўся сэнсамі назоў Беларусь. Са сваімі пазнавальнымі, хоць і някідкімі, узорамі. А тут прыходзіць “суседка” (ці свой, ёю падвучаны) і кажа: саткана няправільна, трэба разаткаць назад. І калі пагадзіцца, то пачнецца доўгае і пакутлівае расплятанне тканіны. Камусьці, відаць, патрэбнае, але з нашага нацыянальнага гледзішча – самае звычайнае марнатраўства.

Пакаленні і пакаленні працавалі за тымі кроснамі. Працавалі стваральна, пакідаючы сваю залатую нітку ў агульным узоры. Марудна, праз неймаверныя высілкі палатно ўсё ж ткалася. Прыходзіў вораг, ламаў кросны, драпежыў льняныя палеткі і зганяў за сабой воўну, якая яшчэ бляяла і мэкала. Але мінаў час, недатканае палатно даставалася са схованi, рабіліся новыя кросны, і праца працягвалася.

І калі Францішак Багушэвіч у прадмове да сваёй “Дудкі беларускай” накрэсліваў нашы этнічныя межы – ён ствараў нацыянальнае палатно пад назвай Беларусь.

І калі касінеры Кастуся Каліноўскага на пытанне “каго любіш?” адказвалі “люблю Беларусь!” – яны імкнуліся даткаць тое самае палатно.

І калі Янка Купала, які па прыродзе сваёй не ўмеў пісаць лозунгі, усё ж апошнім радком выдыхаў “гэта крык, што жыве Беларусь!” – ён даствараў тое самае палатно, якое ў часы паэта ператварылася ў напоўнены сэнсам габелен, які можна было і на сцяну павесіць.

І Максім Багдановіч (“Беларусь, твой народ дачакаецца”), і Уладзімір Жылка (“О як соладка сэрцу маліцца: Беларусь, Беларусь, Беларусь”), і Уладзімір Дубоўка (“О Беларусь – мая шыпшына”), і Наталля Арсеннева (“Беларусь, Беларусь залатая”), і Ларыса Геніюш (“Як жыць – дык жыць для Беларусі”),

і Рыгор Барадулін (“Беларусь – ты мой сон велікодны”), і сотні іншых выдатных творцаў жыццё паклалі, каб той габелен Беларусь даткаць, дарабіць, дастварыць. І – амаль даткалі, дарабілі, засталося пару ўзораў давяршыць ды кутасікамі аздобіць.

А тут з’яўляюцца разумнікі і кажуць: усё не так, трэба габелен назад расплесці і з тых самых нітак выткаць новы, пад другой назвай – Літва ці Вялікалітва. А мы ўсе пад тым габеленам станем, назавемся літвінамі, і ад той пары ні Кацярына Вялікая, ні Уладзімір маленькі над намі ніякай улады не мецьмуць.

У сацыяльных сетках растуць, як грыбы пасля дажджу, кіраваныя спрактыкаванай рукой літвінскія суполкі, выдаюцца тэматычныя альманахі, любы гісторык, які разумее ўсю небяспеку кампаніі па перайменаванні, літаральна заклёўваецца на інтэрнэт-форумах (прычым, хутка і дружна – відно, што працуе адмысловая каманда). Паступова падобная дзейнасць дае свой плён. І вось ужо моладзь пляскае ў ладкі, а знаны празаік, аўтар гістарычных раманаў пра Міндоўга, Усяслава Чарадзея і Канстанціна Астрожскага пасяляе сваіх герояў-суайчыннікаў у краіне Ліцвініі...

Усё гэта – закрэсліванне працы папярэдніх пакаленняў, падсяканне сука, на якім мы ўсе сядзім. Распусканне тканіны, расплятанне палатна.

У старажытнай міфалогіі ёсць адпаведнік апісанаму тут беларускаму выпадку. Памятаеце, Пенелопа замест таго, каб прагнаць з двара нахабных залётнікаў, ткала і расплятала палатно. Праца бессэнсоўная, але яна ведала, што вернецца Адысей і паразганяе нахабнікаў, якія спустошвалі каморы. Нам на Адысея-збаўцу спадзявацца не выпадае. Таму не гуляйма з агнём і не падпускайма да беларускіх кроснаў сумнеўных тыпаў, мэта якіх адна – расплятанне палатна.

*(Працяг будзе)*



Анатоль Івашчанка



...«Будзьма ненармальнымі!» – такі дэвіз мусіць быць на нашых штандарах...

# Мая беларускамоўнасць:

## *між здрадаю і кампрамісам**

*На хрена нам враги,*
*когда у нас есть такие друзья?*
БГ

*Мы не ўрачы. Мы – боль.*
А. Герцэн

*...рабі як не бывае...*
У. Караткевіч

### Intro

Калісьці, калі я рабіў першыя нясмелыя крокі ў літаратуры (вершыкі там друкаваў, у конкурсах браў удзел), у мяне здарылася размова з чалавекам, які ў свой час істотна паўплываў на мой творчы лёс. І вось гэты чалавек, што

* Гэты тэкст, падпісаны псеўданімам Хведар Сумкін, удзельнічаў у леташнім конкурсе Саюза беларускіх пісьменнікаў “Эксլібрыс”, прысвечаным літаратуры нон-фікшн, і ўвайшоў у пяцёрку лепшых. Друкуецца ў скароце.

быў моцна ўцягнуты і ў літпрацэс (меў некалькіх кнігаў), і ў тое, што завецца беларушчынай (гадаваўся ў філалагічнай сям'і), па-прыяцельску і нібыта зусім без іроніі сказаў прыблізна наступнае: *"Толечка, пакуль яшчэ не позна, бяжы ад гэтай беларушчыны! Тут жа ўсе поедам ядуць адно аднога. А ў літаратурным асяродку – пагатоў. Няўжо ты не разумееш, што гэта натуральны тэрарыум? Ты яшчэ малады, табе яшчэ не позна саскочыць..."*

Не паслухаўся сяброўскае парады. Не саскочыў.

Не шкадую. :)

Першапачаткова гэты тэкст задумваўся як роздум над феноменам беларускамоўнасці ў сённяшніх варунках. Чым яна ёсць на тле цяперашняе рэчаіснасці: адзнакай якасці, пасіянарнасці/самаахвярнасці? Можа, гэта ў большай ступені рэлігія/служэнне? Ці – поза (спосаб вылучыцца з шэрае масцы)? А, можа, як лічыць мой прыяцель, – вырак і праклён?..

Тут я паспрабую зірнуць на звыклыя рэчы ў нязвыклым ракурсе (часам – на мяжы сафістыкі ды казуістыкі) і паразважаць пра тое, як мы да такога жыцця дайшлі, што Мова беларусаў не аб'ядноўвае, але часта, на жаль, наадварот...

У часе напісання спектр даследу нечакана пашырыўся да рэфлексіі такіх паняткаў, як *пасіянарнасць, нонканфармізм, талерантнасць,* а таксама – *сакралізацыя* й *дэсакралізацыя*...

Заўважу, што гэты тэкст не дыягнастычна-канстатавальны. Наадварот, ён наскрозь суб'ектыўны. Я не хачу нікога павучаць ці займацца пустым маралізатарствам. Аўтару баліць. Ён сам – унутры спохваткі, а не па-над ёй (гл. эпіграф №2).

Але *прагаварыць* пэўныя рэчы бачыцца дужа патрэбным – перадусім для самога сябе (той выпадак, калі не можаш не казаць). Як вядома, каб знішчыць дэмана, трэба назваць яго імя.

Першаю рэакцыяй на тую "сяброўскую параду" было абурэнне. То бок як гэта – бяжы? Які, на фіг, тэрарыум? Для мяне Беларушчына была (і ёсць) святыняю, а тыя, хто карыстаецца Моваю ў штодзённым побыце – небажыхарамі. А тут – бяжы... Але я вяртаўся да гэтага і пасля, у думках спрачаўся з уяўным апанентам, спрабуючы патлумачыць, адкуль у беларускамоўных такі моцны антаганізм адно да аднаго (працуючы ў культурніцкім асяродку, не раз даводзілася пераканацца ў сумнай слушнасці тых словаў). Чаму ў найцяжкі час, калі трэба адкінуць усе асабістыя крыўды й непаразуменні ды, перапрашаю, уз'яднацца для супрацы й барацьбы за агульныя каштоўнасці, адбываецца цалкам адваротнае – кулуарная грызня, бясконцыя *сваркі ды звадкі* (стагоддзе спаўняецца гэтаму вершу, а воз і цяперака там), падзел на лагеры: наркамаўка – тарашкевіца, чэсныя – нячэсныя, застабілы – змагары*...

Эгацэнтрызм, няўменне дамаўляцца, нежаданне чуць адрозную ад сваёй думку... Сімптомы агульнанацыянальнае хворасці. Часам здаецца, што ў беларускамоўных гэты ўзаемны антаганізм дасягае энтрапіі. Парадокс... Тое, што мусіць з'ядноўваць, заклікаць да прымірэння, – сварыць і раздзяляе. Усе шануюць Мову, але пры гэтым, выглядае, не могуць трываць іншых. Па першым часе было дзіўна назіраць, як дужа сімпатычныя паасобку людзі (напрыклад, літаратары) цямнеюць тварам, як толькі гаворка заходзіць пра такога ж сімпатычнага, як для мяне, калегу па цэху.

І мяне, прызнаюся, страшэнна злуе гэтая зацятасць белмоўных пасіянарыяў (далей убачым, што гэты выраз таўталагічны).

---

* Гэтую "дваістасць душы" беларусаў, дыягнаставаную калісьці Гарэцкім, хтосьці называе галоўным складнікам нацыянальнай ідэнтычнасці. Але ж наўрад ці падваенне асобы можа быць фактарам гарманічным – як для пэўнага чалавека, гэтак і для нацыі.

Я бачу непадробнае захапленне неафітаў, тых, хто толькі адкрывае для сябе прыхаваны ад вока непасвячоных свет беларушчыны, Краіны-ў-краіне, чуе яе старажытны покліч. Для іх беларускамоўныя – рэліктавыя істоты, від, які па ўсіх законах прыроды мусіў вымерці. І тое, мажліва, таксама вабіць, асабліва – калі па натуры ты спартанец. Але ў выніку, трапіўшы ў гэты рондаль і агледзеўшыся, застаецца тут жадаюць далёка не ўсе. Вядома ж, прычыны гэтага не толькі ў нашым "вузкім коле", але і ў тых якасцях, якія чалавек мае ці не мае, каб пайсці на такі суперрадыкальны крок – пачаць размаўляць на нацыянальнай мове ў сваёй краіне.

Калісьці на партале Generation.by з'явіўся артыкул пад кідкай назвай "Чаму мне абрыдла быць беларускамоўнай"[1], падпісаны імем Стасі Тэкоўскай. Аўтарка распавядае, як яна, прыехаўшы ў Менск, паступіўшы ва ўнівер і крыху пазнаёміўшыся з беларускамоўным асяродкам, пачула ў аўтобусе, як хлопец з дзяўчынай пра нешта спрачаліся па-беларуску. *"Памятаю, як мяне тады ахапіла неверагодная зайздрасць да іх, як я з заміраннем сэрца слухала іх мову і назірала за рэакцыяй пасажыраў. Ува мне з'явілася тады такое дужае падлеткавае жаданне вылучацца сярод астатніх, быць непадобнай, што, калі выйшла з аўтобуса, вырашыла назаўсёды перайсці на беларускую",* – піша Стася. Але:

> *...прайшло некалькі год беларускамоўнага жыцця, запал згас, а ад былога падлеткавага жадання не засталося нічога, няма больш прагі быць непадобнай, знікла жаданне выклікаць цікаўнасць. Цяпер я імкнуся меней размаўляць з тымі, хто патэнцыйна беларускую не разумее, і выкарыстоўваць самыя простыя і зразумелыя для іх словы.*

Аўтарка гаворыць, што ў яе фактычна пачаўся псіхалагічны крызіс. Перадусім – праз рэакцыю навакольнага люду: *"Мне да слёз робіцца крыўдна, калі мяне просяць перакласці беларускае слова, і мяне цягне на ваніты, калі я бачу здзіўленне на тварах суразмоўцаў. А калі я чую ад самых блізкіх мне людзей «фу какой некрасивый язык, ну что это за слово», ува мне змагаюцца жаданне трэснуць па іх галаве чым-небудзь і жаданне замаўчаць назаўжды, больш ніколі з імі не весці гутарку. Калі нельга гутарыць па-беларуску, то нельга гутарыць наогул".*

Прычына Стасінага раздраю яшчэ і ў тым, што саміх беларускамоўных напраўду нашмат меней, чым падаецца на першы погляд. Але да гэтае часткі яе эсэю (аўтарка называе яго споведзю) мы вернемся ніжэй.

## Анамнэз

Першасным імпульсам да гэтага майго дайвінг-даследавання сталася агульная атмасфера ўпадніцтва, што часцяком прысутнічае і ў прыватных гутарках, і ў публічных выказваннях белмоўных.

Падобных прыкладаў багата. І часта гэта крыкі адчаю.

Пачну са сведчанняў сталых ды ўраўнаважаных дзядзькоў. Чалавек, які цалкам прысвяціў сваё жыццё беларушчыне, знаны літаратар і крытык, адпрацаваўшы колькі год на Радыё Свабода мадэратарам сайту, не стрываў крытычнае масы зняважлівасці, а таксама тых кілабайтаў трэнасу й галашэнняў, што змушаны быў прапускаць праз сябе па працы, і сам выбухнуў "Плачам вэб-рэдактара над камэнтарамі":

> *Столькі нянавісьці ў камэнтарах на сайце Свабоды! Я не адзіны мадэратар, але скажу пра сябе – хоць ты хавайся ў бульбу, калі людзі нібыта тваіх поглядаў аж настолькі безапэляцыйныя, глухія і злыя. Міжволі задумаесься – а ў чым уласна іх і твае погляды супадаюць? У прабеларускай рыторыцы? Магчыма. Але ва ўсім астатнім мне часта хочацца перайсьці на другі бок вуліцы.*[2]

Гэты допіс Сяргея Дубаўца сабраў рэкордную для сайту РС колькасць каментаў (пад трыста), чытанне якіх прывяло не толькі да пашырэння свядомасці й патаўшчэння тонкага цела, але скіравала да сіх-тых развагаў і высноў. Вядома ж, аўдыторыя "свабодаўскага" сайту – той яшчэ зрэз грамадства, але ж хіба на іншых незалежных рэсурсах (nn.by, charter97.org, 34mag.net) мы бачым штосьці кардынальна іншае?

Паэт Усевалад Сцебурака (таксама, здаецца, далёка не ныцік) у сваім маніфеставым жж-допісе "Пакаленне LAST" сцвярджае, што *"тыя, каму цяпер 30 (+ - 5 год) – гэта прадстаўнікі апошняга пакалення беларусаў"*.

> *...прадстаўнікі пакаленьня LAST будуць паміраць павольна, і многія пакінуць, магчыма, і ня горшую памяць па сабе. І толькі вельмі балюча ўсьведамляць, што нашая будуыня, праваліўшыся паўсьляпым шчанюком у адкрыты люк, так і засталася, забытая, пранізьліва скуголіць недзе там, у мінулым, якое няўмольна адыходзіць у далячынь...*

Гэты тэкст-правакацыя (ці, як кажуць *у інтэрнэтах*, "накід") сабраў больш за дзвесце звышсупярэчлівых водгукаў на сайце Нашай Нівы і больш за сто – у тады ўжо напаўжывым лайвджорнале[3].

Нядаўні фэйсбучны допіс аднаго з папулярызатараў беларускае культуры Алеся Мазаніка (ці, як ён сам сябе мянуе, "мэнеджэра культурных праектаў") – вокліч чалавека, даведзенага да адчаю.

> *Калісьці, 10 гадоў таму, існавала моладзевая ініцыятыва Вока, дзякуючы якой я пачаў свой цярністы шлях на ніве Беларушчыны. Шмат чаго было, як і навошта, аднак самае галоўнае, што тыя тоны знявагаў, абразаў і крытыкі, якія я пачуў і працягваю чуць цягам гэтых 10-ці гадоў, варта трываць тады, калі гэта камусьці патрэбна. А ў святле зноў-такі апошніх размоваў і падзеяў, тое трэба толькі мне. Таму я вырашыў, што сваю культурніцкую дзейнасць трэба скончыць, зрэшты, мяркую, знойдуцца тыя, хто зробіць гэта лепш. Дзякуй за ўвагу, з павагай, А.М.*

На шчасце, спадар Мазанік урэшце вырашыў-такі не кідаць Справу й не зачыняць сваю інтэрнэт-краму (адну з трох у байнэце, што спецыялізуецца на продажы беларускамоўнай прадукцыі).

Гэтыя прыклады можна доўжыць[4]. Ды які сэнс? Кожны, хто ў тэме, унутрана пагодзіцца: *экалогія* нашага-"змагарскага" асяроддзя дужа задушлівая. Вядома ж, тэрарыум – перабольшанне. Але наяўнасць сварак ды звадак (відаць, непазбежных для творчых людзей паўсюль) засмучае. Яшчэ больш засмучае адсутнасць альтэрнатыўных тэндэнцыяў. Ну, да прыкладу, радасці ад поспеху бліжняга свайго – напісанага верша, ці песні, ці выдадзенае кнігі/кружэлкі (ды проста радасці ад супольнага суіснавання нас, такіх розных ды класных!). З улікам таго, што, як вядома, сучасную беларускую літаратуру чытаюць пераважна самі літаратары, перспектыва ў яе выглядае няўцямна-цьмянаю...

## "Долгая память..."

У чым карані гэтае варажнечы?

Уражанне: шмат хто ставіцца да Беларушчыны як да катэгорыі сакраму. Нібыта яна – іхная прыватная ўласнасць. Прычым настолькі, што яны не гатовыя ёю дзяліцца. Чаму так?

Была калісьці на будзьмаўскім сайце добрая рубрыка "Як я стаў беларусам" ("Як я зрабіўся беларускамоўным" пасавала б больш, што насамрэч слова "беларус"

тут тоеснае слову “беларускамоўны”). Вось жа, агульныя складнікі расповедаў шмат каго з удзельнікаў гэтага праекту, – *шлях не дзякуючы, але насуперак*, пачуванне белай варонаю, пераадоленне незразумеласці сямейнікаў і грамадства, то бок – амаль агіяграфічны шлях да веры. Па першым часе гэтае *per aspera ad astra* – фактар станоўчы й спрыяльны. Але як адваротны бок і часта непазбежны вынік – адносіны да мовы й беларушчыны як да сакральнае ўласнасці.

Тое, што ўсе беларускамоўныя ў той ці іншай ступені нонканфармісты, відавочна. Гэта людзі, якія з пэўных прычынаў пайшлі супраць плыні, выскачылі з агульнае (каланіяльнае) каляіны. Людзі з крытычным мысленнем. Асобы, так бы мовіць, асацыяльныя (не ў сэнсе паводзінаў, а ў сэнсе непрыняцця статкавасці). Яны – апазіцыянеры a priori (прыйшоў бы Зянон у 94-м, яны б хутка ўзненавідзелі і яго).

Адсюль, у прынцыпе, – усе гэтыя “цёркі” ўнутры нашага вузкага соцыюму. Хтосьці называе яго рэзервацыяй, хтосьці – гета. (Лічу, што ўсё ж гэта не гета: сюды прыходзяць паводле покліча, *цалкам ірацыянальнага зруху сэрца,* (с) С. Дубавец). Мы не ўмеем дамаўляцца. Ставім сябе ў цэнтр. Не чуем думкі іншага. Кожны – Асоба, кожны – геній ды *культурны герой...* Можна сказаць, мы любім кіраваць, але не быць кіраванымі. Падпарадкаванне думкі большасці для нонканфарміста немажлівае, ізноў жа, a priori. Гэта як, да прыкладу, пайсці ў далёкі паход выключна людзям з лідэрскімі якасцямі. Нічым добрым такая выправа, дзе ўсе камандзіры, не скончыцца.

Тэза, прыдуманая не мною*: тых, хто працуе ў грамадскіх NGO, варта ў прымусова-добраахвотым парадку заганяць на семінары па эфектыўнай працы ў камандзе.* Але цяпер гаворка пра іншае.

У выніку тое, што мусіла б аб’ядноўваць, – мова (правапіс), ідэнтычнасць (дагэтуль не можам прыйсці да згоды, хто мы – ліцьвіны, славянізаваныя балты, белыя русіны *etc.*) – насамрэч раз’ядноўвае. Так, гісторыю пішуць пераможцы, і беларусы апошнія гадоў трыста знаходзіліся ў ролі пераможаных. Мы нават не можам з пэўнасцю вызначыцца з этымалогіяй ды аўтарствам этноніму “беларус” (розныя даследнікі з жалезнай перакананасцю сягаюць ад палкоўніка Паклонскага й Кацярыны II з яе дрэсіраванымі гісторыкамі да філаматаў і філарэтаў)... Жыцці праходзяць, а заходні і ўсходні вучоныя, абняўшыся з ідэолагам Канторы Глыбокага Бурэння ды абклаўшыся папкорнам, замілавана паглядаюць за форумнымі бэтламі.

Агульнае месца: маўляў, пакуль не будзе нацыянальнае дзяржавы, сапраўды беларускіх інстытуцыяў, нармалёвае моўнае палітыкі і г.д., і да т.п. нічога не будзе. Усё так. Але адкуль тое возмецца? Ніхто нам гэтага на сподку не прынясе. Дык можа годзе прабаўляць жыцці ў палымяных спрэчках і прыспеў час да кансалідацыі? Беларуская сітуацыя мае аналагі. Праз падобнае праходзілі і чэхі, і славенцы, і палякі (пра ўкраінцаў крыху ніжэй). Магчыма, іх кандыцыйныя ўмовы былі лепшыя, згуртаванасць большая, *пасіянарны зарад* мацнейшы. Мы звыкліся тлумачыць, што ніхто так не пацярпеў ад сталінскіх рэпрэсіяў, як беларусы: 80 адсоткаў пісьменнікаў у нас, 60 на Украіне, 20-30 у Расіі (хаця сам аўтар даследаванняў па загінулай інтэлігенцыі ў прыватнай гутарцы сумняваўся ў слушнасці сваіх лічбаў). Можа, гэта і так, але што нам тое сёння дае, акрамя апраўдання ўласнае бяздзейнасці?*..

На пачатку 80-х Барыс Грэбеншчыкоў напісаў песню, дзе афарыстычна акрэсліў

* Мажліва, хтосьці, чытаючы гэтыя радкі, скажа, што аўтар згушчае фарбы і ад пачатку галаслоўны й катэгарычны. Ёсць жа аморфная біямаса трасянкава-рускамоўных, што жыве па прынцыпе чарка-шкварка-іншамарка, а ён тут на сваіх плявузгае. Што ён ныцік, цынік і да т.п. Што ж, прагляд сямі з паловай сезонаў “Доктара Хаўса” не мінае бясследна, але згадайце: Рыгор Хаўс такі, бо яму самому ўвесь час баліць.

сітуацыю замкнёнага кола ленінградскага творчага андэграўнду: *“долгая память хуже, чем сифилис, особенно в узком кругу, идет вакханалия воспоминаний, не пожелать и врагу...”* Так, гэтае шматгадовае варэнне ва ўласным соку абрыдла. Шмат хто, бы той Шура Балаганаў, проста *не верыць*, стаміўшыся ад штодзённага змагання ды сітуацыі перманентнае вайны з наваколлем. *“Усё стабільна, але ж дэбільна”* – праспяваў наш культавы рокер. Дык можа прыспеў час штосьці змяняць? І перадусім – у сабе саміх і ў стаўленні да рэчаіснасці.

## Пасіянарнасць vs Нонканфармізм

Тое, што *рэальна* белмоўны чалавек – нонканфарміст (ці гэта школьная настаўніца, якая размаўляе на мове не толькі на ўроку, але й “па жызні”, ці студэнт будфаку, што ідзе супраць плыні) – дадзенасць і суворая праўда жыцця. Але ці абавязкова гэты нонканфармізм мае зарад пасіянарнасці?

Сумневы ў слушнасці абранага шляху даводзіцца чуць рэгулярна: і на чорта мне гэта? Жыў бы як усе й не замарочваўся. З маімі здольнасцямі меў бы тое й гэнае. А так – паклаў жыццё на нікому непатрэбнае змаганне. Павёўся на утапічную ідэю... Пераважна так кажуць людзі, што *пражылі жыццё*. Так, пасіянарнасць з узростам сыходзіць у пясок. Лёгка быць Каліноўскім, калі табе 23, і няма ані дзяцей, якіх трэба карміць і апранаць, ані справы, за якую адказвацьмеш перад людзьмі...

Альбо (*скрушна*): гэты рэжым! Калі б не ён, мы бы ух!.. Калі б не ён, усе б размаўлялі па-беларуску, мы б жылі ў Еўразвязе й выдаваліся стотысячнымі накладамі. Шкада марна пражытых гадоў жыцця. Вы, маладыя, яшчэ, можа, пажывеце, а мы... наша песня праспяваная...

Вядома ж, злачынны рэжым ва ўсім вінаваты. Гэта ён замінае нам вольна дыхаць і гарманічна развівацца. Ён, пракляты! Як добра мець вінаватага. Толькі вось узнікае “пытаннечка”: а ці не так разважае большасць абывачоў планеты Зямля? Ці ёсць хтосьці, хто насамрэч задаволены ўладамі й чынавенствам? Зрэшты, колькі ў нас жыццяў, каб ставіць крыж на гэтым?..

Як на мяне, самай слушнай рэакцыяй на нашую сітуацыю (ды й наагул – на жыццё) ёсць тэза, да якой, пасля шматлікіх адсідак ды хіміі, прыйшоў Павал Севярынец. Гэта тое пытанне, якое мы мусім слушна сфармуляваць (адрасаваўшы яго ці сабе, ці яшчэ Камусьці): не *за што*, а *дзеля чаго* мне ўсё гэта?

> *Цяпер, адбыўшы прызначаны тэрмін “да званка”, магу ад чыстага сэрца сказаць: слава Богу за Куплін*[5].

Чаму б не атрымоўваць задавальненне ад жыцця-як-такога? (Бо іншага можа й не быць.)

Насамрэч нашая беларушчына патрэбная **нам самім.** Перадусім і толькі. Не нейкаму абстрактнаму “беларускаму народу” – НАМ. Яна нам *па кайфе*. Гэта наш драйв. Мы, *асвечаныя беларушчынай*, не можам іначай. Мы яркія. Амбітныя. Так, індывідуалісты, так, вечныя змагары, так, жудасна *далекі от народа*... (Ды й славалюбства, улюбёны грэх героя Аль-Пачына, нам не чужое, як усё чалавечае.) Духоўнае мы ставім вышэй за матэрыяльнае. Дык будзьма шчырымі хоць самі з сабой.

Гэта саўковая статкавасць вучыць нас не вылучацца, быць як усе. Але рэчаіснасць засмоктвае, і вось мы таксама *ў сістэме*. Мы забываемся на сваю адметнасць, на сваю зіхоткасць.

Мажліва, у пэўны момант нам папросту *надакучвае* вытыркацца.

Мы пакідаем сваю адметнасць для “гета”, дзе яна ўрэшце перастае такою быць. <...> Мы павяліся на сумнеўныя сацыяльныя догмы. Больш за тое: мы

пасталелі й стварылі свае. І мы не, не здрадзілі беларушчыне (гэты дзеяслоў тут не пасуе; мы ж не вайскоўцы; нашая беларускасць нічога супольнага з дзяржавай Рэспубліка Беларусь не мае; у большасці з нас ужо не было нават бабуляў, якія размаўлялі на мове, не тое, што матуляў). Мы пачалі рабіць выгляд, быццам бы мы самыя звычайныя. Так, мы ведаем сваю рацыю, трымаемся яе (часам, на жаль, – змушана й па інэрцыі), грэбуем паслухмянаю шэраю большасцю. Прамаўляем ад імя гэтае рацыі. Выпускаем пару ў сацсетках, наладжваем фрэндэцыты, ізноў ствараючы сваю гета-рэальнасць, утульненькую наасферу. Але – мы ўжо не йдзем на канфлікт. Мы капітулявалі. Мы, руйнавальнікі законаў і табу, апелюем да нейкіх спрадвечных (да прыкладу, еўрапейскіх) каштоўнасцяў, здаровага сэнсу, нармалёвасці.

Bullshit! Ніякія мы не “нармалёвыя”. “Будзьма ненармальнымі!” – такі дэвіз мусіць быць на нашых штандарах (пасыл вядомага мульта пра “шалёны народ” у цэлым слушны, толькі слова *народ* тут хіба лішняе).

Мы звыкла вінавацім “шэрую большасць” у калгаснасці. Наракаем на лукашэнкаўцаў, якія ненавідзяць і нішчаць усё, патыпу сваё ж, беларускае. Нібыта – праз іх усе беды. А чаго ж мы хацелі? На тое яна й шэрасць, каб падаўляць. На тое й балота – каб засмоктваць. У яго прырода такая.

Ці магчыма, каб аўтарытарны лідэр (у сваім хляве, вядома ж, – яркая й харызматычная асоба), збіраў вакол сябе ярчэйшых і харызматычнейшых? Нонсэнс. Людзей, здольных на ўчынак, там па вызначэнні быць не можа. Іх пажыраюць першымі. Іх наяўнасць небяспечная для “пахана”. Чаму ж мы дзівімся? Размаўляць па-беларуску чалавеку “сістэмнаму” – усё адно як прыйсці на вясковую “ціскатэку” ў строгім гарнітуры й запрасіць мясцовую прыгажуню на ~~тур мазуркі~~ мядляк. Адзін ужо, дарэчы, пасправаваў. Яго *“беленькія манжэцікі, каўнерыкі, балбатня* (sic!) *і развешванне на сценках карцінаў”*[6], пэўна, яшчэ доўга будуць напаўшэптам згадвацца на мінкультаўскіх планёрках...

Ну добра, уявім, што “рэжым” ляснуў. Няхай нават, як Пілiп з канапель, з’явіцца той адэкватны й разумны, які – неверагодная рэч – будзе прыслухоўвацца да іншых разумных. Нават – будзе мець сантымент да беларушчыны й пачне праводзіць нацыянальную палітыку. (Вядома ж, мы ўсе ў гэта верым вось ужо чвэрць стагоддзя, бо “інакш проста не варта жыць”). Але ці будзе нам – асабіста нам – лягчэй? Спярша, вядома, – так. Але пазней, калі пройдзе эйфарыя й мы прачнемся ды зразумеем, што ракенрол памёр і няма пра што спяваць... Ці зробіць гэта нас шчаслівейшымі, гарманічнейшымі?..

Дарэчы. Вось звярнуўся прэзідэнт да свайго народа на мове (не прайшло й 20-ці год), а раптам гэта зробіцца завядзёнкаю? – і што рабіцьмем са сваёю абранасцю ды элітарнасцю?..

Ці *нармалёвасці* мы хочам?

Ірацыянальнасць – вось, што робіць нас *іншымі*! Згадайма знакаміты (хоць, можа, і крыху зацяганы) караткевічаўскі запавет-інструкцыю: *“Рабі нечаканае, рабі,* ***як не бывае****, рабі, як не робіць ніхто, – і тады пераможаш”.* Герой Караткевіча з гэтым дэвізам (праўда, не без спрыту рук) перамагае ў шахматы Смерць, што дзейнічае па законах логікі ды рацыі.

<...>

Пасіянарнасць у звязку з нацыянальнай ідэяй у розны час мела розныя якасць і ступень. Так, белмоўнасць сярэдзіны 80-х і сярэдзіны 90-х – дзве вялікія розніцы: у 80-я беларускамоўны (асабліва той, чыя прафесійная дзейнасць не была звязаная з філалогіяй) быў, безумоўна, пасіянарыем, у 90-я ж у тым, каб аддаць дзіцёнка ў беларускамоўны клас, не было нічога звышнатуральнага. Наагул, на пачатку 90-х беларускамоўнасць мела ўсе падставы, каб звацца Ідэяй. Злучальнай і, перапрашаю за пафас, нацыястваральнай (але лёс склаўся так, і далей па тэксце).

Усё, што мы маем сёння ў плане беларушчыны – інэрцыя Адраджэння 1990-х. Як ні сумна гэта канстатаваць, 2010-я – вяртанне ў васьмідзясятыя: у масавай свядомасці гадаваць дзіця па-беларуску ёсць чыстым вар'яцтвам.

Беларушчына ператвараецца ў адзін з відаў субкультуры. Набыў вышымайку, начапіў значку ці фенечку – і вось ты ўжо член нашага клубу. Уражанне, што для моладзі беларуская набывае рысы нейкае фантазійнае мовы кшталту эльфійскай.

За час выкладання мовы ў адной тэхнічнай ВНУ мне сустрэлася не больш за дзесяць беларускамоўных студэнтаў. Знешне, "па адзенні" яны ніяк не вылучаліся з агульнае масы. Іх пасіянарнасць праяўлялася толькі ў маўленні. Але ж як яны адразу ж змяняліся і пачыналі зіхцець на тле шэрае большасці, толькі сказаўшы пару фраз па-беларуску!

Калі зусім спрашчаць, каб вырвацца з кіпцюроў соцыюму, хтосьці ідзе ў готы/эма, хтосьці далучаецца да нейкай рэлігійнай дэнамінацыі, хтосьці робіцца эльфам/хобітам, а хтосьці – пачынае размаўляць на мове. Не ведаю, у каго ступень пасіянарнасці большая. Беларускамоўны гот – вось, відаць, прыклад суперпасіянарыя... :)

Па-беларуску і сёння, і ўчора размаўляюць пераважна людзі культурнае сферы. У звязку з гэтым нядобразычліўцы прарочаць нам кепскую будучыню: маўляў, народ не з вамі. Тое ж гавораць і інтэлектуалы (эсэ В. Акудовіча "Бяз нас"). Але ў гэтым назіранні пераблытаныя прычына і следства. Не таму чалавек размаўляе на мове, што ён мастак, літаратар ці музыка. Ён перадусім – творчая асоба, і мова – свайго роду магніт, што збірае вакол сябе нас, розных і класных (ну і сціпласць, вядома ж, у нас не на апошнім месцы).

Існуе тэорыя, якую можна назваць "Тэорыяй 33-х адсоткаў"*. Калі Гумілёў казаў пра 10 адсоткаў пасіянарыяў сярод шэрае масы соцыўма, то 33 адсоткі (куды гэтыя 10, вядома ж, уключаныя) – як масток між першымі й другімі. Залатая сярэдзіна, крытычная маса неабыякавых грамадзянаў (нездарма прыблізна тая ж адсоткавая частка народу, няхай сабе й кры-ышачку падманваючы саміх сябе ды статыстыку, называе беларускую мовай штодзённых зносінаў).

## Цярпімасць ці цярплівасць?

Які галоўны стэрэатып пра беларускую ментальнасць? Талерантнасць. Мы кажам: стэрэатып, насаджаны цягам двухсотгадовай акупацыі (хтосьці дадае: разам з этнонімам "беларус"). Напэўна, часткова, стэрэатып, які мусіць спрацоўваць пры пэўных умовах (нацыянальная самадастатковасць і мова). Але цяпер гаворка не зусім пра тое. Дэ-факта, на сёння гэты стэрэатып не працуе. Ну і добра – адкажа пасіянарый. Мы беларусы, шалёны народ. Хтосьці згадае, што талерантнасць ёсць адным з сімптомаў такое хворасці, як гіпатырэоз, маючы наўвеце агульную млявасць ды абыякавасць да жыцця.

І ўсё ж я буду адстойваць тое, што акурат *адсутнасць талерантнасці ў нашых шэрагах* ёсць адной з прычынаў паразы.

Адзін ужо згадваны беларускі паэт напісаў: "Файна быць неталерантным"[7]. Не вазьмуся меркаваць, файна ці няфайна, скажу толькі, што неталерантным быць адназначна прасцей. Так, добра мець цвёрдую ўласную пазіцыю і яе адстойваць. Але ж талерантнасць зусім не ёсць сінонімам мяккацеласці.

Талерантнасць хтосьці разумее як цярплівасць, а хтосьці – як цярпімасць.

---

* "Вядома, што 33 адсоткі, то бок адна трацiна чалавецтва, здольныя паглыбляцца ў самыя глыбокія слаі гіпнозу... толькі 33 адсоткі людзей валодаюць эстэтычным пачуццём, толькі 33 адсоткі людзей зычлівыя, толькі 33 адсоткі людзей ёсць творчымі асобамі. І я мяркую, што гэта адныя й тыя ж людзі" *(Osho. From Medication to Meditation).*

А вось вызначэнне з Вікіпедыі: *“Т. – сацыялагічны тэрмін, што абазначае цярпімасць да іншага светапогляду, ладу жыцця, паводзінаў і звычаяў. Т. не раўназначная абыякавасці. Яна не азначае таксама прыняцця іншага светапогляду ці ладу жыцця, яна заключаецца ў прадастаўленні іншым права жыць у адпаведнасці з уласным светапоглядам [...] Пад Т. не разумеецца саступка,* паблажлівасць ці прытворства. *Прааўленне Т. таксама не азначае цярпімасці да сацыяльнай несправядлівасці, адмовы ад сваіх перакананняў ці саступкі чужым перакананням, а таксама навязвання сваіх перакананняў іншым людзям”.*

Слушнае разуменне талерантнасці палягае ў тым жа ланцужку, што і разуменне базісных законаў існавання чалавечага грамадства: не рабі іншаму тое, чаго не хочаш, каб рабілі табе; твая свабода заканчваецца там, дзе пачынаецца свабода іншага і да т.п.

Перапрашаю за штамп, але талерантнасць – падмурак дэмакратычных каштоўнасцяў, неабходная ўмова трываласці любога таварыства.

То бок талерантнасць – адзнака сталага грамадства. Да талерантнасці трэба саспець. Яна ёсць антыподам таталітарнаму мысленню. А логіка таталітарызму простая як граблі: грамадства для “здаровых”, “прыгожых”, немаргінальных. Любое адхіленне ад “генеральнай лініі” – здрада. Пачуванне Асобай – хвароба... Бо Асобай цяжка кіраваць.

І вось парадокс: беларускі нацыяналізм – неталерантны. Як кожны малады й неакрэплы нацыяналізм ён такі па вызначэнні й па складніку.

Хтосьці запярэчыць: а як жа ВКЛ, дзе талерантнасць была прапісаная ў Статутах? Сапраўды, нашыя далёкія продкі імкнуліся жыць па законах цярпімасці да бліжняга (да якой бы веры й нацыі ён не належаў), а не *па паняціях*. Статуты пісаліся для людзей вольных. Высакароднасць культывавалася. Часцяком чуеш, што гэта Расія навязала нам міф пра нашую “талерантнасць” (у сэнсе, паслухмянасць, цярплівасць і г.д. – то так). Насамрэч ніякія мы не талерантныя. Да жалю?..

Савецкія мазгі загартоўваліся ў эксперыментальных умовах пабудовы грамадства безасабовых індывідаў, калі любая інакшасць (фізічная, псіхічная, эстэтычная і г.д.), успрымалася як ідэалагічная пагроза трываласці гэтага самага грамадства. Калі галоўным прынцыпам існавання было “не выпячвацца”. Калі “выскачак” (чытай – пасіянарыяў) выяўлялі і адсякалі на этапе дзіцячага садка, а даносчыкаў песцілі ды ўхвалялі ўсімі сродкамі ідэалогіі і сацрэалізму (наскі аналаг Паўліка Марозава – чорнаўская Зося з хрэстаматыйнага “Трэцяга пакалення”, якая здае кампетэнтным органам мужа-злодзея)... Нічога дзіўнага, што ў сухой рэшце маем тое, што маем.

Згадваецца, як пры канцы 90-х, падчас канцэртаў на вялікіх пляцоўках культавых рок-камандаў НРМ, Крамы, Новага неба, Нейра Дзюбеля, калі на сцэну выходзіў малады вядоўца (а цяпер – дысідэнт, бліскучы эсэіст і адзін з бацькоў-заснавальнікаў беларускай хрысціянскай дэмакратыі), каб прадставіць чарговы гурт, наведнікі канцэрту шторазу сустракалі яго свістам і неадабральнымі выкрыкамі. *Нейкі смаркач, ды хто ты такі; давай валі адсюль* – крычалі яны. І гэта былі не правакатары. Гэта былі лепшыя людзі краіны. Перафразуючы вядомы мем, савок не пройдзе (як першае каханне). І кожны, відаць, бачыў сябе на ягоным месцы, ведаў, як зрабіць лепшым канферанс. Як жа іх раздражняў гэты малады выскачка!.. Гэтак жа раздражняе тут любы дзейсны ды ініцыятыўны, а калі шчэ й малады (згадайма, колькі негатыву ды яду было выліта на стваральнікаў фільма “Жыве Беларусь” і ў часе падрыхтоўкі гэтага праекта, і пасля). Чытаючы “свабодаўскія” ці “энэнаўскія” каменты на словы чарговага “ерэтыка” і “выскачкі”, разумееш, што да таго, калі “ненавіджу тое, што ты кажаш, але памру, каб ты мог гэта казаць”, нам яшчэ як да месяца.

Вось жа, талерантнасць, калі пад ёй разумеюць “млявасць ды абыякавасць да

жыцця”, – эўфемізм. Хоць мяжа паміж цярплівасцю (“сміреніем”) і цярпімасцю да бліжняга вельмі хісткая.

Між тым, асабіста ў мяне складваецца ўражанне, што ступень талерантнасці (у праўдзівым разуменні) у нашым нібыта “закансерваваным таталітарным” грамадстве прынамсі не паніжаецца. Прычыны гэтага (рост дабрабыту, нізкі ўзровень карупцыі ў ніжэйшых эшэлонах параўнальна з Расіяй ці Украінай, тлетворны ўплыў захаду і г.д.) – тэма асобнае гаворкі. Мажліва, сапраўды генетычная памяць мае месца, і, калі рэальныя законы не дзейнічаюць, грамадства жыве паводле законаў базісных, глыбінных. А можа, не такое ўжо яно закансерваванае і таталітарнае, як мы самі сабе яго малюем?

<...>

Скончу гэтыя развагі, можа, рэччу й відавочнай, але вартай таго, каб тут гэта прагаварыць. У кожнай мове схаваны генетычны код пэўнага народа. І ў лексіцы, і ў фанетыцы. Філолагі завуць тое “наіўна-моўнай карцінай свету”. Ну, кшталту, само гучанне нямецкае мовы як бы кліча ў ваенны паход, а любы галівудскі фільм – ці тое баявік, ці трылер, ці меладрама, ці жахалка – пры праглядзе ва ўкраінскім перакладзе робіцца камедыяй.

Што ёсць найбольш адметнай рысаю беларускага маўлення? Вядома ж, мяккасць. Асіміляцыйная мяккасць зычных – то бок *прыпадабненне*_да_ папярэдняга_мяккага, пазбяганне збегаў зычных, прыстаўныя і ўстаўныя літары, тая ж асіміляцыя паводле шыпячасці/свісцячасці... Як вынік – спеўнасць, мілагучнасць, бесперашкоднасць маўлення. Вось жа, беларускае вымаўленне само па сабе ёсць узорам так бы мовіць *унутрымоўнае талерантнасці!* Чыстая дыялектыка: народ талерантны, бо мова такая і наадварот (бо хто ж ёсць творцам мовы?). Як толькі народ [зь]вернецца да мовы, яе законы пачнуць дзейнічаць.

## Мова як рэлігія

Калі задумацца, мы існуем ва ўнікальных умовах. У Беларусі мова – не зусім тое, што нацыянальная мова ў любой ~~нармалёвай~~ іншай краіне свету. Як у Расіі паэт больш, чым паэт, – у нас мова больш, чым мова. Паўтаруся: нашая мова – катэгорыя сакральнага. З пачатку 90-х мы марым, каб апошняя самадайка пачала размаўляць па-беларуску, але давайце будзем шчырымі (хоць бы самі з сабой): ці сапраўды мы жадаем аддаць нашую святыню плебсу?..

Мы прызвычаіліся казаць абстрактна: мова ў заняпадзе. А калі канкрэтн*ей* – чаму? Адказ: бо ў нашай дзяржаве яна не выконвае сваіх галоўных функцыяў – камунікатыўнай і, фактычна, намінатыўнай*. (Вядома ж, патэнцыйна беларуская ў стане іх выконваць, і мая мара, каб нашая мова стала *звычайнай*, а не сакральнай, і камунікатыўная функцыя зрабілася першаснай, як ёй і належыць.)

На сёння мова, акрамя эстэтычнай функцыі (беларуская як *мова сэрца*), тут выконвае перадусім этнічную, так бы мовіць захаваўчую функцыю, а таксама вынікальную з яе фатычную – кантактаўсталявальную, апазнавальную, але пры гэтым і размежавальную – то бок рэалізуе прынцып свой-чужы. У гэтым сэнсе з часоў купалаўскае класіфікацыі тутэйшага насельніцтва на беларусаў і “тожэ-беларусаў”, здаецца, няшмат што змянілася.

Вось жа, для большасці грамадзянаў РБ яна – менш, чым мова. Для камфортнае жыццядзейнасці яна ім *ні разу* не патрэбная. Ім *да сіняй трубы*, што адсутнасць мовы ў штодзённым ужытку ды ўсіх навуковых сферах, акрамя культурнай, гэта нонсэнс для ўсяго астатняга свету. Абарона негуманітарнай дысертацыі па-

---

* Так, выдаюцца слоўнікі новых словаў, але пераважна гэта калькі з расейскай. Наватворы ж аўтарскія, кшталту *далькажыка* й *ведамкі* (эсэмэска) не прыжываюцца нават у звышвузкім узусе рэальных карыстальнікаў мовы.

беларуску – неверагодны вынятак (страшэнна цешыць, што гэта ўсё ж хоць раз на дзесяць год, ды здараецца[6]).

Абранне шляху беларускамоўнасці з гледзішча “тожэ-беларуса” – цалкам *ірацыянальны* крок. Звычайнага чалавека не турбуе *ненармальнасць* гэтае сітуацыі. Няма рацыянальнага абгрунтавання, чаму ён мусіць усё кінуць і зрабіцца тут-і-цяпер белмоўным. Пераканаць “прола” пачаць вучыць нейкую мову мажліва толькі адным спосабам – рублём (ці далярам). З’ехаўшы настала за мяжу – ці на аўтазавод у Нямеччыну, ці на клубніцы ў Англію, ці ў бліжэйшы славянскі свет (Польшча, Чэхія) – беларус вокамгненна анямечваецца, апалячваецца і да т.п.

Выхоўваць у цяперашніх варунках дзіця ў беларускай мове – подзвіг, не больш і не менш. Я ведаю тых, хто не бачыць тут праблемы. Маўляў, і садкі дзіцячыя ёсць, і гурткі, і асяродкі. Гэта погляд праз шоры. Сітуацыя без перабольшання жахлівая. Адзін садок, адна суполка (якая раз на год робіць ялінку, за што ёй нізкі паклон), адна гімназія. На ўвесь Менск і на ўсю Беларусь... А можна й працягнуць – адна газета, адно радыё, адзін часопіс. Практычна, як у антыўтопіі Уладзімера Арлова[9].

Мне вядомы прыклад, калі ў цалкам белмоўнай сям’і дзіцё ў падлеткавым узросце мела сур’ёзныя праблемы з камунікацыяй з аднагодкамі, і ў выніку ледзь не ўзненавідзела мову. Бацькам нават давялося міжсобку пачаць размаўляць па-расейску, каб выправіць сітуацыю. Кажу пра ўсё гэта подбегам і тэзісна, бо слёзы наварочваюцца...

Вядома ж, гэта нашая не віна, а бяда. Беларускамоўныя – закладнікі той сітуацыі, што сакральнасць мовы (ці стаўленне да яе як да сакральнага) стварае ўрэшце адмоўны эфект. Мова як такая не павінна быць сакральнаю (калі гэта не мёртвая мова рэлігійных тэкстаў). Беларускамоўных часам параўноўваюць з раннімі хрысціянамі. Але не кожны здольны бясконца падстаўляць другую шчаку.

Працягваючы рэлігійныя алюзіі, некаторыя прадстаўнікі нашага-змагарскага асяродку часам нагадваюць мне зацятых адэптаў праваслаўя, якіх можна сустрэць у царкве пад выглядам суворых бабулек, што сочаць за кожным рухам наведнікаў, і барані вас Бог зрабіць нейкі няправільных рух (запаліць свечку падчас чытання важнай малітвы) ці забыцца зняць шапку дзіцнёнку...

Натуральна, што на гэтым тле ўзнікаюць і супрацьлеглыя тэндэнцыі, якія можна акрэсліць-абагуліць словам *дэсакралізацыя*. Мат у вершыках маладых паэтаў, фрывольнае гулянне цытатамі класікаў, «пераасэнсаванне» (чытай, скідванне з карабля сучаснасці і новай культурнай парадыгмы) гэтай самай нацыянальнай класікі, погляд на класікаў як на «лузераў» і «няздараў», словам, мацяршчына як творчы метад. Кагосьці гэта злуе. Хтосьці бачыць у гэтым знак часу. Альгерд Бахарэвіч у эсэ *«Мат зь сіропам і без»* выносіць такі вердыкт*: «...мы жывем у такой сытуацыі, калі мат у літаратуры выглядае натуральнейшым за, скажам, саму беларускую мову»*[10].

Як вынік – перасваранасць рэальных носьбітаў мовы праз уласныя *візіі* яе функцыянавання – на пацеху ворагам беларушчыны...

Падаецца, што галоўны станоўчы вынік дэсакралізацыі – дазвол рускамоўнаму насельніцтву беларусамі звацца. Беларушчына перастае быць здабыткам выбранцоў – з усімі плюсамі й мінусамі гэтага працэсу.

## Таварыства ананімных беларускамоўных

Прыспеў час зноўку звярнуцца да артыкула спадарыні Тэкоўскай “Чаму мне абрыдла быць беларускамоўнай”. Дык вось, прычына Стасінага раздраю яшчэ і ў тым, што саміх беларускамоўных “напраўду нашмат меней, чым падаецца на першы погляд”.

*...у той час мне, наіўнаму рамантыку, і прыйсці ў галаву не магло, што ўся беларуская мова многіх такіх талентавітых і яскравых творцаў сканчаецца на апошняй кропцы іхняга артыкулу, паэмы ці аповеду; на апошнім акордзе іхняй песенькі, на апошнім гуку іх радыёперадачы. Што тыя, хто так актыўна прапагандуе беларускую мову ў сваёй творчасці і працы, яе ў жыцці не выкарыстоўвае і, што больш за ўсё абурае, некаторыя з іх лічаць гэта цалкам нармальным, маўляў, я і так шмат зрабіў для беларускай мовы. І мне агідна чытаць радыкальна-нацыяналістычныя допісы такіх людзей пра мову, калі я дакладна ведаю, што ні ў цырульні, ні ў кавярні яны і слова беларускага ніколі не вымаўлялі.*

Я разумею, што Стася гаворыць тут і пра мяне таксама (хаця, пэўна, й не ведаючы пра маё існаванне). У цырульні я сапраўды ніколі не размаўляю па-беларуску (хіба што ў часе стрыжкі хтосьці патэлефануе). І ў кавярні – далёка не заўсёды (не з прычыны сарамлівасці, а каб афіцыянтку не саромець)... Я не размаўляю па-беларуску са школьнымі сябрамі (з якімі калісьці вучыўся ў класе з паглыбленым вывучэннем беларускай мовы і наведваў гістарычны гурток), з бацькамі ды іншымі сваякамі... Я, чалавек, чыя, так бы мовіць, прафесійная дзейнасць ад пачатку была звязаная з моваю, не ёсць узорам *сапраўднага* беларуса (на змагарскіх форумах існуе яшчэ такі цэтлік: «прафесійны беларус»). Гэта не самаедства, не споведзь і не кволая спроба самаапраўдання (хаця, відаць, дужа нагадвае апошняе).

Кожнага разу, калі мне даводзіцца размаўляць па-руску, я адчуваю віну. Бывае, я кажу штосьці па-расейску, а ўнутраны перакладач безупынна займаецца сваёю справай... Гэта ёсць моцным дысгарманічным фактарам майго жыцця. Я кажу сабе, што мова гэта яшчэ не ўсё. Што сутнасна важней не тое, як, а тое, што ты кажаш, як пачуваешся, твой стан свядомасці зрэшты.

Між тым, мая беларускамоўнасць не сканчаецца на апошняй кропцы артыкула, акордзе песні ці гуку радыёперадачы. Па-беларуску я размаўляю са сваім дзіцем (не 100 адсоткаў часу і нават не 50, але дзіцё разумее, што гэта словы любові і словы сэрца; словы сілы-“выхавання”-рэчаіснасці прамаўляюцца па-расейску). Толькі па-беларуску – спяваю яму песні на ноч і чытаю казкі. Словы кахання кажу па-беларуску. Ці гэтага мала?.. Выязджаючы ў замежжа, маю завядзёнку размаўляць з жонкай толькі па-беларуску. Часам мроіцца звезці сям’ю на бязлюдную выспу, падалей ад сварак, звадак ды цёрак...

Хаця гэты тэкст называецца “*Мая* беларускамоўнасць”, не буду падрабязна спыняцца на сваім “агіяграфічным” шляху да мовы. Шмат у чым, паводле псіхалагічных чыннікаў, ён падобны да Стасінага (хіба што пачынаўся ў больш цяплічных умовах, калі казаць пра школьную адукацыю). У завяршальнай частцы я буду казаць пра сябе (хаця й не выключаю, ды што там, упэўнены, што падобныя рэчы гнятуць яшчэ шмат каго).

Адкуль жа гэты комплекс віны? І чаму ўласна здрада? Не ў сэнсе – *чаму* канкрэтна мы здраджваем (краіне там, продкам ці пачуццю асабістай годнасці), а ў сэнсе – ці ёсць тое здрадай, што мы спрабуем суіснаваць з рэчаіснасцю, не ідучы з ёю ўвесь час у рожкі? Тое, што я, напрыклад, пачуваючыся беларускім нацыяналістам, ваджу дзіцё ў рускамоўную школу – пры наяўнасці адной рэальна белмоўнай (дзе 90 адсоткаў вучняў на перапынках міжсобку размаўляе па-расейску) на двухмільённы Менск. Альбо – размаўляю са сваімі бацькамі (якія, дарэчы, прыхільна ставяцца да беларушчыны) ды іншымі сваякамі на звыклай ім рускай мове. Альбо – чытаю расейскую літаратуру, слухаю расейскую музыку і нават (аёй-аёй!) атрымоўваю ад гэтага эстэтычнае задавальненне...

Прызнанне ў падобным як для “беларускага нацыяналіста” – фактычна,

прызнанне ў злачынстве. Між тым тых, хто вядзе двайную гульню, праз чыё ханжаства Стася страціла веру ў беларушчыну, падаецца, вельмі шмат.

Я прыходжу да ерэтычнай думкі: нацыянальная ідэя трымаецца на комплексе віны. Але, як казаў Джон Мітчэл, без ерэтыкоў не існавала б паэзіі. Ну, а комплекс віны, як можна прачытаць у любой кнізе па практычнай псіхалогіі, – першае, ад чаго трэба пазбаўляцца, каб пачаць любіць жыццё і сябе. А не палюбіўшы сябе насамрэч, як вядома, не палюбіш і бліжняга.

Атрымоўваецца, храновы я пасіянарый, *двухногі зэдлік* (паводле С. Дубаўца). І, адпаведна, ніякі не нацыяналіст. Што гэта – цярпімасць ці цярплівасць? Кампраміс ці канфармізм?.. І няхай мне закідаюць што заўгодна – і канфармізм, і здраду. Хай так. Беларуская – мова майго мыслення. І яна, дарэчы, – трэцяя засвоеная мною з моў г. зв. усходнеславянскай падгрупы.

## P.S. (Спроба высноваў)

Прыспеў час звярнуцца да абяцанага ўкраінскага досведу.

Нядаўна давялося мне патрапіць у кампанію да львавянаў. Акурат у часе апагею руска-ўкраінскага ваеннага канфлікту (у той дзень у Адэсе спалілі 40, як кажуць у Расіі, прыхільнікаў федэралізацыі ці, як кажуць на Украіне, тэрарыстаў-сепаратыстаў). І зайшла гаворка пра тое, як кансалідавацца нам, беларусам і ўкраінцам, маючы такога суседа на ўсходзе ды саўковую спадчыну, заселую ў мазгах супляменнікаў. І падзяліўся я сваёй белай зайздрасцю з нагоды таго, што ўкраінцы куды далей прасунуліся ў вырашэнні моўнага пытання. Тады адна жанчына, якая шмат разоў бывала ў Менску (яна займаецца культурніцкай інтэграцыяй), падзялілася сваёй стратэгіяй працы. Па-першае, сказала яна, сітуацыя на Украіне нічым не лепшая. І праблемы тыя ж самыя (грызня, тусоўкі-лагеры, няўменне слухаць і чуць, фанабэрыстасць і г.д.), плюс выразны раскол ды прадвесце грамадзянскай вайны. І вось нядаўна яна разам з калегамі-"западэнцамі" брала ўдзел у нейкім пленэры, што ладзіўся на ўсходзе. І, маўляў, амаль усе, апроч некалькіх львавянаў, карысталіся расейскай моваю. І калі першы дзень пленэру завяршаўся, і было афтэпаці, львавяне сабраліся разам і пачалі спяваць народныя песні. І спявалі іх некалькі гадзінаў запар. І знайшлося багата мясцовых, якія далучыліся да іх – і паслухаць, і падспяваць. І цягам некалькіх дзён далейшае камунікацыі ўдзельнікі пленэру спярша размаўлялі па-ўкраінску са львоўскімі гасцямі, а пасля пачалі размаўляць і міжсобку. І ўжо ў апошні дзень, у часе развітальнага фуршэту, "усходнікі" ўзнялі ўдзячны тост – па-ўкраінску – за гасцей, якія вярнулі ім мову. І тут гэтая жанчына ўзнялася з тостам у адказ. Яна сказала прыблізна так: "Дзякуй, але мы не вартыя такіх высокіх слоў. Мы проста размаўляем на сваёй мове. На той мове, якую чулі з дзяцінства. Героі не мы, а вы. Ці ж можна дакараць чалавека, што ён любіць тую мову, на якой маці спявала яму й расказвала казкі на ноч? І калі ў вас такою была расейскай, а вы ўсе так хораша гаворыце па-ўкраінску, то я пэўная, што вашыя дзеці будуць любіць украінскую прынамсі не менш за вас". Слухаючы яе прамову, людзі плакалі. "Апранаць прыгожыя строі ды ісці з родным словам ды адкрытым сэрцам да людзей" – вось і ўся стратэгія.

Да жалю, я не бачу, каб тая простая і адзіна магчымая стратэгія працавала ў нас. У сэнсе – што ніхто й не спрабуе так глядзець на сітуацыю, рабіць крокі насустрач непасвячоным-застабілам-суайчыннікам. Яны жывуць без нас, мы – без іх. Пунктаў судакранання няма. Хтосьці скажа, што ў нас апрыёры іншыя ўмовы, чым ва Украіне і крытычная маса рускамоўных іншая. І нават на вёсцы на белмоўных паглядаюць як на нейкае дзіва (у лепшым выпадку).

У нас сапраўды іншыя ўмовы. Але ці такія ўжо пройгрышныя яны? Ізноў парадокс, але, магчыма, і не пройгрышныя.

Для мяне другою пасля расейскай была ўкраінская. Выязджаючы ў дзяцінстве на летні месяц у цэнтральную Украіну разам са стрыечным братам, да бабулі, апынаўся “непаўнавартасным” чалавекам: брат адразу ж, як толькі выходзіў з машыны, пачынаў бойка стасавацца з мясцовымі пацанамі па-ўкраінску, нібы й не было тых 9-ці месяцаў савецка-менскае рускамоўнае муштры. За гэтыя летнія месяцы (дзеялася тое ў сярэдзіне 80-х) я нідзе не чуў рускае мовы, і тое было чымсьці неверагодным.

Для ўкраінца зварот да роднай мовы – натуральны. Пры гэтым, Кіеў і за саветамі быў фактычна рускамоўным, і да нядаўнага часу частка “залатой моладзі” грэбавала нацмовай, называючы яе калгаснаю*. Для сённяшніх жа маладых белмоўных, якія не мелі мажлівасці чуць мову з маленства, яна наадварот – мова высакародная, гнаная й пагарджаная, мова змагання, мова сэрца й мова прыўкраснай Утопіі, у якую новаму пакаленню зноўку хочацца верыць. Беларуская ўжо не ўспрымаецца як “калгасная”. Бо “калгас” у трасянцы захрас. Мякка кажучы, дзіўна ў гэтых варунках гучаць словы нязменнага старшыні Таварыства беларускай мовы пра тое, што трасянка – ледзь не прыкмета для гонару ды злучальны складнік нашае ідэнтычнасці.

Рыгор Барадулін назваў беларусаў эксперыментальнай нацыяй у Бога. Якія ўжо мэты таго эксперыменту мне цяжка сказаць ды й спрабаваць не хачу (шляхі ж невызнавальныя). А вось адзін інтэрнэт-рэсурс паставіў свій (ох ужо гэтыя ўкраінцы, і да Ворда дабраліся!) эксперымент – прагуляцца разам з беларускамоўнай дзяўчынаю па горадзе. Што з гэтага атрымалася, можна пабачыць праз спасылку (http://citydog.by/post/nash-eksperiment-belmova/), а я прывяду тут адзін з каментаў, што з’явіўся пад гэтай публікацыяй:

> *Милый эксперимент. Я с удовольствием подслушиваю, когда кто-то рядом говорит по-белорусски. Что приятно – отношение к языку изменилось, изменились и те, кто на нем говорят. Лет 10 назад это был неухоженный немолодой мужчина с явными признаками непосильной борьбы на небритом лице, а теперь.... любо дорого смотреть, какая очаровательная героиня :-) И таких молодых людей, надеюсь, будет становиться все больше.*

Я перакананы, што мы – не апошняе пакаленне беларусаў. Мова выйшла за межы культурнае сферы. Не *філолухі* цяпер вызначаюць яе аблічча. Я ведаю нямала белмоўных айцішнікаў, архітэктараў, медыкаў, выпускнікоў палітэху ды бэгуіру і нават некалькі мытнікаў! Калі ж ужо *самадаек* прычакаем? :)

Лічу, што ў беларушчыны ёсць шанец, калі яна пазбавіцца *фанабэрыстае сакральнасці.* Беларускамоўныя мусяць быць лідэрамі нацыі, тымі, хто вядуць за сабой, але не абразамі мітаточнымі. Адно з наступстваў сакралізацыі – дужа пільная ўвага да беларускамоўных, стаўленне да іх як да адэптаў нейкае секты з усімі сумнымі наступствамі: крок управа, крок улева ад генеральнае лініі – расстрэл (хай сабе й вербальны).

Ну і давайце ўрэшце адкінем святую веру ў тое, што нашыя спакой ды гармонія наўпрост залежаць ад таго, што ўсе вакол (перадусім – самадайкі) пачнуць размаўляць па-беларуску. Мы ведаем, што гэтага (прынамсі, пры нашым жыцці) не будзе. Але ж ці тое нагода для вялікага смутку?..

Галоўнай думкай майго эсэю (які, прызнаюся, ствараўся ў пакутах і сумневах) ёсць, можа, й простая, і, відаць, не раз ужо агучаная рэч, але яна вартая таго, каб быць вылучанай тоўстым курсівам: ***Беларушчына не мусіць быць з’явай маргінальнаю.*** Так, быць прасцейшымі (адкрыцейшымі) – і да нас пацягнуцца

* У нас тое было ў 60-70-я, згадайма Караткевічаўскі “Чорны замак Альшанскі” й размову кабет у прыгарадным аўтобусе, на якіх лірычны герой тужліва глядзіць як на апошняе пакаленне носьбітаў мовы.

людзі. Выключыць у сабе пагарду да менш абазнаных, менш прасунутых, менш пасвячоных... Не закаркоўвацца ў сваім мікрасоцыюме. Несці Мову навонкі (і выкрэсліць з лексікону выраз пра *аддаванне святыні псам*).

Самым дзейсным і проста жыццёва неабходным сродкам пашырэння і мовы, і праўдзівага духу беларушчыны я бачу стварэнне (аднаўленне) беларускамоўных летнікаў – то бок месцаў, дзе дзіцё працяглы час будзе знаходзіцца ў сітуацыі абсалютнае беларускамоўнасці. Вельмі файна, што ёсць у Менску моўныя курсы, якія карыстаюцца пэўнаю папулярнасцю (хаця як чалавек, які добра ўяўляе ўзровень школьнай адукацыі, сумняваюся ў вялікім ККД курсаў, разлічаных на хоць бы базавыя веды)*. Але іх аўдыторыя пераважна студэнцтва. А як жа быць са школьніцтвам, з тынэйджэрамі? Ды яны папросту кінутыя! (ва ўсіх сэнсавых адценнях гэтага слова) у плане нейкае там беларушчыны – і антынацыянальнай дзяржавай (такое бяды), і намі-“змагарамі”...

Вось жа, летнікі, пры належнай арганізацыі, – мажлівасць вырваць чалавека з шызоіднага білінгвізму ў нармалёвы белмоўны асяродак. Дастаткова двух з паловай тыдняў, каб цалкам расейскамоўнае дзіцё пачало размаўляць. Праверана.

Вышэй я казаў, што беларушчына патрэбная толькі нам самім. Магчыма, акурат тут і палягае слабы бок маёй пазіцыі – заклік*а*ць маргіналаў да выхаду ў масы. Па шчырасці, цьмяна ўяўляю, хто адрасат гэтага тэксту. Відаць, яго напісанне ёсць актам цалкам ірацыянальным (што і трэ было даказаць).

Таму не буду даваць марных парадаў ды рэцэптаў (пасіянарый усё адно зробіць насуперак і наадварот). Можна было б прапанаваць уласны спосаб барацьбы з энтрапіяй у моманты ўспышак вострай дэпрэсіі з прычыны білінгвальнага падваення асобы – ставіць на сваім унутраным плэеры браўнаўскую *Take it easy* альбо бітлоўскую *All you need is love*. Толькі, відаць, у кожнага гэтыя спосабы свае.

Ну, і апошняе. Заўжды асабліва крытычна ставішся да тых, каго любіш, альбо – з кім знаходзішся ў блізкім сваяцтве. І нішто гэтак не раздражняе ў іншых, як заганы, якія адчуваеш і ў сабе. Вось жа, усе мае прэтэнзіі да белмоўных адсюль – бо і люблю, і блізкія.

А, так. Яшчэ кожны сапраўдны беларус мае свой унікальны праект выратавання нацыі.

---

[1] Гл.: http://generation.by/news5757.html

[2] Гл.: http://www.svaboda.org/content/article/24822072.html

[3] Гл.: http://pan-t-joculator.livejournal.com/53643.html

[4] Заўжды цікава чытаць матэрыялы рубрыкі “Жыццё іншых” рэсурсу 34mag – погляд на нашую сітуацыю звонку, вачыма студэнтаў-замежнікаў. Напр.: http://34mag.net/post/zhyccjo-inshykh/ http://34mag.net/post/zhyccjo-inshykh-%E2%80%93-2/

[5] Павал Севярынец. Беларуская глыбіня. – Вільня: Логвінаў, 2014.

[6] Гл.: http://www.belgazeta.by/ru/2014_03_24/event/28615/

[7] Усевалад Сцебурака (http://nn.by/?c=ar&i=107654).

[8] Гл.: http://nn.by/?c=ar&i=123909

[9] Гл.: http://knihi.com/Uladzimir_Arlou/Orden_Bielaj_Mysy.html

[10] Альгерд Бахарэвіч. Ніякай літасьці Альгерду Б. – Мінск: Галіяфы, 2014.

---

* Гэты тэкст быў напісаны да расколу ў шэрагах стваральнікаў і вядоўцаў курсаў “Мова ці кава”, які, на жаль, толькі пацвярджае слушнасць агучаных тут сумных высноў.

Ірына Саматой



...сумуе С. Яновіч і злуецца на людзей, прыглядаючыся да таго, што робіцца ў беларускім жыцці...

# Запіс мінулай эпохі

***Дзённікавая проза Сакрата Яновіча***

У сучасным літаратурным працэсе заўважнае месца сярод празаічных твораў займаюць пісьменніцкія дзённікі. З'яўляючыся часткай мемуарнай літаратуры, яны ўяўляюць сабой храналагічныя запісы аўтара пра падзеі грамадскага і асабістага жыцця, а таксама разважанні над гэтымі падзеямі. Пісьменніцкія дзённікі маюць вялікае гістарычнае, літаратурнае значэнне, дазваляюць даследаваць грамадскую думку пэўнага перыяду, жыццёвы і творчы шлях пісьменніка, гісторыю напісання твораў і г.д. Іх можна разглядаць як завершаныя цэласныя творы, са сваёй тэмай, філасофіяй, вобразным ладам.

Дзённікавы жанр, як і іншыя гістарычна зладжаныя тыпы твораў, – складанае фарміраванне літаратуры. Ва ўмовах беларускай рэчаіснасці ён складваўся на працягу доўгага часу, на аснове нацыянальных традыцыяў, быту, гісторыі, сацыяльна-палітычных абставінаў. Вытокі гэтага жанру пачынаюцца ў глыбокай старажытнасці. Яскравы прыклад таму – выдатны помнік XII ст., своеасаблівы ўзор мастацкага дзённіка – "Слова пра паход Ігаравы". Вядомы "Дзённік

Люблінскага сейма 1569", "Дзённік" Ф. Еўлашоўскага (1564-1604), дыярыушы А. Філіповіча, С. і Б. Маскевічаў, А. Каменскага-Длужыка, П. Абуховіча, "Дзённік падзей, якія адносяцца да Смутнага часу" (1603-1613, на польскай мове), часткова напісаны І. Будзілам. Элементы дзённіка выяўляюцца ў лістах Я. Баршчэўскага, мемуарах А. Абуховіча (канец XIX ст.), "Лістах з дарогі" Ядвігіна Ш. (1910), "Успамінах з паездкі ў Фінляндыю" Цёткі (1914). Многія беларускія пісьменнікі вялі дзённікі, але не ўсе яны публікаваліся або публікацыі мелі іншую мастацкую форму ("Споведзь" Л. Геніюш, дакументальна-аўтабіяграфічныя запіскі "На імперыялістычнай вайне" М. Гарэцкага, "Сцежкі жыцця" П. Мядзёлкі).

Дзённікі становяцца даступнымі шырокаму колу чытачоў як пры жыцці аўтара, так і пасля яго смерці. Гэта найбольш аўтабіяграфічны жанр прыадкрывае некаторыя таямніцы творчай лабараторыі аўтара, дае магчымасць паназіраць над яго асабістым жыццём, паразважаць над праблемамі літаратурнымі і грамадскімі. Да ўзораў беларускай мемуарыстыкі належаць дзённікі Я. Коласа ("Кніга Ташкенцкага быцця", "Таворыць Клязьма", "На схіле дзён"), "Дзённік" К. Чорнага, "Першая кніга" І. Мележа, "Лісткі календара" М. Танка і пазнейшыя публікацыі ў часопісе "Полымя" (1996 г., №9-12), "Жменя сонечных промняў" Я. Брыля і публікацыі дзённікаў "З людзьмі і сам-насам" (Полымя, 1996, № 5), І. Шамякіна "Роздум на перагоне" (Полымя, 1996, № 3), дзённікі А. Адамовіча, Б. Сачанкі, Н. Гілевіча, Р. Барадуліна, В. Шніпа, Г. Твარановіч і інш.

Адметнае месца ў беларускай мемуарыстычнай прозе займаюць дзённікі беларускамоўнага пісьменніка Польшчы Сакрата Яновіча, творчасць якога шырока прадстаўлена лірычнымі мініяцюрамі, псіхалагічнымі апавяданнямі і раманамі, навукова-філасофскімі эсэ. Па словах пісьменніка, дзённікі ён пачаў весці з канца шасцідзясятых гадоў, на сённяшні дзень яны складаюць трыццаць чатыры сшыткі, з іх дваццаць дзевяць захоўваюцца за мяжою. Асобнай кнігай вышлі "Дзённікі" (1987-1995 гг., урыўкі) (Беласток, 1997 г.), друкаваліся запісы ў часопісе "Тэрмапілы" (№ 4-5, 2002 г., № 9, 2005 г., № 11, 2007 г.), аўтарскія ўспаміны, змешчаны ў кнізе "Не жаль перажытага" (Беласток, 2002 г.). Беларускі філосаф У. Конан высока ацаніў дзённікавую прозу беластоцкага творцы: "Самай выдатна кніжнай трэцяга, сучаснага этапу творчасці С. Яновіча я назаву яго "Дзённікі: 1987-1995" (Беласток, 1997 г.). Не скажу за ўсю еўрапейскую альбо хоць бы славесную мемуарыстыку, але ў нашай літаратуры гэта ўнікальны твор" [2, с. 11].

Пісьменніцкія дакументальныя запісы ўяўляюць сабой сінтэз дакладна зафіксаваных бягучых падзей з уласнага жыцця пісьменніка, рэгістрацыю шматлікіх мерапрыемстваў, паездак, сустрэч, прыёмаў і іх мастацкае асэнсаванне.

С. Яновіч у пачатку "Дзённікаў" адзначаў: "Так задуманая падборка тэкстаў павінна даць зацікаўленаму чытачу больш падрабязную інфармацыю пра закулісныя механізмы ўзнікнення шмат якіх фактаў, вядомых толькі ў сваёй фінальнай форме" [3, с. 9].

У кампазіцыйным плане "Дзённікі" ўяўляюць перыядычныя запісы аўтара, якія адлюстроўваюць падзеі грамадска-палітычнага, культурнага жыцця беларускай меншасці ў Польшчы, а таксама палітычныя, літаратурныя фрагменты па гарачых слядах падзей і не з'яўляюцца рэтраспектыўнымі. Захоўваецца і вонкавая, але абавязковая прыкмета дзённікаў – пазначэнне датаў.

Беспрасветная безвыходнасць, песімізм характэрны для першага запісу (18.12.1987 г.) пасля вяртання з Лондана ад таго, што "беларуская нацыя ў руінах, ...эміграцыя вымірае, бяда з беларушчынай у Беластоцкім краі" [3, с. 5]. Нездарма сам аўтар характарызуе сябе як "палітычную персону, хоць і ў літаратурным адзенні" [3, с. 167]. Шматлікія запісы прысвечаныя палітычным падзеям беларускага руху ў Польшчы. Сярод іх – утварэнне і ліквідацыя палітычнай партыі

нацыянальнай меншасці – Беларускага дэмакратычнага аб'яднання: "Што такое БДА? У кадравых і матэрыяльных адносінах. Гэта жменька маладых мужчын... Галоўнае наша палітычнае значэнне – выбарачныя акцыі і друкаванае слова" [3, с. 128], ацэнка яе дзейнасці, выхад першага нумара "Беларускіх навінаў", бюлетэня БДА, невясёлы роздум над праблемамі рэчаіснасці: "...паланізацыя рэдукавала беларускае асяроддзе, таксама інтэлігентнае. ... Іронія гісторыі: бунт, перамога інтэлігенцыі супраць таталітарызму закончылася маргіналізацыяй яе" [3, с. 183].

Дзённікавыя запісы С. Яновіча даносяць беларускаму чытачу невядомыя альбо малавядомыя факты грамадска-культурнага жыцця беларусаў Польшчы: дзейнасць БГКТ, дзе пісьменнік працаваў у 1959-1962 гг. і 1971-1988 гг., утварэнне Беларускага народнага ўніверсітэта, перад студэнтамі якога С. Яновіч выступаў з выкладамі, самакрытычна ацэньваючы: "З мяне марны гісторык, марны і палітык" [3, с. 76]. Таксама ўтварэнне Беларускага аб'яднання студэнтаў, асабістае стаўленне да лідэраў гэтага маладзёжнага руху.

Безумоўна, дзейнасць беларускіх арганізацый, літаратараў Беласточчыны спрыяла захаванню пэўнай самасвядомасці сярод беларускамоўнага насельніцтва Беластоцкага ваяводства, але С. Яновіч, акрэсліваючы сутнасць Беласточчыны і родных Крынак, выказваецца па-ранейшаму крытычна і песімістычна: "Чатыры дні ў Крынках, чужацкае ўжо, каланіяльнае мястэчка, фантастычна польскае (за беларускую гаворку можна ў зубы дастаць!). Часта думаю пра Літву; як яна выратавалася (?)!" [3, с. 39]. "Беларускі рух у нас ссыхаецца. Быў надта моладзевы. Амаль выключна зялёным. Дарослыя падаліся ў ветэраны, зніклі" [4, с. 93]. Незапашваючы жыццёвы вопыт, глыбей разумеючы беларускае жыццё ў Польшчы, празаік прыходзіць, на жаль, да невясёлых высноў, часта выказваецца катэгарычна і рэзка: "Рэальна гледзячы, беларуская нацыя – гэта інтэлігенцкія недабойкі. Сама па сабе яна не ў сілах ужо аднавіцца; адновіць яе – гістарычны прымус. Сёння я не ведаю такой сям'і ў Беластоку, у якой гадуюць дзяцей на непалякаў. Толькі памерці!" [3, с. 147]. Дастаткова часта ўжывае ў сваіх нататках. С. Яновіч прыём своеасаблівай "эстэтычнай правакацыі", калі тэкст выклікае адчуванне непрыняцця сказанага, пратэст, прымушае дашукацца да падтэксту і па-новаму зразумець аўтара. Нездарма ж У. Конан запярэчыў крыўдлівым і нават злым ацэнкам падзей, учынкаў і людзей беластоцкага аўтара: "Пісьменніку і публіцысту не варта губляць духоўнага цэнтра нацыі, яе інтэлектуальную эліту. Бо нацыя – гэта не толькі эмпірычнае быццё яе насельнікаў, але найперш культурная традыцыя" [2, с. 10].

Сумуе С. Яновіч і злуецца на людзей, прыглядаючыся да таго, што робіцца ў беларускім жыцці: "Страшна – ваўкавыйна робіцца на душы, калі зноў і зноў усведамляю сабе, што адбываецца нешта накшталт уваскрашэння беларускай нацыі з мёртвых ужо, салідна пахаваных!" [3, с. 158].

У дзённіках С. Яновіча, як і ў лірычнай прозе, напружаныя і ўсхваляваныя развагі аб лёсе беларускай мовы: "У Крынках канец беларускаму размоўю ўжо магчыма прадбачыць: максімум дзесяць гадоў. Пакуль не вымруць мае равеснікі: пакаленне нашых дзяцей – заядла польскае" [3, с. 157]. Свае пачуцці пісьменнік выказвае ў адкрыта публіцыстычнай форме, не тоячы трывогі за беларускае слова: "Толькі беларускасць самое ўлады можа адвярнуць працэс знікнення нацыі, аніякія апеляцыі да сумлення народнага, бо яно ёсць фікцыяй" [3, с. 126].

У дзённіках часта сустракаюцца такія азначэнні людзей і нацый: *паляцтва, саветы, басота, галытва, мяшчане*. Як бачна, дамінантнай з'яўляецца негатыўная ацэнка сукупнасці людзей паводле грамадскага ці матэрыяльнага становішча, пры гэтым нават нейтральныя словы набываюць негатыўнае значэнне. Тут, відаць, адлюстроўваецца боль і роспач пісьменніка, на вачах у якога адбываецца асіміляцыя беларусаў у Польшчы.

У нататках С. Яновіча мы адначасова знаходзім дакладнасць апісваемай падзеі і дакладнасць перажываемага аўтарам стану, у прыватнасці, калі ён разважае пра беларускую моладзь, якая арганізавана ўцякае на Захад, жыве адпаведна канцэпцыі здаровага эгаізму “...г.зн. гармоніі карысці адзінкі і інтарэсаў нацыі. Ахвярнасць – гэта анамалія” [3, с. 153]. І тут жа побач спачувальна, з паразуменнем: “Младабеларусы, гэтае пакаленне ва ўзросце маіх сыноў, якое стварыла сучасны беларускі рух, выразна збаўляе сваю буйную дынамічнасць... Вельмі няпроста, бо на яго – вартую стабільнасці – долю выпалі грамадскія перавароты, а яны непазбежна і моцна пагаршаюць быт” [3, с. 153].

Шырока прадстаўлена гісторыя станаўлення развіцця беластоцкіх перыядычных выданняў: штотыднёвіка “Ніва”, “Czasopis”, “Фос”, “Annus Albaruthenicus”, аналізуюцца публікацыі ў “Літаратуры і мастацтве”, “Полымі”, “Маладосці”, ”Нёмане”.

Падрабязна апісваючы ўсё ўбачанае і перажытае, аўтар адкрыта выказвае свае сімпатыі і антыпатыі, гневаецца, здзіўляецца і абураецца, задумваецца над рэакцыяй акружаючых: “Публікую ў “Ніве” я свае дзённікі і час ад часу адчуваю, што хлопцы як бы насцярожваюцца ад іх да мяне... Каб не дапісаў чаго? Сялянскі страх. Горш: драма вясковай душы ў горадзе” [3, с. 154]. Пісьменнік і крытык П. Васючэнка ў сваіх пятрогліфах даў вычарпальную характарыстыку дыярыуша, якая адпавядае храналагічным запісам С. Яновіча: “Дыярыуш як літаратурны жанр – гэта літаратура, прышытая суворай ніткай да цела жыцця. Потым гэты лапік аддзіраецца па жывому, разам са скурай, кавалкамі мяса, кроплямі крыві. Некаму робіцца балюча” [1, с. 81]. Ад дзённікаў беластоцкага храніста і сапраўды робіцца балюча тым, хто нераўнадушны да ўчарашніх і сённяшніх праблем Беларусі, да яе будычыні.

У апавядальнай тканіне “Дзённікаў” сустрэнем багатыяназіранні над норавамі літаратурнай грамады: калег з літаратурнага аб’яднання “Белавежа” і сяброў Саюза беларускіх пісьменнікаў. Апісваецца мноства эпізодаў, выпадкаў з пісьменніцкага жыцця, шэраг літаратурных сустрэч. Не выклікае сумненняў аб’ектыўнасць аўтарскіх разважанняў, высокая ацэнка чалавечых якасцей і творчых здольнасцей Ніны Мацяш (“высокага класа з яе чалавек!” [3, с. 154]), Адама Мальдзіса (“Такіх еўрапейцаў, як Мальдзіс, – адзінкі ў іх” [3, с.160]), Алеся Бачылы (“выдатны паэт і адзіны з нямногіх інтэлектуалаў савецкага часу, які захаваў чыстае сумленне” [3, с. 43]), Аляксея Карпюка (“выдатны сын нацыі” [3, с. 160]), Я. Брыля (“Аўтар параўнальны з Быкавым” [4, с. 103]) і г.д.

Па запісах С. Яновіча можна прасачыць гісторыю развіцця беларускага літаратурнага аб’яднання “Белавежа”, ля вытокаў якога стаяў сам аўтар. Адзначаецца адметнасць умоў творчасці белавежанцаў, якая пралягала ў сітуацыі адносна большай волі для беластоцкіх беларусаў, у іншым характары польскіх грамадска-гістарычных рэалій у параўнанні з Беларуссю. С. Яновіч заўсёды знаходзіўся ў эпіцэнтры літаратурнага жыцця, з яго запісаў бачна, што ён падрыхтоўваў да друку спадчыну Ю. Геніюша, словам і справай падтрымліваў пачынаючых творцаў (Ю. Баену, М. Андрасюка, М. Лукшу).

Шмат старонак адведзена назіранням за сваёй уласнай творчасцю, апавядаецца пра задумы стварэння празаічных твораў, выхад кніг, працу над перакладамі. Аўтар канстатуе: “Калісьці пісалі ў часопісах пра мае мініяцюры, апавяданні, аповесці. Цяпер жа – пра тое, чым я займаюся не ад душы, але ад маральнага прымусу. Вымушаная дзейнасць зрабіла з мяне палітыка; засланіла як пісьменніка” [3, с. 127]. Ужо будучы цяжка хворым, Сакрат Яновіч шмат працаваў: выступаў перад ліцэістамі, чытаў лекцыі студэнтам, удзельнічаў у канферэнцыях і літаратурных вечарах, прымаў гасцей на Ville Sokrates. Шкадаваў, што не хапае часу і здароўя для творчасці: “Цяжка даўся новы ўрывак “Хатняга стагоддзя”. Не ў маім

тэмпераменце такое пісаць. Кляну гэту сваю легкадумнасць, але, адназначна, хочацца пакінуць запіс мінулай эпохі, амаль дакументальны. Ведаю, што ніхто іншы не зробіць таго...” [4, с. 96].

Дзённікавыя запісы – рэч інтымная, асабістая, у ёй адсутнічае барочная вытанчанасць. Яны дадаюць новыя рысы да творчага партрэта празаіка, прадстаўляюць магчымасць параўнаць, супаставіць уласнае ўяўленне, асэнсаванне і ўспрыняцце падзей з аўтарскім. Натуральнай уласцівасцю дзённіка з’яўляецца эмацыянальнасць, сканцэнтраванасць думкі, што часта праяўляецца ў адным-двух радках, напрыклад: “Здзіўляе ажыўленасць Яна Чыквіна: акуратна вядзе “Белавежу” [3, с. 137], “Захапляе паэзія Алеся Разанава!” [3, с. 11], “Кінуць усё пад халеру, узяцца за пяро!” [3, с. 147], “У нашым кутку, адарваным ад Беларусі, усё можа быць!” [3, с. 150].

Абумоўленасць жанру дакументальна-мастацкай літаратуры дазваляе спалучаць у дзённіках элементы публіцыстыкі і мастацкай творчасці. Запісы С. Яновіча не пазбаўленыя паэтычнай узнёсласці, шчымліва-сентыментальнага лірызму. Асобныя дзённікавыя запісы нагадваюць лірычныя мініяцюры празаіка з уласцівай для іх рытмізаванай мовай, інверсіяй: “Учора дапісаў Позні розум Алега, пачаты ў шыбенічным сумоцці на паддашшу ў жнівеньскім доме бацькавым” [3, с. 183]. “Дзесяць дзён у захварэўшай Маці. У тамашняй цішыні і дапісаў Супраслеўскі трыпціх. У гэтым сваім паўпаганскім мястэчку з пазвоньваючым касцёлам ды ўцішэлаю царквою ў старадрэўі” [3, с. 49]. “У беларускім закутку Польшчы ціхалісціцца беднасць” [5, с.35].

Як і ў лірычнай прозе, думка С. Яновіча ў дзённікавых запісах нярэдка сканцэнтравана да афарызмаў: “Халоп мусіць служыць пану, усё роўна якому” [3, с. 165]. “Партыёт, які не хоча ведаць мовы нацыі, гэта не патрыёт, а нацыянальны камбінатар” [3, с. 155]. “Народ, які не ведае, што такое незалежнасць, не можа быць адразу незалежным” [3, с. 128]. “Кожнае наступнае пакаленне глядзіць з усмешкаю на папярэдняе” [3, с. 170]. “Эпоха “мець!” [4, с. 104].

Многія эпізоды, апісаныя ў дзённіку, напоўненыя іроніяй і сарказмам: “Зноў панесла па барознах кабыла Гісторыі, што толькі паспявай лавіць вухам весткі” [3, с. 143]. “Яны вострыя толькі ў языку” [3, с. 172]. “Нашае пакаленне ўжо памерла, толькі ніхто нам пра гэта яшчэ не сказаў” [3, с. 173].

У “Дзённіках” ва ўсёй паўнаце паўстае яркі вобраз самога мемуарыста: назіральнага, уражлівага, таленавітага аўтара, які ў гэтым арыгінальным жанры здолеў стварыць непаўторны тып чалавека беларуска-польскага памежжа, “выдатна намаляваў характар беларуса ў асобе аўтара з іншага боку: не выдуманага “дабрадзеямі” рахманага і звышталерантнага добрыка, па сутнасці, бязвольнага дурня-паслугача, а рыцара Пагоні, ваяра і помсніка, які ўмее пастаяць за сябе і за маці-Радзіму” [2, с.11].

Літаратура:

1. Васючэнка П. Адлюстраванні першатвора: Літаратура ў філалагемах і пятрогліфах. – Менск: Логвінаў, 2004.
2. Конан У. Дзеля чаго жывуць у Крынках людзі? // Крыніца. – 1998. – № 2.
3. Яновіч С. Дзённікі (1987-1995). – Беласток: Праграмная рада тыднёвіка Ніва, 1997.
4. Яновіч С. Дзённікі (2005-2007) // Тэрмапілы. – 2007. – №11.
5. Яновіч С. Дзённікі (канец 2000-2005) // Тэрмапілы. – 2005. – №9.

Павел Абрамовіч



...кніга не скрухі,
а светлай веры
ў Бацькаўшчыну...

# Беларускі боль Ніла Гілевіча

***Рэцэнзія на кнігу "У віры быцця"***

***Ніл Гілевіч. У віры быцця. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 184 с. – («Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў»; вып. 60).***

Зусім няшмат засталося ў нас тых беларускіх пісьменнікаў, каго можна з упэўненасцю назваць "класікамі" – дай ім Бог здароўя! Можа падацца, што сёння яны не бяруць актыўны ўдзел у грамадскім жыцці краіны, не выступаюць рэгулярна ў друку, і толькі зрэдчасу наведваюць літаратурныя імпрэзы. Як яны быццам вырашылі застацца на самоце, цалкам засяродзіцца на сваім прыватным жыцці. Аднак кожны, хто прачытае новую кнігу эсэістыкі Ніла Гілевіча "У віры быцця", пераканаецца: пісьменнікі-класікі працягваюць праніклівым вокам аглядаць навакольны свет, непакоіцца і дбаць пра Бацькаўшчыну, родны народ і літаратуру.

Так, класікі па-ранейшаму сярод нас. Толькі цяпер іх галасы сцішаныя і гучаць, як малітвы, замовы; кожнае іх узважанае слова – быццам наказ, запавет. Іх тэксты робяцца ўсё меншымі, але далягляд павялічваецца. Дарэчы, з падачы




часопіса “Esquire” ў сучаснай публіцыстыцы зрабіліся папулярнымі так званыя правілы жыцця палітыкаў, эканамістаў, бізнэсоўцаў, культурных дзеячаў. Дык вось зрабіць адпаведны па форме артыкул з назвай “Правілы жыцця Ніла Гілевіча” досыць лёгка: у ягонай кнізе шмат глыбокіх назіранняў і мудрых парадаў. Да таго ж жыццё ў акіяне моўнай стыхіі надзяліла Гілевіча афарыстычнасцю.

Зборнік “У віры жыцця” складаецца з тэкстаў, створаных цягам чатырох апошніх дзесяцігоддзяў. Яны пададзены не ў храналагічным парадку – відаць, гэта зроблена дзеля таго, каб паказаць, што нашае грамадства ўвесь час атачаюць адны і тыя ж праблемы. І сцвердзіць, што будучыня Беларусі не стане прыкрым паўторам 1980-х альбо 2000-х гадоў толькі тады, калі праблемы будуць вырашаныя намі неадкладна, тут і цяпер.

Так, можна не звяртаць увагі на даты напісання тэкстаў – яны спрэс актуальныя і нібыта датаваны сённяшнім днём. Гэткі сабе доўгі беларускі “дзень сурка”, адзін цэльны тэкст. Але калі ўсё-ткі зірнуць на лічбу ўнізе той ці іншай нататкі ці эсэ, то прароцкія словы пісьменніка аблююць чытацкае сэрца кіпнем: “Масква так проста Беларусь “нацыяналістам” не ўступіць” (запіс ад 01.01.1992). Менавіта час, гісторыя дапамагаюць людзям пазбавіцца ілюзіяў – кніга Гілевіча і пра гэта таксама.

У грамадстве ўсё непарыўна звязана, усё мае сваё значэнне і вагу. Адымі нават нешта адно “малазначнае” – і ўся рэчаіснасць будзе скажоная, імгненна альбо паступова. Гілевіч даводзіць гэта ў тым ліку на прыкладзе народных песень. Так, у 50-60-я гады паэт сачыў, якія беларускія народныя песні гучаць па радыё ў сольным выкананні. Як высветлілася, працяглы час рэй тут “вялі” жартоўныя, забаўляльныя і адначасна грубаватыя песні з радкамі накшталт “Дык бяры ж Станіславу, // Каб сядзела на ўсю лаву”. Тады як сотні і сотні цудоўных лірычных песняў заставаліся па-за межамі эфіру. І людзі прызвычаіліся, даводзіць Гілевіч, што “беларуская – значыць з грубаватым вясковым гумарам” (запіс зроблены ў 1987 г.). Ну а потым, праз колькі гадоў, адбылося нешта зусім неверагоднае, але цалкам вытлумачальнае: паэт пачуў па радыё перадачу “Песні пра Мінск”, у якой не прагучала ніводнай (!) песні на беларускай мове. І сярод аўтараў ужо зусім не было нашых паэтаў. Нават “ніводнага знаку беларускасці Мінску – ні з гісторыі, ні з архітэктуры, ні з этнаграфіі – ні знаку!” – са скрухай адзначае Гілевіч (запіс ад 02.07.2009). Вось яна, палітыка антыбеларускіх уладаў у дзеянні: дай ім толькі час – усё непапраўна зменяць, перайначаць, спаскудзяць.

Сапраўды каштоўныя назіранні робіць Гілевіч, адсочваючы падзеі ў развіцці цягам дзесяцігоддзяў! Прыкладам, я не чуў ад іншых нашых пісьменнікаў наступны факт, які выразна характарызуе ўсю беларускую савецкую літаратуру. На з’ездах пісьменнікаў СССР грымелі бурныя апладысменты і ўся зала ўставала, калі дакладчыкі згадвалі Маякоўскага, Багрыцкага, Ясеніна і іншых літаратараў. Але на з’ездах СП БССР, адзначае Гілевіч, ніколі не было, “каб усталі пры імені Купалы, ці Коласа, ці Багдановіча”. Канечне, асобныя “мясцовыя” мерапрыемствы Гілевіч мог прапусціць, прыкладам, з-за хваробы альбо творчай паездкі ў іншую краіну, і таму паэт удакладняе: “Ні разу не бачыў” (запіс зроблены ў 1990-х). Наогул у сваіх нататках Гілевіч “паводзіцца” быццам добрасумленны сведка: гаворыць толькі пра тое, што ведае напэўна, што бачыў на свае вочы. І гэта надае вялікі давер ягонай кнізе.

Антон Чэхаў сцвярджаў, што “пісьменнік расце да той пары, пакуль у яго душа расце”. Гэта ў поўнай меры датычыцца Гілевіча і ягоных паплечнікаў! Аднак

не толькі духоўны рост – паказчык. Важна і творчае крэда пісьменніка, і кодэкс ягоных паводзінаў. Паэт павінен быць грамадзянінам – вось падмурак светабачання Гілевіча, першааснова быцця чалавека. Ягоныя эсэ, нарысы, нататкі, дзённікавыя запісы, змешчаныя ў кнізе “У віры быцця”, насычаны разважаннямі пра пачуццё адказнасці літаратара перад сваім народам і краінай, пра “доўг, які трэба сплаціць”. Так, гаворачы пра Янку Купалу, Гілевіч зазначае, што ўсведамленне абавязку паэта-грамадзяніна здольна набыць формы “адзінай і ўсеабдымнай жарсці, ідэі, апантанасці” (запіс ад 1997 г.). “Усё, да апошняга радка, было падпарадкавана гэтаму – яго [Купалы] беларускаму болю”, – робіць выснову Гілевіч.

Крытэрыі, якімі той ці іншы паэт вымярае творчасць іншага паэта, могуць быць прыкладзены да яго самога. І тады высвятляецца: тое, што Гілевіч напружана шукае ў іншых, ёсць у ім самім. Найперш “беларускі боль” як суперажыванне за краіну, народ і мову, як ідэйна-эстэтычны канон, як сама сутнасць працы мастака. Ён, гэты “беларускі боль”, яскрава выяўляецца ў мове кнігі Гілевіча – пераважна гутарковай, экспрэсіўнай, інтанацыйна акрэсленай. Не толькі сам з сабою размаўляе аўтар – ён прамаўляе да ўсяго беларускага народа, шчыра і пранікнёна. (Нешта падобнае рабілі калісьці “нашаніўцы” ў сваіх палымяных публікацыях.) “О, дарагія, любыя браты мае!” – менавіта так найчасцей звяртаецца да нас, чытачоў, Гілевіч, запрашаючы да вялікай супольнай справы на карысць Беларусі. І як нязвыкла чуць гэта ў наш час усеагульнага адчужэння!

Што важна, Гілевіч не прэтэндуе на ролю правадыра, наадварот, ён пытаецца парады ва ўсіх нас. Меркаванне кожнага мусіць быць улічанае, а ісціна – стаць агульнай. Таму ў кнізе “У віры быцця” няма галоўнага персанажа ў выглядзе самаўпэўненай і самазакаханай “першай асобы”, а многія тэксты ўтрымліваюць пранікнёныя звароты з клічнікамі і пытальнікамі напрыканцы.

Ведаеце, асабіста я вельмі даўно не чытаў беларускіх кніг, дзе дыялог аўтара з чытачом ідзе нагэтулькі нязмушана, адкрыта, ператвараючыся ў жыццёвую патрэбу, жаданне быць (і дзейнічаць) разам з пісьменнікам у цяжкія гады выпрабаванняў. Зноў жа, якая сакавітая народная мова, якія трапныя назіранні і параўнанні! Прыкладам, пабудову дзяржавы без нацыянальнай ідэі і мовы Гілевіч параўноўвае з працэсам вырабу піва без дражджэй. І з поўным правам адзначае: “Але ж такога цуду людзі не бачылі. Не зварыць! Зварыць гідкае пойла, а не піва” (запіс ад 1993 г.). І колькі ў тэкстах Гілевіча павагі да свайго народа, краіны! Нядзіва, што слова “вёска” паэт-публіцыст піша з вялікай літары як дарагое сэрцу імя ўласнае.

Вось яна, моц і энэргетыка пісьменніцкай публіцыстыкі! І, дадам, крытыкі. Бо роздум пра асаблівасці беларускага менталітэту і нацыянальнай ідэнтычнасці, лёс грамадства і культуры неадлучны для Гілевіча ад аналізу спецыфікі роднай літаратуры. “Беларускай літаратуры заўсёды была арганічна ўласціва якасць, якую акадэмік Дз. Ліхачоў удала назваў “сарамлівасцю формы” – сціпласць, некрыклівасць, нявычварнасць, няздольнасць лезці на прэзент, – піша Гілевіч. – І ў гэтым была асаблівасць зместу – асаблівасць беларускага нацыянальнага характару, якім спакону веку ганарыліся” (1990 г.).

Размова пра беларускую мову і літаратуру (у выглядзе ўнутранага маналога альбо завочнага дыялога з чытачамі) не ідзе ў Гілевіча, так бы мовіць, у чыстым полі. Паэт увесь час спасылаецца на досвед іншых культур, у прыватнасці, рускай і балгарскай літаратуры, суадносіць іх развіццё з нашым, шукае сугучнасць і суладдзе між нацыянальнымі мастацтвамі розных краінаў. Гэта надзвычай актуальна сёння, калі сувязі беларускай культуры з сусветнай і рэгіянальнай моцна саслаблі з-за ізаляцыянісцкай палітыкі ўладаў – параўнаўчы аналіз патрэбны, каб мы, беларусы, не апынуліся на бязлюднай выспе, не зачарсцвелі душой, дбалі пра іншых. І ўслед за Гілевічам хочацца паўтарыць: “Мне было б вельмі цікава ведаць, як беларус

беларускімі вачыма глядзіць на свет, як успрымае і ацэньвае мастацтва іншых народаў” (запіс ад 1984 г.).

Іншым разам Гілевіч ускладвае на сябе ролю ахоўніка замежнай літаратуры, бо і там (найперш у Расіі) цяпер назіраюцца розныя дзікунствы і вычварэнствы. Для беларускага паэта тая роля цалкам натуральная: для яго ўся сусветная культура – роднае асяроддзе. У той жа час паэта непакоіць, што сапраўднаму культурнаму сяброўству і славянскаму братэрству перашкаджаюць імперскія амбіцыі пэўных краінаў. У прыватнасці, Гілевіч згадвае перыяд, калі ён працаваў старшынёю Міжнароднага славянскага фонду: “Нават знакамітыя рускія пісьменнікі не радуюцца нашай нацыянальнай свабодзе” (запіс зроблены ў 1990-х гг.).

Засмучаюць паэта і самі вынікі параўнаўчага аналізу літаратур. Што і казаць, нават простае суаднясенне лічбаў гаворыць не на нашу карысць. Так, за 1941-1944 гг. на беларускай мове выйшла 117 кніг і брашур, а на латышскай – 1 500 кніг і музычных твораў. А ў 1980 годзе ў ГДР працавала 78 выдавецтваў і выходзіла 500 часопісаў – значна больш, чым у БССР (Гілевіч нават лічбы падае прописам у дужках – нагэтулькі ён узрушаны). Беларусам ёсць нагода паглядзець на сябе са шкадаваннем, мяркуе паэт.

Зразумела, развіццё нацыянальнага друку ў многім забяспечвае дзяржава. І тут – корань бедаў беларусаў, бо нашыя ўлады не збіраюцца будаваць жыццё краіны ў нацыянальных формах і нават падвышаць свой асабісты культурны ўзровень. Тады як для французаў, напрыклад, няма нічога дзіўнага ў тым, што “Анталогію французскай паэзіі” ўкладае прэзідэнт краіны Жорж Пампіду. “Шанцуе ж некаторым!” – у роспачы кідае Гілевіч.

Тэматыка кнігі “У віры жыцця” надзвычай разнастайная, багатая як і ўнутраны свет, жыццёвы досвед яе аўтара – шчырага патрыёта Беларусі і класіка нацыянальнай літаратуры, годнага сваіх вялікіх папярэднікаў. Апроч азначаных вышэй тэмаў, са зборніка можна даведацца пра метады царскай і савецкай прапаганды (запатрабаваныя цяпер новым кіраўніцтвам Расіі), пра тое, як Гілевіч ставіцца да Слабадана Мілошавіча і творчасці Ігара Северяніна, пра яго ўражанні ад падарожжа ў Арменію, пра тое, за што паэт удзячны сваім сябрам-літаратарам і ў чым ён вінаваціць... самога сябе, дый яшчэ шмат пра што.

Перагарнуўшы апошнюю старонку, пераконваюся: “У віры быцця” – кніга не скрухі, а светлай веры ў Бацькаўшчыну. “Не загінем!” – цвердзіць Ніл Гілевіч, які не толькі “беларускі боль” на сябе ўсклаў, але і да гістарычнай памяці народа далучае свае ўспаміны – “не дай Бог забыць!”. Так, у жыцці найважнейшыя дзеясловы: памятаць, шанаваць, бараніць, любіць, чытаць і інш. І толькі нашыя агульныя дзеянні дапамогуць пазбавіць будучыню краіны чорнага ценю часу мінулага.

“О, якая праца, якая невымерная праца чакае нас, дарагія сябры!” (запіс 1990-х гг.).

Леанід Галубовіч



...з паэзіі паступова сыходзіць паэт у класічным яго разуменні, а яго месца займае віртуозны версіфікатар, шоумен-дэкламатар, іраніст-правакатар, зрэдзьчасу думаннік і філосаф...

# Абрыс паэта

***Рэцэнзія на кнігу Антона Рудака***

***Антон Рудак. Верхні горад. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 86 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).***

*Часта пытаюцца:*
*як вершы пішуцца?*
*А як жыццё жывуць.*
*Вось тэатр Лоркі:*
*правым вокам ён плача слязу радасці,*
*левым вокам ён плача слязу гора,*
*і, зліваючыся,*
*яны нараджаюць вечную пакутніцу –*
*паэзію.*

**Анатоль Сыс**

Не памятаю ўжо калі я так доўга, вагаючыся ў сумненнях, выношваў водгук на дэбютны вершаваны зборнік... Надта ж неадназначная і няроўная кніга. Зусім розніцца ад звычнай беларускай паэзіі і яе ціха-раўніннага ландшафта. Тут праглядваецца, калі ўжо дарэшты ўдавацца ў такія




адстароненыя параўнанні, нейкая прахалодна-стрыманая і горыста-ганарлівая Скандынавія...

Я пару разоў сутыкаўся з Антонам Рудаком, і вонкава ён падаўся мне сараматліва-сціплым, але цвёрда-ўпэўненым знутры і непахісным у сваіх літаратурных і грамадска-палітычных перакананнях. Яшчэ першыя яго публікацыі звярталі на сябе ўвагу, хай і няпэўным, але сваім самавітым падыходам да паэтычнай творчасці – пошукавасцю, няправільнасцю агульнай лініі, хады не ў нагу з іншымі... Адзінае, што непакоіла, гэта філалагічнае наследаванне такім папулярызаваным паэтам, як А. Хадановіч ці, скажам, украінец С. Жадан, лінія творчасці якіх бярэ выток з разняволенай і глыбока-інтэлектуальнай паэзіі І. Бродскага, што зацягнула ў вір сваёй паэтыкі і загубіла шмат сучасных паэтычных талентаў, так і не даўшы дарэшты раскрыцца іх самабытнасці. Аднак, як мне падалося, А. Рудак пастулова выблытваецца з гэтай пасткі. Яго дэбютны зборнік “Верхні горад”, ужо дастаткова нашумелы ў сродках электроннай інфармацыі, досыць разрэкламаваны, здавалася б, павінен быў бы стаць адной з самых яркіх з’яў сучаснай маладой паэзіі, аднак гэтага не здарылася, у тым ліку і з прычыны спецыфічнага і абыякавага стаўлення цяперашняй крытыкі і чытацкай публікі да краснага пісьменства. Нездарма нават такі сур’ёзны літаратурны аналітык, як С. Дубавец на эмоцыях не змог стрымаць надрыўнай рэакцыі на яе выхад: *“Дэбютная кніжка мусіць быць стрэлам, а не адлюстраваньнем творчага шляху паэта. «Верхні горад», на жаль, ня стрэліў... (...) Ёсьць абалдзенныя вершы, а бомбы няма”.*

У мяне адносна гэтай кніжкі больш стрыманыя і разгалінаваныя развагі.

Зборнік вершаў А. Рудака – як бы спроба яшчэ аднаго новага паэтычнага праекта ў сучаснай нацыянальнай літаратуры, рэтраспекцыя (пераствbooарэнне) мінулага ва ўяўленні сённяшняга творцы, прычым у дзвюх часавых плоскасцях: Мінска ваеннай і паваеннай пары і сучаснай сталіцы таталітарнай Беларусі. Адсюль і рэпрадукцыйнасць – *не-арыгінальнасць* карціны мінулага і нават не яе копія, а менавіта ілюстрацыя, хоць трэба прызнаць, таленавітая і майстравітая. Пры ўважлівым і зацікаўленым прачытанні ў ёй праяўляюцца ўласныя вобразныя пераасэнсаванні таго, што ўжо нібыта раз і назаўсёды занатавана ў гістарычных аналах і ў школьных падручніках (і тут вельмі яркім прыкладам падобнага супастаўлення з’яўляцца вокладка зборніка з фотаздымкам ваеннага Мінска, уражліва раскрэсленая самапіскай К. Шталянковай). Як мне думаецца, у тым і палягае *арыгінальнасць* (неардынарнасць) паўтору – у спектральным выяўленні і незвычайным зрокавым праламленні былога – часу *дзядоў* і ***аўтарскага*** часу.

Абазнаны ў мастацкай літаратуры чалавек не можа не заўважыць, што з паэзіі паступова сыходзіць паэт у класічным яго разуменні, а яго месца займае віртуозны версіфікатар, шоумен-дэкламатар, іраніст-правакатар, зрэдзьчасу думаннік і філосаф... Паэт вымірае, яму, як казаў Блок, “не хапае паветра”, каб выжываць ва ўмовах прагматычных глабальных пераменаў. Грамадству ўсё менш справы да душы і творчага духу чалавека, яно найперш зацікаўлена чалавекам практычным і паспяховым, а не няшчасным і спакутаваным, засяроджаным на пошуках ісціны і “прыгажосці, якая ўратуе свет”... Але хіба маюць сучасныя вершатворцы сярэдняга і маладзейшага пакаленняў параўнальныя ***арэолы паэтаў***, якія мелі іх вядомыя папярэднікі А. Сербантовіч, У. Караткевіч, М. Стральцоў, Я. Янішчыц, М. Купрэеў, А. Сыс?!...

Антон Рудак цяпер якраз на раздарожжы, якім шляхам ён пойдзе пакуль не

зусім зразумела, у яго ёсць *здольнасці* і **талент** для абрання любога накірунку... Я спадзяюся, што ўсё ж паэтычнага.

Пакуль жа ў яго дэбютным зборніку не адчуваецца глыбокага жывога дыхання паэта як асобы і галоўнага героя сваіх твораў (не *"дышит почва и судьба"*)... Аўтар хавае сваё ўласнае "я" за агульна-аморфным "мы" – дзецьмі перабудовы, іх няспраўджанымі мроямі ў прасторы ілюзорна-дэмакратычнай свабоды... У іх няма ўласнага падмурка, няма ўстойлівасці і ўпэўненасці ні ў сваім сёння, ні ў нашым агульным заўтра... Яны прагнуць свайго духоўнага і нацыянальнага ўмацавання за кошт адкрыцця гістарычнага мінулага, няхай і не так даўняга, але імі нязнанага і ўяўленага з чужых вачэй, пакінутых мемуараў ды архіўнай гістарычнай статыкі... Таму яны бачаць яго па-свойму, праламляючы прамінулы час праз свой сучасны досвед... Адным словам, для іх, як піша А. Рудак: *"Настальгія па незаспетым – тое, што робіць паэтам"*. Ствараецца ўражанне, што я чытаю не кніжку арыгінальных вершаў маладога паэта, а гартаю-разглядваю ілюстраваны альбом з выдатнымі рэпрадукцыямі. Не пакідае адчуванне, што гэтыя вершы выпісаныя не "свежым вокам", а паводле набытага ўяўлення, некім пераказанага ці помнага аўтарам праз іх арыгінал.

Ты крочыш па горадзе, дзе ні хвіліны не жыў,
ён іншы, чужы і ніколі табе не належаў.

Недзе ў падсвядомасці ў мяне ўзнікае аддаленая асацыяцыя некаторых падобных вершаваных радкоў з гісторыка-патрыятычнай паэзіяй У. Караткевіча. Але ў Караткевіча былі надломы жыццёвага шляху, веды, інтэлект, нязводнае *чарніла* і эмацыйны росплеск душы – лёс і вырак... У Рудака – пакуль што роўнае выверанае версіфікацыйнае дыханне, нібыта боязь ці засцярога ўскалыхнуць-успудзіць чытацкі і свой уласны душэўны вусціш... Бракуе першаснага хвалюючага ўздзеяння, жывой эмоцыі, балючага пачуцця, лёсавызначальнага крыватоку, натуральнасці жыцця... На першым плане версіфікацыйнае і глыбока прадуманае вырашэнне таго ці іншага твора і ўсяго зборніка ў цэлым, як паэтычнага аўтарскага праекта.

Што дзіўна для творчасці маладога паэта, але ў зборніку, можна сказаць, няма тэмы кахання, лірыкі высокіх узаемаадчуванняў, суперажыванняў, за выключэннем двух вершаў ("Ліст" і "Песні пра любоў")...

Не ўразумеў я, для чаго ***наўмысна*** парушаецца правапіс ды ігнаруюцца знакі пунктуацыі ў зборніку? Не знайшоў у тым аніякай логікі (нават падтэкставай). Мабыць, каб не быць акадэмічна-традыцыйным, а як большасць маладых, пісаць упоравень з вымаганнямі часу, адступаючы ў значнасці вызначэнняў. Вось прыклад — радок з верша ("сон у апошнюю летнюю ноч") з неўпарадкаванай пунктуацыяй: *"пальцамі скроняў крануся патыліцы вуснамі"*. Нават калі працытаваць усю страфу цалкам абракадабра не знікне. Трапляюцца не надта выверaныя тропы: *"праводзяць пальцам першыя дажджы"* ("Пінгвінам"), *"чарговы ўзроставы крызіс б'е па мазгах як маланка ў шпрыц"* ("goal loser")... Асабліваe раздражняе хлапечая, як бы незнарок (па-за бацькоўскім вухам) аброненая ненарматыўная лексіка. Адна справа чытаць натуральны высока-цынічны мастацкі лаянкавы слэнг Чарльза Букоўскі, і зусім іншая – натыкацца на непрыбраны пасля тусоўкі юначы бруд: *"дзяцінства запомнілася херова"*, *"мы б тут дайно загнуліся на хрэн"* ("аэрадромная"), *"час не чакае, пара збірацца, дзе тваё джала, смерць? у срацы"* (***"так, у дзяды можна трапіць проста...")*,* *"жаданні спраўджваюцца, калі табе ўжо на іх насраць"* ("goal loser"), *"глядзі, як закручана вывеў – во, блядзь!"* ("песні пра любоў"), *"Мы прарвемся, хлопцы, не сцаць – нам дашлюць дэсант"* ("і.к.с.")...

А вось што імпануе, дык нешта падобнае, што адбылося ў вершы "каляндарнае",

нават назваўшы гэта інтуітыўным усплёскам творчай энергіі, блізкім да правакацыйнага літаратурнага маніфеста:

я клаў дамкрат на ўсякія вашыя правілы,
лаяўся, бацаў на аргане лявоніху,
а вы даравалі мне і дадараваліся –
я ўявіў, нібыта я надта адораны,
я не змагаўся з злаякаснымі метастазамі
катэгарычгае рацыі, максімалізму
і непрыязі да цэлых групаў і класаў –
напрыклад, крытыкаў: гэтым ніякай літасці.
і з чаго вы ўзялі што мне самому прыемна,
прыдумалі пра натхненне і іншую ерась?
натхнення няма – турма як вобраз паэзіі:
сядзіш сабе й крэмзаеш, крэмзаеш, крэмзаеш.

Шмат яркіх гістарычных і культурна-асветніцкіх адсылаў у вершы “Чароўная песня Нямігі”:

Замкнутыя дзверы сабора і Жоўтай царквы,
на Ракаўскай вуліцы спіць некранутая Вільня.

Адметны сваёй ненацягнутай метафорыкай верш “Горад вёсак” (маецца на ўвазе Мінск), заселены пасля ваеннай адбудовы былымі вясковымі жыхарамі, у якім па часе, спадзяецца аўтар:

Паразвее вецер прысак
па закураных руінах,
і з пакінутых калысак
заўсміхаюцца ўспаміны.

Запамінальныя вершы “Завакзалле” і “Зубная карта горада”, апошні, дарэчы, арыгінальна прапісаны, з нечаканай ёмка-філасафічнай канцоўкай: *“каб урэшце ў яго прарэзаліся свае гараджане мудрасці”*... Верш “Валодзя Караткевіч на беразе Дняпра” прыцягнуў з памяці параўнальную асацыяцыю з паэмай М. Купрэева “З сястрой і Караткевічам на Рагачоўшчыне”, найперш сваім уражлівым завяршэннем: *“Сястра! Няўжо ты на ганку роднай хаты, Караткевіч пад бярозамі ля Дняпра, і я ля вас, і ўсе мы тут, мёртвыя і жывыя, – літаратура?..”* У А. Рудака, абмінулага літаратурныя вызначэнні, канцоўка не менш трапная, хоць і па-маладому больш пэўная і сцвярджальная:

І пакуль феерверкі ляцелі ўгару
і клалося ў снапы пад сярпамі калоссе,
ён пайшоў – і адзін нарадзіў Беларусь.
І для першага разу – някепска ўдалося.

Як прыхільнік творчасці У. Караткевіча, сам А. Рудак спрабуе выказаць і свае патрыятычныя схільнасці, хоць не настолькі ярка і ўзнёсла, як яго папярэднік:

Выходзім на станцыі “Беларусь” і рушым старымі маршрутамі,
якія шторазу прыхоўваюць штосьці раней безуважна ўпушчанае –
такія адрозныя і аднолькава па-добраму е...анутыя,
стомленыя вандроўнікі, аматары беларушчыны.

У вершы “музыка ў паветры” яшчэ і яшчэ раз прайграваецца забытая мелодыя старога горада, яна як бы чуецца чытачу з таго, паваеннага, часу, насычаная ў паветры, і нават не прападае пры пераходзе ад рыфмаванага да белага верша... Дарэчы поруч, як і ў гэтым вершы, трамваі *звіняць* і *звоняць* яшчэ ў двух наступных

(“Трамвай”, “На вакзале”). Падалося, што звон гэты як трывожна-папераджальны і пабуджальна-сімвалічны знак помнасці, рэзанансна агучвае ўсю мастацкую прастору гэтай кніжкі...

Уражвае ў шмат якіх вершах вельмі сталая выснова творчага жыцця маладога паэта, занатаваная як бы наперад, нібыта засечка для памяці. Да прыкладу гэтая страфа ў вершы “раманс”:

даверасьнёўская лірыка не дажыве да кастрычніка,
коратка ў прозу пастрыгшыся сухім каляндарным лістом.
стане мінулае выракам, добрае зробіцца рызыкай –
прымеш усё як звыклае, будзеш пісаць у стол.

Нельга не адзначыць і два проста выдатныя вершы зборніка – гэта “29.10.1937” і “лёгкія еўропы”. Тут непадзельна злучыліся талент і майстэрства А. Рудака.

“старая гісторыя, хіліць у сон ад стомы.
я з тых, што ніколі болей не прыйдуць дадому:
арыштаваны паўторна, артыкул вядомы,
асуджаны тройкай увосені ў трыццаць сёмым.
.......................................................................
згадвайце часам нас на дзяды і радаўніцу –
усіх, хто замоўк назаўжды маладым літаратарам,
паэтаў, празаікаў, крытыкаў, перакладчыкаў –
прывет вам у вашае гета з нашае вязніцы.
працягвайце нас раманамі, п’есамі, вершамі,
пішыце замест, усім дакажыце – вы лепшыя,
усё, што на допытах з нас не вырвалі следчыя –
аднойчы мы станем даваць праўдзівыя сведчанні.”

Адкладаліся ў памяці шмат якія афарыстычныя радкі паэта з іншых адметных вершаў: *“нашае неба – у нас унутры”*, *“сувязь з нябёсамі лепшая тут за сотавую”*, *“знікае істотная розніца паміж творчасцю і жыццём”*...

Гэта абнадзейвае.

Таму, наперакор усяму крытычна выказанаму мной вышэй, нечакана адкрыюся ў сваёй прыхільнасці да творчасці маладога паэта. Прызнаюся, што ўважліва сачу за яго выступленнямі і публікацыямі. Ён імпануе мне сваім сумленным і крэатыўным стаўленнем да жыцця і літаратуры. Антон Рудак яшчэ толькі на пачатку свайго творчага шляху. І тым не менш гэты яго дэбютны зборнік, у параўнанні з тым, што маем на сёння ў нашай найноўшай паэзіі, усё-ткі адзін з найбольш выбітных. Калі пры такім самааддданым і няўрымсліва-ўпартым творчым пошуку паэт будзе і надалей ствараць свой уласны мастацкі свет, а не толькі перастварацць прамінулы (чужы ці нейчы блізкі яму), то я больш чым упэўнены, яго чакае яркая і выбітная перспектыва ў сучаснай беларускай паэзіі.

# Словы ў часе

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*

**Тамара Аўсяннікава. Скрыжалі. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 62). – 68 с.**




У серыі “Кнігарня пісьменніка” пабачыла свет новая кніга — зборнік выбраных вершаў паэткі, філолага, кіраўніцы Магілёўскага гарадскога літаратурнага клуба “Святліца” Тамары Аўсяннікавай. Спадарыня Тамара — аўтарка трох паэтычных выданняў і аднаго празаічнага. Пад вокладкай яе новай, чацвёртай па ліку, кнігі “Скрыжалі” змясцілася выбранае, аб’яднанае ў трох раздзелах пад назвамі “Родныя вобразы”, “У квецені вясны”, “Зямное кола”. Аўтарка узнаўляе ў памяці дарагія сэрцу імёны і вобразы, па-філасофску асэнсоўвае зямное жыццё.

*Час спыніўся.*
*Не ўздрыгне лісточак ніводзін...*
*І галінку не кратае вецер.*
*У квяцістым сваім карагодзе*
*Лес застыў урачыста. Вечар.*

*Час спыніўся.*
*Спакойна ў душы, наваколлі.*
*Сэрца светлаю поўніцца радасцю.*
*Адцвітае прырода паволі:*
*Без жарствы,*
*Без трывог*
*і без зайздрасці.*

**Гарбузік: літаратурна-забаўляльны дзіцячы альманах. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»). – 30 с.**




Новы літаратурна-забаўляльны, яркі і пазнавальны дзіцячы альманах “Гарбузік” выйшаў у кніжнай падсерыі “Каляровы ровар”. Яго прыдумалі вясёлыя бацькі для дапытлівых дзетак, неабыякавых выхавальнікаў ды іншых мам і тат! Новы папяровы сябра “Гарбузік” падрыхтаваў для цікаўных, разумненькіх і актыўных маленькіх беларусаў найлепшыя спосабы прабавіць вольны час. Ён навучыць лічыць і выразаць аўтарскія выцінанкі Вольгі Бабурынай, майстраваць папяровыя замкі і рашаць касмічныя задачкі, апавядзе, як адрозніць правую руку ад левай і лёгка засвоіць новыя англійскія словы! Шукайце карыснага і забаўляльнага “Гарбузіка” ў кнігарнях вашага гораду, а таксама ў інтэрнэт-крамах knihi.by і prastora.by.



**Ігар Канановіч. Астэроід. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 59). – 124 с.**

У дэбютным зборніку "Астэроід" вядомага чытачам "Дзеяслова" паэта Ігара Кананoвіча прадстаўленыя выбраныя творы, створаныя цягам апошніх сямі гадоў. У трох раздзелах "Мір падобны да раю", "На арбіце тваёй!", "Бог ёсць зіма" змешчаныя вершы, створаныя ў класічнай манеры, якія раскрываюць унутраны свет шчырай душы паэта, што гартуецца ў пакутах, спасцігаючы вечныя ісціны: паклікання, кахання і зямнога прызначэння чалавека.

*Пішу. Змагаюся. Чаму*
*Не паддаюся цяжкай стоме?*
*Стой! Шкадавання не прыму –*
*Душа цялесную турму*
*Пакіне. Будзе ў лепшым доме*

*Глядзець з акна на гэты свет*
*І – усміхацца, усміхацца,*
*Раскрыўшы існасці сакрэт!*
*...Калі прызнаўся, што паэт, –*
*Працуй. Паспееш адаспацца...*



**Уладзімір Сіўчыкаў. Кошык Велікодны / Мастак Алена Карповіч. — Мінск: Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2014. — 32 с.: іл.**

Новую кніжку Уладзіміра Сіўчыкава склалі арыгінальныя вершы і паэтычныя наследванні – перастварэнні з грузінаў Надара Думбадзэ і Шадзімана Шаманадзэ, з палякаў Яна Бжэхвы і Дануты Вавілаў. Чытанка адрасуецца дзецям, іх матулям і татулям, бабулям і дзядулям, выхавацелькам і настаўніцам. Напраўду суаўтарам паэта стала мастачка Алена Карповіч. На крэйдавай паперы яе каляровыя малюнкі зіхацяць, нібыта велікодныя пісанкі, чорна-белыя так і просяцца да размалёўкі.



**Словы ў часе: літаратура ад рамантызму да сімвалізму і нашаніўскага адраджэння / Лявон Баршчэўскі, Пятро Васючэнка, Міхась Тычына. – Санкт-Пецярбург: «Неўскі прастор», 2014. – 380 с.**

Гэты навучальны дапаможнік, які пазіцыянуецца як папулярны нарыс, – самы поўны на сёння выклад найважнейшых з'яў літаратуры XIX – пачатку XX ст., у якім беларуская літаратура разглядаецца як неад'емная частка сусветнага літаратурнага працэсу. На думку аўтараў, вядомых філолагаў-літаратуразнаўцаў і пісьменнікаў з вялікім досведам выкладання літаратуры, – "*для твораў гэтага часу ўсё меншае значэнне маюць усталяваныя раней каноны літаратурнай творчасці. Не жанр, не стылёвыя сродкі, а сам аўтар робіцца галоўным чыннікам поспеху або няпоспеху таго ці іншага твора...*" Адрасуецца старшакласнікам, настаўнікам, абітурыентам, студэнтам, выкладчыкам – усім, хто цікавіцца мастацкім словам, пытаннямі беларускай і сусветнай літаратуры і культуры.

# Нашыя аўтары

**Абрамовіч Павел** – крытык. Галоўны рэдактар часопіса «Фінансавы дырэктар». Артыкулы, рэцэнзіі і эсэ друкаваліся ў «Arche», «Нашай ніве», «Дзеяслове». Нарадзіўся ў 1977 годзе ў Койданава. Жыве ў Мінску.

**Брусевіч Анатоль** — паэт. Аўтар кніг паэзіі «Дуэль», «Падаю ў неба», «Апошні дзень», манаграфіі «Фактары беларускай культуры ў творчасці Адама Міцкевіча». Нарадзіўся ў 1977 годзе ў Гародні, дзе і жыве.

**Бураўкін Генадзь** — паэт, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1980). Аўтар кніг паэзіі «Майская просінь», «З любоўю і нянавісцю зямною», «Дыханне», «Жніво», «Выток», «Варта вернасці», «Пяшчота», «Паміж зоркай і свечкай», «Чытаю тайнапіс вачэй», «Лісты да запатрабавання», «Жураўліная пара» і інш. Нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Шуляціна на Віцебшчыне. Памёр у 2014 годзе.

**Вітушчанка Паўліна** – перакладчыца, мастачка, культурны менеджэр. Нарадзілася ў 1993 годзе ў Вільні. Жыве і працуе ў Мінску і ў Вільні.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гаспадыніч Павел** – паэт, празаік. Аўтар кнігі імпрэсіяў і апавяданняў «Вырай пачуццяў» і рамана «Цэзар будзе жыць». Лаўрэат 2-й Міжнароднай прэміі ў галіне веб-журналістыкі Yousmi Media Awards 2010. Нарадзіўся ў Кіеве ў 1980 годзе. Жыве ў Менску.

**Гронская Вольга** – паэтка, перакладчыца, літаратуразнаўца. Аўтар кнігі вершаў «АдВольная міфалогія». Нарадзілася ў 1978 годзе ў г.п. Крывічы Мядзельскага раёна. Жыве ў Мінску.

**Дранько-Майсюк Васіль** – драматург. Творы друкаваліся ў газетах: «Наша ніва», «Культура», «ЛіМ» і інш.; часопісах: «Дзеяслоў», «Верасень», «Тэксты». Яго п’еса «Пясняр» (прысвечаная Уладзіміру Мулявіну) ідзе на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага. Нарадзіўся ў 1981 годзе ў мястэчку Давыд-Гарадок на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

**Зізюк Міхась** – празаік. Піша на беларускай і рускай мовах. Аўтар кніг «Пропавшая свадьба», «Зелянее рунь», «Храм его души», «Оракулы междуречья». Нарадзіўся ў 1967 годзе ў вёсцы Лучыцы на Петрыкаўшчыне. Жыве ў Наваградку.

**Зуёнак Васіль** – паэт, перакладчык, літаратуразнаўца, крытык. Кандыдат філалагічных навук. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1982). Аўтар кніг паэзіі «Вясёлы калаўрот», «Крэсіва», «Крутаяр», «Нача», «Вызначэнне», «Лета трывожных дажджоў» і інш. Нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Мачулішча на Міншчыне. Жыве ў Мінску.

**Івашчанка Анатоль** — празаік, паэт, літаратуразнаўца. Аўтар кніг паэзіі «Вершnick», «Хай так», манаграфіі «Паэтыка Алеся Разанава: між медытацыяй і рацыяй». Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Казько Віктар** — празаік, публіцыст, кінасцэнарыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1982). Аўтар кніг прозы «Добры дзень і бывай», «Суд у Слабадзе», «Высакосны год», «Цвіце на Палессі груша», «Выратуй і памілуй нас, Чорны бусел», «Неруш», «Дзікае паляванне ліхалецця» і інш. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў Калінкавічах на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Лужанін Максім** — паэт, празаік, перакладчык, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1965). Аўтар кніг паэзіі «Неаплачаны рахунак», «Аднагалосна», «Поступ», «Моваю сэрца», «Прасторы», «Росы на коласе», «Паразмаўляй са мной зямля» і інш, прозы «Колас расказвае пра сябе», «Людзі, птушкі, прастор», «Трое» і інш, публіцыстыкі «Вачыма часу», «З ранку да вечара» і інш. Нарадзіўся ў 1909 годзе ў вёсцы Прусы (цяпер Салігорскі раён Міншчыны). Памёр у 2002 годзе.

**Макарэвіч Васіль** – паэт. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя А. Куляшова (1994). Аўтар зборнікаў паэзіі: «Вогненная камета», «Мерыдыяны і паралелі», «Ліставей», «Вечнае дрэва», «Радоўка», «Праталіна»,

«Відушчы посах», «Сумежжа», «Квадратура круга» і інш. Нарадзіўся ў 1939 годзе ў вёсцы Купленка Крупшчыне. Жыве ў Мінску.

**Мартысевіч Марыя** – паэтка, перакладчыца, эсэістка. Аўтар кніг «Цмокі лятуць на нераст», «Амбасада». Перакладае паэзію і прозу з англійскай, польскай, рускай, украінскай, чэшскай моваў. Як эсэістка і паэтка ўдзельнічала ў шэрагу міжнародных фестываляў культуры ў Беларусі, Польшчы, Літве, Славакіі, Украіне. Нарадзілася ў 1982 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Мартысюк Вячаслаў** – гісторык, філолаг. Скончыў гістарычны факультэт БрДУ, асноўная сфера інтарэсаў – беларуская літаратура XIX – пачатку XX стст., яе "бібліяграфічныя лабірынты", эдыцыя і атрыбуцыя тэкстаў, мова, палеаграфічныя аспекты. Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Брэсце, дзе і жыве.

**Пацюпа Юры** — паэт, філолаг, крытык. Аўтар кніг «Ноч», «Сабака», «Анонс. Квадрат тэкстаў». Нарадзіўся ў 1965 годзе ў Полацку. Жыве ў Мінску.

**Пракапчук Яўгенія** – паэтка. Вучаніца 11 класа Ганцавіцкай сярэдняй школы №3. Двойчы пераможца абласнога конкурсу юнацкай паэзіі. Друкавалася ў раённай газеце «Савецкае Палессе», абласных газетах «Народная трыбуна» і «Заря». Нарадзілася ў 1997 годзе ў Брэсце. Жыве ў Ганцавічах.

**Прыгодзіч Зіновій** – празаік, публіцыст. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар кніг «На палях рэспублікі», «Добры дзень, сад!», «На сельскіх просторах», «Строгая доброта», «Крылы дужэюць у палёце», «Жменя зярнят», «Жураву на далёкай пойме», «Ноч перад нядзеляю». Нарадзіўся ў 1944 годзе ў вёсцы Лышча на Піншчыне. Жыве ў Мінску.

**Саматой Ірына** – літаратуразнаўца. Аўтар артыкулаў па сучаснай беларускай літаратуры. Нарадзілася ў 1961 годзе ў мястэчку Будслаў на Мядзельшчыне. Жыве ў Віцебску.

**Сіўчыкаў Уладзімір** — паэт, празаік, публіцыст, перакладчык, драматург, мастак. Аўтар кніг «Гульня ў тастамант», «Лісты да брата», «Высакосны год», «Бювар», а таксама альбомаў «Жодзінцы» і «Рыцары Пагоні і Арла» (сумесна з А.Марачкіным). Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Мінску.

**Скобла Міхась** — паэт, парадыст, перакладчык, эсэіст. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча (2000). Аўтар паэтычных кніг «Вечны Зніч», «Вочы Савы», «Нашэсце Поўні», «Акно для матылькоў», кнігі гістарычных нарысаў «Дзярэчынскі дыярыюш» і інш. Складальнік анталогій беларускай паэзіі 20 ст. «Краса і сіла» і сусветнай паэзіі ў беларускіх перакладах «Галасы з-за небакрая». Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Паляжын на Зэльвеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Селяшчук Мікола** – мастак. Працаваў у станковай і кніжнай графіцы, станковым жывапісе, жывапісе і экслібрысе. У 1980-я гады выйшлі афармленыя ім дзіцячыя кнігі «Бацькаў дар», «Прагны багацей», кніга вершаў Р. Барадуліна «Індыкала-Кудыкала». Значнай працай М. Селешчука стала афармленне паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка». Аздобіў кнігі паэзіі «Слухаю сэрца», «Такое кароткае лета» Р. Баравіковай, «Пара любові і жалю» Яўгеніі Янішчыц, «Усміхніся мне» Янкі Сіпакова, «Скарб» З. Бядулі і інш. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Велікарыта, Маларыцкі раён. Памёр у 1996 годзе ў Італіі.

**Федарэнка Андрэй** — празаік, драматург. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (1995). Аўтар кніг прозы «Гісторыя хваробы», «Сінія кветкі», «Шчарбаты талер», «Афганская шкатулка», «Нічые», «Мяжа», «Ланцуг», «Ціша» і інш. Нарадзіўся ў 1964 годзе ў вёсцы Бярозаўка на Мазыршчыне. Жыве ў Мінску.

**Хадановіч Андрэй** — паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Аўтар кніг паэзіі «Старыя вершы», «Лісты з-пад коўдры», «From Belarus with love», «Сто лі100ў на tut.by», «Бэрлібры», «Несымэтрычныя сны» і інш. Перакладае з ангельскай, французскай, польскай, украінскай і інш. моваў. Нарадзіўся ў 1973 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Чубат Аляксей** – паэт, празаік. Аўтар кнігі вершаў «Гліняны чалавек». Нарадзіўся ў 1979 годзе ў Вялейцы. Жыве ў Мінску.

**Шапран Сяргей** — журналіст, публіцыст. Аўтар шматлікіх інтэрв'ю з дзеячамі беларускай культуры, літаратуры, мастацтва, якія друкаваліся ў газетах «Знамя юности», «Советская молодежь» (Рыга), «Белорусская деловая газета» і інш. Аўтар кніг «Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах», «Тры мяхі дзядзькі Рыгора...». Нарадзіўся ў 1968 годзе ў Рызе. Жыве ў Мінску.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**




Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Юрыя Дзядзінкіна, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша,
Уладзіміра Крука, Віктара Стралкоўскага, Сяргея Шапрана,
з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.